

# 1

Наста адплюшчыла вочы, спуджана ткнулася носам у халоднае шкло вагоннага акна. Не, не саснілася: зноў, як і ўчора, калі эшалон абстрэльвалі фашысцкія самалёты, хрыпата і натужна крычыць паравоз. Але, здаецца, не чутно пранізлівага звону матораў, толькі глуха татакаюць колы — цягнік імчыцца шалёна, быццам уцякае ад шырокіх і колкіх промняў вялізнага агністага сонца, якое бы ўлезла ў чорную нару паміж комінам адзінокай хаты і вільчыкам кароткай высокай адрыны; страха нейкая чорная, і гэткага ж колеру страха адрыны, а вільчык на ёй дзіўна блішчасты, з вострымі, як лязо, крайчыкамі, і сонца на іх быццам плавіцца.

— Што, дачушка? — падхапілася маці, і яе голас быў падобны на далёкае і невыразнае рэха.— Станцыя гарыць?

— Ды няма ніякай станцыі, мама. І пажару не відно нідзе.

— Скуль жа агонь гэты? — узлакціўшыся на хатулі, што горбіліся паміж лавачкамі вагоннага купэ, маці правяла пальцамі па сценцы, потым падсмыкнула белую, з доўгімі махрамі хустку, якая спаўзала з левай нагі, параненай і забінтаванай па самую пяту; у звужаных вачах выспела шчырае здзіўленне.— Ад агню адбітак...

— Ды не, сонца гэта садзіцца. Хутар пад лесам бачу. У тым баку яно і садзіцца.

— На хутары вадзіца ёсць. Падбяжы, калі недалёка, дачушка.

— Спыніцца цягнік, тады ваду і знойдзем.

— Паўліка папрасі, ён прынясе вадзіцы.

— Які табе Паўлік, мама?

— А хіба ж не ён нас у вагон пасадзіў? — у звужаных вачах маці зноў было шчырае здзіўленне.— Папрасі яго. Паўлік на нагу скоры, ён хуценька вадзіцы прынясе.

— Дык Грач жа не едзе з намі. Ён нас у вагон пасадзіў, а сам на машыне пакаціў.

— На якой машыне? Навошта ты маніш?

— Ты паспрабуй заснуць, мама. Закрый вочы і паспі.

— Паўлік чалавек харошы. У яго вочы харошыя. Ты, дачушка, яго пільнуйся, ён цябе ў крыўду не дасць. Вадзіцы, падай ты вадзіцы, Паўлічак!

— Цішэй, мама! Людзі ж наўкола спяць. Ціхенька ляжы...

Маці змоўкла. Наста стулілася ля хатулёў, змружыла вочы і зноў, бы ў прорву, праваліласся ў мігатлівую празрыстую дрымоту. Чула і гаману ў вагоне, і татаканне колаў, і асіплы гудок паравоза, і голас свайго бацькі, які мітусіцца па пакоі, зашпільваючы рамяні новай партупеі на вайсковай гімнасцёрцы, і ўсё паўтарае адны і тыя ж словы: «Гэта — вайна, гэта — вайна...», і чула тупаценне маці, якая кідаецца з аднаго пакоя ў другі і ў бляклай перадсвітальнай шэрані здаецца аграмаднай птушкай, што тыцкаецца дзюбай у шыбы, і чула, як з сухім сіпеннем плавіцца чырвонаагністае кола сонца, што засела паміж комінам хутарской хаты і вільчыкам адрыны, і чула вясёлы голас Паўла Грача, які па-змоўніцку грозіць ёй скручанай у трубку пілоткаю: нельга, маўляў, стаяць ля кабіны...

Усе гэтыя падзеі, галасы прыходзілі без усялякай паслядоўнасці, аніяк не звязаныя, не выклікалі хвалявання і трывогі, быццам яна, Наста, не была звязана з тымі падзеямі, а проста разглядае дзіўныя, не вельмі выразныя малюнкі, што выплываюць з дрогкай і дужа далёкай імглы, выплываюць і тут жа аддаляюцца, знікаюць у туманнай шэрані. Больш працяглы час трымаўся перад вачыма Насты твар маладога лейтэнанта, Паўла Грача, і ёй раптам падалося, што яна не тут, у вагоне цягніка, які шалёна імчыць па рэйках, а там, у машыне, якая коціць па селавой дарозе. Толькі нешта адбылося з гэтым маладым вайскоўцам, усё грозіць ён скручанай у трубку пілоткаю, патрабуе, каб яна не стаяла ля кабіны, а сядзела на саломе, глядзела трох параненых чырвонаармейцаў. Адзін з іх, у камсастаўскім галіфэ, запыленых хромавіках, у гімнасцёрцы без гузікаў, з адарваным каўняром усё пнецца прыладзіць забінтаваную руку да кабуры, што вісіць на рэмені з шырокай меднай спражкаю.

Помач Насты ён прыняў ахвотна, уважліва сачыў за яе рукамі, потым падзякаваў, назваўшы яе імя і імя па бацьку. Яна здзівілася: адкуль гэты вайсковец ведае яе? Але распытаць не было як: чалавек, які толькі што назваў яе імя і імя па бацьку, прыхінуўся спіною да борта кузава, апусціў галаву і заплюшчыў вочы, быццам раптоўна і моцна заснуў.

Грач засунуў пілотку пад дзягу, нахіліўся да Насты, спытаў, схмурыўшы густыя чорныя бровы:

— Ты што, палітрука нашага ведаеш?

Яна ўсміхнулася, адказала шэптам, быццам нейкую гульню вяла і гэтай гульні радавалася:

— Гэта ў яго трэба папытаць, адкуль ён мяне ведае. Як яго прозвішча?

У чорных бліскучых вачах Грача мільганула падазронасць, голас прагучаў строга і суха:

— Чаркас яго прозвішча,— ён змоўк, падціснуў тоўстыя губы, усім выглядам сваім падкрэсліваючы шкадаванне: сказаў, маўляў, залішне, сказаў тое, пра што казаць не меў права.

— З Клавай Чаркас мы ў інстытуце вучымся. У яе брат ёсць, гэта я ведаю...

— А дакументы ты маеш? — перапыніў яе Грач неяк няпэўна і збянтэжана.

— Дакументы ў маці. Яна іх у сумачцы трымае.

Грач, спрабуючы зазірнуць у кабіну, нахіліўся быў над бартавым ланцужком, які матляўся і пазвоньваў. Але машыну моцна страсянула на выбоіне, ён плюхнуўся на салому побач з Настай, паўглядаўся ў яе вочы і зарагатаў:

— У мяне ажно душа ў пяткі шуснула: не сям'ю Стрыжака, ваенкома свайго, а некага іншага ты, дарагі таварыш Грач, у гарачцы прыхапіў. Ды мне за гэтую памылку...

— Памылкі няма. Прыхапілі вы таго, каго трэба было. О-ой, як мама ўзрадавалася, калі вашу машыну ўбачыла! Мы ўжо і надзею страцілі, пешкі хацелі на станцыю брысці.

— Слава алаху тады. Уратаваны!

Грач з робленай, але гэткай выразнай палёгкаю ўздыхнуў, што Наста ўпершыню за гэты ранак ад душы развесялілася. Але тут жа раптоўна сумелася, сустрэўшы радасны позірк параненага ў гімнасцёрцы без гузікаў. Яна адразу пазнала цяпер гэтыя вялікія сінія во-

чы і, усё яшчэ не верачы нечаканай сустрэчы, выдыхнула таропка, не тоячы свайго ўзрушэння:

— Андрэй?! Проста дзіва нейкае. А я не адразу і пазнала...

Машыну зноў страсянула на выбоіне, галава Чаркаса, бы мячык, падскочыла на саломе, ён застагнаў і заплюшчыў вочы.

— Сапраўды, яго імя Андрэй,— сказаў Грач і паглядзеў на Насту запытальна. Ён пасунуўся бліжэй да Насты, быццам адціскаючы яе ад борта на сярэдзіну спінкі кабіны, і ўсміхнуўся добра, прыязна, даючы знак, што гатовы слухаць падрабязныя тлумачэнні.

Насту пачала біць дрыготка. Але, перасіліўшы яе, яна пачала расказваць пра свой інстытут, пра сваю сяброўку Клаву, з якой яны яшчэ на першым курсе добра пасябравалі, што сёлета яны павінны былі разам ехаць на практыку, але Клава нечакана моцна захварэла, што здалі яны экзамены гэтай вясной датэрмінова і, ад радасці, замнога пякліся на сонцы і плавалі на Дзвіне — там, мабыць, Клава і застудзілася. А Андрэй? Не, Андрэя з імі не было. Андрэй часта прыходзіў да іх у інстытут, бо аэраклуб, дзе ён працаваў, быў побач. Але вясною аэраклуб, дакладней, большасць інструктараў, перавялі ў Гродна.

Наста расказала ўсё, сама дзівячыся свайму парыванню, што ведала пра брата сваёй сяброўкі. Утаіла толькі адно, тое, што адбылося сёлета ў сакавіку, на вечары, які быў наладжаны ў інстытуце з нагоды міжнароднага жаночага свята. На ўсе вальсы, што гучалі ў той вечар у інстытуцкай зале, Андрэй Чаркас запрашаў толькі яе, Насту. Дзівосныя вальсы. І ашаламляльнай была цішыня на вуліцах, калі ён праводзіў Насту да інтэрната, які стаяў на беразе Дзвіны. Адліга была. Лёд пасярэдзіне ракі растаў, у цёмнай стужцы вады казачнымі чоўнамі гайдаліся адбіткі ліхтароў — ланцужок іх вісеў над парэнчамі маста... А ранкам з ёю пасварылася даўняя сяброўка Клавы, студэнтка чацвёртага курса Зіна Крутава, якая кахала Андрэя Чаркаса яшчэ ў школе. Увечары таго дня Наста не пайшла на спатканне, якое прызначыў ёй Андрэй...

Нечакана Грач страціў цікавасць да таго, пра што казала Наста, пачаў круціць галавою на ўсе бакі, нечага прыслухоўваўся. Наста таксама занепакоілася, стала на калені і тут жа згледзела чорны фашысцкі

самалёт, які выкуліўся з-за бярозавага гаю. Грач адразу перагнуўся цераз борт і, малоцячы рукамі па кабіне, крычаў шаферу:

— Сто-о-ой! Во-здух!

Не чакаючы, пакуль машына спыніцца, Грач саскочыў на зямлю і, ухапіўшы Насту за руку, літаральна высмаргнуў яе з кузава, піхнуў на ўзбочыну, пад куст рэдзенькай белаватай лазы. Плюхнулася побач маці, прыціснула галаву Насты да зямлі. Але Наста бачыла, што адбываецца на дарозе. Нехта з параненых схапіў вінтоўку, страляе па самалёце. Паклаўшы карабін на борт машыны, страляе і Грач. Стрэлы частыя, рэзкія, і роў самалёта грымліва-пранізлівы, нібыта самалёт валіцца сюды, на гэты рэдзенькі куст белаватай лазы.

Ад жаху Наста заплюшчыла вочы, зашылася пад матчыны грудзі галавой. Але зямля ў яе пад вухам раптам дугнулася, недзе побач грымнуў аглушальны выбух, і тады ля машыны радасна закрычаў Грач:

— Ур-р-р-ра-а-а!

Грач саскочыў з дарогі, дапамог Насце ўзняцца. Голас яго звінеў усё на той жа ўзнёсла-радаснай ноце:

— Ур-р-р-а-а! Я ссадзіў яго! У бензабак ці ў лётчыка трапіў! Ву-унь гарыць! За бярэзнікам!

Над бярозавым гайком, у тым баку, дзе нядаўна каціла машына, узнімаўся шырокі пакручасты шлейф чорнага дыму. Усе цяпер глядзелі ў той бок.

— Ён быў падбіты недзе раней,— нечакана прагучаў з кузава голас Чаркаса.— Таму нас і не абстраляў — не да таго было.

— Гэта я ссадзіў яго! — узвінціўся Грач.— Я ў лётчыка цаляў — морду яго бачыў. З такой адлегласці проста немагчыма прамахнуцца. У-ух, гарматачка мая залатая,— і Грач, высока падкінуўшы карабін, лоўка зла віў яго ў паветры.

Шафёр, стоячы на падножцы, патрабаваў:

— Трэба ехаць! Трэба ехаць!

Зноў біў у твар пругкі вецер, варушыў валасы, і Наста, стоячы на каленках у кутку кузава, увесь час прыгладжвала іх рукою. Ёй чамусьці было няёмка з таго, што Чаркас паставіў пад сумненне трапнасць стрэлаў Грача, а яшчэ больш з таго, што сама яна паводзіла сябе як апошняя баязліўка. Схавалася пад матчыну спадніцу! А не разгубіўся толькі адзін Грач. Ён стра-

ляў па самалёце, нічога не баючыся. Напачатку ёй падалося, што нехта яшчэ страляў з кузава. Але ж, выяўляецца, толькі ён адзін, Грач гэты, не разгубіўся. А страляць жа было з чаго — чатыры вінтоўкі ляжаць у кузаве! І каб жа ўмельства не было! Дык не ж: яна, Наста, самая першая на курсе, яшчэ пазалетась, здала нормы на значок «ГТО». І вось маеш, паказала сябе!..

Прыкрасць не праходзіла і на маленькай станцыі, куды неўзабаве яны прыехалі. Насупраць драўлянага станцыйнага будынка стаяў эшалон, перапоўнены бежанцамі, сесці на яго было немагчыма. Але гэта не выклікала аніякай занепакоенасці ў Грача. Ён высадзіў Насту з маці ля нізенькай чыгуннай агароджы, над якой завіслі галіны шэрай ад пылу акацыі, параіў неяк весела і бесклапотна:

— Сядзіце тутака. І чакайце мяне.

— А можа, лепей адразу ў вагон? — маці ўстрывожана ўслухоўвалася ў гармідар, які далятаў ад эшалона.

— А чаго там пячыся? Паравоза ж усё роўна няма,— і Грач, стаўшы на падножку, загадаў шафёру ехаць, вызначыўшы напрамак кароткім узмахам рукі.

Пыл, што ўзнялі колы машыны, сагнала ветрам у скверык. Нейкі час вузенькая прывакзальная плошча была пустая, потым на ёй усчаўся незразумелы рух. Жанчыны выскоквалі з-за станцыйнага будынка, беглі некуды за скверык і неўзабаве шнуравалі назад. Праз нейкі час Наста ўбачыла ў руках жанчын бутэлькі і розны посуд і зразумела, што людзі цягаюць у вагоны ваду.

— Недзе вада тут паблізу,— сказала Наста маці.— Трэба злётаць і паглядзець. Унь і пасудзіну бачу.

Наста выцягнула з рэдзенькай травы пад акацыяй бутэльку. Але маці запярэчыла:

— Куды ты пабяжыш? А раптам машына? Дзе цябе шукаць тады?

— Ты чула, што Грач сказаў? Паравоза няма. Таму нікуды эшалон не зрушыцца! Я мігам, вось пабачыш!

Наста абабегла скверык і адразу ўбачыла высокі слупок водаправоднай калонкі. Ручка яе была прыкручана белай драцінаю, і з загнутага носіка біў струмень вады. Вада сцякала ў жалезную бочку, лілася цераз край і расцякалася на ўсе бакі звілістымі ручаінкамі.

Пераскокваючы цераз іх, да бочкі падбягалі жанчыны, чэрпалі, хто чым меў, і беглі назад, у бок станцыі.

Не спяшаючыся, Наста адшаравала бутэльку мокрым жвірам, насыпала пяску ўсярэдзіну і старанна паласкала аж да таго часу, пакуль зеленаватае шкло не заблішчэла зіхотка на сонцы. Наста і не заўважыла, як засталася ля бочкі адна, памыла твар, напілася, потым падставіла гарляк пад пругкі і моцны струмень. Бутэлька ледзь не выслізнула з рукі, і тады Наста схапіла яе аберуч, трымала, радуючыся пырскам, што абдавалі твар і шыю.

Яна вярнулася да маці заспакоеная. Прыкрае адчуванне свае баязлівасці, якую давялося перажыць пад кустом белаватай лазы, растала, і Наста працягнула бутэльку фарсіста, фатыгуючы нават:

— А ты казала, што не паспею! Там гэтай вадзіцы — мора!

Нечакана зусім блізка засоп параю паравоз, патрабавальна дудукнуў. І амаль адначасова з гэтым у канцы прывакзальнай плошчы паказалася знаёмая палутарка. Узнімаючы светлы пыл, яна падкаціла да агароджы скверыка і спынілася ў рэдзенькім ценю ад старой таполі. З кабіны выскачыў Грач і, нічога не патлумачыўшы, схапіў хатуль у Насты, закамандаваў сіпата, задыханым голасам:

— Бяго-ом! Бяго-ом!

Перабегшы вузенькі перон — Наста ледзь паспявала за Грачом,— ён даў нырца пад вагон і зноў пабег, смешна падскокваючы на шпалах. Спыніўся Грач у тупіку, ля пустога пасажырскага вагона, старога і абшарпанага.

— Залязайце хутчэй,— загадаў Грач, кідаючы хатуль у тамбур. Адзін за адным ён пакідаў і хатулі, што былі на плячы ў маці.— Гэты вагон падчэпяць зараз да эшалона.

— Вашы параненыя таксама тут,— здагадалася Наста.

— Не, яны ў шпіталі. Тут шпіталь палявы побач.

Грач дапамог Насцінай маці ўскараскацца на прыступкі. Счакаў, пакуль яна не ўвайшла ў вагон, потым сціснуў аберуч руку Насты, сказаў, утаропіўшыся ёй у вочы немігатлівым упартым позіркам:

— Скончыцца гэтая калатнеча, і я знайду цябе. У інстытуце цябе знайду. Добра?

— Добра.

Яна паабяцала, нічога як след не падумаўшы, паабяцала пад абладаю гэтага немігатлівага ўпартага позірку, дзівячыся з таго, што абяцанне нарадзілася супраць волі, як бы само па сабе. Ускочыўшы ў вагон, адразу памкнулася да акна, карцела ўбачыць Грача. Але той як скрозь зямлю праваліўся. Да вагона пёр гаманкі і вірлівы натоўп, і Наста нават ачомацца не паспела, як людская плынь адцёрла яе ад акна, пагнала па праходзе ў глыб вагона. Але маці схапіла Насту за руку, уцягнула ў сваё, другое ад уваходу, купэ, якое праз нейкі міг было таксама перапоўнена бежанцамі.

Тое, што сказаў Грач, праз нейкія пяць хвілін і спраўдзілася: вагон падчапілі да эшалона. Але эшалон нікуды не пайшоў, яго загналі на другі бок станцыі і пратрымалі ў тупіку ўсю ноч. Здарожаная, знерваваная, ашаломленая ўсім тым, што адбылося на працягу дня, Наста моцна заснула, прытуліўшыся да маці. На світанні Насту абудзіла татаканне колаў. Яна паўглядалася ў акно, за якім праносіліся блізкія чорныя макавінкі дрэў, паслухала, як салодка пахропвае маці, паклаўшы галаву на хатуль, і сама гэтак жа моцна заснула.

Прахапілася Наста ад бязладнага людскога гармідару. Вагон кідала з боку на бок, шалёна татакалі і вішчалі колы, надсадна, з адчаем, роў паравоз. Маці побач не было. Наста знайшла яе хутка, у канцы вагона — дзве незнаёмыя жанчыны перавязвалі ёй параненую нагу. У вагоне, як потым выявілася, толькі маці Насты і была параненая — стаяла ў тамбуры, калі над эшалонам пранесліся фашысцкія самалёты. Бомбы яны не кідалі — мабыць, не было ўжо,— выпусцілі тры кароткія чаргі з кулямётаў. І собіла ж маці выдрацца ў той дурны тамбур: нечага карцела ёй адшукаць у суседнім вагоне...

Зноў застагнала маці, і Наста адразу прахапілася:

— Што, матуля?

— Дзе Паўлік? Навошта ён нас пасадзіў ў гэты кляты вагон? Лепей бы пешкі нам ісці. І цэлай бы ножанька мая была...

Наста прызвычаілася ўжо да гэтай крыўды, паспрабавала супакоіць тым, чым ужо супакойвала шмат разоў:

— Хутка станцыя, мама. Урача знойдзем, перавязку зробім — нага балець не будзе. На станцыі ўсё знойдзем.

— Вады... Піць, піць... Дзе бутэлечка?

— Пустая даўно бутэлечка наша. Няма вады, мама. І ў людзей я пыталася.

— А ты з бутэлечкі ліні. Кропельку...

Наста запусціла руку пад сядзенне. Вось яна, бутэлечка. Пустая даўно. Але ж маці нічога не давядзеш — трызніць чалавек. Не, здаецца, кропля на донцы ёсць. Хай хоць гэта глыне, смагу згоніць.

Вочы маці былі закрытыя. Але правая яе рука злавіла бутэльку. Пярэстыя ад смагі — белыя пасярэдзіне і сінявыя ў куточках — губы шчыльна абляпілі гарляк; варушыліся і трымцелі тонкія струпы засохлай сліны.

— Я ж кажу, што пустая бутэлька,— сказала Наста як мага мякчэй; сэрца ёй перапоўніла жаласлівасць.— Як станцыя будзе, дык я вадзіцы свежанькай адразу ж набяру. І бітончык наш налію. Халодненькай...

Наста выцягнула з матчыных рук бутэльку, паднесла бліжэй да акна, і сонечныя промні высветлілі бліщчастае зыркае донца. У сэрца закраўся новы жах. Калі шчэ тая станцыя? А калі на ёй, той станцыі, цягнік не спыніцца? Яна, Наста, можа і патрываць. А маці ж штохвілінна просіць піць, ніякіх тлумачэнняў не слухае. І ніхто ў вагоне вады не дае — Наста прасіла ўжо. Ды, зрэшты, адкуль тая вада ў людзей. Больш паловы дня іх пратрымалі на нейкім глухім раз'ездзе ў лесе — наўкола сосны, пясок — аніводнай кроплі вады. Усе цяпер на станцыю спадзяюцца, бо там вада знойдзецца. І тады ўжо Наста горкі свой вопыт скарыстае: і бутэлечку наліе, і бітончык, тым больш што ён дужа ж зручны, з крышкаю, якая закрываецца вельмі шчыльна...

Вагон раптам рэзка скалануўся, затрашчалі рама і столік, прыдаўлены шырокім разбухлым чамаданам, гаспадар якога аж дагэтуль не вярнуўся. Апоўдні, папрасіўшы папільнаваць рэчы, ён пабег па вагонах шукаць сваякоў, якіх пагубляў у часе пасадкі, калі чалавечая хваля біла і ў дзверы і ў вокны; неўзабаве ён вярнуўся,прывёў хударлявую, з пукатымі савінымі вачыма жанчыну, уладкаваў яе за хатулямі на верхняй паліцы і зноў некуды збег. Калі вагон рэзка скала-

нуўся, за хатулямі нешта ціха брэнькнула. Але голасу і руху ніякага там чуваць не было.

Вагон скалануўся яшчэ раз, чадна засмярдзела дымам, завухалі за акном густыя далёкія выбухі. Па вагоне панеслася спалоханае:

— Бамбяць! Самалёты бомбы кідаюць. Уцякайма з вагона!

Маці прыўзнялася, вочы яе былі шырока адкрытыя, голас прагучаў разважліва, без адчаю.

— Бяжы з вагона, дачушка. У лес зашыцца трэба. Абы не на чыстым...

Насту не здзівілі гэтыя словы, яна зарадавалася, што маці не трызніць, сказала, нагнаўшы ў свой голас спакою:

— Некаму нешта саснілася, можа. Усе і кінуліся. Паніка, як і звычайна.

— Але ж мы спыніліся. Цягнік стаіць. Праўда ж?

Наста папраўіла на матчыных нагах хустку, якая спаўзла да самай падлогі, паставіла бутэльку на столік, паміж шклом і чамаданам, і толькі тады адказала:

— Спыніліся. У чыстым полі спыніліся... Не, на той бок насыпу нейкія будынкі бачу. Хата нейкая, здаецца...

Намагалася казаць спакойна, і гэта ёй не ўдавалася: голас гучаў няроўна, сіпла. Цяпер, калі цягнік спыніўся, у вагон не залятаў струмень свежага паветра, дыхаць было цяжка; горача зрабілася і ў плячах.

Вэрхал у вагоне ўзмацнеў. Людзі рваліся да дзвярэй, душыліся ля вокнаў, спрабуючы ўбачыць, што робіцца на насыпе, крычалі, лаяліся. Нечакана гэты бязладны гармідар заглушыў загадны і ўпэўнены мужчынскі покліч:

— Ці-іха! Спыніце паніку! Заставацца на сваіх месцах,— і трошкі цішэй, але ўсё на той жа строгай і патрабавальнай ноце прагучала тлумачэнне: — Цягнік спыніўся, бо наперадзе разбураны мост — фашысты разбамбілі ранкам. Рамонтнікі аднаўляюць яго. Каб паскорыць работу — загад начальніка эшалона! — кожны вагон дае дваццаць чалавек. Пажадана, каб самыя крапчэйшыя выходзілі. Камандзіра каманды вызначайце самі.

Наста памкнулася да праходу. Маці смарганула яе за рукаў, схапіла моцна, адкуль і сіла знайшлася:

— Сядзі! Не пушчу!

— Ты ж вады ўвесь час просіш. Ля маста і набяру.

Расшчапіла матчыны пальцы, узяла бутэльку і стала ў праходзе. Вайсковец ішоў таропка, час ад часу сціраў пот з ілба. Правая рука ў яго была сагнута ў локці і вісела на почапцы з бінтоў, гімнасцёрка пад ёй сціснулася гармонікам. Перад ім расступаліся, і ён, невядома па якіх меркаваннях прымаючы рашэнні, торкаў указальным пальцам забінтаванай рукі то на аднаго, то на другога з пасажыраў, кідаючы запрашальнае, але строгае: «Выходзім, выходзім...» Наста прыгледзелася, і ёй аж горача зрабілася. Ці не Чаркас гэта? Гімнасцёрку толькі памяняў, з каўняром цяпер гімнасцёрка. Не, не Чаркас гэта. Але ж падобны. Вельмі падобны!

— А-а, тут параненыя ёсць. За вадой можна, можна,— вайсковец перавёў позірк з кутка купэ на бутэльку, якую Наста сціскала ў руцэ.— Ля маста толькі пітной вады няма. Чорнае месіва замест вады цяпер. На хутар трэба бегчы,— і з нейкім самотным спачуваннем дадаў: — Гадзіны са дзве нам яшчэ стаяць — не меней. У лепшым, вядома, выпадку...

Вайсковец рушыў у суседні вагон, а Наста стаяла, сціскаючы бутэльку ў руках, адчуваючы, што чырванее ад сораму. Падобна, што вайсковец па-свойму зразумеў яе. З бутэлечкай вадзіцу шукаць сабралася? Ідзі, шукай. Там, ля маста, без цябе абыдуцца!

Разумела, што марна, дарэмна яна злуе. Але крыўда тачыла душу. Ёю пагарджаюць. Яна, адна з лепшых гімнастак інстытута, выяўляецца, зусім не патрэбна там, куды адбіраюць мацнейшых. Як недавер выказалі. І маці, падобна, знарок хустку з нагі садрала, каб вайсковец адразу заўважыў, што тут паранены чалавек ляжыць. І ён жа адразу і заўважыў, што ў жанчыны нага забінтаваная.

Не стрымалася, прамовіла з дакорам, але ціха, баючыся, каб не пачула суседка:

— Чаго ты з хусткаю гэтай гулі ладзіш? Соўгаеш яе, соўгаеш...

Маці парывіста ўзлакцілася на левую руку, утаропіла на дачку невідушчыя, як не свае вочы, і голас яе быў звернуты не да Насты, а некуды ў невядомую прастору:

— Ты не слухай яе, Паўлік! Не зважай!..

Наста памкнулася бліжэй да маці, нахілілася над ёю:

— Гэта я, мама. Паўліка няма, ён з намі не едзе.

— То і добра, добра...

Маці адкінулася галавой на хатуль, вочы ў яе закрыліся, і праз засмяглыя губы вылятала хрыплае няроўнае дыханне. Наста памацала матчын лоб, потым села на краёк лаўкі, трымаючы пустую бутэльку на сваім правым калене. Было непамысна. Каго папракаць узялася. Параненага чалавека, у гарачцы. У-унь, на бінтах крыві яшчэ больш выступіла. І гэтая клятая гарачыня. Чамадан палову акна загарадзіў, свежае паветра цяпер ледзь цэдзіцца. Каб яго на гэтыя хатулі перакінуць, што на сядзенні. Парастрэсліся хатулі, улежаліся, якраз месца чамадану вызвалілася.

— Не чапа-ай,— засіпела з верхняй паліцы жанчына, якая дагэтуль ляжала нерухома, як нежывая.— Не ты паклала, не табе і ўзяць...

— Я сюды яго, на хатулі, прымастачу. Шчэ лепей, цётачка!

— І-іш, пляменніца вылупілася,— жанчына траха не да пояса звесілася з паліцы, яшчэ шчыльней прыціснула чамадан да акна.— За ім хоць затуліцца можна будзе, калі налятуць самалёты. Хоць нейкі паратунак ад кулі...

Жанчына зноў зашылася ў куток на верхняй паліцы, і Наста паспела разгледзець толькі яе рукі. Учэпістыя, з няроўна вызубранымі, падобнымі на зубчыкі ржавелай пілы ногцямі на каструбаватых пальцах — на мезенцах ногці ў блішчастых, як са слюды, крапках,— яны мільганулі і зніклі, як расталі ў плыткім святле вечаровага сонца. На рабрыне чамадана, да якой рукі дакраналіся, засталіся вільготныя пісягі, і Наста ўзіралася ў іх з незразумелым прадчуваннем незразумелай бяды. Вузеюць, меншаюць гэтыя рыскі на чорным дэрмаціне, нібыта дагарае на вуголлі касмылёк сена. Падалося нават, што зараз задыміць, возьмецца агнём бакавіна чамадана. Не, глупства вярзецца, вось ужо і знаку ад тых пісягоў не засталося...

Наста памацала бакавіну чамадана, на якой толькі што выпарыліся адбіткі потных пальцаў. Чорны дэрмацін, угрэты сонцам, быў цёплы, нібыта пад ім ляжала нешта гарачае, і яна паспешліва зняла руку, быццам апяклася. Але гэты рух як сагнаў трывожнае

прадчуванне бяды, нават раззлаваў. Як баіцца яна, Наста, гэтага чужога пагляду з верхняй паліцы. І хопіць пра нейкую бяду думаць. Хопіць жахі на сябе наганяць! Трэба думаць, як вады расстарацца. Маці не можа трываць, нудзіцца, зноў піць просіць...

Слабы і сцішаны, бы дзіцячы, матчын погалас выклікаў у душы спагаду і боль. Плыткае святло ўжо не залівала сценку купэ. Сонца не было відаць, але тая частка неба, якая была відаць з акна, неяк агняна свяцілася ўдалечыні, быццам там палаў агромністы пажар.

— Пачакай хвільку, матуля,— Наста схілілася над маці, паправіла хатуль пад галавой, укрыла руку канцом хусткі.— Кажуць, на хутары можна вадзіцы расстарацца. Я зараз злётаю туды. Спраўлюся, пакуль мы стаім.

— Глыточак каб... Адзінюсенькі...

І гэтулькі малення было ў матчыным голасе, што Наста не вытрывала, зазірнула ў праход і гукнула ў адчаі:

— Вадзіцы няма ў каго? Хоць глыточак...

Покліч зглух у людской гамане, аніхто не звярнуў на яго аніякай увагі, і сэрца Насты падціснула крыўда. Як ачмурэлі ўсе ў вагоне, кожны толькі сваё глядзіць, аб сабе дбае. І няхай! Наста гэтак жа да вас паставіцца, калі з вадзіцаю вернецца. Калі ўдасца і бітончык і бутэльку набраць — вадзіцы шчэ і на заўтра хопіць.

Прабівалася Наста да выхаду ўпарта, сігала праз хатулі і клункі, праз нейчыя ногі, не зважаючы на галёканне і злосныя галасы абурэння. Яны ўсе да яе гэтак пагана паставіліся, дык няхай не спадзяюцца, што і яна некаму паспачувае.

У тамбуры, які быў таксама завалены рознымі хатулямі і клункамі, торбамі і чамаданамі, яна ўздыхнула з палёгкаю: вось яны, выратавальныя дзверы. Стоўчаны нагамі пясок насыпу здаваўся далёкім, і скочыць адразу ў шчыльныя стракатыя людскія плыні, якія каціліся насустрач адна другой усцяж вагонаў, у Насты на хапіла рашучасці. Учапілася ў халодны жалезны поручань, нейкі час вісела, быццам над безданню. Мажная патлатая жанчына, прыціскаючы да грудзей сіні чайнік, распіхвала, бы лайба, стрэчную плынь, прабівалася да прыступкаў, на якіх стаяла Наста.

— Які вагон гэты? — гукала яна, спыняючыся.

Схапіла ротам носік чайніка, прагна пасмактала, аблізнула мокрыя губы.— Гродненцы тутака едуць?

— Я не ведаю, вы заходзьце і папытайце. А дзе ваду бралі, цётачка?

— Вада на хутары. Але не на гэтым, што за пасадкамі. На другі трэба бегчы, за дарогу.У-унь, комін за яблынямі відаць,— сыпала скорагаворкаю цётка.— Адтуль усё добра ўбачыш: і мост разбамблёны, і рэйкі пабітыя, і наш паравоз, і другі, што таварняк цягне. Як знарок цесненька пасталі, каб немцу лацвей малаціць. От наляціць і ўдарыць...

Кляцнулі пераходныя масткі. У тамбур праціснуўся знаёмы Насце вайсковец, убачыў цётку з чайнікам, неяк злосна-ўзрадавана выгукнуў:

— Зноў ты тут, панікёрша? Зноў паніку пачынаеш сеяць? Ану, у вагон! Пайшлі, пайшлі са мною! Трэба табе язычок падкараціць! Падкаро-оцім, урэшце!

Цётка неяк сціснулася, змізарнела. Але ў той жа міг жвава крутнулася, дала нырца пад вагон; гучна брэнькнуў на рэйках чайнік. Вайсковец кінуўся на другі бок тамбура, пачаў тузаць дзверы, але яны не адчыняліся, і ён мітнуўся цераз пераходныя масткі ў суседні вагон.

Наста ўбачыла прасветліну ў людской плыні, адчапіла рукі ад поручняў і скокнула ўніз. Па злямчанай, засыпанай жвірам траве скацілася з насыпу і хуценька ўскараскалася па глiністым адхоне, на якім купкамі раслі разгалістыя сасонкі. Прабегшы па ўзмежку ляроўненькага, бы пад лінейку абсечанага з усіх канцоў кліна жоўта-попельнага жыта, яна прадралася праз вузкі лаз у маладым глогавым парасніку і, быццам у слуп, упёрлася ў барадатага мужчыну ў расхрыстанай шэрай кашулі і чорных штанах, латаных на каленках і няроўна закасаных. Вельмі блізка была і хата, нейкая аголеная, без палісадніка, пад чорнай страхой з вузкім белаватым вільчыкам; вуглы хаты ўраслі ў шырокую прызбу, што была амаль упоравень з вокнамі.

— К-куды? — вызверыўся мужчына; шчокі ў яго чырванелі, вузкі і блішчасты ад поту лоб, зусім не загарэлы, пазначыла чырвоная палоска — ад кепкі; кепка ляжала побач, на пракосе прывялай травы.— Вады, вады... Усе адно і равуць: вады! I пруць, лезуць баранамі дурнымі, як вочы ім высмаліла, да студні...

— Мне кропельку,— Наста ўзняла бітончык, у якім брэнькнула бутэлька.— Зусім кропельку.

— Пустая, кажу ж табе, студня стаіць. Пакацілі ад насыпу плоймаю, роўна татарва — умэнт да дна счэрпалі. А дзялку як спляжылі? Тут трава за два гады не ачомаецца.

— Мама ў вагоне... Параненая. Мне вадзіцы кропельку... Дзе, калі ласка, скажыце ўзяць?

— Там,— мужчына торкнуў грабільнам у канец глогавага параснiку; чорныя, як вуголле, вочы зыркнулі злосна.— На дарогу там выскачыш — па ёй бяжы. У левы бок. І ў ручаіну ўвапрэшся. Крынічная ручаіна...

Ён паклаў грабільна на зямлю, стаў на калені, грэб рукамі змятыя і перакручаныя сцябліны канюшыны і цімафееўкі, як бы сіліўся выраўнаваць і паставіць іх тырчком. Брудныя кароткія пальцы паўзлі па сцяблінах, бы тоўстыя, пераціснутыя пасярэдзіне слімакі.

За хатай быў садок, і ў ім, за кустамі агрэсту і парэчак, жаўцелі пчаліныя калоды. Управа ад іх, унізе, на карычневым насыпе, даўжэзным ланцугом знерухомелі вагоны, і канец гэтага ланцужка хаваўся за вольхавым параснікам. Бы на далоні ўсё відаць. А рачулка зусім маленечкая — тонкая пакручастая нітачка на светла-зялёнай лугавіне. У тым месцы, дзе ў яе ўпёрліся вагоны, віруе стракаты людскі мурашнік. Колькі ж гэта там, ля маста, людзей! Гэткай грамадою які хочаш мост можна аднавіць!

— Далоў з лужка! Дало-оў! — Мужчына ярасна затрос жмутом канюшыны, які сціскаў у левай руцэ.— Узмежку не бачыш?!

— Дзякую, дзякую... Я асцярожненька. Травіцу не зглумлю... Вы ўжо даруйце, калі што...

Наста бегла, прыціскаючыся да глогавага парасніку, вострыя, як іголкі, калючкі драпалі запясці, чапляліся за рукавы, і яна не зважала на гэта, не шкадавала, што трашчыць, ірвецца кофтачка.

Глог скончыўся раптоўна, адкрылася затравелая сялавая дарога. Свежы калёсны тор віўся паміж шэрымі камянямі, якія ляжалі блізка адзін да другога, ляжалі бы пакручастыя папяровыя стужкі, і Наста, ступіўшы на іх, азірнулася. Вагоны зніклі ў нізіне, за глогам, не відаць і барадача, які гэтак зазлаваў. Схлусіў ён, мабыць, што вады ў студні няма. Колькі ж гэта трэба чэр-

пацъ, каб яна пустая зрабілася, тая студня? А можа... Гэтулькі людзей да вады кінулася. Тая цётка, якая дала нырца пад вагон, папярэджвала, што студня пустая. Але ж які хутар яна мела на ўвазе? Гэты, дзе барадач лаяўся? Не, за дарогай, казала, той хутар. Але той, другі, у-унь дзе стаіць — дужа ж далёка. Трэба паслухаць барадача, казаў жа, што налева трэба павярнуць...

Бегчы па дарозе было лёгка. Лашчыць твар пругкі вецер, прапахлы пахамі свежага сена. Звініць увысі жаўранак... След колаў быў выбіўся на цвёрдыя плешыны белага і гладкага суглінку, як страмбаванага, потым згубіўся, а цяпер вось зноў узнік на шырокім ад пылу трыпутніку. Дарога, здаецца, паката верне ўніз, а ўдалечыні акрэсліваецца роўнай стужкай на пясчаным пагорку. Няўжо ёй збрахаў хутаранін? Ды не, здаецца, што ручай тут, у нізіне, павінен быць.

Не прыпыняючы хады, яна аглядалася па баках, пільна ўзіралася наперад, куды вяла яе дарога. Купкі белаватых вербаў адгаліноўваюцца ад дарогі ўлева, гусцеюць, упіраюцца ў пахілае разгалістае дрэва. І нешта ж выбліснула пад тым пахілым дрэвам. Вада? Яна, родненькая. І дарога якая цяпер мяккая! Сандалеткі — далоў! Басанож слаўна бегчы. Лісціны трыпутніку ласкава казычуць ступакі, пыл асыпаецца на пальцы, мяккі, цёплы, пяшчотны...

Наста падбегла да старой пахілай вярбы. Ручай тут быў перагароджаны нізенькай — на дзве якія пядзі — каменнай плацінай. Пляскатыя спрэс у чорнай цвілі камяні ляжалі няроўна, і вада лезла ў шчыліны, перакатвалася праз каменныя рэбры, і рэчышча ля камянёў было жаўтлявае, як нядаўна чыста вышараванае.

Наста бухнулася на беражок, адной рукою чэрпала ваду ў бітончык, а другой ліла ў рот. Але потым адставіла бітончык, нагнулася нізка, піла халодную празрыстую ваду, якая здавалася салодкай на смак і надта мяккай. Напіўшыся, наталіўшы смагу, яна прыгаршчамі даліла бітончык дапаўна, зацiснула крышкай і тады сунула пад жвавыя струменьчыкі бутэльку.

Гнуткае вецце пахілай вярбы матлялася ад ветру, і здавалася, што ручай памалу хістаецца, як бы некуды адсоўваецца. Мілагучна покалі бурбалкі, вырываючыся з гарляка бутэлькі. Карычневая папяровая наклейка адляпілася, трымалася толькі адным крайком, трэслася, матлялася ў вадзе, бы восеньская лісцінка. Нас-

та падставіла палец, адчула, што паперка цяплейшая за ваду, лашчыць скуру, і гэтая зусім кволая цеплыня зрабіла яе бязвольнай. Слаўна ж як тут! На бэзавай лапіне чабору, што з трох бакоў абляпіў камель вярбы, гудуць пчолы, недзе за ручаём лянотна і самотна, як на дождж, цвыркае берасцянка... І якая мяккая вадзіца! Хоць ты садзіся ў яе!.. Зусім жа цёплая. І празрыстая... Наклейку вадзіца пагнала. Без наклейкі бутэлька яшчэ і лепшая. Уся аж свеціцца!

Наста паставіла бутэльку на беражку, побач з бітончыкам, апусціла ў ваду ногі і ад лагоды аж завойкала. От жа дурніца, не адразу ёй у голаў цюкнула — ногі памыць. Дужа ж мякка плынь жвір па пальцах гоніць, мітаецца пад пятою пясок, бы завіруха. І ў бутэльцы як бы соўгаюцца, мітаюцца нейкія казюркі. А-а, гэта цвіль з каменьчыкаў. Але тое лёгка выправіць. Ваду з бутэлькі — далоў. За каменьчыкамі ямінку зрабіць, каб у ёй пясочак быў жоўценькі — тады вада чысценькая наліецца...

Спачатку нагамі, потым рукамі Наста зрабіла ямінку пасярэдзіне ручая і зарадавалася: як жа залацiста зіхаціць пад вадой буйны, добра прамыты жвір! Бутэлька цяпер хаваецца ў ямінцы цалкам, і бурбалкі выбіваюцца з гарляка са звонкім поканнем, ланцужок белых пухіркоў гоніць плынь. На перакаце яны развальваюцца, як узрываюцца... А далей, за каменным перакатам, тырчыць пад правым берагам грабеньчык рудаватага хвашчу, і ў ім, зачапіўшыся за тонкае верацёнца, ківаецца, трымціць папяровая наклейка з бутэлькі.

Нечакана адтуль, з таго боку, дзе трымцеў на тонкім зялёным верацёнцы папяровы сцяжок, прагучалі рэдкія вінтовачныя стрэлы, пранізліва доўга зароў паравоз.

Яна не адразу сцяміла, што адбылося, углядалася ў зялёны грабеньчык хвашчу, дзе на тонкім верацёнцы палахліва хістаўся і дрыжаў папяровы сцяжок, і толькі потым да яе дайшло: не памроілася, не ў тым хвашчы ўзнік паравозны гудок, а далей, у бок дарогі, на чыгунцы. Спалохана, сама дзівячыся са свайго разгубленага голасу, услых прамовіла:

— Эшалон гэта... Наш эшалон пайшоў!

Наста выскачыла з вады, сунула ногі ў брызентавыя сандалеткі. Ногі былі мокрыя, сандалеткі не лезлі,

курчыліся, і яна схапіла іх пад паху. Прабегла колькі крокаў і спахапілася, павярнула назад. От жа разява: бітончык і бутэльку на беразе пакінула!

Бегчы па дарозе басанож было цяжка, двойчы лупянула пальцам па вострым камяні, спынілася, пачала надзяваць сандалеткі. Абкачаныя ў пыле пальцы не лезлі, патаўсцелі, і яна як не жывасілам уціснула іх пад брызентавыя лямкі. Нешта вострае трапіла пад пальцы на правай назе, але разглядаць часу не было, і яна, накульгваючы, шнуравала пасярэдзіне калёснага тору. Дзіва нейкае! Быццам пабольшала, быццам падаўжэла дарога за той час, што Наста бавілася ля ручая. Здаецца, у адзін жа міг даскочыла да пахілай вярбы, а цяпер ву-унь дзе той пагорак, адкуль ручай прыкмеціла. А глог, ля якога барадач той крычаў на яе, дык увогуле нібыта ў тумане. А сэрца калоціцца, а ногі цяжкія. І пальцы на правай назе як ў вадзе чвякаюць. Ды кроў жа гэта! Вунь, па скуры ад левай лямкі, нітачка чырвоная точыцца!

Каротка дудукнуў паравоз і змоўк, як папярхнуўся. Пачуўся нейкі працяглы скрыгат, быццам вішчэлі, заціснутыя тармазамі, колы. І Наста раптам зразумела, што цягнік набірае ход і ёй ужо не дабегчы да свайго вагона.

— Пачакайце-е,— закрычала яна і паўтарыла адчайна і дзіка: — Пачакай-ай-а-а-а-айце-е-е-е!

Яна гэтак доўга і адчайна крычала, цягнучы на адчайна-пранізлівай ноце апошнюю частку слова, што ажно напалохалася: вяртаецца назад рэхам яе покліч, крычыць нехта яшчэ, уверсе, а яна сама не крычыць, а толькі чуе погалас невядомага ёй чалавека, і гэты погалас вісіць над глогам, разрастаючыся ў цяжкі металёвы гул. Падобна, як самалёты паўзуць ці машыны. Але ж не відаць самалётаў — чыстае наўкола неба, праўда, нейкае жаўтлявае зрабілася. І недзе там, за глогам, сячэ, аж заходзіцца, кулямёт.

Дарогаю яна шчэ бегла, а тут ужо ішла, марудна перастаўляючы ногі, неяк адчужана ўслухоўваючыся ў грымлівы бой сэрца. Грукае, калоціцца гэтак гулка, быццам не ў грудзях яно, а ўжо выдралася ў горла і зараз выкаціцца на дол, пад самыя ногі. Паспрабавала зноў закрычаць, каб не ехалі, пачакалі, яна, маўляў, ужо блізка. Але з рота выбілася толькі здушанае сіпенне, у горле заклекатала, як закіпела там сухая і густая

сліна, і горка, балюча абціснула паднябенне. Наста матнула галавой, як бы падстаўляючы грудзі ветру, які дзьмуў цяпер ад насыпу, біў у твар моцнымі рэзкімі парывамі, і ўбачыла чорныя тулавы самалётаў, што ішлі кучай, нізка, быццам нацэліліся сюды, у рагатую сцяну глогу.

Адзін за адным чорныя самалёты нечакана строма рванулі ў жаўтлявае неба, крыжы на крылах высвятліліся белымі штрыхамі, як перуновым агнём, потым бліснулі залачонымі кропкамі і зніклі, як усё роўна расплавіліся ў зіхоткім колкім ззянні, і адтуль, з таго залачонага віру, паваліў грозны, са звонам, гул матораў. У седлавіне касагора, там, дзе цёмным ланцужком выгнуліся дахі вагонаў, высака ўзняўся карычневы фантан, побач мітнуўся другі і вырас трэці, але чорны, куртаты, з драным парасонам уверсе. Зямля глуха дугнулася пад ступакамі, чыесьці нябачныя рукі рванулі бітон, нешта балюча ўдарыла ў грудзі, кінула на глогавы параснік, заліўшы вочы халоднай малінавай вадой. Вострыя, як цвікі, глогавыя калючкі ўпіліся ў шыю, быццам навылёт прабілі локці; тоўстае, але гнуткае вецце спружыніла, адпіхнула Насту на ўзмежак, і яна, лучыўшы патыліцаю на схаваны ў канюшыне камень, страціла прытомнасць.



## 2

Завірушка скакала па галінках глогу, самотна, жаласліва цвынькала. Але варта было Насце плюснуць вейкамі, як птушка змоўкла, пырхнула на тонкі кончык доўгай галінкі і знерухомела, нахіліўшы ў бок узмежка галоўку з вострай дзюбачкай; рабенькія крылцы ў птушкі ўздрыгвалі, зрэдку ківаўся доўгенькі хвосцік з чорнымі перкамі на канцы — завірушка быццам парывалася ўзляцець і нечага ўвесь час пабойвалася.

— Дзе гэты мы? — услых папытала Наста, услухоўваючыся ў незнаёмае гучанне свайго голасу і насцярожаную цішыню наўкола.

Завірушка ўзмахнула перапялёсымі крылцамі, пырхнула пад ніжнія галіны глогу, міталася там, самотна і жаласліва цвынькаючы. Потым, калі Наста заварушылася і села, змоўкла. Але тут жа абазвалася ў канцы глогавай сцяны. Наста кінула позірк у той бок, згледзела знаёмы вільчык страхі, пчаліныя дамкі ў садочку ля хаты і адразу ўсё прыгадала.

«Бегла... Эшалон бамбілі... Мяне нечым ударыла, на глог кінула, потым на ўзмежак, на камень, здаецца...»

Галава была цяжкая, як усё роўна моцна ўчадзелая. Плечы праціналі дрыжыкі. Наста абмацала гузак на патыліцы, тады згледзела бакавіну зеленаватага граніта, прыцярушанага канюшынай. З канюшыны тырчаў гарляк бутэлькі, крыху воддаль ляжаў дзіравы бітончык. Па колеру дык знаёмы — у гэткім яна несла ваду. Але гэты без крышачкі, дзірка нейкая на два пальцы ад донца, вялікая — кулак пройдзе.

Яна ўзяла бітончык за тонкую металічную ручку, і ў ім усярэдзіне нешта зазвінела. Разам з эмалевай пацярухай на траву выкаціўся асколак бомбы, сіні і фіялетавы на вострых зломах. Наста паднесла яго да грудзей, дакранулася вострымі, як лязо, зломамі да мокрай кофтачкі, адчула, як уразаюцца ў скуру тонкія зубчыкі, і па хрыбціне папаўзлі буйныя гарачыя мурашкі.

«Бітончык мяне і ўратаваў. А каб не ён... А што ж там, дзе бомбы вухалі?..»

Думка была пранізлівая, яна ўсё перакрэсліла. Наста тут сядзіць, прахалоджваецца. А маці ж там, у вагоне! Яна ж вады чакае!..

Наста схапіла бутэльку з вадой, нават не дзівячыся з таго, што тая не пабілася, ацалела. Галаву вяло некуды ўбок, у патыліцы нешта бомкала. Але ногі рухаліся, і з кожным крокам усё больш упэўнена і цвёрда. Вось і глог канчаецца, цяпер і вагоны ўбачыш...

Яна стаяла на краі глiністага касагора, зацярушанага пасечаным, падраным на шмаццё падбелам, глядзела на рэйкі, што сіратліва чарнелі на шпалах. Глядзела, не пазнаючы наваколля, не разумеючы, куды гэта яна трапіла. Няма вагонаў! Цёмная нітачка на лугавіне перагароджана нейкай нязграбнай чорнай плацінай, паабапал яе паблісквоюць круглыя сподкі, і яны як усё роўна пагойдваюцца ў сінявай, няроўнымі палоскамі, плыткай імгле. А крыху бліжэй, па правы бок насыпу, грувасцілася нейкае жалезнае ламачча, і

ў яго, бы вочы нейкіх страшыдлаў, удушаны чорныя колы — усе па парах, як звязаныя ці пасаджаныя на канцы чорных паленцаў...

Урэшце дайшло да розуму: мост там, ля той нітачкі на лугавіне, а тут, па правы бок насыпу, ляжаць скарэжаныя бомбамі вагоны. Чатыры іх, здаецца. Не, яшчэ адзін, пяты, ляжыць крыху воддаль ад гэтых, бліжэй пад мост, не ўдоўжкі, а ўпоперак насыпу, быццам спрабуе ўзлезці на насып, выставіўшы тоўсты падвойны лыч.

«А мы ў шостым ехалі! У шостым!..»

Ад радаснай надзеі сунялося бомканне ў галаве, меней ціснула патыліцу, і Наста смела кінулася ўніз з касагора. Адхон быў не гліністы, крохкі, асыпаўся пад нагамі, і Наста сунулася ўніз, як плыла, і наперадзе, як бы ўцякаючы ад брызентавых сандалетак, каціліся няроўныя глыжы, і паміж імі пырхалі, як падлётвалі вераб'і, злямчаныя, стоўчаныя лісціны падбелу. Рэзала, паліла, як усё роўна агнём, пальцы на правай назе, мокрая, шчэ добра не прасохлая кофтачка праціўна ліпла да шыі; дрыготка круціла скуру пад лапаткамі, потым шухала ўніз, у паясніцу, і там казытлівымі гарачымі мурашкамі тачылася ў нутро і зноў паўзла ўверх, як бы пераскоквала па рэбрах.

Выскачыла на насып, і правая нага адразу слізганула са шпалы, пальцы праваліліся ў сыпкі жвір, пад рэйку, як зламаліся, і ад рэзкага болю Наста расцягнулася плазам уздоўж рэйкі. Жвір быў халодны, а шпала цёплая, і нейкай цёплай нотаю абазвалася чорная палоса рэйкі. Нібыта цягнік недзе стукае. Ведама ж! Гэта іхні эшалон і коціць! Разбомбленыя вагоны пад адхон скінулі, а ўсе астатнія далей паравоз папёр!..

Лежачы, яна двойчы пералічыла скарэжаныя вагоны за насыпам. Не, яна не памылілася: пяць вагонаў ляжыць. А яны з мамай ехалі ў шостым. Спачатку іх вагон быў апошні. Але потым яшчэ пяць вагонаў падчапілі, на другі дзень, ранкам. Не, уночы іх падчапілі, ранкам яна гэта і ўбачыла. Значыцца, іх вагон ацалеў. Маці там, у вагоне, яна нудзіцца, чакае...

Яна ўзнялася і, накульгваючы, пашнуравала па шпалах. Не зважала на боль у назе, які перакінуўся цяпер на ўсю шчыкалатку, не зважала на тое, што пагана смыліць падрапаная глогам шыя, што ныюць локці і запясці, не зважала, што яна ўжо не бяжыць, а

проста памалу, па-старэчы дыбае па насыпе. Замест чатырох на шпалах цяпер ляжалі толькі дзве рэйкі. Унізе пад насыпам чарнелі глыбокія варонкі з няроўнымі турбамі попельна-сівога сіпаку па крайках, густа былі панакіданы нейкія лахманы, паперы, трэскі. У вялікай і няроўнай, як складзенай з дзвюх варонак, яміне горбіліся цёмныя анучы, нейкія посцілкі з доўгімі махрамі, з-пад глыжоў тырчаў разадраны напалам чамадан... Посцілкі раптам зварухнуліся — ці гэта ёй так падалося! — і нейчая быццам рука высунулася...

Наста спалохана адскочыла падалей ад гэтай жахлівай яміны. Але тут жа і супакоіла сябе, убачыўшы, як у другой, меншай, варонцы, ля чорнай і пакручастай, як звітай з вяровак, бярозкі паўзе дымок, сцелецца па зямлі, бы сінявая вада,— тлеў, падпалены выбухам, торф. Гэта ж і ў той, вялікай, яміне торф тлеў, а ёй чортведама што падалося. І вось яшчэ ў яміне дымок, і бярозка ля яе зусім чорная — густа торфам абсыпана лістота, скурчылася, быццам агнём падпечаная. А рэчачка тут вузенькая, яе шпаламі загацілі хутка. Масток гэты скідалі, і адразу ж і пакаціў эшалон. Ён, відаць, ужо рухаўся, калі гэтыя груганы наляцелі. Але як бы там ні было, а эшалон свой Наста праваронiла. І праваронiла таму, што сядзела на беражку ручая, раскошавала, нагамі ў цёплай вадзіцы боўтаючы. Вось і дабоўталася, варона бясхвостая! Вось цяпер хай і папабегаюць твае дурныя ножанькі за той вадзіцаю. Але ж як дзіва нейкае: вада ж з ёю! Не згубілася нідзе, не пабілася бутэлечка! Поўненькая, надзейна закаркаваная!» Вадзіцы, дачушка... Халодненькай...»

Матчын голас узнік нечпадзеўкі, гэтак выразна, што Наста ажно сціснулася, ашаломлена павяла позіркам наўкола, быццам маці і сапраўды была недзе тут, побач. Няма, нікога няма наўкола. Гэта ж кнігаўка кугікнула, вунь пырхае над балацінаю, свеціць белымі перкамі на падкрылках.

Кнігаўка аддалілася, потым наблізілася, як вынырнула з пагусцелага вечаровага сутоння, і тонкае кугіканне ўзвілося жаласлівай нотаю, да болю абвастрыўшы адчуванне непапраўнай бяды. Зноў мігнулася маці — ляжыць у вагоне на лаўцы, стогне, чакае халоднай вады,— і ў Насты тужліва абарвалася сэрца: маці прападзе, сканае там, у тым напаленым сонцам вагоне, сканае праз яе, Насціну, дурноту і легкадумнасць.

— А мамачка мая... А родненькая...

Яна застагнала, углядалася ў няроўны лёт кнігаўкі, быццам чакала адтуль, з той балотнай прасторы, зацягнутай рэдкім сінявым дымам, нейкай спагады, спачування і добрай парады. Думку пра тое, што эшалон цяпер ёй ужо не дагнаць, не насцігнуць, глушыла адчуванне адзіноты, нейкай свае нікчэмнасці. Нарабіла яна, Наста, бяды. Але ж трэба нешта рашаць, нешта рабіць. А галава цяжкая, учадзелая, як нявыспаная, і звініць нешта ў ёй, бомкае. Э, гэта ж не галава, а правады гудуць. І нейкая чорная птушка сядзіць на драціне, побач з белым, як са снегу, ізалятарам. Не, паляцела вось. Кнігаўка ўсё яшчэ над балацінаю пырхае, а яна некуды паляцела ўсцяж насыпу. Смуга фіялетавая там, пад лесам, куды яна паляцела, гусцее, быццам хваля сюды коціць.

«А я сяджу сабе, прахалоджваюся...»

Ногі былі ватовыя, боль асеў ва ўсім ступаку, падбіраўся вышэй, абціскаў шчыкалатку шырокім колам, і менавіта гэты боль раззлаваў Насту асабліва моцна. Ад цягніка адстала, сядзіць і румзае, нейкай невядомай радасці ад некага чакае. Пальчык дужа ёй баліць, бегчы замінае... Не можаш бегчы? Дык паўзі! Грабіся наперад, даганяй цягнік, рабая варона!..

Наста, сагнуўшыся, павытрэсвала з сандалетак жвір і, калі зноў надзела іх, адчула, што ісці цяпер намнога лягчэй. Ногі тупаюць цвёрда, ажно ўдушваюцца з шоргатам у пясок каменьчыкі. Толькі дужа ж хочацца піць. Але не, піць нельга. Цягнік яна дагоніць, абавязкова дагоніць. Дык не з пустой жа бутэлечкаю ля маці стаяць. Хопіць, галубачка, напілася ўжо ў ручаі!

Яна бегла, высільваючыся, цяжка хакаючы. У перасохлым роце гусцела шархоткая, бы жвір, горыч. Зрэдзьчасу бралася лічыць шпалы і тут жа кідала — яшчэ больш стамляе гэты клопат, перакручвае думкі, замінае бачыць наваколле, наводзіць трывожную боязь: нешта вельмі важнае і патрэбнае не заўважыш своечасова, не прыкмеціш бяды, якая тоіцца недзе паблізу, увесь час сунецца паабапал насыпу.

Па левы бок чыгункі зачарнеў густы малады сосцік. Вастраверхія макаўкі то выразна акрэсліваліся на святлейшым, чым зямля, небе, то прападалі, быццам некуды правальваліся, і тады здавалася, што тонкія, падобныя на бліскучае лязо, рэйкі самі па сабе вымат-

ваюцца з дрогкай чорнай прасторы наперадзе. Крыху спагадзя справа, вельмі блізка, як рукою ўзяць, вылупіліся высокія разгалістыя і нязвычна змрочныя дрэвы — старыя яліны — і неўзабаве засталіся ззаду, як адскочылі, і паабапал насыпу цяпер зноў стаяў нізкі соснік, па-ранейшаму шчыльны і чорны, і над ім нерухома завіс вузкі, палосаю, тэракотавы полаг; неўпрыкмет полаг пашырэў, наблізіўся, і Насце падалося, што па рэйках коцяцца тонкія струменьчыкі вады цаглянага колеру. Яна запаволіла хаду, потым спынілася зусім і, дзівячыся з раптоўнага падману, нахілілася над правай рэйкаю, падставіла пад той струменьчык далонь; мезенец дакрануўся да халоднага металу, цагляны бляск знік, рэйка як праваліліся некуды, і па левы бок ад таго месца, дзе толькі што бліскала яе тонкая рабрына, цьмяна зачарнелі невыразныя абрысы нейкай забудовы.

«Вагоны! Я дагнала цягнік!..»

Наста, як хто моцна піхнуў яе ў плечы, кінулася наперад, прабегла колькі крокаў і спынілася, быццам пакалола вочы аб вострыя, блізкія цяпер абрысы невялікай збудовы. Не цягнік гэта! Няма тут ніякіх вагонаў — будка стрэлачніка горбіцца ля насыпу. Слаба бялеюць ля зямлі слупкі, нізенькія, але частыя — пазначана дарога на пераезд. Адкуль тут, у глухім лесе, пераезд? Але ж нічога не мроіцца — чыгуначная будка перад ёю! Ці не той гэта пераезд, куды аднойчы летась, збіраючы грыбы ў полацкім бары, выбіліся яны, дарэшты змораныя і знясіленыя? Калі яна зараз не памыляецца, дык горад і станцыя блізка ўжо. Але хай сабе і абазналася і зусім незнаёмы пераезд перад ёю, дык усё роўна няблага: у будцы, напэўна ж, ёсць нехта, відаць, і тэлефон стаіць, і можна будзе пазваніць на станцыю, распытаць пра эшалон. Так што нездарма яна пёрла па шпалах, не марна спадзявалася на добрае.

Адчыненыя нахлашч дзверы будкі аніяк не насцярожылі, не спалохалі, і яна смела гукнула:

— Ёсць тутака хто-небудзь?

Дзверы гайдануліся, ціха рыпнулі, і Наста, скалануўшыся, прыціснула рукі да грудзей. Халодны гарляк бутэлькі ўпёрся ў шыю, па скуры папаўзла дрыготка; пад далонямі спуджана забухала сэрца, і Насце падалося, што яно калоціць па рэбрах, і рэбры тукаюць у донца бутэлькі, і шкло з таго танютка пазваньвае.

— Ёсць тутка хто-небудзь? — паўтарыла Наста, цяпер ужо няпэўна, з трывогаю.

Ветру на насыпе не адчувалася. Дзверы, аднак, зноў гайдануліся, толькі цяпер гайдануліся запаволена і бязгучна. Па правы бок ад будкі пачуўся далёкі прыглушаны гул матораў. І там жа, за макаўкамі дрэў, але дужа далёка, запаліліся два колы рудаватага святла.

«Ракеты самалёты павесілі. Гэтак учора было... А тады — бамбілі...»

У сэрцы ўсё яшчэ жыла горыч памылкі — нейкую будку за вагоны палічыла! — і злавесны агонь, што раптоўна запаліўся ў начной высі, пакуль што не выклікаў вялікага жаху. Наста сачыла за асвятляльнымі ракетамі і адчувала, як згарае, чэзне ў душы спадзяванка на нешта добрае. Што чакае яе тут, ля гэтай будкі? А калі раптам злыдзень які там засеў? Ды не, каб быў хто-небудзь, дык, пэўна ж, выбег бы, каб на гэты агонь паглядзець. А ракеты цяпер апускаюцца, на месцы не вісяць. Вось быццам на макаўкі селі соснаў, памалу дугаюцца, быццам спрабуюць гнуць дрэвы то ўлева, то ўправа.

Справа ад жаўтлявых колаў пыхнулі шырокія агністыя бліскавіцы. Жаўтлявыя колы ракет апалі ўніз, і цемра на імгненне як бы адскочыла за насып, адале яшчэ больш загусцела, наблізілася, абціснула будку з усіх бакоў. Колы жаўтлявага святла выплылі ў начной высі зноў, і тады адтуль, быццам з-пад іх, насунуўся глыбінны грукат выбухаў, і зямля ў Насты пад нагамі дугнулася, быццам дно чоўна на хвалі.

«Бамбяць. І гарыць нешта. Дужа блізка...»

Трывога скруціла балюча і востра, раптоўна, як агнём спавіла. Але трывога цяпер ішла не з адчыненых нахлашч дзвярэй будкі, а з-за лесу, з той агністай, як падпаленай высі. Асвятляльныя ракеты ўжо не зыбаліся, імкліва і роўна паўзлі над лесам і раптам спыніліся, як уселіся на вастраверхія макаўкі дрэў. Але гэта цяглося нейкае імгненне, за макаўкамі соснаў засвяціўся аранжавы вобад, падпёр ужо не жаўтлявыя, а карычневыя колы ракет, і паабапал іх узніклі шырокія залачоныя дзіды з лімоннага колеру закрайкамі, выгнуліся ў бок чыгуначнай будкі, і шырокі вільчык стромай страхі на ёй пабіўся ў агняныя крапкі.

Ад спалоху Наста заплюшчыла вочы. Але агняныя крапкі не знікалі, яны рухаліся, распаўзаліся, і праз

іх пёрла з фіялетавай цемры вузкая, лімоннага колеру дзіда, і кончык яе нечакана зламаўся, і тады, з таго іскрыстага разлому, выдраўся шырокі барвовы струмень, ляцеў на зямлю, пакаты выгінаючыся.

Наста адплюшчыла вочы і знямела. Не, нічога ёй не падаецца, нічога не мроіцца: па зубчыках дрэў і сапраўды коціцца, паўзе на будку гарбатая і агністая, лімоннага колеру ўсярэдзіне, хваля, скочваецца з вільчыка страхі на насып, і гэты жывы агонь плюшчыць і плавіць рэйкі.

«Трэба ў будку! Там — паратунак!..»

Яна ўскочыла ў цёмны дашчанік, і дзверы, як самі па сабе, зачыніліся. Але зачыніліся няшчыльна, і Наста, намацаўшы шурпатую, наўскасяк прымацаваную пераkладзіну, смарганула яе да сябе; суха і гучна, як удар сякеры, бразнула клямка, дзверы зачыніліся шчыльна, і цяпер агністае святло запаволенымі мяккімі штуршкамі сунулася, паўзло некуды за вузкім квадрацікам акенца.

— Бамбяць. І гарыць нешта. Дужа блізка...

Наста прамовіла цяпер гэта ўслых, і ад свайго ўласнага голасу, які прагучаў у маленькай чыгуначнай будцы спакойна і самавіта, жах адступіў, і яна глядзела без спалоху на святло, якое цяпер радзела, як расплывалася за шыбамі. Бяда не блізка, тут бяда не зачэпіць яе. Дарэмна яна гэтак перапалохалася — агонь далёка. Але ж як сапраўдны, быццам побач ён, той далёкі агонь. А каб быў блізка? Хіба ж уратавалі б яе ад агню гэтыя тонкія драўляныя сцены, гэтыя кволыя дзверы і клямка? А вось зачынілася, дык быццам ад усяго адгарадзілася, затулілася ад бяды, надзею на лепшае выразна ў душы адчула.

Крывавы агонь за шыбамі згасаў, а ў будцы ўсё больш і больш святлела — вочы прызвычаіліся да цемры. Пры акне — вузенькі столік, справа ад уваходу, ля сцяны,— нейкі цьмяны кароткі ўслончык, як бы нечым засцелены. Ён, выяўляецца, нічым не засцелены, гладкія драўляныя планкі адшараваны, быццам адпаліраваныя. Сядзець на ім, аднак, зручна. І чамусьці дужа ж моцна пахне хлебам. Недзе хлеб ляжыць. І добры хлеб вельмі. З кменам!.. Э-э, вось той і хлебец. На століку, пад газетаю, ладны ж акраец. А краечкі вострыя, засохлыя...

Акраец быў толькі зверху падсохлы, і ён лёгка раз-

ламіўся ў пальцах, і пах хлеба адразу выціснуў і клопат і трывогу. Наста не думала пра тое, чый гэта хлеб, як ён тут апынуўся. Таропка, прагна адломвала кавалак за кавалкам, дзёрла зубамі, глытала, не разжаваўшы як след.

Зноў пыхнула яркае зарава за акенцам, у будцы халодна, як маланкай азароныя, высветліліся абклееныя газетамі сцены, і на Насту ва ўпор зірнулі з кутка нейчыя вочы. Адале накаціўся густы грукат недалёкіх выбухаў, і слясак у прабоі танютка забрэнькаў, быццам нехта знадворку патузаў дзверы, спрабуючы іх адчыніць. Наста стаілася, нават жаваць перастала, і сядзела, уціснуўшыся ў куток, моцна сцяўшы губы. Хлеб пух у роце, рабіўся ўсё саладзейшы, і яна, не вытрываўшы, праглынула мяккі і прыемны камяк. Гэтак жа холадна, толькі цяпер даўжэй, высветліліся белым агнём сцены, і Наста згледзела, што нікога ў кутку дашчаніка няма — наляпана на сцяну газета з нейкім партрэтам.

Наста глымзала ачарсцвелую скібку, глытала салодкія хлебныя камякі, і за кожным глытком усё ў душы аціхала, улагоджвалася. Канчаткова пераканаўшыся, што нікога ў будцы няма, што яна тут адна, што нікога няма і знадворку, пачала разважаць спакойна і памяркоўна. Брэнькала клямка — дзверы, вядома ж, торгала выбуховая хваля. Асвятляльныя ракеты скінулі, несумненна, самалёты — гэткія ж зыркія і яркія светлякі, падобныя на пукатыя агняныя колцы, яна ўжо бачыла ў начным небе. Горад бамбяць фашысты, бо нашы самалёты гудуць зусім інакш. А гарыць, падпалены бомбамі, напэўна ж Полацк — рэйкі туды, на горад, вядуць. Так што правільна зрабіла яна, Наста, затрымаўшыся тут. Куды бегчы пасярод ночы? Пад бомбы фашысцкія? Самае разумнае і без рызыкі — пасядзець тут да раніцы. Пройдзе ноч, развіднее, і можна будзе агледзецца, а тады ўжо рушыць далей. Магчыма, калі пашчасціць, дык да раніцы той нешта і зменіцца, бо яна, Наста, займае зручную пазіцыю — ля пераезда. Не можа ж быць, каб па дарозе якая-небудзь машына не прайшла. На машыне за паўгадзіны праскочыш гэтулькі, што за ўсю ночку пешкі не адолееш. Галоўнае, каб не заснуць, не праваронiць машыны. На пераездзе машына прыцішыць рух — запыніць яе будзе не цяжка. Вось каб Грач на сваёй машыне падкаціў...

Слабая, вядома, спадзяванка. Але ж у жыцці — ды цяперашнім віхурным часам! — аніяк нельга прадбачыць усё наперадзе — заўтрашні дзень і ў мірны час аніхто не ўгледзіць: не дадзена гэта чалавеку. А ўсё ж было б слаўна, каб падкаціў на машыне Грач. Ён жа абяцаў: я цябе знайду! Вось і шукай! Тым больш што і шукаць не вельмі цяжка: каці сабе на машыне сюды, на лясны гэты пераезд, дзе стаіць чыгуначны дашчанік!

Сама сабе не прызнаючыся, яна як бы клікала Грача на дапамогу, маліла, каб ён і сапраўды прыкаціў сюды, на пераезд, на машыне, і ад таго трывога не знікала, мацнела, глыбей запаўзала ў душу пачуццё няпэўнасці. Яна сілілася глушыць трывогу і няпэўнасць разнагаю пра тое, што давялося перажыць за гэтыя чатыры віхурныя і шалёныя дні — ды дзе ж чатыры, ужо сёння пяты дзень пайшоў! — і адчувала, што як бы зачапілася думкамі менавіта за той час, калі сядзела з маці на маленькай прывакзальнай плошчы. Цікава, як бы склаўся іх лёс, дзе б яны зараз з маці былі, каб Грач не пасадзіў іх у той вагон?.. Добрыя вочы ў яго, гэтага Грача,— маці гэта адразу заўважыла. Як жа яна напачатку яму дзякавала і ўслаўляла лёс і неба, што трапіўся ім той вагон, і толькі добрае гаварыла пра Грача, толькі адно і было на языку — Паўлік ды Паўлік... Праўда, калі трызніла, дык часцяком кляла Грача, толькі яго ў сваім горы і вінаваціла: як насланнё нейкае, маўляў, той вагон — з усяго эшалона, выяўляецца, толькі яе і параніла. Але ж хто мог тое прадбачыць. І хіба ж бяды ім Грач зычыў? Хацеў жа як лепей... А яно, дзякуй шчэ скажы, гэтак і павярнулася, ацалеў жа той вагон, у які іх пасадзіў Грач, не зачапілі яго бомбы. Толькі вось дзе цяпер той вагон? А раптам зноў пад бомбамі? Не, не! Шосты вагон іхні — шчаслівы вагон. І яе, Насты, лёс таксама шчаслівы. Як ведала яна, што ў руцэ трэба бітончык трымаць, перад сабою. А каб не трымала, каб цюкнуў асколак у сэрца?.. Не сядзела б, быццам пані, ты тут, галубка, не жавала б, распанеўшы, дармовы хлебец... Хлебец, аднак, яе ўратаваў — адразу і дужасць у нагах, і сілы прыбавілася, і настрой палепшыўся. Дзякуй добраму чалавеку, які тут, на століку, акраец пакінуў, паклаў хлебец, быццам ведаў, што паратунак гэта галоднаму бежанцу... Неяк меней цяпер палохае і полымя, што

шугае за лесам. І выбухі болей не грымяць над лесам, самалёты не гудуць. Цяпер толькі б дня дачакацца. Як толькі пачне шарэць — адразу па шпалах наперад. А можа, каля насыпу бегчы? Ранкам гэта можна будзе вырашыць. Галоўнае ў любым выпадку — дагнаць эшалон. І яна яго здагоніць. Э-эх, каб хоць на каліва большы быў гэты акраец. Але дзякуй і за той, што быў!..

Сагнаўшы з газеціны хлебнае крышыва на далоньку, Наста кінула яго ў рот, марудна і спакваля зжавала, потым запіла глытком вады з бутэлькі. Вельмі ж халодная вадзіца і смачная. Дарэмна яна, Наста, сябе лаяла: неразумна, маўляў, кінулася студню шукаць. Каб маці гэткай салодкай гаючай вадзіцы напілася, дык адразу б і ачуняла, сілы набыла б. Трэба берагчы вадзіцу, бо не адразу ж яе і ўхопіш на той станцыі, якая недзе зусім паблізу ў цемры хаваецца. А можа, як самалёты на горад наляцелі, дык эшалон і на станцыю не пусцілі, спынілі недзе, у тупік пагналі, маскіроўку наладзілі. Наста эшалон там знойдзе, побач з маці будзе, вадзіца там спатрэбіцца...

Пераставіўшы бутэльку на падлогу, Наста прыціснулася тварам да халоднай пацямнелай шыбы, углядалася ў прыгаслае ўжо зарава. А рэйкі чамусьці выразна паблісківаюць, патаўсцелыя нейкія, быццам прыўзняліся над зямлёю. І як нехта мітнуўся над імі. Не, падалося! Водсвет пажару то ацямнее, то яркі зробіцца, дрыготкі — нібыта жывыя цені мітаюцца па насыпе. Не, не падалося! Нешта сапраўды жывое на рэйках зварухнулася... І вось яшчэ, і яшчэ, і зноў — кудлатыя расплывістыя цені!.. Падобна, што нехта грабецца на карачках цераз насып... Ці не сабака там? І вось яшчэ адзін, другі, трэці... І нібыта агеньчыкі блісканулі!

«Ваўкі! Гэта ж ваўкі!..»

Намагаючыся лепей разгледзець ланцужок рухавых і імклівых ценяў, што ўсё выразней акрэсліваліся на святлейшай, чым лес, палосе дарогі, Наста шчыльна прыціснулася лбом да шыбы. Тонка бзыкнуўшы, адляцеў з пазоў перасохлы кіт, і шкло са звонам пабілася на зямлі пад акенцам будкі. Чорныя цені мітнуліся, як падскочылі, на цьмянай палосе насыпу і зніклі, расталі ў цёмным маладым сосніку.

Асмялеўшы, Наста высунула галаву з будкі. На жаўтлявым небе не мігцела аніводнай зоркі. Як быццам днее ўжо. Ды не, пажар гэта шугае. І як імжака

нейкая на твар асядае. Добра, што будка гэтая ёй натрапілася. Каб ішла далей па насыпе, дык напэўна б новай бяды сабе нарабіла — звяругі тыя ў работку б узялі. Але ж чаго яны чорныя? Ваўкі ж не чорныя, шэрыя, як здаецца. Хаця, ноч жа яшчэ. Ля зямлі густая цямрэча. З таго чорныя і выдаюць. Ды, зрэшты, якая табе розніца: чорныя ці шэрыя — далёка недзе яны ўжо панесліся.

Жаху ўжо не было. Адчуванне таго, што яна ўсё зрабіла дужа разумна і правільна, цяпер канчаткова суцешыла: усё выкіроўваецца на добрае. Нечакана мігнуўся куст белаватай лазы, пад які піхнуў яе Грач. Смелы ён, рашучы, гэты малады лейтэнант. Ён, мабыць, той самалёт і ссадзіў. Не збаяўся, страляў... А як на яе, Насту, Чаркас тады ў машыне глядзеў! Вось дзе іх лёс звёў! Каб жа тады, у часе тых вальсаў у інстытуце, сказаў хто-небудзь пра гэткую вось будучыню, пра гэткую стрэчу на дарозе ў машыне, пра вайну гэтую клятую... У сне, можа, толькі такое тады магло сасніцца. Аднак жа нядобра, мабыць, яна зрабіла, што не пайшла тады на спатканне. А чаго, між іншым, не пайшла? Збаялася Клавінай сяброўкі? Не, не збаялася. Пакрыўдзілася, вось у чым загваздка. Не сказаў жа Чаркас, калі вальсавалі, што ведае Зіну, што сябруе з ёю. Вось гэта і пакрыўдзіла. Дакладней, не гэта, а тое, як Зіна тады, плачучы, дапытвалася: што, маўляў, ён пра мяне табе расказваў, якімі словамі бэсціў? А ён жа каб слоўца пра Зіну прамовіў. Ён увогуле, вальсуючы, амаль нічога і не казаў, толькі адно і рабіў, што ў вочы глядзеў. І вальсаваў ён, аж дагэтуль помніцца, слаўна. Высокі, шырокі ў плячах, белая з сінім каўняром тэніска-футболка, караткаватая ў рукавах, акрэслівала пругкія пакатыя плечы. Рукі былі абрудзелыя на сонцы, добра загарэлыя, з залацістымі валасінкамі на касцяках пальцаў. Даверлівыя і добрыя рукі. І сінія вочы былі таксама даверлівыя. Гэтак жа, як і тады, глядзяць яны цяпер з-пад залацістых, высветленых сонцам броваў, глядзяць спалохана, з чаканнем. І калі ж гэта ён паспеў пераадзецца? Ужо не белая футболка з сінім каўняром на ім, а гімнасцёрка з падранымі рукавамі, нейкае пакамечанае бруднае галіфэ, сінія абмоткі няроўным гармонікам насунуліся на барвовыя чаравікі... І паводзіць сябе дзіўна неяк, усё сіліцца зрабіць нейкі знак, як пра нешта просіць. А глядзіць убок, на рэ-

дзенькі плот з доўгіх учарнелых штакецін. Праломкі ў плоце скрозь. І ў весніцах чорных таксама праломкі. Вішняк за плотам сагнуты, перакручаны, лісце на ім рудое і пазвоньвае, быццам з бляхі яно. За вішняком попелішча, пасярод яго тырчыць высокі перапялёсы — унізе і ўверсе чорны, а пасярэдзіне белы! — комін. Вакол попелішча ходзіць і ходзіць, як навязаная, нейкая знаёмая жанчына. І адзенне на ёй знаёмае, нага забінтаваная... Матуля! Гэта ж маці там ходзіць! І падворак знаёмы, і вішняк знаёмы, і плот... Гэта ж бабулін падворак! Толькі хаты няма. Галавешкі пасярод чырвонага вуголля курацца. Матуля дыбае цяпер па гэтым вуголлі, сінія пасмы дыму скочваюцца з галавешак, паўзуць за ёю, звіваюцца ў тугі шлейф за садам.

— Мама! Матуля!

Здаецца, голасна, настойліва паклікала. Але маці не абазвалася, нават не павярнулася на покліч, дыбае ў канец саду, да шчыльнай сцяны глогу. З-за глогу выпаўз маленькі, як цацка, чыгуначны вагон, чырвоны дах яго масліста блішчыць. Вагон цяпер Грач піхае, коціць сюды, да попелішча.

Маці прастуе Грачу насустрач, гаворыць ласкава:

— Дзякуй табе, Паўлік! У шчаслівы вагон ты нас пасадзіў: ніводная бомба не зачапіла.

— Калі людзям — заўсёды лепшае аддасі. А сабе ўжо тое, што застанецца. Бачыце, крыж чырвоны? Здаля ж відаць, што шпітальны, што параненыя едуць у ім. Не глядзеў фашыст кляты, бамбіў, сек з кулямётаў...

Дзіўнае нешта Грач гаворыць. Вагончык блішчыць фарбаю, быццам толькі што фарбаваны, і чырвоны крыж прыгожа намаляваны.

— Гэта толькі здаецца, што вагон новенькі. А ў сапраўднасці ён бы сітачка,— Грач лёгка, быццам цацку, узнімае вагон, спрэс у дзірках, і дзіркі ўсе няроўныя, драныя.— Гэта ўсё, што ад нашага эшалона засталося.

Грач апусціў вагон на зямлю, і вагон адразу робіцца вялікім, і адразу ж з яго выбягае Чаркас, не паранены, вясёлы, у нейкай доўгай белай апратцы, з дзіравым бітончыкам у руках. Дзірка на два пальцы ад донца, вялікая — з кулак,— і адтуль цурчом ліецца вада.

Цячэ вада халодная
З-пад караня дуба...

Чаркас спявае, і маці ўважна слухае песню. Ля матчыных ног цяпер не сіні дым, а бруіцца шырокая блакітная ручаіна, па берагах — пахілыя вербы, вада пад вербамі зіхаціць на сонцы залачонымі бліскаўкамі, трымціць і пераліваецца.

— Без вады цяжка кветкі вырасціць, не растуць яны, калі іх не палiваеш,— гаворыць Чаркас.— Без вады касачы пасохнуць...

На тым месцы, дзе толькі што быў вагон, магільны пагурак пачынае расці, быццам яго хтосьці нябачны выпірае з зямлі, пагурак роўна засцелены густым попельным дыванком пясочніку, акаймаванага роўненькай стужачкай жоўтых касачоў. Дзіўна, як ліе на касачы — з аднаго боку яны цвітуць — ваду Чаркас! Нахіліў бітончык дзіркаю ўверх, і з яе выбіваецца празрыстае плецiва бурбалак, і яны разам з вадою распаўзаюцца па попельным дыванку пясочніка, і доўгае лісце касачоў гойдаецца, чыкае, бы нажніцы, і, зрэзаныя імі, валяцца на зямлю сухенькія, як падвялыя, кветы, зыбаюцца, шыюцца пад карэнне касачоў, і з касачоў таксама адлятаюць жоўтыя кветы, звіваюцца ў ланцужок, і ланцужок сунецца, коціць бітончык прэч ад магільнага пагурка. Бітончык коціцца няроўна, са звонам удушваючы кветы ў нейкі дзіўны крэмавы пясок. Крэмавы зрабіўся раптам і магільны пагурак, і за ім стаіць чыгуначны вагон з вялізнай шасцёркай пасярэдзіне, і паабапал гэтай лічбы ярка свецяцца чырвоныя крыжы. На правы бок вагона, побач з прыступкамі, стаіць маці, голас яе поўны нецярпення:

— Ты чаго бавішся? Зараз ужо і едзем!

Наста была памкнулася бегчы да яго, але жоўтыя кветы касачоў вузкім плецівам спавілі ногі, пацягнулі да магільнага пагурка. Яна ўпёрлася пятамі ў цвёрды пясчаны краёк, і той рассыпаўся, крэмавы пыл балюча і колка сыпануў у твар. Таропка, бароначыся, Наста закрыла вочы далонямі, натапырыла пальцы, і тады са шчылін паміж імі пагнала ядраны белаваты туман.



# 3

Наста ўжо не спала, і разумела гэта, і з радасным адчуваннем услухоўвалася ў гонкі бой спалоханага сэрца. Які дзіўны сон! Колькі ж гэта яна спала? Нешта ж дужа светла ў будцы зрабілася. Ноч, значыцца, мінула, світанак ужо. Галасы чуваць, таропкія, сцішаныя. Падобна, што сварацца на пераездзе. Мужчынскія галасы, жаночых не чуваць. А можа, гэта толькі падаецца, што гамоняць? Ды не, цяпер выразна чуваць. Выскачыць з будкі, зірнуць, хто там гамоніць? Не, не! Можа, злыдзень які там таго толькі і чакае, каб яна галаву высунула і абазвалася! З асцярогаю трэба, падсунуцца да акенца неўпрыкмет, праз выціснутую шыбу зірнуць. Знадворку ж ужо зусім светла...

Падсунуўшыся бліжэй да акенца, Наста цяпер усё добра бачыла, што робіцца ля пераезда. На пасвятлелым небе акрэсліваліся за чыгункаю вершаліны старых соснаў — бор блізенька-блізенька, ля самага насыпу. Нейкі сялянскі воз на пераездзе, і яшчэ адзін паўзе з белаватага туману, што палосаю ляжыць за дарогаю пад тоўстымі карычневымі камлямі. Белыя коні запрэжаны ў вазы, абодва нейкія гарбатыя, гарбы цёмныя і ўвесь час рухаюцца, быццам соўгаюцца па конскіх хрыбцінах... Э! Гэта ж людзі ў касках там, па той бок вазоў тэпаюць. Каскі цёмныя, як маслістыя... Трэба ўцякаць з будкі! Але ж куды? Як? Лепей зашыцца ў куточак і счакаць, хай праедуць вазы, не будуць жа яны стаяць доўга!

Наста паспешліва адсунулася ад акенца, і гэты яе рух быў адразу ж заўважаны.

— Гэ-эй, у будцы!— прагучаў мужчынскі голас.— Не хавайся! Бяго-ом сюды!

Значыцца, яе заўважылі. Ды каб жа толькі гэта! Сюды, да будкі, чалавек крочыць!

— Гэ-эй, у будцы! — гукнулі цяпер ужо зблізку.

Адсунуўшыся ў кут, Наста цяпер праз выціснутую ўночы шыбу не вельмі выразна бачыла чалавека, які шлэпаў да будкі. Здаецца, вайсковец. Узброены: у ру-

ках нейкая куртатая чорная зброя. Барабаніць кулаком у раму рашуча, смела:

— Выходзь, чалавеча! Свае. Не палохайся!

Шыба жаласліва звінела. Дзве вузкія драўляныя планкі балюча ўразаліся ў плечы, а Наста ўсё ціснулася і ціснулася ў кут за столікам, баючыся абзываццца, немаведама на што спадзеючыся.

— Што там, Шаплыка? — загадна гукнулі з пераезда.— Вядзі яго сюды. Дарогу пакажа і назад вернецца.

— Пуста, здаецца, у будцы.

— Не анёл жа мільгануў у акенцы. Дзверы адчыні і паглядзі. Не мог жывы чалавек у неба ўзнесціся!

Не строгасць і патрабавальнасць загаду, а голас ашаломіў Насту. Грач гаворыць! Ён гэта з фурманкі гукае!

Яна імкліва нахілілася да акенца і ледзь не тыцнулася носам у лоб Шаплыку, які спрабаваў зазірнуць.

— У-ух, мамкі-лямкі! Васіліса прекрасная тут жыве-пражывае,— узрадавана, па-свойску працягнуў Шаплыка і, падскочыўшы да дзвярэй, тузануў іх і адчыніў нахлашч.— Прашу к нашаму шалашу!

Абмінуўшы яго, Наста мітнулася на пераезд. Ля першай фурманкі прыпынілася, углядалася ў незнаёмыя твары. Пад гэтымі каскамі зялёнымі яны быццам усе на адзін капыл. А дзе ж Грач? Ці проста падалося, што голас знаёмы пачула? Ды не, не памылілася. Вунь ён стаіць ля другой фурманкі, абапіраецца на спіцу кола нагой, каску зняў, выцірае яе з сярэдзіны сагнутай у локці рукой.

Грач зыркнуў атарапела, і былі ў гэтым яго паглядзе і здзіўленне, і радасць, і незразумелае шкадаванне.

— Дзіво-осы,— працягнуў ён і паклаў каску на фурманку, перагароджаную нейкім дзіўна тоўстым і рабрыстым кулямётам з пукатым зялёным дыскам; па правы і па левы бок ад кулямёта плазам на злямчанай саломе ляжалі параненыя — па два ля кожнай ляжэйкі.— А ты як тут апынулася?..

Карцела адразу і аб усім расказаць: аб сваіх нягодах, аб тым, што здарылася з ёю ўчора апоўдні і ўночы, аб жахах, што давялося перажыць тут, у будцы. Але словы блыталіся, паслядоўнага апавядання не атрымлівалася, яна адчувала гэта, пакутавала і бянтэжылася, паўтарала адно і тое ж і яшчэ больш адчувала

сябе ніякавата ад таго, што выглядае перад гэтымі вайскоўцамі, якія яе ўважна слухалі, і асабліва перад Грачом, нейкай дурнічкаю. Але Грач, здаецца, нічога гэтага не прыкмячае і ўвогуле як і не заўважае блытаніны і паўтораў у яе радаснай скорагаворцы. Нешта іншае займае яго ўвагу, і, слухаючы яе, ён кіне позірк то на блішчастыя рэйкі, то на цёмны бор, у якім цяпер выразна акрэсліваюцца камлі тоўстых соснаў. Туды, пад тыя камлі, верне з пясчанай дарогі цёмная пуцявіна, і Грач паказвае на яе рукой:

— Рухаемся па ёй! Лабук і Зуеў — у галаву калоны. Аб усім дакладваць неадкладна! Шаплыка — на дарогу!

— А навошта ў лес вярнуць? — шчыра здзівілася Наста.— Чаму не па гэтай, уезджанай? Яна, як мне падаецца, на Полацк.

— Не чуеш хіба? — Грач зыркнуў у вочы Насты з такім выразам на твары, быццам быў дужа незадаволены, што яна апынулася тут, перад ім, замінае яму рабіць нешта вельмі важнае і неадкладнае.— Гудуць жа маторы. А па лесе машынамі яны не разгоняцца.

Яна злавіла цяпер ледзь улоўны, адрывісты гул матораў, зноў паглядзела на Грача, не таячы непаразумення:

— А чаго ад машын уцякаць? На машынах жа хутчэй да станцыі дакоцім!

Рукавом кашулі, якім нядаўна выціраў каску, Грач абмахнуў напацелы лоб:

— Мы са станцыі той ледзь ногі вынеслі. Танкі фашысцкія па ёй коўзаюцца.

— Танкі? Адкуль? Там жа эшалон наш!

Відаць, гэтулькі здзіўлення і недаверу было ў яе на твары, што Грач, з горкім усміхам пахітаўшы галавою, асцярожна і далікатна пацягнуў за руку, як бы баючыся, што конь сапхне Насту з пуцявіны. Але сказаў не адразу, счакаў, пакуль другая фурманка не абмінула іх:

— Ты быццам з неба звалілася. Танкі праравалі фронт і шнуруюць ужо за Дзвіною. Цяпер фронт наш здаганяць даводзіцца. Ды шчэ ці здагонім...

Усё тое, што паведамляў Грач, зразумець было цяжка, ды, зрэшты, Наста і не вельмі мкнулася тое зрабіць. Яна шчэ жыла сваім асабістым клопатам, сваім уласным болем, і яна шчэ не толькі не магла спасцігнуць

сэнс Грачовых слоў, але і проста не давярала ім, ставіла пад сумненне, спрабуючы адшукаць разумную часціну ў тым, што пачула. Хлусіць ці перабольшвае Грач? Маніць знарок, каб пасмяяцца з яе?.. Не, не падобна. Але як бы там ні было, а мэта, якую Наста ставіла перад сабою,— поўны наіў, калі хоць частка слоў Грача праўда. І цяпер ужо зусім відавочна, што, каб яна не сядзела ўночы ў будцы, бегла па шпалах аж да світання, вынік быў бы ўсё роўна гэткі ж. Не, мабыць, не той жа! Цягнік, ведама ж, яна б не нагнала: смех, дый годзе — пешкі яго даганяць. Але, скажам, каб бегла яна ноччу, не спыняючыся нідзе... Куды б дабегла? Ваўкам тым на зубы? Ці ў той агонь, што палаў за лесам уночы?.. Адно тут бясспрэчна: Грача яна не стрэла б, таго, што ведае зараз, таксама б не ведала!

І наўпярок гэтым разважанням, міжвольна, як пратэст, невядома каму адрасаваны, у Насты вырвалася з болем:

— Але ж эшалон мне наш трэба шукаць! Трэба!

Грач паставіўся да Насціных слоў сур'ёзна і заклапочана і, усё больш уважна ўзіраючыся ў прагал у лесе, дзе над пуцявінаю імглілася, як дажджавая, шэрань, параіў строга:

— Ты ўжо цяпер не кідайся абы-куды. Трымайся нашай калоны. З намі пойдзеш...

— Вы людзі вайсковыя. А я што?

Грач паглядзеў на яе з асуджэннем:

— Вайна ідзе. Мы цяпер усе — вайсковыя людзі. Лічы сябе мабілізаванай па законах ваеннага часу.

— А далей?

— О, каб я ведаў, што там далей,— шчыра прызнаўся Грач і нечакана палагаднеў, дадаў спачувальна, асцярожна папраўляючы тоўсты чорны кабур — адсоўваў яго па рэмені за спіну.— Ты толькі не бядуй: знойдзецца матуля. Вырвемся мы да сваіх. Тады адразу параненых — у шпіталь. І маму ты сваю ў шпіталі знойдзеш... Мяркуючы па тым, што ты мне расказвала, эшалон ваш паспеў Дзвіну праскочыць.

— А калі не праскочыў?

— Трэба спадзявацца на лепшае.

— Калі без падстаў спадзявацца... Той жа горкі падман. Сабе толькі маніць. Пагана гэта.

— Сябе не падманеш, хоць ты парвіся,— ён, як нечым дужа незадаволены, рэзкім рухам рукі перасунуў

кабур наперад, пад самую спражку.— Але верыць сабе — трэба. Іначай — адразу з катушак далоў. І падругое, скажу табе... Нават гэта перш-наперш трэба ведаць: чалавек у нас не згубіцца. Калі ўжо шукаеш — знойдзеш.

Грачовы словы не супакойвалі, усё ў іх выглядала няпэўным, пустой абяцанкаю, якою звычайна забаўляюць дзіця, каб адчапіцца і суцешыць, каб не замінала. Але ж яна, Наста, не дзіця! З ёю можна гаварыць шчыра, нічога не таячы. А Грач, здаецца, гэтак гаварыць не хоча, нешта празмерна, здаецца, ён на сябе камандзірскай строгасці напускае, быццам нечага пабойваецца і не хоча, каб хто-небудзь тое прыкмеціў.

Наста думала гэта і глядзела на Шаплыку, які нетаропка, бы ў нейкім роздуме, шнураваў па правы бок лясной пуцявіны. Мільгаюць яго плечы за камлямі, быццам чалавек хоча схавацца за дрэвамі. Навошта Грач загадаў яму вяртацца на дарогу? Папярэдзіць некага, што яны сюды, у лес, павярнулі? Значыцца, нехта яшчэ за імі следам коціць? Але распытваць чамусьці не хочацца, ад кожнага запытання Грач аж перасмыкаецца, не па душы яму роспыты. А табе па душы? Сваім розумам трэба да ўсяго дайсці. Вось чаму, скажам, гэтак натужна парыпваюць атоскі? Ды таму, што вазы цяжка нагружаны. На першай жа фурманцы чатыры чалавекі едуць. Ды кулямёт шчэ. А на другой чамусьці толькі ўдвух ляжаць. Адзін — у яго шыя забінтаваная — лейцы трымае, а другі ляжыць на жываце, уваткнуўся носам у звялую канюшыну — рукі і ногі цэлыя, не забінтаваныя. На передку фурманкі нешта пад канюшынай схавана, як скрыня нейкая, і той, што з лейцамі, узлакціўся на яе, быццам прыціскае, баіцца, каб не звалілася на дол. І рукаў гімнасцёркі разадраны, як бы бінт пад гімнасцёркаю, ля локця. І Грач, выяўляецца, паранены. А яна дагэтуль не прыкмячала, што пад расшпіленай на ўсе гузікі гімнасцёркаю не кашуля, а бінт у рудых плямах незасохлай крыві. Плячо, мабыць, паранена. І непрыкметна. А рукою калі папраўляе валасы ці шкрабае патыліцу, гімнасцёрка тады расхінаецца, заплямленыя бінты і бачыш. Дзе, хто яго параніў?

Ён моўчкі, нават не сказаўшы, што трэба ісці, пакрочыў следам за фурманкаю, потым скоса зыркнуў на Насту, прасунуў руку пад гімнасцёрку, паправіў

бінты, і вусны яго тарганuліся, як бы скрывіліся. Але скрывіліся не пакутліва, а з пагардаю.

— Сапраўды, як з неба яна звалілася,— Грач уздыхнуў.— Няўжо ты думаеш, што ў іх руках цацкі? Страляе, між іншым, немец. І трапна цаляе. Так што нам, як казаў Чаркас, моцна пашэнціла.

— Я нават і не пацікавілася, як вы тады да шпіталя даехалі.

— Можна б горай, ды няма куды ўжо.

Наста згадала свой сон, той вагон, які паказваў у сне Чаркас, і, халадзеючы пры думцы, што ўсё гэтак, як у сне, магло адбыцца і ў сапраўднасці, і, не жадаючыназаляць Грачу, усё-ткі не стрымалася ад запытання:

— Вы з Чаркасам у шпіталі тады рассталіся?

— А мы з ім і не расставаліся і цяпер не расстаемся. Як браты, разам і разам скрозь. Ён жа вунь, па правы бок ад кулямёта ляжыць.

Яна не кінулася да фурманкі, не войкнула ад здзіўлення, нават радасці, сама дзівячыся з таго, не адчула, а толькі мітнула хуткі спалоханы позірк на чалавека, які ляжаў праваруч ля кулямёта. Ды не Чаркас жа гэта. Зацярушаная саламянай пацярухай патыліца, шэрая на плячах, як укачаная ў попеле, гімнасцёрка, дзіўна падкурчаныя ногі ў брудных, з падранымі халявамі, ботах. У ботах Чаркас быў тады на машыне? Не ў памяці. Адно толькі помніцца, што гімнасцёрка на ім была тады без каўняра. Ці гэта яшчэ ў некага гімнасцёрка без каўняра была?..

Спалох прыйшоў у сэрца раптоўна, быццам бяда сядзела там, ля Чаркаса, і ён той бяды не прыкмячаў, а яна бачыла выразна, але была не ў стане яго ад той бяды ўратаваць, не магла нават знак падаць пасцерагчыся. Горла як пераціснула калянымі ланцугом, і гэткія ж ланцугі, здавалася, вісяць на нагах, і яна цяжка крочыла побач з Грачом, баючыся зірнуць яму ў вочы, і слухала з перасохлым ураз паднябеннем Грачова апавяданне пра бой з фашысцкім дэсантам ля станцыі, дзе ў санітарныя вагоны грузіўся франтавы шпіталь, пра тое, як гарэла іх палутарка, як пашчасціла ім выйсці жывымі з-пад кулямётнага і мінамётнага агню, як пашчасціла адшукаць гэтыя фурманкі...

Зноў пачуўся — цяпер не ззаду, а недзе з правага боку, дужа далёка — ледзь улоўны адрывісты гул ма-

тораў, і Грач змоўк. Ён азіраўся, услухоўваўся, час ад часу пакусваў ніжнюю губу, і Наста, сустрэўшыся з яго засяроджаным і ўстрывожаным позіркам, адчула сябе дужа непамысна, быццам толькі яна адна была вінаватая ў тым, што вось яму, Грачу, даводзіцца гэтак непакоіцца і трывожыцца.

— Вы даруйце мне, што ўсё распытваю, распытваю.

— А ты не распытвай. Глядзі і слухай — цяпер толькі гэта і ратуе. Гэтак вось, як яны,— ён хітнуў галавою ў бок фурманак, дадаў, прыцішыўшы голас.— Яны не распытваюць, бо толькі на нас спадзяюцца. Вераць, што мы іх у тыл даставім, не кінем абы-дзе... Не гудуць, здаецца, машыны. Не чуеш?

— Не гудуць. Аціхла ўсё.

Рух фурманак нечакана прыпыніўся, і Грач незадаволена гукнуў уголас:

— Чаго там? Чаго стаімо?

— Дзве пуцявіны, таварыш камандзір, тут,— абазваўся Лабук,— па якой ехаць будзе загад?

— Мастакі загады слухаць,— буркнуў Грач.— Па самай лепшай паедзем. Па якой жа яшчэ вам хочацца...

Але дзе гэтая лепшая пуцявіна, Грач не ведаў, і Наста гэта адразу зразумела і пачала ўглядацца ў пуцявіны, якія разгаліноўваліся ля старой тоўстай сасны, баючыся, што вось зараз у яе папытаюць, загадаюць даць адказ і яна павінна беспамылкова вызначыць, куды трэба павярнуць. Адна пуцявіна точыцца ў малады соснік, густы і цёмны, які нагадвае той, што ля будкі за насыпам, другая ўецца па рэдкім бярэзніку, акаймаваная маладой папараццю, нейкая дужа светлая і чыстая. Па гэтай, ведама, трэба ехаць.

Яна цвёрда вырашыла, што пачне настойваць, калі Грач будзе прымаць іншае рашэнне. Але той нічога канкрэтнага пакуль што не збіраўся рабіць, марудна падышоў да фурманкі, выцягнуўся стрункаю, спытаў пачціва:

— Як на вашу думку, таварыш камісар? Відаць, трэба на карту нам зірнуць...

З фурманкі ніхто не абазваўся, і тады Грач, нахіліўшыся, выцягнуў з-пад канюшыны тонкую карычневую планшэтку, шчоўкнуў мядзянымі кнопкамі і выцягнуў — але не ўсю, а толькі на чвэртку — карту, складзеную прамавугольнікам. Нейкі час ён вывучаў

карту, потым зрабіў пальцам знак Насце — клікаў падысці бліжэй.

— Па-нямецку чытаеш? Зірні... Вось гэта — Дзвіна. Тут — чыгунка. А мы недзе тут... Трафейная гэта карта, нямецкая...

Наста ўглядалася ў кропку, якую паказаў на карце Грач, потым павяла позіркам па назвах гарадоў, нейкіх рознакаляровых рысках, лініях, дужках. Дзе і што вызначыў сярод усёй гэтай стракатасці Грач? Ды і як увогуле пазнаць на карце звілістую лясную пуцявіну, на якой яны зараз спыніліся? Ды напэўна ж няма, не пазначана яна на карце!

Сказала пра тое шчыра, і Грач не пакрыўдзіўся:

— Ведама, не пазначана. Але вось гравійка, на якой мы былі. А вось чыгунка. І пераезд пазначаны. Так што арыентавацца ўжо лягчэй.

Загулі недзе далёка маторы, і гул іх як бы падспешыў Грача. Ён таропка шчоўкнуў мядзянымі кнопкамі, сунуў планшэтку пад канюшыну ля правай ляжэйкі, паказаў на пуцявіну ў бярэзніку:

— Па гэтай рушым. А я — туды, на дарогу. Шаплыку трэба папярэдзіць, што сюды павярнулі. А то ламанець куды-небудзь углыб.

— Ён гэта можа,— падтакнуў Лабук.

— А ты за мяне тут застаешся!

Грачоў загад быў па душы Зуеву, ён паглядзеў на Лабука з усмешкаю, з'едліва цокнуў языком. Але Грач гэтага не заўважыў, хутка зняў з фурманкі кулямёт з рабрыстым бліщчастым дулам, а на яго месца паклаў карабін.

— А ты куды? — асадзіў ён Насту, калі яна памкнулася за ім следам.

— З вамі. На дарогу.

Грач хэкнуў гучна, аж нешта заклекатала ў яго горле, наважыўся быў запярэчыць і нечакана перадумаў, прамовіў з лагодным смяшком:

— Пораху, гляджу, захацелася панюхаць.

— Навошта мне той порах? А раптам загад які захочаце сюды перадаць... Сувязны — пад рукою.

— Разумна,— Грач палагаднеў яшчэ больш.— Баявы салдат з цябе атрымаецца,— і ўсміхнуўся зусім пасяброўску, даверліва працягнуў карабін, які толькі што трымаў у руках.— Ведаеш, што да чаго ў гэтай штукенцыі?

— Нормы на абаронны значок мы шчэ на першым курсе здалі. На выдатна, між іншым, я здала.

— А чаго ж раней не пахвалілася?

Усё тая ж лагодная ўсмешка цеплілася ў яго вачах, і гэта чамусьці абурыла Насту, і яна адказала з выклікам, незалежна і рашуча:

— Пахваліцца ніколі не позна.

— Язычок у цябе во-остранькі,— Грач скоса зыркнуў на фурманкі, як усё роўна баючыся, што іх гаворку там чуюць, як пабойваючыся гэтага.— Але ты яго абы-дзе не выстаўляй. Не паспееш азірнуцца, як адсякуць,— і, услухаўшыся ў траскотны гул, які цяпер памацнеў і быў добра чуваць, загадна ўзмахнуў рукою.— Зуеў! За намі гайда! Лабук тут сам справіцца!

Яны вельмі хутка выскачылі з лясной пуцявіны на гравійку — а напачатку ж здавалася, што дужа заглыбіліся ў лес! — і тут жа заўважылі Шаплыку, які шнураваў па ўзбочыне. Бег, як усё роўна не бачыў, што Грач робіць яму знакі рукой, і ўвесь час азіраўся.

Грач хвацка, ажно Наста уздрыганулася, свіснуў, і Шаплыка, пераскочыўшы неглыбокі кювет, бухнуўся ў зялёную папараць ля камля сасны. Сіпата, задыхана хакнуў:

— Ед-дуць! Матацыклы!

— Колькі? — Грач рэзка перакінуў правую руку з дула кулямёта на кароткі драўляны прыклад, нібыта рабрысты метал быў гарачы і апёк далонь.

— Тры штукі,— Шаплыка нават паказаў гэта на пальцах.— Асцярожна, гады, шпарацць. Праедуць, тады стануць, углядаюцца па баках, як нешта шукаюць.

Зуеў рагатнуў:

— Дзівяцца, што Шаплыка іх не страчае. Уцякаць кінуўся.

— А нашых не відно? — спытаў Грач.

— Не, не бачыў. Яны, мабыць, таксама ў лес крутнулі, маторы пачуўшы.

— Трэба адыходзіць,— сказаў Шаплыка і нейк тужліва паглядзеў у глыб лесу, на пуцявіну, на якой не было прыкметна ні слядоў, ні калёснага тору, а толькі шарэла леташняе шыгалле.

— Пазіцыя ў нас зручная,— як сам сабе прамовіў Зуеў.— Можна секануць. А як непярэліўкі — за пагарб скаціліся. Свішчы нам у хвост тады.

— Трэба адыходзіць,— стаяў зноў на сваім Шап-

лыка.— Мы ж не адны, у нас параненыя. Абоз на нас ляжыць. А ў лес яны не палезуць, гравійкаю праскочаць.

Зуеў аблізнуў губы, гучна сплюнуў:

— Твая душа ў пяты даўно праскочыла!

Шаплыка не звярнуў увагі на шпільку, паўтарыў:

— А ў лес яны не палезуць.

Грач паглядзеў на Зуева, потым на Шаплыку і кінуў загадна, каротка:

— Да бою!

Ён сігануў праз чорныя струхлелыя лаўжы, ля якіх буяў малады маліннік з доўгім і светлым, як празрыстым, лісцем, стуліўся ля няроўна спілаванага бярозавага пня, уваткнуў тонкія жалезныя сошкі кулямёта ля маладога парасніку, што гнала з каранёў. Убачыў, што Наста стаіць на ранейшым месцы, і зазлаваў, прыўзняўшыся на локці:

— Ты чаго маячыш? Займай пазіцыю справа ад мяне, тут вось! Патронаў у запас узяла?

— А вы ж мне нічога не падказалі.

— Па падказцы цяпер не пражывеш. Цяпер уласнымі мазгамі дзыгаць давядзецца,— Грач стаў на каленкі, прыгнуўшыся, павярнуў галаву да Зуева.— Зуеў! Выдзелі ёй адну абойму ў запас.

— Хопіць ёй і таго, што мае. Шчэ каб паспець і тое выпусціць належным чынам.

— Адставіць разгаворчыкі! Выконваць, Зуеў! Страляць — па маёй указцы. Першы матацыкл — мой. Другі — Шаплыка і Наста. Трэці табе касіць, Зуеў. Але калі ўпусціш і ён паверне...

— Паверне, вядома. У рай! Гэ-э, лаві!

Наста злавіла абойму, якую кінуў Зуеў, і гэта выклікала ціхае, з прысвістам, захапленне Шаплыкі:

— Вось як трэба, Зуёк. З лёту. Вучыся!

— Разгаворчыкі,— з пагрозай прасіпеў Грач.— А-адставіць была каманда.

У густой маладой папараці запанавала цішыня. Наста прасунула паміж гонкіх сцяблін папараці карабін, прыпала шчакой да прыклада. Блізка, як перад самай мушкай, што добра чарнела ў проразі прыцэльнай планкі, маленькай падковаю жаўцеў кавалачак пясчанай дарогі. Трэба, відаць, паабломваць сцябліны, каб больш і далей бачыць усё, што робіцца на дарозе.

Яна пасоўгала карабінам спачатку ў левы бок, потым у правы, і светла-зялёныя, а ля зямлі празрыста-жаўтлявыя, як з воску, сцяблiны хрустка зламаліся, і адразу жоўтая падкова разагнулася і адкрылася дарога, да самай паваротки прарэзаная глыбокай цёмнай каляінаю.



## 4

У змакрэлых ад расы сандалетках неяк раптоўна ззяблі пальцы — на левай назе чамусьці мацней і ўсе разам,— потым здубянелі ступакі, быццам на лёд басанож ускочыла. Наста падкурчыла ногі. Не, не цяплей ад гэтага. І рукам цяпер зябка зрабілася, кофтачка мокрая. І ледзь закранеш сцяблiну — кроплі густа, бы дождж, сеюцца, а локці быццам халодны камень падпірае. Але камення тут няма, пясок скрозь, а па ім — мох. І густы, як шчотка, і вільготны дужа: даланёю прыцісне — аж цурчыць вада. Грыбныя мясціны. А вось ён, грыбочак, і вылузнуўся. Махавічок, здаецца. Ножка тоўсценькая, а шляпка карычневая, і расінка на краёчку, празрыстая, бы слязінка.

Наста пацягнулася губамі да грыбочка, злізнула з яго расінку, адчула прыемны грыбны водар. Не ўтрымалася, пакратала махавічок пальцам. Слаўненькі які грыбочак. І вунь яшчэ стаіць. І вунь яшчэ! І ўсе роўненькія, бы гузікі — адзін пад адзін. Э-эх, у кадушачку б іх, у засол!..

Мігнулася невысокая пузаценькая кадушка, у ёй бабуля засольвала грыбы, якія Наста з сваім братам Ігарам прыносілі з лесу — хата бабулі стаіць у канцы вёскі, ля рэчкі, а за рэчкай — сасновы бор. Бабуля саліла ўсе грыбы разам, пад качалку — і махавікі, і лісічкі, і курачкі, і сыраежкі, і грузды белыя і чорныя. Выключэнне рабіла толькі баравікам — сушыла. У кадушцы ж зімою — смаката незвычайная. Грыбы аніколі ў яе не плеснелі, і бабуля сакрэтаў не таіла, штораз паказвала, колькі кладзе солі, часнаку, кмену

і іншых зёлак, паказвала, як запарвае — гэта лічыла галоўным! — кадушку. Спачатку кадушку доўга мылі, потым налівалі крынічнай — у далонь, не больш,— вадою і кідалі туды напаленае на агні каменне. Вада сіпела, булькацела, каменне ў ёй гулка падскоквала, кадушка, укрытая зрэбнай посцілкаю, трымцела, спявала на розныя галасы, гнала праз дзіркі ў посцілцы белую пару — колцамі.

Насце падалося, што кадушка тая недзе зараз побач, справа, у густой папараці, і ў вадзе лопае, гудзе, патрэсквае каменне. Павярнула галаву ў той бок, і тады падалося, што тая грымлівая кадушачка падкацілася пад грудзі, упёрлася жалезным вобадам у рэбры.

«Немцы едуць! Гэта ж немцы!»

Немы крык здушыла ў горле шархоткая сухасць. Наста ціха войкнула і, шырока адкрыўшы вочы, спуджана глядзела на матацыклы. Пачвары нейкія, падобныя на вялізных чорных жукоў, паўзуць, быццам глытаюць каляіны дарогі. Спачатку з-за павароткі выкаціўся матацыкл, у якога злева было нейкае карытца, падобнае на распілаваную напалам кадушку. Следам за ім, як бы прыўзнятыя шлейфам белаватага пылу, панесліся яшчэ два, гэткія ж чорныя, толькі танчэйшыя, без доўгенькіх карытцаў з левага боку. Рух іх імклівы, быццам не па дарозе яны імчаць, а ў паветры, амаль не дакранаючыся зямлі: першы сцеле той белаваты пыльны шлейф, а сам глытае цёмную левую каляіну дарогі, а другую, правую, адпіхвае ад сябе, і яна трымціць, выгінаецца, цэліцца сюды, на папараць. З кожным імгненнем чорныя постаці на матацыклах разрасталіся і чорны колер іх злавесна гусцеў.

Паганая дрыготка ўзнікла ў патыліцы, халодныя яе мурашкі перапаўзалі ў правае плячо, адтуль скочваліся да локця, і Наста, каб не пусціць іх да пальца, які ўчапіўся ў каляны гладкі спуск, ціснула і ціснула локаць у мокры, цёплы і слізкі, як намылены, сівенькі мох.

— А-аго-о-о...

Спалоханы і нервовы вокліч Грача абарвала доўгая захлёбістая кулямётная чарга. Наста бачыла, як на канцы рабрыстага дула трасецца, пырхае дымны агонь — у вушах яе забомкала, быццам торкнулі туды каляныя тычкі,— і націснула на спуск, націснула да вострага болю ў пальцы.

«Карабін мой не стрэліў... Храснуў і зламаўся палец...»

Прыклад дугнуў у плячо, і яна чула гук стрэлу, і жахнулася з таго, што стрэліла, як след не прыцэліўшыся. З цяжкасцю адляпіла палец са спуска, і тады боль паслабеў, і рука зноў зрабілася паслухмяная, і Наста, смаргануўшы рукаятку затвора, даслала новы патрон у патроннік.

«Па кім жа страляць? Толькі пыл наперадзе!..»

Мушка быццам плавала ў рудаватым цяпер тумане, які, здавалася, запаланіў усю прастору наперадзе, падпоўз пад самую папараць, і Наста, не ведаючы, куды цэліцца, проста стрэліла ў сярэдзіну гэтага туманнага шлейфа. Дакладна яна страляе ці не — не думалася, увесь клопат быў скіраваны на тое, каб хутчэй перазарадзіць карабін, паспець націснуць на спуск, не адстаць ад кулямётных чэргаў.

— Спыніць агонь! Спыні-і-іць!

Працяглы Грачоў загад, глухі, як здаля, Наста добра пачула. Але спыніцца не здолела, у патронніку ўжо сядзеў новы патрон, і яна, разумеючы, што парушае загад, зноў націснула на спуск. Карабін не ўздрыгнуў у руцэ, прыклад не дугнуў у плячо. Але стрэл прагучаў, адзіночны і рэзкі, прагучаў недзе злева ў папараці. Следам за ім у сярэдзіне жоўтых звіваў пылу бліснула пунсовая знічка, бухнуў глухі стрэл-выбух, і пыл на дарозе на міг высвеціўся аранжавым святлом, быццам падпалены знутры, і адразу ж поверх жаўтлявага кола завіхурыў грывасты чорны дым.

— Спыніць агонь! — зароў Грач і, з кулямётам наперавес, прыгінаючыся, скочыў з папараці на дарогу.— За мной!

Узнімаючыся, Наста абапёрлася на карабін. Прыклад слізгануў па карані, які быў пад імхом, праваліўся ў яміну, таксама засцеленую мохам, і тады са ствала хвастануў Насту ля вачэй гарачы барвовы язык, адкінуў яе на мокры мох у папараці. Аглушаная, на міг асепленая, яна бразнулася патыліцаю на мох, у твар сыпануў расяны дождж, і гэты дождж як бы выпхнуў Насту з папараці.

— Стралок варашылаўскі, дурная твая галава,— вызверыўся Грач, не сцяміўшы напачатку што да чаго.— Куды лупіш? Па сваіх?

— Ён жа сам. Выпадкова...

Зноў бабахнуў стрэл, але цяпер на гравійцы, і Грач, быццам Насты не было побач, мацюкнуў Шаплыку:

— ...і ўсіх багоў разам! Чаго ў мерцвякоў смаліш?

— Гэты заварушыўся. Але цяпер — надзейна ляжыць.

— Гранаты бяры! — нейкім незнаёмым голасам крыкнуў Грач.— І патроны, патроны глядзі...

Вочы ў Насты слязіліся, і ўсё наўкола як усё роўна плыло і вагалася ў дымнай імгле. Сосны па той бок дарогі стаяць рэдзенька, быццам паразбягаліся, папараць пад імі выдае нізенькая і рудаватая. А матацыклы, выяўляецца, не чорныя, а зеленаватыя, спрэс у жаўтлявых плямах. Першы перакуліўся пасярод дарогі, гарыць, і чалавек, які прыціснуты ім, здаецца, сіліцца адпіхнуць яго. Другі матацыкл стаіць упоперак гравійкі, задняе кола асела глыбока ў пясок, нейкае сплясканае, быццам без гумы, і ля яго, на каленках, прыткнуўся салдат у зялёным фрэнчы, абшчаперыў аберуч верх каляскі. Трэці ўляцеў у кювет, задзёр пярэдняе кола, і яно ўсё яшчэ круціцца. Ногі матацыкліста цвёрда стаяць на зямлі, а сам ён абапіраецца грудзямі на руль, звесіў галаву, быццам выглядае, як лацвей выкараскацца на дарогу.

Кола, якое круцілася, бліскаючы нікеляваным вобадам, напалохала Насту — зараз вырвецца матацыкл з кювета, наскочыць на яе! — і яна ўскінула карабін. Грач, заўважыўшы гэты яе рух, загадна папярэдзіў:

— Не страляць! Капцы ім усім,— і раптам напусціўся на Шаплыку, які спрабаваў аддзіраць ад стаяка на калясцы рабрысты кулямёт з тоўстым кароткім прыкладам.— Наліха ён табе, скарэжаны? Аўтаматы забірай! І гранаты. Патроны, патроны глядзі. У калясцы шукай.

— І-іш, нічога не хоча аддаваць,— Шаплыка дулам чорнага аўтамата піхнуў забітага матацыкліста, і той паваліўся ў каляску; адна нага забітага ўшчамілася паміж кожухам кулямёта і стаяком, і на падэшве бота бліснулі густа панабіваныя белыя цвікі.

Да Насты падбег Зуеў, падпяразаны шырокім чорным рэменем, на якім вісеў доўгі цясак у карычневым скураным футарале; два чорныя куртатыя аўтаматы віселі ў Зуева на грудзях, адзін з іх ён зняў і працягнуў ёй:

— Падарунак табе, галубка. За варашылаўскі прыцэл.

— Навошта ён мне? Я з гэткага не ўмею.

— Навука простая. Тутака — адцягнула, а тутака — націснула. Ён і засакоча. Машынка хвацкая, не пашкадуеш.

— Не хачу, не ўмею, сказала ж!

— А мне цяжка. Памагчы ты чалавеку можаш?

— Гэтак бы і сказаў!

Зуеў павесіў аўтамат Насце на шыю, злавіў Насцін позірк, скіраваны на матацыкліста, які ляжаў за матацыклам у каляіне, уваткнуўшыся тварам у пясок, рагатнуў:

— Ды не ўкусіць, не бойся. Адкусаліся, паганцы!

Зуеў нахіліўся над каляскаю, адну за другой выцягнуў чатыры гранаты на доўгіх драўляных ручках. Дзве ён зацінуў сабе пад рэмень, трэцюю працягнуў Насце, а з чацвёртай звінціў дзюралевы каўпачок. Пад каўпачком была жоўтая драўляная бубачка, падобная на касцяк ад лічыльнікаў, пачэпленая на белы віты шнурок.

— Едуць, быццам на госці,— Зуеў грэбліва ўсміхнуўся.— Нават гранаты да бою не падрыхтавалі. Але мы вас навучым свабоду любіць.

Цёплая, як угрэтая, драўляная ручка гранаты жаўцела, бы сухі пясок. І гэткага ж колеру валасы ў забітага, што ляжыць у каляіне. Асыпаецца патрывожаны пясок, цягне за сабой доўгую бялявую пасму, і здаецца, што чалавек сіліцца ўзняцца, вось як бы нават плечы зварухнуліся.

— А перад тым, як кінуць, за бубачку гэтую трэба смаргануць,— Зуеў пастукаў пальцам па драўлянай бубачцы і, убачыўшы, што Наста спуджана паглядае на забітага немца, зноў грэбліва хэкнуў.— Х-хэ, чым яна сабе душу тлуміць. Ды яны ўжо даўно там,— і ён пакруціў над сваёй галавой гранатай.— Усявышняму дакладваюць пра свае шляхі-дарогі,— Зуеў схаваў бубачку ў ручцы гранаты і, закручваючы дзюралевы каўпачок, параіў шчыра, па-сяброўску: — На іх увагі не звяртай. Мерцвякі, як вядома, бяды не ўчыняць.

— У лес,— Грач, закідваючы за плечы трафейны аўтамат, прысвіснуў.— А-адхо-од. За мной! Шаплыка! Не чапай транты!

— Ха, транты! Плашч-палатачкі навюсенькія,—

і Шаплыка, выхапіўшы з ножнаў цясак, абсек рамяні, якімі два пярэстыя запыленыя скруткі былі прышпілены ззаду каляскі.

— У лес! Бяго-ом!

Закамандаваўшы, Грач, аднак, нікуды не пабег, стаяў пасярод дарогі, трымаючы кулямёт, нахілены дулам да зямлі, аберуч — правай рукою за прыклад, а левай за зведзеныя ў пук чорныя сашнікі. Калі ўсе пераскочылі кювет, ён прыўзняў кулямёт і ва ўпор даў кароткую чаргу па матацыклу з каляскай. Знаёма бэхнуў бензабак. Пасля другой чаргі ўзарваўся і дымна запалаў і той матацыкл, што засеў у кювеце.

Па лясной пуцявіне ішлі таропка, ажыўлена і ўзбуджана гамонячы. Наста намагалася, але ніяк не магла падладзіцца пад агульны тон гаворкі — прыкрае адчуванне таго, што паводзіла сябе ў баі не дужа смела, і гэта, безумоўна ж, усімі заўважанае і адзначанае, моцна прыгнятала яе. Яна крочыла следам за Грачом і Зуевым, як бы знарок адстаючы, каб не трапляць камандзіру на вочы. Зуеў, разглядаючы запасныя кулямётныя дыскі,— апароў усё-ткі ў люльцы! — час ад часу лаяўся: немцы, маўляў, іх везлі, а яму, Зуеву, даводзіцца пурыць паклажу на сваім уласным гарбе. Але лаяўся ён нязлосна, як бы фатыгуючы, выстаўляючы сваю кемлівасць і знаходлівасць.

Шаплыка ўдзелу ў гаворцы не прымаў, дакладней, нешта сказаў толькі напачатку, а потым моўчкі цягнуўся ззаду, і Наста чула ўвесь час, як ён зморана дыхае. На паваротцы, дзе паабапал пуцявіны густа зелянілася ажына, ён нагнаў Насту і крануў яе за плячо.

— Хочаш? — Шаплыка працягнуў ёй ручны гадзіннік на блішчастай металічнай бранзалетцы.— Бяры на памяць трафей.

— Адкуль?.. А-а, у тых узяў?

— Ну. Едуць, сволачы, пешкі не пруць. І ўсе — пры гадзінніках.

— Не, не,— і яна адхіснулася ад Шаплыкавай далоні, на якой ляжаў гадзіннік.— Мне не трэба.

— Хай не трафей. За мужнасць у баі ўзнагарода.

Грач прыпыніўся, спытаў з'едліва:

— Якія-такія ўзнагароды раздаеш, Шаплыка? — і, паспеўшы заўважыць гадзіннік з бліскучай бранзалеткаю, які Шаплыка ўвішна заціснуў у кулаку, неадабральна пакруціў галавой.— Ну і армія ў мяне.

Адзін — сябе ледзь не застрэліў. Другі — трантамі абвешаўся. Трэці — кішэні мерцвякоў чысціць,— і гучна плюнуў.— Цьфу! Выкінь к чортавай матары. І не пагань рукі. Ясна?

— Ёсць, таварыш камандзір! Будзе выканана!

Шаплыка, аднак, не спяшаўся выконваць загад і, ледзь Грач адвярнуўся, хуценька сунуў гадзіннік у кішэню. Ён па-змоўніцку падміргнуў Насце, і яна сумелася. Прыкрае адчуванне таго, што яна паводзіла сябе ў баі баязліўкаю, цяпер, пасля адкрытага папроку Грача, памацнела і тачыла душу.

Ранейшай узбуджанай гаманы ўжо не было, усе крочылі моўчкі, як усё роўна чакалі нядобрага чагосьці, і Наста ўздыхнула з палёгкаю, калі ўбачыла знаёмае скрыжаванне. Фурманак на ім ужо не было, яны праехалі ў глыб бярэзніку і там спыніліся. Падышоўшы да коней, Грач пачаў ладкаваць кулямёт на ранейшае месца. Заварушыўся камісар, запытаў устрывожана:

— Прарваліся, Грач?

— Так точна, таварыш камісар. Зараз рухаемся далей.

Грач адказаў бадзёрым голасам, крыху пастаяў, чакаючы новых запытанняў. Але іх не было: камісар, унурыўшыся, моўчкі ляжаў, прыціскаючыся да ляжэйкі, як бы вызваляючы месца для кулямёта. Грач адступіў крыху ўбок, паківаў Лабуку пальцам — прасіў падысці. Той адразу падбег, казырнуў, і Грач прамовіў ціха, ледзь не пошапкам:

— Ты кіруеш абозам. Шаплыка і Зуеў — у ар'ергард.— Потым кіўнуў галавой у бок Насты.— Мы з ёю — разведка. Рухаешся следам. Коней дужа не гані,— і зноў павярнуўся да Насты, параіў строга: — Аўтамат пакладзі. Карабін ты ўжо засвоіла — не падвядзе,— і, зняўшы з фурманкі дзягу з чорнымі падсумкамі, хуткімі рухамі падперазаў Насту, зашпіліў спражку.— Цяпер — рушылі. Дарогу будзем глядзець...

Грач крочыў хутка, і Наста ледзь паспявала за ім. З узорыстага лісця папараці, што купкамі вытыркалася на лясную пуцявіну, штораз, ледзь зачэпіш, ссыпалася на ногі густая раса, і Наста пацепвалася. Увушшу ўсё яшчэ звінела ад нядаўніх стрэлаў, на душы было пагана ад няўдалага стрэлу, ад папроку Грача, ад не-

чаканай, аніяк не прадбачанай павароткі яе ўласнага лёсу. Яна шчэ да канца не магла зразумець, не магла спасцігнуць рэальную сувязь яе асабіста з віхурнымі падзеямі, што закруцілі, уцягнулі ў сваю арбіту уладарна і неадольна, як нечаканы і неверагодны віхор. Аднак калі ўсё тое, што адбылося да кароткага бою на гравійцы, мела пад сабою пэўны выразны грунт і паддавалася тлумачэнню, дык кароткае запытанне камісара і адказ Грача выклікалі непаразуменне. Праваліся... Куды праваліся? Хто? Ніякага ж прарыву яны не рабілі. Яны ўдала перастрэлі матацыклістаў, ссеклі іх, папалілі матацыклы і зараз імкліва адыходзяць ад гравійкі ў глыб лесу. Бойкай дарогаю Грач ехаць не хоча — гэта можна зразумець: следам за гэтай разведкай на матацыклах, безумоўна, пойдуць тыя, кім яны пасланы, і сустрэча з баявой варожай калонаю маленькай жменьцы чырвонаармейцаў нічога добрага не зычыць. Але яшчэ больш незразумела іншае. Калі праўда тое, што кажа Грач, і наш фронт адкаціўся за Дзвіну, дык навошта ж было, маючы намер хутчэй дагнаць фронт, увязвацца ў гэтую сутычку з матацыклістамі? Дзеля чаго рызыкаваць і пакідаць непатрэбны след? А можа, гэты Грач — звычайны панікёр? Не, ён жа не адзін! І ўсе яму падпарадкоўваюцца. Толькі вось чаму падпарадкоўваецца яго загадам яна, Наста? Яна ж яму не падначаленая. Падумаеш, мабілізаваная, маўляў. А ці ёсць у яго права праводзіць такую мабілізацыю?.. І, акрамя ўсяго, у яе — свой шлях. Ёй трэба бегчы, даганяць свой эшалон, быць побач з маці, дапамагчы ёй выкараскацца з бяды!

Бомканне ў вушах аціхла, слых дзіўна абвастрыўся, і Наста, уражаная тым, што добра чуе, як звонка спявае берасцянка, як шоргае папараць пад ботамі Грача, раптоўна спынілася, як быццам ногі рухаліся самі па сабе. Грач заўважыў, што яна спынілася, але не азірнуўся, толькі кінуў патрабавальнае:

— Не адставаць! — і, счакаўшы, палічыў патрэбным патлумачыць: — Кожная хвілька на вагу золата цяпер!..

Трывога, што гучала ў Грачовым голасе, перадалася і ёй, і Наста, нічога не распытваючы, паскорыла хаду. Неўзабаве давялося амаль бегчы. Ранейшыя думкі не знікалі, вярэдзілі душу, жывілі скруху і роспач. Куды гэтак шалёна памчаў Грач? Постаць яго імкліва

аддаляецца, мільганула за павароткаю ў маладым асінніку і знікла, быццам правалілася пад зямлю!

Яшчэ не дабегшы да павароткі, Наста ўбачыла, што лясная пуцявіна зноў разгаліноўваецца: адна, рудая ад шыгалля, шыецца пад навісь голля ялін, доўгага і натапыранага, а другая, шырэйшая, паўзе ў нізіну да маленькага ручая, густа зарослага асіннікам і альхоўнікам. У тым месцы, дзе лясная пуцявіна перабягае ручай, горбіцца доўгае замшэлае бервяно, і ля яго, на пясчаным беражку, плазам, ляжыць Грач і прагна, быццам сабака, лыкае ваду.

Наста памчала да ручая, бухнулася побач з Грачом на калені і, як ад смерці ўсё роўна ратуючыся, прыпала да вады. Яна піла халодную ваду частымі глыткамі, мружыла вочы ад асалоды. Потым пачала, пакруціўшы галавой, піць спакайней, прыслухалася да руху халодных і цвёрдых, як шкляных, камякоў, завурчала радасна, задаволена:

— Фу-ур-ур-рр... Слаўная лясная вадзіца. Здаецца, усю б яе выпіла.

— Заграбастая ты, аднак,— пажартаваў Грач і марудна, як бы несусветны цяжар узнімаў, выпрастаўся, павадзіў галавою з боку на бок.— Але ж і я нацурболіўся. Калі пуза не лопнець — сто гадоў пражыву...

Наталіўшы смагу, Наста, дурэючы, дзьмухала ў ваду, сачыла за буйнымі бурбалкамі, якія плынь нібыта выдзірала з рота і несла пад зялёнае тоўстае бервяно, у рэдзенькі маліннік, дзе яны і знікалі. Аднекуль адтуль, быццам з-пад зялёнай дугі малінніку, якая звязала берагі ручая за бервяном і дзе бязгучна лопаліся белыя пенныя бурбалкі, выдраўся грукат выбухаў і глухое дудуканне кулямётаў.

Наста ўскочыла, спалохана зыркнула на Грача. Але той, як бы нічога не пачуўшы, пераходзіў ручай, балансуючы на зялёным ад моху бервяне. Перайшоў ручай, патэпаў да крываватай сасны, сеў ля камля, сочыць за фурманкамі, якія, вязнучы ў сыпкім пяску, ушчыльную адна да адной каціліся да ручаіны.

Пачуўшы ваду, коні храплі, ірвалі наперад. Шаплыка, які ішоў ззаду фурманак, забег наперад, схапіў раменны повад, закрычаў Лабуку:

— Трымай іх, хай астынуць. Гарачых нельга паіць.

— Каня нельга. А чалавека — можна,— кінуў шпільку Лабук.

— Чалавек не конь. Вытрывае.

Шаплыка стаў каленямі на спрасаваную жарству, чэрпаў поўныя прыгаршчы, гучна хлябтаў ваду, потым плёхаў на твар, на шыю, пад расхрыстаную гімнасцёрку і зноў браўся хлябтаць. Урэшце, стаміўшыся, узняўся і, гледзячы некуды поверх Насцінай галавы, заначыў:

— Во разварушылі восаў. Гэтак танкі лупяць. Хаўтуры па сваіх матацыклецыках правяць.

— Хіба гэта ў тым баку страляніна? — не паверыла Наста.— Зусім жа ў іншым баку, здаецца, грыміць.

— У тым, галубка, у тым. Ну і малоцяць. Мабыць, увесь лес тамака спляжаць...

— Пі-іць... Пі-іць дайце... Піць людзям...

Наста скаланулася, пачуўшы гэты слабы покліч. Матуля кліча! Ды не, памроілася. Паранены гэта. Здаецца, той, што пытаўся ў Грача, ці прарваліся. Ды не, камісар ляжыць нерухома. А з другой фурманкі споўз чырвонаармеец з укручанай у бінты галавой, памкнуўся быў да ручаіны і сагнуўся, ногі ў яго падламаліся, і ён абвіс на аглоблі. А Зуеў і Лабук як нічога не бачаць і не чуюць, прыліплі да вады, лыкаюць яе гэтак жа, як нядаўна Грач.

«Табе добра, калі ўжо напілася, налілася, як кадушка...»

Насце падалося, што словы нарадзіліся не ў яе галаве, а прагучалі недзе збоку, і яна схамянулася, падбегла да чалавека з укручанай у бінты галавой. Паранены адштурхнуў яе і, хістаючыся, пасунуўся на пясчаны беражок. Схіляючыся да вады, ён страціў раўнавагу і асеў на канец замшэлага бервяна, потым зваліўся на спрасаваны белы пясок. Наста дапамагала яму сесці, і ён яе не адштурхоўваў цяпер, і яна, удзячная яму, скоранька чэрпала прыгаршчамі ваду. Паранены нешта мычаў, торкаўся носам, як цяля, у Насціны запясці, парывіста хлябтаў; губы ў яго былі каляныя, быццам з шурпатай бляхі.

Лабук прыцёг дзве каскі, адну аддаў Насце, папрасіў дзелавіта:

— Нясі вады камісару. Ён піць хоча,— і, чэрпаючы каскай ваду, рагатнуў: — Канапелька і тут лепшае сабе ўхапіў — з рук прыгажуні ваду цмокча,— ён пачаў паіць параненага, ліў ваду на твар, дабрадушна бурчаў.— З касачкі, родненькі, пі, з жалезнай. Пі і бе-

ражкі цалуй, бо яна цябе, дурня, уратавала. Досыць? Я і кажу, што досыць. Вада не гарэліца. Многа пачнеш піць — кішкі палопаюцца. Уставай, да воза давяду... Раўней, раўней тэпай. Камісар на нас глядзіць. Мы ўсе ад пуза ўжо налыкаліся вадзіцы, а камісару каб табе макавіца ў рот...

Справа ад зялёнага замшэлага бервяна Наста згледзела вірок і, як у калодзеж, запусціла туды каску, зачэрпнула па самыя беражкі. Несла ваду асцярожна, прыціскаючы каску да сябе, адчуваючы на сабе позірк камісара, які ляжаў, узлакціўшыся на правую руку і абапіраючыся падбародкам на рабрыстае чорнае дула кулямёта. Тоўстая ад бінтоў шыя як бы ўціснула буйную лабатую галаву ў плечы, і таму здавалася, што шэрыя стомленыя вочы глядзяць некуды ў дол.

— Як завуць? З якога батальёна? — спытаў ён і прыпаў губамі да беражка каскі.

— Я не з батальёна. З эшалона. Мы з маці ехалі. Нас бамбілі. І я адстала.

— Дзякуй. Вада слаўная,— сказаў ён, не прыдаўшы яе словам аніякай увагі і значэння, быццам і не пачуў іх. Абмыў твар, дадаў, аддаючы каску: — Перадай Грачу: працягваць рух. Не спыняцца. І наперад — разведку. Абавязкова!

Ён заплюшчыў вочы, галава спаўзла з кулямётнага дула і знерухомела на запыленай канюшыне; пасма чорных валасоў засталася на тонкіх рабрынах ля мушкі, быццам прыкіпела да жалеза — валасы былі мокрыя. Пад бухматымі тоўстымі, як ссівелымі, бровамі, у цёмных вачніцах і яшчэ ў глыбокіх баразёнках на лбе блішчэлі кроплі вады, нейкія рудаватыя, як пафарбаваныя.

«Не малады ён, камісар. А вочы — дзіцячыя, нейкія ж дужа даверлівыя».

Наста падумала гэта, пераходзячы ручай па замшэлым бервяне. Ззаду пачулася гамана, ёй падалося, што камісар паклікаў, і яна азірнулася. Правая нага, садраўшы мох, слізганула на тарфяністы бераг, і ён зыбнуўся, быццам гумавы.

Грач стаяў побач — калі падышоў, і не заўважыла — і спытаў заклапочана:

— Што камісар гаворыць?.. Гэтак, гэтак,— прамовіў ён напеўна і летуценна і ўздыхнуў: — «Покой нам только снится» — гэтак цяпер нам толькі і спяваць,—

і, прысвіснуўшы, зрабіў знак тым, хто быў ля фурманак.— Гайда далей!

Ён ішоў хутка, не азіраючыся, зрэдзьчасу нешта ціха мармытаў, як бы напяваў штосьці сабе пад нос. Наўкола пасвятлела ад гонкіх бяроз, падзеленых зялёнымі купкамі маладых ялін. Потым пачаўся сасновы бор, дрэвы раслі рэдка, як бы баючыся адно аднаго, і відаць было далёка, як у полі. Лясная пуцявіна пашырэла, двойчы разгаліноўвалася. Грач не спыняўся, не раіўся з Настай, выбіраў напрамак не вагаючыся, і ў яе душы пасялілася павага да гэтага маўклівага і негаваркога чалавека. Грач ведае, мабыць, тутэйшыя мясціны. Напэўна ведае! Паводзіць ён сябе ўпэўнена, рашуча, ідзе і ідзе да мэты, якая яму добра вядомая. Ёй, Насце, трэба прызнацца, пашчасціла. А каб не стрэла яна Грача з гэтымі фурманкамі? Спала б сабе на тым пераездзе ў чыгуначнай будцы, пакуль не наскочылі б фашысты на матацыклах. Сонную б яе захапілі, забілі б, напэўна. А цяпер не яна, а яны забітыя ляжаць у пыле на гравійцы... Мажліва, і яна каго-небудзь забіла. Чатыры разы стрэліла! Але ж ці пацэліла? Куды паляцелі яе кулі? Адна куды паляцела, ясна — у неба над галавой. А тры астатнія?.. Страляць, выяўляецца, з карабіна няцяжка. Тое ж самае, што на стрэльбішчы з вінтоўкі, калі здавалі залік на абаронны значок. Прыцэліўся, націснуў на спуск... Не, на стрэльбішчы было зусім іначай. Там бачыш мішэнь, яна нерухомая, цэлішся не спяшаючыся. А тут жа не мішэні... Сэрца адразу шалёна закалацілася, у роце перасохла, мушка некуды скочыла... І цяжка, моташна і жахліва глядзець на забітых. Зблізку ж глядзела, а вось аніводны твар не ў памяці. Затое доўга, мабыць, будуць помніцца тыя бялявыя валасы, што засыпаў у каляіне жоўценькі пясок... Цяжка страляць па жывым. Але ж каб не страляла яна, дык стралялі б яны... І не ішла б яна зараз тут, па гэтай лясной пуцявіне з карабінам на плячы. А несці яго, праўду сказаць, цяжкавата. Вось жа толькі што перакінула з аднаго пляча на другое, а ўсё роўна муляе, рэжа скуру каляны тоўсты рэмень. Ды шчэ дзяга з падсумкамі, бы жалезны абруч цісне. Трэба свабадней зрабіць, крышачку адпусціць спражку.

Выскачылі, бы жывыя, выслізнулі з рукі падсумкі, бэхнуліся на дол. Яна таропка падхапіла падсумкі, перакачаныя ў пяску, і, не спыняючы хады, паспрабава-

ла зноў пачапіць іх на дзягу. З адным справілася хутка, у другім жа хамуцік як імгненна звузеў, ссох, і канчык дзягі аніяк не лез у яго. Аднак, калі паспрабавала перавярнуць падсумак другім бокам, дык ён, быццам намылены, выслізнуў з потных пальцаў. Нахілілася, каб узяць падсумак, і тады зляцеў з пляча карабін, балюча пляснуў па левым локці. Наста ціха застагнала ад роспачы. Клятая зброя! Нехта ж прыдумаў яе на чалавечую галаву. І Грач, як на тое ліха, спыніўся. Як знарок! Зірнуць, паглядзець на няўмеку карціць!

— А куды ж нам цяпер вярнуць? — Грач узяў з яе рук падсумак, лоўка запіхнуў кончык дзягі ў хамуцік, зашпіліў спражку і, ссоўваючы падсумкі пад правы бок, амаль за спіну, дадаў усё тым жа заклапочаным голасам: — Можа, ты падкажаш, га?

Ён падкрэслена не заўважаў таго, што яна вэджгалася з тымі падсумкамі, не папракнуў, не павучаў. Яна згледзела ў яго вачах развагу і сумны одум, і тады да яе дайшло: Грач не жартуе! Ён сапраўды шукае падтрымкі, просіць парады. А што яна можа яму параіць? Хіба ж ёй вядомы лясныя пуцявіны, што зноў разбегліся ў розныя бакі?..

Сонца свяціла з-за дрэў справа, яно як бы завісла над рудой ад сапрэлага леташняга лісця дарогай, што вяла ў густы, дымны ад сонечнага святла асіннік, і Наста паказала рукою ў той бок.

— Сонца ўзыходзіла, помніцца, там,— прамовіла яна няпэўна, хоць тое, пра што яна казала, не патрабавала аніякіх доказаў.— А дзе сонца — там усход. На ўсход нам і трэба. Дарога ж у той бок вядзе.

Ён сцепануў плячыма:

— Гэта галава вызначыла. А сэрца што гаворыць?

— Тое ж самае!

Грач рашуча хітнуў галавой, з палёгкай уздыхнуў:

— Паверу сэрцу дзявочаму. Яно, як гаворыцца, альбо ўратуе, альбо да бяды давядзе...

Голас гучаў жартоўна, а вочы глядзелі гаротна, быццам у нечым папракалі, і яна сумелася пад гэтым тужлівым і стомленым позіркам, у якім жыла надзея на спагаду і падтрымку, і, сумеўшыся, зразумела зусім для сябе нечакана, што Грач разгубіўся, што ён пакутуе, не ведаючы, якое рашэнне трэба прыняць.

— Куды ўжо нам новай бяды,— сказала яна даверліва.— Нам бы з гэтай, што ёсць, шчасліва выдрацца.

— Тады зробім так, як табе сэрца падказала. Сэрцу я больш давяраю.

Іх ужо нагналі фурманкі, і Грач зрабіў Шаплыку, які ішоў, ведучы каня за аброць, знак вярнуць на вузкую, слаба пазначаную, як укрытую леташнім сапрэлым лісцем, пуцявіну, а сам пайшоў разгоніста, шпарка. Наста стамілася ўжо, але не адставала. Зноў усчалася недзе глухая кананада, і Грач слухаў яе моўчкі. Але кананада яго непакоіла, ён усё часцей круціў галавой, як бы спрабуючы вызначыць, у якім баку грыміць. Заўважыўшы, што Наста таксама пачынае прыслухоўвацца, паспяшаўся пераключыць яе ўвагу, спытаў са спагадаю і шчырым клопатам:

— Не стаміліся ножачкі?

— У хадзе я не стамляюся. Загартоўка. У нашым інстытуце спорт быў у пашане.

— У медыцынскім, кажуць, цяжка вучыцца. Ці праўда?

— Байкі. Усіх гэтым палохаюць.

Наста пачала расказваць пра тое, як паступала ў інстытут, як здавала экзамены сёлета і чаму датэрмінова, пра спаборніцтвы ў красавіку, на якіх каманда іхняга курса заваявала першынство. Але, расказваючы, яна ўвесь час згадвала той вечар, калі Чаркас праводзіў яе да інтэрната. Карцела распытаць Грача падрабязна пра тое, што адбылося пасля таго, як ён пасадзіў яе з маці ў вагон, пра той бой, у якім быў паранены Чаркас. Але, згадаўшы, як Грач абсек яе цікаўнасць, вырашыла нічога не распытваць. Рана ці позна яны спыняцца на адпачынак, і тады яна пра ўсё даэнаецца ад самога Чаркаса. Але што яна дазнаецца? Што гэта зменіць? Ён паранены, яму трэба рабіць перавязку. І не толькі яму аднаму. А чым дапаможа яна параненым тут, у лесе? Адкуль тут лекі? А можа, у іх, на фурманках, усё патрэбнае ёсць? Але ж не відно. І распытваць пра тое Грача, мабыць, пакуль што няма патрэбы. Пачнеш распытваць, дык ён зноў насварыцца, накрычыць.

Пачаўся прыгожы бярэзнік з рэдзенькімі грыўкамі сунічніку ля старых нізкіх лаўжоў. Наста, у хадзе, насмаргала жменьку не вельмі спелых ягад, несла іх у жменьцы, час ад часу разглядаючы, як пералічвала.

— А чаго не ясі? — папытаў Грач з усміхам.

— Параненых пачастую. Мы дык і ягадзіну сасморгнем. А яны — ляжаць.

— Гэта ты добра прыдумала,— сказаў ён, але сказаў, як ёй падалося, хмурна.— Ідзі і вяртайся...

Яна пайшла да фурманак, і, калі вярнулася, Грач здзівіўся:

— Чаго гэтак хутка?

— Ніхто не еў. Ім адпачынак патрэбны. Дужа трасе фурманкі, бо карэнне скрозь,— і працягнула яму руку з ягадамі.— Бярыце...

З маленькага камячка, прыліплага да пальцаў, Грач узяў толькі дзве ягадзіны, па чарзе кінуў іх у рот, паабяцаў:

— Скончыцца гэтая калатнеча — марожаным сплачу табе, абяцаю. За кожную ягадзіну — дзесяць порцый.

— А я марожанае не люблю,— схлусіла яна.

— Цукеркамі заменім. Найлепшымі. Найсаладзейшымі. Мех куплю табе, як падняць.

Грач жартаваў, а голас, аднак, гучаў самотна, без радасці, і ўглядаўся ён наперад з трывогаю. Дарога то крута брала ўлева, то вярнула ўправа. Сонца зацягнула густая белаватая смуга, і вызначыць дакладна, у якім баку ўсход, было зараз цяжка. Ды, зрэшты, Грача тое мала непакоіла, ён зноў ішоў шпарка, разгоніста і, калі дарога разгаліноўвалася, не раіўся з Настай, куды тут лепей павярнуць, і яна моўчкі падпарадкоўвалася яму, нічога не пыталася.

Але штораз, на скрыжаванні, у сэрцы ажываў неспакой, і з кожным разам — усё больш. Падобна, што вернуць не туды, куды трэба. Калі ў гонкім бярэзніку пуцявіна зноў раздваілася, Наста аж здрыганулася: здаецца, кругаля яны даюць па лесе, пакрысе набліжаюцца да той мясціны, дзе ўжо былі сёння. Гэтак, гэтак яно і ёсць! Вунь і алешнік малады, і маліннік, і вільгаццю тхнула. І ці не вада гэта выблісліснула наперадзе ў нізіне?

— Гэта ж той самы ручай,— спалохана выгукнула Наста.— Пераязджалі мы яго!

— Ручай, мажліва, той самы,— пагадзіўся Грач, ніколькі не бянтэжачыся.— Але ж мясціна — новая. Замшэлага бервяна ж няма!

— Хай сабе. Але ручай — той жа самы. Паслухалі мяне, дурніцу, дык вось у бяду і ўлезлі.

— Толькі неба ведае, куды мы ўлезлі,— па-філасофску спакойна зазначыў Грач.— Можа, у бяду. А можа, і ў радасць. Галоўнае, мы зноў да вадзіцы прыбіліся.

Астуджаная яго спакойным тонам, Наста азірнулася наўкола, зрабіла колькі крокаў да ручая і пераканалася, што памылілася.

— Ён вузейшы,— шчыра ўзрадавалася яна.— Дый намнога. І беражкі гліністыя. Не, мы тут не былі.

Грач запусціў руку пад расхрыстаную гімнасцёрку, паправіў бінты і, стукаючы пальцам па гузіку, прамовіў памяркоўна, як бы падлічваючы свае словы:

— Ад таго месца, дзе зялёнае бервяно ляжыць, мы дзесятак кіламетраў адгрукалі. Ды шчэ з добрым гакам. Ручай нам гэты — боскі падарунак.

— Тут прывал і зробім?

— Але, тут. Толькі спачатку зашыемся ў зялёныя нетры. А тады — адпачынак. Пасядзім, падумаем, як жыць далей будзем. Разведачку наладзім. Без разведкі грунтоўнай — труба нам. Во! Зноў пайшла малатарня...

Кананада цяпер пагусцела, здавалася, што грыміць яна наўкола. Але была яна няроўная, з яе раз-пораз выбіваліся то рэзкія, нейкія адрывістыя, то глухія, як бы падвойныя выбухі. Гэтак жа, як і дарогаю, Грач паставіўся да кананады абыякава, увагі нават не звярнуў, проста адзначыў сам факт яе існавання. Але Наста адчула, што гэтая абыякавасць робленая, штучная: што рабіць далей, куды ехаць — Грач не ведае. Але рашэнне, якое ён прыняў самастойна, ёсць самае, мабыць, разумнае і правільнае. Пасядзець, падумаць — не пашкодзіць. Дагэтуль яны ехалі, куды дарогі вялі. Але ж куды іх завялі гэтыя глухія лясныя пуцявіны? Аніводнага ж разу на поле не выбіліся, аніякай вёскі не стрэлі. І прыбіліся ж гладка: ісці далей, не адпачыўшы, у яе, Насты, сілы ўжо няма. Ды гэта ж ёй, маладой і здаровай, у спорце загартаванай. А параненым на тых фурманках як трываць? І есці ж дужа хочацца. А што ты тут, у лесе, з'ясі? Можа, шчэ дзе ягад пашукаць. Смачныя былі там, у бярэзнічку, суніцы. Але ж тут і сунічніку ніякага не відаць. І лес нейкі дзіўны. Там, куды пуцявіна вядзе, змрочны, густы. А за ручаём, у бок ад пуцявіны, як бы прасветліваецца. Ці не поле там?

— Поле? — Грач хмыкнуў.— Адкуль?

— Я прайду пагляджу.

— Разам пойдзем. Разам глядзець будзем.

— Што, прывал? — гукнуў Шаплыка, спыняючы каня.— Болей ужо сілы нямашака. Тэпаем, тэпаем... Як да мядзведзя ў бярлогу.

— Ручай — фарсіраваць. І — прыпынак. А мы тым часам зірнем, што ў гэтым баку...

Пераступіўшы тонкую нітачку ручая, Наста ледзьве паспявала за Грачом, а ён усё паскараў хаду, пёр да светлай палосы наперадзе праз ядловец, гонкі малады бярэзнік, светла-зялёны асіннік, пераскокваў старыя, зарослыя чарнічнікам яміны, з якіх тырчала абламанае рудое сасновае карэнне. Яна пачынала злаваць — прэ, быццам на злом галавы! — і разам з тым захаплялася нястомнасцю Грача, яго ўпартасцю і рашучасцю. Намысліў даведацца, што там наперадзе, і ляціць, бы страла, якая зляцела з цецівы.

Малады лісцвяны падлесак скончыўся раптоўна, быццам жыта на краі поля. Наста, ашаломленая, спынілася. Аж да самага далягляду цягнецца балаціна, парослая нізкімі, як абсечанымі зверху, сасонкамі. Злева і справа балаціны — лес хваёвы, аж сіні. Ускрай балаціны, на акаймаванай бярэзнікам і асіннікам выспе, горбіцца нейкая пабудова і за ёй, на пагурку, раскідзістая груша-дзічка.

— Што гэта? — Наста перавяла позірк з будыніны на Грача.— Падобна, хутар лясны. Хлевушок вунь. І нейкі дзіўны пах. Скіпінарны, ці што...

Грач прынюхваўся, шырока, па-звярынаму раздзімаючы ноздры, нахіліўшы галаву наперад.

— Смалакурня, здаецца,— урэшце сказаў ён.— Бачыла, як лес перакапаны скрозь, дзе ад ручая ішлі? Гэта карчы дралі. Але даўно, гадоў пяць прайшло, мабыць. Трэба глядзець.

— А мо пачакаць крышку?

— Няма чаго чакаць! Трэба глядзець!

Аўтамат, аднак, Грач перагнаў на грудзі, ішоў, прытрымліваючы руку на спуску. Абхапіла правай рукой карабін і Наста, з пляча, аднак, не зняла.

Яны наблізіліся да маленькай будыніны, зляпанай некалі на жывую нітку з шырокіх гузаватых аполкаў. Рама адзінага акна была выдраная, ляжала ля сцяны без шкла. На дзвярах вісеў іржавы замок, не ўзяты на

ключ. Грач зняў яго з прабоя, пацягнуў клямку, і дзверы адчыніліся, нават не рыпнуўшы. Тхнула густым скіпінарным смуродам.

Крыху воддаль ад дашчаніка, пад бярозамі, быў склеп, сухі, чысты, і Грач, агледзеўшы яго, узрадавана патрос Насту за плечы, потым, жартуючы, прытуліў яе да сябе.

— Мне — яй-бо! — небам ты пасланая! Увесь дзень з табою тэпаем — на кожным кроку шчасціць.

Яна на імгненне сцішылася ў яго жартоўных, хоць уладарных і моцных, абдоймах, як правалілася ў нейкі салодкі, тлумны туман, і тут же выдралася з яго, адтуль. Але не сваёй воляй. Грач разляпіў рукі і з сумным шкадаваннем прамовіў:

— Дзіўны лёс чалавечы... Часцяком як здараецца? Адзін крок да шчаслівай павароткі... Ну, прайдзі ты шчэ крокаў дзесяць... Дык не: у хамут. Вось спыніліся мы ў лесе. А трэба ж было наперад ціснуць, бо пуцявіна лясная сюды вядзе. Навошта ж было перціся па тых ямінах нам з табою? Але добра, што на добрае вывернулася,— і ён зноў аблапіў яе плечы, радасна страсянуў.— Усё! Сядзі тут. Зараз я абоз завярну...

Застаўшыся адна, Наста абышла дашчанік з усіх бакоў, даследавала бярэзнік вакол яго і адшукала яшчэ адзін склеп, у якім былі накіданы старыя ламаныя рыдлёўкі, рудыя ад іржы вёдры, скрыні і нейкае незнаёмае прычындалле. Ад усяго павявала забыццём. Самотна шамацеў бярэзнік, звонка лапатала густая зялёная лістота асінніку. Колькі ж гэта дрэўцам, што ўзняліся ля ўваходу ў дашчанік? Гадоў з пяць, мабыць. Няўжо за ўвесь гэты час аніводнага чалавека тут не было? Цяжка сказаць. Але сёлета сюды, напэўна ж, ніхто не прыходзіў, анідзе аніякага следу. Не, сцяга нейкая вунь відаць ля грушы-дзічкі, у бок падлеску. Свежая сцяга з адбіткамі капытоў. Звяры, значыцца, з лесу да ручая ходзяць. Ручай з балаціны, мабыць, пачынаецца, там вунь, дзе ляшчына за дашчанікам. Не, ён некуды ўправа верне. Трэба будзе потым паглядзець. Але потым. Фурманкі вунь ужо едуць. І нечага зноў памацнела кананада. Быццам наблізілася. Мабыць, з таго лепей яе і чуваць, што прастор тут наўкола. Э! Чаго яны не напрамкі, а да балаціны вернуць? Дарога, выяўляецца, там была некалі. І Грач яе апароў. І калі толькі паспеў?..

Першым пад'ехаў Лабук, рэзка нацягнуў лейцы:

— Ну, усё: да балота прыбіліся!

Ён гучна сплюнуў, абцёр спацелы твар рукавом, зыркнуў спадылба, і Наста як да нечага халоднага дакранулася, колкага і непрыемнага. Вочы ў Лабука злосныя, нядобрыя. А раней яна гэтага не заўважала.

— А чым кепска? Журавіны збіраць будзем. Іх тут, на мхах, павінна нарасці.

— Пакуль нарасце, дык мы самі ў журавіны пяройдзем.

Зласлівае бурканне Лабука Насту не выводзіла з раўнавагі. Настрой у яе быў добры. І што дзіўна! Вось засталася яна адна тут, калі Грач пайшоў, дык быццам нешта страціла. А цяпер убачыла яго — як знайшла тое, што нядаўна згубіла. Ідзе вось упэўнены, смелы... Мабыць, ад яго і ёй гэтая ўпэўненасць перадаецца!

— Прыва-ал,— гучна абвясціў Грач.— Шаплыка! Абавязкі каменданта гарнізона — на табе. Коней — распрэгчы. Паглядзі дашчанік і склеп, каб параненых — у цянёк. Лабук! Які правіянт маеш?

— Аніякага, таварыш камандзір.

— А сухары куды падзеў?

— Сухары ёсць. І торба з аўсом. Коням авёс.

— А кажаш, аніякага. Ты панікёрскія песенькі тут не зацягвай. Вясёлую дуду давай.

Лабук хмурна забубніў:

— Знойдзецца дуда. Спачатку авёс конскі жэрці будзем. Потым — коней. А тады ўжо чэрві нас саміх пачнуць жэрці...

Лабуковы словы пакінулі непрыемны асадак, спарадзілі незразумелую прыкрасць, і Наста вынесла маўклівы прысуд Лабуку: паганы ён чалавек, ненадзейны, трэба ад яго падалей трымацца.

— Курорт, камандзір,— у радасным шале зайшоўся Зуеў.— Райскі куточак. Тут мы дзве вайны пераседзім,— і весела падміргнуў Насце.— І вадзіца, і травіца, і сонейка.

— Пераседзець вайну ўдумаў. І-іш, гусачок,— нязлосна абурыўся Шаплыка.— А ваяваць хто будзе? Хто чужынца пагоніць?

— Не чуеш хіба, што робіцца? Грыміць сіла!

— Грыміць, ды невядома чыя,— уставіў Лабук.

— Адставіць гэтыя панікёрскія разгаворчыкі! Каб я не чуў болей іх,— запатрабаваў Грач, і ў яго голасе прагучалі не чутыя шчэ Настай рэзкасць і незадаволенасць.— Лабук! У сакрэт! Дзе пуцявіна з лесу выходзіць, прыкмеціў? Вось там і станавіся. І вядзі назіранне.

— За кім назіраць?

— За ўсім, што рухаецца! — адсек Грак.— Шаплыка! Сюды фурманкі!

Фурманкі запраторылі пад навісь раскідзістай ляшчыны, што сплялася голлем і ўтварыла шырокі зялёны шацёр. Адразу ж за ім пачыналася вузкая лугавіна, падзеленая напалам ручаінай і белаватымі лазнякамі, якія густа перапляла ажына. На супрацьлеглым баку ручая шчыльнай сцяной сінеў малады алешнік, за ім, як па прыступках, узняўся сярэдняга веку сасоннік, а далей пахмурна і грозна выносілі ў неба стромыя вяршыні старыя яліны.

Шаплыка паварушыў рудую саламяную трасянку, што горбілася ў перадку фурманкі. З-пад саломы вытыркнулася жалезная скрыня з тоўстай ручкай, і Шаплыка патузаў яе пальцам; глуха забомкала жалеза. Быццам падкінуты гэтым бомканнем, прыўзняўся на локці Канапелька:

— Не чапай! Прэч!

— Хмы-м,— Шаплыка грэбліва адставіў губу.— Устрыбушыўся ён! Ды не чапаем мы тваю бляшанку. Перасяляемся на зямлю.

Канапелька навярнуў саломы на скрыню, прыціснуў зверху аўтаматам, які трымаў за шыйку приклада, зноў запатрабаваў, сярдуючы:

— А-адыдзі-і! Не чапай!

— Мы вас перанясём на мякчэйшае. У цянёк,— сказала Наста,— там жа зручней ляжаць. На гэтым жа мулка. І лягчэй перавязку рабіць...

— Тут перавяжаш. Мне і гэтак добра.

— Загад паступіў: вазы — ачысціць,— Шаплыка паляпаў даланёю па ляжэйцы.— Не заўважаеш? Грач і Зуеў ужо зараз тую фурманку разгрузяць.

Голас Канапелькі ўзвіўся на рэзкай пагрозлівай ноце:

— А-ады-ыдзі-і!

Падышоў Грач, нейкі час глядзеў на колы фурманкі, выставіўшы ніжнюю губу і дзьмухаючы на яе, по-

тым перавёў позірк на старыя яліны за ручаём, вочы яго звузіліся, і ён стомлена прамовіў:

— Адпраўляйся ты, Шаплыка, па лапнік лепей,— і ўжо зусім іншым тонам, мякка і лагодна, папрасіў Насту: — І ты таксама. Толькі паблізу не ламіце, з-за ручая старайцеся. Каб з дарогі ў вочы не кідалася. Хто пройдзе, дык тады адразу спыніцца: чаго яліны паабдзіраныя стаяць.

— Ды хто ў гэтыя нетры палезе? Сюды - і сам чорт — гады ў рады зазірнець.

— Выконвайце загад!

— Слухаюся,— з гатоўнасцю адрапартаваў Шаплыка і дадаў, быццам меў патрэбу адказаць і за Насту: — Слухаемся. Выканаем належным чынам.

Напачатку Наста ішла моўчкі — думала пра дзіўныя паводзіны Канапелькі. Што, цікава, у той жалезнай скрыні, да якой нават дакрануцца Канапелька не дазваляе?

Шаплыку не здзівіла Насціна запытанне. Але адказаў ён не адразу, а толькі двойчы азірнуўшыся, голасам сцішаным і таямнічым:

— Стралковы полк у той скрыні, каб ты ведала.

— Штабныя дакументы,— здагадалася яна.

— Каб жа толькі паперкі. Сцяг палкавы. А гэта табе не абы-што! Ёсць сцяг — жыве полк, хоць у ім аніводнага чалавека не застаецца. Набралі салдат — зноў полк ідзе. А калі сцяг згублены — палку капец. Як баявая адзінка ён ужо не аднаўляецца,— і раптам спахапіўся, папрасіў, зноў азіраючыся: — Ты маўчы, што ўведала. Ты ж прысягу не прымала... І не меў я права, доўбня, язык распускаць.

Наста пакрыўджана перакінула карабін на правае плячо, зыркнула на Шаплыку ва ўпор:

— Я — камсамолка. І таксама салдат. І ведаю, што значыць — ваенная тайна. І ведаю, як берагчы яе.

Ён усміхнуўся, павесялеў:

— Калі ты злуеш, дык яшчэ прыгажэйшая робішся.

— Іш, які вачасты вышукаўся!

— А як жа інакш. Самае пільнае вока на дзяўчат — у салдата: яно заўсёды ў яблычка цаляе. А я ж два гадочкі з хвосцікам дзягу салдацкую цягну — вока адточана. Ты прыгожая, якіх свет не бачыў,— гэта я шчэ там, у будцы той, засёк...

Шаплыкавы словы непрыемна ўразілі. Але яны і хвалявалі, было ў іх нешта такое, што прымушала не абрываць гаворку, марудзіць, і, калі яна заўважыла, што Шаплыка тое прыкмеціў, адчула, што чырванее.

— Табе што камандзір загадаў? — спытала, нагнаўшы ў свой голас строгасці.— Патлумачыць, якое вока ў салдата?

— Ды назбіраем хвойніку, не спяшайся,— уздыхнуў Шаплыка і дадаў настырна: — Ты ведай: адслужаю армію, і ў тваю хату — са сватамі. Шаплыка сказаў? І зробіць, як маца быць!

— Хату ж шчэ адшукаць трэба! — Наста ад душы засмяялася.

— Добры салдат ён і следапыт добры. Знойдзем хату!

— Пакуль тую хату шукаць, дык лепей яліны глядзі. Шнуруй да іх. А я святаянніку назбіраю. Поўна яго тут.

Шаплыка патэпаў да маладых ялін, што клінам высунуліся з алешніку на лугавіну. Наста збірала святаяннік — ён рос ля ручая, гусценька грыўкаю вакол бярозавага пня, струхлелага, парослага чорнымі зыспаду і белаватымі поверху, пад колер бяросты, грыбамі,— і чула, як насвіствае Шаплыка, як храскае голле. Неўзабаве ён падышоў, трымаючы ў левай руцэ бярэмца зялёнага рагатага лапніку і аранжавую кветку ў правай.

Наста ўзрадавалася:

— Дзе ты яе знайшоў? Гэта ж лекавая кветка. Арніка горная завецца.

— За ялінамі. Грудок там пачынаецца. Кветаў гэтых болей няма. Толькі пупышкі.

— Паказвай, дзе растуць. Паказвай!

За ялінамі, сярод верасу і рэдкіх плямак сінюхі, Наста адразу ўбачыла тонкія варсістыя пупышкі на попельным ціўі, што тырчала сярод стрэлападобных сакавітых лісцін. Але не дабегла да іх, напалоханая,— недзе блізенька, амаль за спіною, бабахнуў гулкі раскацісты стрэл.

— Што гэта? Страляюць!

— Ну! — Шаплыка, таксама збянтэжаны, азіраўся, круціў галавой, быццам нешта вышукваў у густым, як сцяна, альхоўніку.— Ля фурманак гэта,— і, пераکі-

нуўшы з-за спіны аўтамат пад правую руку, загадна запатрабаваў: — Назад! Бегма да нашых!

Ля склепа ляна поркаўся Зуеў, і Наста, здаля, захакаўшыся, гукнула:

— Што здарылася? Чаго стралялі?

— Лабук казулю ўпаляваў. Выбегла з лесу. А ён — бэ-энц. І пацэліў,— Зуеў паведамляў гэта радасна, паціраючы даланёю жывот.— З голаду цяпер не памром!

Шаплыка ажывіўся:

— Мясцэ — вітамін цэ. Шашлычок маем!

— Дужа не разганяйся. Грач пакуль што з яго самога шашлычок робіць,— Зуеў хітнуў галавой у бок дзічкі на ўзлобку, за якой, бліжэй да лесу, Грач, размахваючы кулакамі, нешта даводзіў Лабуку.

— Пайду зірну,— Шаплыка кінуў хвойнік на дол і пашнураваў на ўзлобак.

Наста стаяла, аддыхваючыся, дзівілася. Абжыты ўжо кут! Пад густой навіссю ляшчыны роўненька стаяць фурманкі, на лугавіне ля ручая пасвяцца распрэжаныя коні. Сашнураваная белай вяроўкай, шырокім конусам нацягнута ў бярэзніку побач з дашчанікам плямістая плашч-палатка, і пад ёю, радочкам, ляжаць параненыя. У схіле пакатага ўзвала, паміж асінак, высечана вузкая пячорка, і ў ёй, зусім без дыму, гарыць цяпельца, і над ім начэплены на выгнуты каромыслам жалезны прэнт тры салдацкія кацялкі.

Наста пачула за спіной цяжкія крокі і павярнулася. Грач, выяўляецца! Толькі што ён на ўзлобку стаяў і ўжо тут. На крылах ён прыляцеў, ці што?

— Святаяннічак нам прыдасца — яго тут ёсцека,— ён пакратаў жоўты жмут, які Наста моцна трымала ў руцэ.— А гэта? Як ты кажаш? Арніка горная... У лесе я іх страчаў. А вось назвы — не ведаў. Але ці ж мала такога ёсць на свеце, пра што мы не ведаем і не чулі нават. Вось жа грыміць, халера. А каб жа ведаць дакладна: хто, дзе?

Наста ўпершыню за сённяшні дзень заўважыла, што кананада па-сапраўднаму цяпер непакоіць і хвалюе Грача. Дробныя выбухі ішлі густа, як бы звязаныя ў адзін ланцуг, потым паветра трэслі два ці тры выбухі мацнейшыя, якія ўсё глушылі, і, калі рэха іх заціхала, зноў выразней рабілася густое зацятае тоў-

ханне каляных звенняў нябачнага грымлівага ланцуга.

— Фронт, вядома,— сказала Наста.

— Гэта натуральна. І, здаецца, ля Дзвіны. Там жа, за Баравухай, лінія Сталіна ідзе — яна ўсцяж усёй былой граніцы. Доты ў два паверхі пад зямлёю — магутнейшы вузел абароны. Некалі, да вучылішча, пачынаў там службу. Трэба нам туды даскочыць. Коні адпачнуць — і верха.

— Верха я ўмею — мой брат навучыў. Мы ж штолета — на вёсцы ў бабулі.

Грач, усміхаючыся, патрос галавою:

— Ну, адчайная твая галава. Але разведка верха — мужчынская справа. На табе — іншы клопат,— ён доўга і ўважна глядзеў ёй у вочы, быццам нешта чакаў, потым прамовіў марудна: — Што, ведаеш, буду прасіць... Вельмі буду прасіць,— і зноў памаўчаў, і ўсё гэтак жа ўглядаўся ў вочы, і яна сумелася, нечакана падумаўшы, што Грачу вядома, пра што казаў ёй Шаплыка ля ялін.— Камісара нашага на ногі пастаў. Зямлёю ён быў засыпаны — бомба побач з акопам бабэхнула. Крыві вялікай не было — драпіны на шыі, на руках. А вось з галавой нешта прыключылася. Раптам ачуняе, а тады — зноў як нежывы... Дужа ж цябе прашу: уратуй камісара. Ён мне жыццё ўратаваў.

— Я ж не ўрач,— з горыччу вырвалася ў Насты.— Чацвёрты курс толькі, вы ж ведаеце. Ніякіх жа лекаў. Толькі вось гэта,— яна страсянула жмут святаянніку.— Не вялікая тут спадзяванка.

З хмурнай упартасцю ён паабяцаў:

— Лекі, бінты — знойдзем. Гэта ўжо мой клопат. Паямо зараз — набегла якраз на кулю дзічына,— коні адпачнуць. І мы з Лабуком пагонім верха. Не, з Шаплыкам паеду. Больш надзейна.

З-за дашчаніка даляцеў злосны, раздражнёны голас Лабука, і Наста спалохалася: ёй давядзецца ўвесь час быць побач з чалавекам, якога яна чамусьці пачынае пабойвацца. Калі Грач паедзе з Шаплыкам на разведку, Лабук жа штохвілінна будзе на вачах.

— Самі паедуць, а мне адной тут заставацца? — узарвалася Наста, і абурэнне яе ішло ад душы.— Не-е... Самі заставайцеся! На мяне, на маю галаву — усю адказнасць за людзей?..

— Ну, добра, добра. На мне, на мне адказнасць,— паспешліва пагадзіўся Грач.— Паедуць Шаплыка і Лабук.

Паспешлівасць, з якой Грач пачаў яе ўлагоджваць, уразіла Насту, адразу заспакоіла. На міг падалося, што ён як бы чакаў, што яна абурыцца, і цяпер ухваляе пратэст. Яна падумала яшчэ і пра тое, што гэты чалавек заўсёды зможа і зразумець і падтрымаць і на яго ў цяжкую хвіліну можна абаперціся. Наважылася была сказаць яму пра тое, але нешта зноў як замкнулася ў душы, яна стрымала сябе, сумна ўсміхнулася.



## 5

Сонца садзілася ў канцы балаціны, як бы рэжучы яе напалам. У тым месцы, дзе яно асела на пляскатыя макаўкі нізкіх сасонак, загусцела шызае мроіва, і таму здавалася, што чырвона-агняны дыск прапальвае сабе шлях у чорным густым голлі, і яно, пакрысе, дыміцца.

Прыладзіўшыся на беражку ручаіны на гнуткіх каранях шурпатай старой вольхі, Наста мыла бінты. Дзіўна аграмаднае, злавесна барвовае сонца трывожыла яе і гняло. Ніколі ж, здаецца, і не даводзілася бачыць, каб вось гэтак, густым крывавым агнём, палаў небасхіл. Спрабавала супакойваць сябе: знайшла, маўляў, з чаго дзівіцца. А хіба ж бачыла ты калі-небудзь гэты лясны ручай, гэтую смалакурню, гэтую раскідзістую, адзінокую дзічку на лугавіне, гэтую роўную і доўгую балаціну, над якой успаўзае вечаровае сутонне, падобнае на барвовы туман? А бінты ты калі-небудзь мыла ў лясной глушэчы, у гэткім вось ручаі з вадой празрыстай, але з чорным і таямнічым дном? І што дзіўна: мыла ж ніякага, а яны чысцюткія, ад плямаў крыві і знаку няма. І хопіць іх ужо кулогаць, павесіць трэба, каб сохлі.

З вады, аднак, бінты не выцягвала, марудна плёхала імі, круціла, крайком вока сачыла за тым, што адбываецца ля дашчаніка. Лабук вывеў з-пад зялёнага

шатра коней, на блішчастых ад барвовага святла хрыбцінах жаўцелі сёдлы, зробленыя з плашч-палаткі, парэзанай на кавалкі, і напханыя сенам. Грач, агледзеўшы іх, не ўтрымаўся ад ухвалы:

— А ты казак, выяўляецца, Лабук. Хвацкія сёдлы змастачыў.

— Хіба цяжка, калі ўмееш? — хмыкнуў Лабук.— Скуру з Шаплыкі здзёр на сёдлы. Яна ў яго мяккая.

Жарту Грач не прыняў, абсек строга:

— Нялюдскія з цябе, гляджу, жарцікі пруць, шаноўны Лабук!

— Хай жартуе,— з усміхам дазволіў Шаплыка.— Які час — гэткія і жарцікі.

— Паўтараю: на злом галавы не кідацца. Дзейнічаць у адпаведнасці з абставінамі. З розумам, адным словам. Ясна?

— Так точна,— сказаў Шаплыка.— Уранні вернемся і даложым аб выкананні.

Услед за Лабуком Шаплыка лоўка ўскочыў на каня. Папраўляючы пад сабою самаробнае сядло, якое перакасілася, ён ласкава зыркнуў на Насту, а потым развітальна патрос рукою; губы ў яго зварухнуліся. Але ён як бы праглынуў тое, што збіраўся сказаць, і тузануў павады.

Глухая кананада па-ранейшаму бурчала, але цяпер ужо зусім лянотна, бы прытомленая навальніца, што адкацілася далёка і канчаткова траціць сваю ранейшую грымлівую сілу. Здавалася, што гэта ўсё тупацяць за рэдкім соснікам на ўзлобку конскія капыты. Наста слухала, як атухае далёкая кананада, глядзела на Грача, які паволі шлэпаў да ручая, і чамусьці не адчувала радасці з таго, што ўсё зрабілася так, як таго ёй і хацелася. Не паехаў ён на разведку разам з Лабуком, застаўся, а ў яе такое адчуванне, што было б лепей, каб усё сталася наадварот. Хай бы ён паехаў, не глядзеў бы на яе сваімі гаротнымі вачыма. Нешта ў ім змянілася з таго імгнення, калі яна папрасіла яго не ехаць. Стаіць вось зараз, маўчыць, як бы нечага чакае, пра нешта пакутліва думае.

— Паехалі яны? — спытала, парушаючы маўчанне, якое пачало прыгнятаць.

— Але... Раніцою, дамовіліся, вернуцца. Па карце, дык станцыя тут непадалёк. Кіламетраў пятнаццаць. Зябкі.

— Дзіўная назва. Холадам ад яе патыхае. Ад Полацка яна далёка, мабыць.

— Кіламетраў паўсотні. Можа, болей крыху,— ён прысеў на кукішкі збоч сцежкі, прабітай у верасах, прамовіў ціха, як бы сам сабе: — Многа іх тут прайшло, звяроў розных лясных. Нават верасы павыбівалі. Не растуць.

— А можа, людзі тут хадзілі.

— Не, звяры,— тонам знаўцы прамовіў Грач.— Да вады яны тут ходзяць. У звяроў таксама ў лесе свае дарогі ёсць. Не хочуць і яны праз глушэчу ды багну перціся — пуцявінку прабілі. Напіўся вады і пабег сабе, вочы голле не сцёбае...

— Адкуль жа вы жыццё звяроў гэтак ведаеце?

— Сын паляўнічага. Бацька часцяком мяне на паляванне браў. У лесе я добра арыентуюся.

— Я ж вельмі кепска. Калі, было, у грыбы пойдзем — за Ігара заўжды трымаюся. Без яго — абавязкова згублюся. Гукаюць тады мне, галёкаюць.

Яна ўзялася была развешваць выпаласканыя бінты на пругкіх карычневых прутках, што густа раслі ад каранёў старой вольхі ля самай вады. Але Грач памяркоўна параіў:

— Лепей у дашчаніку на цвіках сушыць. Белае здалёк відаць. Адразу ў вочы кінецца.

— А і праўдачка. Як жа гэта мне адразу ў галаў не цюкнула.

— Што ў нашым лясным шпіталі? — спытаў Грач і сеў на тоўсты бярозавы пень, над якім узнімаліся дзве ладныя, у руку, маладзенькія бярозкі, разлупіўшы бярösту на пні ля самай зямлі.— Ты ўсіх параненых паглядзела. Відаць, перспектыва ў нас не дужа зайздросная...

Ёй карцела сказаць у першую чаргу пра Черкаса — чырвань паўзе па плячы, хаця б гангрэна там не прыключылася,— і як нешта завадзіла ёй, замест горкіх слоў, што асядалі ў душы, прыйшлі зусім іншыя, вымаўляць якія было радасна:

— Камісар стане на ногі. Калі? Ну, я не ведаю дакладна. Можа, праз дзень. Можа, праз два.

— Я тады цябе расцалую!

Узнікла жаданне пажартаваць, расказаць пра Шаплыкава абяцанне прыслаць да яе сватоў пасля вайны, і зноў нешта ўтрымала яе ад гэтай шчырасці.

Спытала, аднак, не вельмі строга, як бы даючы Грачу магчымасць жартаваць зноў:

— А што, як не спраўдзяцца мае прагнозы?

— Пад трыбунал пойдзеш. Тут, у лесе, і прысуд табе. Аніякіх адвакатаў не будзе!

Ей падалося, што ў словах не толькі жарт, але і прыхаваная пагроза, і ад гэтага на душы зрабілася прыкра і пагана. Яна тут жартуе, кепікі нейкія ладзіць, а побач людзі пакутуюць ад ран, спадзяюцца, што яна ім дапаможа.

— А вось трыбунала, мабыць, мне не мінуць. Бо Вахтанга — гэтак завуць параненага грузіна? — мне на ногі не падняць. Не паправіцца ён, як мне здаецца...

— Шкада будзе хлопца. Слаўны ён, гэты Вахтанг. Каб ты пачула, як ён спявае па-грузінску «Суліко». Канапелька яму часцяком падцягваў.

— Канапельку можна і зараз спяваць. Гэткія раны, як у яго і Буркуна, вельмі хутка гояцца. І ў Аўдошкі някепска. А вось у Чаркаса — кепска. Вельмі нават!

Грач паглядзеў на яе хмурна, падазрона неяк:

— Не можа быць! Мажліва, памыляешся?

— Добра было б, каб памылялася. Але куля — а мо і асколак, дакладна сказаць мне цяжка,— засела недзе ўсярэдзіне, ля хрыбціны. Без аперацыі — і складанай! — не абысціся. А хто яе тут зробіць? Наста што можа? Раны адварам святаянніку прамыць. Бінты памяняць.

— Шаплыка прывязе лекі. Я загадаў.

— Каб шчэ ён аперацыйную сюды прывёз. І добрага хірурга ў дадатак. А калі гэтага не будзе...

— Ну, не будзе, скажам. Тады што?

— Я ўжо сказала...

Хмурна, гледзячы ўпарта ў дол ля сваіх ног, Грач сказаў аднатонна, не павышаючы голасу:

— Будзем шукаць і хірурга. А ты, пакуль тое свята, святаянніку не шкадуй. Яго тут поўна. Дапамагу, калі хочаш, табе назбіраць.

Наста таропка запэўніла:

— Спраўлюся і сама.

— Мне гэтая балаціна не вельмі падабаецца,— Грач зноў пляснуў сябе па карку.— Камары, бы ваўкі. Рудыя нейкія, нахабныя.

— А ў дашчаніку іх няма. І ў склепе няма. Пах скіпінарны іх адтуль гоніць.

— Я сказаў Зуеву, каб нары ў дашчаніку рабіў — туды людзей перанясём. Ці, можа, у склепе лепей?

— Мабыць, лепей. Там акенца ёсць. Не пабітае — вецер не свішча. І дах цэлы. А ў дашчаніку — сітачка.

— Вось што значыць — жаночае вока. А я дык і ўвагі не звярнуў. Значыцца, склеп зоймем. Хадзем, трэба Зуева з'арыентаваць.

— А я з бінтамі ўпраўлюся — і па святаяннік. Нагатуем паболей. Яго і піць халодны добра.

— Толькі ад ручая далёка не адыходзь,— папярэдзіў Грач.— Каб не згубіцца. Без цябе нам труба. Прападзём мы без цябе.

Жартоўных нотак у голасе Грача не было, і пачуць такую шчырую ўхвалу было прыемна. Наста ў добрым настроі і хутка паразвешвала бінты на цвікі, якіх у дашчаніку было поўна на кожнай сцяне, і выправілася назбіраць святаянніку. Насупраць бярозавага пня, стаўшы на тоўсты корань вольхі і трымаючыся адной рукой за шурпатую кару, яна доўга піла ваду. Раз-пораз чэрпала поўную жменьку, вада цадзілася праз пальцы, і яна аніяк не магла наталіць смагу. Густы, наварысты булён згатаваў Лабук. І мяса казулі атрымалася мяккае, далікатнае на смак: анікалі гэткай смакаты не даводзілася ёй нідзе есці. Праўда, крыху перабраў меру кухар, салячы,— узрадаваўся, мабыць, што амаль поўны трохлітровы слоік знайшоўся ў склепе.

Урэшце, напіўшыся, Наста рушыла далей. Пераскочыла ручаіну, мінула яліны, якія паабломваў Шаплыка. За маладым ельнікам пачаўся густы, роўнымі палосамі, соснік, быццам пасаджаны, а потым ажно пасвятлела наўкола ад белі рослых і гонкіх бяроз. Потым бярэзнік як бы сцямнеў — усё часцей і часцей пракідаліся ў ім зеленаватыя асіны,— і ўсё наўкола напоўнілася трапяткім пошумам лістоты. Голле бяроз было нерухомае, а лісціны на асінах увесь час трымцелі, паблісквалі, нібыта пасля дажджу.

Заглыбляючыся ў лес, святаянніку яна не знаходзіла. Але ўсё часцей і часцей траплялiся вялікія тэракотавыя кветы арнікі, і яна збірала іх, радуючыся, што не марна блукае па лесе. Амаль штораз, чуючы, як храбусціць зламанае ёю попельнае варсістае ціўе,

яна шкадавала, што даводзіцца глуміць гэткую прыгажосць. Сарвеш кветку, і адразу зменьвае колер доўгенькае лісце, нібыта чарнее ад болю. Ля маладога ядлоўцу ўбачыла аж тры кветкі разам, буйныя, на незвычайна доўгіх і тоўстых сцяблінах. Нахілілася, каб зламаць, і раптам пашкадавала, залюбавалася, прысела на хрусткі, як высушаны, сівы мох. Толькі цяпер адчула страшэнную стому: гудуць ногі, агнём гараць ступакі, ные і шчыміць плячо, падобна, што да крыві намуляў скуру каляны рэмень карабіна. Зняла яго, паклала побач на мох, узялася разгладжваць рукамі падрапаныя, нейкія каляныя лыткі. Бедныя ножанькі! Колькі ж гэта сёння яны папахадзілі. Скура на іх задубела, нейкая цёмная ад пылу зрабілася — нават камароў не вабіць. І ўвогуле тут, ля гэтага ядлоўцавага параснiку, што роўнымі купкамі дзярэцца з сівога моху, нешта і не чуваць тых рудых балотных крывасмокаў. Не, вось і зазвінелі над вухам, як бамбавозы. І дужа ж хутка пагусцела вечаровае сутонне. Трэба вяртацца, яна далекавата адышлася ад ручая. Яна тут сядзіць, а там, можа, Шаплыка і Лабук добрыя навіны прывезлі. Хаця не, яны толькі ўранні вернуцца. А што, калі вернуцца і скажуць: канец вайне! Нават не верыцца, што коціць па зямлі жахлівая навала. Ну, зусім жа і даўно не чуваць кананады, як і не было ўвогуле. І быццам недзе там, у далёкім краі невядомым, і калатнеча, і агонь пажараў, і смярдзючы дым выбухаў, і горкая дарога бежанская, і смалакурня, што нечакана прытуліла іх усіх. Дзіўную ўладу, выяўляецца, мае над чалавекам вечаровы лес: як бы ў нейкі зусім іншы свет перасяліўся. А можа, зараз і матулі дзе-небудзь вось гэтак жа добра і слаўна, як ёй, Насце, тут, у санлівай вечаровай лясной цішыні. Легчы вось зараз, заснуць, а ранкам прачнуцца і ўбачыць зусім новае жыццё. Не, не новае, а тое, што было да таго жахлівага нядзельнага ранку... А што, калі зараз і бацька вось гэтак жа, як Чаркас, дзе-небудзь ляжыць паранены ля нейкай смалакурні, ці проста ў полі, ці лесе і ніхто нічым не можа яму дапамагчы?.. Не, не! Хай абміне яго бяда, хай не зачэпіць! А што ж гэта сёння? Чацвер, здаецца. Так, чатыры дні мінула з тае хвіліны, як сказаў бацька на досвітку два жахлівыя словы: «Гэта — вайна». Неверагодныя, пачварныя дні. І ночы гэткія ж былі — усе да адзінай. І шчэ

невядома, якая будзе гэтая, што вось надыходзіць. Трэба вяртацца. Там Грач недзе ўжо трывожыцца: пайшла, маўляў, і знікла. Але чаму яна болей пра Грача думае — толькі ён яе і непакоіць? Там жа чакаюць яе параненыя, там Чаркас, бедненькі, нудзіцца ад ран... Чым, як дапамагчы яму? А Вахтангу? Маладзенькі ж зусім гэты грузін, зусім хлопчык... Як, чым лячыць? Чым дасі рады? Гэтымі кветкамі? Грач, праўда, паабяцаў цвёрда, што лекі будуць. Але ж дзе іх знойдзе Шаплыка? І ці ж хто ведае, якой будзе ў іх дарога? Не на госці ж паехалі, на кулі могуць налязецць...

Нешта суха храснула праваруч, за кустамі ядлоўцу. Наста схамянулася і раптам убачыла, што наўкола ўсё дзіўна змянілася. Не сівы, а дужа цёмны мох на зямлі, неба нейкае фіялетавае, і гэткага ж колеру кусты ядлоўцу. І зноў тое ж сухое храбусценне, зусім блізка!

Яна таропка схапіла карабін, ускочыла. Трэск зламанага сучча і нейкага глыбіннага, як з-пад зямлі, рохкання пачуўся з левага боку, і Наста, перапалохаўшыся, нічога не бачачы перад сабою, кінулася прэч ад гэтага жахлівага фіялетавага ядлоўцавага параснiку.

Яна бегла, не чуючы пад сабой зямлі. Нізкі ядловец, бы калянай шчоткаю, чыркаў па каленях, хвастала голле па твары; сухая рагатая галінка торкнула ў вочы, зламалася, і яна запознена закрыла твар рукамі. Але бегчы так было немагчыма, і яна адкрыла вочы; правае вока моцна слязілася. Наста, аднак, дужа зарадавалася, што бачыць, што не выдрала вочы тым сухім рагачом: добра, што слабая тая галіна натрапілася, адразу зламалася.

Быццам у сетцы дажджу, мільгалі перад ёю дрэвы, то набліжаліся, то адскоквалі назад, за ядлоўцавыя конусы. Пад нагамі часта, з гулкім трэскам храскала гнілое, струхлелае сучча, а ёй здавалася, што нехта неадступна імчыць за ёю, імчыць, тулячыся за камлямі дрэў.

Лес зрабіўся радзейшы. Лілова засвяцілася ўсё неба, і Наста, стомлена хакаючы, спынілася, ашаломленая. Куды ж яна бяжыць? І ў якім баку смалакурня? Здаецца, праз гэты рэдзенькі сасновы бор і не ішла яна, збіраючы арніку... Бярэзнік цяпер незнаёмы пачаўся, не суцэльны, сасонкі растуць, ялінкі ма-

ладзенькія, у калена, а далей высокія, кудлатыя, з густым голлем да самай зямлі. А папараці ўжо няма, трава нейкая высокая, на суданку падобная, купінамі. І гэтак жа, купінамі, верасы буяюць. Дзе ж гэта яна, Наста, апынулася? Куды забегла? Куды загнаў яе дурны жах? А мо і не дурны... Так, нехта ж быў там, за тым ядлоўцам. Ці звер, ці чалавек падкрадаўся?..

Нага праваліласся ў нейкую нару, шчыкалатку працяў боль, і Наста, плачучы, бразнулася на зямлю. Во нарабіла сабе бяды дык нарабіла! Што далей цяпер? Яна ж загіне ў гэтым дзікім лесе. Стрэліць, каб Грач пачуў? А раптам не ён пачуе, а нехта іншы, які высочваў яе, а цяпер чакае, каб яна абазвалася, знак аб сабе дала. Не, трэба ціха паводзіць, агледзецца, да ўсяго прыслухацца. Карабін у яе ёсць. Яна шчэ зможа абараніць сябе!

Падагнуўшы нагу, яна, лежачы, узялася расціраць шчыкалатку. Собіла ж ёй: тады, на чыгунцы, пад шпалу гэтай жа нагой праваліласся, цяпер у нейкую нару ўлезла. Боль, праўда, меншае, варушацца і пальцы — нічога непапраўнага не здарылася. Хвілінку якую яна паляжыць, боль аціхне, і можна будзе рухацца далей. Толькі вось куды рухацца? Сонца садзілася над балацінаю... Значыцца, трэба вызначыць, у якім баку гусцей свеціцца неба — там захад. Але ж яно скрозь аднолькавае. Можа, каб на дрэва ўзлезці? Дык жа ж сукі ўсе высака ад зямлі — не дацягнешся. Добра, каб на ручай трапіць — тады блукаць не давядзецца: па ім, як па нітачцы, на балаціну выпаўзеш. Ці не цень гэта нейкі мільгануў там, дзе кусты ядлоўцу?.. Чалавечая постаць, здаецца. Так, чалавек!

Наста загнала патрон у патроннік, гукнула спуджана:

— Сто-ой! Страляць буду! Хто там?

— На-аста-а-а! — загучаў у адказ радасны лямант Грача.— Ну, ластаўка! Ну, вавёрачка! Усіх багоў разам слаўлю: знайшоў!

У яе шалёна закалацілася сэрца. Дрогкая смуга на вачах, якія ўсё яшчэ слязіліся, пагусцела, і ў гэтай смузе плыў, набліжаўся Грач. Вось ён побач, шумна бухаецца на верасы.

— Грачок! А раднюсенькі,— словы зляцелі з вуснаў міжвольна, і гэтак жа міжвольна яна схапіла яго за плечы, на міг прыціснулася да прапахлай потам

гімнасцёркі.— Ой жа дзякую, што адгукнуўся. Ой, дзякую, што знайшоў!

— Напалохалася, вавёрачка мая! Наплакалася. Вось і слёзачкі цякуць-выцякаюць.

— А як жа ты мяне знайшоў? — яна, напалохаўшыся свае шчырай ласкавасці, адхіснулася, прыгасіла радасны шал ад таго, што выбавілася з бяды, не згубілася ў незнаёмым лесе, у гэтай змрочнай аграмаднай глушэчы.

— А чаго ж ты плачаш, вавёрачка? — Грач як бы і не пачуў тое, што яна папытала.

— На суччо нейкае наляцела. Шчэ добрае дрэва было, вочы не прапарола.

— І я таксама мог без вока застацца,— ён пакратаў шырокую драпіну над правым брывом.— У соснік, а потым ельнік такі густы ўскочыў — не прадрацца. Дзіка затое адтуль выгнаў. Зарохкаў і паляцеў, бы снарад.

— Я, мабыць, дзіка і спалохалася. Спачатку галінкі храбуснулі. А тады — як покліч здушаны: рох-рох... Ну, я і папыліла,— радасць не гасілася, жыла ў сэрцы, і яе цяжка было ўтаймаваць, адкінуць.— Бегла, а гукаць баялася. Гукнуць, думала, не цяжка. А хто абзавецца?

Ён убачыў карабін, пастаўлены на баявы ўзвод, усміхнуўся, пацёр рукой шыю; гімнасцёрка расхінулася, і яна прыкмеціла, што цёмныя плямы на бінтах пабольшалі.

— Ты ўжо і стрэліць наважылася?

— Спудзілася дужа. Аніколі не думала, што аднаму ў лесе гэтак жахліва.

Ён крутнуў вечка засцерагальніка, адсунуў карабін:

— Аднаму чалавеку скрозь няўтульна. У лесе асабліва адзінота адчуваецца.

— Але як жа ты мяне знайшоў? Вось што цікава!

— Спачатку па слядах тваіх ішоў. А потым згубіў. Пачуў, што недзе трэснула галінка — на гэты гук пабег. Пуста. А тады ўжо ішоў і ішоў, думаючы, што недалёка ж недзе. Знайду!

— А чаго не гукнуў? Чаго ж не паклікаў?

Ён паціснуў плячыма:

— Па той жа самай, відаць, прычыне. Цяпер і самому дзіўна: чаго сапраўды не гукнуў? Нейкі, ма-

быць, у чалавеку ўсё ж ёсць унутраны засцерагальнік. Небяспека калі побач, дык ён і трымае чалавека, каб не рабіў неразумнага кроку.

— Мабыць, праўда.

— А чаго за нагу трымаешся?

— У нейкую нару ўлезла. Добра, што не зламала.

Ён памацаў нагу ля шчыкалаткі:

— Баліць?

— Ды не вельмі. Зараз пройдзе. Камары, між іншым, тут шчэ больш ядучыя, чымся там, ля ручая. Ну-у, паразіты клятыя!

— О-ох, гаротніца! Камары яе жаруць, паганцы,— ён казаў спачувальна, голас гучаў шчыра.— Ды шчэ ў гэткіх туфліках па лесе! Усе ножачкі ў шрамінах, месца жывога няма. І шчэ гэтыя крывасмокі прычапіліся! Гэ-эй, прэч адсюль, паганцы! — ён пашараваў ёй далонямі ногі, быццам зганяў ваду ад каленяў да шчыкалатак.

— Трэба ісці. Мне ўжо лепей,— сказала Наста, але не парывалася ўзнімацца, толькі падкурчыла ногі, адсунулася ад Грача, абціснула ногі спадніцаю.

— Ісці, канешне, трэба. Але вось куды?.. Хоць забі мяне зараз, я не ведаю, дакладна не вызначу, у якім баку смалакурня наша. Гэтулькі пёр напрамкі.

— Дык я-як жа? — ад роспачы яна аж заікацца пачала.— Мы не знойдзем цяпер нашых?

— Чаму гэта не знойдзем? Знойдзем! Зараз ацямнее добра, зоркі ўбачым. Па зорках і вызначым, у які бок рушыць.

— А калі не вызначым?

— Дачакаемся раніцы — самая ж кароткая ноч цяпер.

— Дзе дачакаемся? Тут? Нас камары зжаруць!

— А мы у-унь пад тую яліну перабазіруемся — зменім месца дыслакацыі. Там шыгалле сухое. Голле густое нас затуліць — усё ж нейкі паратунак ад гэтых крывасмокаў.

Яна паслухмяна ўзнялася і, як толькі зашылася пад навісь раскідзістага голля, прызналася ўзрадавана:

— А тут і спакайней. Шыгалле нават цёплае. А голле ў траву завісла. Побач нават калі хто пройдзе — нас не прыкмеціш.

— Ты мяне слухай!

Наста, з усміхам, падкалупнула:

— Нехта, памятаю, пахваляўся: сын паляўнічага, сын паляўнічага. А як у лес увайшоў — заблудзіўся адразу.

Грач сеў побач, прыхінуўся спіною да камля, сказаў, пацокаўшы языком, з горыччу:

— Даводзіцца прызнавацца: хвалько, на паверку, аказаўся. Але каб жа ты ведала, як гэты хвалько лаяў сябе, след згубіўшы. Ну, доўбня! Ну, боўдзіла! Ваўкам у зубы дзяўчыну паслаў!

— Я ваўкоў бачыла, калі ў будцы на пераездзе сядзела. Уночы яны цераз насып беглі. Вочы — як светлякі. Я і здагадалася, што ваўкі гэта.

— Тваё шчасце, што яны не заўважылі, якая ты. Праглынулі б адразу.

— А якая гэта я?

— Прыгожая. Самая найпрыгажэйшая!

Яна згадала Шаплыкавы словы і развесялілася. Наважылася была пажартаваць, што, маўляў, чула ўжо ад аднаго чалавека гэткія словы, і раптам спахапілася, адчуўшы нікчэмнасць такога жарту. Нешта змянялася ў ёй, і гэтыя нечаканыя змены яна не магла зразумець. Чаму цяпер да тых жа слоў, што ўжо давялося ёй пачуць, яна ставіцца зусім іначай, зусім без іроніі, не так, як ставілася да прызнання Шаплыкі? Чаму цяпер ёй хочацца пачуць у дадатак да тых, чутых ужо, слоў нешта яшчэ, пачуць добрае і ласкавае? Чаму? І чаму гэтак добра і ўтульна ёй пад гэтай ялінаю, дзе сядзіш, нібыта ў будане? І чаму хоць гудуць і тут камары, але на іх ужо і ўвагі не звяртаеш? І чаму гэтак прыемна, калі не яе, а ягоныя рукі гоняць гэтую назолу прэч?

Грачовы словы хвалявалі, і ёй, хоць яна і не давала ім поўнай веры, хацелася, каб іх было больш і больш. Нейкая дзівосная цеплыня бруілася ад Грачовых далоняў, якія мякка лашчылі скуру ля шчыкалатак, і яна рабіла выгляд, што не заўважае, як Грачова далонь часам сунецца аж да калена і там заміраe і ляжыць нерухома, і ад таго тая дзівосная цеплыня перакідваецца ў галаву, тлуміць розум.

— Увесь дзень мне шчасціць. Стрэў цябе, згубіў, зноў знайшоў,— прамовіў Грач дрыготкім, як усё роўна ад холаду, голасам.— Як хто падштурхоўваў мяне ўвесь час: у гэты бок, маўляў, ідзі, у гэты...

Будучыня яе не палохала, яна проста пра яе не думала, і нічога не турбавала. Знойдзецца цяпер і смалакурня, і ўсё будзе добра, калі Грач яе адшукаў. Яна ж — драбнічка ў гэтым аграмадным лесе. А вось ён адшукаў. І цяпер можна пасмяяцца з тых жахаў, што давялося перажыць.

— А я пёрла па лесе, нічога не думаючы,— прызналася Наста, і гаварыць ёй пра гэта было прыемна.— Жах мяне гнаў. Якое ж гэта паганства: аніводнай думкі, толькі адно ў сэрцы — жывёльны жах. Не, хлушу: адно толькі і сядзела цвіком у галаве — ратуйся, ратуйся, ратуйся...

— Я гэта ведаю.

— І яшчэ нешта падобнае на гэта было,— перапыніла яна яго.— Тады, на прывакзальнай плошчы. Дудукнуў паравоз, а машыны няма. Кінулі нас, падумалася. І так жа брыдка зрабілася...

— А я тады вас у вагон пасадзіў, а потым азірнуўся, дык нешта ўва мне як абарвалася. І цяпер, калі па лесе мчаў, кляў сябе апошнімі словамі. Навошта, навошта дазволіў ісці, на ноч гледзячы? І, ведаеш,— ён памарудзіў, а потым дадаў, як бы смеючыся са сваіх слоў: — І, ведаеш, партыйны ж я чалавек, а неба маліў: дапамажы Насту знайсці.

— Бяда ззаду, а гэта і добра.

— Але ж ніколі не ведаеш, які крок лепшы. Не пайшла б, скажам, ты ў лес, не заблудзілася, дык і не сядзелі б зараз разам, упобачкі. І ты ведай: я нікому цябе не аддам. Мая ты!..

Ён прытуліўся шчакой да Насціных каленяў і сціхнуўся. Цьмяна-ліловае святло, таямнічае і загадкавае, церусілася праз голле яліны, і ўсё ў гэтым зялёным будане было дрогкім, невыразна акрэсленым, і Наста гладзіла Грачову чупрыну збянтэжана і палахліва. Замілаванасць, спагада і ўдзячнасць перапаўнялі сэрца: сэнс слоў, якія сказаў Грач, яшчэ не ўвайшоў у яе свядомасць, і яна была перапоўнена радасцю ад таго, што нядаўнія жахі ўжо не вернуцца да яе, бо яна не адна, што побач чалавек, на якога можна абаперціся. Нядаўна яна думала пра гэта, але цяпер у гэтай думцы быў новы сэнс, ад якога сэрцу было трывожна і ўсцешна. Што з табою было б, дурнічка, каб Грач не кінуўся на пошукі, не знайшоў? А вось жа кінуўся, знайшоў! Выпадковасць? Лёс? Ніхто тут

табе не адкажа. Ты толькі тое ведаеш, што сама пабачыла, што цяпер бачыш. Вось ён сядзіць перад табою, Грач гэты, ласкавыя словы гаворыць. Бег жа ён па лесе, з сілы выбіваючыся, каб цябе, небараку, адшукаць. І адшукаў! І ад камароў цяпер ратуе. І не глядзіць на ногі, а нібыта і бачыць, дзе камар садзіцца — адразу ж і прагоніць. Боль з нагі таксама выгнаў — зусім не баліць шчыкалатка. А магла ж сабе бяды нарабіць вялікай, бо неслася, не зважаючы на карчэўе. Але ж і ён імчаў, нават недзе фуражку згубіў. Уся чупрына шыгаллем засыпана, у павуцінні.

— А фуражка дзе ж ваша, дарагі таварыш? — папытала Наста і асцярожна ўзяла шыгалінку, пачала выблытваць з чупрыны.— Згубілі?

— Ляснулася недзе фуражачка. Але, галаву згубіўшы, няма чаго па фуражцы плакаць.

— А-ах, вось як яно павярнулася. І галоўка ўжо згубілася,— сказала Наста і ўзялася за другую шыгалінку, але тая была з кропляю жывіцы, заблыталася ў валасах, як прыклеілася. Не дужа-ткі і проста яе выбавіць у прыцемках. Ды шчэ чупрына густая, валасы кучаравыя, нейкія каляныя валасы. Трэба шыгалінку пакруціць, патузаць, тады толькі і выбавіш.

Грач злавіў яе рукі, абцалаваў запясці, потым, па адным, усе пальцы, прыціснуў Насціны рукі да сваіх шчок.

— Ацямнела ж зусім,— прамовіла Наста, добра разумеючы, што гаворыць зусім не тое, што было ў думках, у сэрцы. Словы былі як чужыя, быццам зусім незнаёмы ёй чалавек стаяў побач і гаварыў.— І ліловасць на небе згасае. Цёмна зараз будзе. І мы тады дарогі не адшукаем.

— Адшукаем. Калі ты са мною — мне шчасціць. Я ж табе кажу гэта.

— Трэба гукнуць. Нашы і адгукнуцца.

— Не пачуюць яны. Мы далёка ад іх адбегліся.

— Увечары добра чуваць у лесе. Погалас пойдзе — яны і адгукнуцца.

— Мне важна, каб ты адгукнулася. Каб тваё сэрца знак дало мне. А яно ж і адгукалася — я на той покліч і бег. Скажы, ты пра мяне думала, калі тут адна сядзела?

— Думала. Нават шмат думала.

— Наста. Настачка!

— Правільна. Гэта — маё імя.

— Яно самае лепшае ў свеце. Я кахаю яго.

— Імя, значыцца, ён кахае...

Ведала, разумела, што не трэба ёй гэтага казаць, не трэба падводзіць Грача да мяжы, на якой ужо і ёй не ўтрымацца, і радавалася, што не стрымалася, прамовіла словы, якія гулліва зляцелі з вуснаў; у галаве было тлумна, і сэрца білася грукатліва, без жаху і трывогі.

— Цябе кахаю. Імя кахаю. Усю да драбнічкі кахаю,— і ён прытуліў яе да сябе, узяў у ласкавыя, але ўладарныя абдоймы, і яна на міг сцішылася, як усё роўна страціла волю начыста.— Толькі як гэта... Каб ты верыла...

Наста быццам плыла на гарачай тлумнай хвалі, не супраціўлялася, не адкідвала яго рукі, толькі спытала шэптам:

— Ты што робіш? Навошта? Не трэба!

— Гэта ж шчасце, што я цябе знайшоў. Паглядзі на мяне. Ёсць у маіх вачах няпраўда?

Яна паўглядалася ў яго вялікія блішчастыя вочы, у вячаровым сутонні дужа цёмныя, і нічога не бачыла ў іх; правяла пальчыкам па кудлатых бровах, што амаль сышліся на пераноссі, шапарнула даверліва і сцішана:

— Нічога ж не бачу.

— Не бачыш. Бо няма там няпраўды. І аніколі не будзе. Да скону дзён сваіх я — з табою. Галубіць буду, песціць, ад бяды затулю. Верыш?

У Грачовым пытанні гучала дзівосная магічная сіла, і яна, гэтая сіла, скасавала боязь, што жыла ў Насціным сэрцы, напоўніла яго трывожным шалам і радасным захапленнем. Падалося, што нічога няма наўкола, нічога няма ўвогуле на свеце, што яна не тут, у гэтым зялёным будане з рагатага голля яліны, а недзе ў дзівосным краі, да якога доўга і цяжка брыла, і ўрэшце дапяла да яго радаснага і цёплага святла, і мімаволі, быццам само па сабе, зляцела з яе засмяглых вуснаў толькі адзінае слова:

— Веру.

— Родная ты мая... Ро-одная!

— Не трэба, Грачок! Міленькі, не трэба!

Пратэставалі толькі словы, дзіўныя, ашаламляльныя, і яны нараджаліся як самі па сабе, і Насце былі

непадуладныя. А вусны падатна адгукаліся на яго пацалункі і прасілі, патрабавалі іх, і рукі гладзілі каляныя, нейкія гарачыя Грачовы валасы. Гарачымі здаваліся і шыгалле, і шурпаты камель яліны, да якой усё шчыльней і шчыльней прыціскалася тлумная, як адразу ўчадзелая Насціна галава...

Загадкава мігцелі ў небе зоркі, яркія, дужа блізкія, быццам сядзелі ў рагатым голлі яліны. Ашаломленая незвычайнасцю таго, што адбылося, Наста маўчала, не маючы аніякага жадання загаварыць, нешта папытаць, нечым пацікавіцца. Прагная грубаватая пяшчота Грача як выпетрыла яе ўсю цалкам, і яна стомлена і радасна ўслухоўвалася ў дзіўную лёгкасць свайго цела і не адчувала аніякага сораму ад таго, што не адштурхнула Грача, парывіста адказвала на яго пацалункі, нічога яму не забараняла, а цяпер ляжыць у яго абдоймах, адчувае ласкавы рух чужых пальцаў у валасах за вухам і на патыліцы.

Яна злавіла Грачову руку, перабірала па адным, як пералічвала, пальцы, і ён рабіў тое ж самае, і пальцы іх спляталіся ў ласкавай і пяшчотнай гульні. Тоўсты шурпаты камель дужа ціснуў галаву, і Наста паварушылася, каб легчы зручней; шчака дакранулася да халоднай і вільготнай, як з вады, спражкі дзягі, потым да шурпатага і дзіўна шырокага замшэлага камля. Адкуль тут шчэ гэты бярозавы камель? Яны ж зашыліся пад навісь голля яліны! Бярозы тут не было. А можа, была? Ноч жа. Нічога добра не відно.

— Ноч,— прамовіла Наста, прыслухоўваючыся да дзіўнага гучання свайго голасу. Як бы новы голас зрабіўся! Не, гэта горла сухое, з таго і голас такі. Дадала, адкашляўшыся: — Ноч зусім...

— І гэта цябе непакоіць?

— А як дарогу цяпер адшукаем?

— Дык мы ж дамовіліся, што і шукаць яе не будзем. Развіднее — тады і пойдзем,— намацаў Насціну руку на спражцы дзягі, папрасіў лагодна: — Не чапай ты дзягу гэтую. Яна табе замінае? Сюды яе кладзі. І карабін таксама.— Грач узяў карабін, адцягнуў затвор, зняўшы засцерагальнік; суха шчоўкнуў патрон, утоплены ў магазін, і зноў кляцнуў затвор.— Дзіўнае стварэнне чалавек. Вось зброя ў руках... І адразу — новы свет наўкола яго. І ўжо карціць некаму сілу сваю паказаць...

— Пакладзі. Хай яшчэ стрэліць.

— Не, ты мне скажы, што цябе непакоіць? Скажы, вавёрачка ты мая.— Грач яшчэ мацней прытуліў яе да сябе.

— Дзіўлюся вось... І мохам гэты аграмадны камель парос.

— Уночы дрэвы большыя выдаюць. І лес гусцейшы здаецца. Заўсёды гэтак у лесе ўночы.

— Ды я не пра тое. Пад ялінаю мы сядзім. А камель — бярозавы. Вось што...

— А я і не згледзеў. Э-э, якая тут праява! Гэта ж знак лёсу нашага. І твайго і майго!

Рука перасунулася з тоўстага замшэлага камля на танчэйшы, які быў як укручаны ў цёплы і мяккі вельвет, і рэзкай мяжы паміж імі не было, яны быццам зліліся ў адно.

— Дрэва ў дрэва ўрасло, падобна...

— А я што табе кажу,— узрадаваўся Грач.— Бяроза з ялінаю ў абдоймах. Гэта ж знак неба — ваш, галубочкі, лёс. Вы цяпер да скону дзён — разам.

— Дрэвы стаялі і стаяць застануцца,— развражліва сказала Наста.— А нам адсюль шчэ выбрацца давядзецца. Калі, вядома, дарогу адшукаем.

— Будзе дзень — будзе і дарога... Ды не чапай ты дзягу гэтую, вавёрачка. Хай ляжыць, не чапай. А ты ў мяне на руках ляжы. Сюды галаву кладзі. Не, лепей ты на калені да мяне садзіся. Вось гэтак... І ножанькам тады цяплей будзе...

Насце было зручна, утульна і цёпла на яго каленях, і ён ціха гушкаў, ласкава прыціскаў яе да сябе, і зноў тлумнай, як учадзелай рабілася галава. Грач маўчаў, а ёй хацелася слоў ласкавых, пяшчотных, якія б скасавалі трывогу, што гарачай, тлумнай хваляй падступіла да сэрца.

— А што ж цяпер будзе? — міжвольна вырвалася ў Насты.— Сорамна ж вяртацца да смалакурні. Згаварыліся, скажуць, збеглі. Іначай як патлумачыць.

— Ідзі сваёй дарогаю. І няхай людзі гавораць, што ім хочацца. Ёсць гэткае выслоўе. Камісар яго любіць паўтараць.

— Ты з ім даўно служыш?

— Трэці год. У трыццаць дзевятым я скончыў курсы пры штабе пагранвойск — камсамольскі прызыў у армію. Прыехаў у часць. І праз тыдзень, у ве-

расні, мы пайшлі на Беласток — руку сваім братам падалі. О, што прыгадаў! Гэта ж там, як Нёман перайшлі, я дзіва тое і бачыў.

— Якое? — яна яго не зразумела.

— А як тут вось. Толькі там дрэвы два аграма-адныя. Дарога там на нейкі маёнтак вялізны. Здаецца, палац Радзівілаў — у яго гэткіх палацаў мноства было. Дрэвы ля дарогі там, адно вакол аднаго, быццам вяроўка, звіліся. Паданне нават нам у вёсцы расказвалі. Дзяўчына і хлопец кахалі. А магнат удумаў іх разлучыць. Чарадзей, калі яны ўцяклі, паабяцаў: магу зрабіць, што вечна разам вам жыць. А тут — пагоня за імі. Вось і растуць неразлучна. Гадоў па дзвесце, калі не больш, дрэвам.

— Якая ціша наўкола. Нібыта і вайны ніякай няма.

— Яны дзіўна ваююць, гэтыя немцы. Як вечар — вячэраюць і кладуцца спаць. Раніцою паснедалі — на танкі селі і пакацілі. Дзе яны гэтулькі іх панабралі? Нібыта ўся іх армія — на танках. Між іншым, як мы тады на Беласток ішлі ў трыццаць дзевятым, дык і мы ўсе — на танках кацілі. На ўсіх дарогах — нашы танкі. Гэта я добра памятаю. Перад вачыма, як жывое.

— Дык куды ж яны падзеліся, нашы танкі?

— Не ведаю. Можа, дзе-небудзь за Дзвіною стаяць. І мы знарок адыходзім, знарок адступаем, каб потым — ударыць. Ды так, каб уся гэтая зграя фашысцкая — на пыл. Можа ж гэтак здарыцца?

— Надзея на гэта і ў мяне ёсць.

— Ведаеш, пра што падумаў? Некалі ж вось гэтак, у будане, як мы з табою зараз, жыў першабытны чалавек. І з ім заўжды была надзея. Надзея на ўдалае паляванне. Надзея перамагчы хваробу. Надзея адолець ворага. Надзея захаваць агонь, на якім можна засмажыць дзічыну.

— Памылковая, мне думаецца, твая тэорыя. Гэта потым — надзея. Але напачатку, мабыць, у чалавека быў жах. Ён жа, чалавек, тады шчэ нічога не мог патлумачыць. Нічога не ведаў.

— Не, жах — гэта ўжо з другой оперы. Жах жыве ў чалавеку невыводна. Галоўнае, каб мець сілу прыдушыць яго, той жах. Калі ты здолееў тое зрабіць — тады і нараджаецца ў табе сапраўдны чалавек.

— Значыцца, па тваёй тэорыі...

— Гэта не мая тэорыя. Камісаравы словы.

— Усё роўна. Пад катэгорыю сапраўднага чалавека я, значыцца, шчэ не падыходжу?

— Ты — дзіва. Дзіваляснос, зямное, нябеснае — усё разам. Незвычайнае дзіва.

Ён пагладзіў яе валасы. Але Наста затрымала яго руку, запатрабавала:

— Ты а-адкажы. Адкажы!

— Жах ты ўжо адолела. Яго чалавек здушвае ў сабе неўпрыкмет, незаўважна. Ты адолела яго не сёння і не ўчора.

— Нават? Калі ж тое, цікава, адбылося?

— А ў полі. Калі самалёт на машыну пёр. Прыгадай.

— Сапраўды, я тады трохі спудзілася. А вось ля гравійкі паводзіла сябе, быццам апошняя баязліўка. Я ж страляла па матацыклах, не прыцэльваючыся ані!

Грач шумна хмыкнуў носам:

— Хы-ым! І гэта ж таксама — з другой зусім оперы. Тут — простае хваляванне. Баязлівец не будзе страляць!

Яна прыціснулася да яго даверліва, сэрца яе перапоўнілі пяшчота і падзяка. Сапраўды, у тым кароткім, як міг, баі на гравійцы яна не была баязліўкаю, яна дужа хвалявалася, рукі трымцелі, і таму мушка карабіна дугалася, нібыта скакала на хвалях. Не, яна не была баязліўкаю. А вось зразумець гэтага не магла і таму пакутавала. А Грач — які ж ён мілы і слаўны! — убачыў сапраўдную прычыну адразу, разгледзеў, вярнуў ёй упэўненасць і сілу.

— Скажы, а табе жах перажыць давялося?

Ён стоена ўздыхнуў. Наста адчула, як знерухомелі яго пальцы ў яе на патыліцы. Доўбня! Навошта лезці чалавеку ў душу, варушыць тое, што яму непрыемна. Ён ласку табе зрабіў, у іншым зусім святле паказаў тое, што адбылося на гравійцы, ён цябе тут, у лесе, адшукаў, ён кахае цябе, а ты чаўпеш абы-што. Ты ў сабе разбярыся. Як жыць цяпер будзеш! Ранейшага ж нічога няма! Але ж вось бачыш, лезе ў сэрца зусім не тое, што трэба.

— Даводзілася,— нечакана прызнаўся Грач, прамовіў гэтае слова нават з жартоўным адценнем, быццам

пацяшаўся з сябе і таго, што сказаў і што меўся яшчэ сказаць.— У нядзелю. Увечары першага дня, калі ўсё гэта пачалося. Наш полк — у абароне: акопы і траншэі ля маста. І на нас — танкі пруць. З крыжамі на бартавінах. Страшыдлы, пачвары — зямля ад іх дрыжыць. Той, што на мой акоп пёр,— самы аграмадны мне здаўся: вышэй за хату, як падалося. У мяне бутэлька ў руках, пакулле на гарляку дыміцца — падпаліў. А тады выбух побач, амаль над брустверам. І я ў траншэі — на каленках. Пакулле ў мяне пад носам самым дыміцца — няма чым дыхаць. І жах мяне прыдушыў: зараз узарвецца бутэлька і я заскваруся, бы на патэльні. І як дурны стаю і чакаю на каленках, быццам малюся на той дым і агонь на пакуллі. І тут — камісар у траншэі. Выхапіў з маіх рук бутэльку. Калі і як кінуў ён яе — не бачыў. Але на ногі я ўскочыў. І што бачу? Танк на суседні акоп уссеўся — хоць рукой за гусеніцы бярыся. І дым ля вежы, і агонь. А я ўжо свежага паветра глытнуў, неба, дрэвы за рэчкай гэтак ясна і выразна ўбачыў, як ніколі раней у жыцці. І жаху ўжо няма. А толькі злосць на тое, што жах той быў, што я перад ім на каленках стаяў. І тады гляджу: у дыме, з люка, фашыст у чорным камбінезоне дзярэцца. І я з свайго сэвэтэ — тах! Гатовы. Тады бачу: з пярэдняга люка — другі. Я і гэтага — тах. Сэвэтэ ў мяне біла дакладна, па-снайперску. Ты хоць ведаеш, што гэта за штука такая — сэвэтэ?

— А чаго ж! Дзесяцізарадка.

— І, між іншым, добрая рэч. І страляе дакладна. Толькі затвор пясочку баіцца. Заядае тады.

Па нейкай невядомай інтуіцыі адчула, што гэтая споведзь яму па душы, што Грач як бы ўдзячны ёй за роспыты, і спытала зноў, зусім цяпер не дакараючы сябе:

— А на гравійцы жах быў?

— Гравійка — гэта ўжо зусім з другой оперы. Там я ім за нашы акопы ля маста сплочваў. Там жа, ля той рэчкі, амаль увесь наш полк загінуў.

— Ля якой рэчкі?

— Ды невялікай зусім. Дзіўная назва нейкая. Здаецца, Уса. Ты пра такую рэчку не чула? Праўда, відаць, недакладна я назву запамятаў.

— Не, не чула. Не даводзілася.

— Назву, відаць, пераблытаў. Хутчэй, гэтак яно і

ёсць. У галаве ў той дзень усё, як і ў свеце, перакруцілася...

Цяпер яна адчула, што не памылілася, што за споведзь пра той першы дзень вайны, пра той бой ля невядомай рэчкі, дзе давялося перажыць Грачу жах, ён хаваецца ад гаворкі пра іншае, пра тое, што адбылося паміж імі, і сама баялася гэтай гаворкі таксама, і, гэтак жа, як і ён, ад яе спрабавала, сілілася ўсяляк уцячы.

— А ў мяне ў галаве толькі адна думка і плішчыцца: як жа мне маму адшукаць.

Уздыхнуўшы, ён сказаў упэўнена і пераканана:

— Адшукаеш. Сёння свет калі і перакруціўся, дык заўтра, ці калі там, на ранейшае месца мусіць жа вярнуцца. Не вечна ж яму і круціцца па-дурному: вечнага на зямлі нічога няма. І мне думаецца, што вайны доўгай не павінна быць. Гэта ж даўней на фронт адкуль-небудзь, скажам, з-за Урала месяц ці два ішлі. А цяпер — маторы. Тэхніка скрозь.

— У верасні мне ў інстытут ехаць.

— Ехаць, мне думаецца, табе туды давядзецца, дзе Грач твой будзе.

— Сказаў! А пяты курс? Кідаць?

— Я не кажу, што кідаць. Скончыць, вядома, трэба. Але ж цяпер нам разам трэба скрозь. Заўжды. Згода?

Ён прытуліў яе да сваіх грудзей моцна, і яна прыціснулася да яго, прамовіла даверлівым шэптам:

— Згода. Ніколі не думала, што мне будзе гэтак з табою добра. У лесе. На гэтым шыгаллі. У будане хваёвым.

— У-ух, рыбанька ты мая залатая.

— Э, каб я ёю была! Адразу б — запатрабавала: ніякай вайны, мірную цішыню сюды, сонца! Каб усё гэтак, як да той нядзелі было!

— І без мяне?

— Ды не, не,— яна ўзбухмаціла яму чупрыну, лагодна і ласкава пашкрэбла ля вуха.— І абавязкова — ты побач. А як жа!

Разумела, што ўсё гэта нерэальна, што ўсё гэта свет слоў, які яна стварае наўпярок жахліваму свету, які ёсць, які існуе і ад якога яна на нейкі міг уцякла. Але гэты міг быў рэальны, усё ў ім было добрае, блізкае сэрцу, незвычайнае, няўведанае раней, і яна жыла ў ім, хоць і разумела яго падманную сутнасць, няпэўнасць

і нетрываласць. Хаця, чаму няпэўнасць? Грач побач! Яна ўжо не адна, яна з ім рынулася разам у гэты свет утульнасці і цяпла, дзівоснага адчування лёгкасці і радасці.

— Ты разумна гаворыш, рыбанька ты мая залатая.

— Гэта ў казцы там, рыбанька тая залатая.

— І гэта разумна, вавёрачка ты мая. Нам не ў казцы жыць. У свеце гэтым зямным. А з ім чорт ведае што творыцца цяперака. Так што, калі знайшлі мы адно аднаго, дык хай ужо і да скону дзён нашых. Праўда ж?

— Праўда.

— Ты разумна робіш, што мяне слухаешся. Ты павінна скрозь мяне слухацца. З чаго гэта, карціць табе ўведаць? А ты тута, на пятліцах, памацай,— мяккім напеўным голасам прамовіў Грач і паклаў яе руку на каўнер сваёй гімнасцёркі.— Кубарыкі адчуваеш? Камандзір, значыцца.

— А-ах ты, кубарык-чубарык!.. Куб...

Ён не даў ёй дагаварыць, узяў у моцныя абдоймы, пацалаваў прагнымі гарачымі вуснамі. І зноў здарылася дзіва, у якое Наста паляцела, абрынулася, быццам у тлумны і спустошальны вір. Знікла сарамлівасць зноў, уся істота поўнілася шчаслівым, да слёз шчаслівым парываннем, і Наста адказвала на пацалункі адчайна і смела, радуючыся і з гэтае свае смеласці, з таго, што яна, гэтая смеласць, патрэбна Грачу, дзівячыся, што новая хваля пяшчоты дзівосна ўзвышае яе, робіць недасягальнай для бяды, што нядаўна грымела дзесь за лесам...

На золаку Наста адплюшчыла цяжкія і сонныя шчэ павекі, убачыла блеклую шэрань, пасечаную галінамі хвоі, учула пахропванне ля свайго вуха і не адразу сцяміла, дзе яна і што з ёю. Знямелі ззяблыя ногі, і яна падкурчыла іх, і тады імгненна ўсё стала на свае месцы. Грач нешта замармытаў і, не прачнуўшыся, мацней прытуліў яе да сябе, ушчаміў яе лыткі паміж сваіх каленак, і Наста, улагоджаная цеплынёй, якая хваляю паплыла па нагах, суцешылася імгненна, што цяпер яна не адна ў гэтым дзікім і дрымучым лесе, дзе яна перажыла гэтак шмат і жаху і радасці. Зноў правальваючыся ў сон, яна падумала, што, відаць, мужчына гэткі і павінен быць, ён не павінен глядзець на нейкія там пярэчанні жаночыя, яе слабасці не заўважаць, каб жанчына магла затуліцца за яго мужнасць, цал-

кам ёй давяраючы і на яе, гэтую мужнасць і сілу, спадзеючыся. Ну, сапраўды, вось яна разам з Грачом, і ёй гэтак утульна і ўсцешна, і цеплыня ад яго бруіцца, добрая надзея, упэўненасць. А каб адной вось пад гэтай хвояю дня чакаць? Не, жанчына не павінна заставацца адна, яна на тое створана, каб побач быў мужчына, якога яна пакахала.



## 6

Другі раз яна прачнулася, калі Грач ужо не спаў і глядзеў на яе: падалося, што ад гэтага позірку яна і прачнулася. У вачах не бруілася тая цеплыня, якая асела ў сэрцы ад добрых слоў і пацалункаў уночы, і ад гэтага Насце было неяк сорамна.

— Днее? — спытала яна і здзівілася: голас гучаў незнаёма, як бы прастуджана.

— Ды дзень ужо, здаецца. Сонца ў пяты скварыць, а мы — дрыхаля з табою даём!

Ён моцна, парывіста, але таропка пацалаваў Насту і адхінуў рагатае голле. Следам за ім вылезла з-пад яліны і Наста. Было ўжо зусім светла — над лесам вісела сонца,— на верасах зіхацела буйная і густая раса. Дзе-нідзе ў лагчынах вісеў плыткі туман, ён адразу, як толькі яны набліжаліся да белаватай аблачынкі, радзеў і потым знікаў, быццам выпарваўся. Грач паводзіў сябе крыху дзіўнавата, зрабіўся засяроджаны і замкнёны, ніякіх ласкавых слоў не казаў і, здаецца, казаць не збіраўся. Яна спачатку занепакоілася, а потым не толькі апраўдала яго паводзіны, але шчэ і аблаяла сябе: словы, бач ты, ёй спатрэбіліся! А дарогу хто глядзець будзе? Ты ж за ім ідзеш, клопату не ведаючы!

Грач крочыў хутка, упэўнена, амаль не азіраючыся па баках, нібыта ішоў па мясцінах, якія добра вядомыя. Увысі каротка, але часта абзываўся крумкач, быццам увесь час сачыў за іх хадою і даваў знак, што ідуць яны той дарогай, якой і трэба ісці. Наста ўсё болей і болей пранікалася павагаю да Грачовай упэўненасці. Ідзе чалавек упарта, не спыняецца, не вагаецца — ка-

мандзір, за якім заўсёды лёгка ісці, бо не трэба ламаць галавы і сумнявацца. І хіба ж адна ты калі-небудзь выдралася б з гэтае лясное гушчобы? Ды ніколі б! Загінула б, засталася б у звяроў на зубах!

Праз нейкі час, добра ўгрэўшыся ў хадзе, яна сталілася, і ёй даводзілася амаль бегчы, каб не адстаць ад Грача. А ён як і не заўважаў гэтага, усё ішоў і ішоў, і ў Насты варухнулася сумненне, што Грач не ведае дарогі, але баіцца прызнацца, лупіць нацянькі, невядома на што спадзеючыся. І тады наперадзе моцна пасвятлела, пачаўся малады соснік, дужа знаёмы, добра асветлены сонцам, і, калі яны яго праскочылі, нечакана адкрылася лугавіна ля ручая, адзінокая груша-дзічка на пакатым узгорку, незвычайна цёмная і блішчастая, і ўправа ад яе, у бярэзніку, квадратовай плямай зачарнеў дах смалакурні. Пад шырокім кустом арэшніку стаялі дзве маленькія, як бы ўсохлыя за ноч, фурманкі.

Грач павярнуўся да Насты, падміргнуў моўчкі, пляснуў у далоні, пацёр іх, быццам ад холаду, і паскорыў хаду яшчэ больш. Спыніўся ён ля ручая, насупраць бярозавага пня, доўга і прагна піў ваду. Потым, спаласнуўшы твар, паўглядаўся ў Насціны вочы і спытаў стрымана, быццам нічога ўночы паміж імі не адбылося, нават не параіўшы, як паводзіць сябе ёй ля смалакурні:

— Ну, што нас чакае тут сёння?

Яна адвяла позірк — зрабілася чамусьці прыкра — і глядзела на фурманкі, ля якіх не заўважалася аніякага руху. Міжвольна вырвалася разгубленае запытанне:

— Няўжо не вярнуліся нашы? Коней жа няма.

— Я гэта адразу заўважыў... Не вярнуліся, як бачыш,— і моцна страсянуў яе за плечы, голас набыў раптоўную лагоднасць, як ёй падалося, робленую.— Не гаруй, вавёрка мая! Галава цэлая. Ногі — пры нас. Не прападзём! Змывай сон! І — вышэй галаву!

І сэрца Насціна растала. Ну, дурында якая яна! Нельга ж гэтак, адразу, скруху і недавер наганяць у сэрца. І прыкрасць гэтую сваю дурную, скруху неразумную прэч гані з душы. Дзе была, з кім ноч праводзіла — твой асабісты клопат, нікога гэта не павінна тычыцца. Ты толькі Грача цяпер слухайся — гэта ён табе, жартуючы, дужа добрую параду даў. І цяпер слушна гаворыць, намыцца трэба, вышэй галаву трымаць!..

Іх гэткае позняе вяртанне да смалакурні нікога, як падалося Насце, не ўразіла, не прыцягнула нічыёй увагі. Зрэшты, не было і каму звяртаць на тое ўвагу, пацвельвацца ці сарамаціць. Канапелька, пачуўшы голас Грача, прыўзняў галаву з фурманкі, зыркнуў няўцямным сонным позіркам і зноў бухнуўся на лапнік. Чаркас ляжаў нерухома, скурчыўшыся на суседняй фурманцы. Зуеў завіхаўся ля кацялкоў, што стаялі радочкам вакол таго месца, дзе ўчора гарэла цяпельца. Дровы сёння ўпарта не хацелі разгарацца, і ён, стаўшы на карачкі, то нахіляючыся, то выпростваючыся, шумна дзьмухаў, а потым праціраў вочы ад попелу, што рэдкім сяйвом асядаў на мокрыя верасы.

Грач паводзіў сябе незалежна, параіў Зуеву пакласці пад дровы смаляной лучыны, стаў ля ўваходу ў склеп, размаўляе з параненымі, і ў голасе яго чуваць камандзірскія ноткі. Гэтая ўпэўненасць пакрысе перадавалася і Насце, і яна зарадавалася, што аніхто не спытаў, дзе яны былі ноччу. Але трывога не праходзіла, і яна з хваляваннем усё ж чакала роспытаў, разумеючы, што знікненне яе і Грача не засталося незаўважаным. Нездарма ж Зуеў, дзьмухаючы на дровы, зрэдку возьме дый кіне ў яе бок востры дапытлівы погляд, быццам просіць даць пэўныя тлумачэнні. Але ж ніякіх тлумачэнняў ні ён, ні хто-небудзь іншы не дачакаецца. Яна, Наста, абароніць сябе. Абароніць! Тая палахлівая радасць, што ўвайшла ў яе душу, жыве ў розуме і сэрцы, належыць толькі ёй — і Грачу, вядома! — і яна тую радасць нікому не аддасць! І Грач, вядома ж, нікому не дазволіць яе крыўдзіць. Не, не! Яна сама здолее пастаяць за сябе! Яна і сябе і Грача, калі давядзецца, абароніць і ад злосных язычкоў і нядобрых позіркаў!

Неспакой, аднак, падкрадаўся да сэрца, і Наста асабліва адчувала яго халодную вастрыню штораз, калі ў абсяг яе зроку трапляла скурчаная постаць Чаркаса. Той учора папрасіўся, каб яго не заносілі на нары ў склеп, а пакінулі на возе. Не схацеў злезці з фурманкі і Канапелька, самы, здаецца, бесклапотны чалавек сярод параненых. Зыркнуў вось на Грача, бухнуўся на лапнік і зноў спіць. Хоць ты на вушы яму станавіся — не пачуе. А мо прыкідваецца? Ляжыць і вывучае, наглядае ўпотай, каб потым і пацешыцца?.. Не, ён спіць па-сапраўднаму, бесклапотна і моцна: Шырока раскінуў

ногі, перакрыжаваныя рукі, што ўкрылі твар, абвіслі на бакі. Пальцы правай рукі брудныя, перапэцканыя зямлёю, сціснуты ў кулак, а на левай руцэ нейкія глініста-рудыя, сагнутыя, зрэдку варушацца, быццам грабуць пад галаву белаваты, як прысак, мох.

Канапелька прачнуўся, калі Наста кіравалася паглядзець Чаркаса, прачнуўся неспадзявана, якраз у той момант, калі яна параўнялася з пярэднім колам і на фурманку паклаўся цень. Ён падхапіўся, сеў і, праціраючы левае вока тыльным бокам далоні, правае ўтаропіў у Насту. Потым матнуў галавой, па-блазенску падміргнуў і папытаў, нібыта напалохаць меў намер, адрывіста:

— Сняданак?

Яна атарапела, потым развесялілася:

— Будзе і сняданак. Зуеў толькі вогнішча маракуе. А тады і згатуем.

— Тады і пабудзіце, калі згатуецца.

І зноў затуліў твар рукамі, знерухомеў, быццам і не прачынаўся толькі што і нічога не гаварыў. Насце на нейкі міг падалося, што ўся гаворка з Канапелькам ёй памроілася.

А Чаркас не спаў. Павярнуўшы галаву, якая ляжала на саламяным валіку, ён сачыў за Настаю і чакаў. Твар яго быў спаласаваны шырокімі чорнымі пісягамі, і Наста набліжалася да фурманкі, адчуваючы, як вастрыцца пад сэрцам халодная стрэмка неспакою.

— Дзе была? — спытаў ён нечакана і рэзка.

Падрыхтаваная да такога пытання, яна ўсё-такі разгубілася, бо ад Чаркаса яго не чакала. Але тут жа ўбачыла — Чаркас паварушыў галавой,— што чорныя шырокія пісягі саскочылі з твару, і зарадавалася. Гэта ж цені ад лістоты і голля. Сонца за арэшнікам, быццам на макаўцы грушы-дзічкі сядзіць, а тут, на фурманцы, цені і кладуцца.

— Дзе была? — перапытала яна са штучнай іранічнасцю і робленай усмешкаю.— Там мяне ўжо няма.

— А я быў думаў, што збегла.

— Індык аднойчы доўга думаў, думаў... Ведаеш, што з таго думання атрымалася?

Шырока адкрытыя вочы Чаркаса глядзелі занурана, з глыбокім сумам. Гэта, аднак, цягнулася толькі імгненне, вейкі таргануліся, як бы сцерлі з твару на-

чыста рэштку ценяў, вочы звузіліся, і сум як бы апаў на дно іх, пагусцеў.

— Індыку лягчэй было — крылы меў. Мог, пры ахвоце добрай, і з кацялка вылузнуцца ці абярнуць яго. А вось у кацялку, дзе Чаркас сеў...

— Навошта, навошта жахі наганяць? І сябе і людзей палохаць няма патрэбы!

Ён марудна ўзняў руку, паківаў ёй пальцам — прасіў нахіліцца да яго. Дзіўным чуццём зразумела, здагадалася, што ён пачне распытваць пра сваё здароўе, і завагалася, як бы нечага чакала.

— Ды бліжэй, бліжэй, не бойся,— нецярпліва прамовіў Чаркас.— Скажы шчыра... Што мяне чакае? Паглядзі раны і скажы, ці ёсць надзея на паратунак...

Яна агледзела закарэлыя бінты на плячы і на назе, убачыла цёмную, пагусцелую за ноч чырвань, якая выдавала цяпер глыбокай, быццам лезла з-пад скуры, знутры, і, сцяўшыся ад унутранага болю, шкадавання і сораму, што даводзіцца хлусіць, прамовіла бадзёра:

— Не дужа і кепска. А яшчэ нашы лекі прывязуць... А потым у шпіталь пакладзём, дык і зусім добра будзе.

Ён слаба паляпаў яе па руцэ, сказаў адчужана, але без крыўды, як бы сам сябе папракаючы:

— Ты шчэ не навучылася хлусіць. Хай табе пашчасціць. Табе і пашчасціць — я сон добры бачыў,— і дадаў адразу пастражэўшым голасам: — Ідзі, цябе чакаюць. Вахтанг усю ноч стагнаў.

Чаркас закрыў вочы, быццам адразу і добра заснуў, і яна пайшла ад яго моўчкі, як праглынуўшы словы, якія збіралася сказаць, словы суцяшэння і надзеі, пакутуючы ад няпраўды, якую выказала Чаркасу, і яшчэ больш з таго, што ён, напэўна ж, аб гэтай няпраўдзе здагадаўся, і здагадаўся пра тое, дзе і з кім яна была ноччу. Так, ён не спаў ноч, бо чуў, як пакутаваў Вахтанг. А яна? А яна ў гэты час перажыла самыя шчаслівыя імгненні ў сваім жыцці, яна кахала чалавека, якому паверыла імгненна і адразу і якому аддалася без згрызоты, ні аб чым не шкадуючы.

Успамін пра зялёную пячору, зацярушаную сухім шыгаллем, пра той утульны будан, дзе яліна пераплялася ў камлі з бярозаю, быў кароткі, як бліскавіца, і Насце падалося, што яна на міг дакранулася далонямі да мяккай, бы з вельвету, кары яліны, якая як усё

роўна ўклеілася ў бярозавы камель; і цеплыня гэтага дотыку засталася ў далонях, жыла, надаўшы Насце дзівосную сілу свае жаночае годнасці. Яна, Наста, ані ў чым не вінаватая. Яна, Наста, не зрабіла нічога благога. Яна — кахае, і кахаюць яе. Вунь ён, Грач, яе каханы, стаіць ля склепа. Нечага замахаў рукою, кліча да сябе!

Яна падбегла, спынілася ў радасным чаканні, глядзела на яго єддана і ласкава. Але чакаў нечага і ён, і тады яна запыталася:

— Што тут?

— А там? — пытаннем на пытанне адказаў Грач.

— Канапелька спіць. І Чаркас, здаецца, заснуў.

— А тут не спяць. Цябе чакаюць, як таго бога.

Гэтыя словы былі адрасаваны не ёй, а тым, хто ляжаў на нарах у склепе, і яна Грача зразумела: хоча, каб усе бачылі ў ім камандзіра рашучага, смелага, справядлівага. Ёй жа быў адрасаваны позірк вачэй, поўных захаплення і адданасці, і Наста зразумела і гэта, і з таго зноў тлумна зрабілася ў галаве. Маўклівы Грачоў позірк спарадзіў у Насцінай душы няўведанае раней адчуванне сталасці і незалежнасці, прывёў да высновы, што ён, Грач, удзячны ёй за ноч, якая мінула, што ён памятае, памятае і не закрэсліць аніводнага слова, якое казаў ёй у зялёнай пячоры пад ялінаю.

— Я зараз усё зраблю,— праказала яна стрымана.— Усё зраблю як след...

Наста агледзела і паправіла павязку камісару, маўкліваму і негаваркому Буркуну, нейкі час пасядзела ля Аўдошкі, які намагаўся як найдаўжэй затрымаць яе ля сябе рознымі пытаннямі і роспытамі. Дзівоснае адчуванне — адчуванне радасці і свае ўласнае сілы — не праходзіла, захоўвала ў душы раўнавагу, і яна слухала Аўдошку, нешта адказвала, але час ад часу зноў і зноў паглядала на камісара. Той ляжаў нерухома, аднак дыхаў роўна, і дыханне яго было глыбокае, як у чалавека, які спіць, утомлены цяжкай працаю. Камісару, здаецца, нічога не пагражае, заўтра ён, мабыць, узнімецца і будзе адчуваць сябе някепска. Яна абяцала гэта Грачу? Абяцала. І гэта павінна спраўдзіцца! І спраўдзіцца абавязкова і няўхільна!

Разгубілася Наста крыху пазней, калі зірнула на зжоўклы, зусім змучаны болем твар Вахтанга. Вахтанг ляжаў асобна ад усіх, за склепам, пад тоўстай, але

амаль у дугу сагнутай арэшынай — сюды, на лапнік, рэдзенька зацярушаны саломаю, якую скінулі з воза, яго перацягнуў раніцою Зуеў. На грудзях і жываце бінты закарэлі па краях, а ўсярэдзіне змакрэлі ад крыві, і яна нават дакранацца да іх баялася адразу — пад бінтамі пульсавалі і трымцелі парваныя жалезам, без скуры цяпер, мышцы; у адным месцы на правай бакавіне грудзей выпірала з-пад бінтоў ледзь не прапорваючы іх, ці зламаная рабрына, ці востры, як стрэмка, асколак. Згледзела, што правая калашына штаноў падрана і пашкуматана ля калена, і ўстрывожылася яшчэ больш. Відаць, у Вахтанга і нага параненая, але дагэтуль не перавязаная. Злёгку толькі зачапіла калашыну, і Вахтанг адплюшчыў вочы, цьмяныя, бы кафейныя зярняты, вочы, застагнаў:

— Зу-у-уеў!..

Зуеў падбег, схіліўся над ім.

— Што, генацвале? Баліць? А ты — цярпі. Цярпі, казак, атаманам будзеш. Мо святаянніку даць? Зараз дам, халодненькага.

— Здзірай сапо-ог, генацвале. Нага — агонь. Здзірай іх, прашу, як брата.

Зуеў крышку павагаўся, потым, з натугаю, сцягнуў з Вахтанга боты, паставіў іх роўненька, абцас у абцас.

— Песню,— Вахтанг з цяжкасцю пасоўгаў засмяглымі, з попельнымі закрайкамі губамі.— Кульгана буулі, буль-булі...

— П-от ламчі чамо лю-лі-ко,— падхапіў Зуеў і перайшоў на ўмольную скорагаворку.— Песня добрая. Слаўная песня, генацвале ты мой. Мы яе потым урэжам. Шаплыка як прыедзе — урэжам адразу. А цяпер — спаць. Гэта — паратунак. Ты спі. А я — паспяваю...

Зуеў ціха забубнеў, як нешта казаў сабе пад нос. Дзіўныя і незразумелыя словы ўразілі Насту. А вось мелодыя — знаёмая. Гэта ж «Суліко»! Так, так... Толькі словы не нашы. Мабыць, па-грузінску Зуеў сіліцца спяваць. А голас самотны, тужлівы, быццам адпявае нябожчыка, быццам хаўтуры правіць...

Тужлівая, падобная на далёкі, прыглушаны плач мелодыя рэзала сэрца; часам гаротная нота ў ёй цішэла, як бы глухла, разлівалася па зямлі, адплывала ў маладую папараць ля арэшніку і, крышку паблукаўшы там, вярталася, дрыжала лісовымі пагалоскамі, зноў

набірала сілу, і тады Насце рабілася прыкра, нядобра. Пакрысе выспявала, мацнела адчуванне свае вінаватасці. І Наста сілілася заглушыць яго, скрышыць рашуча і бязлітасна. Дарма, дарма яна кроіць сабе сэрца. Ну што, што змянілася б, каб яна праседзела ноч тут, ля Вахтанга? Добра, дапамагла б, скажам, Зуеву вынесці яго сюды, пад арэшнік. А далей?..

З гэтай горкай развагі яе выбавіў Грач. Хай сабе і на кароткі час, але ж выбавіў, і яна была яму за тое ўдзячная. Ён падышоў, паставіў ля яе ног вядро, у якім учора варылася мяса.

— Ідзі памый. І вады набяры,— папрасіў ён стрымана і дадаў, як бы некага дакараючы: — Трэба ж есці варыць. Вайна — вайною. А жывот свайго патрабуе: яго не ўпросіш, яму не загадаеш.

Шаруючы вядро верасовым жмутом, Наста чула ўсё тую ж, цяпер прыглушаную, мелодыю, якую паранейшаму цягнуў Зуеў. Не, цяпер вось і аціх. З чаго, цікава? А-а, з Грачом пра нешта гамоняць. А Грач ажно на галаву вышэйшы за гэтага Зуева. Мажны, шырокі ў плячах. Нават і адсюль гэта добра відаць.

І як адсунулася ўсё, як бы аддалілася, і шухнула ў скроні гарачыня, замуціла розум, прымусіла грукатліва забухаць сэрца — зноў мігнулася, як і было ўжо не раз і ўчора, маці. Гэта ж яна, маці, найперш разгледзела Грача, была ад яго ў захапленні. І тады, як трызніла, усё яго, Грача, клікала — было, праўда, лаяла, вінавáціла! — і ласкава з ім гаманіла. Быццам прадбачыла ўсё, што адбудзецца потым. Лёс, маўляў, гэта твой, Настачка. А твой жа які лёс, матулечка? Дзе ты цяпер? Як цяпер адшукаць?..

Клопат гэты жыў, вярэдзіў сэрца. Але ён, гэты клопат, быў як бы аддалены, яго адсоўвала ранейшае ўзрушэнне, якое жывілі думкі пра тую зялёную нару пад хвояй, дзе яны з Грачом былі ўночы. А што, каб яна не саступіла Грачу? Не, ён бы ўсё роўна дамогся свайго. Ён — дужы. А жанчыне і патрэбен мужчына дужы, каб мог абараніць, каб было на каго абаперціся. А ён дужы, вельмі дужы, гэты яе Грач! Дзіўна, яна як бы зноў апраўдваецца, як бы просіць некага і нешта ёй дараваць. А патрэбы ў гэтым няма. Назад жа не павернеш. Дый, каб і можна было, навошта ж? У імя чаго?

Стрымліваючы сябе, павярнула галаву, скоса зыркнула назад, на арэшнік, пад якім стаялі вазы. Грач



4 Зак. 2588

пра нешта цяпер з Канапелькам гаворыць. І Зуеў да іх кіруецца, стаў насупраць Грача, нешта даводзіць, і Канапелькава галава паміж імі, бы мячык. І Канапелька нешта то аднаму, то другому гаворыць, і гаворыць заўзята, рукою ўзмахвае, быццам цвікі кулаком заганяе. Што, цікава, там адбываецца? Пра што гаворка? Дзіўна, але ж Грач дагэтуль нічога не сказаў ёй пра жалезную скрыню, якую не выпускае з сваіх рук Канапелька. Ды не, дзіўна не гэта, а тое, што ты нос соваеш туды, куды цябе не просяць. Мала табе таго, што цішком сказаў табе Шаплыка? Ды болей, чым дастаткова. Дык не ж, ёй яшчэ больш карціць даведацца, чакае, каб і Грач шчэ нейкую таямніцу адкрыў. А ёй не аб скрыні жалезнай, што на возе ў Канапелькі, думаць трэба! Як гаротнікам гэтым, параненым, дапамагчы — вось які клопат хай табе галаву ломіць! Чатыры курсы за плячыма, урач, лічы, дыпламаваны! А што ён, гэты ўрач дыпламаваны, можа. Гэтае старое вядро вось ужо колькі часу шаруе-муруе, а яно ўсё роўна бруднае!

Зноў зрабілася суха ў роце, быццам салёнага наглыталася. Але ж салёнае яна толькі ўчора ела, мяса тое з сухаром. Гэта шчэ добра, што казулю ўчора ім лёс падкінуў. А каб не гэты выпадак? Ды не соль у слоіку? А каб не гэты ручай з крынічнай вадзіцаю? Ад усяго, выяўляецца, залежыць чалавек. Ды гэта ж ім, здаровым, галава ў-унь як баліць! А параненым, бездапаможным?..

Яна асушыла поўныя прыгаршчы, а тады, як нагнулася над ручаём зноў, атарапела. Вада ж нейкая брудная, быццам нехта непадалёк бераг абвальвае — плыве і плыве нешта чорнае. А-а, гэта ж бервяно, што з тарфянога беражка вытыркаецца, вінаватае — нагой націснеш, дык з-пад яго і гоніць плынь шумавінне. Цяпер ачысцілася вадзіца, празрыстая зноў зрабілася, усё на дне добра бачыш, нават як пясочак за каменьчыкамі круціцца. А далей, пад берагам, нейкая дзіўная торба ў вадзе. І трымціць, дугаецца, бы жывая. І грыміць нешта пад ёю, быццам з бляхі зроблена і па бруку коціцца. Не, кананада гэта! Зноў загрукатала. Глухая, далёкая...

Наста рэзка выпрасталася, не выпусціўшы вядра, і перад вачыма — доўга стаяла, нізка прыгнуўшыся ля вады,— мільганулі кудлатыя цёмныя плямы, панеслі-

ся за ручай, да цёмна-сініх кустоў ядлоўцу, што прысадзістымі стажкамі аселі на лугавіне ля алешніку. У Насты ажно вядро здрыганулася ў руцэ. Нехта ж стаіць за тымі стажкамі. Стаіўся і цікуе за ёю. А яна карабін не ўзяла з сабою, быццам цацку непатрэбную ў склепе пакінула!

Наважылася мітнуцца ад ручая, азірнулася, і дрогкая гарачыня зляцела з вачэй. Грач сюды шнуруе! І яе карабін нясе, за дула яго ўзяў, на плячы трымае. Прыгожа, упэўнена крочыць. І нікога няма ля таго ядлоўцу. Фу-у... Чартаўшчына якая ў галаву ўлезла. Гэта добра, што ад страху не завойкала, не пабегла да вазоў Зуеву на пацеху!

— А навошта было бакі шараваць? Толькі знутры пачысціць трэба,— і ён узяў з яе рукі вядро, зачэрпнуў вады, паставіў на затравелы бераг.— Мяса цяпер трэба дастаць. Гэта ўчора Лабук падказаў: у плашч-палатку зацiснуць — на дно ручая тады. Вада крынічная, як у халадзільніку ляжыць. І муха не сядзе.

— Я дык была і спалохалася, калі зараз вось убачыла. Падалося, што галава чалавечая там, у вадзе,— яна сказала толькі пра гэта, што ў вадзе ўбачыла, а пра ядловец вырашыла не казаць. Аднак у той бок паглядзела, дадала, абвёўшы позіркам цёмна-сінія стажкі: — А кананада, каб на яе халера, зноў грыміць. Але пацішэла. Дый намнога.

— Гэта і кепска. Падобна, што на ўсход яна пакацілася.

— А хто ж яго ведае, куды яна пакацілася.

— І гэта верна. Бяры сваю гарматку,— ён працягнуў ёй карабін.— Зброю не кідай абы-дзе. Лепей хай на плячы вісіць. Яно, вядома, і цяжка і нязручна. Але ж затое — пад рукою. Цяпер без зброі адразу з катушак далоў.

— Улічым, таварыш камандзір!

Убачыла ў Грачовай чупрыне шыгалінку, узяла яе, і затрымцелі пальцы — ажыла ў памяці дзівосная ноч. Цяжка, як тады, выблытвалася з валасоў шыгалінка з кропляю жывіцы на кончыку... Усё, літаральна ўсё, выяўляецца, лягло ў памяць, засталося, жыве.

І яшчэ больш сумелася, калі ўгледзела, што твар у Грача дужа стомлены, учарнелы і на ім цёмным вуголлем свецяцца журботныя і ласкавыя, поўныя скрухі і замілавання вочы, якія зрабіліся ёй роднымі.



# 7

Сонца зноў садзілася над балацінай гэткае ж вялізнае і агністае, як і ўчора. Але сёння па правы бок ад яго, як бы чакаючы нечага і баючыся наблізіцца, грувасціліся дзіўныя, як усё роўна састаўленыя ў два аграмадныя стагі, кудлатыя шызыя воблакі.

Сеўшы на верасовую купіну ля старой сасны побач з Настай, Грач доўга глядзеў на сонца, потым прытоена ўздыхнуў:

— І там, на небе, не па-людску ўсё круціцца цяпер. Ты гэткае сонца калі-небудзь бачыла? Як усё роўна ў крыві яно... А воблакі гэткія?

— Здаецца, не бачыла. Не ў памяці, адным словам. Адсюль сонца лепей відаць, чым ад смалакурні.

— Лепей, вядома. А галоўнае, мы Шаплыку і Лабука раней ад усіх убачым. Перахопім і распытаем. Шчэ ж невядома, якія яны навіны нам вязуць. Параненых хваляваць без патрэбы навошта ж. Як, на тваю думку?

Яна не паспела адказаць — вуха злавіла зглушанае тупанне, як коні недзе імчалі! — і схапіла Грача за руку:

— Чуеш? Капыты стукаюць. Нашы імчаць!

Грач наструнiўся і, servicesуслухаўшыся, вяла махнуў рукою.

— Сарока гэта. Недзе там, ля грушы-дзічкі, здаецца. А табе — коні,— і, як бы засаромеўшыся свае рэзкасці, дадаў памяркоўна: — Хаця, ведаеш, яно заўжды гэтак, калі нешта дужа чакаеш. Хочацца нам капыты пачуць? Вось на гэта вуха і настройваецца.

— Але ж чаго гэтак позняцца, вось ты мне што скажы. Няўжо — баюся нават і падумаць — бяда якая прыключылася?

— Бяды прыключыцца не можа з імі. Лабук — аторва. І Шаплыка яму не саступіць. Раніцою вернуцца. І тое, што позняцца, мяне, прызнаюся, мала і непакоіць...

Грач хлусіў, і гэта было відавочна. Тое, што Лабук

і Шаплыка не вярнуліся ў дамоўлены час, Грача моцна ўсхвалявала яшчэ ўранні. Апоўдні ж ён увогуле месца сабе не знаходзіў, шмат разоў лётаў да грушы-дзічкі, адкуль добра праглядвалася пуцявіна, што ішла ад смалакурні па краёчку балаціны і знікала ў лесе, а ўвечары, калі хутка пакацілася на захад сонца, трывога агарнула яго па-сапраўднаму. Ён, аднак, усяляк гэта таіў, спрабаваў выглядаць вясёлым і ўпэўненым. Наста рабіла выгляд, што нічога гэтага не заўважае. Яна ахвотна пайшла з ім да грушы-дзічкі, потым сюды, на ўзлесак, да гэтай стромай сасны, ля якой, быццам ля слупа, пуцявіна крута брала ўправа — па гэтай дарозе паехалі на разведку Лабук і Шаплыка, па ёй і павінны былі вярнуцца. Неспакой і трывога прывялі сюды Грача, і гэта было натуральна, і таму цяпер яго словы гучалі роблена і няшчыра.

— Мала і непакоіць? — перапытала, як бы недачуўшы, Наста і паглядзела на Грача з дакорам.— А што ж тады цябе непакоіць?

— Па-першае, цішыня.

— Не разумею.

— А чаго ж тут не разумець? Мы ў апошні раз чулі кананаду ўранні, і аж дасюль — цішыня. Цалюткі дзень, як у мяху: каб табе дзе выбух, стрэл, толькі птушкі абзавуцца ды голле прашуміць. У мяне ажно ўвушшу звініць ад гэтай цішыні.

— А што, як усё ўжо і скончылася? — папытала яна, наўпярок сваім думкам, што гаворыць лухту, добра ўсведамляючы, што гаварыла пра тое ўжо неаднойчы, што хаваецца за гэтыя словы ад трывогі і неспакою.— Вайна скончылася, а мы сядзім і не ведаем.

Ён змучана і каротка рагатнуў:

— Ха, скончылася. Але, можа, твая праўда тут і ёсць: наўкола нас яна, відаць, і скончылася. Фронт адкаціўся гэтак далёка, што яго ўжо нам і не чуваць.

— Здагадкі, не больш.

— Вядома ж, здагадкі. Але ж цішыня — факт рэальны. І ён мяне непакоіць, гэты факт.

— А другое? Што, па-другое, цябе непакоіць?

— Па-другое, тое, што за ўвесь дзень Наста аніводнага разу мяне не пацалавала. Хіба ж гэта добра?

— Не ведаю,— яна паціснула плячыма, здзіўленая і адначасова ўзрадаваная яго пытаннем.

— А я ведаю: нядобра. Пагана нават, каб ты ведала.

— Каб пачуў хто-небудзь нашу гаворку, дык толькі адно і сказаў бы: падурнелі яны абодва.

— А мне думаецца, што зусім іншае... Хаця, які-небудзь разумнік, напэўна ж, паўтарыў бы твае словы. Але калі там, на белым гэтым небе, нехта сядзіць і нас бачыць, дык ён адно абвесціць на ўвесь свет: самыя разумныя — яны. Яны не забіваюць! Яны кахаюць! І таму яны — самыя разумныя!

Ён паклаў ёй рукі на плечы. Але Наста вызвалілася з яго абдоймаў, вызвалілася не вельмі настойліва і рашуча, і тады ён груба паваліў яе на верасы, бухнуўся побач і ляжаў, не даючы ўзнімацца.

— О-ой, ну навошта ты? — папытала яна, услухоўваючыся ў тое новае, што зноў тлумным агнём пачынала біць у скроні; на міг ёй падалося, што макаўка сасны дугнулася і плыве па блізкім бэзавым небе.

Грач гладзіў яе па валасах, і пальцы заглыбляліся ў валасы і сціскалі патыліцу, а вусны цалавалі моцна, прагна, і голас яго гучаў задыхана, як усё роўна толькі што чалавек доўга і хутка імчаў на гару:

— Маўчы, маўчы, маўчы!

— Нас жа ўбачаць!

— Хто нас убачыць? Нікога няма тут.

— Дарога. Мы ж ля самай дарогі.

— Ну і ліха з ёй, дарогай гэтай. Мы ў верасах.

— Ты што, Грачок родны! Светла ж!

— Ну і ліха з ім, што светла. Я пры святле хачу. Вочы твае бачыць хачу.

— Наробіш ты бяды. Наробіш...

І зноў, як і ўночы, супрацьўляліся толькі словы. А ў руках ужо было сваё жыццё, і сваё жыццё было ў вуснах, якія таксама прагна лавілі Грачовы губы, і ў закрытых вачах Насты плылі, вагаліся вялізныя агняныя верасы...

Яны вярнуліся да смалакурні, калі сонца ўжо зайшло, і ў тым месцы, дзе яно схавалася, расплылася цёмная хмарная палоса.

— Заўтра, мабыць, дождж нагоніць,— сказаў Грач, стоячы ля нацягнутай конусам плашч-палаткі, пад якую адразу зашылася Наста.— Сонца ў хмару зайшло. Верная прыкмета — дождж.

— Можа, усіх у склеп перанесці? Ці ў дашчанік. Раптам ён уночы пойдзе.

— Ніхто не хоча. Я папытаў. Спі.

— А ты што будзеш рабіць?

— На варце пастаю. Потым мяне Зуеў падменіць.

— Лепей я Зуева падмяню.

— Жанчын у нарад не пасылаюць. Я табе ўжо сказаў. Спі. Хай табе добрае сасніцца...

Наста ляжала, скурчыўшыся на лапніку, на якім было крыху саламянай трасянкі, і сілілася ад усяго адключыцца. Але сну не было. Стомленае цела прагла адпачынку, а розум быў як наэлектрызаваны і гнаў спакой прэч. Яна ўзіралася ў цёмны і шчыльны, як з каменю, крайчык арэшніку, потым, калі вочы стамляліся, пераводзіла позірк на зорны россып увысі над макаўкай грушы-дзічкі. Дрэва нібыта сюды, да плашчпалаткі, падскочыла, і зоркі над ім буйныя, мігатлівыя і колкія. Холадам ад іх патыхае, нібыта яны з лёду і вісяць побач, ля саменькіх вачэй. І ад зямлі холадам пакрысе цягне. А ўчора як цёпла было ў той зялёнай пячорцы пад хвояй і якое мяккае выдавала шыгалле. І верасы ля дарогі былі мяккія, цёплыя, угрэтыя ўдзень сонцам. Ажно храбусцелі яны пад рукой Грача, на якую лягла тады яе галава. Адчайны і смелы ён, гэты яе Грач! Слаўны ён і мілы. Як ён тады камароў адганяў. А тут камароў паналяцела густа. А там, у верасах пад сасной, іх меней было. Не, хапала іх і там. Толькі там цябе Грач затуляў!

Згадка пра верасы ля стромай сасны, у якой дугалася, як плыла па бэзавым небе, макаўка, зусім расслабіла стомленае цела. Наста адчула, што зараз засне. Яна шчыльней падціснула да грудзей зазяблыя калені, нацягнула на вушы і патыліцу вузкі каўнер кофтачкі. Пра камароў падумала з паблажлівай усмешкаю: жарыце, праклятыя. За ноч не паспееце ўсю маю кроў высмактаць, захлынецеся. І дзіва нейкае: адразу і цяплей зрабілася. І пагнала некуды тонкі нудны гуд, і быццам сама плывеш, і сцішаецца бомканне ў скронях...

Праз нейкі час — колькі спала, не ведала — Наста прачнулася. Пачула прыглушаныя галасы — Грач нешта настойліва даводзіў камісару — і падхапілася, як хто падкінуў яе на лапніку. Значыцца, апрытомнеў камісар! О-о-ёй, радасць якая! Але ж чаго гэтак настойліва дамагаецца Грач? Трэба слухаць, слухаць!

— Таварыш камісар! Вам трэба спаць. Зноў легчы і спаць,— голас Грача гучаў манатонна і крыху раздражнёна.— Тады вы ўжо заўтра зусім здаровы будзеце. Крышку прайшліся — і до. Нельга ж адразу — стометроўку быццам гнаць!

Вальмус заўпарціўся:

— А я кажу: пойдзем! Пакажаш, дзе пасты паста́ўлены.

— Пост у нас адзін. Ля дарогі. Зуеў мяне падмяніў. А тады я на падмену яму стану.

— А што, у нас людзей больш няма?

— Няма. Шаплыка і Лабук у разведцы. Яшчэ не вярнуліся.

— Як вернуцца — адразу далажыш.

— Ёсць адразу далажыць. Вам неабходна зноў заснуць.

— Я ведаю, што мне трэба. Ідзі і глядзі пост.

Усталявалася цішыня. Адале пачулася храбусценне папараці, але не збоч арэшніку, а ля дашчаніка — бліжэй да балаціны.

— Зуеў, ты? — прагучала ціхае запытанне Грача.

— Ён самы.

— Чаго гэтак часта ходзіш? Я ж загадаў: праз паўгадзіны.

— Гадзіннік гэты Шаплыкаў падводзіць. Дужа ж густа свецяць стрэлачкі — не па-нашаму, адным словам. Барахло гэтае трафейнае Шаплыка сплавіў. Знарок, мабыць, каб мне прачоска была.

Грач паабяцаў:

— Шаплыка твой шчэ ў мяне атрымае на арахі. Каб ведаў, як загады не выконваць.

— А ён загад не парушыў, таварыш камандзір. Вы загадалі? Ён трафей і выкінуў. А я — падабраў.

— Гэтак ён, здагадваюся, і кідаў, у тваю кішэню цалячы.

Крокі, аддаляючыся, зглухлі. Было добра чутно, як недзе па правы бок ад балаціны тройчы, з роўнымі інтэрваламі, бухнуў пугач. Адале, як толькі аціхла слабенькае рэха, мякка зашорхалі асцярожныя крокі, і Наста ўгледзела ля палаткі няўклюдны цень. Па лёгкім чмыханні пазнала, што гэта Грач, і тым не менш шэптам папытала:

— Хто?

— Ды я гэта. А чаго табе не спіцца?

— Прыдрамала, а потым прачнулася. Гэта голас камісара я толькі што чула?

— Ну... Апрытомнеў, дзякуй небу. Але шчэ большае дзякуй — табе: спраўдзілася тваё слова. Лічы, з таго свету наш Вальмус вярнуўся. Стаў на ногі і адразу — піць папрасіў. Вадзіцы халодненькай.

— Там жа, у кацялках, адвар ёсць.

— З кацялкоў не схацеў. Да ручая загадаў адвесці — дужа зарадаваўся, што месца добрае знайшлі. Ля вады.

— А зараз зноў заснуў?

— Ну... Ледзьве ўпрасіў, каб ляжаў і спаў. Цяпер цябе пачну ўгаворваць, каб спала. Заўтра ў нас цяжкі дзень. Вернецца разведка — адразу ў марш. Загад камісара.

Сэрца бухала ў грудзях, Наста радавалася, што Грач побач, што з ім можна гаманіць, і не хацела, каб ён пайшоў.

— Але ж куды, куды нашы падзеліся? Як у палонку юкнулі.

— Дрыхаля, думаю, недзе даюць. Точна, точна...

— Спяць? У разведцы? Дзіўна ты гаворыш.

— Удзень — разведка. А ўночы што ўгледзіш? У гэткай цямрэчы можна да самога д'ябла ў пашчу юкнуць, як ты кажаш. Бяры...

— А што тут? — яна нічога не ўгледзела ў руцэ, якую Грач тыцнуў як не пад самы яе нос.

— Порах з патрона натрос. Расцірай у далонях, а тады — па валасах, па скуры. Аніводны камар не джыгне.

— Яны што, пораху не любяць?

— А чорт жа іх ведае. Порах, мне думаецца, толькі смерць любіць. Смерць да пораху ахвочая.

Абрысы Грачовай постаці былі не вельмі выразныя, цемра скрадвала лініі, і Наста неспадзеўкі адчула нейкую невыразнасць і няяснасць і ў яго словах і падумала, што ён знарок гаворыць гэтак бадзёра і ўпэўнена. Але яна была ўдзячная яму за клопат, падставіла далонь; скуру заказытаў каляны россып, падобны на астуджаны жвір.

— Ніякага ж паху не адчуваю,— засумнявалася Наста.— Нічым, здаецца, ён і не пахне.

— Навошта табе той пах? Ты на вынік глядзі.

— Паглядзім зараз і на вынік. І што папрашу: як

нашы вернуцца — мне адразу пад'ём. Раптам камары ўсе ад мяне паўцякаюць, дык моцна спаць буду. Коней не пачую.

— Пачуеш. Коні калі запокаюць капытамі — сама ўскочыш,— і, уздыхнуўшы, сказаў, як секануў з пляча, строга і загадна: — Дабранач!

Грачова постаць гайданулася і тут жа растала. А крокі доўга было чуваць, насцярожаныя, занадта запаволеныя. Услухоўваючыся ў сухое шурхаценне верасоў пад Грачовымі ботамі, Наста расцерла порах у далонях, сыпанула сабе на патыліцу, пацерла валасы за вухам і шыю, потым паднесла далоні да носа — ад скуры ішоў слабы гаркавы смурод дыму.

«Смерць да пораху ахвочая...»

Ад Грачовых слоў, якія згадаліся неспадзеўкі, патыхнула холадам. Наста зноў скурчылася, прымаючы звыклую паставу, апрабаваную ўжо: падцягнула калені амаль да падбародка, прыкрыла іх локцямі, а пальцамі рук звяла на носе канцы караткаватага каўнерыка кофтачкі. Быццам і цяплей зрабілася. Шчэ каб ногі чым акрыць, дык і ўвогуле слаўна б было. Але ж чым ты іх акрыеш? Гэта, між іншым, табе, расцяпа, навука на будучае: не выскоквай з вагона, нібыта матыль бесклапотны. Цяжка было хусцінку на плечы ўскінуць? О-о, каб жа зараз ды сюды яе, белую, мяккую, з прыгожымі доўгімі махрамі, што засталася ў кутку вагона на лаўцы ля маці! Дзе цяпер той вагон? Дзе той іх эшалон, у якім засталася маці?.. Можа, ёй і пашчасціла і яна даўно на ложку ў бальніцы, ля акна, на якім белыя фіранкі? У бальніцы не тое што тут, ля гэтай балаціны, ад якой пад раніцу гоніць густы золкі туман. У бальніцу, хай яна і не самая лепшая, аніякі табе туман не запаўзе: там і лекі дадуць, і перавязку зробяць своечасова, і накормяць. Прынамсі, на ежыва табе, галубанька, наракаць няма чаго: і ўчора і сёння смачнае мяса елі, як гаворыцца, ад пуза. Чаркас з Вахтангам, праўда, нічога не елі, яна іх ледзь упрасіла, каб булёнчыку глытнулі. А камісар — анічагуткі, акрамя адвару зёлак, што назбірала ў лесе. А вось жа апрытомнеў. Відаць, лекі гэтыя лясныя дапамаглі. І Канапелька лепей сябе пачувае, і Аўдошка, і Буркун. А калі зранку, як абяцае Грач, адразу ў марш? Зноў на вазах трэсціся ім? Прынамсі, яны могуць і патрываць. А як тое перанесці Вахтангу і Чаркасу? Іх тэрмінова трэба

ў добры шпіталь, у бальніцу, дзе ёсць аперацыйная, дзе мяккія ложкі, белыя фіранкі на вокнах...

Наста нібыта ўяве ўвайшла ў нейкі вялікі чысты пакой, з высокімі вокнамі, белымі дзвярыма, на якіх блішчэлі тоўстыя вензелястыя ручкі з бронзы,— у гэткім пакоі яна была, калі прыехала на практыку ў Оршу. Белыя фіранкі шматаваў вецер, быў ён цёплы, ласкавы і мяккі, і яго парывы закалыхвалі, суцяшалі, і на душы рабілася ўсцешна і добра.

Абудзіла Насту конскае ржанне. Адплюшчыла і зноў заплюшчыла вочы — гэткім рэзкім і зыркім было сонечнае святло ціхай пагоднай раніцы. А твары людзей выдавалі чорнымі, як з вугалю. Мо ўсё гэта ёй сніцца? Ды не! Ніякі не сон! Вось зноў заржаў конь, пачала тонка і весела вызвоньваць піла: жыў-зу-у, жыў-зу-у...

Таропка правяла рукою па твары і, прыціскаючы да броваў растапыраныя пальцы, зноў адплюшчыла вочы. Святло дня выдавала цяпер як крыху прыгаслае, з постацей людзей знік вугальны бляск. Разведка, значыцца, вярнулася! Шаплыка поіць каня ў ручаі. Лабук і Зуеў нечага поркаюцца ля тонкіх асінак, што купкаю растуць паміж арэшнікам і бярэзнікам. Грач стаіць ля воза — размаўляе з нейкім незнаёмым чалавекам. Ды не, гэта ж Вальмус. Грач нахіліў галаву, уважліва слухае камісара, а твар яго змрочны і заклапочаны.

Імпэтна, у адчайным шале Наста выскачыла з палаткі. Але ісці не магла і стаяла, паспеўшы ўхапіцца левай рукою за арэшыну: ногі скруціла паганая ватовая слабасць — адлежала.

— Добрай раніцы,— павіталася Наста бадзёра, у радасным узрушэнні.

Вальмус зыркнуў на яе непрыветна, быццам быў дужа незадаволены яе з'яўленнем, адале адказаў на вітанне пачцівым нахілам галавы і пайшоў да асінніку. Грач рушыў следам за ім. Але зрабіў колькі крокаў і падбег да Насты. У вачах яго не было радасці, на ўсім абліччы ляжаў адбітак скрухі, разгубленасці і заклапочанасці.

Усёй істотаю адчула, што Шаплыка і Лабук прывезлі сюды не радасць, а нешта нядобрае, і, усё яшчэ не верачы ў нядобрыя навіны, якія зараз пачуе, паўтарыла:

— Добрай раніцы!

— Раніца, як бачыш, добрая,— ён пацiснуў і крыху затрымаў Насціну руку ў сваёй далоні.— Навіны толькі добрымі не назавеш. Кепскія навіны.

Толькі цяпер кінулася ў вочы, што ўсё наўкола выглядае зусім іначай, чым учора. Змокла і счарнела ад расы плашч-палатка, нейкія хатулі горбяцца на возе, дзе ляжаў звычайна Канапелька, жаўцее пясчаны пагурак пад маладымі асінкамі. Ля яго завіхаецца Лабук. Учора Грач забараняў Канапельку абсморгваць лісце з гэтых асінак, а цяпер неяк раўнадушна глядзіць на тое, што Лабук абсякае ніжнія галінкі асінак блішчастым на сонцы трафейным цесаком.

— Чаму яны кепскія? — Наста ўсё яшчэ як бы і не верыла.— Не знайшлі шпіталь?

— Які шпіталь табе? Фронт за Дзвіною ўжо. Тое, што мяне непакоіла... тое і здарылася.

— За Дзвіну фронт адкаціўся? Не можа быць!

— Можа, на жаль. Ды шчэ гэтак, што нашы разведчыкі ледзь ногі адтуль, ад Дзвіны, вынеслі. Паехалі — бачыш жа? — на двух конях, а вярнуліся на адным,— і раптам, як бы вырашыўшы, што сказаў Насце больш чым дастаткова, цокнуў языком: — Усе мае надзеі — з катушак далоў!

— А як жа мы? А як жа нам цяпер?

— Як? Ды аніяк. Усіх багоў разам цяпер прасіць будзем. Ну, бягу. Вальмус кліча!

Крыўда падціснула сэрца. Яна, Наста, гэтулькі чакала, нудзілася, пакутавала, хвалявалася. І прасіла ж, каб пабудзіў, як толькі разведка вернецца. Не пабудзіў. І нічога цяпер па-людску не патлумачыў, не расказаў як след, пабег да камісара, быццам там, ля склепа, дужа ўжо такая пільная патрэба ў ім. А той, здаецца, і не клікаў Грача. Няўжо гэта Грач сказаў знарок, каб як мага хутчэй ад яе адчапіцца, не спыняцца на падрабязнасцях тых навін, што прывезла разведка? Не, зрабіў вось Вальмус знак рукой — патрабуе, каб Грач прыбавіў ходу.

Наста глядзела на Грача, які ішоў, як бы забыўшыся на яе існаванне, і прадчуванне жахлівай бяды, якая пагражае ёй асабіста, падціснула сэрца. Трэба ёй самой пагаманіць з разведчыкамі, тады, мабыць, больш высветліцца. Дзіўнае нешта робяць ля асінніку Лабук і Канапелька. Канапельку ж хадзіць не трэба, нага па-

раненая, а вось жа клыпае, на нейкую кульбу абапіраючыся, нешта паказвае Лабуку. Той жа стаіць на каленях, успорвае трафейным цесаком жоўты пясок, грабе яго ў яміну. На маладых, салатавага колеру лісцінках асіны, параскіданых наўкола, вясёлкава блішчаць расяныя кроплі. Уночы, здаецца, было гэтае лісце абцярэблена.

— Вітанне,— Лабук салютнуў цесаком, і ў неглыбокай пройме пасярэдзіне ляза, вышараванага сырым жвірам да зіхотнай яснасці, як агонь бліскануў.

Канапелька павітаўся, не ўзнімаючы галавы. Шумна соп Лабук, упарта хаваў вочы, і Насце падалося, што яны абодва як бы адсоўваюць яе ад свайго занятку, паводзяць сябе так, быццам просяць ісці адсюль, не замінаць. Нешта — відаць жа! — яны тут хаваюць. І не хочуць, каб яна тое бачыла. Ды ліха з імі! Яна пойдзе, знарок адвернецца!

Ля ручая пачаў гучна пасвістваць Шаплыка:

— Цюў-цюў-цюў...

Насту нібыта паклікалі, адтуль, ад ручая. Хіба ж не дурніца яна? Вось хто ёй усё патлумачыць, вось хто аб усім падрабязна раскажа!

Да ручая праставала амаль подбегам. Шаплыка шчыра радаваўся і глядзеў прыязна. Размаўляў, аднак, з канём:

— Пі, стаеннічак, пі, родны! Шчэ невядома, калі табе давядзецца потым гэткае слодычы глытнуць,— і кіўнуў галавой Насце.— Вітаю, вітаю...— і зноў да каня.— Чаго вочы на лясную прыгажуню паказеліў? На яе нават мне зрэдку дазволена зірнуць.

— А другі конь дзе? — спытала Наста, спадзеючыся, што зараз пачуе нешта новае, пачуе зусім не тое, што паведаміў ёй Грач.

— Па кані, гляджу, галава ёй баліць. А сказаць дзякуй лёсу, што нас, жывых, убачыла, не хочаш?

Яна прыкмеціла, як увачавідкі чэзне ў яго вачах прыветнасць, набірае глыбіню панура-злосны бляск, прамовіла будзённа і суха:

— Ужо сказала. І шчэ сто разоў гатова сказаць.

— Во, гэткія словы і пачуць прыемна. Затое ж мае слоўцы — адно паскудства: Полацк — у немцаў, Віцебск — у немцаў, Мінск — імі ж забраны. І далей пруць, як маца быць.

Розумам паверыла, а ў сэрцы выбухнулі нязгода, пратэст, злосць на тое, што даводзіцца чуць гэта, выбухнула крыўда на тое, што Шаплыка гэтак раўнадушна паведаміў ёй горкія навіны, і яна выпаліла ў гэты непазнавальна зменены, зарослы рудой шчэццю твар:

— Брэшаш! Не паверу!

— Папрасі ў Грача карту і паглядзі.

— А што мне твая карта?

— Нямецкая карта, не мая. І ля кожнага горада нашага — дата на ёй стаіць: дзень пазначаны, калі той горад павінен быць узяты імі. Да самай Масквы — кожны гарадок пазначаны.

— І Масква, ты хочаш сказаць, пазначана? — іранічна перапыніла яна Шаплыку.

— А ты ідзі і зірні. Вунь камісар з Грачом карту тую зноў вывучаюць. Круціць, о-ой кру-уц-ціць галавой Вальмус. Цяпер толькі і застаецца, што галавой круціць.

— Скуль жа тая карта ўзялася ў цябе?

— Легкавушку мы кокнулі. Пад самым Полацкам. Як назад ехалі, ля Экімані. Тры тузы ў ёй кацілі — будзь здароў. Але мы з Лабуком у кашульцы, мабыць, нарадзіліся. На ім пілотку куля знесла. А мне — бачыш? — у спражку цюкнула,— ён пашараваў даланёю падраную, але прыціснутую дзягай гімнасцёрку.— Гэта ж трэба было, каб і рэмень сюды перакруціўся — як ведаў, што Шаплыкаў жывот трэба ўратаваць. Куля зрыкашэціла, але скуру мне шкрабанула. Шчэ і каню дасталося. А на гэтым Лабук ехаў.

— А таго вы пахавалі!

— На хутары пакінулі. Гаспадар узрадаваўся: добры конь, казаў. А рана — залечыцца.

У яго вачах засвяцілася радасць, і гэтая радасць прымірыла Насту з Шаплыкам. Дарма яна, дурніца, крычыць на чалавека, сярдуе, быццам ён толькі і вінаваты, што фронт адкаціўся далёка. З Шаплыкам ты хоць пагаманіла па-людску, аб усім, лічы, дазналася. Не, не аб усім. З ім трэба шчэ гаманіць і гаманіць!

— Шаплыка! Доўга ты яго паіць будзеш? — далятаеў ад асінніку незадаволены Лабукоў покліч.— Жывот у каня лопнець. Палову ручая ўжо выжлукціў.

— Зараз іду!

— А што яны там робяць? — Наста вырашыла як мага даўжэй затрымаць Шаплыку, распытаць падра-

бязна пра тое, што яны бачылі ля Дзвіны і ў дарозе. Не адзін жа дзень ехалі!

— Канапелькава багацце хаваюць. Вырашылі скрыню тую — там жа і каса палкавая! — тут пакідаць. Яны пойдуць, а мы схованку вартаваць будзем.

Зыркнула на Шаплыку скоса. Пачаў паводзіць сябе, нібыта блазан той. Але ж час зусім непрыдатны, каб жартаваць ды кепікі непатрэбныя ладзіць. Спытала, аднак, лагодна, без усялякага намеру абразіць:

— Хто гэта «яны»? І хто гэта «мы»? Нешта тут я не разумею да канца.

На Шаплыкавым твары мільгануў цень.

— А хіба табе Грач нічога не патлумачыў? Параненыя тут застаюцца. А ўсе здаровыя — у марш. Сёння ж увечары — марш. Вальмус загадаў: дагнаць і перайсці фронт. Да сваіх прабіцца. Ачуняў і пайшоў загады ляпаць.

Ён казаў праўду, яна гэта зразумела адразу, і ад гэтай праўды ў яе пагана заныла сэрца. Вось што схавана за гэтым «яны» і «мы»! З параненымі застацца загадаюць і ёй — гэта ж натуральна. Вось, выяўляецца, што тоіцца за няпэўнымі словамі Грача: а нічога, маўляў, усіх багоў разам прасіць будзем. Вось, знача, з чаго паклаўся на Грачовым абліччы адбітак скрухі і разгубленасці! Трэба не адпускаць Шаплыку, затрымаць, аб усім дазнацца! Відаць, ён жа і яшчэ нешта ведае!

— А хто ж будзе параненых лячыць, даглядаць? — спытала Наста, стрымліваючы дрыжыкі, ад якіх у яе ззяблі на нагах пальцы.

— Мы.

— Хто гэта «мы»?

Ён патрос у руках раменны повад, адказаў жартоўным выслоўем, якое працягнуў нараспеў:

— Ты ды я, ды мы з табою!

— Доўга цябе чакаць, Шаплыка? — зноў прагучаў нецярплівы покліч, цяпер ужо Канапелькаў.

— Іду, сказаў жа! — Шаплыка ляпнуў канцом повада сябе па далоні.— Не церпіцца, бач, ім тамака, работнічкам паповым,— і працягнуў гнуткі, як вужака, раменны повад Насце.— Вядзі каня на лугавіну — хай пасецца. Я раскілзаў яго.

— Ён жа ўцячэ!

— Набегаўся ён, будзе на траве.— і нечакана на

Шаплыкаў твар набегла ўсмешка, лагодная і даверлівая.— А ты спаць маста-ак! Каня да вады ведучы, я цябе паклікаў. І знарок патупаў, каб пабудзіць. Дык дзе ж там! Спіш, бы анёл на небе! Яны пойдуць, дык я твой сон вартаваць буду: спі, колькі душа запросіць.

— Я тут не застануся. Я таксама пайду. Я нікому тут не падначаленая!

Словы вырваліся ў яе роспачна, неспадзявана, наўпярок волі, вырваліся з такім болем і тугою, што Шаплыка атарапела адхіснуўся, адступіў на крок, пацісnуў плячыма. Нечакана адно вока ў яго прыжмурылася, і твар ад гэтага набыў выраз хмурны, непрыветны.

— Ты камсамолка,— як бы запытаўся і разам з тым сцвердзіў Шаплыка.— Ну вось... Па камсамольскай лініі Вальмус табе заданне і акрэсліць,— і тут жа яго вочы зыркнулі даверліва і лагодна.— Дарма ты толькі не кіпяціся — мая табе парада. І на сцяну, як гаворыцца, не скокай. Урач? Так, лічы, амаль дыпламаваны. Параненых, хворых людзей кінуць маеш права? Не маеш. Па-другое, паслухай Шаплыку. Вальмус кажа: наша задача — фронт дагнаць. Паздаравеюць параненыя — і яны пойдуць фронт даганяць. А навошта яго даганяць? Не выключана, што, пакуль ты будзеш за ім бегчы, ён і сам сюды прыкоціць. Таму шчэ невядома, што лацвей: мазалі на пятах наганяць ці тут, ля ручая, раскашаваць. І ты гэта май на ўвазе. Шаплыку, прызнаюся, босага на лёд шчэ ніхто не ўзагнаў. А, прызнаюся, спрабавалі. І неаднойчы... Вядзі, вядзі каня. Гэтыя, бачыш, зноў Шаплыку галёкаюць. Упраўіцца, папоўскія работнічкі, без мяне не могуць...

Наста вяла каня, нібыта ў нейкім чорным сне ішла. Пераскочыла ручай, тэпала лугавінай, гнала напрамкі, прыгаломшаная, як не свае ногі пераставляла. У канцы лугавіны, ля ядлоўцавых кустоў, конь тузануў повад, быццам запатрабаваў спыніцца. Ёй падалося, што нехта смаргануў яе за палец, на які быў намотаны повад, і яна спынілася, азірнулася. Убачыла Грача, які ішоў па яе слядах, апусціўшы галаву, як усё роўна нешта шукаў у доле.

«Яны, значыцца, пойдуць. А мяне пакінуць тут, у лесе...»

Наста зразумела горкі сэнс таго, што таілася ў рашэнні, якое было прынята без яе ўдзелу. Але паверыць у тое рашэнне яна ўсё яшчэ не магла. Ёй здалося, што

нешта ў Шаплыкавых словах яна зразумела няправільна, нешта перабольшыла, палічыла магчымы варыянт за прыняты бязлітасны загад, выканаць які ёй не пад сілу. У душы нарадзілася слабая надзея на тое, што, як толькі яна патлумачыць гэтую сваю слабасць, сваю няздольнасць выканаць ускладзеныя на яе абавязкі, усё зменіцца і загад сам па сабе спыніць сваё існаванне. Надзея гэтая мацнела імкліва, і Наста ўжо выстройвала свае доказы ў стройны ланцуг неабвержных фактаў, якія парваць і патрушчыць немагчыма анікому.

Грач набліжаўся, ён быў ужо амаль побач, і Наста з жахам адчувала, як бурыцца, развальваецца ланцуг разважлівых і лагічных доказаў, і яна выгукнула адчайна, у роспачы:

— Гэта праўда, што вы рашылі? Рашылі кінуць мяне тут?

Грач як ведаў, што менавіта гэта яна і скажа, і таму прамовіў сумна, падкрэсліваючы сваё шчырае спачуванне:

— Загадаў Вальмус. У арміі, як ты ведаеш, не рашаюць, а аддаюць загады.

— Ты... Ты лічыш яго гэты загад правільным?

З гаротнай асуджанасцю ён прызнаўся:

— Іншага выйсця няма.

— Ёсць! Усім разам ехаць. Параненых у шпіталь даставіць. Гэтак жа і раней было вырашана, калі ад гравійкі ехалі.

— Дзе той шпіталь? — Грачовы вочы глядзелі панура-злосна, і гэтак жа гучалі і яго словы.— Фронт адкаціўся... Мы ў варожым тыле апынуліся. У глыбокім тыле. Гэта ты можаш зразумець?

Конь моцна тузануў, раменны повад вужакаю выслізнуў з Насцінай рукі, і тады як нейкі гарачы туман лёг ёй на вочы. Насту працяў кароткай хваляю азноб. Вось, выяўляецца, які ён, твой каханы Грач! Усё ўтойваў ад цябе, не параіўся, не папярэдзіў, прымусіў, каб ты спачатку аб усім ад Шаплыкі даведалася, каб да гэтай размовы падрыхтаваная была!

— Я ўсё разумею,— марудна, з дзіўнай для яе самой лянотаю прамовіла Наста.— Я ўсё чысцютка бачу.

— О-о, каб ты ўсё бачыла, каб усё разумела! Вавёрачка ты мая слаўная.

— Бачу! — голас яе раптоўна зазвінеў.— Бачу і

разумею,— боль тугі, роспачы і крыўды драўся навонкі, і стрымаць яго Наста ўжо не магла, сілы на гэта ў яе ўжо не было.— Кожны, кожны ратуе толькі сябе... Як можа — гэтак і ратуе. Усё астатняе — пад ногі, пад ногі!

Грачоў твар набыў попельна-белае адценне, зрабіўся як мярцвяны, адале на шчоках, над куточкамі губ расплыліся няроўныя чырвоныя плямы.

— Т-ты...— урэшце здрыгануліся яго губы.— Ты лічыш: Грач — падлюга. Ён ратуе толькі сваю шкуру?..

— Аб табе не гавару.

— Тваё сэрца гаворыць затое. І я гэта чую. Але ж ведай і тое, што маё сэрца гаворыць,— ён глядзеў на яе ўважна, потым зняў з Насцінага рукава зялёную травінку.— У ім — ты. У ім і ўва мне — ты. І гэта — назаўжды. Зразумей!

Ёй падалося, як ужо аднойчы здарылася, што ідзе незразумелая гульня, у якой нічога не адпавядае сапраўднасці — і паводзіны Грача, і яго словы, і месца, дзе тыя словы гаворацца,— і таму папрок склаўся толькі з аднае горычы:

— Смеху гэтая твая прысяга вартая...

Ён не звярнуў увагі на яе горкі пагардлівы ўсміх, пакруціў гузік расшпіленай гімнасцёркі, сказаў даверліва і шчыра:

— Ведама ж, калі збоку паглядзець... Сам, маўляў, ідзе, уцякае з лясной глушэчы. А яе, каханую, кідае, каб не замінала ў дарозе. І, каб суцешыць, прыгожыя словы гаворыць, сумленне сваё і ўлагоджвае тымі словамі...

Форскнуў ззаду конь, памыляў мяккімі губамі Насціны рукі, якія яна трымала зведзеныя ў замок на паясніцы, і ад гэтага даверлівага дотыку жывой істоты ў горле асеў цяжкі колкі камяк.

— Але ж...— пачала яна і папярхнулася, глытнула той даўкі камяк і палёгкі не адчула.— Але ж гэтак яно і папраўдзе. І тут ніякія апраўданні нічога не зменяць.

— Даруй, я не сказаў табе галоўнага. Я ж вярнуся! Сюды вярнуся!

— Калі?

— Правядзём камісара — з ім жа сцяг палка! — за лінію фронту. І я вярнуся назад. Вярнуся! Адразу ж. Толькі ты чакай! Тут, прашу цябе, чакай!

— Урэшце прызнаўся — сказаў пра сцяг,— яна ўздыхнула.— Як не давяраў усяго цалкам.

— Ды я табе раскажу, усё раскажу. Але што б я ні сказаў, у цябе ўсё роўна будзе падстава мяне папракаць. Я — іду. Ты — застаешся.

— Ты ўсё яшчэ хочаш мяне суцешыць?

Ён зняў з левага рукава кофтачкі дзве шыгалінкі, злепленыя празрыстай кропляй жывіцы, паклаў у кішэню сваёй гімнасцёркі, паўтарыў глуха:

— Я вярнуся. Без цябе мне не жыць. І таму я вярнуся сюды. Толькі ты — чакай мяне!

Ён наважыўся быў пагладзіць яе па галаве. Але Наста крутнула галавой, як бы адкінула яго руку, уздыхнула, цяпер ужо з робленай шкадобаю:

— Што ж рабіць? Закон стагоддзя: чакай, галубка! Чакай, і ён — прыйдзе!

Ён спахмурнеў, сціснутым кулаком пашараваў падбародак, прамовіў глуха, з тужлівай раздражнёнасцю:

— Ды зразумей жа... Зразумей! Не дзіцятка ж ты горкае.

— А хіба ж ты не бачыш? Я спрабую... спрабую зразумець...

— Вальмус загадаў яшчэ вось што... Чаркаса завязём на вёску. Там пакінем...

Яна паспешліва перапыніла яго:

— А чаму не ўсіх? Усіх чаму не вывезці з лесу? На вёску, да людзей.

— Сёння вывезем, адкрыем шпіталь. А заўтра вас усіх, як тых куранятак, возьме фашыст. Ты гэтага хочаш?

— Не, не хачу!

Нешта мучыла Грача, але ён перасіліў сябе, прыгасіў раздражнёнасць, праказаў дзелавіта і патрабавальна:

— Усё неабходнае на першым часе Шаплыка і Лабук — дзякуй ім! — з нейкай аптэкі выхапілі. У мех згрузілі, што пад руку трапіла — паглядзіш потым, што там да чаго. І яшчэ ў дашчаніку другі мех ляжыць, палаплены, белаваты, як абгарэлы на сонцы,— харч у ім. Малавата, праўда. А ты чаго не слухаеш?..

— Я слухаю, слухаю!

— Праз дзень-другі Шаплыка на хутар падскоча — тут кіламетраў з дзесяць якіх. Бульбы возьме, яшчэ сала, хлеба. Гаспадар, Шаплыка кажа, урвіцель, на

грошы сквапны. Але ж нам з ім дзяцей не хрысціць. І грошай — Вальмус загадаў — Шаплыка шкадаваць не будзе. З гаспадаром ён папярэдне дамовіўся...

Ля балаціны вызвоньвала піла, і Наста, слухаючы гэтае працяглае, з надрывам — жыў-зу-у, жыў-зу-у,— нечакана жахнулася, убачыўшы бездань, якая перад ёю адкрывалася. Украй разгубленая, яна, аднак, магла яшчэ разважаць і аналізаваць тое, што адбываецца, хоць і была як паралізаваная зробленым адкрыццём бездані, да якой яе падвялі: Грач не гаворыць ёй усёй праўды. Ён усё спасылаецца на загады Вальмуса і не хоча іх аспрэчваць. Ёсць жа шмат вёсак, параненых можна развезці па розных селішчах. Але ён не хоча гэтага рабіць. Ён хоча і іх і яе пакінуць тут, у пушчы, у невядомай лясной глушэчы, з якое ёй ужо, мабыць, і не выбрацца. І вырашана гэта без яе, не зараз, а даўно, калі яна яшчэ спала. А можа, шчэ і раней. І невядома адкуль, але ж Шаплыка і Лабук ведалі, што менавіта гэткае рашэнне будзе прынята, і таму ўжо загадзя дамовіліся з нейкім хутаранінам, што будуць купляць у яго харч. І грошаў, маўляў, Вальмус загадаў не шкадаваць. Значыцца, ужо і грошы — але ж адкуль, адкуль тыя грошы? — падрыхтаваны. Усё ўзважана, вызначана, абмеркавана, і яму, Грачу, даручана, мабыць, аб усім паведаміць ёй, Насце. Вось ён усё і тлумачыць, бы малую ўгаворвае, суцяшае, каб не плакала, не румзала занадта, каб следам не пабегла!..

Грач нахіліўся, зазірнуў ёй у вочы:

— Ты што, плачаш? Навошта?

— Не, я смяюся,— сказала Наста, усяляк стрымліваючы слёзы, што набягалі на вочы,— горкія слёзы крыўды і роспачы.

— Ты плачаш,— прамовіў ён паблажліва, як бы ўхваляючы яе разгубленасць, і Насце зрабілася моташна.— На тваім месцы, уласна кажучы, цяжка і не даць волі слязам, гэта праўда. Але затое лёгка ўзяць другі шлях. Без тугі і клопату шлях.

— Пра які гэта «другі» шлях ты гаворыш? Дзе ты яго ўбачыў? Не месца тут загадкі ладзіць...

Грач абшчаперыў пальцамі падбародак, быццам заціскаў яго ў кулак, прамовіў хмурна:

— Кінуць гэтыя вазы к чортавай матары — вось табе і другі шлях. Кінуць і вазы, і гэтых людзей на іх... Хто яны, маўляў, гэтыя людзі, мне? У іх быў свой

шлях. У мяне — свой. Нашы шляхі перакрыжаваліся выпадкова, і я не прысягала, не клялася, што пайду разам з імі. У іх — адзін шлях. У мяне — другі.

— Што ты чаўпеш! У бядзе людзі, яны ж бездапаможныя. Гэта ж нашы людзі!

— Нашы. Яны верылі і вераць камісару. І мне вераць. А я — веру табе. І ведаю, што ты іх не кінеш. І ты павінна верыць мне: я — вярнуся. Сюды вярнуся. Чуеш?

Яна падавіла горкі ўсхліп, уздыхнула:

— Ч-чую... А раптам што-небудзь...

— Дзе? Тут? Ды каму будзе патрэба перціся ў гэтыя лясныя нетры? Ды, зрэшты, не дужа-ткі проста сюды і прабіцца,— і нечакана ў яго голасе загучалі бадзёрыя ноткі.— А са мною — не хвалюйся! — нічога не здарыцца. Грач твой — вернецца.

— А раптам...

— Ты чула, што сказаў Грач? Ён — вернецца!

— Як адплата нейкая... Ты маці параненую кінула. Цяпер цябе кінуць у лесе.

Грач незадаволена хмыкнуў:

— Прымхі нейкія: адплата, адплата... Ніхто ж не ведае, які лёс напаткаў вагон, дзе маці ехала.

— Ты што хочаш гэтым сказаць?

— А тое... Думаеш, соладка давялося тым, хто ў эшалонах адступаў. Шаплыка і Лабук ля Фарынава, пад Полацк бліжэй, суцэльныя могілкі ля чыгункі бачылі. Кіламетры на два, кажуць, скарэжаныя вагоны пад насыпам ляжаць. І гэта можна патлумачыць. Мост на Дзвіне яны дзюбнулі. А эшалоны ішлі і ішлі... А як спыніліся, цесненька стаўшы, яны іх з паветра і накрылі...

— Навошта?.. Навошта ты мне гэта гаворыш?

— Здагадацца не можаш? Каб жыць... Каб паменей на свой лёс горкі наракала. Каб ведала, што лёгкай дарогі ў нас з табою няма і не будзе. Сёння толькі сёмы дзень вайны. А колькі пражылі! І колькі шчэ давядзецца!

Неспадзеўкі адлягло крыху ад сэрца, і Наста нават усміхнулася, разумеючы, што сапраўды іншага, як кажа Грач, выйсця ў яе няма і трэба з усім прымірыцца:

— Ты хоць бы мяне, тут пакідаючы, не запалохваў.

— Дый у мяне і намеру гэткага няма. Кажу таму, што ніхто ж не ведае, што менавіта і каму давядзецца

перажыць. А раптам нам — толькі добрае, светлае і радаснае?

— Непаслядоўны ты чалавек, аказваецца. Спачатку казаў, што лёгкай дарогі, маўляў, у нас з табою няма і не будзе. А цяпер што абяцаеш? «Толькі добрае, светлае і радаснае»! Дзе ж логіка?

— А логіка ў тым, што я хачу добрага. І ў добрае буду верыць. Наўпярок!

Грач прыгладзіў валасы, рукаў гімнасцёркі нацягнуўся, і на запясці заблішчэў гадзіннік.

— О! На дзевятую павярнула,— ён, замілавана і з гонарам вывучаючы цыферблат, пачаў падкручваць маленькую бубачку на блішчастым абадку.

— А сонца як высака ўжо стаіць.

Ён паглядзеў на сасновы бор за лугавінай, блішчасты на сонцы, падзелены мядзянымі стваламі соснаў на роўныя жаўтлявыя прамавугольнікі, і ў вачах яго запаліўся таемны агонь.

— Якраз над нашай хвояю і стала сонца. Хадзем туды. Гэта ж блізенька, калі напрамкі. Я дарогу ведаю!

— Скажаш... Гэтулькі вачэй на нас глядзіць.

— Ім — сваё. Нам — сваё. Прашу цябе...

Сэрца ў яе закалацілася, яна хацела ісці, была ўдзячная Грачу за тое, што ён задумаў звесці яе да той зялёнай нары пад хвояй. А сказала тое, чаго казаць не збіралася, сказала коратка, як адсекла, сказала бязлітасна і жорстка:

— Не!

Ён пакрыўдзіўся, засоп, зноў пачаў падкручваць маленькую бубачку на блішчастым абадочку, потым, перахапіўшы Насцін позірк, скіраваны на яго руку, павольна адшпіліў карычневы раменьчык.

— Зраблю табе падарунак. Урачу, ведаеш, гадзіннік патрэбны. Праўда ж?

— Адкуль ён у цябе? З трафеяў Шаплыкавых?

— Я, між іншым, на Шаплыку дарма тады напусціўся — цяпер гэта пачынаю разумець. Але гэта не трафеі. Узнагарода! Начштаба акругі ўручаў, калі я курсы скончыў,— за лепшы вынік стральбы па рухомай мішэні.

— Упершыню гадзіннік на тваёй руцэ бачу.

— Але... Ён у сейфе Канапелькавым ляжаў. Пачалі яго ў зямлю хаваць, дык я і ўзяў.

— А навошта вы хаваеце тую скрыню?

— Пра схованку гэтую я табе шчэ раскажу. Яна будзе з сакрэтам. А цяпер — давай руку. Начаплю, і не здымай!

— Не хачу. Навошта ён мне!

Наста супраціўлялася, не хацела ўзяць гадзіннік, і тады Грач амаль сілком зашпіліў раменьчык на яе запясці, ласкава пагладзіў пальцы:

— Зірнеш на гадзіннік — мяне згадаеш. Стрэлкі — чык-чык, чок-чок. А Грач — туп-туп, тэп-тэп... К табе буду тэпаць!

У Грачовых вачах былі ласкавасць, прыязнасць, давер і захапленне, і Наста, канчаткова паверыўшы ў тое, што гэты чалавек не маніў ёй, што ён не маніць і цяпер, ледзь не зараўла ўголас ад ядучай крыўды. Знайсці сваё шчасце, каб тут жа яго і страціць?.. Уведаць радасныя, поўныя дзівоснага самазабыцця імгненні толькі на тое, каб тут жа крыж на іх паставіць, вытравіць з душы і пасяліць на тое месца адчай і адзіноту?.. І якая цяжкая зрабілася галава, хіліцца долу, быццам воловам налітая. І якія дзіўна свежыя, як нечапаныя, верасы ля ручая. І як жа густа пачынаюць цвісці. Пчала сноўдаецца па фіялетавых квятах, агледзела адно суквецце, развінула крылцы, на другое перабралася.

«Каб мне вось гэтак... Крылцы мець. Ці яму, Грачу! Узмахнуў бы імі і прыляцеў сюды, да мяне!»

Думка была наіўная, не вартая ўвагі. Але на душы адразу і паспакайнела, зачаплілася ў сэрцы надзея на тое добрае, пра што казаў ёй Грач. Можа, можа ж быць, што і сапраўды на лепшае ўсё павернецца!..



## 8

На адвячорку, стаміўшыся ад чакання, развагі, разгубленая ад таго, што памагчы Вахтангу яна не можа, у прадчуванні нечага паганага, нядобрага Наста пакрочыла пуцявінаю ўсцяж балаціны. Зноў, як учора і пазаўчора, яна пайшла да старой, але наўздзіў стромай

і гонкай сасны, дзе пуцявіна, што пачыналася ля смалакурні, крута, бы ля слупа, вярнула ўправа і вяла невядома куды. Дакладней, пуцявіна была невядомая толькі для Насты, бо яна па ёй не хадзіла.

Наста села на верасовую купіну, звяла ў замок рукі на каленях і раптам адчула, што зараз заплача. Ля смалакурні яна, ловячы на сабе насцярожаныя позіркі параненых — а ў вачах Канапелькі дык і адкрытая падазронасць увесь час сёння была, і ён сачыў за кожным яе крокам,— яна ўсяляк стрымлівала сябе, гаварыла бадзёра, абнадзейвала і Канапельку і ўсіх астатніх. Але тут адразу, ледзь прыхінулася спіною да шырокага камля, адразу страціла ўсё паказное ў паводзінах, як адсекла ўсю сваю бадзёрасць, упэўненасць і аптымізм.

Учора яна шчэ на нешта спадзявалася — Грач абяцаў, што Шаплыка — чатырнаццаць кіламетраў да чыгункі, гэтулькі ж назад! — вернецца на світанні. А сёння страціла апошнюю надзею. Аднак усё ў яе душы ярасна супраціўлялася, яна вышуквала нейкія апраўданні і разам з тым тут жа і крэсліла іх бязлітасна, як бы здзекуючыся з свае даверлівасці. Хай сабе яны памыліліся, накрэсліваючы свой шлях на той трафейнай карце — не чатырнаццаць, скажам, а ўсе дваццаць кіламетраў да той чыгункі, адкуль Шаплыка павінен павярнуць назад. Хай сабе, урэшце, і дваццаць пяць! Дык жа ж за гэты час, што мінуў, можна было паўсотні тых кіламетраў і пешкі, гуляючы, адолець. А ён жа на кані павінен вярнуцца. Значыцца, нешта здарылася непрадбачанае, такое, што пабурыла яго планы. А можа, планы ўсіх?..

Яна адкідала такую мажлівасць увогуле, не хацела думаць пра нейкую бяду ці няўдачу. Але думкі пра тое жылі, наўпярок яе волі, і Наста, сама сабе не прызнаючыся, пачынала палохацца ночы, якая няўмольна набліжаецца. Калі што-небудзь прыключылася з Шаплыкам, што пабурыла яго планы вярнуцца сюды, дык гэта, у сваю чаргу, няўмольна пабурыць усё і тут, ля смалакурні, усё паверне зусім не ў той бок, як планаваў Грач, як меркаваў Вальмус. Што яна зробіць адна? Чым дапаможа чатыром гэтым параненым? Чым накорміць? Як абнадзеіць?..

Пытанні гэтыя і іншыя, што трывожылі і абуджалі ў сэрцы глухую тугу, прыходзілі лёгка, нібыта беглі

навыперадкі. Але адказаў на іх не было гэтак жа, як не было іх і ўчора і пазаўчора, хоць тады яны былі не гэткія абвостраныя і прыносілі меншы боль, і Наста, прынамсі, не вельмі настойліва шукала тыя адказы, бо яны начыста разбуралі падмурак нават самай слабенькай надзеі, якую яна ўпарта не збіралася губляць.

Гэтак жа, як і ўчора, гэтак жа, як і ў той вечар, калі яны сядзелі тут з Грачом чакаючы Шаплыку і Лабука, над балацінаю завісла вялізнае і агністае сонца. Але там, дзе тады дзіўна грувасціліся кудлатыя шызыя воблакі, як усё роўна састаўленыя ў аграмадныя стагі, цяпер увачавідкі гусцелі агністыя фарбы барвовай далечы. Сёння, аднак, сонца чамусьці апускалася вельмі марудна, запаволена, і насустрач яму з чорнага кудлатага сасновага полагу, што ўкрыў балаціну, выбіваліся шырозныя кліны мядзянага колеру, падобныя на іклы загадкавага страшыдла.

Недзе зусім блізенька, палахліва, як бы спалохана, папінькалі цененька-цененька лазараўкі, і гэтыя тоненькія жаласлівыя птушыныя галаскі аселі ў Насціным сэрцы колкім болем непапраўнай бяды і назаўжды страчанай надзеі. Калі Грач казаў ёй, што трэба застацца і чакаць яго тут, нешта яшчэ цеплілася ў душы, нейкія спадзяванні жылі. А цяпер у душы ўсё прытупілася, перайначылася ў скруху і тугу. Памылку яна, Наста, зрабіла! Трэба было не пагаджацца. Трэба было настойваць на тым, што яна і патрабавала, на чым спрабавала затрымаць увагу Грача. А яна — паддалася! І што атрымалася? Атрымалася тое, што яна і прадбачыла, хоць услых пра тое і не казала Грачу: Шаплыка не вярнуўся і, мабыць, ужо і не вернецца ўвогуле.

Яна спрабавала цяпер спыніць сваю развагу менавіта на гэтай мяжы, не пусціць яе далей, адкуль пачалася б новая развага, яшчэ больш балючая і горкая. Але наўпярок яе волі гэтая развага прабівала сабе дарогу, і Наста нічога не магла зрабіць з ёю. І, мабыць, правільна гэта. Чаго яна будзе хавацца ад таго, што ёсць? Не сёння, дык заўтра, але ж усё роўна яна будзе пастаўлена перад неабходнасцю думаць і пра тое, аб чым сёння ёй думаць не хочацца. Так што трэба глядзець праўдзе ў вочы і не ўхіляцца ад яе, бо лепей ад таго не будзе. Калі Шаплыка не вярнуўся зблізку, дык як жа вернецца сюды Грач з той невядомай далечы, якую трэба яму адолець, ідучы па дарогах небяспеч-

ных і зусім незнаёмых? Хай сабе дасягне ён мэты — пяройдзе фронт. А як знайсці яму дарогу назад, сюды, у гэты глухі лясны кут? Хто адпусціць яго сюды, хто дасць дазвол? Ён жа чалавек вайсковы, лёсам сваім сам не распараджаецца, дарогі франтавыя не сам выбірае: куды загадаюць — туды і пойдзе!

У думках пра Грача яна спрабавала патапіць сваю ўласную слабасць, слабасць, якую не сёння адчула ў сабе і шляхоў барацьбы з якою не знайшла. Два дні трывожнага чакання сцягнуліся гэтак, што сілы трываць далей ужо няма. А калі яшчэ пяць дзён? А калі дзесяць?.. Ды яна ж звар'яцее тут. Ці калі і не звар'яцее, дык проста не хопіць у яе сілы трываць, і яна кіне ўсё і ўсіх і пойдзе па гэтай вось лясной пуцявіне. Цярплівасць чалавечая, вядома ж, мае межы. І няма, натуральна ж, няма бясконцых пуцявін, недзе ж канчаецца і гэтая, па якой паехаў Грач, некуды ж і яе, Насту, выведзе. Некуды?.. Шаплыка ж тады з Лабуком паехалі і вярнуліся па гэтай жа пуцявіне, казалі, што ёсць і селішчы, ёсць і хутары, ёсць і чыгунка, ёсць, адным словам, людзі. Так што ў яе, Насты, не зусім ужо і безвыходнае становішча, калі паразважаць. Яна, гуляючы, нейкую трыццатку кіламетраў за суткі прабяжыць. А спатрэбіцца, дык і болей. Нават калі вось зараз адважыцца мітнуцца, пабегчы, на ноч гледзячы... Ночы цяпер светлыя. Да раніцы яна ўга-а дзе ўжо тэпаць будзе!.

Яна ўтаропілася ў лясную гушчобу, быццам зараз і трэба было ўзняцца і бегчы, і сядзела нерухома, не адчуваючы аніякага парывання да таго, што снавала ў думках. Куды і як ёй бегчы? Няма куды і няма як. Гэтыя, што ляжаць у склепе, прападуць без яе. Хто ім вады падасць, хто раны перавяжа? І можа ж і гэтак шчэ здарыцца, што яна бегчы возьмецца, а Грач сюды будзе імчаць. Вось і размінуцца іх шляхі. Назаўжды разыдуцца. А гэтага не павінна здарыцца! Гэтага не будзе, бо Грач — вернецца! Ён жа абяцаў! Ён жа кахае яе! Як жа адчайна і смела кахаў ён яе вось на гэтых верасах, як у вір пацягнуў. Дзівосны, салодкі вір...

У жорсткіх каляных верасах усё яшчэ было поўна дзённага сонечнага цяпла, і, калі Наста пагладзіла іх рукою, адтуль, з густых пругкіх спляценняў, бухнуў у сэрца ласкавы трывожны жар. Памяць рук, памяць шчок і броваў, памяць усёй істоты вярнула ўсё тое, што

было тут тады, і ў яе заныла сэрца, занылі губы, як усё роўна іх толькі што абцíснулі прагныя Грачовы пацалункі...

Тонкі, але рэзкі гук — падобна, што сталь па сталі цвынькнула! — узнік недзе ў лесе, і Наста схапіла карабін, які ляжаў праваруч, выгнуўшы верасы ля купіны. Гук паўтарыўся праз якую хвіліну. Але цяпер да яго далучылася мяккае поканне капытоў, і Наста адчула, як імгненна высахла паднябенне. Гэта ж Шаплыка едзе-коціць па лясной пуцявіне. А яна расселася тутака, насустрач бегчы не хоча. А што, як не ён гэта? А раптам не Шаплыка на лясной пуцявіне? І не відаць жа нічога, сонца леваруч свеціць, дык вочы слепіць...

Перасцярога, якая з'явілася невядома адкуль, утрымала, і Наста не кінулася на лясную пуцявіну, глыбей зашылася ў верасы, загнала ціха і асцярожна патрон у патроннік. Услухоўвалася ў поканне капытоў, якое рабілася ўсё выразней, углядалася з такім напружаннем, што пачало рэзаць вочы. Радасць прыгасіў дзіўна абвостраны халадок трывогі. Чаму толькі капыты шлэпаюць, а колы па каранях не ляскочуць? Тады, як Шаплыка праводзіў Грача, фурманка доўга ляскатала ў лесе, а капыты адразу заглухлі. А цяпер не чуваць, каб кола брэнькнула, толькі капыты: «цуп-цуп, цуп-цуп...» Нехта ж напэўна верха едзе. Так, фурманкі не чуваць!..

Яна, бы вужака, пасунулася па верасах, падалей ад лясной пуцявіны, і раптам пачула знаёмую мелодыю песні, якую ціха насвістваў Шаплыка некалі, як ехалі ад гравійкі, і тут жа ўбачыла яго самога. Шаплыка ішоў, паклаўшы рукі на аўтамат, які вісеў у яго на грудзях. За ім тэпаў нейкі дужа блішчасты белы конь, на хрыбціне якога горбілася нейкая паклажа.

«Шаплыка! Родненькі мой! Вярнуўся!..»

Ускочыла на ногі, але не пабегла, ногі як звязалі густыя цёплыя верасы, і яна стаяла на месцы, і з яе грудзей драўся радасны покліч:

— Шаплыка! Дзе ж ты быў? Дзе ж ты блукаў, Шаплыка? — яна цяпер добра бачыла, што конь сапраўды белы, і гэта яе моцна ўразіла і здзівіла, і яна таропка папытала, быццам гэта было самае галоўнае, пра што ёй карцела даведацца адразу ж: — Паехаў на вараным, а едзе на белым. А мне падалося спачатку: на сонцы блішчыць. Сапраўды, чаму ён белы?

— Перафарбаваў,— неяк дзіўна хмыкнуў Шаплыка.

— Табе жартачкі? А я тут ледзь не звар'яцела. Дзе чалавек падзеўся? Што здарылася? Хоць воўкам вый!..

Шырока і радасна ўсміхаючыся, ён наблізіўся да Насты, кінуў павады на тонкі, як верацяно, ядлоўцавы куст і сам неяк ціха, па-старэчы крэкчучы, апусціўся на верасы.

— Не павітаюцца, пра здароўе не папытаюць. А толькі, бы жоначка злая, адно і чаўпе: дзе быў, дзе бадзяўся, паразіт няшчасны, гэтак доўга?..

Адразу адлягло ад сэрца. Калі жартуе, значыцца, недзе там, адкуль ён вярнуўся, бяды не прыключылася, нічога благога не здарылася.

— Ну, добры вечар! Сто разоў табе — добры вечар,— яна казала, смеючыся, прыціскаючы карабін аберуч да грудзей.— У нас тут усё ладам, усё ладам. Счакаліся толькі. А ў цябе? Ды гавары ж ты хоць, не маўчы!

— А ты карабін пакладзі. Нябось, зараджаны ж?.. О! Я і ведаў, што вось гэтак на мушку возьмуць, калі ўбачаць Шаплыку.

Яна разрадзіла карабін, паставіла ля камля сасны:

— Ну, хопіць жартаваць. Якая дарога была? Добра ўсё ішло ў вас? І чаго ты пешкі? А фурманка дзе падзелася?

Ён здзёр з грудзей аўтамат, шпульнуў яго на верасы, адшпіліў і кінуў туды ж рэмень з запасным дыскам і цесаком у карычневым футарале.

— Дай жа аддыхацца... Адале і пачну расказваць. Пешкі чаго? А таму, што фурманкі няма. А фурманкі няма, бо восі зламаліся.

— А Грач? А Вальмус? Як яны пайшлі?

— На сваіх дваіх, як гаворыцца. Добра пайшлі. Думаю, што ім пашчасціць.

— А Грач што казаў?

— А што ён павінен быў гаварыць? Усё тут, перад паходам, было абгаворана.

— Чаркаса вы дзе пакінулі? У якой вёсцы? Хто будзе даглядаць яго?

— Зямелька яго дагледзіць цяпер,— і, гледзячы не ў твар Насты, а на руку, якой яна закрыла рот, з якога драўся немы крык, патлумачыў неяк жорстка, быццам злаваў на тое, што ў яго пра гэта пытаюцца і ён

змушаны адказваць: — Няма Чаркаса. Забіты Чаркас...

Яна адляпіла руку ад губ, і яны сутаргава варухнуліся, выціснуўшы словы, якія Шаплыка тут жа і паўтарыў:

— Як здарылася?.. Мы праз чыгунку калі перабіраліся, у нас восі храснулі. Спачатку адна, потым і задняя. І чорт жа іх не браў, калі ў лесе па карэнні трэсла. А там — маеш. Колы, праўда, загрузлі. І конь дрызіны спалохаўся, ламануў крута вельмі...

— Дрызіны? — вырвалася ў Насты, і яна жахнулася пры думцы, што там, на чыгунцы, здарылася і яшчэ большая бяда, толькі Шаплыка пра яе пакуль што не хоча гаварыць.— Вы на фашыстаў наляцелі? Гэтак?

— Не мы, а яны на нас наляцелі. Клятая выпадковасць. Ці, дакладней, памылка наша: сунуліся да чыгункі, без разведкі папярэдняй. І каб нас не прыкрыў Чаркас...

— Яго, як я разумею, вы кінулі,— прамовіла Наста з горыччу, якая была балючай, і ўлады над ёю не было.

— Ён тое шчэ тут, у лесе, замысліў. З таго і прасіўся ў камісара, каб вывезлі адсюль.

— Нешта ты незразумелае мне зусім гаворыш. Што, што ён мог тут замысліць?

Ён адказаў спакойна, як бы ведаў, што пра гэта ў яго папытаюць, без крыўды, дзіўна роўным і стомленым голасам:

— А тое і замысліў, каб памерці ў баі. Ён жа на насыпе запатрабаваў, каб з фурманкі знялі і пакінулі. З паўгадзіны, мабыць, там з ім Вальмус спрачаўся. А тут, як на тое ліха, і накаціла дрызіна. І ён — гранату ў рукі — каб не чапалі, каб да лесу беглі, патрабаваў. Чаркас, між іншым, мне дарогаю казаў, што будзе паміраць у баі. Я не верыў яго словам: трызніць, маўляў... А ён свядома на ўсё пайшоў... І нас ўратаваў, гэта ж бясспрэчна. Ён там страляў доўга. Потым граната вухнула. І мы ўжо былі на ўскрайку лесу. Увечары ў тым лесе мы і развіталіся. Яны пайшлі на Віцебск. А я павярнуў назад. Ды не туды павярнуў уночы. Доўга блукаў...

— Усе гэтыя дні ты блукаў?

— І блукаў, і страляў, і ледзьве не плакаў. Згубіў

дарогу — хоць кладзіся і памірай. Гэта мяне гэты бялянчык уратаваў. Наш, калгасны,— пад распіску ўзяў у былога брыгадзіра. А разумны ж конь, каб ты толькі ведала. Гэта калі я ўжо зусім у адчаі быў — спыніўся мой бялянчык. Стаіць. Чаго, думаю, з ім прыключылася? Ажно ён след наш знайшоў, той, што мы пакінулі, калі з Лабуком ехалі...

Шаплыка падрабязна расказваў пра тое, як ён шукаў дарогу сюды, у гэты лес, расказваў пра тое, што бачыў і чуў у вёсках, куды даводзілася яму забрыдаць. Наста слухала яго з цікавасцю, і ёй увесь час здавалася, што ён як бы спрабуе адвесці яе ад гаворкі самай важнай. Урэшце не стрымалася, перапыніла яго:

— А чаго ты пра галоўнае не гаворыш? Чаго пра фронт — ні слоўца не гаворыш?

— А няма чаго казаць, бо дакладна ніхто і нічога не ведае. А тое, пра што мы тады з Лабуком даведаліся,— гэта точна. Гэта ўсё пацвердзілася. Сядзяць яны і ў Полацку, і ў Віцебску, і ў Мінску, хоць у гэта і цяжка паверыць. І скрозь адноўлена чыгунка.

— І паязды ідуць?

— Ідуць.

— А як жа Дзвіна? Што, масты ім цэлыя пакінулі нашы?

— Масты ўзарваныя. Яны на пантонах наставілі. Часовы. І глядзі — дзіва. Бачыш, якое сонца? Як вечар — чысты далягляд. Ад самага першага дня — быццам па заказу пагодка...

— А я неяк і ўвагі на тое не звяртала. Лета, яно і ёсць лета. Цёпла і добра...

Словы ішлі як самі па сабе, яна вымаўляла іх толькі на тое, каб нешта сказаць і не маўчаць. Цяпер, калі збольшага ўжо было вядома, чаго гэтак прыпазніўся Шаплыка, Насціны думкі скіраваліся ў іншае рэчышча — думала пра Чаркаса. Ёй падалося, што Шаплыка знарок прыдумаў Чаркасава прызнанне, якое той нібыта зрабіў яму ў дарозе, што Шаплыка нешта не дагаворвае пра выпадак на чыгунцы, ён як бы ўхіляецца ад гаворкі падрабязнай, шчырай, як бы нечага пабойваецца.

«А што было б, каб Чаркас застаўся тут? Ён бы жыў, магчыма, паправіўся б. Вось жа ў Вахтанга нават і на папраўку быццам пайшло... Гэтак жа і ў Чаркаса было б...»

Адчуванне таго, што яна вінаватая ў смерці Чаркаса, узнікла невядома з чаго і ўсё аніяк не праходзіла, мацнела, абуджаючы ў душы прыкрасць і самоту. Чаму яна, Наста, калі не зарадавалася, дык аблегчана ўздыхнула, убачыўшы Чаркаса на фурманцы, зрыхтаванай у дарогу? Не, не адчула яна аніякай палёгкі! Яна ж усяляк намагалася давесці Грачу, што трэба ўсіх параненых вывезці з лесу, параскідаць па вёсках!

— І я, уласна кажучы, на тое, што быццам па заказу пагодка, увагі не дужа-ткі і звяртаў,— падхапіў гаворку Шаплыка, і Наста зноў падумала, што ён таксама гаворыць аб надвор'і сумысля, хаваючыся за гэтым ад іншых думак, якія прыгнятаюць.— Цяпер вось, гледзячы на сонца, што на спачын ідзе, пра тое падумаў. Сапраўды, выбраў жа Гітлер час! Як і праўда тое, што ў іх на спражках адбіта: з намі, маўляў, сам бог...

Ён узняўся, паспрабаваў мыском бота падчапіць рэмень. Але гэта яму не ўдалося. Ад гэтага руху гімнасцёрка на Шаплыку абвісла, выдавала нейкай дзіўна бруднай і старой; з дзіркі на левым баку вытыркаўся ражок сподняй кашулі, брудна-чорнай, як перакачанай у гразі.

— А ты шчэ і ў бога верыш,— словы вырваліся насуперак волі, і Наста пашкадавала, што папракнула чалавека і не ў пару, і не да месца.

— А ліха ж яго ведае, у што на вайне верыць лепей. Мо ў бога, а мо і ў чорта лысага... Але не аб гэтым галава баліць. Мы з табою давай дамовімся: нашым пра Чаркаса — не гаварыць. Ці, можа, скажам, га?

Ён усё-ткі падчапіў рэмень мыском бота, падкінуў і лоўка злавіў яго правай рукою, пачаў падпяразвацца.

— Трэба казаць праўду,— разважліва прамовіла Наста, сочачы за Шаплыкавымі пальцамі, якія згіналі і разгіналі рэмень.— Маніць навошта ж...

— Мабыць, маеш ты і тут рацыю. Ім жа крыўдна было, калі Вальмус загадаў Чаркаса на колы пакласці. Яго, маўляў, вывозіце, а нас ля балаціны пакідаеце, камароў карміць. Хай цяпер паглядзяць на сябе збоку ды на месца Чаркаса сябе паставяць...

— А што гэта ім дасць? Што зменіць?

— Ды нічога не дасць, нічога не зменіць, ведама. Але хай нікому і ніколі не зайздросцяць. Паганая гэта штукенцыя — зайздрасць. А на вайне — асабліва.

— Ты нейкі злосны прыехаў.

— Бо няма з чаго асабліва і весяліцца. Гат-то вы,— спражка зашчоўкнулася з кароткім металічным пошчакам.— Калі хто пачне на вёску прасіцца — будзем на гісторыю з Чаркасам напіраць,— і павярнуў гаворку зноў у нечаканы для Насты бок.— Можа, Канапелька гэты таго ўжо і хоча? Ты толькі шчыра кажы, не ўтойвай...

Зрабілася горка і непамысна. Шаплыка быццам не давярае ёй, насцярожана падсоўвае ролю нейкага віжуна, і яна абурылася, выпаліла з горыччу:

— Не лічы людзей — і Канапельку асабліва! — дурнейшымі за сябе. Ты думаеш, яны не разумеюць, што камісар прыняў разумнае рашэнне? Болей за нас, павер мне, разумеюць. Куды ім, параненым, зараз у вёску? Да фашыстаў у лапы? Падлячыцца, на ногі стаць, дачакацца Грача. А тады — далей рушыць. На гэта ў кожнага спадзяванка.

— У нас свае планы. Мы сваё сабе маракуем. А ён — сваё, дый шчэ такое, што нам і невядома.

Ёй падалося, што Шаплыка мае на ўвазе Грача, і нешта ведае пра яго патаемнае, але сказаць баіцца, і гэта яе ўзарвала.

— А хто гэта «ён»? Ты пра каго гаворыш?

— А пра таго, хто тамака сядзіць,— Шаплыка быццам дакрануў пальцам у прастору над галавой, быццам добторкнуў пальцам у прастору над галавой, быццам дабра ведаў некага, хто схаваўся ў голлі сасны.— Пра таго, з кім зараз Чаркас размаўляе. На небе. Там, бліжэй пад сонца.

Яна не стрымалася ад усмешкі:

— Папоўшчына нейкая. Быццам толькі што ў царкоўнай семінарыі вучобу скончыў.

Ён утаропіў на яе немігатлівы, колкі позірк і сказаў жорстка, цвёрда, але нязлосна:

— Шаплыка, каб ты ведала, за гэтыя дні такія семінарыі і універсітэты прайшоў, што хай неба цябе лепш бокам абойдзе імі. Ваеннае ліха з нас у-уга як скоранька слоўнае лушпінне злуплівае. Толькі паспявай бакі падстаўляць. І таму прашу цябе: ты з імі пастражэй. Каб на нашым караблі бунту не адбылося.

Зноў Шаплыка здзіўляў яе, і яна спытала шчыра, без падробкі:

— Які бунт? Ты што маеш на ўвазе? Ды хопіць, урэшце, мне гэты красворд маляваць.

— Не красворд я табе малюю, а пра Аўдошку кажу. Панікёрскі настрой у яго не прайшоў?

— А я ніякага такога настрою і не заўважыла.

— Відаць, паразумнеў. Відаць, і да яго дайшло: смалакурня гэтая цяпер — наш карабель. На ім цяперка плысці будзем...

Нешта новае, дзёрзкае і разам з тым хітраватае было ў Шаплыкавым абліччы і голасе, і гэтыя змены, што гэтак кінуліся ёй зараз у вочы, асабліва апошнія словы, насцярожвалі.

— А якая паклажа на кані? — спытала яна, унікаючы працягу гаворкі, якая была ёй не па душы.

— Была паклажа як мае быць. Дык пагубляў жа, калі ўцякаў з Пагоста — немцаў тамака поўна. Уся вуліца машынамі застаўлена. Я неяк вылузнуўся. А як — аднаму небу тое і вядома. Стралялі яны па мне, але ўсе кулі — толькі вецер над галавой дралі. Відаць, крэпка тут за мяне маліліся, добрым словам і часцяком спаміналі, зла не зычылі...

Яна ўзрадавалася, пачуўшы ў Шаплыкавым голасе ранейшыя жартаўлівыя ноткі.

— Што было, дык было: па сто разоў на дні, калі не больш, цябе згадвала. Дзе падзеўся, чаго не вяртаецца — з гэтага дзень у нас пачынаўся, гэтым і канчаўся. Вось ты пра Аўдошку казаў... А ён, між іншым, болей ад усіх аб табе непакоіўся. І шчэ і нас падбадзёрваў: вернецца абавязкова, казаў.

— Але ж і мяне сюды цягнула — быццам дамоў. І, паверыш, як убачыў у прасветліну за дрэвамі грушу-дзічку, што наўпроць смалакурні, дык ажно і засвістаў ад радасці. І на вочы як усё роўна слязу нагнала: быццам блукаў, блукаў па белым свеце, урэшце да роднага селішча прыбіўся.

— І галодны ж, мабыць, увесь час?

— Не, не сказаў бы — людзі пакормяць, калі папросіш. А сёння ранкам на хутары нават яешню з салам паставілі. Гаспадыні мой твар на сынаў падобны падаўся. З таго, мабыць, і расшчодрыліся...

— Але ж што на кані — не гаворыць!

— А-а, на кані. Правіянт вязу: і хлебец, і сала

крышку, і лекі нейкія... Але, пакуль тыя набыткі глядзець, давай з табою планы нашы абмяркуем. Што я прапаную? Заўтра — адпачынак. А раніцою паслязаўтра нашага беляка ў калёсы ставім — і гайда!

— Куды «гайда»? — яна па-сапраўднаму ўстрывожылася, не зразумеўшы, што Шаплыка меў на ўвазе.

— Па вёсках з табою пракоцім. Харчу прыдбаем паболей. Можа, людзей стрэнем, якія радыё чулі. І вернемся. Ухваляеш?

Наста зарадавалася, са згодаю хітнула галавой, хітнула гэтак імкліва, што аж балюча хруснулі ў шыі пазванкі, і гэты боль скрышыў усю падазронасць, увесь недавер да Шаплыкі, і яна толькі цяпер зразумела, што адзіноты больш няма, што побач з ёю зноў ёсць чалавек, на якога Грач усклаў асноўны клопат пра іх маленькі вайсковы лагер.



## 9

Змучаная, начыста выпетраная чаканнем, Наста цяпер, калі Шаплыка вярнуўся, адразу саслабела, на яе абрынулася хваля такой санлівасці, якой, як яна ні супраціўлялася, няможна было даць ніякай рады. Неяк наспех, не адчуваючы добра смаку, паела хлеба і сала, з цяжкасцю дабрыла да свайго закутка ў дашчаніку і са шчаслівай палёгкаю ўздыхнула, калі галава лягла на саламяную трасянку. Не было ўжо і ахвоты і сілы нават на тое, каб расправіць зрэбную посцілку, з якой Шаплыка павытрэсваў прывезены харч; Наста толькі нацягнула яе на сябе і знерухомела, склаўшы рукі на жываце. Потым пацягнула рукі вышэй, склала іх на грудзях, з усмешкаю падумала: як паміраць, маўляў, сабралася, дык і рукі ўжо скрыжавала.

Тоўстая зрэбная посцілка пахла хлебам, конскім потам і яшчэ нечым невядомым, чужым. Але гэта былі пахі жыцця, яны ўлагоджвалі і не палохалі, вярта-

лі ў нейкі мірны, свойскі побыт. Наста, ад усяго адключаючыся, яшчэ пачула, як грукаюць дошкі і жардзіны — насвістваючы, Шаплыка нешта майстраваў ля склепа,— і была наважылася гукнуць яму, папрасіць, каб не бразгаў залішне, даў параненым спакойна адпачыць, ды не паспела — правалілася ў глыбокі і салодкі сон.

Прачнуўшыся пры святле дня, яна са здзіўленнем заўважыла, што ўночы не змяніла паставы, ляжыць гэтак жа, як і лягла ўвечары. Цела здалося цяжкім, як драўляным, але варта было паварушыцца, раскінуць ушыркі рукі, як гэтая драўляная змярцвеласць адразу знікла, рукі набылі сілу і дужасць. Абапіраючыся на локці, напружылася, прыўзнялася і адразу ўгледзела Шаплыку. Сядзеў ён ля цяпельца ўнурыўшыся, бы каменны ідал. На вогнішчы, якое гарэла амаль без дыму, стаялі чорныя кацялкі, як нечапаныя з учарашняга, і ў іх нешта варылася. Паспеў, значыцца, распаліць вогнішча, паставіў кацялкі на агонь. Гаспадарлівая струнка ў Шаплыку ёсць, гэта яна шчэ ўчора пераканалася, калі той пачаў даводзіць да ладу ўсё тое, што вывернуў з пасцілкі.

Адчуваючы, як усё мацней, невядома адкуль у цела прыходзіць дужасць і сіла, Наста разглядала пасцілку. Самаробная, але ж з добрым густам быў чалавек, які звёў у адно гэтыя таўстыя ніткі розных колераў. Ажно зіхацяць на ранішнім сонцы гэтыя дзіўныя і вялікія кветы, па канцах і ўсярэдзіне. Ціўе ў іх кароткае, тоўстае, адна лісцінка на ім, дробненькая, а кветы густыя, цяжкія. Крыху і падобныя на вяргіні, але намнога большыя, пукатыя і дужа ж прывабныя.

Узялася распраўляць пасцілку, каб паглядзець, якія кветы на тым канцы, і тут жа яе позірк зачапіўся за гадзіннік, які вісеў на левым запясці — скура прызвычаілася ўжо да ціску раменьчыка, як злілася з ім, і той нібыта зліўся з ёю непадзельна, не замінаў,— і не паверыла стрэлкам. Няўжо на дзевятую пайшло? Сапраўды, гэтак і ёсць! А мо спыніўся ён? Учора ж не заводзіла, як лягла, дык ад усяго адключылася..

Падкручваючы бубачку на blішчастым абадку і радуючыся дужасці і сіле, якая поўніла цяпер усю яе істоту, Наста згадала Грача, і губы самі па сабе зварухнуліся ў добрай і ласкавай усмешцы. Дзе ты цяпер, Грачок родны, па якіх дарогах брыдзеш? Хай жа

табе паўсюль, скрозь і ўсюды шчасціць! Хай шчаслівай будзе твая дарога і сёння, і заўтра, і ўсё жыццё. Наста чакае цябе. Ты павінен гэта ведаць. І павінен пачуць, што яна зараз з табою размаўляе, зычыць добрага дня і ўдачы ва ўсім.

З удзячнасцю і ласкавасцю пагладзіла гадзіннік і адразу засаромелася, быццам Шаплыка падгледзеў гэтае яе наіўнае захапленне Грачовым падарункам, падслухаў яе думкі, і пазяхнула працягла, даючы знак, што прачнулася і не спіць:

— А-оў-оў-оў...

Шаплыка не змяніў паставы, сядзеў па-ранейшаму, запусціўшы рукі ў верасы, што як бы спавілі сасновы корч, кінуты ўчора ля вогнішча. Цяпер, калі Наста падсунулася да дзвярэй дашчаніка, яна не бачыла кацялкоў, іх захінулі Шаплыкавы плечы, і ёй на міг падалося, што лёгкі белы дымок выбіваецца з яго чупрыны.

«Ці не гімнасцёрка ў яго на грудзях гарыць? Можа, ля вогнішча прыдрамаў, дык адзежа і задымела...»

Схапіла брызентавыя сандалеткі, скарэлыя, прапахлыя дымам,— учора ўвечары сушыла іх ля агню, павесіўшы на ўваткнутыя ў пясок кійкі,— і гэтак, з сандалеткамі ў руцэ, падбегла да Шаплыкі. Ён не спіць, выяўляецца. Мірганулі вейкі, а вочы нетутэйшыя, глядзяць перад сабою, у нейкую кропку ўтаропленыя.

— А-ой-ёй жа засо-оня якая Наста,— яна павіталася, кінула на зямлю сандалеткі, пачала, не дакранаючыся рукамі, ушчэмліваць у іх ногі.— Быццам у прорву правалілася ўчора,— прызналася яна і зноў пазяхнула, але цяпер каротка, як бы выдыхнуўшы ўздых.— О-оў... Чула, помніцца, жардзянік грукаў. А далей — сон. Ты што тут кухмарыш?

Шаплыка як і не пачуў яе пытання, хрыпата выціснуў з сябе, па-ранейшаму ўзіраючыся ў тую невядомую кропку на балаціне:

— Вахтанг памёр. Уночы, мабыць.

— Як жа гэта?

Ён пацiснуў плячыма:

— Яна не ведае, як паміраюць... Спынілася сэрца — і капцы адразу.

Ссохлыя сандалеткі рэзалі скуру, быццам насыпаны быў у іх жар, і яна прыціснула яго ступакамі. Але

дрыготка па нагах узнімалася халоднымі зябкімі колцамі.

— Мо заснуў? — спытала яна, разумеючы марнасць свайго запытання.— Заснуў і спіць.

— Спіць... Так. Але — вечным сном.— Шаплыка ўзняўся, крэкчучы.— Я прачнуўся, калі днела ўжо.— Аўдошка паклікаў. Напаіў яго. Тады Канапелька папрасіў вадзіцы. Потым я з кацялком да Вахтанга сунуўся. А ён — нерухомы. Не паверыў быў, што мёртвы, паклікаў, за руку ўзяў. А рука — халодная...

Халодныя мурашы паўзлі цяпер у Насты па плячах, і яна прамовіла дрыготкім голасам:

— Навалілася бяда клятая... Адна за адной на нас коціць...

— Ты чаго галасіць узялася? Плачам рады не дасі. Трэба думаць, як пахаваць чалавека.

— А дзе ж мы яго тут пахаваем?

— Не на небе, вядома ж. На зямлі. А зямелькі хопіць — усім і на ўсіх хопіць. Але тут, на лясной зямліцы, Вахтанга хаваць не будзем. Ён прасіў, каб на полі пахавалі.

— Прасіў? — яна сцялася ад панурага цяжкога позірку зеленаватых вачэй, папыталася яшчэ, украй разгубленая: — Як жа ён мог прасіць?

— Ды гэта шчэ ўчора было — ён крэ-эпка радаваўся, што я вярнуўся. «Сулико» яму паспяваў. А тады ён і папрасіў. Ведаў, мабыць, шчэ ўчора, што ўночы памрэць. І сёння я здаля ўжо ўбачыў: нешта ён не такі, як звычайна. Вочы шкляныя, нерухомыя... Я ж і напаіць вадзіцаю яго хацеў...

— Ты чаго адразу мяне не пабудзіў?

— А каб пабудзіў? Ажывіла б ты яго?

— Ды не, вядома ж. Але ж гэта будзе мяне мучыць, што праспала і чалавеку не дапамагла.

— Ім дапамагай.— Шаплыка матнуў галавой на склеп.— Вось там твая дапамога спатрэбіцца.

— Пагана на душы.

— І ў мяне не лепей. Але ж жывым — пра жывое. Ты да іх ідзі і глядзі. А я беляка нашага прывяду і ў аглоблі пастаўлю. Трэба ж шчэ маракаваць, каб збруя падышла,— Шаплыка нязлосна хмыкнуў: — Што ты на мяне гэтак глядзіш? Не ведаеш, куды паедзем?

— Чаму ж... Ясна тут мне.

— Тады рукавы закасвай. Твая сумка ў склепе

стаіць. У куточку палічку я ўчора змайстраваў. Як увойдзеш — налева... Толькі бутэлечку цёмную не шукай. Яна тут, пад арэшынай. Каб не выжлукцілі...

У цёмнай бутэлечцы быў спірт, і такая думка — прыхаваць! — была напачатку і ў яе. Але Наста нічога ўчора не паспела зрабіць, і тое, што Шаплыка перанёс бутэлечку са склепа і схаваў пад арэшынай, яе дужа абразіла, ёй здалося, што Шаплыка кантралюе не толькі тое, што яна робіць, але і тое, што думае.

— Ты што, ім не давяраеш? — папракнула яна і з асуджэннем падумала, што рабіць гэта ёй не варта было.

Ён зноў, як бы і не пачуў яе, спытаў зусім не заклапочана, адчужана:

— Перавязкі будзеш рабіць?

— Мабыць, не. Я ж учора рабіла.

— Тады бульбу глядзі. Трэба ж іх накарміць. І самі мы з табою падмацуемся, бо дарога наперадзе доўгая.

— Мо хоць у лес спачатку Вахтанга адвязём?

— Э-э, Вахтангу цяпер усё роўна. Вахтанг пачакае, пакуль мы бульбы гарачай ухопім,— Шаплыка ўзмахнуў рукою, быццам рабіў камусьці нейкі знак.— Вахтанг нам даруе. Хай шчэ на неба паглядзіць, хоць і нежывы. Адтуль, з-пад зямлі, неба ўжо не відно...

Наста глядзела ўслед Шаплыку, які, крыху прыгнуўшыся, праставаў да ручая, і ў душы ажыла выснова, якая ўжо была ёю зроблена. Жорсткі нейкі Шаплыка зрабіўся. Ха, зрабіўся! А ты ведаеш, які ён быў раней? І, зрэшты, гэта нічога не іначыць. Грач што табе і ўсім сказаў? «Камендантам ляснога гарнізона прызначаецца Шаплыка...» І таму гэта — загад, якога табе і трэба пільнавацца. А ты што робіш? Сіліцца Шаплыкаву натуру спасцігнуць. Навошта? Дзеля чаго? Скажы шчэ дзякуй, што ён, гэты, як ты лічыш, жорсткі чалавек, побач. Ху-утка ж ты, галубачка, гэтыя дні скрухі і чакання з памяці выцерабіла! А каб і сёння ты тут адна ў чаканні нудзілася?..

Яна спалохалася, нібыта ўбачыла рэальную пагрозу, што тыя тужлівыя і горкія дні развагі і суму могуць вярнуцца, і ледзь не подбегам пашнуравала да склепа. Праз нахлапч адчыненыя, адрамантаваныя дзверы — вось, высвятляецца, чаго стукаў-грукаў учора

Шаплыка! — і квадратную адтуліну ў сцяне, якая нагадвала акно, шырокай палосаю лілося сонечнае святло, і пясчаная падлога паміж невысокімі, у калена, нарамі аж блішчэла. На нарах з правага ад уваходу боку, пры самай сцяне, ляжалі Канапелька і Аўдошка і паглядалі на яе прыветна. Далей, у цёмным кутку, стуліўся Буркун, укрыты плашч-палаткаю, і яна не адразу яго ўгледзела.

Павітаўшыся, Наста спытала, намагаючыся, каб голас прагучаў бадзёра і ўпэўнена:

— Чым добрым вы мяне ўзрадуеце сёння?

— Дзверы новыя маем,— паспяшаўся далажыць Канапелька.— Цяпер наш склеп, бы крэпасць. Аніводзін камар не ўточыцца.

— Сапраўды, цяпер тут нібыта ў хаце. Слаўна,— Наста сумелася, спахапіўшыся, што не папытала ў Шаплыкі, ці ведаюць пра смерць Вахтанга тут, у склепе. Дадала, аднак, з робленай бадзёрасцю: — Але мяне не дзверына гэтая хвалюе. Што са здароўем у нас?

— Мы з Аўдошкам неўзабаве «Лявоніху» ўдарым!

— А Буркун чаго маўчыць?

— Буркун есці хоча,— прагучала з кутка з выклікам, настырна і злосна.— Шаплыка, я чуў, зварыў бульбу. І глядзець загадаў...

Насце зрабілася нядобра. Калі Буркун чуў пра бульбу, дык чулі і ён і ўсе ў склепе кожнае яе слова гаворкі з Шаплыкам! Ёй нават падалося, што ў склепе чулі і іншую гаворку, тую, што ішла ля стромай сасны. Яна збянтэжана пачала поркацца на паліцы, дзе ляжала брызентавая сумка ад процівагаза і тоўстыя куклы бінтоў — падраныя на вузкія палосы прасціны. Перабірала, пераглядала ў сумцы бутэлечкі з ёдам, рываналам і марганцоўкай і ўсё аніяк не магла адважыцца сказаць пра смерць Вахтанга, хоць і разумела, што таіцца няма аніякага сэнсу.

Вузкі раменьчык сумкі не зашпільваўся, яна націснула на яго, балюча, як пракалола, прыціснула мезенец, і, злуючыся на сваю нерашучасць, папытала таропка:

— Пра бяду нашу Шаплыка вам ужо сказаў?

— Бяду прыдбаці, як кажа паэт, кожны можа. Бяды пазбыціся — не ўсякі,— змрочным тонам прадэкламаваў Канапелька.— Бяды пазбыціся — навука

складаная. І наш Вахтанг яе не адолеў, навуку тую дужа складаную.

Буркун злосна перапыніў яго:

— Ты чаго нейкія пакаянныя псалмы бубніш? Бульбы хачу. І сала. Ці ўжо ўсё зжэрлі?

Злосная Буркунова настырнасць збянтэжыла Насту, яна паспешліва запэўніла, што і сала ёсць, і хлеб, і бульба зварылася — стаіць у кацялку на агні.

— Дык чаго кешкаешся? Цягні ежу сюды! — запатрабаваў Буркун.

— Зараз усё будзе. Зараз...

Наста таропка выскачыла са склепа. Пад арэшнікам Шаплыка заводзіў каня ў аглоблі і, убачыўшы Насту, хітнуў галавой — рабіў знак падысці да воза — і, як толькі яна наблізілася, ціха запытаўся:

— Зноў Буркун бушіць?

— Есці чалавек хоча,— яна таксама перайшла амаль на шэпт.— Таму і знерваваны.

— Калі ўжо нарадзіўся панікёрам, дык панікёрам і памрэць.

— Ты што з ім не падзяліў?

— Нічога я з ім не дзяліў і дзяліць не збіраюся. У яго, калі хочаш ведаць, мазгі набок перакруціліся. Панікёр ён стопрацэнтны. Усё загінула, усё загінула — толькі гэта і бубніць.

— Я нічога такога ад яго не чула.

— Пачуеш. Кацёл панікёрскі з каптуром і на цябе выверне. Ён мяне як не за горла браў,— і, скрывіўшыся, падрабляючы Буркуноў голас, засіпеў: — Кінулі нас, параненых! А самі — на коней і драла! Сябе толькі ратуюць. А нам — падыхаць тут. А мы, дурні, гэткім камандзірам верылі і верым!

Зябкасць праняла плечы, і Наста, азірнуўшыся на склеп, прамовіла, абараняючы Буркуна:

— У гарачцы, калі баляць раны, чалавек, здараецца, абы-што вярзе.

— Тут без гарачкі казалася. Тут кацёл панікёрскі варыць. Ён учора, калі я дзверы рамантаваў, увесь час з гэтага кацялочка на мяне і на ўсіх выліваў кіпень. Увесь час сіпеў... А ведаеш, каго на ўвазе мае, якіх гэта камандзіраў?.. Вальмуса ды Грача. Вось чаму я цябе і прашу: ты з імі стражэй.

Зрабіла выгляд, што ўсё зразумела, з усім пагадзілася:

— Добра. Я пастараюся.

— Я чаму цябе гэта прашу? Будзе ён з дня ў дзень гэтак нэндзіць, дык яны ўсе ўтрох нас за гарляк возьмуць: вязіце туды, куды Вальмус і Грач пабеглі...

— Трэба было пра Чаркаса ім сказаць.

— Гэта не гарыць. Сказаць ніколі не позна,— і дадаў з націскам, як бы ставячы на нечым дужа важным для яго кропку: — А я не люблю, калі мужык — нэндза. Ды вось з розуму свайго вялікага і пагадзіўся панікёраў улагоджваць. Грачу лёгка было загадаць: будзеш, маўляў, камендантам... Бачыш? Ужо і сам, як тая нэндза!

Яна ўсміхнулася, а ён разрэзаў тонкі брусочак сала напалам, гэтак жа акуратна распалавініў бохан жытняку, рашуча працягнуў ёй харч:

— Нясі ім. А я зараз бульбу дастаўлю.

Амаль следам за Настай у склеп увайшоў і Шаплыка. Стаўляючы на нары кацялок з неабіранай бульбай, над якой белаватым туманком узнімалася пара, бадзёрым голасам абвясціў:

— Загад па гарнізону наступны: прыступіць да прыняцця ежы.

— Урэшце, хоць адзін разумны загад!

— Падмацаваўшыся — на бакавую,— дадаў Шаплыка, як бы не заўважыўшы Буркуновай шпількі.— А мы — на разведку. І харчу яшчэ расстараемся,— ён выхапіў бульбіну з кацялка і студзіў яе, перакідваючы, як мячык, у руках.— Паспрабуем даведацца, дзе і што робіцца. Вернемся ўночы. Не раней.

— А як жа Вахтанг? Хто яго пахавае? — сумна і заклапочана папытаў Канапелька.

— Мы і пахаваем,— дзелавіта праказаў Шаплыка і хапянуў кавалак бульбіны. Жуючы, ён пакроіў сала на часткі, гэтак жа і жытняк парэзаў.— На ўзлесак вывезем і пахаваем. Як і прасіў ён: не ў лесе пахаваем. А тады ўжо — сваім шляхам. Ну, што насупіліся? Бульбачка гарачая. Смачная. Але ж і апошняя!

Раздаўшы ўсім сала і хлеб, ён сваю лустачку прымайстраваў на калена, поверх паклаў скрылік сала і пасек яго на роўныя прамавугольнічкі разам з хлебам, потым праколваў гэтыя прамавугольнічкі вострым кончыкам цесака і адпраўляў у рот; жаваў усмак, нават і прыцмокваў ад насалоды.

Нечаканая думка моцна ўразіла Насту. А каму ж

тое сала і хлеб, што засталіся на возе? Ён жа там усё распалавініў, а цяпер тут новую дзяльбу правёў? Можа, на вячэру пакінуў? Дык хай бы прынёс і сказаў, што да чаго.

Буркун зжаваў сала раней за ўсіх, узяўся абіраць бульбіну. Хукаючы на бульбіну, з якой зрываў пальцамі празрыстыя лупінкі, ён раптам сказаў выразна і пагрозліва:

— Калі ты, камендант, уцячы змысліў... Калі ты нас удумаў тут кінуць... Дык ты ведай: мы цябе і пад зямлёю адшукаем. І, як Зуеў казаў, навучым свабоду любіць.

— Доўбня ты,— нязлосна агрызнуўся Шаплыка.

— Я цябе папярэдзіў,— Буркун матнуў галавой, адкідаючы светлыя валасы, якія ўпарта звальваліся на пукаты лоб; шчокі яго нават збялелі ад напружання, карыя вочы, здавалася, запалі ў нейкія ямíны і зыркалі адтуль колка і непрыветна, непрымірыма.— Папярэдзіў! А далей — роб вывады, як гаворыцца.

— Хадзем, Наста. Моташна глядзець на гэтага панікёра.

— Іду, іду. Зараз іду...

І не ішла, сядзела, нібыта прылепленая да нараў позіркамі ўсіх трох — насцярожаныя, поўныя напружанага чакання вочы. Як ты пойдзеш, калі працінаюць, свідруюць цябе гэтыя вочы, поўныя і адчаю і болю? Быццам скаваныя ногі. І пагана на душы ад Шаплыкавых слоў. Хіба нельга было нешта іншае адказаць Буркуну? Хіба мала лухты ёй, здаровай, у галаву лезла і ўчора і пазаўчора? А тут жа чалавек параненых, саслабелы. А Шаплыка як і не бачыць гэтага, узвінціўся, аж затрэсла яго. Усё-ткі жорсткі ён чалавек, бязлітасны. І гэты хлеб і сала, што ён прыхаваў на возе! Дзеля чаго гэта зроблена? Можа, сапраўды хоча ўцячы? А куды? Куды ён будзе ўцякаць? Смешна гэта! Каб хацеў уцячы, дык не вярнуўся б сюды. А можа, што іншае змысліў? У палон, скажам, здавацца... Выкінь гэта з галавы. Не дурны ён, каб ісці да іх у лапы, на верную пагібель. Яго, як ён сам кажа, босага на лёд не загоніш!..

Наста пасунулася на нарах бліжэй да Буркуна, дапамагала яму абіраць бульбу, рэзала яе на кавалачкі і, сочачы за тым, як ён кідае кавалкі ў рот, казала як мага спакайней і бадзёра:

— А вось хваляваецца патрэбы няма. Аніяк вам нельга хваляваецца, нейкай лухтой галаву забіваць. Думаць трэба пра добрае — тады раны гояцца хутчэй. І таму пра благое не думайце аніхто тут, усё благое адкідайце, хай і блізка да сэрца не падыходзіць. Раны ў вас зусім і не страшныя, яны загояцца. Разам з Аўдошкам і Канапелькам «Лявоніху» ўдарым.

Буркун раптам адвёў яе руку ўбок, сам смаргаў лупінне, але не адкідаў яго, зрываў зубамі з пальцаў, жаваў, паглядаў на Насту з недаверам.

— А вы вернецеся? — ён моцна дзьмухнуў на гарачую бульбіну, потым, распалавініўшы яе, укінуў у рот і ўтаропіўся ў Насціны вочы.— Вернецеся? Сюды вы вернецеся з Шаплыкам?

— А як жа! Куды ж нам вяртацца? Сюды і вернемся. Чэснае камсамольскае!

Адчула, што чырванее — міжвольна згадалася нядаўняе расстанне з Грачом. Мабыць, гэтак жа вось, як зараз Буркун, глядзела яна тады на яго! Мабыць, гэтак жа злавала яна, гэткім жа быў яе твар, і Грач, мабыць, адчуваў тое ж, што адчувае зараз яна!

— Трывога ў душы... З таго і гаворыш,— прызнаўся Буркун, але ў словах яго шчырасці Наста не пачула.

— А трывогу трэба далоў! Далоў трывогу. І каб болей я не чула гэтае лухты: «Кінеце нас...», «Не вернецеся...» — Яна злавала, шчыра лаяла Буркуна і разам з тым радавалася, што ўбачыла сябе ў той нядаўняй гаворцы з Грачом натуральна і без падробкі.— Не па-салдацку гэта. Падчышчайце кацялочак, а я тады вадзіцы свежанькай прынясу. Адвар у вас святаянніку ёсць. Але ж хай і вадзіца будзе пад рукою. І вы сабе ляжыце і адпачывайце...

— Што буду прасіць,— нечакана сказаў Канапелька.— Можа, якую газеціну знойдзеце... Хоць жа ведаць, дзе і што робіцца.

Буркун сказаў павесялелым голасам:

— А мне — радыё. Песні слухаць буду.

— Радыё не дацягну, бо цяжкавата.— Наста ўсміхнулася Буркуну, падтрымала жарт.— Можа, лягчэйшае што прыхапіць?

— Паўлітэрку,— без ценю ўсмешкі папрасіў Буркун.— А калі пашчасціць, дык і дзве. У мяне грошы ёсць... Вось, калі ласка... Без грошай жа ніхто не дасць...

Ён выцягнуў з кішэні скамечаныя грошы, і Наста ўзяла іх з дзіўным адчуваннем таго, што робіць глупства. Дзе і якую краму яна цяпер знойдзе? Хіба толькі што-небудзь з рук купіць.

— Тады ўжо і мяне паслухай,— ціха папрасіў Канапелька, і яна з увагаю павярнулася да яго.— Аловак які адшукай. І сшытачак калі трапіць на вока... Паперу, адным словам...

— Няйначай, завяшчанне збіраецца пісаць,— змрочна рагатнуў Аўдошка.— Ну-у, пісар няшчасны! Не можа і дня без паперы пражыць. Што, пальцы свярбяць, калі паперы не намацаюць?

Наста паабяцала, намагаючыся затушыць свару:

— Сшытачак папрашу ў вёсцы. На вёску ж мы абавязкова натрапім. І алoвачак адшукаю.

— Я потым ліст напішу,— ціха, як бы саромеючыся сваіх слоў, сказаў Канапелька.— Дамоў.

— І ў ручай наш кінеш. Дадому і даплыве.

— У ручай кідаць патрэбы няма,— спакойна адбіў Буркуноў жарт Канапелька.— Людзям аддаць. А яны потым адправяць. Калі аціхне ўсё — адправяць.

— Толькі не ліст адправяць. А нас з табою. І не куды-небудзь. На той свет адправяць. Адрас для ўсіх адзін і той жа.

Зазлаваўшы, Наста не стрымалася, кінула з асуджэннем:

— Калі сам на той свет хочаш, дык другіх жа не цягні. От жа нейкі панікёр вышукаўся.

Пачуўся рэзкі свіст, а затым прагучаў і патрабавальны Шаплыкаў покліч, і Буркун іранічна заначыў:

— Камендант нораў свой паказвае. Нецярплівы ў нас камендант зрабіўся.

— Памаўчаць ты можаш? — спытаў Канапелька.— О-ой, дачакаешся ты імберцу і крышку перцу...

Наста ўзяла кацялок і выбегла са склепа. За сцягой да ручая, што зрабілася цяпер прыкметнай у верасах, стаяла фурманка, і на ёй ляжаў, неахайна ўкрыты трафейнай плашч-палаткай, Вахтанг; з-пад ражка палаткі вытыркаліся жаўтаватыя, як вычасаныя з сасновых паленцаў, ступакі босых ног; побач з імі пабліскваўа вострае лязо рыдлёўкі.

— Ну, рушылі,— і Шаплыка тузануў лейцы; фурманка кранулася з месца; жаўтаватыя ступакі варух-

нуліся, быццам Вахтанг пакратаў нагамі.— А кацялок пакінь. Ён нам без патрэбы.

— Вады ў склеп занясу.

— А-а, гэта добра. Тады даганяй. І карабін прыхапі...

— А ім хіба нічога не трэба сказаць? — яна перавяла позірк на дзверы склепа; ад парыву ветру дзверы гайдануліся.

— А што казаць? Раніцою мы, мамкі-лямкі, усё абгаварылі. Но-а-а... Не баўся тут. Я ля сасны пачакаю, на паваротцы...

Сёння нешта дужа часта злятае з Шаплыкавых вуснаў гэтае «мамкі-лямкі». Недзе ж пачуў, бо раней, да ад'езду Грача, не вымаўляў, здаецца, гэтыя слоўцы. І неяк нядобра ён робіць, не развітаўшыся з тымі, хто застаецца ў склепе. А можа, гэтак і трэба? Можа, гэтак у мужчын і робіцца?..

Выкіраваўшы на лясную пуцявіну, Шаплыка спыніўся ля стромай сасны, дзе яго ўчора стрэла Наста. Схіліўшы галаву, ён нешта разглядаў на далоні. На краёчку ляжэйкі, нацэленая ў бок балаціны, дымілася цыгарка.

— Дванаццаць, мамкі-лямкі,— сказаў ён, не ўзнімаючы вачэй, як не заўважаў, што Наста падышла і стаіць побач.— Дванаццаць запалак усяго і засталося,— ён падкінуў карабок, з лёту схапіў яго, схаваў у правую кішэню штаноў і, узяўшы цыгарку, моцна зацягнуўся.— Трэба будзе недзе расстарацца. Іначай — труба. Без агню і ўлетку прападзеш. Чытаў, помніцца, у дзяцінстве кнігу. «Барацьба за агонь» называецца. Пра туземцаў, якія рэзаліся насмерць, каб ухапіць агонь,— племя на племя. Агонь — жыццё,— і, узяўшы лейцы ў рукі, фасоніста тузануў іх.— Но-а!

Нейкі час ішлі моўчкі, потым Наста сказала, каб парушыць маўчанне, якое абрыдла:

— А я не чытала гэткую кнігу.

— Я таксама мала чытаў,— нечакана прызнаўся Шаплыка.— Са школы мяне выперлі — з настаўніцай нямецкай мовы не паладзілі. Не хацеў яе, мову тую, вучыць: як ведаў усё роўна, што папруць яны на нас. Дакладней, спяваць не хацеў...

Наста падзівілася зменам, што адбыліся ў Шаплыку нечакана. Куды падзеўся той строгі, бязлітасны чалавек, які гэтак жорстка паводзіў сябе з Буркуном.

І голас мякчэйшы, і вочы палагаднелі, і вусны пагардліва не падціснуты. Спытала, жадаючы пачуць працяг споведзі:

— А што яна вас спяваць прымушала?

— Рускую песню, каб ёй па-нямецку шпарылі. «Широка страна моя родная...» — вось гэтую. А я — па-руску, наўпярок усім у класе. За тое, мамкі-лямкі, мяне і турнулі. Два гады на чыгунцы рабіў. У вагонным дэпо. А затым — у армію. Пры ёй і застаўся — па найме рабіў,— Шаплыка, дакурыўшы цыгарку, кінуў асмалак пад ногі, мыском бота ўдушыў яго ў пясок. Паправіўшы аўтамат, што вісеў за плячыма, азірнуўся, прамовіў заклапочана: — Другім разам трэба будзе верха гнаць. Дужа ж след колаў прыкметны пакідаем.

— Тае бяды! Каго ён тут зацікавіць?

— Э, не кажы. Трапіць на вока якому злыдню, дык возьме і на смалакурню спікіруе. Пішы прапала тады...

Шаплыкаў клопат Насту не ўстрывожыў напачатку, яна зноў сказала абыякава, паўтарыўшы Грачовы словы:

— У гэткую глушэчу чалавек раз у сто год заглядвае,— і раптам спахапілася.— А чаго на гэтую пуцявіну павярнулі? Тая ж болей зручная.

— Стары след наш прыкмеціў — мы з Лабуком тут ехалі. Кіламетраў праз сем на палянку выб'емся...

След конскіх капытоў, слабы, ледзь прыкметны, то знікаў, то выразна акрэсліваўся, і Наста ўстрывожылася. Калёснага тору тут не відно. Значыцца, Грач ад смалакурні рухаўся іншай дарогаю. Цікава, дзе ён зараз?.. Відаць, ішлі яны па начах, а ўдзень адпачывалі. А можа, дзе глухія лясы, дык і прабіваюцца вось гэтак, па лясных пуцявінах. Але ж у незнаёмым лесе цяжка арыентавацца. Ці пазначае хоць Грач дарогу сваю, каб потым, назад як пойдзе, не блукаць? Пераблытаць гэтыя пуцявінкі лясныя вельмі ж лёгка. А вось Шаплыка дужа ўпэўнена паводзіць сябе. Дарога ж дзіўна ўвесь час пятляе па лесе — сонца то злева, то справа апынаецца. А ён не сцішае хады, лупіць і лупіць без аддухі, мінаючы адно скрыжаванне за другім. Вось зноў павярнуў на нейкую глухую, амаль неезджаную пуцявіну — аніякага ж следу на старым карычневым шыгаллі, аж белаватым пасярэдзіне.

— Ці правільна ж хоць мы едзем,— засумнявалася ўрэшце Наста.

— Весялей тэпай, са мною не прападзеш.

— Следу ж ніякага не відаць.

— Навошта той след? У мяне — чуццё. Сабачы нюх,— Шаплыка пачмыхаў носам, і ноздры ў яго заходзілі ходырам.— Чуеш, як лубін пахне? Яго пах ані з чым не зблытаеш. Я і той раз яго адразу ўхапіў. Палянка ўжо і недалёка.

Аніякага незвычайнага паху Наста не адчувала. Але яна больш не распытвала, паверыўшы ў тое, што Шаплыка дарогу ведае добра. Лес жа і сапраўды робіцца радзейшы. Падобна, узлесак недзе непадалёк.

Нешырокая палянка, у цэнтры якой жаўцеў пасеяны лубін, адкрылася нечакана. Лубінавы клін быў агароджаны з трох бакоў старым жэрдзем, што ў большасці сваёй перакасілася і ледзь трымалася на абымшэлых скасабочаных слупках. Спыніўшыся ля аднаго з іх, учарнелага, з белай, як соль, смалой на тоўстых суках, Шаплыка фанабэрыста паляпаў Насту па плячы:

— Што я табе казаў? Мой нос на мёдзе рос: мядок ён адразу ўхопіць. І забач: як жа ён прыгожа зацвітае. Так што Вахтанг на нас крыўдаваць не будзе...

Дарогаю, поўная клопату і трывогі, Наста мала думала пра Вахтанга, нават неяк і прызвычаілася да таго, што ён ляжыць на возе. Калі і як будуць яны яго хаваць, у якім месцы, як усё там зробіцца — пра гэта думалася як пра нешта далёкае, не вельмі пільнае. Часцей і больш займала боязь таго, што зблудзілі і едуць не туды, куды трэба. Згадка пра Грача ўволі гуле на нейкі час выбіла яе з раўнавагі, абудзіла ў душы трывогу і хваляванне. Знобкі халадок крануў плечы пры думцы, што вяртацца Грачу будзе цяжка, што трымаць у памяці ўсе гэтыя павароты лясныя, скрыжаванні і разгалінаванні не проста. Тут вось удзень яна прайшла, а ўсе гэтыя павароткі і пуцявінкі пераблыталіся ў галаве. Скажы ёй зараз, каб ішла назад, да смалакурні,— не знойдзе дарогі, хоць забі. А калі ўночы Грачу шукаць дарогу давядзецца?

Цяпер да гэтай знобкай трывогі з балючай вастрынёю далучыўся і сэнс іх трагічнага падарожжа. Сінеча блізкага неба, што раптоўна ўзнікла за бярозамі, насцярожыла, прымусіла сэрца сціснуцца ад болю і

смутку. Шаплыка ж сябе паводзіў з ранейшай упэўненасцю, падкрэслена незалежна. Заматаўшы лейцы за абымшэлы скасабочаны слупок, над якім звісла голле старой бярозы, ён узяў рыдлёўку і ёю ж, перш чым ускінуць на плячо, зрабіў Насце знак ісці за ім следам.

Наста ішла пакорліва, панура апусціўшы галаву долу. Але ў сэрцы выспявала нязгода. Хаваць чалавека тут, воддаль ад чалавечых дарог і жытла? Воддаль ад чалавечага вока? Шаплыка ж сам казаў, што Вахтанг прасіў, каб не хавалі ў лесе. Хай сабе і палянка тут. Але ж наўкола лес стаіць. І труна патрэбна. Няўжо Шаплыка гэтага не разумее? Відаць, не разумее. Але ж, напэўна, і рацыю ён мае: як тут паткнуцца на вясковыя могілкі? Ды шчэ ж і адшукаць іх трэба. А на фашыстаў калі наляціш, дык не аб пахаванні давядзецца думаць...

Яны спыніліся ля маладой яблыні-дзічкі, якая схавала ў сваім голлі слупок і канцы жардзін, нібыта падзяліўшы лубінавы клін напалам. Наста толькі цяпер разгледзела хараство, што было наўкола. Невядома кім пасеяны лубін пачынаў цвісці, але няроўна, толькі пасярэдзіне і на канцах кліна, што ўпіраўся ў густы малады соснік, за якім шнурам стаялі бярозы. Сонца вісела за імі, і яго промні, прабіваючыся праз голле шырокімі палосамі, пасеклі лубінавы клін на няроўныя жоўтыя лапікі, і яны як бы вагаліся, сунуліся ў малады соснік. Натужна гулі пчолы, справа ад яблыні-дзічкі на тоўстых сцяблінах дзікай вікі дугаўся тоўсты, як пераціснуты пасярэдзіне, кудлаты чмель; самотна шамацела густая зялёная лістота; саладжавы водар тлуміў галаву.

— Тут Вахтанг наш спаць будзе. Пад яблынькаю. Там, ля смалакурні, груша-дзічка расце. А тут — яблынька,— Шаплыка на поўны штык увагнаў рыдлёўку ў зямлю.— Пясочак слаўны... І табе зараз работку вызначу,— ён павесіў аўтамат на сучок у жардзіне, адшпіліў і кінуў на траву рэмень з трафейным цесаком. Закасваючы рукавы, ён матнуў галавой на бярозы за соснікам.— Шнуруй туды і папараці назбірай. У доле ж трэба нешта паслаць. На голую зямлю чалавека нельга класці. Закон ёсць...

Папараць пад бярозамі расла густа. Зломваючы хрусткія сцябліны, Наста дайшла да таго месца, дзе

бярозы як бы расплываліся ў густым гаманкім асінніку, і павярнула назад, бо рукі ўжо ледзьве трымалі вялізны рагаты ахапак.

Шаплыка, стоячы ў неглыбокім, за калена, доле, прамовіў ухвальна:

— Бадай што і хопіць папараці. Кладзі яе тут. І падскоч на рог сосніку. Паназірай. За кім назіраць? А дарога там, і езджаная, як помніцца, дарога. Мы тут працаю заняты, а тым часам каго-небудзь і нанясе. Нашто ж каб на нас — знянацку...

Увесь час не скідаючы рукі з рэменя карабіна, Наста дайшла да густога сосніку. Дрэўцы, пасаджаныя чалавечымі рукамі, былі амаль аднолькавай вышыні і стаялі роўнымі палосамі, падзеленыя вузкімі калідорамі, бы прасекамі. Па адной з іх, парослай дзікай вікаю, пакрапленай лубінам, яна прайшла крокаў з паўсотні. У роўненькіх, пад лінеечку, радочках голле пераплялося цесна, як перавітае дротам. Дзе-нідзе трапляліся ялінкі, і яны ўпарта драліся ўверх, да сонца, выгінаючы і заломваючы голле танчэйшых сасонак. Потым прасека зрабілася вузейшая, дрэвы раслі гусцей і ўтварылі суцэльную зялёную сцяну, прабіцца праз якую было немагчыма — ідзі толькі туды, куды вядзе прасека.

Пасадкі скончыліся раптоўна, адкрылася пясчаная дарога, даволі шырокая, і калёсны тор на ёй быў свежы, нібыта хтосьці толькі што праехаў. Ад подыху ветру зашамацелі бярозы, што высака ўзняліся над сасонкамі, таямнічае рэха пакацілася ў зялёных нетрах. Наста спалохалася, паўглядалася ў цёмны заглуш голля і павярнула назад, амаль подбегам імчала па вузкай прасецы. Убачыўшы белаватыя, яшчэ не паспелі зацвісці, мяцёлкі лубіну, сумелася, уздыхнула з асуджэннем. От жа баязліўка! Шаплыка табе што сказаў? Назіраць за дарогаю. А ты, подыху ветру спалохаўшыся, назад папёрлася! Ён жа цябе зараз назад пагоніць! Не, бачыць жа, што яна вяртаецца, а не крычыць, каб назад ішла. Стаў на калені ля жоўтай гурбы, папараць кідае-сцеле на дол. Цяпер рукою знак зрабіў, каб да воза ішла, і сам туды тэпае.

Яна ішла марудна, як бы адцягваючы тую хвіліну, калі давядзецца пакласці мёртвага Вахтанга ў дол. Шаплыка чакаў яе ля воза, паставіўшы нагу на вобад кола.

— Там, на дарозе, след. На колах ехалі,— сказала Наста.

— Адзін след?.. Гэта наш.

— Свежы. Зусім свежы!

— Наш, я табе кажу. Той дарогаю мы Чаркаса вязлі,— Шаплыка ўзяўся рукамі за канец плашч-палаткі.— Ну, бярыся. Панеслі!

Наста разумела, што пахавання не мінуць, што яно павінна адбыцца. Аднак цяпер, калі тая сумная хвіліна наблізілася, разгубілася, выціснула збянтэжана:

— Як жа хаваць без труны?..

— А гэтак вось, як бачыш. Што, мамкі-лямкі, не праходзіла ў інстытуце сваім навуку пахавальную? То-та ж!.. Смялей, кажу, смялей! Мне, аднаму, не падняць... Мёртвы, ведаеш, заўсёды цяжэйшы, чымся жывы... Смерць, выяўляецца, больш важыць, клятая...

— І нават скрануць не магу. Як сілы ў руках няма...

Шаплыка, злуючыся, моцна пацягнуў плашч-палатку. Каляныя канцы, за якія трымала Наста, выслізнулі ў яе з рук, і цела Вахтанга глуха гупнула на зямлю.

Наста прыхінулася спіною да ляжэйкі, прыгаломшаная; гайдануліся, як паплылі, у вачах жаўтлявыя лапікі лубіну.

— О-о, мамачка! Што ж я нарабіла! Бяды якой нарабіла! Даруйце мне...

Шаплыка не лаяўся, толькі глухавата крэкнуў, сказаў паблажліва і спачувальна:

— Ён нам усім і ўсё даруе... Але ж падазрона ты нешта саслабела. І куды, куды сілы свае маладыя растраціла?.. Ну, бярыся, пястуха, бярыся. Узнімай хоць крышку палатку. Па зямлі патралюем.

Наста ўчапілася ў канцы плашч-палаткі да болю ў пальцах. Не, усё роўна не ўзняць. Шаплыка ўжо таксама сцяміў тое, узнімаць і не сіліцца, смаргае канцы рыўкамі, і брызент слізгае па траве. А вось у яе гэтак не атрымліваецца, сілы няма, хоць ты кладзіся ад крыўды і раві. І лубін зноў як бы пагойдваецца, адпаўзае некуды за той соснік. І канцы плашч-палаткі каляныя, гарачыя — ажно скура гарыць. І жалезнае колца, што на канцы, у палец уразаецца.

Трэба палец глыбей прасунуць, тады рука слізгаць не будзе. Гэ, дурніца! Як жа раней не дапяла!

Высільвалася, цягнула з усяе моцы і ўрэшце адчула, што рух брызенту спыніўся. Сагнуўшыся, яна знерухомела, але канцы плашч-палаткі не выпусціла.

— Усё... Цяпер занось бліжэй. Падцягні, падцягні крышку,— закамандаваў Шаплыка.

Наста марудзіла, рукі ў яе былі непаслухмяныя, як абвараныя, і ён падскочыў да яе, выдраў з рук канцы з такой сілаю, што ледзьве не спусціў скуру з пальца, які яна не паспела высмаргнуць з жалезнага колца, запрасаванага ў брызент. Сабраўшы канцы плашч-палаткі ў тоўсты жмут, Шаплыка рыўком смаргануў яго. Мільганулі ступакі босых ног, падобныя на высмаленыя сонцам сасновыя паленцы, і цела Вахтанга, нібыта неабкораны яловы кругляк, шуснула ў дол і глуха гупнула ўглыбіні.

«Басаног Вахтанг... Гэта ж нядобра гэтак хаваць...»

Падумала пра гэта чамусьці толькі цяпер. Яшчэ там, ля ручая, яе дужа ўразілі жаўтлявыя Вахтангавы ступакі. Але цяпер гэтыя босыя ногі, што мільганулі толькі што ў паветры, збянтэжылі і ашаламілі, спарадзілі адчай. Вось гэтак, магчыма, скончыцца і твая жыццёвая дарога. Нехта выкапае дол, спіхне туды, потым, гэтак жа, як вось зараз Шаплыка, атрасе плашч-палатку, адкіне, і яна будзе ляжаць на лубіне ці нейкай траве вялізным матылём і крыху пагойдвацца, нібыта жывая. Папараццю тады нехта цябе прыцярусіць, пачне засыпаць пясочкам...

Наста чула, як чохае ў магіле пясок, як чвыкае, бы павісквае, рыдлёўка, калі лязо трапляе на каменьчыкі, чула, як стомлена хакае Шаплыка, бачыла, як на спіне ў яго ходзяць пад узмакрэлай гімнасцёркаю шырокія лапаткі, і баялася зварухнуцца. Ёй на міг падалося, што яна спіць, што ўсё тое, што адбываецца тут, на ўзлеску, пачварны сон, які зараз растане і згоніць яго ў нябыт вадою.

— У-уф, цяжкая работа. Пакідай бяры пясочку,— Шаплыка выпрастаўся і працягнуў Насце рыдлёўку.— Бярыся, пастуха, бярыся. Не ўсе, думаю, маладыя сілы ты растраціла.

Наста пракаўтнула цяжкі камяк, што засеў быў у горле, сагнала кісцю правай рукі слёзы з вачэй:

— Не трэба, прашу, на мяне гэтак.

— А што ж мне, глядзець і радавацца, што ты тут разлімонілася? — жорстка спытаў Шаплыка.— Вахтангу хоць на папараці ляжаць. А нашым... Тым, што ля пераправы загінулі? Ведаеш, як хавалі? Дзе рука, дзе нага, дзе галава... І ўсё ў траншэю, ды зямліцы зверху. А некаторым адна бомба дол выбіла, а другая гэтулькі пясочку навярнула, што і ў сотню рыдлёвак не вывернеш...

Шаплыка ўзняў з травы рэмень, закінуў аўтамат за плечы. Выцягнуўшы з ножнаў цясак і падкідаючы яго на руцэ, рушыў да бярэзіны, ля якой стаяла фурманка. На момант спыніўся, кінуў суцяшальнае:

— Не бядуй. Помнічак зараз яму паставім. А тады і рушым далей. Можа, за добры наш клопат неба нам і ўсміхнецца. Не бядуй!..

Наста працавала ўвішна, як бы даводзіла Шаплыку, што не зломак, што сілы ў яе ёсць. Але хутка захакалася, потым дула карабіна балюча шмарганула па вуху, і тады з вачэй паліліся слёзы. Яна нават не сілілася ўтаўмоўваць іх, злізвала салёную горыч з губ. Слёзы часам тукалі па запясцях, ападалі на драўляны дзяржак, і тады далонь не слізгала, а нібыта прыкіпала да дзеравіны, і Наста ўзмахвала цяжкай рыдлёўкай з адчаем і ўпартасцю.

Разагнулася яна толькі пасля таго, як падраўнавала магільны пагурачак. Паправіўшы карабін, які пасл пеў добра-ткі намуляць шыю і спіну, азірнулася наўкола. У бярэзніку пачулася слабое туканне, быццам дзесь побач малаціў сухастоіну дзяцел, потым затрашчала і мякка бухнула на зямлю дрэва. Шаплыка, значыцца, арудуе. Не, яна, Наста, не памыляецца ў сваіх ранейшых высновах: нядобры ён чалавек, гэты Шаплыка! Кульнуў Вахтанга ў магілу, быццам бервяно. Але ж і ты, галубачка, не лепшая. З тваёй ласкі Вахтанг з калёс на зямлю гупнуўся, быццам мех. Не хацела ж, ведама, гэтага, сілы ў цябе не хапіла. Але ж Шаплыка, між іншым, хоць ты яго і лічыш жорсткім, не лаяўся, не абвінавачваў, паставіўся да ўсяго памяркоўна.

Дужа блізенька пачуўся птушыны спеў, і Наста павяла вачыма. А-а, гэта ж вунь на стаўбунку лубінавым пасярод шнура пеначка асталявалася. Доўгае, з белаватымі пупышкамі сцябло крыху сагнулася, гойдаец-

ца, і пеначка пагойдваецца, зыбаецца, і жоўценькая грудзінка на сонейку аж гарыць. Галоўка з вострай дзюбкаю задрана ў неба, відаць нават, як пульсуе гарлячок, з якога ліецца настырнае, таропкае чоўканне, быццам жаліцца птушачка, што яе спакой тут парушылі нейкія непажаданыя прышэльцы. Цяпер пырхнула да яблыні-дзічкі, пакруцілася над ёю, жаласліва цвыркаючы. А цяпер на бярозу мітнулася, аціхла — нечага спалохалася. Шаплыка сунецца! Белы слупок нясе, стружкае ў хадзе цесаком.

— Пакуль такі помнічак пастаіць,— Шаплыка ўторкнуў у мяккі, падатны пясок пагурка завостраны бярозавы слупок.— Шчэ надпіс трэба будзе зрабіць. Каб людзі ведалі, хто пахаваны. Пасля вайны тым, хто загінуў, я б золатам помнікі вывеў. А яно, думаю, гэтак і зробіцца,— ён узяў з лубіну плашч-палатку, страсянуў яе, нейкі час засяроджана глядзеў на белы слупок, працягла ўздыхнуў, апусціўшы галаву: — Спі, Вахтанг дарагі... Цяпер ужо не ўрэжам з табою: «Кульгана булі, буль-булі...» Хай табе пухам зямля. А запавет твой выканалі — на полі ляжыш. І сонца на цябе глядзіць.

Паклаўшы рыдлёўку на воз, Шаплыка зняў са слупка лейцы, выкіраваў на лясную пуцявіну і папрасіў працягла:

— Ся-я-да-ай...

Яна адмовілася, і Шаплыка хмыкнуў:

— Хэ, пешкі яна пойдзе. Доўга ты пройдзеш? Яшчэ кіламетраў з восем пiліць. Ды, магчыма, з гакам. Конь адпачыў, пацягне.

Наста абышла воз і села спіною да Шаплыкі, і ён адразу тузануў лейцы:

— Н-но-а-а!.. Куды цяпер? Да людзей, пястуха, да людзей. У лесе, мамкі-лямкі, добра. Але ж нясоладка.

— Дзе ж гэта нам радыё паслухаць? Дакладна тады ўсё будзем ведаць.

— Людзі — самае лепшае табе радыё. Яны і тое ведаюць, пра што табе аніводнае радыё і слоўца не скажа. Да людзей нам трэба выбіцца. Гэта — найпершая задача.

Неўзабаве дарога пачала разгаліноўвацца. Шаплыка патузаў левай ляйчынаю, і конь борздзенька патрухаў па вузкай пуцявіне, што крута вярнула ў змрочную нізіну, пад навісь старых вольх і бяроз. Больш

торная дарога засталася справа. Дзіўна, чаму Шаплыка павярнуў менавіта сюды, дзе аніякага следу няма? Зноў яна сабе галаву сумненнямі забівае. Не трэба, не трэба ў яго рашэнні ўмешвацца, каб потым не было папрокаў: вось, маўляў, бабу паслухаў. Нешта ж ён і ведае, калі так упэўнена пакінуў без увагі дарогу шырэйшую. Мажліва, ехалі яны тут з Грачом?..

Згадала Грача, і зноў адразу шухнула ў скроні знаёмая, хвалямі, цеплыня. Які ж ласкавы, які ўважны і смелы адшукаўся ёй Грачок! І як ён кахае! Няма, няма нічога лепшага на зямлі, чым кахаць. Каб жа толькі пашчасціла ім! Каб жа абавязкова яму, Грачу, пашчасціла. Па якой дарозе ён зараз брыдзе? Што ў яго думках? Прыгадвае ён сваю вавёрачку? Ці ўжо адкінуў, рукою махнуў? Не-е, ён слаўны, яе Грачок! Ён вернецца! А вавёрачка цябе дачакаецца! Да апошняга дня, да скону будзе яна цябе чакаць. Верыш ты ў гэта ці не — усё роўна будзе чакаць! Чуеш ты гэта ці не чуеш? Чу-уеш! Вядома ж, чуеш, што табе вавёрачка твая гаворыць!..

Спадылба зыркнула на Шаплыку. Мо падслухаў, зразумеў яе думкі? Не, нічога не падслухаў, нічога не зразумеў. Утомленае, гаротнае аблічча: горбіцца чалавек, быццам спіць, галаву звесіў на грудзі, рукі бязвольна апушчаныя... Не, варухнулася рука, пашлёгала зноў левай ляйчынаю — верне каня ў малады соснік, пакідаючы ранейшую пуцявіну справа. І ўсё тая ж непахісная ўпэўненасць! Каб жа хоць у чым засумняваўся, папрасіў парады!

— Зусім іншы лес. Не той, што ля лубіну!

Наста падала голас знарок, сумысля — хацелася пачуць нешта ад Шаплыкі.

— А як жа! — ён адгукнуўся ахвотна і адразу ж.— І лес іншы, і дрэвы іншыя. І кожнае — на свой капыл. Гэтак жа, як і людцы, між іншым. Роўных нідзе не знойдзеш: у кожнага свая галава на плячах. І ножкі па-свойму тэпаюць.

— Але ж куды гэтая дарога? Каб ведаць...

— О-ох, нецярплівая! Куды дарога, куды дарога... Не ў сваты, не хвалюйся.

— А ты ж, як помніцца, абяцаў і ў сваты сабрацца,— пажартавала Наста — прыліла да сэрца нечаканая ахвота фатыгаваць.

— Якія ўжо цяпер, мамкі-лямкі, сваты! Усё на капут пайшло.

І па голасе, па грэбліва і злосна падціснутай губе Наста зразумела, што дарма яна ўдумала пазбыткаваць: Шаплыка ўсё добра ведае пра яе і Грача. І хай сабе! Толькі блага тое, што ўсялякі кантроль над сабою яна губляе. Толькі што Вахтанга пахавалі, невядома, якая дарога наперадзе, а яна нейкія кепікі з Шаплыкі строіць. Грача свайго прыгадала, дык адразу і розум адняло.

— Твая праўда,— пагадзілася яна.— Толькі ж, аднак, не ўсё на скрут пайшло. Чалавек чалавекам застаецца.

Яна не павяла сваю думку далей, сцяміўшы, што апраўдвацца ёй няма ў чым перад Шаплыкам, дый патрэбы няма.

— Н-но-а,— Шаплыка бадзёра падварушыў каня.— Хлебцам запахла. Не чуеш?

— І пасвятлела, здаецца, крышку наперадзе. Няйначай, лес канчаецца. За бярэзнікам, мабыць, поле...

— Калі светла наперадзе, дык тады і жыць весялей. Нават белячок наш наструніўся. І-іш, як галавой трэхае. Н-но-а!.. Управа бяром, управа!

Шаплыка пашлёгаў цяпер правай ляйчынаю, скіроўваючы каня з дарогі ў рэдкаваты бярэзнік. Там-сям з рэдкага чарнічніку вытыркаліся шырокія цёмна-карычневыя пні, некаторыя аж барвовыя і ўкрытыя па краях сівой пенай падсохлага бярозавіку — бярозы, мабыць, спілавалі напрадвесні на дровы, а карэнне ўсё яшчэ жыло сваім жыццём, гнала сокі зямлі, не ведаючы, што патрэбы ўжо няма.

Саскочыўшы з калёс, Шаплыка схапіў каня за аброць і гэтак і ішоў, трымаючы кірунак на разгалістым, як шацёр, арэшнік. Наста таксама саскочыла, пайшла следам за возам і раптам аж войкнула, убачыўшы справа ад арэшніку ў прагале паміж маладымі бярозкамі жоўтую хвалістую палосу:

— Поле бачу! Гэта ж жытнёвае поле тамака!

Шаплыку гэтае адкрыццё, як ёй падалося, не ўразіла. Нібыта даўно ведаючы, што сюды, да бярозавага ўзлеску, падступае жытнёвае поле, ён прамовіў будзённа, як усё роўна нечага шкадуючы:

— Калгаснае жытцо. Улева ад збажыны — ручай. А далей — вёска. Залессем завецца. У ёй тая аптэка,

дзе мы з Лабуком лекі апаролі. Колькі ж гэта часу ўся дарога заняла? Паглядзі ты на свой гадзіннік камандзірскі.

І гэтае «камандзірскі», якое Шаплыка прамовіў з націскам, прымусіла Насту пачырванець, яна адчула, як запалалі ў яе шчокі, і, адразу згадаўшы, што гадзіннік ёсць жа і ў самога Шаплыкі, прамовіла вінавата:

— Няма гадзінніка. У зямлянцы яго пакінула.

Шаплыка скрывіў губы:

— Панікёр той, ведаю, выцыганіў, каб час ведаць. Гэтак? Вось бачыш... Толькі не пытайся, адкуль Шаплыка пра тое даведаўся. Ціху-ціху... Як быццам крычыць нехта. Учула?

— Здаецца, певень кукарэкнуў.

— Певень — потым. А перад гэтым?.. Тут, лямкі-мамкі, трубкаю вуха трэба скруціць. І ў баявым стаяць. Каб адразу — у лес матануць, калі непярэліўкі...

Шаплыка павярнуў каня галавой на лес і, прыслухоўваючыся ўвесь час і азіраючыся наўкола, пачаў здаваць фурманку задам пад абвіслае голле арэшніку. Заматаўшы лейцы за камель старой і дужа няроўнай, з выгінам ля самай зямлі арэшыны, ён зняў з грудзей аўтамат, злёгку патузаў затвор.

— У жыта выскачу. Адтуль, з пагорка, вёска будзе на далоні. Твая задача — тыл мне забяспечыць. Без мяне — анікуды!..

Застаўшыся адна, Наста, узлакціўшыся на цёплую ляжэйку, насцярожана прыслухоўвалася. Невыразна, як чмель загуў, вуркатнуў недзе матор машыны і тут жа зглух у лянотным пошуме бярозавай лістоты, што таямніча лапатала над галавой. Далёка — набат рэха не ўзнікла — бэхнуў адзіночны стрэл з вінтоўкі. Следам за ім з левага боку, дзе купкай зрасліся маладыя асінкі, зашоргаў чарнічнік, трэснула сухая галінка, нешта ціха брэнькнула. Наста ўвішна схапіла карабін, які паклала перад гэтым на возе побач з плашч-палаткаю, складзенай чатырохкутнікам.

— Адстаўце зброю! Свае ідуць,— прагучаў вясёлы Шаплыкаў голас, і неўзабаве ён і сам, шумна рассоўваючы на бакі асінавае голле, выпаўз з зялёнай заглушы.— А гэты арэшнік, ведаеш, падобны на той, што ля смалакурні расце...

— Нехта стрэліў. Дужа далёка, праўда.

— Тое, што далёка, нас не тычыцца. А тое, што блізка,— мірна, як я паглядзеў, спіць; ані душы не прыкмеціў у Залессі. Стаяць хаты, быццам намаляваныя, а чалавечкаў не відно анідзе. Як вымерлая вёска.

— Дык што рабіцьмем?

— Па-першае, хаўтуры правім. Пакуль не споўнены запавет продкаў, аб сабе клопат трэба адкінуць.

Шаплыка выцягнуў з-пад саломы на возе проціва-газную сумку. Падобна, гэта тая сумка, што пакінула Наста ў склепе... Не, тая з раменьчыкам, а ў гэтай вяровачнае вечка, уздзетае на драўляны гузік. І напакаваная яна, не пустая.

На плашч-палатку — Шаплыка патрос сумку за канцы — амаль адначасова бухнуліся дзюралевая біклажка, акраец хлеба і тонкі брусочак сала. Дык вось чаго тады, ля смалакурні, ён распалавініў харч, не ўсё панёс у склеп. І якія роўненькія адвальвае цясак скібачкі і скрылікі. І як жа смачна пахне хлеб у гэтым бярозавым гаі!

— Страхоцце, як есці захацелася,— прызналася Наста. У жываце забурчала, набегла ў рот сліна. Але ўзяць хоць каліва Наста саромелася, чакала, пакуль гэта першым зробіць Шаплыка.

Шаплыка тым часам есці як і не спяшаўся. Ён нетаропка звінціў крышачку біклажкі, панюхаў яе, потым наліў з коптурам, працягнуў Насце:

— Бяры памінальнае прычасце.

— Спірт? — Наста адразу ўчула знаёмы пах.

— Крыху разбаўлены. У Залессі бровар ё. З таго аптэка тутэйшая аніколі на гаравала.

— Ну-у, аторва,— сказала Наста. Але крышачку ад біклажкі ўзяла асцярожна, баючыся праліць хоць кроплю.

— Ты мяне, мамкі-лямкі, і гаршком можаш называць. Але пра гарачую печку і не мыслі і не думай — не ўвапхнеш,— схіліўшы галаву, Шаплыка зазірнуў у гарляк біклажкі, прамовіў маркотна, як бы ўслухоўваючыся ў гучанне свайго голасу: — Спі, Вахтанг, спі, дружа!.. Хай табе пухам наша зямелька беларуская. Яна — мяккая,— ён нахіліў галаву, зрабіў два буйныя глыткі, са звонам, і працягнуў руку да Насты — прасіў крышачку.— Скажы і ты яму слова.

— А што сказаць?

— Тады — моўчкі глытай. Яму, зрэшты, самыя гожыя словы — вецер...

Спірт быў амаль і не разбаўлены, рот апякло, і Наста закашлялася, абапёршыся рукою на ляжэйку. Шаплыка асцярожна і далікатна вызваліў з яе пальцаў закрутку, навінціў на гарляк. Адной рукою соваючы біклажку ў сумку, ён другой працягнуў Насце скрылік сала, пакладзены на хлебную лустачку.

— Трымай. Падсілкуемся і рушым у вёску,— бровы ў яго тарганулiся, як бы нешта прыгадаў чалавек блізкае сэрцу.— Я шчэ ля смалакурні змеціў, якім ты воўкам на мяне паглядала. Скнара, маўляў, гэты Шаплыка: прыхаваў сабе і сала і хлеб. А пра тое, што памінкі трэба наладзіць, і не падумала.

— Не падумала,— прызналася Наста, беручы напоўніцу хлеб і сала.

— А я — падумаў. І цяпер на душы спакайней. Запавет продкаў мы споўнілі — грахі з Вахтангавай душы змылі. Цяпер са спакойнай душою і пакіруем у вёску, у гэтае самае Залессе. А там, як мне думаецца, не вельмі каб нас і чакалі. На нашага брат, вайскоўца, цяпер скоса паглядаюць. Чаму скоса? Дык яно ж і натуральна: кінулі людзей пад немцам. А цяпер сала і хлеба ў іх, тых людзей, патрабуем!

Шаплыкава аблічча раптоўна і моцна змянілася: бровы перакасіліся, глыбокія складкі прабіліся ад вуснаў да носа, і твар ад таго выдаваў непрыветным і злосным. Злоснасць варухнулася і ў Насцінай душы.

— Чаму гэта «патрабуем»? Грач жа сказаў: купляць за грошы. І не шкадаваць іх.

— А чаго варты тыя грошы? Папера. Дый папера зараз нешта важыць. А грошы — пыл,— і, як бы ставячы кропку на гэтай размове, счапіў далоні, пакруціў пераплеценымі пальцамі.— Робім гэткім макарам...

Шаплыка выцягнуў з-пад сена вайсковую фуражку з зялёным аколышам, надзеў яе. А ў Насты аж заняло дыханне. Грачова ж фуражка!

— Адкуль яна ў цябе? — спытала, не тоячы здзіўлення.

— Знайшоў у лесе. А Грач не ўзяў. Калі знайшоў, сказаў, дык і насі на здароўечка. Дзівішся, бачу, што Шаплыка яе надзеў?

— Але,— прызналася яна, і ў яе адразу адлегла ад сэрца, нават весела зрабілася. Сапраўды: аторва!

Знайшоў жа фуражку, бы з неба яму ее падкінулі. А Грач гэтулькі па лесе потым шастаў і не знайшоў.

— Да людзей жа ідзём. Таму і надзеў, каб бачылі: форма! Гэта зараз важна. І робім, значыцца, такім макарам: спачатку я пайду. Калі там ціха — табе знак даю. Руку адну ўзняў — адна ідзеш. А дзве калі — на кані гоніш,— ён дзелавіта змёў хлебныя крошкі з плашч-палаткі на далонь, сыпануў іх у рот.— Не пераблытаеш?

— Не пераблытаю.

Наста не злавала на Шаплыку, хоць і бачыла, што той паводзіць сябе занадта па-камандзірску, падкрэсліваючы ва ўсім сваю перавагу. Відаць, з гэтае перавагі, ды яшчэ з той кроплі спірту і хлебнай лустачкі са скрылікам сала — голад, праўда, не атух, есці хацелася па-ранейшаму,— прыйшло да яе пачуццё ўпэўненасці, вера ў тое, што аніякая бяда іх не зачэпіць. Яна падзівілася з таго, што адчуванне гідкасці — ела ж хлеб, пакроены на плашч-палатцы, на якой зусім нядаўна яны тралявалі да магілы нябожчыка! — узнікла на кароткі міг, калі Шаплыка змёў з брызенту і сыпануў хлебнае крышыва ў рот, і тут жа растала. Нават падалося: пахаванне адбылося не сёння, яно было даўно, магіла Вахтанга засталася далёка недзе, куды ніколі болей ім не давядзецца вяртацца.

Адчуванне лёгкасці і ўпэўненасці жыло ў Насцінай душы і пазней, калі яна засталася адна на ўскрайку жытнёвага поля, ля вузкай, ромбам, крушні, густа парослай маладым асіннікам і лазовым кустоўем. Відаць, шмат гадоў звозілі і скідвалі сюды каменне з поля, паклычанае карэнне, дзірваны, і маладая лаза густа і чэпка ўзялася тут, гнала ўверх і на бакі гонкае тонкае голле, усыпанае сакавітым лісцем. Ад ветру тонкія галіны матляліся, зыбаліся, часам захіналі хату з новым гонтавым дахам, да якой, прыгінаючыся ля жытоў, але не дужа і тоячыся, праставаў Шаплыка.

Стаміўшыся стаяць на каменні, якое выпаўзала з-пад ног, нібыта крышылася, Наста прысела ўскрай крушні на ўчарнелы ад часу асінавы пень. Цяпер яна добра бачыла і сенцы хаты, і хляўчук, і нават два паліваныя гладышы, уздзетыя на частаколіны плота. Шаплыка толькі некуды знік. Ішоў, ішоў ля жыта, а цяпер быццам пад зямлю праваліўся. Не, вунь ён ужо ля саменькага плота апынуўся, падобна, што гладышы

рукой пакручвае. Да сенцаў цяпер падыходзіць, дзверы адчыняе...

Вецер гнаў па жытах пакатыя рудаватыя хвалі. Буйныя каласы марудна, спаважна схіляліся, потым як бы прыўзнімаліся, і мяккае іх шапаценне глухла ў каляным нервовым трапятанні лістоты маладога асінніку. Наста смарганула каласок, ціўе было моцнае, і ўсё каліва выдралася з зямлі. Яна вылушчыла ў далонь зеленаватыя, з попельнай палоскаю на кантах зярняты, кінула ў рот, і яны лёгка расціснуліся ў зубах на саладжавую цёплую мякаць.

Пацягнулася была па другі каласок, больш буйны, як сплясканы з бакоў, і вока злавіла рух ля хаты. Шаплыка ж гэта стаіць ля сенцаў і круціць рукамі. Цяпер уздзеў нейкую анучу на аўтамат — над галавой круціць. Усё ў парадку, значыцца. Трэба на возе ехаць!

Наста ўскочыла з свайго зручнага седала і ўпрыдбег, з карабінам пад пахаю, панеслася па сухой і роўнай, як пад шнур прабітай, разоры да ўзлеску. Зрэдзьчасу выкідвала руку на пакатыя рудаватыя хвалі, і цёплыя шархоткія каласы пругка тукалі ў пальцы, песцілі і лашчылі скуру.



## 10

Хата пад новым гонтавым дахам, якая з узлеску здавалася сафацэтная і прывабная, у сапраўднасці ж была старая, нават крыху скасабочаная. На ніжнім вянцы, счасаным у трох месцах сякераю, праглядвала трухлявасць — гаспадар, мабыць, меўся ставіць новы подруб. З аднаго боку, ад саду, сцяну пачалі ашалёўваць. Бурштынавага колеру шалёўка была складзена на падворку ў доўгі, невысокі штабялёк, укрыты кавалкамі шэрага, дранага па краях, рубероіду і прыціснутага камянямі.

На канцы штабялька, звернутага тарцом да вуліцы, сядзеў Шаплыка. Насупраць яго, трымаючы ў руках хлебны бохан, адрэзаны з аднаго боку, і пук маладой цыбулі, стаяла старая кабета ў доўгай чорнай спадні-

цы і выцвілай, без гузікаў, старой злінялай паддзевач-цы, падобнай на вайсковы бушлат. Падворак густа зарос трыпутнікам, шараватым, як попелам прысыпаным. У неглыбокіх драўляных ночвах, цуцуркаючы, дзяўблі зялёную сечку з травы рабыя маленькія кураняткі. Крыху воддаль купалася ў пяску чорная курыца. Побач з ёю, быццам на варце, стаяў цыбаты певень і, убачыўшы Насту, якая ўваходзіла ў весніцы, рэзка галёкнуў: «Куд-куд, куд-куд!»

Насціна вітанне — яна на момант прыпынілася ў весніцах — напалохала гаспадыню. Кінуўшы насцярожаны позірк на Шаплыку, быццам просячы нейкага дазволу, кабета загаманіла таропка, і гаворка гэтая была больш адрасавана не яму, а новаму чалавеку, які нечакана з'явіўся на падворку:

— А на большае — выбачайце... Хлебцам зараз не дужа-ткі разжывешся. З прадмага што быў — той даўно паелі і забыліся. А новага не дужа-ткі спячы і ўхопішся, бо нямашака з чаго. Мне, дзякуй богу, братавая дапамагае. На станцыі жывучы, дык ёй нешта і перападае...

Шаплыка ўзяў з рук жанчыны бохан хлеба і пук маладой цыбулі, паклаў на жоўтую, не прыкрытую ў адным месцы рубероідам шалёўку, употай падміргнуўшы Насце:

— Дык, значыцца, прадаўшчыца крамы, Гэлька тая, уночы ўсё з прадуктовага магазіна і выграбла?

— Падчысціла, дзеткі мае, падчысціла. Заўтра немцам прыйсці, а мы сянні да магазіна пабеглі — пу-усценька.

— Як жа гэта яна злаўчылася? Адна, ды ўвесь магазін,— сказала Наста, нагнаўшы і на твар і ў голас здзіўленне.

— Дак швагрусь ейны дапамагаў — відзелі. Не ўломак мужчынка. Бочачку з алеем папёр — не сагнуўся нават. Шчэ і макароны — у скрынях такіх жоўценькіх яны — цягаў. На Гэльчын падворак цёг...

— А швагрусь той дзе жыве?

— А на станцыі. І робіў тамака, і цяпер на той рабоце: з гэтым флажком стаіць, калі цягнік ідзець... Прозвішча якое? Яначкам клічуць. А прозвішча дак ужо і не ў памяці...

Кабета хітравала, гэта было відаць, і прозвішча сваяка прадаўшчыцы, па нейкіх там меркаваннях, ка-

заць незнаёмым людзям аніякай ахвоты ў яе не было. Шаплыка зноў няўзнак падміргнуў Насце, і яна зразумела, што ён просіць памагчы ў размове з гаспадыняй.

— А прозвішча прадаўшчыцы? — спытала Наста першае, што прыйшло ў голаў.

— Гэта не гарыць, прозвішча яе мы і самі потым даведаемся,— Шаплыка перапыніў Насту, хоць і было відаць, што ён запытаннем Насціным вельмі задаволены, і паглядзеў на гаспадыню пачціва і ласкава.— Што яшчэ прасіў бы ў вас, даруйце, што адно і робім — памагчы просім. Можа, якое паперчыны кавалачак знойдзецца, сшытачак які-небудзь. І алоўвачак.

— Нам за грошы. Мы заплоцім. Грошы ў нас ёсць!

Але Насціны словы гаспадыня пакінула без увагі і скоранька пашыбавала ў хату. Наста заўважыла, што на драўляным ганачку гаспадыня кінула занепакоены і ўстрывожаны позірк на вясковую вуліцу, як бы робячы таемны знак камусьці. Але вясковая вуліца была пустая.

— Здаецца, жыць будзем багата,— прамовіў Шаплыка весела, як толькі постаць гаспадыні знікла ў сенцах.— Ты заўважыла, як яна сіліцца найхутчэй выперці нас з падворка? А калі я заявіўся, што было? Ад мяне пырхнула, быццам качка дзікая. Ледзь утрымаў.

— Яна нечага нас пабойваецца.

— Хэ-э, пабойваецца. Яна ж трасецца ўся ад жаху. На станцыі — немцаў поўна. Сёння ранкам трох параненых нашых салдат — прыпыніліся ў вёсцы, а нейкі ж гад шапарнуў! — у машыну паскідалі, як бярвенне. І — у лагер, за дрот калючы. А ўсіх мужчын з вёскі на станцыю пагналі — грузіць вагоны.

— Дык чаго ж мы, як дурні тыя, расселіся тут і бяды чакаем?

Шаплыка развесяліўся зусім нечакана, але шчыра і без падробкі зарагатаў:

— Тое ж і кабета мне тутка баяла. Не баўся, маўляў, дзетка, у вёсцы. Што ім, немцам, цяжка са станцыі на машыне сюды жыкнуць?

— А колькі да станцыі?

— Кіламетры са два. З гакам, праўда.

Наста зазлавала. І ён, гэты Шаплыка, героя з сябе

строіць! Ды накоціць машына з немцамі на вуліцу, дык куды тады дзявацца? Але ж няхай не думае, што яна баязліўка, яна аніякай гарачкі пароць не будзе.

— А што на фронце чуваць? — спытала яна, намагаючыся не выдаць свае збянтэжанасці.

— Глуха. Анічагуткі кабета не ведае.

— Цяжка паверыць, каб у такой вялікай вёсцы ніхто радыё не слухаў. А калі адзін паслухаў — весткі па ўсёй вёсцы паляцелі.

— Наіўны ты чалавек, Настачка. Ва ўсім Залессі быў адзін-адзінюсенькі прыёмнік — у старшыні калгаса. Прыёмнік пад абух пайшоў. А старшыню немцы да сценкі паставілі. Яны ўдзень тут арудавалі, а ўвечары — мы з Лабуком па вёсцы кацілі,— Шаплыка звесіў галаву над парканам, паглядзеў на вуліцу, дзе, аддалена, пачуліся і зніклі людскія галасы, як бы ўсплёск нейкай мелодыі.— Ці ён, ці я — у кашульцы нарадзіліся: нейкая гадзінка нас тады ўратавала — размінуліся з немцамі.

— Нешта ж гаспадыня доўга там кешкаецца. А што, цікава, яна яшчэ казала? Хоць нейкія ж навіны павінна кабета ведаць. Не ў лесе ж яна жыве!

— Можа, ведае. Ды гаварыць не хоча. Што з ахвотаю баяла, дык гэта пра аб'яву — на будынку былога праўлення калгаса вісіць. Парадак новага жыцця там абвешчаны: калгасны хлеб — не чапаць, жывёлу калгасную і саўгасную — не чапаць, машыны і маёмасць — не чапаць... Усё гэта, маўляў, належыць Германіі. Забараняецца дапамагаць узброеным чырвонаармейцам. Калі хто ўбачыць — павінен тэрмінова паведамляць уладам. За невыкананне — расстрэл на месцы.

— Пляваць я хацела на іхнія загады!

— Пляваць — лёгка. А вось каб на той загад ды нашу рэзалюцыю нам намаляваць — гэта не пашкодзіла б,— Шаплыка запусціў руку пад фуражку, пашкроб пяцярнёю галаву.— Значыцца, план у мяне такі выспявае. Калі толькі ўдасца...

— Толькі я цябе дужа ж буду прасіць: рызыку гэтую тваю — па баку.

Шаплыка паставіўся да папярэджання абыякава, гэта, як падалося Насце, яшчэ больш яго ўзвінціла:

— Ха, рызыка! Ды рызыка цяпер на кожным кроку. А кабета казала, што на бровары сталоўка была.

Думаю, што харч там нейкі адшукаецца. Гэта нам усё па дарозе будзе, ты толькі не хвалюйся... Ціху! Ідзе наша гаспадыня!

Шаплыка падаўся насустрач гаспадыні, якая выйшла з сенцаў.

— Тое, што нам і трэба, гаспадынька,— сказаў ён, беручы ў яе [redacted] рук сіні вучнёўскі сшытак і жоўты абшарпаны аловак, завостраны з абодвух канцоў.— Настачка! Плаці грошыкі!

— Схавайце, дзеткі вы мае, грошыкі, схавайце. Сыну прычындалле школьнае цяперся нашто — сёлета Уладка сёмы скончыў. І добра ж вучыўся, скажу вам і пахвалюся,— твар жанчыны падабрэў ад лагоднай усмешкі, і ўся яна неяк засвяцілася знутры. Толькі ў шэрых, асмужаных вачах пад доўгімі дужкамі броваў жылі ранейшая трывога і падазронасць.— Усё мне казаў: вывучуся, мама, ты ля кароў хадзіць і гной на ферме грэбці не будзеш — сам грошы зарабляць пайду. А яно ж ву-унь куды павярнула — бэлькі немцам грузіць. Некаторыя паўцякалі, калі немцы згон тут рабілі. А ён сціплы, не дужа і смелы. От яго — першага — за шкірку.

— Вы свайму хлопцу скажыце, каб не дужа на фашыста шчыраваў,— параіў Шаплыка.— У восьмы клас пойдзе, дык пальцам будуць торкаць. І ў камсамол не прымуць. Ён камсамолец?

— Хто ж на іх, паганцаў, шчыруе, дзетачкі ж вы мае! Яны ж сілком тут згон учынілі. І ўчора, і пазаўчора, і сянні,— забедавала кабета, і было па ўсім відно, што марна чакаць адказу на апошняе Шаплыкава пытанне.

— Прозвішча Гэлькі? — строга папытаў Шаплыка.— Добра... Мы яго сюды і запішам,— Шаплыка разгарнуў сшытак, зрабіў кароткі запіс і, хаваючы сшытак і аловак у кішэню, сказаў з даверам: — Вось мы так і зараз да гэтай Гэлі Міронччык і заявімся. Зара-ана яны ўзяліся рабаваць дзяржаўнае дабро. І-іш, лаўкачы!

— О-о-ей, вы ж не кажыце, што ад мяне даведаліся. Бо са свету яны мяне звядуць. Пагалоска ідзе, што той швагрусь ейны за старасту ў нас будзе.

— Вам няма чаго баяцца. Вы шчыры і сумленны чалавек. І мы пра гэта будзем дакладваць камандаванню,— сур'ёзным тонам паабяцаў Шаплыка.

— Навошта дакладваць! Навошта дакладваць?

А-а-ё-а! Распусціла язык, старая пнёўка! Але ж вы пабылі і пайшлі. А мне тутка што рабіць? Што я немцу давяду, калі прыкоцяць на машыне?

Па нагах з-пад штабялька шалёўкі біла халаднаватая пройма. Знобка рабілася і ад бедавання кабеты, бедавання шчырага, але ж дужа спалоханага чалавека, і Наста зрабіла вачыма знак Шаплыку: трэба, маўляў, ехаць далей, не губляць час. У бедаванні гаспадыні было і папярэджанне, да якога Шаплыка чамусьці не вельмі і прыслухоўваўся, і на знак Насты ўвагі не звяртаў. А яе гэтае папярэджанне пачынала ўсё больш і больш непакоіць. Сапраўды, неразумныя яны людзі: швэндаюцца па вёсцы, непадалёк ад станцыі, дзе поўна немцаў. А раптам ужо нехта і шапарнуў ім — тут і ногі не паспееш вынесці, уловяць адразу.

— Немцы тут доўга раскошваць не будуць,— упэўнена сказаў Шаплыка, як бы быў дужа задаволены, што вось знайшоў час пагаманіць з добрым чалавекам.— Атрымаюць добрага выспетка і папыляць дамоў. Папыляць без аглядкі, ды шчэ падмазаўшы пяткі, як гаворыцца,— ён згроб цыбулю, паклаў на бохан, уручыў Насце.— А за хлеб і цыбульку — дзякуем. Майце на ўвазе, добрая справа ніколі не прападала і не прападзе. Вы гэта і самі ведаеце, не горш нас. Але, мабыць, не здагадваецеся, што і ваша вось гэтая дапамога на нашу перамогу будзе працаваць...

Следам за Шаплыкам Наста паціснула руку гаспадыні. Пальцы былі каляныя, цвёрдыя, усе ў засохлай зямлі і рудых пісягах ад малачаю і адуванчыкаў.

— Вазьміце грошы... Не, праўда, вазьміце,— міжвольна вырвалася ў Насты.

Нешта ці ў голасе, ці ў позірку дужа расчуліла гаспадыню, і яна затрымала Насціну руку, калі тая пацягнулася ў кішэню кофтачкі па грошы.

— Няруш ты іх! Нярушай,— яна прыціснула Насту да сябе, пацалавала.— Хай жа табе шчасціць, дзіцятка ты маё. Хай матка цябе стрэне, здаровенькую...

Гаспадыня была басаногая. Не ўбярогшыся ад абдымкаў, якія былі нечаканыя, але шчырыя, без падробкі, Наста прыгнула галаву і нейкі час глядзела на чорныя і парэпаныя пальцы, на шырокія і сплясканыя, дзіўна загнутыя ўніз пазногці, падобныя на вузенькія капытцы; шчыкалатку правай нагі спавіла

шырокая, зямлістага колеру палоса, і вышэй яе прабівалася пухірчатая чырвань, нібыта скуру нядаўна папаліла крапіва.

— Дзякую вам... Ад душы,— голас у Насты прагучаў хрыпата — у горле ўзнік і захрас якраз на выхадзе, замінаючы дыхаць, нейкі рагаты яблык.— Дзякуем за ўсё...

З падворка, чужога, ніколі раней не бачанага, Наста ішла з адчуваннем незразумелай віны перад жанчынаю, якая ад душы пацалавала яе і пажадала добрай дарогі, быццам роднаму чалавеку. Але Шаплыкавы думкі, як Насце падалося, ішлі зусім у іншым кірунку. Адразу, як толькі ад'ехалі ад весніц, ён таропка ўкрыў аўтамат ражком плашч-палаткі, папрасіў, быццам загадаў:

— Карабін дай сюды. А гэтую нямецкую тыкатоўку прыхаваем.

— А навошта?

— Чырвонаармеец, а ходзіць з аўтаматам нямецкім — ненатуральна гэта выглядае. Цяміш тактыку? І грошы сюды пакладзі, вось у наш сшытачак, каб навідавоку,— ён разгарнуў сшытак, паклаў у яго грошы і зноў засунуў сшытак у кішэню.— Нямецкае гэтае прычындалле — таксама далоў,— зняў з дзягі падсумак з запасным дыскам, цясак у футарале, заціснуў іх побач з аўтаматам.— Вось у гэткім выглядзе мы і сустрэнемся з Гэляй Міранчык — шостая хата, трэба лічыць. Сшытак на стол адразу. Робім вопіс прадуктаў, плоцім грошы...

— Калі і ёсць тыя прадукты, дык яны ж прыхаваныя!

— А мы ёй — падзяку. За што? А за тое, што схавала харч ад чужынцаў. І хай цяпер адкрывае сваю схованку для роднай арміі. Разумная тактыка ў каменданта ляснога шпіталя?

— Але...

Наста не пярэчыла, ухвальна, як адчэпнае, хітнула галавою. Насцярожаны выгляд прыціхлай, стоенай вясковай вуліцы ўзмацняў трывогу. Анідзе ні душы — бы павымірала ўсё наўкола. Дзверы ў хатах, нават у хлеўчуках, шчыльна пазачыняныя. Фіранка прыўзнялася на адным акне і хуценька апусцілася, зачапіўшыся краёчкам за разгатую герань у белым вазончыку — Наста нават не паспела ўгледзець, жаночы ці

мужчынскі твар мільгануў там. Недзе па правы бок вуліцы спалохана гаўкнуў і змоўк, быццам атрымаў кухталя, сабака.

Аднак у шостай хаце, якая стаяла крыху наводшыбе ад вуліцы, былі расчынены і вокны і дзвёры, фарбаваныя ў сіні колер. У палісадніку, які быў адгароджаны ад вуліцы шчыльным парканчыкам з рудога, дбайна абстружканага голля, зелянелі два кудлатыя кусты язміну, і паміж імі, высокімі свечкамі, стаялі мальвы з сакавітымі лісцінамі — па дзве насупраць кожнага акна.

Шаплыка пашлёгаў ляйчынаю, скіроўваючы каня да палісадніка, абвясціў ціха, але дужа бадзёра і ўзнёсла:

— Зараз будзем знаёміцца з Ягорыхай. Прадаўшчыцаю Гэлькай. Па прозвішчы Міронччык.

— А людзей і не відно. Пахаваліся гаспадары, нас убачыўшы?

Быццам у адказ на запытанне, узвіўся вясёлы, залівісты мужчынскі голас:

I ана-а-а, з-акрыўшы во-очы,
А ні жыва, а ні-і-і ме-ертва-а-а...

Да мужчынскага далучыўся густы і сакавіты жаночы голас — на падворку, за варыўнёй, выяўляецца, спявалі! — і Шаплыка ажывіўся, саскочыў з воза:

— А ты кажаш — пахаваліся! Балююць!

Звязаныя пятлёю лейцы Шаплыка ўздзеў на канец жардзіны, што тырчала з-за верхняга крайняга слупка парканчыка, закінуў за плечы карабін, абцягнуў пад дзягай гімнасцёрку і, моўчкі хітнуўшы галавою Насце, смела адчыніў вузкія драўляныя весніцы, што прыляпіліся да шула высокай і шчыльнай брамы.

Наста ўвайшла следам за Шаплыкам на падворак і збянтэжылася ад утульнасці і ціхамірнасці, якія тут панавалі і сведчылі аб парадку і заможнасці. Чырвоная сцежачка з уломкаў цэглы, удушаных у зямлю, ішла ля доўгай, амаль на ўсю сцяну хаты, тэрасы; насупраць тэрасы, фарбаванай у той жа колер, што і вокны хаты, ярка-зялёнай палосаю паслалася нядаўна абкошаная травіца; злева ад гэтай палосы зеляніліся на шырокіх лехах цыбуля і фасоля. Адным канцом грады ўпіраліся ў хляўчук, да якога далучалася дрывотня з роўнымі конусамі буйна пабітых бяроза-

вых паленцаў, а другім — у нізкую варыўню, з вузкім, на два вянцы толькі, амаль ля самай зямлі, акенцам; на дах варыўні, чорны, з абкораных гузаватых аполкаў з абзой, навісалі галіны яблынь, густа абсыпаныя зялёнымі яблычкамі. Пад яблыняй за нізкім, але доўгім сталом сядзелі два мужыкі і жанчына. Мужчыны месціліся на шырокай драўлянай лаўцы, якая адным канцом завісала над нізкарослай, але дужа лапушыстай фасоляй, а жанчына — маладая, з мажнымі грудзямі, якім было цесна пад жаўтлявай, з кароткімі рукавамі, сукенкай,— раскашавала адна ля тарца стала ў старым карычневым лазовым крэсле; з аднаго боку крэсла, павернутага да дзвярэй варыўні, лазовыя пруткі зламаліся, і здавалася, што на гэтых вострых, бы восці, піках, уваткнутых у зялёную шчотку дзяцельніку, і трымаецца крэсла.

— Гаспадарам — наша шанаванне!

Басавітае Шаплыкава прывітанне як падсекла песню. Ад подыху ветру рыпнулі адчыненыя дзверы тэрасы, ручка іх тукнула ў драўляную сцяну, і шкляны слоік, што вісеў на зубе бараны над рашотчатым, як састаўленым з розных кавалкаў, акном тэрасы танютка і жаласліва бомкнуў.

— Добры дзень,— адказала жанчына; яна не ўзнялася і паглядзела спачатку на мужчын, якія сядзелі за сталом, потым на нечаканых гасцей.

— Мы да Гэлі Міронччык.

— Перад вамі яна і ёсць,— сказала жанчына і паправіла рукою светлыя падвітыя валасы, а потым, апусціўшы руку, затрымала яе на вострым падбародку і падпёрла пальцам маленькі носік; шэрыя вочы глядзелі больш са здзіўленнем, чым са спалохам.

— Шаплыка. Выконваю абавязкі каменданта гаспадарчага ўзвода шостага палка асобага прызначэння,— Шаплыка, казырнуўшы, сеў на кароткую драўляную лаўку насупраць мужчын і паклаў знятую фуражку злева ад сябе. Паляпаў даланёю па правы бок — загадваў садзіцца і Насце. Карабін ён паставіў прыкладам на зямлю і сціснуў каленямі; дула тырчала над сталом, упіраючыся мушкай у беражок эмаліраванай талеркі, на якой было накроена сала.

— Калі ласка. Чым багаты, тым, як гаворыцца, і пачастуем,— жанчына ажывілася, і на яе твары залунала вымушаная гасцінная ўсмешка.— На абед якраз

лучылі. Бульбачка ў нас з мясам. Радысачка, салата свежая. Цыбулька...

А Шаплыка ўпарта вёў сваё:

— Па звестках, якія мы маем, вы прыхавалі — і, між іншым, разумна зрабілі! — харчовыя прадукты з крамы, дзе працавалі. Цяпер яны будуць змабілізаваны на патрэбы нашага палка. Перадачу дакументальна аформім...

— Налі нашым госцейкам, Яначка,— жанчына пакруцілася ў крэсле, кранула за плячо мужчыну ў карычневай кашулі, таўсматага, з чорнай ускудлачанай чупрынаю і мясістым, дуляю, носам.

— Трасцу,— бухнуў, як у бочку раўнуў, таўсматы.— Па гэткіх госцейках загарадка на станцыі плача. І-іш, смелы які заявіўся і пукалку сваю наставіў! А чаго ты з яе на граніцы не пукаў? Чаму твой полк асобага прызначэння зямлю сваю не абараніў? Чаму немца ў глыб Расеі запусціў! Хэ! Ты паглядзі на гэты полк, Стась!

Стась быў поўная супрацьлегласць Янку — дробны твар, з тонкім, як бы наўскасяк зрэзаным кончыкам носа, рэдзенькія светлыя валасы, грыўка якіх прыліпла на лбе, над правым брывом, куцым хвосцікам.

— Гэлечка мае рацыю, мае добрую рацыю,— голас таксама быў поўнай супрацьлегласцю голасу таўсматага — юрлівы, тонкі.— Салдат здарожыўся, салдацкі хлеб бурлацкі. Хіба ж ён вінаваты, што камісары падманулі? «Чужой земли мы не хотим ни пяди, но и своей вершка не отдадим...» А што салдацік гэты вінаваты, калі палову Расіі аддалі? А што салдацік гэты вінаваты, калі жыды ўсё прадалі? Але немец парадак паўсюль навядзе. Немец парадак любіць...

— Па законах ваеннага часу за гэткія разгаворчыкі,— расстрэл на месцы,— Шаплыка дулам карабіна ссунуў міскі на сярэдзіну стала і на месца, якое вызвалілася, паклаў сшытак і, пераклаўшы грошы пад вокладку, выдраў аркуш, разлінаваны сінімі рыскамі, пачаў нешта хутка пісаць алоўкам.

— Адкуль ты вылупіўся, такі расстрэльшчык? — таўсматы схапіў нож і ўдзюбнуў яго ў краёк стала; лязо загайдалася і зазвінела.— Камендант шостага палка... Ха-ха! Камендант палка зваліўся з паталка.

Што ты трубіш? Няма аніякіх палкоў. У палон усе паздаваліся. Разам са Сталіным.

— Маўчаць! — Шаплыка — твар яго наліўся чырванню — з такой сілай бразнуў кулаком па стале, што міскі падскочылі.— Каб болей не чуў я гэткага паганства. Папярэджваю апошні раз! — Шаплыка перагнуў старонку ўдзвейгу і працягнуў яе прадаўшчыцы.— Гэта вам даецца распіска. У адпаведнасці з ёю мы рэквізуем частку прадуктаў. Бяром, значыцца, цукар, крупы, макароны. Дакладна вырашым, калі паглядзім, што ў вас ёсць...

— Ну, смяхоцце. Распіска,— прадаўшчыца скрывіла губы. Але аркушок узяла, паглядзела і кінула на сярэдзіну стала.— А дзе мне тыя прадукты ўзяць? Раджу я вам зараз тыя крупы і макароны?

Таўсматы зыркнуў на Стася, тоўстая ніжняя губа ў яго адвісла, зрабілася падобнай на кавалачак аладкі.

— А каб і хацела — не родзіш,— таўсматы выдраў нож з краёчка стала, кінуў яго на распіску.— І крыкам тут ніякае рады не дасі. Мы — людзі. Яны таксама. І рабіцьмем таму па-людску,— ён падсунуўся да прадаўшчыцы і, нахіляючыся над сталом, складваў у міску з абабітымі краямі хлебныя лусты, прыладжваў на кожны скрылік сала.— Які харч — гэткім і падзелімся, з таго, што ёсць. І хай сабе чалавечкі шнуруюць далей. А куды, з кім, з чым, да каго — нас тое не тычыцца.

— Падрыхтуйце транспарт,— падкрэслена афіцыйна папрасіў Шаплыка Насту і, згарнуўшы сшытак трубачкаю і торкнуўшы туды аловак, паклаў у кішэню штаноў.

Наста ўзнялася, адразу зразумеўшы тое, што Шаплыка ўслых не прамовіў. Трэба ісці, бегчы па аўтамат, бо, па ўсім відаць, добрай свары тут, на гэтым падворку, ім не мінуць.

Таўсматы затрымаў яе, паклаў на рукі міску, папрасіў глуха, косячы вокам на Шаплыку.

— Нясі сабе, дачушка. У дарозе згадзіцца, бо сёння аніхто табе не расшчодрыцца на харч.— Яна марудзіла, і ён яе падспешыў.— Ідзі, ідзі, не стой тутака. А мы тым часам з бравым камендантам гаварыць будзем пра тое, што ў свеце робіцца. Тут, ля станцыі жывучы, тое-сёе чуваць нам...

— І нам чуваць, вушы маем. І таму загадваю: паказвайце прадукты, што ўзяты з дзяржаўнай крамы, таварыш Мірончык,— Шаплыка размаўляў з прадаўшчыцаю, цалкам ігнаруючы тое, што казаў яму таўсматы.— Дзе яны? — і раптам строга зыркнуў на Насту.— Я ж вам загадаў: зрыхтуйце транспарт.

Наста ішла марудна, ногі ў яе непрыемна дрыжалі. За спіною, паралізуючы яе волю, гучаў голас таўсматага:

— А тваё права, бравы камендант, загады аддаваць — цю-цю. Гэля! Сядай на месца. А гэты загад — туды,— таўсматы скамечыў аркушок, на якім Шаплыка пісаў распіску, і шпульнуў у Насту; скамечаная паперка, апісаўшы дугу, звалілася ёй пад ногі.— А ты пукалкай не варушы! Не варушы, кажу. Ну, стрэліш, калі зараджана. А далей? Немцы са станцыі на машынах прыкоцяць — п... не паспееш. Тамака, на станцыі, гэткіх, у гімнасцёрачках, нават у камсастаўскіх,— паўнюсенька. У загарадцы, за дротам. І твой полк, пра які ты тут трылузіў,— та-амака! Трыбуналам шчэ пагражае! Няма каму той трыбунал правіць. Праз чатыры дні — аб тым трубяць на станцыі з рання да вячора! — Гітлер уедзе ў Маскву на белым кані. А Сталін твой ужо за Урал драпануў. Бяжыць недзе, язык высалапіўшы...

— Я папярэджваў. А цяпер...

Шаплыкаў голас загучаў слаба, быццам чалавек быў дужа стомлены, і Наста, узяўшыся рукою за весніцы, азірнулася. У гэтае імгненне таўсматы імклівым рухам выкінуў перад сабою правую руку; бліскануў нож, быццам прабіў Шаплыкаву паясніцу навылёт, і Шаплыка, не дагаварыўшы, паляцеў на зямлю разам з лаўкаю. Таўсматы рынуўся на яго. Але Шаплыка неяк злаўчыўся, крутнуў карабінам, быццам падкінуў сваю фуражку, якая перад гэтым чырвоным мятлікам пырхнула ў паветры, і таўсматы завіс, як распластаўся на перакуленай лаўцы. Шаплыка крутнуўся, ускочыў, кляцнуў затворам.

— Да сцяны, с-с-сволач! — прасіпеў ён жахліва і ярасна.— А ты ж, гніда фашысцкая!

Наста, спіной да вуліцы, адступала ад весніц і, шырока адкрыўшы вочы, глядзела, як Шаплыка дулам карабіна піхае таўсматага да сцяны тэрасы. Шырокая ляжэйка тукнула ў паясніцу, і тады Наста адкі-

нула ўбок плашч-палатку, схапіла аўтамат і мітнулася назад, на падворак.

Шаплыка кінуў ухвальна:

— Правільна! Прадаўшчыцу і Стася гэтага трымай на прыцэле. Калі што якое — сячы адразу. Не папярэджвай... От жа гад,— Шаплыка пакратаў дзірку ў гімнасцёрцы, быццам дзівячыся, адкуль тут яна.— Здаецца, што і скуру нажом зачапіў... Ну і я ж зараз вам крыві выпушчу!..

Прадаўшчыца заекатала танюткім галаском:

— Я не вінаватая! Я не вінаватая!

— Маўчаць! — гаркнуў Шаплыка, і прадаўшчыца змоўкла, як папярхнулася.

Шаплыка ішоў за таўсматым прыгнуўшыся, драпежна, злосна ашчэрваўся:

— На салдата нашага з нажом? І некаму, кажаш, трыбунал правіць? Брэшаш, гніда фашыстоўская! Ёсць! Маскву пахаваў ужо? А яе ж аніхто і ніколі не пахавае! Масква — вечная! Паўтары, гад!

Таўсматы спыніўся ля сцяны тэраскі, якраз паміж слоікамі, што віселі на зубах бараны, па шнурку ўвагнаных у расколіну старой дошкі, глядзеў зверавата, спадылба.

— Я што табе сказаў? — з пагрозай спытаў Шаплыка.

Таўсматы маўчаў, і тады Шаплыка націснуў на спуск. Стрэл бабахнуў аглушальна. Зіхатлівым пылам рассыпаўся разнесены куляй слоік, што вісеў па левы бок ад дзвярэй. З вуркатаннем правішчэла ў паветры шклянне.

— Вечная... Вечная яна...

— Хто? — у голасе Шаплыкі пачулася ранейшая пагроза.

— Сам жа сказаў: Масква.

— Вось, гэта ўжо другі каленкор, мамкі-лямкі! Я вас навучу свабоду любіць!

— Гэлечка! Яначка! Родненькія, аддайце ім усё,— надрыўна, жаласліва і спуджана загаласіў Стась і хутка, быццам па намасленай дошцы, з'ехаў на канец лаўкі. Голас у яго быў нечым падобны на голас прадаўшчыцы.— Аддайце і маю долю. Усю аддайце. Нажывём! Дзяржаўнае хай дзяржава і бярэць...

— Сюды! Ходзь сюды,— паклікаў яго Шаплыка.

— Масква — вечная. Вечная, вечная яна,— Стась

выбег на сярэдзіну падворка.— Кіпучая, магучая... Ты — самая любімая... Як у песні нашай...

— З гэтай песняй і жыві. А цяпер — падымай,— Шаплыка торкнуў пальцам на скамечаную паперку, што ляжала на густым, як прыдаўленым да зямлі, трыпутніку. Счакаў, пакуль той падняў папяровы камячок.— Разгладзь. І аддай прадаўшчыцы. Аддаў? Малайчына. Цяпер ідзі ў садок і наскубі цыбулькі. І каб пер'е было і галоўкі. Галовак з пяць досыць. І на ўсю работку табе — пяць хвілінак... Ды не тут, а там, у садку. Там яна гусцейшая?

— Але, але... Гусцейшая. Я — мігам...

— Крупы трошкі ёсць. І цукар. І вермішэлька,— дзелавіта, як бы зусім і не галасіла перад гэтым, прамовіла прадаўшчыца, разгладжваючы папяровы аркушок, які, падняўшы з долу, ўручыў ёй Стась.

— Табе таксама — пяць хвілінак. А куды несці — пакажуць,— сказаў Шаплыка і кінуў Насце: — Прасачы за ёю..

У варыўні было прыцемна, і Наста, увайшоўшы следам за прадаўшчыцаю, агледзелася не адразу. Але, агледзеўшыся, здзівілася: няйначай, у склад нейкі трапіла. У адным кутку стаяць розных памераў мяхі, у другім — скрыні, дзежачкі, нейкія згорткі папяровыя, розных памераў хатулі... З-пад бэлькі ў столі прадаўшчыца выцягнула шэры мех, страсянула — прышытыя з бакоў матузы крутнуліся гадзюкамі,— моўчкі працягнула яго Насце. Гэтак жа, моўчкі, толькі злосна сапучы, яна кінула ў мех дзве белыя цяжкія торбачкі, потым тры цямнейшыя, укручаныя кудлатымі вяроўчынамі, бэхнула зверху чатыры папяровыя згорткі, таропка схапілася за два ніжнія хахлы і тады сказала глуха:

— Панеслі.

У варыўні пасвятлела быццам. На бакавіне скрыні, сплеценай з шырокіх карычневых лучын, выразна акрэслілася папяровая этыкетка, і Наста прачытала па складах:

— Ма-ка-ро-ны!..

— Яны ў мяху ўжо! Узнімай!

Сагнуўшыся на нізкім каменным ганку варыўні, Наста ледзьве не выпусціла звязаны матузамі хахол цяжкога меха. Наважылася была папрасіць прадаўшчыцу пачакаць, каб пераняніць руку і перадыхнуць.

Але тая, ваўкавата нагнуўшы галаву і зацята сапучы, разам з мехам цягнула і Насту. Калі мех мякка бухнуў на воз, прадаўшчыца сіпата выдыхнула:

— У-уг-гу-ўсё.

Гэтак жа, ваўкавата апусціўшы галаву, яна скоранька пашыбавала на падворак.

— Усё па ведамасці? — спытаў Шаплыка.

— Ёсць макароны ў скрынях,— сказала Наста, як бы помсцячы прадаўшчыцы за тое, што тая не схацела спыніцца на ганку і перадыхнуць, хоць і бачыла, што Насце цяжка.— Чатыры скрыні, здаецца.

— Адну — на воз. А лепей — дзве! — загадаў Шаплыка прадаўшчыцы, а Насту паманіў да сябе пальцам.— Бутлю пад сталом бачыш? Ля камля яблыні ў траве. Таксама прыхапі,— і раптам весела падміргнуў Насце: — Прасачы, каб і трэцюю скрыню паставіла. У палку макароны з салам заўсёды ў пашане,— і, матнуўшы карабінам як не пад самым носам у таўсматага, загадаў: — Гайда ў гародчык! Дапаможаш Стасіку. Нешта ён там доўга поркаецца...

Наста выцягнула з-пад стала пузаты, сіняватага шкла графін з драўляным коркам, які быў абкручаны марляю. Знаёма дало ў нос спіртам, і чамусьці менавіта цяпер, ад гэтага паху, у яе шалёна закалацілася сэрца. Трэба бегчы адсюль! Бегчы, не губляючы аніводнай хвілінкі. А Шаплыка занадта ўжо расхрабрыўся! Добра, хоць вяртаецца. Але ж чаму ён гэткі ўстрывожаны? І зноў таўсматага перад сабою карабінам гоніць. А таго, у сіняй кашулі, няма. Няўжо ўцёк? Няйначай, уцёк!..

— Да сцяны, гад! — Шаплыка піхнуў дулам карабіна таўсматага на ранейшае месца ля сцяны тэрасы.— Дзе Стась? Немцаў пабег клікаць? — Шаплыка рэзка ўскінуў карабін.— Лічу да трох. Р-раз...

— Не забівайце! Не забівайце! — прадаўшчыца, скінуўшы скрыню з макаронамі на воз, ускочыла на падворак і бухнулася на калені. Усё вам аддала. Нават больш, чым у распісцы напісана!..

— Два-а,— працягнуў з націскам Шаплыка.

Таўсматы, гледзячы паўзверх Шаплыкавай галавы, буркнуў:

— Не я ў садок яго паслаў. Я ж і слоўца тады не вымавіў.

— Твая праўда. Мой грэх,— адразу і неяк памяр-

коўна пагадзіўся Шаплыка і зрабіў крок убок, да Насты, нібыта ўцякаў ад прадаўшчыцы, якая набліжалася да яго, выставіўшы перад сабою дрыготкія рукі. Нахіліўся, падняў нож, які ляжаў на пяску побач з абернутай лаўкай.— Гэтую халодную зброю тут не пакінем.— Спыніўся на міг, сказаў, сурова звёўшы бровы: — І зарубі на сваім тоўстым носе: нашы адступілі часова, каб добры разгон узяць. А калі ты яшчэ калі-небудзь і каму-небудзь хоць адзінае слоўца паганскае скажаш аб нашай арміі і Маскве... Альбо немцам пра нас шапарнеш... З тваёй мазгаўнёю будзе вось гэтак...

Шаплыка, не цэлячыся, націснуў на спуск. Бабэхнуў стрэл, і зіхатлівым пылам рассыпаўся другі слоік, што вісеў на зубе бараны па правы бок ад дзвярэй. З вуркатаннем пырхнула шклянне, забарабаніла па даху тэрасы і па ўломках цэглы на сцежцы ля хаты.

Стоячы ўжо ля весніц, Шаплыка азірнуўся, пагразіў таўсматаму і прадаўшчыцы пальцам:

— Дзяржаўныя прадукты не разбазарваць. Анікуды і анікому. А ўсё тое, што я табе казаў, Стасіку свайму паўторыш слова ў слова. Да слоўца,— і пагразіў цяпер пальцам толькі таўсматаму.— Зразумеў?

Ад жаху ў таўсматага адтапырылася ніжняя губа, і ён паспешліва, неяк нават ліслііва, матнуў галавой — зразумеў, маўляў, усё.

Сеўшы на воз, Шаплыка фасоніста смаргануў лейцы.

— Цяпер адно: алюр тры крыжы,— заклапочана азірнуўся на хату з расчыненымі вокнамі, параіў: — Аўтамат напагатове трымай. І па баках пільней глядзі. Дзе падсумак? Тамака і цясак... Сюды яго пакладзем...

Конь ішоў гонкай рыссю. Фурманку гайдала, патрэхвала на выбоінах не вельмі роўнай вясковай вуліцы, па-ранейшаму пустой і прыціхлай. Наста злаўчылася, выцягнула з-пад злямчанай саломы цяжкі спараны падсумак, потым цясак, кончык якога захрас у шчыліне паміж дошкамі.

— А мне думаецца, што нам назад трэба павярнуць,— Наста ўчапілася ў аўтамат, які ўвесь час падкідвала.— На старую дарогу, каб не праз усю вёску. А там — адразу ў лес, каля жыта.

— На бровар падскочым.

— Рызыкоўна.

— Цяпер скрозь — рызыкоўна. Але, па-першае, не хочацца ж на вачах у людзей уцякаць. Ты не глядзі, што анідзе аніводнага чалавечка — дзесяткі вачанятак за намі сочаць. І таму хай бачаць, што едуць спакойна, як гаспадары. І, па-другое, бровар — за вёскай: адтуль у лес скокнуць блізка.

— А калі з гэтага боку машына? Той, у сіняй кашулі, да станцыі, мабыць, папыліў. Тады нам — прападаць.

— И тот, кто с песней по жизни шагает,— тот никогда и нигде не пропадет,— весела зацягнуў Шаплыка і зухавата тузануў лейцы.— Н-н-оа-а! Масква — Варонеж! Хрэн дагоніш!

Конь імчаў наўгалоп, воз трэсла, і хаты, здавалася, не адплываюць назад, а маўкліва, гайдаючыся, адскокваюць, быццам сіляцца хутчэй затуліцца за ільсністую лістоту яблынь, густа пакрапленую зялёнай, але досыць буйной ужо антонаўкай.



## 11

Чамусьці цяпер, калі наўкола знерухомеў высветлены вечаровым сонцам сцішаны і лагодны лес, калі жвава тупаў і добра цягнуў воз конь, Шаплыка падупаў духам. Згаслая цыгарка, быццам працяг уладнай складкі ля вуснаў, завісла ў правым куточку рота; зрэдзьчасу цыгарка зварухнецца, бы тоўсты вусень, што прыляпіўся да ніжняй губы, і зноў знерухомее. Правая рука толькі ўвесь час у руху: пальцы, у якіх заціснута анучка з мокрым пяском, зацята шаруюць лязо нажа. Ужо, здаецца, даўно варта было кінуць гэты занятак — блішчыць жа лязо! — а Шаплыка аніяк не супакоіцца: паглядзіць на нож, прыжмурыўшы вока, пакруціць, паплюе і зноў з настырнай зацятасцю, як заведзеная, рухаецца рука, шаруе лязо нажа. Відаць, пра таўсматага Шаплыка думае, сіліцца, каб і следу ад рук таго паганца на нажы не было.

— А яблычкаў сёлета на-а-расце,— з распевам працягнуў Шаплыка і, размахнуўшыся, шпульнуў анучку з пяском у ельнік, што ўшчыльную падступаў да лясной дарогі.— Мабыць, скрозь гэтак жа, як у садах залесцаў — ажно лісця не відно. І тады і цяпер думка мяне точыць: няўжо фашыст, брыдота гэтая, пажарэць іх?..

— Пакуль яблыкі саспеюць, фашыста таго пагоняць назад. Сам жа казаў: папыляць яны дамоў без аглядкі, ды шчэ падмазаўшы пяткі.

Шаплыка сумна рагатнуў:

— Хто ведае, як яно павернецца? Пакуль што не ён, фашыст гэты кляты, а мы тое робім. Праўда, мамкі-лямкі, хоць набытак нейкі маем. Але ж зноў я Лабука згадваю: у кашульцы ты, таварыш Шаплыка, нарадзіўся. Пашчасціла нам на бровары слаўна.

— Але, пашчасціла,— пагадзілася Наста.

У душы, аднак, яна лічыла зусім іначай. Ля бровара іх уратавала тое, што Шаплыка загадзя нагледзеў шлях да лесу — полем, усцяж бульбянога шнура. Туды яны, ледзь учуўшы гул матора, і мітнуліся — гэта, прынамсі, і ўратавала. Яны з Шаплыкам гналі напрамкі да ўзлеску, а машына, пакідаючы воблака пылу, пёрла па дарозе да бровара: перапалоханы Стась, мабыць, і не зірнуў на цыбулю ў гародчыку, а з усіх ног плітануў на станцыю.

Так ці інакш было з тым Стасем — невядома. Іх, аднак жа, адразу заўважылі, фашысты пасаскоквалі з машыны, беглі полем наўздагон, галёкалі, загадвалі вяртацца, потым пачалі страчыць з аўтаматаў. Але яны былі па-за межамі прыцэльнага аўтаматнага агню.

Бяда і на гэты раз зноў засталася ззаду, не зачапіла. Прыгадваючы цяпер падзеі мінулага дня, Наста прыходзіла да высновы, што браць пад увагу тут трэба не шчаслівы лёс — і пра гэта ж сведчаць факты! — а пэўную Шаплыкаву тактыку. У адносінах да былой прадаўшчыцы і таўсматага ён паводзіў сябе ўпэўнена, смела. А на бровары, шукаючы былое начальства, дзейнічаў не проста з напорам, але нават празмерна адчайна і дзёрзка.

Цяпер на возе, акрамя таго, што ўзялі ў былой прадаўшчыцы вясковай крамы, ляжалі яшчэ мех бульбы, паўпуда буйной ядрыцы, якую былы кладаў-

шчык бровара, ласкава ўсміхаючыся Насце, аддаў разам з новым паліваным чыгунком. Былі яшчэ ладны, кілаграмы на два, брус сала, загорнуты ў чысты ручнік, а таксама вядро, у якім, пад шырокай чорнай патэльняю, пазвоньвалі, калі воз трэсла на каранях, чатыры пагбаныя эмаліраваныя міскі, з рэшткамі ружовай аблямоўкі на краёчках, і пяць лыжак з цёмнага, як мокры попел, дзюралю. У задку воза горбілірся дзве старыя вайсковага крою ватоўкі, доўгі брызентавы плашч і клятчастае паліто без каўняра — усё гэта Шаплыка прыхапіў у будынку былой канторы бровара.

Але гэтыя набыткі Насту мала цешылі, і на душы было трывожна, пагана. Рэшту радасці з таго, што яны выбавіліся з бяды, канчаткова развеялі сумныя Шаплыкавы словы. Ніхто ж не ведае, ён кажа, як яно павернецца. Што ён меў на ўвазе? Што фашысты будуць тут панаваць і тады, калі ў садах саспеюць яблыкі? Ці, можа, што іншае ўлезла яму ў галаву?

Шаплыка неспадзеўкі засмяяўся, цыгарка, падобная цяпер на абпалены гарохавы струк, трэслася разам з губою:

— Але ж, мабыць, і папыліў ён, той наш Стасік! Трава, напэўна ж, недзе гарэла пад падэшвамі,— і весела падміргнуў Насце.— Во ўжо недзе рэкорд ставіў,— ён адляпіў цыгарку ад губы, агледзеў з усіх бакоў і не кінуў яе, а паклаў у ямінку на плашч-палатцы, якой было ўсё ўкрыта на возе, і сплюнуў.— Падла! Гэта ж ён на станцыю плітануў і немцаў наслаў на нас. Здаецца, сінела на машыне яго кашуля. Бачыла?

— Я не разгледзела. Але ж адно ясна: немцы ведалі, што мы на бровары, бо імчалі туды, нас заўважыўшы, адразу наўздагон кінуліся.

— Таўсматы, напэўна ж, свайму дружбачку даў нейкі знак. А я той знак, боўдзіла, не прыкмеціў. Трэба было — шкадую цяпер — шпокнуць таўсматага...

— Ты што? — вырвалася ў Насты.— Ты страляў бы ў свайго чалавека?

— Гэткі ж ён свой, як Шаплыка — папа рымскі. Пальцы яго бачыла? Гэта ж кіпцюры драпежніка! Я адразу змікіціў, куды гад нацэліўся, калі яны да нажа грабліся. Сяджу, управа быццам нахіліўся —

гэткі выгляд зрабіў! — а ножкамі цвёрда ў зямельку ўпёрся. Таму і паспеў прыкладам калупнуць яго. А каб не паспеў? Ён бы з намі не цырымоніўся. Сюды, гад, нажом цаляў,— Шаплыка паляпаў сябе па левым баку грудзіны.— У сэрца меціў. І май на ўвазе: вайна — не гульня. Альбо ты — яго. Альбо ён — цябе. Жалезная логіка.

— Жахлівая яна, гэтая твая логіка.

Шаплыка пашараваў левай даланёю падбародак, сціснуў яго гэтак моцна, што вакол пальцаў збялела скура. Голас яго загучаў задуменна і тужліва:

— Ды не, не Шаплыкава тая логіка. І ўвогуле сёння, як разважыш, усё жахлівае наўкола. От скажы, дзе ж наша сіла падзелася? І куды нашы арміі выпарыліся? Таўсматы з такім напорам і папёр, бо маю брахню наконт нашага палка до-обра ўлавіў. І вось мучыць мяне адно і тое ж: як здарылася, што фашыст нас гэтак пагнаў? Чаму?

— Ты ж сам казаў: часова адступілі. Каб разгон добры ўзяць. І мне гэтая думка па душы вельмі.

— Ха, казаў! Туману тым гадам падпускаў. І сябе, між іншым, лухтою гэтай цешыў. Ну, на паўсотні кіламетраў адысці — разумею. А калі на пяцьсот пацерці? Чаму? Дзеля чаго? От што ты мне патлумач, калі ласка!..

Шаплыка бедаваў шчыра, не выстаўляў сябе чалавекам упэўненым, бадзёрым, і гэтая яго разгубленасць Насту гняла.

— Нечаканасць нападу,— сказала яна, пачынаючы злавацца на тое, што памянялася з Шаплыкам месцамі — не яна ў яго, а ён у яе шукае падтрымкі.— У нашага камандавання ёсць пэўныя меркаванні. Але яны нам пакуль што невядомыя.

— Паспяшаўся Грач і нампаліта не прызначыў. А ты на гэтую пасаду цягнеш.

— Даўся ён табе ў знакі, гэты Грач!

— А хіба не? Знайшоў дурня Шаплыку, прызначыў яго нейкім камендантам, кінуў у лесе. А сам — фю-юць!

Наста саскочыла з воза, выпаліла абурана, з гневам:

— Не маеш права!.. Не маеш! Я забараняю табе гэтак аб ім казаць!

Шаплыка зморшчыўся, схіліў галаву і паглядзеў

у Насціны вочы з усмешкаю. Голас, аднак, прагучаў сур'ёзна і заклапочана:

— Усё, японскі бог, правільна, мабыць. Не маю... Тут ты глыбака бярэш. Але скажы, паклаўшы руку на сэрца, што мы ў лесе выседзім?.. Маўчыш... Тады з другога боку заходжу. Ты што — рэальна толькі, рэальна і цвяроза на свет боскі глядзі! — іх вылечыш? На ногі паставіш? Толькі кажы праўду, шчыра, без крыўды, у бутэлечку пішчом не вінціся...

— Не ведаю. Але тое, што магу — раблю.

— Чэсны адказ. Вось таму і табе я кажу чэсна: трэба нам пра наш уласны лёс усур'ёз памаргеліць. І мне — памаргеліць. І табе памаргеліць.

— А Канапельку? А Буркуну з Аўдошкам? Хто пра іх памаргеліць лёс?

Шаплыка выцягнуў з кішэні капшук з махоркаю, які, невядома чым расчулены, падараваў яму былы кладаўшчык бровара, потым схаваў яго і ўзяў з плашч-палаткі акурак. Прыкурыўшы, патрос карабок у руцэ, уздыхнуў:

— Запалак мы расстараліся слаба. Стасік, каб яму добра ікнулася, усю абедню сапсаваў — усе думкі пра запалкі з маёй галавы тады вылецелі. Нічога не паробіш: будзем ад вугалёчка прыкурваць. Кладаўшчык, праўда, карабочак адзін аджалкаваў.

— Можаш і ад вугалёчка прыкурваць, але ад маіх пытанняў не ўцякай і не хавайся.

— І не хаваюся — думаю. І не ўцякаю — разважаю,— Шаплыка выпусціў дым струменьчыкам сабе на далонь, забаўляючыся, сціснуў кулак, быццам ловячы тую сінявую аблачынку.— Пра ўсіх нас гаворка. Пра наш агульны лёс трэба зараз памаргеліць не абы-як. Іх жа, нашых хлопцаў параненых, у лесе адных не кінеш. А ў вёску, як ты сёння бачыла, не дужа і ўломішся. Гэткі Стасік ці Яначка заўсёды знойдуцца. Мяне, каб ты ведала, наконт гэтага Грач папярэджваў. А чалавек ён вопытны і разумны.

Шаплыка сказаў гэта без падробкі, натуральна, і ў Насты адразу палепшыўся настрой. Украй знерваваная за сённяшні дзень, яна, хоць і паспрачалася з Шаплыкам і ледзь не пасварылася грунтоўна, цяпер адразу адмякла душою, і сэрца яе ўлагодзілася. Грач — чалавек слаўны, мужны і добры. Нават Шап-

лыка цяпер аб ім з павагаю гаворыць. А ў яго, Шаплыкі, ёсць падставы крыўдаваць, папракаць, злаваць, ненавідзець нават. Шаплыка ж і сватоў абяцаў засылаць, як вайна скончыцца, на вечную вернасць — хай сабе і жартам — прысягаў! А сталася ў-унь як, павярнулася зусім непрадбачана!

«Грачок... Грачок мой ты...»

Тухнула ў сэрца знаёмая, тлумная і важкая, гарачыня, запульсавалі ў скронях грымлівыя такты. Слаўна і добра было там, у зялёным будане пад ялінаю. І таямніча шурхала сухое шыгалле. І дзівоснымі фарбамі высвятлівалася атухлае неба!.. Чалавек, выяўляецца, можа ад усяго адасобіцца, як на нейкай іншай зямлі быць, недасягальнай для ўсіх, недасягальны да ўсяго.

Шаплыка нацягнуў лейцы.

— Тпру-у...

— Спыняемся? Навошта? — Наста бы выдралася з нейкага замарачэння і спалохана глядзела на Шаплыку.

— Ты туды паглядзі,— ён хітнуў галавой на задок воза.— Прыкмячаеш, якая вяровачка за намі ўецца?

Паабапал дарогі раслі роўныя і гонкія бярозы, і, нібыта палохаючыся яркай белі бяросты, ціснуліся ў глыб лесу, падалей ад свежых ліній калёснага тору, цёмна-зялёныя, амаль чорныя ў камлях асіны.

— След мы пакідаем,— цяпер да Насты дайшло, з чаго гэтак устрывожыўся Шаплыка.— А там, дзе шыгаллем дарога зацярушана, ён зусім не відзён.

— Ды скрозь ён, японскі бог, відзён, калі вока наставіш. Адным словам, малюем до-обры ўказальнік Стасіку, як нас адшукаць.

— А што рабіць? У паветры ж на фурманцы не паляціш.

— Думай, нампаліт, думай. Каб не адна каменданцкая галава свярбела ўвесь час...

І адной гэтай кпінаю Шаплыка зноў закрэсліў тое добрае, што пачало было выспяваць у Насцінай душы. Згледзела, як падціснуліся вусны, яшчэ больш выразна акрэсліўшы дзве ўладныя складкі, што ляглі ля куточкаў губ, і жахнулася, зразумеўшы, што Шаплыка ніколі і нічога ёй не даруе. Ён, прынамсі, не на яе, Насту, злуе. Ён жа Грача зненавідзеў, толькі хавае гэта, пнецца не паказаць.

— Можа, нам не дарогаю ехаць? Па лесе...

— У разумны бок думкі, нампаліт, скіроўваеш. Гэтак і зробім. Н-ноа!

Шаплыка рашуча павярнуў каня з дарогі ў гонкі бярэзнік. Неўзабаве яны выбіліся да густога маладога сосніку, і той як бы адразу і расступіўся, адкрыўшы нешырокі прагал у пасадках. Сасонкі тут раслі роўна, нібыта пад шнур пасаджаныя, і паміж імі, абціснутыя колкім голлем, упарта цягнуліся ўверх тонкалявыя, як вераценцы, бярозкі; тхнула знаёмым саладжавым пахам лубіну.

— Нешта ж знаёмы соснік... Ай, праўдачка: мы ж тут ужо былі,— Наста ад душы ўзрадавалася і саскочыла з фурманкі на зямлю.— Точна, вунь з таго боку я падыходзіла.

— А чаго ж баяла, што ў лесе не арыентуешся?..

— Я табе гэтага не казала.

— Не казала, дык і не казала. Але следапыт ты прыроджаны: усё прыкмячаеш.

Шаплыка зноў павярнуў каня ўправа. Воз неўзабаве ўшчаміўся паміж маладымі дубкамі, што сваімі кудлатымі, крываватымі і моцнымі галінамі адціснулі ад сябе, аж нахілілі, сасонку.

— А як жа тут павярнуцца потым? — Наста, папраўляючы аўтамат на плячы, азіралася наўкола.

— Неяк павернемся, калі давядзецца ехаць зноў. А пакуль што возу нашаму прыпыначак тут надоўга. На хрыбціну конскую ўсё пагрузім — і гайда далей. Па лесе тады скрозь пройдзем, следу не пакідаючы. Лепшага што тут прыдумаеш? — і, не чакаючы адказу, дадаў: — Я, ведаеш, усё гэта абмазгаваў. Цяпер да Вахтанга зойдзем, развітацца. Вядзі, калі дарогу ведаеш.

— Сюды, здаецца.— Наста няпэўна паказала рукою на краёк прагала паміж сасонкамі.— А потым — улева. Здаецца, пад тымі бярозкамі магіла...

— З табою, следапыт, у лесе не прападзеш. Але ж ты скажы мне, чаму сёння сонца гэтак хутка садзіцца? А нам шчэ тупаць і тупаць. Хаця, цяпер ужо спяшацца няма патрэбы. Дойдзем!

З кожным крокам Наста адчувала сябе ўсё больш упэўнена. Так, у гэты прагал яна тады павярнула. Бярозы ззаду заставаліся, а цяпер наперадзе — яны з Шаплыкам з другога канца лубінавага шнура выхо-

дзяць. І саладжавы пах лубіну ўсё мацней, ажно галаву кружыць.

Соснік скончыўся раптоўна, быццам адрэзаны. Зажаўцеў перад вачыма шнур лубіну, за якім, пад разгалістай яблыняй-дзічкай, белай стрэмкаю тырчаў тонкі слупок. Магільны пагурак не быў адсюль відаць, яго затулялі высокія жоўтыя свечкі квецені. Вельмі ж яны падраслі за гэты дзень, лубінавыя свечачкі, жоўтая пляма ў сярэдзіне шнура пабольшала, колер яе загусцеў. Дзве пеначкі круцяцца на макавінах сасонак, як пра нешта цішком гамоняць. На бярэзіне, што ў канцы шнура, стуліўся сіваграк, сядзіць нерухома, быццам нечым уражаны. А пер'е на ім, асветленае вечаровым сонцам, зіхаціць сінімі і аранжавымі бліскаўкамі.

Наста спынілася, Шаплыка, які ішоў следам, абмінуў яе. Але тут жа спыніўся, павярнуўся:

— Ты чаго?

— Сіваграк! Прыгожы. Бы райская птушка.

— Цьфу... Хай табе сто гадоў жыць, як напалохала,— раптам ён палагаднеў, вочы зрабіліся ласкавейшыя.— Была ты там, у тым раі?

— Ды не, збіраюся толькі.

— Калі пашанцуе і першая трапіш туды, дык месцейка мне прыберажы. Каб не расхапалі,— Шаплыка наважыўся быў жартаваць, але ўсмешка знікла з вуснаў, і дадаў ён памяркоўна і задуменна: — Стаміўся сіваграк, мабыць, за дзень. А наперадзе — ноч. У птушак, думаецца, гэткія ж клопаты, што і ў нас, чалавекаў. Яны цішэюць, ведаеш, калі сонца садзіцца. З таго, мабыць, што ноч наперадзе. І не ўгадаеш жа, як заўтра будзе,— і, як бы зазлаваўшы на гэтую сваю развагу, сказаў рашуча і бадзёра: — Ну, напрамкі цяпер улупім. Праз лубін. Ні чорта яму не зробіцца.

Шырокі белаваты след слаўся за Шаплыкам, і Наста ішла па ім, быццам па мяккім дыване. Тоўстыя сакавітыя сцяблiны мякка храбусцелі пад абцасамі, і былі яны халаднаватыя і вільготныя, студзілі скуру. Зрэдку ногі траплялі ў разору і правальваліся глыбака, ледзь не ў калена, і Наста ўсяляк стрымлівала сябе, каб не войкнуць, не паказаць Шаплыку сваю няўвішнасць.

Магільны пагурачак зажаўцеў раптоўна, быццам выскачыў з-за зялёнага лубіну. Шаплыка ўкленчыў

ля яго і, абапіраючыся адной рукою на карабін, пачаў старанна і марудна выводзіць алоўкам літары на зачэсіне бярозавага слупка. Зрабіў надпіс і ўслых прачытаў:

— Вахтанг. Загінуў героем. 1941.

Наста была ўражана:

— А прозвішча?

— Дамалюй, калі яно табе вядома,— агрызнуўся Шаплыка і, сагнуўшыся, пачаў браць надпіс у рамачку.— Нам, можа, і гэткага не напішуць...

Графіт нечакана зламаўся. Шаплыка моўчкі завастрыў яго кончыкам цесака і пачаў дамалёўваць рамачку; слупок быў зачасаны не дужа гладка, і аловак ціха пстрыкаў па валакністай дзеравіне. Насце падалося, што ніякіх іншых гукаў, апрача гэтага ціхага шоргату графіту, у лесе не існуе. Вока злавіла слабы рух злева, увысі на бярозе, і яна ўскінула галаву, мітнула позірк у той бок. Яшчэ, выяўляецца, адзін сіваграк з'явіўся! Першы пасунуўся крышку па галінцы, саступіў месца, і цяпер яны знерухомелі, сядзяць цесненька ўпобачкі, павярнуўшы дзюбкі ў бок барвовага зарава, што палала не там, дзе заходзіла сонца, а зусім блізенька, у голлі лясных дрэў. На зямлю птушкі, здаецца, і не глядзяць зусім, як і не заўважаюць людзей ля яблыні-дзічкі.

Назад да воза вярталіся моўчкі. Наста бачыла, што Шаплыка нечым прыгнечаны, увесь час як бы сіліцца нешта сказаць ёй і тут жа глушыць сваё парыванне. Гэтак жа, нічога не гаворачы, Шаплыка распрог каня. Але, калі ўзяўся здымаць пярэднія колы, папрасіў каротка, пастукаўшы даланёю па ляжэйцы:

— Патрымай.

Колы ён запраторыў у маладыя пасадкі, пад маладыя разгалісты дубок, крываватае голле якога слалася па зямлі, хамут схаваў пад пушыстую ялінку — адну-адзінюсенькую сярод сасонак. Аглоблі ж аднёс яшчэ далей, у неглыбокую разору, дзе асабліва густа буяў лубін.

Наста моўчкі сачыла за тым, што робіць Шаплыка, але нічога не пыталася, і ён, быццам дзякуючы ёй, патлумачыў:

— Раскідалі ўсё па частках — не кожны і ўхопіцца, калі раптам і наскочыць сюды. А фурманка шчэ, думаю, нам паслужыць,— ён пачаў звязваць лейцамі

мех з плашч-палаткаю, у якую ўкруціў чыгунок з ядрыцай, і голас гучаў глуха, стомлена, зусім без радасці.— Каня прывялі, запрэглі — панесліся зноў. Ну, грузімся?.. Хаця не, пачакай... З ватовак сядло зробім, плашчом укрыем, а тады ўжо. І хрыбціну каню не намуляем тады...

Конь захроп, калі на яго ўзвалілі паклажу, заматаў галавою. Шаплыка ласкава патрапаў конскую грыву:

— Мякка, дружа, мякка. Як сабе рабіў.

— А бульба? — здзівілася Наста.— Хіба не бяром?

— Заўтра я сюды верха падскочу. А вось вядро прыхопім. Давядзецца табе несці. Сілы хопіць?

Яна палічыла, што Шаплыка яе выпрабоўвае, імкліва ўзяла вядро, у якім ляжалі міскі і графін са спіртам, загорнуты ў старое паліто без каўняра. Вядро было не дужа і лёгкае, але яна не прызналася, сказала бадзёра:

— Неяк жа занясу.

— Э-э, ты носа не задзірай. Калі табе трэба будзе перадыхнуць, дык спынімся і перадыхнём. Пастаў, пастаў пакуль што вядро. Ды асцярожненька, каб не перакулілася. А зараз фурманку замаскіруем.

Спачатку лубінам, а потым сасновым голлем яны закідалі на фурманцы мех з бульбай. Шаплыка выцягнуў з кішэні сшытак, выдраў старонку і вялізнымі літарамі хутка напісаў на ім: «Замініравана». Крыху паразважаўшы, падкрэсліў двойчы і паставіў тры клічнікі.

— Дык ніхто ж не паверыць,— Наста ледзь стрымлівалася, каб не зарагатаць.

— Затое не адразу і падступіцца. А, хутчэй, патыліцу пачухае і далей пойдзе: не я, маўляў, кінуў, не мне й браць... Ну, рушылі.

Радая, бы даўно чакала гэтае каманды, Наста патэпала следам за Шаплыкам, які вёў каня за аброць і ўсё папраўляў паклажу на конскай хрыбціне. На дарогу яны не выходзілі. Але ўвесь час трымалі яе навідавоку. Наста часцяком азіралася і штораз пераконвалася, што аніякага следу, нават знаку ніякага за сабой яны не пакідаюць: у верасах і рэдзенькім чарнічніку сляды быццам вадой змывала. Яна зусім ужо супакоілася. Тое, што давялося перажыць зусім ня-

даўна ў вёсцы і на полі за броварам, успаміналася цяпер як дужа даўняе, нешта зусім не вартае ўвагі. Усю ўвагу займала вядро, якое рабілася з кожным крокам цяжэйшае.

— Давай паднясу,— лагодна прапанаваў Шаплыка, заўважыўшы, што Наста ўсё часцей і часцей мяняе рукі.

— Несці зусім і няцяжка. Толькі вось нязручна. За ўсё чапляецца гэтая дужка. Шырокая занадта, нялюдская.

Шаплыка ўзяў вядро, нейкі час нёс, потым перахапіў дужку ў левую руку, хмыкнуў:

— Хэў-у, сапраўды нялюдская. Трэба паспрабаваць, ведаеш, да мяха вядро прышпандорыць. Якраз і месцейка вызначылася — асела паклажа...

Шаплыка прывязаў лейцамі вядро да мяхоў, што пукатымі гарбамі абвіслі на конскай хрыбціне, і Наста з насалодаю пацёрла натруджаныя далоні. Нічога, здаецца, цяжкога няма ў тым вядры, а вось жа вызвалілася ад яго, дык быццам гара з плеч звалілася. І целу палёгка, і душы.

— Упэўнена сябе пачуваеш, калі рукі ў цябе вольныя,— прызналася яна шчыра.

— Пра што й гаворка! Уга-а, каб у нас з табой рукі вольныя былі!

У змрочна-панылым паглядзе Шаплыкавым Наста злавіла асуджэнне, як бы нейкі выклік, і ўсё зразумела. Але змоўчаць не змагла, спытала, адчуўшы і зноб-касць у плячах:

— Ты што маеш на ўвазе?

— Ды ўсё тое ж самае. Але ж, заўважаю я, з табою гаварыць на поўны давер цяжка.

— Цяжка? — пільная патрэба праверыць сябе прымусіла яе гаварыць асцярожна.— З чаго гэта?

— А з таго. Што я скажу — ты адразу на мяне камень вернеш. Як нейкую гульню вядзём. І на тое, што ёсць, па-дзіцячы вочы заплюшчваем, усяляк сябе супакойваем: эт, неяк абыдзецца, бядзе дулю пад нос сунем. А вось ты рызыкні, адкажы шчыра на тое маё пытанне.

— Якое? — выплыла раптоўна думка пра тое, што варта ёй маўчаць, што лепей не працягваць гаворку, якая нічога добрага ёй не зычыць. У гэта, аднак, не верылася, і Наста з трывогай і надзеяй дадала: — Ты

шмат пра што пытаўся. І мы шмат пра што гаманілі з табою...

— Дарма ты хітруеш. Ведаеш жа добра, пра што гаворка. Але і паўтарыць можна. Што мы з табою ў лесе гэтым выседзім — вось аб гэтым і папытаўся. Дык цяпер ты і адкажы. Без эмоцый, без прапаганды... Голую праўду давай!

— Праўда — яна заўжды праўда. І апратка тут ні пры чым. І нам у гэтым лесе адно і тое ж застаецца: чакаць.

Шаплыка нахіліў галаву, неяк па-сабачы забурчаў:

— Альбо святая, альбо дурная, альбо прыкідваешся. Каго чакаць? Чаго чакаць? Колькі чакаць?

— Колькі спатрэбіцца, гэтулькі і будзем чакаць. Вернецца Грач. І мы рушым да сваіх.

— Японскі бог...— Шаплыка ціха, але ўсмак вылаяўся.— З выгляду дык і не святая. А пачне распавядаць — бытта з іконы дзеўка злезла. Але хай сабе. Ад пытання першага ты, значыцца, уцякаеш. Тады — да іншых пераходзім. І яны, май на ўвазе, не менш важныя.

— Пераходзім, пераходзім,— падахвоціла яго Наста.

Шаплыка не прыдаў аніякай увагі яе словам, казаў усё тым жа зацятым і незадаволеным голасам:

— Дайшоў, скажам, Грач да лініі фронту. Перайшоў, скажам, лінію тую. Зможа адразу ж і назад павярнуць? Зможа адшукаць лясную сцежку, што вядзе да нашай салёнай смалакурні? Ёсць у цябе ахвота адказаць хоць на адно з іх цвёрда і ўпэўнена?

— Ёсць. Грач вернецца.

— Японскі бог! Святая сапраўды яна. Але ж з неба, дзе святыя жывуць, добра ўсё відаць. Дык няўжо ж ты не бачыш, што там, за той лініяй фронту, Грача могуць адразу — на цугундэр. Чаму, маўляў, сябе ратаваў, а сцяг палкавы недзе ля балота кінуў? Што ён на гэта адкажа?

Шаплыка ўскінуў сырамятны павадок аброці сабе на шыю, зняў фуражку, паправіў вузкі раменьчык на аколышы і зноў надзеў яе, але цяпер казырком назад. На правай скроні засталася чырвоная метка ад раменьчыка; пад ёй пульсавала жылка, і здавалася, што гэтая меціна жывая. падобная на бартуля, і паціху

паўзе, шыецца ў змакрэлую ад поту чупрыну. Крыўда і злосць ажылі нечакана, і Наста, гледзячы на тую чырвоную мецiну на Шаплыкавай скроні, зноў, як нядаўна, калі саскочыла з воза, абурана выпаліла:

— Чаго ты прычапіўся да Грача? Навошта бруд...

Доўгая сасновая галіна, абчэпленая старымі дробнымі шышачкамі, каравымі, як камячкі цёмнай, з крапкамі гліны, хвастанула па вядры гучна, бы ў бубен ударыла, і Наста змоўкла. Але змоўкла не таму, што нахіліла галаў, ратуючы вочы ад сасновага іголля,— роспач перацiснула горла. Яна нечакана падумала пра тое, што Грач, пры развітанні з ёю, не быў да канца шчыры. Чаму ён не сказаў Шаплыку пра тое, што сцяга ў той скрыні няма, што яны панеслі яго з сабою? Чаму загадаў маўчаць пра гэта і ўвогуле пальцам да скрыні не дакранацца? Шаплыку ён, выяўляецца, не давяраў. А Канапельку? А Буркуну і Аўдошку? Да іх у яго, значыцца, няма даверу, а толькі да яе ў яго поўны давер? А можа, ён знарок сказаў ёй, што сцяг яны панясуць [redacted] сабою, а ў сапраўднасці ён застаўся тут, у скрыні, і Шаплыка пра тое ведае?..

Ад гэтых думак пачынала звінець у галаве. Пра нешта засяроджана думаў і Шаплыка. Але раптам ён павярнуўся да Насты, абцiснуў на галаве фуражку, сказаў глуха, з адчайным і злосным шкадаваннем:

— Усё! Язык сабе адсяку, калі хоць разок пры табе ён гэтае прозвішча баўтанець,— і паляпаў па чорнай ручцы цесака, што целяпаўся на рэмені.— Гэтым вось і шандарахну...

Наста міжвольна, але з горыччу ўздыхнула:

— Ды гавары, гавары колькі хочаш пра Грача. Але ж навошта на яго бруд ліць?.. Вернецца ён... І што тады? Пабяжыш сабаку шукаць, каб вочы пазычыць?

— Не пабягу. Вернецца — на калені перад ім бухнуся. Маліцца на яго пачну.

— Маліся ўжо зараз,— шчыра, без падробкі параіла Наста.— Бо ён — вернецца! Вернецца, бо я — гэтым жыву!

Шаплыка ў роспачы, роспачы шчырай і нейкай для яго ўсцешнай, пачухаў патыліцу:

— Калі... Калі ж ты пакахаць яго гэтак паспела? Гляджу і дзіўлюся.

— Я і сама, шчыра табе прызнаюся, дзіўлюся. Часцяком нават здаецца, што снілася ўсё...

— А яно і добра было б. Прачнуўся ранкам, вочы працёр і дзівішся, ад радасці ў скокі пойдзеш. Вайны ж няма, бяды няма!..

— Чуеш? Голас быццам нейкі. Няўжо не чуеш?

— Ды дзяцел гэта цвыркнуў. Ну, паслухай. У-унь як сухастоіну дзяўбе — вячэру, няйначай, здабывае. Самая, на маю думку, працавітая птушка. Дзеля драбнюткага нейкага чарвячка — на паўглыточка! — гэтулькі малаціць дзюбаю дзеравіну? Мабыць, розум сабе дзяцел і вымалаціў.

Шаплыка горка ўсміхнуўся, быццам вельмі спачуваў той працавітай птушцы. Але ў звужаных зеленаватых вачах, якія абшуквалі вяршаліны дрэў наўкола, што выразна цяпер акрэсліваліся ў чыстай густой сінечы, прыпраўленай тлустымі барвамі, мільгануў востры драпежны агеньчык.

Доўгі час крочылі моўчкі. На зямлі, ля маладых хваін і шырокіх прысадзістых кустоў ядлоўцу, увачавідкі асядала вечаровае сутонне. Загусцела сінеча ўвысі, неба, прыгасіўшы вогненныя барвы, наблізілася, як асела на макавінкі дрэў, і аднекуль адтуль, з той вечаровай сінечы, сыпалася і зацятае сухое туканне. Незразумелая трывога ўчэпіста падкацілася да сэрца, і Наста з жахам паглядзела на чалавека, які крочыў побач з ёю.

«Грач яму не давяраў. І ты не павінна давяраць».

У гэтай думцы таілася нешта новае, таямнічае і загадкавае, і, спрабуючы спасцігнуць тую таемнасць, Наста спалохалася. Аніводнага разу, здаецца, Шаплыка не быў з ёю шчыры. Жартаваў, часцяком пацвельваўся, шпількі падпускаў. І штораз кідаў ён тыя шпількі дужа з'едліва, з націскам, быццам яе, Насту, выпрабоўваў, да нечага падштурхоўваў. І яна разумна, мабыць, рабіла, што рашуча яго абсякала. Хай ведае! Яна пастаіць за сябе. І Грача абароніць, добрае яго імя пляміць не дазволіць. Грач вернецца. Ведама, адбудзецца тое не сёння і не заўтра — час нейкі — і, па ўсім відаць, не малы! — пройдзе. І таму яна, Наста, не павінна вушамі вецер ганяць, Шаплыка, вядома ж, слушна кажа: вайна сапраўды не гульня. Таму трэба сваё сэрца, у першую чаргу, слухаць, сваю галаву на плячах мець — на чужую падказку не спадзя-

ваца. Сёння вам абаім пашчасціла. А заўтра? Але ж да заўтра шчэ трэба дажыць!

Сухое туканне наблізілася, потым раптоўна аціхла, як адсечанае, і злева, увысі, між залацістых сасновых галін, мільгануў чорны цень, пачуўся дзяркаты, поўны роспачы дзятлаў крык.

Крыху спагадзя недзе далёка і невядома ў якім баку зноў пачуўся гэткі ж дзяркаты погалас, толькі як бы падвоены. Шаплыка, аднак, адразу ж спыніўся.

— Чуеш? Галасы!

— Ды дзяцел гэта цвыркнуў,— паўтарыла Наста нядаўнія Шаплыкавы словы.

— Галасы, кажу табе! Падобна, што ля смалакурні. Яна ўжо непадалёк, за гэтым бярэзнікам!

Шаплыка таропка закруціў лейцы за камель гонкай бярэзіны, працягнуў Насце карабін:

— Дай сюды аўтамат. І — за мной! Крадком да балаціны падыдзем. Каб не вытыркацца!

Наста тэпала следам за Шаплыкам і не чула ніякіх галасоў, і таму дзівілася не з таго, што нейкія галасы Шаплыка пачуў, а з таго, што гэтак неўпрыкмет скончылася, выяўляецца, дарога. Калі выправіліся ад смалакурні, дык, здаецца, усё ішлі і ішлі, дарога здавалася бясконцая, а тут ужо і балаціна побач!

Пачаўся хвойнік, дужа густы і колкі. Але ён хутка скончыўся, адкрыўся краёк балаціны, парослай знаёмымі нізкімі кудлатымі сасонкамі, і Наста даволі выразна пачула чалавечы погалас.

— Там! — яна схапіла Шаплыку за руку.— Напедзе. Быццам чалавек крыкнуў. І вось зноў.

— Ля смалакурні гэта,— цвёрда вызначыў Шаплыка і зверавата азірнуўся наўкола.— Няўжо хто-небудзь на нашых наскочыў?

— А цяпер, здаецца, і не чуваць анічога.

— Пастаў на баявы. І засцерагальнік, засцерагальнік. Спатыкнешся раптам, дык мне ў спіну і жарнеш...

Яны ішлі цяпер моўчкі, асцярожна, уважліва прыслухоўваючыся. Але наўкола панавала цішыня. Пад нагамі мякка, бы вата, спружыніў белаваты мох, крывава свяцілася вузкая палоска неба за балацінай, кружыла галаву ад густога і нейкага гарачага, як з печы, паветра, прапахлага даўкім смуродам балотнага багуну.

Смалакурня была ўжо зусім блізка. І раптам адтуль, зусім выразна, даляцеў чалавечы погалас. Але не роспач была ў ім, а ўзрушэнне і радасць. Наста атарапела паглядзела на Шаплыку. Гэта ж Канапелька рагоча. Яго гэта голас!

— Падобна, што ён,— пагадзіўся Шаплыка.— Але не вытыркайся, не вытыркайся,— асадзіў ён Насту.

— Крадком падыдзем!

Крайком балаціны яны наблізіліся да маладога асінніку, з яго перабеглі ў арэшнік і неўзабаве ўбачылі Канапельку. Напаўлежачы ля ўваходу ў склеп, ён тасаваў карты і выгаворваў уголас, радасна пасмейваючыся:

— Не шанцуе табе, Буркунок! Сёмага дурня на сябе ўзваліў. А на гэта, скажу табе, не абы-які розум трэба мець. А шчэ каб і цягнуць!

Не зважаючы на Насту, Шаплыка ярасна мацюкнуўся, падскочыў да Канапелькі. Выхапіўшы ў яго з рук карты, ён кінуў іх на дол, лупіў ботам, сіпеў:

— Вы што? Падурнелі? Рэжуцца ў карты і на ўвесь лес галёкаюць. Адкуль карты тут узяліся?

— Аўдошкавы карты,— Канапелька глядзеў вінавата і разгублена.— Тут жа звар'яцець можна, дзень на адным месцы лежачы. А гульня гэтая дурная — паратунак. Час імчыць — не заўважаеш. І сэрцу палёгка — пра вясёлае думаеш.

— А тое, што крыку на ўвесь лес — пра гэта не думаеш? — Шаплыка шалеў па-ранейшаму.— Спалю зараз к чортавай матары гэтую поскудзь. Тут жылы рвеш, харч ім цягнучы, а яны — пра вясёлае думаць узяліся!

Насту душыў дурны смех. Трывога знікла, ад пакут, якія давялося перажыць у вёсцы і нядаўна, калі яны драліся праз густы хвойнік чортведама што думаючы, нічога не засталося, і яна зняможана прысела на верасовую купіну. Рукі заглыбіліся ў спляценне пругкіх цвёрдых сцяблін, натруджаную скуру далоняў лашчыла мяккая гаючая цеплыня, і ёй на міг падалося, што вярнуўся Грач і яны з ім сядзяць на тых верасах, што густа параслі вакол камля стромай сасны ля паваротка лясной пуцявіны.



## 12

Жахліва доўгі, наўздзіў спякотны дзень канаў лянотна, як бы ўпарціўся, без ахвоты саступаючы месца вечароваму сутонню. Навальніца, якая двойчы падавала голас апоўдні, не дацягнула да балаціны, растала на даляглядзе, слабыя парывы ветру зусім суняліся, і зноў асела ля арэшніку цяжкое, як спрасаванае паветра. Мядзяна рдзела над нерухомымі вершалінамі крывавытых сасонак неба, і здавалася, што нават і ад яго, як і ад абвялай лістоты арэшніку, і ад каляных, бы з дроту звітых, верасоў бруіцца пахкая густая спякота.

Нешта накшталт гэтае, разлітае наўкола санлівае сцішанасці было і ў Насціных думках. Цяклі яны запаволена, анікольні не абцяжарваючы, не выклікаючы трывогі. Наста сядзела і адпачывала, прыхінуўшыся спіною да сцяны смалакурні, паклаўшы на калені стомленыя рукі. Ад самага рання і хвілінкі вольнай не было, процьму працы давялося перарабіць. Варыла бульбу, гатавала адвар святаянніку, рабіла перавязкі, паласкала бінты. Шаруеш, шаруеш іх у халоднай вадзе, ажно пальцы баляць, а толку мала: рудыя бінты, як і не мытыя зусім. Ад Шаплыкі ж аніякай помачы. Сухога ламачча, праўда, ён натраляваў да вогнішча, нават паламаў яго і склаў роўненькім штабяльком. Болей жа — анічога. Нават каня, які пасвіцца ў нізіне, напаіць да ручая не падводзіў, яе, Насту, прасіў, спаслаўшыся на тое, што заняты справаю, пільнай і вельмі патрэбнай не толькі яму аднаму. Ён і цяпер, сеўшы на рассцеленую ватоўку, улёг у тую работу — майструе са старога паліто сядло.

— Нешта доўга тое сядло вымудроўваецца,— прамовіла Наста,назіраючы за маруднымі і запаволенымі рухамі Шаплыкавых рук.

— Няўдзячны ты, аднак, чалавек! Вынаходства ў Шаплыкі адно, другое, трэцяе... А прэміроўка дзе?.. Якія такія вынаходствы? Лічы, калі ласка! Шаршатку — зрабіў. Ніткі — знайшоў. Шыла — змайстраваў.

Дамайструю сядло — сяду і бульбы прывязу. А ўзнагарода? Стограмоўку нават пашкадавала.

— Дамовіліся ж цвёрда, што на лекі пакідаем.

— Як у той прыпеўцы, адным словам. «Хаім, Хаім, што мы з табой маем? Здохлую кабылу. Яе й за хвост цягаем». Ч-чорт! Зламалася, японскі ты бог!

Куртатая тоўстая шаршатка, якую Шаплыка зрабіў з сухога ядлоўцу, цвёрдага, быццам косць, зламалася ля самага вушка. Наста пакратала вострыя і колкія кончыкі, і Шаплыка злавіў яе руку, мякка пакруціў.

— Зусім жа вылецела ў мяне з галавы,— са шкадаваннем прамовіў ён.— Мыла не расстараўся. Табе рукі — перавязкі ж робіш! — у чысціні трэба трымаць...

Расчуленая нечаканай увагаю, разглядала пачарнелыя, у дробных рэпінах пальцы. Дым ад смалякоў нейкі нялюдскі, сажа ад іх, як чорт, уедлівая. Шаравала ж шмат разоў пясочкам рукі — не адмываецца чарнота са скуры, не адстае, хоць плач.

— Я на анучку спірціку крышку бяру і рукі тру,— сказала, апраўдваючыся.— А тады ўжо раблю перавязкі.

— Заўтра мыла прывязу. А спірцік той — мне выдавай. На ўнутраныя лекі.

— Пра спірцік ты не думай. Як шаршатку наладзіць — хай табе пра тое галава баліць.

— А от жа скажы. Дзе каротка, дык там і рвецца — мудра ў народзе кажуць. Зараз новую шаршатку зраблю. А ты — нітку мне наканіфоль...

Шмаруючы белаватым пахкім камяком жывіцы тоўстую нітку, Наста сачыла за Шаплыкам з нечаканым захапленнем, што абудзілася ў душы. От жа аторва! Скрозь у яго ладзіцца. Скрозь шанцуе, дзе ні павернецца. І ўсё прадбачыць! Там, на двары бровара, яна на яго сварылася: навошта, маўляў, розныя транты на воз цягнуць! А што атрымалася? У-унь як прыдалося старое паліто без каўняра! Быццам загадзя Шаплыка распланаваў вымудраваць сядло. Рукі, трэба прызнацца, Шаплыка мае залатыя. Нажом паліто пакроіў, бы нажніцамі, з лейцаў нітак насмаргаў, жывіцы з сасны накалупаў. Новую шаршатку цяпер з ядлоўцу выстружкаў. У першай, мабыць, занадта вушка шырока прадзёўб, з таго яно і зламалася.

Але ж, здаецца, і яна, Наста, занадта пачала захапляцца спрытам Шаплыкавым! Не ўпершыню тое робіць яна, быццам сама сябе ў нечым дакарае!

Са склепа пачулася меладычнае туканне — нехта барабаніў пальцам па кацялку, выбіваючы знаёмыя Насце такты. Яна паднялася і пайшла ў склеп.

— Прынясіце, калі ласка, міску,— папрасіў Канапелька адразу ж, ледзь Наста зазірнула ў склеп.

— Міску? Дык пустыя ж яны. Усё, што зварылі, паелі.

— Пустая мне і патрэбна. На донца паперу пакладу — тады пісаць ямчэй.

Буркун рагатнуў:

— На пустой місе пустое і напішаш!

Канапелька аніяк не рэагаваў на гэтую шпільку. З кутка нараў умольна глядзеў Аўдошка, усім сваім аблiччам падкрэсліваючы, што яму сорамна: пусты, пусты Буркуноў жарт. Святла ў склепе было малавата. Але Наста прыкмеціла дзіўныя змены на Канапелькавым твары: пацямнела і пагусцела шчэць барады, і падбародак з таго пашырэў, яшчэ больш падкрэсліўшы лініі вострага, з маленькай гарбінкаю носа і вузкіх броваў, бы звітых у шнурок; усё аблічча мела ўпарты і мэтанакіраваны абрыс.

— Добра, я зараз прынясу...

Наста пайшла да ручая, дзе сохлі на верасах памытыя міскі, узяла адну і занесла ў склеп. Канапелька ўзрадаваўся, прамовіў з даверам, стаўляючы міску ля акенца:

— Заўтра ранічкою яна мне і спатрэбіцца. Я ж на досвітку прачынаюся. А сонца якраз сюды, у акенца, глядзіць. І на душы тады цяжка. Нешта пакрэмзаць, нешта напісаць карціць...

Буркун папрасіў, быццам злаваў, што Наста ласкава размаўляе з Канапелькам, і голас яго прагучаў загадна:

— Хай камендант сюды падбяжыць.

Наста пачала была тлумачыць, што Шаплыка заняты. Але Буркун перапыніў яе, зазлаваў па-сапраўднаму:

— Камендант хай ідзе сюды. На мужчынскую гаворку!

Шаплыка анiколькі не здзівіўся, пачуўшы, што Буркун кліча яго на «мужчынскую гаворку». Удзюб-

нуўшы нож у зямлю, ён кінуў поверх белаваты, як стары палын, ядлоўцавы дручок, абстружканы з аднаго канца, узяў вядро і знік у склепе. Неўзабаве ён выйшаў адтуль, падыбаў уніз па сцежцы і плёхнуў у ручай рудую ваду з вядра.

Наста сумелася. Вельмі ж неабачліва, наіўна паводзіла яна сябе ў склепе, прымушаючы Буркуна казаць тое, што яму было непрыемна. Трэба ж было здагадацца, што да чаго. А яшчэ горш тое, што гэтым вядром, у якое мачыліся ў склепе, давядзецца цяпер цягаць ваду з ручая. Дый цягала ж яна сёння! А вядро ж стаяла ў склепе, калі яны паехалі на пахаванне. Шаплыка аднёс туды яго, і яна не звярнула на тое ніякай увагі. Праўда, увечары, калі яны вярнуліся, ён доўга і старанна паласкаў вядро ў ручаі. І цяпер гэтак жа мые, потым совае туды галаву, абнюхвае і зноў мые. Не, скончыў мыць, павольна тэпае сюды, барабаніць пальцам па вядры, якое перакуліў уверх дном.

Наста раптам адчула згрызоту. Беларучку — чысцюля якая адшукалася! — з сябе строіць. Але ж ад жыцця анікуды не схаваешся. Саслабелым людзям патрэбна дапамога ва ўсім. Гэта добра, калі Шаплыка побач. А каб яго не было? Што ж ім, саслабелым людзям, пад нары мачыцца? У лекцыях інстытуцкіх табе пра гэта не казалі. Ды хопіць, зрэшты, розных папрокаў. Ты тут і ўрач, і медсястра, і санітарка. Ехала на практыку медыцынскую? Бяры яе, гэтую практыку, нават аберуч! Чэрпай, колькі душа прыме!

Абярнуўшы вядро на калок, увагнаны ля згаслага вогнішча, Шаплыка сеў на ранейшае месца, ціха насвістваў. Завастрыўшы ядлоўцавы дручок, ён пачаў буравіць дзюрачку пад нітку, спытаў неспадзеўкі і невядома ў каго:

— Што зараз у думках?

Шаплыка зыркнуў на Насту, і ёй падалося, што пытанне адрасавана ёй, і яна сказала:

— Мы ж гэтым вядром ваду сабе носім. Трэба ў склеп нейкую іншую пасудзіну.

— Дзве міскі на тое аджалкуем, іх у нас ёсць. І не бяры да галавы драбязу ўсялякую. У думках у мяне ведаеш што зараз? Гісторыя сусвету.

— У-ух ты!

Усмешка, ад якой Наста не ўтрымалася, Шаплыку

не збянтэжыла, ён прамовіў з развагаю і заклапочанасцю:

— О-ох жа і шмат чалавек на гэтай зямлі паплакаў і пагараваў, пакуль навучыўся будаваць жытло і вось гэткую, драўляную, мабыць, напачатку шаршатку. Урэшце навучыўся. І, на вялікі жаль, не паразумнеў. Хцівым зрабіўся, драпежным і паганым. Навошта, маўляў, нешта мне самому вырабляць, абліваючыся потам, і сушыць мазгі, калі можна пайсці да суседавай пячоры і ўсё, што там ёсць людскае, сабе выхапіць. Сілаю! А калі пачне ўпарціцца — галаву яму далоў. Першая самая ў свеце вайна, ведаеш, на гэткай філасофіі і будавалася. І што дзівіць? Філасофія таго, самага першага ў свеце, разбою і цяперашняга на нас нападу — аднолькавая: грабі к сабе чужое, бо ты самы мацнейшы і самы лепшы. Хіба не так?

Ён не глядзеў на яе цяпер, уся ўвага яго была скіравана на драўляны калок, і Насце падалося, што Шаплыка размаўляе сам з сабою. Але яна тут жа адчула, што ён чакае адказу на сваё пытанне, запрашае да грунтоўнай гаворкі і развагі.

— Так,— пагадзілася Наста.— Але гэта — філасофія звяроў. Звер заўсёды нападзе знянацку.

— Звяры і ўламіліся ў нашу хату. Дакладней, яны абліччам таксама людзі. Але сэрцы ў іх — звярыныя. Гітлер прывучыў іх да крыві, як звяроў. І гэткі чалавек абыякавы да таго, што ліецца кроў. Да галоўнай высновы жыцця яму дакапацца ўжо і не хочацца. А яна, тая выснова, наўздзіў простая: свет дзеліцца на тых, хто жыве са свайго працоўнага мазаля, і на тых, хто рабуе таго, хто жыве са свайго працоўнага мазаля...

Сур'ёзнасць, з якой разважаў Шаплыка, была ў навіну. Замест звычайных жартаў, двухсэнсоўнасці, нейкіх закідаў, разлічаных толькі на тое, каб падкалупнуць, парагатаць, у яго размове прабівалася сталасць чалавека, які вырашыў дакапацца да нечага вельмі патрэбнага, важнага, і тое, важнае, яго мучыць.

— Ды не так усё проста, як табе здаецца,— сказала яна.

— Мажліва. Але ў маёй канкрэтнай справе, як бачыш, усё сапраўды наўздзіў проста: чык-чырык — вось табе і шаршатачка. Ну, дасі ацэначку?..

Ён задаволена пакруціў у руках ядлоўцавую піку з

вузенькім вушкам на канцы, паклаў на далонь, чакаў ухвалы. Наста ўзяла самаробную шаршатку, пакруціла яе ў пальцах, ад душы ўхваліла:

— Майстра адмысловы! Во ўжо будзе шчаслівая жоначка за гэткім гаспадарлівым мужам.

У глыбіні зеленаватых вачэй, якія раптоўна сцямнелі, запаліўся драпежны і прагны водсвет. А голас прагучаў разважліва, праўда, з пэўным падтэкстам, у якім былі і папрок і шкадаванне:

— Жоначку, калі ў душы маёй яна паселіцца, я на руках увесь час насіць буду.

— А працаваць жа калі? Яе на руках носячы, на хлеб не заробіш і каліва.

Ён сумеўся на міг, зыркнуў атарапела. Але тут жа знайшоўся, цокнуў языком:

— Галава хай працуе. Галава на хлеб заробіць. Хаця, твая і тут праўда: галава — галавой, галоўнае ж у гаспадарцы — рукі таксама. Нітку, вось скажам, галава хіба наканіфоліць? — Шаплыка ўзяў нітку, якая патаўсцела ад жывіцы. Але кончык, тонка завостраны Настай, лёгка ўлез у вушка, і Шаплыка, смыкнуўшы нітку, задаволена прыцмокнуў зноў: — Рукі ў цябе, Настачка, залатыя. Гэта ўжо як ёсць!

— Паддобрыцца, у ласку ўбіцца змысліў?

— Дзіўнае стварэнне — жанчына. Праўду пачуе — веры ані. А хлусню ёй увернеш — у скокі пойдзе ад радасці. Э-эх...

Ён уздыхнуў. Але з твару не знікаў гуллівы выраз, і цяжка было сцяміць, жартуе Шаплыка ці гаворыць усур'ёз. Выраз гэты, аднак, неўпрыкмет знік. Шаплыкавы пальцы рухаліся прыгожа і ўвішна, самаробная шаршатка мільгала ў іх, і нітка шчыльна сціскала палосы клятчастага драпу, надаючы ім пэўную форму, і ўвесь час у Шаплыкі то расцягвалася, то падціскалася адтапыраная ніжняя губа, быццам дапамагаючы шытву.

Наста назірала за ўвішнай Шаплыкавай працаю. Але думкі яе былі далёка. Дзе зараз Грач? Што парабляе ў гэты вось вечар? Можа, напаткала якая бяда і ён нудзіцца, кліча яе, Насту, на дапамогу? Не, бяда яго не зачэпіць! Грача абыдзе бяда, абміне, яму будзе шчасціць скрозь, паўсюль. Будзе шчасціць і потым, калі ён вернецца. Тады ўжо толькі радасць будзе ім спадарожнічаць. Скрозь, ва ўсім! Сёння? Нешта ж

Шаплыка пра сённяшні вечар гаворыць? Куды ён гэта збіраецца?.. І нешта дзіўнае з ёю, Настай, адбываецца: не ўпершыню ж вось гэтак яна слухае, глядзіць, пераконвае, што будзе ўсё добра на шляху Грача, і як бы і тут, і недзе яшчэ, далёка, жыве, ад таго, што бачаць вочы, адасобіўшыся...

— Ты як і не чуеш мяне,— папракнуў Шаплыка.— Я кажу, што лепей мне сёння бульбу з воза прыперці.

Шаплыка мяняў планы, якія яны ўранні абгаварылі і абмеркавалі падрабязна, і гэта яе здзівіла.

— На ноч гледзячы ехаць? — вырвалася наўпярок волі; яна з цяжкасцю адключалася ад сваіх дум пра Грача.— Дамовіліся ж: заўтра едзем па бульбу. Разам.

— А хто ж думаў, што ў мяне работка гэтак пакоціць ёмка? Сядзельца амаль і гатовенькае. Трэба яго праверыць, каб потым, у вялікай дарозе, перарабляць чаго не давялося. Праўда ж?

Яна пагадзілася і нічога не запярэчыла. Думак пра тое, што Шаплыка змысліў нешта паганае, не ўзнікала. Але тое, што ён пачаў дзейнічаць самастойна, з ёю не раячыся, абурыла і выклікала крыўду. Здаецца, усё разумна яны распланавалі ўранні. Заўтра прывязуць бульбу, паснедаюць, а тады Шаплыка пагоніць верха на той бок чыгункі, паглядзіць, што робіцца на шашы. Калі ўсё будзе добра, дык ён шухне ў бок Дзвіны, дабярэцца да Экімані, што пад Полацкам,— там жыве настаўнік, у якога яны разам з Лабуком слухалі радыё. Вядома, план рызыкоўны: дарога — не блізкі свет, і невядома, ці на месцы той настаўнік. Але ж гэта — адзіная рэальная магчымасць пачуць голас Масквы, дакладна дазнацца аб тым, што робіцца ў свеце. Дзеля чаго ж добры гэты план, які яны склалі сумесна, Шаплыка цяпер бурыць? Сядло праверыць? Дык заўтра, бульбу з воза ўзяўшы, давядзецца сюды абавязкова ж вяртацца. Будзе, такім чынам, час тое сядло праверыць...

Наста ўзнялася, моўчкі, без усялякае мэты, падыбала па сцежцы да ручая. Спынілася ля купкі старога верасу, на якім абсыхалі міскі і лыжкі — аднесці іх трэба ў дашчанік, на ноч тут не пакідаць! — і тут жа згледзела гнуткую і вёрткую бура-жоўтую гадзюку, войкнула і адскочыла за сцежку.

— А-а-ай!

Шаплыка імгненна апынуўся побач, азіраўся, трымаючы напагатове аўтамат. Пачуўшы пра гадзюку, аж сплюнуў з прыкрасці:

— Цьфу! Гэтак ты мяне дачасна ў труну пакладзеш. Я ўжо быў чортведама што падумаў. Хэ, гадзюка! Вуж тут жыве. Учора яшчэ яго прыкмеціў.

— Я іх усіх баюся. Такое адчуванне зараз, быццам па назе гадзюка слізганула...

Яна, сагнуўшыся, пацёрла даланёю скуру на нагах, якая вышэй шчыкалатак была аж стракатая ад камарынай заедзі.

— Абутак твой, мамкі-лямкі, не прыдатны па лесе швэндацца. Як шчэ і трываеш,— прамовіў Шаплыка спачувальна.— Ты ведаеш, што зрабі. Попелу перад уваходам у дашчанік натрусі. Гадзюкі, ведаю, попелу не любяць, ад паху яго ўцякаюць.

— Я гэта зраблю. Зараз жа і прыцягну попелу.

Яна прыбрала посуд, потым прынесла ў прыгаршчах попел, пасыпала ля ўваходу ў дашчанік, затрамбавала нагамі. Шаплыка тым часам дарабіў сядло і паманіў яе пальцам.

— Бяры,— сказаў ён, працягваючы ёй дзве карычневыя анучы.— Крэпка, японскі бог, гэтае клятчастае паліто нам пасобіла. Мне — сядло. Табе — анучы. Ведаеш, як наматваць? Садзіся на сядло, пачнём гэтую навуку засвойваць. Без ануч, каб ведала, боты не носяць. Адным мігам мазалі насодзіш...

Яна пакорліва села і тады толькі ўбачыла побач з сядлом Вахтангавы боты. Шаплыка, выяўляецца, ужо ёй і абутак падрыхтаваў. Ці не здурнеў ён? Прымусіць яе, каб боты нябожчыка надзела?

— Я не хачу,— ціха прамовіла Наста.

Шаплыка як не пачуў яе слоў, упарта даводзіў сваё, і ў голасе гучала захапленне:

— У арміі, ведаеш, жыццё салдацкае з анучы пачынаецца. Правільна наматаў — старшына, быццам сонца, свеціцца. Пад пальцы і пятку рубцы пагнаў — зверам глядзіць. А я аднойчы схітраваў і рубцы пасвойму павярнуў. А чым скончылася? З палігона ў казарму ледзьве датэпаў — гузакі крывавыя насадзіў на падэшве. Салдацкая навука, між іншым, ва ўсім шчырасці да сябе патрабуе. Спачатку — правую нагу бяром...

Шаплыкавы словы гучалі неяк прыглушана, быццам стаяў ён недзе воддаль, не побач. Мігнуўся раптоўна жоўты шнур лубіну паміж маладымі сасонкамі і роўным бярозавым узлескам, разгалістая яблынядзічка, магільны пагурак з белым слупком. Нітачка колкага азнобу пакацілася па рэбрах, звілася колцам у левым баку грудзіны. Наста памацала рукою тую кропку, дзе боль быў асабліва выразны, пакруціла галавой:

— Не хачу... Не буду я надзяваць Вахтангавы боты!

Шаплыка скруціў анучы трубкаю, патузаў гнуткі рулончык, быццам спрабаваў падраць яго напалам, потым раскруціў, высмаргнуў доўгую нітку, пакруціў яе ў пальцах.

— Дзіцячыя выбрыкі тут не да месца,— ён рашуча працягнуў ёй анучы.— Бяры і накручвай. І ведай, што не яго гэта боты, зрэшты,— Шаплыка пераставіў боты па левы бок ад самаробнага сядла, бліжэй да Насты.— На фабрыцы іх пашылі. Потым боты трапілі на армейскі склад. Старшына атрымаў іх і выдаў салдату. Салдат не паспеў іх знасіць — ягонай віны тут няма. І боты таксама не вінаватыя.

Яна заміргала, паглядзела на яго няўцямным і доўгім позіркам, не тоячы пагарды.

— Куды ты хіліш? Куды?

— А туды, што законы вайсковыя трэба ведаць,— пачаў ён памяркоўна, зусім без крыўды.— Малады салдат, на службу заявіўшыся, адразу новае, з іголачкі, абмундзіраванне атрымае? Дулю! Спачатку старую абмундзіроўку паносіць, а потым ужо. Я праз гэта, каб ведала, таксама прайшоў. Э, каб ты першую маю тую абмундзіровачку пабачыла!

— Знайшоў што параўноўваць!

— А я нічога не параўноўваю. Я толькі кажу табе: выбрыкі дзіцячыя ў нашым становішчы цяперашнім — на мяжы паганства, каб ведала. І губы, калі ласка, грэбліва не скрыўляй. І-іш, якая вышукалася! Людзі боты тыя шылі, дык верылі: салдату абутак. А ты ім у вочы чмыхаеш. І перад памяццю Вахтанга нядобра гэта. Ён, як на мой розум, усё гэта прадбачыў. Хіба не так?

Што тут запярэчыш? Ды, зрэшты, няма патрэбы. Нічога не зменіцца, калі яна нешта і давядзе Шаплы-

ку, у нечым яго пераканае. Праўда на яго баку: у сваіх парусінавых сандалетках, з якіх пальцы ўжо тырчаць, яна паходзіць-патупае па лесе шчэ дзень-другі. А далей басанож па лесе? Не, галубачка, не патупаеш. Шкада, што ў чамадане, які застаўся ў вагоне, ляжаць добрыя скураныя туфлікі. Дык, як на гэтую бяду, і не надзела ж іх. Не, яна б надзела іх. Ды маці не дазволіла, пабаялася, што абаб'юцца новыя туфлікі ў дарозе. Дзіўна неяк: аб туфліках сваіх новых яна шкадуе. А вось аб маці згадвае цяпер неяк спакойна, быццам ведае, што лёс у маці шчаслівы. А ці так жа гэта на самай справе? Ці так?

Нітачка колкага азнобу растала, знаёмая горыч падцiснула сэрца. Гарачая хваля раптоўна ўзнікла за вушмі, асела ў патыліцы, і Наста адчула, што маўчаць нельга, што адказваць Шаплыку яна абавязана. Прыйшоўшы да гэтае высновы, Наста адкрыла ў ёй зусім нечаканы сэнс: яна павінна слухацца Шаплыку не толькі таму, што ён мае рацыю, але, у першую чаргу, таму, што гэтага вымагаюць не проста абставіны, а мэта, якую паставіў перад ёю Грач. Ступіць яна дзе-небудзь у сваіх сандалетках на гадзюку ці проста абраніць ногі і захварэе. Хто ж тады будзе даглядаць параненых? А яны ж на яе спадзяюцца — на гэта Грач напіраў, калі развітваўся. Ды гэтак жа яно і ёсць: на яе, Насту, у гэтых саслабелых людзей спадзяванка. А яна — правільна Шаплыка гаворыць! — дзіцячыя выбрыкі ладзіць.

— Давай анучы,— сказала Наста цвёрда.— Заўтра надзену. І не паглядай з недаверам. Калі ўжо сказала — надзену!

Шаплыка ўзрадаваўся, з падкрэсленай асцярожнасцю скруціў у няроўны жмут анучы і сунуў у бот. Узяўшы сядло, папрасіў:

— Боты пастаў у склеп, пад нары. Ноччу, мабыць, дождж хвастане.

— Паедзеш усё-ткі? — спытала Наста.— Памагчы што табе?

— Ды не, не трэба...

У Шаплыкавым голасе пачулася крыўда. Не дараваў, значыцца, яе дзіцячы, як ён кажа, выбрык з ботамі. Ведама ж: наважыўся паказаць сваё майстэрства накручваць анучы, меў намер павучыць, выступіць у ролі клапатлівага і добрага дарадцы, а яна гэ-

тае шчырае парыванне пабурыла, адштурхнула працягнутую сяброўскую руку настырна і фанабэрыста. Але ж і ён табе гэтым жа зараз сплаціў. Асядлаў каня і паехаў напрамкі ля грушы-дзічкі, абмінуўшы дашчанік. Зазлаваў, мабыць, моцна: не схацеў нават і развітацца. А навошта развітвацца, калі неўзабаве ён і назад вернецца. Але ж усё роўна неяк і трывожна на душы.

Пацішэла, а тады раптоўна зусім растала цоканне конскіх капытоў, і Насце зрабілася нядобра. Яна занесла боты ў склеп. Стаўляючы іх пад нары, зачапіла нагой Канапелькаву кульбу, якую апоўдні Шаплыка высек са старога ядлоўцу. Кульба была зручная, з шырокай загагулінай, прымеранай пад далонь.

— Забыўся ўсцягнуць на нары,— падаў голас Канапелька.— Пакладзі, каб пад рукою была. Заўтра дагаблюю, дастружкаю. А тады і паспрабую неяк чыкіляць.

З цёмнага кутка склепа прагучаў глухаваты Буркуноў голас, які адразу занепакоіў Насту:

— Камендант калі вернецца? О, тады я і спаць не буду. Бульбы тады адразу насмажым. Э-эх, бульбачкі смажанай паесці з агурочкам маласольным. А ён з кропам і часначком.

Канапелька тут жа кінуў шпільку:

— А з храночкам бульбіны не хочаш?.. Уночы яму, бач ты, агонь паліць і бульбу смажыць. Пацерпіш да раніцы.

— Я, можа, не дажыву да раніцы.

— Дажывеш,— весела паабяцаў Канапелька.— Пакуль табе ў рот бульбіна не ўляціць, дык ты ж яго і не закрыеш.

— А ты мне рот не затыкай! І мною не камандуй. Кульба хай твае каманды слухае і выконвае.

— Вось я зараз кульбе і загадаю табе па вуху пляснуць. Каб не трылузіў абы-што.

Паўтаралася ўжо вядомае — варта нешта сказаць Буркуну, і Канапелька адразу ж прычэпіцца, быццам толькі таго і чакае! — і Наста паспешліва ўмяшалася:

— Не трэба сварыцца. Навошта ж злаваць, калі бяда наўкола? Мы ўсе тут роўныя. І нам шанаваць адно аднаго трэба. Берагчы.

Буркун закашляўся:

— У-уг-га-а... Роўныя! Адзін на сядле папылiў.

Другі — пластом ляжыць на нарах. І гэта — роўнасць?

— І як з табою жонка ўжывалася,— выгукнуў Канапелька.— Ад такой твае буркатні галаву ў пельку з песняю сунеш.

— А табе адно тое і сніцца: Буркунова галава — у пельцы цялёпаецца.

— Памаўчы, Буркунок,— ціха папрасіў Аўдошка.— Памаўчы.

— Памаўчу. Толькі спачатку хачу дазнацца: навошта было калёсы кідаць гэтак далёка? Навошта? Вось хай Наста патлумачыць!.. Э-э, ты пачакай, Капель-Канапель, не перапыняй. Калі што якое, дык ты, на кульбу абапіраючыся, неяк пачыкіляеш у балаціну. А мне? Калі абедзве нагі не служаць... Мне ж і кроку не зрабіць. І Аўдошка не зробіць. Ён маўчыць, але ж тое ж думае, я ведаю. І ты сам, нябось, думаеш: а дзеля чаго яны там колы тыя прыхавалі? Вось выгуры з маёй галавы гэтую загваздку, дык і памаўчаць тады гатовы. А тое, што камендант наш бубніць — нічога мне не гаворыць. Які ў лесе след? Па верасах хоць дзесяць фурманак пракаці — аніякага следу не пакінеш...

— Дык што ты хочаш сказаць? — перапыніў гэты доўгі і надрыўны маналог Канапелька.— Знарок, маўляў, колы там пакінулі, каб лацвей лататы даць, калі нявыкрутка? Гэта хочаш сказаць?

— Што хацеў, дык тое і сказаў. А ведаць праўду хачу. Праўду! І ты тут не выпендрывайся. І-іш, адвакат сасновы вылупіўся...

Сварка праз нейкую драбязу паміж Канапелькам і Буркуном ужо не была Насце ў навіну. Але цяпер яна выкіроўвалася ў рэчышча жорсткасці і непрыязнасці, набывала адценне варожасці, зусім непрыхаванай нянавісці. Насце падалося, што Буркун абвінавачвае цяпер толькі яе, і ўсё ў ёй узбунтавалася.

— Сорамна. Ганьба! — яна намагалася казаць спакойна і пераканаўча і ўсё ж сарвалася на крык.— Сорамна чуць! Звычайна бяда згуртоўвае людзей... У горы людзі дабрэйшыя... Адзін да аднаго горнуцца, каб дапамагчы, падтрымаць... А вы? Ганьба і сорам!

Выпаліўшы ўсё гэта, яна выбегла са склепа, зашылася ў куце дашчаніка на мулкім лежыве і закрыла вочы. Навошта ёй бачыць усё гэта? Навошта слухаць

нікчэмныя звягу і сваркі? Яна не вінаватая ў тым, што воз стаіць у маладым сосніку ля жоўтага лубінавага шнура. І Шаплыка не аб сабе думаў, калі хаваў кола і аглоблі — пра іх жа, гэтых, што пілуюць адзін аднаго, яго клопат быў! Але ж давядзі гэта Буркуну ці Канапельку! Пераканай паспрабуй іх у тым, што ўсё зроблена разумна! А можа... А можа, мае нейкую рацыю гэтая настырная нэндза? Прыехаў зараз Шаплыка да воза, паставіў каня ў аглоблі, прыкруціў кола і пакаціў сабе... Ды не, лухта! Навошта ж той воз, калі сядзіць Шаплыка ў сядле. Верха і хутчэй-зручней дзе хочаш паедзеш. А можа, Шаплыка гэтую мажлівасць і выкарыстаў? Ды не, не можа тое здарыцца! Шаплыка не кіне іх, не ўцячэ. Ён неўзабаве вернецца! І ты, галубачка, зацісні, прыдушы гэтую сваю паганую падазронасць!..

Наста круцілася на сваім мулкім, як ніколі, ложыве і ўрэшце не вытрывала, паднялася і выйшла з дашчаніка. Паглядзела наўкола і сумелася, быццам раптоўна апынулася недзе ў незнаёмым месцы. У густым вечаровым сутонні сасонкі на балаціне выраўняліся, стаялі неяк дужа шчыльна, быццам замкнулі з сваіх галін надзейны і моцны ланцуг; зніклі малінавыя барвы на небе; над макаўкай грушы-дзічкі завісла буйная зорка, не белая, а нейкая сінявая, і святло яе было роўным і моцным.

Марудна, як бы абмацваючы нагамі сцежку, Наста дайшла да ручая. Удзень ён быў зіхоткі і гаманкі. Цяпер жа, укрытая туманком, вада на каранях амаль не булькацела, выдавала чорнай, нібыта дзёгаць. Анічога не адбівалася на нерухомай паверхні, пад якой, здавалася, тоіцца невымерная глыбіня; звінелі і гулі, ажно шалелі, камары.

З пагарба, ад згаслага вогнішча, пацягнула чадным смуродам — на вуголле і попел асела раса,— і Наста адчула знаёмы колкі азноб у плячах. Абцiснула кофтачку, скрыжавала на грудзях рукі, аблапіўшы далонямі локці, і зусім і не сагрэлася. Памацнела адчуванне адзіноты, безабароннасці, і зноў мільганула здрадніцкая думка пра тое, што гэты злосны на ўсіх і на ўсё Буркун, мажліва, мае нейкую рацыю і Шаплыка коціць недзе сабе на колах ды пасмейваецца.

«Калі Шаплыка не вернецца, я тут не застануся...»

Яна разумела, што ніколі гэтага не зробіць. Але

думка пра магчымыя ўцёкі завітала, і ад гэтай думкі было невыносна цяжка, быццам абрывалася дарога, у якую яна дагэтуль моцна верыла, якая жывіла надзеі і суцяшала.

Захацелася ў выратавальны кут дашчаніка, дзе няма камароў, дзе ўтульна і цёпла, дзе адчуваеш сябе ў нейкай мройнай і дужа ж патрэбнай бяспецы. Яна вярнулася да смалакурні, уладкавалася на сваё лежыва, паклала карабін праваруч — і нібыта адгарадзілася ад усяго таго, што гэтак вярэдзіла душу ля ручая пад зорным небам. Заныў над вухам камар і нечакана мітнуўся некуды, і танюткая яго нотка абарвалася і знікла.

«Уцякаюць са смалакурні камары. Тут ад іх паратунак...»

Яна нечакана супакоілася, адкінула ранейшае рашэнне не спаць, чакаць Шаплыку, і заснула хутка і салодка.



## 13

Абудзіў яе ўранні ўжо, калі ў дашчаніку было светла, басавіты Шаплыкаў голас:

— Сто-ой, дружа! Пшыехáлі, як той поляк казаў. Дзякуй табе!

Наста слухала, як форскае конь, як венькаюць цуглі, і не спяшалася ўздымацца са свайго ўгрэтага лежыва, нейкага дзіўна памякчэлага за кароткую летнюю ноч. Поўніла сэрца радасная заспакоенасць, якую абудзіў у ім Шаплыкаў голас. Вярнуўся Шаплыка, нікуды не збег! А яна пачала была сумнявацца, Буркуновай лухце паддалася, на нейкі час была і паверыла. Больш таго, нават падазраваць пачала, што Шаплыка да ўцёкаў рыхтаваўся шчэ тады, калі яны вярталіся разам з бровара. Паганства гэта — падазраваць чалавека, які шчыры і табе верыць!

У дзівосным і радасным узрушэнні яна вылецела кумільгам з дашчаніка, падбегла да Шаплыкі, які адвязваў мех з бульбай, што ляжаў упоперак самаробнага сядла.

— Чаго ж гэтак бавіўся? — зірнула на Шаплыку замілавана, узялася дапамагаць.— Мы ўжо сачыць за дарогай кінулі. Гладка счакаліся!

— Гэта ўжо то-очна,— ён стаяў, сагнуўшыся, упёршыся рукамі ў мех з бульбай, свідраваў Насту гуллівым і насмешлівым позіркам.— Мабыць, лямкі-мамкі, праклёны наўздагон слалі. Плітануў, маўляў, гад некуды! Сябе ратаваць узяўся, а нас, гаротнікаў, у лесе пакінуў, каня звёў...

Наста павяла галавой, апусціла вочы. Некалі яна папракала Шаплыку, нават лаяла за тое, што ён пачаў падазраваць Грача, абвінаваціў яго ва ўцёках, потым сама паставілася да Шаплыкі з недаверам, і Шаплыка пра той недавер здагадаўся, гаворыць цяпер праўду, і ад праўды гэтай непрыемна і сорамна.

— Што ты мелеш? — сярдзіта напусцілася яна на Шаплыку.— Давай каня адвяду да ручая.

— Э не. Каня я і сам вадзіцаю пачастую. Але, перш-наперш, цябе мне трэба ўзнагародзіць. І ведаеш, за якія заслугі? А за тое, што страчаеш. Прыкмета, кажуць, ёсць: калі цябе страчае жанчына, якая і выпраўляла ў дарогу,— ты чалавек шчаслівы. Што з таго маем? А тое, што шчаслівы Шаплыка чалавек!

Шаплыкаў жарт не вымагаў ад яе ні падзякі, ні ўхвалы. Але наўпярок волі падзяка нарадзілася ў Насціным сэрцы, нарадзілася і прымусіла захвалявацца, і, каб схаваць гэтае хваляванне і тую шчырую разгубленасць і падазронасць, пра якую толькі ёй дакладна і вядома, Наста прамовіла наўмысна сярдзіта:

— Дазволь, хвалько шчаслівы, каня на лугавіну адвесці, напаіць, каб шчасця табе шчэ болей падваліла. А ты сядзі і адпачывай. Хай прыкметы твае спраўджваюцца.

— Вядзі,— каротка дазволіў ён пасля нейкае развагі.— Але спачатку — падарунак. Трымай!

— Што гэта? Мы-мыла,— усхвалявана працягнула Наста.— Мыла ж, сапраўды!

— Яно. Гэлька ўнесла два кавалкі мыла ў той спіс.

— Дык ты ў Залессі быў?

— Але. Толькі варыўня ў прадаўшчыцы пусценькая, як ветрам падмеценая. І ведаеш, што кажа? Прыходзілі, маўляў, гэткія ж вось і ўсё начыста змабіліза-

валі. А ў вачах — прытоены здзек. Прыхавала ўсё, гадаўка!

— А што чуваць? Навіны якія?

— Няважныя навіны. Памятаеш школу, што на пагорку, злева ад дарогі на бровар? Немцы там стаяць. Чалавек сорак. Кажуць, што ахова станцыі.

— А фронт? Пра фронт што-небудзь чуў?

— Нічога пэўнага ніхто не ведае. Але, па ўсім відаць, адступаюць нашы і далей. Ты ведаеш, як яны ў школе жывуць? Вокны свецяцца, гармонік наярвае, песні гарляць. А ўдзень толькі адну гаворку ад іх людзі і чуюць: «Москаў — капут». Гэта брахня, вядома ж. Але што мяне ўразіла? Сцяпаніха, наша тая жанчына, дзе мы тады з табою былі, дык скоса на мяне паглядала. Хлеба нават не дала. Ды ліха з ёю... Вядзі каня, а я тым часам боты скіну, бо папрэлі ногі гладка. Э, гэта шчэ пакладзі ў дашчанік — бохан хлеба тут — расстараўся ў аднаго чалавека. Пагаворым потым...

Шаплыка адвязаў ад сядла торбачку, якую Наста напачатку не заўважыла, і аддаў ёй аброць. Сырамяць аброці, угрэтая ў Шаплыкавай руцэ, была мяккая і цёплая, яна лягла ў Насціну далонь лёгка, амаль бязважка. Конь часта тузаў аброць, матаў галавой, быццам сіліўся нешта сказаць.

Весткі, што прывёз Шаплыка, прыгняталі, карцела пазбавіцца ад іх, пачуць слова надзеі, і Наста, ледзь ступіўшы на лугавіну, патрапала рукою, у якой была заціснута аброць, конскую грыву. А ты, маўляў, што мне скажаш? Не можаш нічога сказаць, ведама. Гэта Наста павінна табе дзякуй сказаць, што бульбачку давёз.

Конь заворскаў, пацягнуўся пысаю да Насцінага пляча. Наста была апанавана горкай развагаю, шчыра адгукнулася на гэтую, як бы асэнсаваную, спагаду, прыпала шчакою да конскай грывы. Поўсць была халодная, крыху волглая. Але пад ёй бруілася жывое цяпло, і яно біла ў шчаку лагоднай мяккай хваляй, даючы радаснае адчуванне таго, што адзіноты няма, што ты не адзін у гэтым свеце, што побач з табою ёсць жывая і ўдзячная табе істота.

Калі яна вярнулася з лугавіны, Шаплыка стаяў ля вогнішча. Зняўшы з рагулькі закопчаны кацялок, ён працягнуў яго Насце загадна і строга.

— Падскоч ты ў той бярэзнік, што ля першай павароткі ў нізіне, і назбірай суніц. Тамака іх поўна — аж гарыць трава. Але ад дарогі не відаць, у глыб бярэзніку бяры.

— Гэткая пільніца? — яе непрыемна ўразіў гэты строгі загадны голас.

— А яна, ведаеш, скрозь пільніца. Вось гэтак, як мне заснуць — прыбіўся ж гладка. Тым часам ты і вернешся,— і паўтарыў тое, што абяцаў, калі адвязваў ад сядла торбачку: — Пагаворым потым...

Збіраючы спелыя буйныя суніцы — месца, пра якое казаў Шаплыка, адшукалася лёгка,— Наста ўвесь час думала пра тое, што Шаплыка не выпадкова двойчы абяцаў ёй, што, маўляў, «потым пагаворым». Мабыць, прывёз ён нейкія яшчэ, больш кепскія, навіны і не адразу адважыўся адкрываць іх ёй, усё адцягвае, адкладае нейкую важную гаворку. Гублялася ў здагадках і, намагаючыся заглушыць трывогу, прымушала сябе збіраць ягады ўвішна, хутка.

Ішла назад не дарогаю, а напрамкі, зразаючы добры кавалак лясной пуцявіны, ішла па гнуткіх шархоткіх верасах, якія балюча хвасталі па шчыкалатках. Убачыла дах дашчаніка і спатыкнулася, ледзь не рассыпала ягады, яшчэ больш расхвалявалася, незаўважна ўбіўшы сабе ў галаў, што Шаплыка даўно не спіць, чакае яе, кабываліць непрыемныя і жахлівыя навіны.

Шаплыка, аднак, моцна спаў. Яна наважылася пабудзіць яго, знарок уголас размаўляла з Канапелькам, і гучным трэскам ламала сасновае суччо і кідала яго ў невялікае, зусім без дыму, ёмкае цяпельца. Усё было марна: Шаплыка спаў як забіты.

Перасыпаўшы суніцы ў міску, Наста пачала мыць у ручаі бульбу. Мыла па адной, доўга абціраючы рукамі кожную бульбіну. Потым склала ў кацялок, заліла вадой і, узняўшыся, вачам сваім не паверыла. Шаплыка не спіць, выяўляецца. Каня ўжо вядзе, засядлаў нават.

Ён падышоў, запытаўся вясёлым голасам:

— Ну, дык што? «Расстаться настало нам время...» Думаю, што ехаць мне трэба неадкладна.

Наста сумелася:

— А есці? Пачакай, зварыцца бульба. Паясі і паедзеш.

— Паесці нешта і ў вёсцы знайду. Што абыходзіць мне да нашай прадаўшчыцы заявіцца? Во ўжо зарадуецца. Вядома, калі таго таўсматага на падворку не стрэну.

— Ты што, здурнеў? У вёску ён удзень паедзе!

— Ды не, здаецца, галава варыць нармальна. Але ж спаў і сасніў: снедаю ў Гэльчынай хаце і частуе яна мяне па-царску. Добра, адным словам, частуе: яечня — на ўсю патэльню.

Ён жартаваў. Але вочы ў яго былі невясёлыя, і Наста зразумела, што Шаплыка жартуе знарок, каб адцягнуць яе ўвагу ад галоўнага, ад таго, што ён зараз ёй паведаміць, што ўсё ім абдумана і прынятае рашэнне не зменіцца.

— А ім ты сказаў, што едзеш? — яна паглядзела ў бок склепа, ля якога гнуліся ад ветру маладыя бярозкі.— Ім жа трэба патлумачыць...

— Сказаў. Праўда, не ўсё патлумачыў: разведка — ёсць разведка. Але, развітваючыся, загад абвясціў: сваім намеснікам на час адсутнасці цябе пакідаю. Усю ўладу аддаю. На чатыры дні цалкам.

Ёй падалося, што яна нешта недачула, нешта не сцяміла.

— На чатыры? Ты ж учора казаў, што за два дні ўправішся. І яно ж гэтак: дзень — туды, дзень — назад дарога.

— Э, учора! Ранкам, ведаеш, у галаве толку болей. Зараз, каня сядлаючы, я і разважыў, што спяшацца не выходзіць. Каб толькі да Дзвіны ды назад, дык можна і галопам па Еўропам. Але ж трэба пашукаць жытло, дзе іх размясціць,— ён хітнуў галавой у бок склепа і дадаў рашуча, як пра справу абгавораную і канчатковую: — З лесу іх трэба выводзіць. Да людзей перапраўляць. Тут яны загінуць. Вось пра што я збіраўся з табою пагаварыць...

Конь тузаў повад, быццам падспешваў Шаплыку, быццам цягнуў хутчэй рушыць у дарогу, і Наста ведала, што яна ўжо нічога не зменіць, не затрымае Шаплыку, што ён увесь клопат пакідае ёй, і адчула рэзкую і вострую непрыязнасць да чалавека, які стаяў побач.

— У палон хочаш іх пíхнуць? У тую загарадку на станцыі? За дрот калючы?

— Зноў яна тое ж самае чаўпе,— прамовіў ён са

шкадаваннем, але са шкадаваннем злосным, непрымірымым.— Адкуль гэтая зацятасць чорная?

— А ты радасці светлай чакаеш? Думаеш, я з радасцю буду глядзець, што ты іх у лагер фашысцкі хочаш пхнуць?

Ён нядобра падціснуў губы, сказаў хрыпата:

— Навошта ж у лагер? Ёсць вёскі, што далёка ад чыгункі, ад усялякіх станцый. І людзі добрыя ёсць. Яны і адзенне дадуць, і прытулак, і ўсім дапамогуць.

— Я на гэта згоды не даю. Вось Грач вернецца, хай ён і вырашае. Ён іхні лёс нам даверыў. А мы яму, атрымаецца, здрадзім.

Шаплыка змучана ўсміхнуўся:

— А я, між іншым, ведаў, што гэтак ты маю прапанову і стрэнеш. І, мабыць, на тваім баку праўда...

Ён праставаў па лесе, трымаючы каня за аброць, і яна ішла поруч з дзіўным і даўкім адчуваннем нейкага незразумелага цяжару, падобнага на снегавы абвал. З чаго гэтак імкліва пагадзіўся Шаплыка? Як спалохаўся нечага і ўцякае ад спрэчкі, ад гаворкі важнай і неабходнай. Не, чаму яму палохацца? Няма падстаў. І табе няма патрэбы рознай лухтой галаву сабе забіваць. Шчэ і дагэтуль сорамна за ўчарашнюю падазронасць і думкі пра Шаплыкаву здраду.

— Жарт — жартам. Але да прадаўшчыцы ты не заязджай,— параіла яна і зрабіла тое шчыра, ад душы.— Угледзіць хто-небудзь і немцам паведаміць. Будзе тады табе яечня па густу.

— Ды што я, ёлуп які, каб у гатовую пельку галаву соваць? Мне мая булавешка шчэ спатрэбіцца.

Наста спахапілася і зноў зрабіла тое шчыра, без падробкі:

— А вось я дык і сапраўдны ёлупень. Трэба ж было лусту хлеба з салам на дарогу табе адкроіць. Пачакай хвіліну, зараз прынясу. Кепска гэта, калі з пустымі рукамі ў дарогу гэткую.

— Не ў лес, а з лесу еду. Разумееш? З голаду не памру — да людзей еду,— павучальна пачаў ён і нечакана змяніў тон, параіў са шчырай заклапочанасцю: — А ты ім раскошу тут не рабі. Ашчадна харч расходуй. Каб на тыдзень хапіла...

— Тыдзень? Гаварыў жа — чатыры дні. А цяпер ужо і тыдзень?

Шаплыку зарадавала яе ўзрушэнне, і ён сказаў са смяшком:

— Гэта я мажлівасці вашыя ўзважваю. Камендант павінен рэзервы мець. Аб усім павінен думаць.

— Нам у закутку лёгка думаць. А ты пра адно думай: як хутчэй сюды вярнуцца. Дазнаўся аб усім — адразу назад. Не рызыкуй, не кідайся на злом галавы.

— Ды ўжо ж! Навука таўсматага помніцца. Вуха трубкаю скрозь трэба трымаць.— Шаплыка спыніўся — наперадзе ў лясным прагале акрэслівалася дарога, зацярушаная шыгаллем,— і параіў сцішаным ад хвалявання голасам: — І вы тутака таксама вушы без работкі не пакідайце. Хай сабе і глушэча наўкола. Але пільнасць яшчэ нідзе і нікому не пашкодзіла. Агонь без асаблівай патрэбы не палі. І дыму вялікага не рабіце.

Не новая гэтая Шаплыкава перасцярога расчуліла Насту, выклікала спагаду да цяжкасцей, якія чакалі Шаплыку наперадзе ў далёкай і небяспечнай дарозе.

— Не хочацца, каб ты ехаў,— прызналася яна шчыра.— Я ўчора, ведаеш, счакалася. Ажно розная лухта ў галаву пачала лезці. І ведаеш жа, што лухта, дрэнь... А яно — плішчыцца ў душу, гадзюкаю лезе...

— А я, між іншым, здагадваўся. І дужа добра, што сказала. Калі чалавек шчыры — на яго можна разлічваць, цалкам давяраць...

— Я табе давяраю.

— Ведаю гэта, адчуваю. І на Шаплыку ты можаш спадзявацца. Ён лепей загіне, але благога не зробіць. І на Канапельку можаш разлічваць. А вось Буркуну дужа не давярай. Нейкае, здаецца мне, нутро ў яго трухлявае.

— Баліць чалавеку. Паранены чалавек альбо хворы — ён бы дзіця тады. Я ж табе гэта казала...

Ён пацёр аброць у далонях, перакінуў на сагнутую ў локці руку, потым паправіў на галаве фуражку.

— Ты ўвогуле шмат чаго казала. А я табе на развітанне адно скажу: добрае ў цябе сэрца. Казаў ужо і зноў кажу. Але ж у мірны час дабрыня патрэбна. А на вайне дабрыня шкодзіць.

— Няпраўда. Дабрыня анідзе не шкодзіць,— перапыніла яна Шаплыку і дадала, пакратаўшы лейцы: — Ты пра гэта і думай дарогаю.

— Ды ўжо ж! Дарогаю думаць пра што знойдзецца. Ну, шчасліва і табе...

Шаплыка парукаўся, а потым раптоўна і моцна прыгарнуў Насту да сябе, пацалаваў у правую скронь, потым ласкава адштурхнуў ад сябе і ўскочыў у сядло.

— Ну, хай нам пашчасціць,— паўтарыў ён і тройчы пажамкаў пальцамі правай рукі, сціскаючы іх у кулак. Потым, спяшаючыся, дадаў: — І добра і кепска, што стрэлася ты на маёй дарозе. Вось пра што мае думкі і былі і будуць...

— Думай пра што хочаш. Толькі каб шчасліва вярнуўся...

Наста ўпёрлася рукамі ў бярэзіну — здалося, што калі не зачэпіцца за нешта, дык не ўстоіць на месцы, пабяжыць следам за Шаплыкам,— адчула пад далонямі цвёрды колкі гузак і спалохана азірнулася наўкола. Гэта ж тут яна развіталася з Грачом. Тады была ноч, ішлі ад балаціны нядоўга, потым спыніліся ля бярэзіны, і калі фурманка рушыла на лясную дарогу, Наста прытулілася да дрэва. Бярозавая кара гладкая, халодная, а вялікі цвёрды гузак, што трапіў пад далоні, сагрэў ласкавай цеплынёю. Тады, уночы, яна не разгледзела дрэва як след. Сук, выяўляецца, у гэтым месцы адламіўся, маладая гладзенькая кара закаціла месца злому, ззелянела, пабралася ў жоўтыя крапкі, падзеленыя звілістымі струпамі.

Шаплыкава постаць разы са два мільганула за дрэвамі і знікла. І тады ў Насцінай душы як нешта абарвалася, яна тупа паглядзела на зеленаваты зубасты нейкі гузак, марудна правяла па ім пальцамі і адчула, што плача. Як нейкі знак ёй, Насце, гэты зеленаваты каравы гузак на бярэзіне. Моўчкі цярпі, маўляў, галубачка, бо нічога іншага табе не застаецца. Колькі ж гэта мінула пасля расстання з Грачом? А колькі шчэ дзён чакаць? Жахлівая гэта рэч — невядомасць. І Шаплыка памчаў у невядомасць. Паспрабуй хоць збольшага прадбачыць тое, што чакае яго наперадзе? І Шаплыка, здаецца, не ўсё расказаў з таго, пра што дазнаўся ў Залессі. А тое, пра што расказаў, безумоўна ж, праўда: на фронце ў нас справы дрэнь. Не чуваць жа ані таго фронту даўно: анідзе ні выбуху, ані стрэлу, ані грукату. І Шаплыка па-сапраўднаму ўстрывожаны. «З лесу іх трэба выводзіць...» Цяпер ён, здаецца, на гэтым стаіць цвёрда. Таму ён

гэтак і спяшаецца, таму і есці не схацеў... Не, есці ён з другое прычыны адмовіўся: хоча, вядома, каб ім тут, у лесе, болей харчу засталося... Але што гэта? Ці не машына гудзе?.. Ды не, самалёты недзе блізенька занылі. І ўсё бліжэй, бліжэй, як сюды лятуць, на балаціну цэляць. А мо дазналіся, хто тут, на смалакурні, атабарыўся, і зараз бамбіць пачнуць? А можа, нашы? Ды не, не нашы гэта. Знаёмы і паганы гул!

Самалёты ляцелі нізка, адзін за адным, пагрозліва чорныя, з крыжамі на крылах. Наста бачыла толькі два самалёты, што ляцелі над ёю. Але іх было шмат, і ад рову матораў, здавалася, трымціць і паветра, і дрэвы, і зямля, і пакаты выгінаюцца густыя верасы.

Гул матораў пачаў аддаляцца, неўзабаве стала чуваць, як лапоча ад ветру бярозавая лістота і звонка спяваюць берасцянкі, адна недзе далёка, бы дражніцца, а другая блізка, аж залівaецца. Санлівым фальцэтам падаў голас турок. Зусім станчэў, зрабіўся падобны на чмяліны гул матораў і неўзабаве зусім растаў, і цяжка было вызначыць, з якога боку даносіцца зглухлае рэха. Адале зглухла і яно, і ўсе лясныя гукі цяпер глушыў звонкі і залівісты спеў берасцянак, што паселі на бярэзіне і спявалі галасіста, як выхваляліся перад усім жывым светам.



## 14

Раніца зноў была ясная, ціхая.

Наста прачнулася ад звонкай, гулкай трэлі берасцянкі. Зусім жа блізенька недзе сядзіць. Э, вунь яна, на арэхавай галінцы, што завісла над уваходам у дашчанік, уладкавалася. А цяпер пырхнула — Наста змяніла паставу, крышку павярнула галаву — на макаўку крываватай сасонкі, ля якой вісіць на калку вядро, абернутае донцам уверх, змоўкла, пакруцілася, разглядаючы вядро, потым скочыла на донца, памацала дзюбкаю

жалезны краёк і, пераканаўшыся, што седала надзейнае, кінула ў ранішнюю цішу звонкае стаката.

Ад ручая плыў белаваты, амаль празрысты туманок, узнімаўся да голля старых соснаў на тым беразе, гусцеў, хутаў іх у радкаватую сінечу, якая была не суцэльная, а нейкімі куртатымі палосамі; прасачыць, дзе пачыналася і дзе канчалася гэтае сінявае клочча, было немагчыма, бо яно ўвесь час трымцела, быццам па прыступках пераскоквала з галіны на галіну, і, дасягнуўшы вершаліны, ападала да камля, расцякалася і пачынала свой новы шлях уверх.

Спеў берасцянкі — ён таксама, здавалася, бруіцца па нябачных прыступках, то слабеючы да дзівоснай празрыстасці, то набываючы дрыгатлівую, але гнуткую сілу,— нечакана абарваўся. Куды яна мітнулася, Наста не паспела прыкмеціць. Але тут жа ўгледзела, чаго напалохалася птушка — са склепа, са свістам пазяхаючы, гробся Канапелька. Абапіраючыся на вінтоўку, прыгінаючыся, ён, быццам бусел, заскакаў на адной назе. Заўважыў, што Наста глядзіць на яго, прывітальна затрос галавой і зрабіў знак рукою — клікаў да сябе.

Яна падбегла, напусцілася з робленай строгасцю:

— А хто хадзіць дазволіў? Ляжаць жа быў загад. Гаворыш ім, гаворыш... Што аб сценку гарохам!

— Падалося, што Шаплыка вярнуўся,— прамовіў Канапелька, як і не пачуў яе абураных слоў.— Другі раз падалося ўжо сёння,— і нечакана ласкава і прыязна выгнуў губы.— Не пажэрлі шчэ цябе етыя камары?

— А я ў ватовачку залезла. І галаву ўкруціла.

— Разумна. А ў нас, у склепе, задушна. І доўга не давалі заснуць бліскавіцы. Пыхнуць барвы — як агонь з-пад зямлі. Ды па вачах хвастане.

— Я дык і не адразу сцяміла, што гэта бліскавіцы. Усё чакала, калі ж, думала, выбух грымне. А як здагадалася, дык адразу і заснула...

Ён запусціў правую руку пад гімнасцёрку, пачухаў грудзіну, потым пасунуў руку да шыі, расціраў гарляк, абціскаў пальцамі зарослы шчэццю буйны кадык.

— Спала ты моцна. Нават не чула, што я ля дашчаніка скокаў.

— Няўжо? Ані не чула.

— А мне падалося: конь іржэць. І потым крокі: тэп-тэп-тэп... Відаць, ваўкі недзе прабеглі. Альбо дзікі.

— Ваўкі? — Наста спалохалася.— Я цяпер і спаць у дашчаніку забаюся. Навошта было казаць?

Ён нахіліўся, пачаў расціраць левае калена, тлумачыў заклапочана, як увесь час да нечага прыслухоўваючыся:

— Ваўкі ўлетку чалавека не зачэпяць. Тым больш калі ты са зброяй. Ён, гад, пах зброі за вярсту чуе і прэч імчыць.

— А дзікі?

— Гэтыя шчэ больш чуйныя. Хэ! А ці не яны гэта ўночы і тупацелі? Пах бульбы, мабыць, пачулі. Яна дзе ляжыць?

— Ля сцяны. У мяху вунь.

— Трэба ў дашчанік зацягнуць, каб не зжэрлі. Гэтыя калі ў бульбу ўнадзіліся — пішы прапала. Поле, бы трактар, пераарудь. Давай дапамагу мех перацягнуць.

— Спраўлюся і сама. А вы, шаноўны, кладзіцеся на сваё месца. Ляжаць, ляжаць і ляжаць — гэта таксама лячэнне. І заснуць...

— Цяпер ужо не заснеш. І ляжаць цяжка — усе бакі адлежаў. Буду, мабыць, ліст заканчваць,— ён зыркнуў у Насціны вочы з выглядам разгубленым і адчужаным.— Няўпраўка ў мяне выйшла. Меў на ўвазе, што Шаплыка прыхопіць ліст і ў вёску завязе, у якой-небудзь хаце пакіне. Але ж ён папыліў, бы віхурай пагнаны. З таго ў мяне і няўпраўка выйшла.

— Тае бяды! Завязецца другім разам!

— І праўда, няма патрэбы бедаваць,— ён сумеўся, прыгладзіў валасы растапыранымі пальцамі, быццам грабянём правёў, і з твару адразу знік выраз разгубленасці і адчужанасці.— Не спяшаючыся напішу. Грунтоўна і талкова,— і нечага ціха, як сам сабе, усміхнуўся. Гэта яно і добра, сапраўды. Ліста мне хочацца шчырага напісаць. І жонцы... І каб сын прачытаў. Сыну нават болей... Каб ведаў, як жыць трэба,— ён памкнуўся ісці, абапіраючыся на вінтоўку; левай рукой трымаўся цяпер за ствол ля мушкі, а на правую намотаў рэмень.— У лес пачыкіляю. Ты, Настачка, крышку дапамажы. А тады, за дрэва трымаючыся, я ўжо і сам...

І тады да Насты дайшло. Зусім не клопат пра той, не напісаны шчэ, ліст выштурхнуў Канапельку са склепа. Ён — спалохаўся! Спалохаўся таго, што яны з Шаплыкам кінулі іх адных у лесе. Двойчы ж, казаў, па-

мроілася: Шаплыка, маўляў, вярнуўся. А прачнуўся — цішыня. З таго, ведама, і падхапіўся. Канапелька, мабыць, перажыў тое, што перажыла Наста ўчора ўночы, чакаючы Шаплыку. Таму Канапелька не кульбу схапіў, з якою ісці лягчэй, а вінтоўку!

— Пачакайце, я зараз кульбу прынясу,— прапанавала Наста.— З ёю зручней жа клыпаць.

— Ды не варта, неяк дачыкіляю. Лепей плячо падстаўляйце.

Ён, абапіраючыся на яе плячо, рухаўся паволі і з кожным імгненнем абапіраўся ўсё больш асцярожна, неяк дужа далікатна. Наста бачыла, што яму няёмка, і спытала, каб толькі не маўчаць:

— А што Буркун і Аўдошка? Спяць?

— Храпуць на ўсе застаўкі. Ажно мох на нарах шавеліцца. А ў Буркуна дык увогуле жалезныя нервы. Абы вочы закрыў — адразу носам сапець.

— Гэткія ўжо і жалезныя! Слова няўпярок не скажы. Адразу закіпіць, лаяцца пачне.

— З таго нервы і крэпкія. Ён намацюкаецца, усё напружанне з сябе выкіне, быццам пару выпусціць. І тады супакойваецца. А калі чалавек усё ў душы трымае, дык і нервы і мазгі гараць. Як папера на агні.

— Цэлая сістэма навуковая, выяўляецца!

— А хіба не гэтак у жыцці? У інстытуце пра тое хіба не казалі? Ну, усё. Досыць мне тэпаць. Ты вяртайся, я тут пасяджу. Назад жа дапаўзу неяк. Тут до-обра. У склепе, знаеш, ад нашых бінтоў дух паганы... Гэткае адчуванне, што паветра знікла. Дыхаць цяжка...

Яна бачыла, што Канапельку карціць застацца на адзіноце, і прамовіла паспешліва:

— Бінты памяняю сёння. Учора ж іх перамыла — за ноч, напэўна, высахлі.

— Перш-наперш агонь распалі. І кацялок з бульбачкаю — на агонь. Той бубніцель зараз прачнецца, дык адразу і зараве: е-есці!

Хутка, як гнаў хто, Наста пашыбавала ў дашчанік. Страсянула ватоўкі, склала іх адна на адну, ачысціла ад шыгалля карабін. Перад світаннем яна прачыналася двойчы, падграбала карабін бліжэй да сябе і зноў засынала. На свежым паветры дык і спіцца добра. Відаць, з таго і не пачула, як Канапелька ля дашчаніка скокаў. І не паклікаў жа, не абазваўся, у дашчанік не зазірнуў. А мо і добра, што яна нічога не пачула. Са

сну ды са страху, крокі пачуўшы, магла за карабін схапіцца ды, не разабраўшыся, стрэліць, бяды нарабіць. Так што болей у дашчаніку спаць не варта. Лепей — у склепе. Месца там дастаткова. Гэта ўвогуле неразумна, што яна — адчайная галава! — спіць у дашчаніку. Ды воўк адной лапай дзверы пiхне — яны і паваляцца. Не, болей уночы яна тут не застанецца! Разам з усімі, пад адным дахам лепей ёй будзе. Але да ночы шчэ трэба дажыць — цалюткі дзень наперадзе. Клопату ў яе шмат. І самы першы — сняданак згатаваць, людзей накарміць, як прачнуцца. Адале перавязкі парабіць, бінты памыць...

Дабегла да прыстанькі, дзе пазаўчора Шаплыка крыху заглыбіў дно ручая і замацаваў бераг метровымі бярозавымі круглякамі. Нейкі час стаяла, здзіўлена ўглядаючыся ў зыркае зіхаценне плыні. Дзе падзелася ўчарашняя чорная, бы дзёгаць, вада? Смарагдава зіхаціць яна, жаўцеюць углыбі карэньчыкі, звітыя мудрагелістымі карункамі, ад берага да берага, не пакідаючы за сабой аніякага следу, сноўдаюць дрыгуны на доўгіх танюткіх лапках. На паваротцы выбіліся на паверхню белыя пікі хвашчу, і на адной з іх, бы дзівосная кветка, прыляпілася танюткая стрэлка з сінімі крылцамі.

А як ішла ад ручая, гэтак жа, як на ваду, дзівілася на грудок сушняку ля сцяны склепа. Гаспадарлівы чалавек Шаплыка. Буйныя галіны пасек паасобна, склаў суччо на месцы цяпельца і шчэ сасновай іглiцы падсыпаў, каб адразу агнём узялася. І пад запалкі месца прыстасаваў самае сухое — у склепе, пад дахам. Дзіва проста: шчэ толькі раніца, а яна ўжо шмат разоў Шаплыку добрым словам згадала.

Наста ўвайшла ў склеп асцярожна, намацала запалкі. Але не ўтрымала іх — карабок выслізнуў з рукі, суха тукнуў па нарах. Яна падняла яго і на дыбачках пасунулася да выхаду.

Буркун, кашлянуўшы, спытаў:

— Чаго крадзешся? Я даўно ўжо не сплю. Ляжу, слухаю, сачу. Канапелька куды пагробся? У лесе, кажаш... Добра яму — хоць паўзці можа. Вядро наша далёка?

— Што?.. А-а... Зараз прынясу.

Падпаліўшы сухую іглiцу над грудком сушняку, Наста занесла вядро ў склеп, паставіла яго на нары ля Буркуна.

— Можа, ты сесці хочаш? — спытала яна, аніколькі не адчуваючы няёмкасці.— Я дапамагу...

— Седзячы ці лежачы — адна храновіна,— Буркун зноў кашлянуў, цяпер роблена, даючы выйсце раздражнёнасці, якая праглядвала ў абліччы. — Бо ёсць работка, якую нават за цара аніхто не можа зрабіць. Гэтак ужо гасподзь бог распарадзіўся. Чаго стала над душою? Ідзі!..

Горыч зноў падступіла да сэрца. Горыч была вядомая, яе можна было лёгка і патлумачыць і прыгасіць. Але Наста знарок песціла яе і, прыладжваючы ля агню кацялок з бульбаю і чыгунок з вадою, падбухторвала сябе да суму і тугі, быццам знарок вырашыла насаліць сабе. Не схацела спрачацца з Грачом? Пагадзілася застацца тут, у гэтай пушчы? Ну, не схацела, пагадзілася, хай і пад прымусам... Сто разоў, калі не больш, дапякала ўжо сябе тым. Дык навошта ж зноў пачынае яна вярэдзіць сабе сэрца? Няма іншага выйсця, пакуль не паправіцца Канапелька, пакуль не стануць на ногі Буркун і Аўдошка... Не, чаму няма? Ёсць! Але ж выйсце тое прыняць яна не можа... І пра гэта яна неаднойчы сабе казала. А вось як вернецца Шаплыка, дык выйсце гэтае, можа, якраз і адшукаецца. Усё залежыць ад таго, якія навіны прывязе Шаплыка. Дакладней, усё залежыць ад таго, што адбываецца на фронце... Але пра гэта лепей не думаць, не вярэдзіць сабе сэрца: калі пра тое не думаць, дык і час быццам хутчэй бяжыць. Калі сённяшні дзень не лічыць, дык два дні застаецца. Мінуць яны — Шаплыка прыскача. А можа ж здарыцца гэтак, што яго Грач апярэдзіць. І хіба ж гэта нерэальна? Зусім рэальна. Яны на фурманцы пакацілі. А назад жа Грач можа і верха імчаць. І ён, Грачок, імчыць менавіта гэтак! Ён абавязкова будзе сюды імчаць верха, на кані, бо ведае, што Наста яго чакае. І ўночы і ўдзень чакае. І неба моліць, каб бяды на яго дарозе не было. Бяда згарыць, бы сушняк гэты на агні. Добрага, між іншым, сушняку Шаплыка назапасіў — гарыць ёмка, дыму зусім няма, адно полымя шугае. Ужо нават пара над кацялком звіваецца — зараз закіпіць бульбачка.

Са склепа даляцеў металічны бразгат — малацілі нечым па вядры.

— Выцягні вядро, будзь ласкава,— папрасіў Буркун, як толькі Наста стала ў парозе.— Пагана, халера,

збудаваны чалавек: усё смярдзючае, усё паганства — усярэдзіне, у кішках сваіх насіць, як баіцца, што пакрадуць,— і дадаў мяккім і як бы вінаватым голасам: — Ты даруй, што даводзіцца наша дзярмо цягаць. Давядзецца... Дакладней, будзем у сіле, дык і мы табе паслужым, верай і праўдай, як даўней казалі... Шкада, ведаеш, вядра. Шаплыка слушна казаў: замест вядра трэба міску нам узяць.

— Не вядро нас, а мы вядро набывалі. Бедаваць тут не варта.

— У цябе добрае сэрца. Канапелька гэта адразу прыкмеціў. І праўду ты раіш: бедаваць тут не варта...

Наста зайшла ў маліннік, дзе ранкам нагледзела ямінку, плёхнула туды ўсё з вядра, прысыпала пяском. Старанна выпаласкаўшы вядро ў ручаі, яна не панесла яго да склепа, а проста абярнула ўверх дном на беразе. Потым намыліла рукі, сунула іх у ваду па самыя локці і, разглядаючы белыя хлапы, што расцягвала плынь, з нечаканай цеплынёю згадала Шаплыку. Ён жа, выяўляецца, каб ёй, Насце, дагадзіць, рызыкаваў, каня гнаў ажно ў Залессе. Добра, што ўсё абышлося і ён шчасліва вярнуўся. А магла ж гэтая рызыка і на бяду пайсці. Заўважылі б, скажам, немцы... Ці той таўсматы на падворку прадаўшчыцы засаду наладзіў... Дужа ж ён, Шаплыка, неабачлівы. Усё на злом галавы, як знарок, прэцца!

Не ўхваляла Шаплыкаву рызыку, асуджала. Але яго самога лаяла памяркоўна, без злосці. Шаруючы рукі мылам, яна нечакана падумала пра тое, што ў той час, калі Шаплыка быў побач, лясное жыццё не вымагала ад яе, Насты, вялікіх клопатаў і намаганняў. Адно толькі, бадай што, і ведала: дагледзець параненых, перавязку зрабіць. Усё ж іншае ён узваліў на свае плечы, і яна лічыла, што менавіта гэтак яно і павінна было ісці. Цяпер жа ўсё давядзецца рабіць адной. А ці хопіць у яе сілы? Ці справіцца яна? Шаплыка цяпер далёка, дык і клопату быццам пабольшала.

У чыгунку над вадой, бы дымок, пагойдваліся пасмы белай пары. А ў кацялку з бульбай бурліў кіпень, вада пырскала на вогнішча, і полымя, выкінуўшы белаватае воблачка попелу, на нейкі час губляла свой колер, вуголле сіпела, патрэсквала, і крыху спагадзя зноў драліся ўверх гнуткія барвовыя языкі. Наста пасунула кацялок бліжэй да вольхавай рагулькі, на якой

трымаўся абсмалены, з парэпанай і чорнай капой кіёк, сыпанула ў кіпень драбок солі. Здаецца, калі вараць неабіраную бульбу, дык солі не кладуць. Але ж ужо як сыпанула, дык назад не вернеш, і соль бульбачку не сапсуе. Маці неабіраную бульбу аніколі, здаецца, і не варыла, гэта бабуля яе дужа ўпадабала.

У глыбіні лесу гучна зашамацела голле, пачуліся натужнае кракТанне, а затым і задыханы Канапелькаў покліч:

— Сякеру-у, Настачка, паднясі! Жы-ывенька, калі ласка. Іначай не ўправіцца!..

Схапіла сякеру, панеслася да Канапелькі. Няйначай, бяда прыключылася, бо голасу болей не падае: паваліўся, можа, узняцца сілы не мае ці на гадзюку наляцеў. Падбегла і атарапела. Ды што ж гэта ён змысліў! На сасновым суку боўтаецца вінтоўка, а Канапелька сагнуў і сіліцца выдраць дзве маладыя бярозкі.

— Карані ў-унь тыя — ну, чаго ты вочкі свае прыгожыя паказеліла? — падсячы трэба. Цюкні сякераю!

— Навошта ж нам сырызна? — яна і абурылася і ўзрадавалася.— Сушняку ж скрозь поўна. І нарыхтавана суччa як не на тыдзень!

— З сушняку іх не зробіш — зломяцца. Ты толькі зірні на гэтыя карані! Нібыта пад паху мераныя! І выпадкова зусім стаў паміж бярозкамі. А тады ў галаву і цюкнула: мыліцы! Гатовыя мыліцы. Сячы ў-нь ту-ута!

Яна секанула спачатку па адным корані, потым па другім, і бярозкі заваліліся. Жоўтыя карані вылузнуліся з-пад моху, і Канапелька схапіўся за іх, падцягнуў да сябе, папрасіў задыхана:

— Дай сякеру сюды! Абцерабіць спачатку.

Прыхінуўшыся спіною да сасны, ён лоўка, адным ударам адсек макаўку першай бярозкі, абцерабіў вецце і працягнуў яе Насце:

— Патрымай, калі ласка. Зараз і другую распатроню. А габляваць потым, ля склепа, не спяшаючыся.

— У-ух ты! — доўгая бярозавая кульба была цяжкая, як з каменю, і Наста ледзь не выпусціла яе з рук.

— Таму, што неабкораная. Вось і цяжкая,— сказаў Канапелька.— А як кару далоў, ды пастружкаць, ды падсушыць — пушынка. І шчэ карэньчыкі падкараціць, каб толькі пад паху. Не мыліцы будуць. Золата. Можа, шчэ і даражэй!

Аддаўшы сякеру, ён сунуў нязграбныя мыліцы пад пахі і няўмела, але даволі ўвішна зрабіў колькі крокаў. Дачыкіляўшы да сасны, ён зняў з сасновага сука вінтоўку і закінуў за плечы.

— У страі салдат. У страі,— лагодна і задаволена абвясціў Канапелька.— У паход цяпер. Наперад!

Ён з цяжкасцю, абсякаючы ўсе спробы Насты дапамагчы, шкандыбаў па верасах, двойчы ледзьве не бразнуўся на дол. Толькі ля дашчаніка, прыхінуўшыся плячом да вуглавой дошкі, задыханым і стомленым голасам папрасіў:

— Вінтоўку ў мяне з пляча здымі. З ёю садзіцца нязручна. Трэцяй жа рукі няма ў чалавека. А прыдалася б тут...

Яна зняла з яго пляча вінтоўку, дапамагла сесці, і ён адразу лёг на спіну, зняможана заплюшчыў вочы і гэтак ляжаў, быццам адразу і ад усяго адключыўшыся. Лоб яго быў мокры. Буйныя кроплі поту блішчэлі і над верхняй губою.

— Як дзве нагі спраўныя, дык і не заўважаеш, якое багацце маеш,— прамовіў ён, не адплюшчваючы вочы.— А як парушыцца цела — адразу разумнейшы. Усё б на свеце, здаецца, аддаў, каб ножанькі па-ранейшаму затэпалі...

Жаласлівасць і спагада варухнуліся ў сэрцы, і Наста адвяла позірк ад змучанага, густа ўпацелага твару, сказала, сілячыся, каб голас гучаў бадзёра:

— Ды добра ж гоіцца ў цябе. Толькі вось работку такую на параненую нагу ўзвальваць і не трэба.

Вейкі яго здрыгануліся, і ён папрасіў кволым голасам, як бы раптоўна засынаючы:

— Ты мне сюды есці прынясі,— правай рукою Канапелька абціснуў бярозавыя жардзіны, якія нагадвалі нязграбныя матыкі, трымаў моцна, быццам увесь час падграбаў да сябе.— Чую, што бульбачкаю запахла. Варыцца ж...

— О-ой! Там жа кацялок гарыць!

Сасновае суччо згарэла, і буйное чырвонае вуголле ў цэнтры вогнішча ядрана свяцілася. Верхнія бульбіны ў кацялку былі сухія. Але знізу, са дна кацялка, гнала па сценках белыя струменьчыкі пары. Згатавалася бульбачка! Але ваду зліваць не трэба, толькі з вуголля адсунуць, хай паволі астывае. Бульбачка тады мякчэйшая робіцца, лупінне лягчэй здзіраецца. А ў чыгун-

ку вада булькаціць. Самы час туды жмуток святаяннiку і каліва арнікі пакласці — хай нацягвае.

Сасновым смаляком Наста адсунула ад яснага вуголля чыгунок, каб не выкіпала вада, і пайшла ў склеп. Буркун уважна сачыў за тым, як яна адразала ад бохана тры роўныя скібкі хлеба і клала поверх кожнай скрылік сала. Рэшту хлеба і сала яна схавала ў торбачку і павесіла яе ў кут непадалёк ад уваходу на сучок, што, нібыта ржавы цвік, вытыркаўся з бервяна ў столі.

— Шпітальная пайка, значыцца,— зазначыў Буркун, беручы хлебную скібку.— Малаватая, праўда, мушу табе сказаць.

— Яшчэ добра, што гэткую маем.

— А нам, салдатам, галава не баліць, дзе начальства харч бярэць. Паложана — аддай.

Карцела спрачацца з Буркуном, нешта даводзіць. Але сама думка пра тое выклікала непамыснасць. Добра табе разважаць, калі ты здаровая. А паспрабуй пластом паляжы на мулкіх нарах дзень, пакачайся ночку... Шчэ невядома, якую ты песню тады зацягнеш.

— А я гэтак і раблю,— сказала Наста.— Паложана на сняданак бульбачка? Зараз прынясу і аддам. Па норме.

Яна выйшла са склепа і адразу ўбачыла Канапельку. Той, угнуўшы галаву, дыбаў на мыліцах да вогнішча. Даклыпаў, узняў і павесіў на шыю рэмень з Шаплыкавым цесаком, які Наста пакінула ля кацялка, і рушыў назад. От жа настырны які!

— А што ж гэта робіцца? — са шчырым здзіўленнем войкнула Наста.— Хто мой цясак забраў сабе?

— Мыліцы трэба пастружкаць. Тады на месца пакладу.

— Паклікаць цяжка было? Я і прынесла б.

— Цяпер ужо і сам не зломак. Хадакі бярозавыя як адгаблюю, дык аніхто са мною не згоніцца.

— Зараз дапамагу. Пачакаць хвілінку можна ж!

Дужка кацялка ўжо астыла, Наста ўзяла яе галаруч і заспяшалася памагчы Канапельку сесці. Але ён, зачапіўшы мыліцай, бы кручком, за вугал дашчаніка, сеў самастойна і зарадаваўся, быццам дзіця.

— Цяпер Канапелька кум каралю і сват міністру. Можна з такое нагоды і стограмоўку. Дзе, Настачка, той пузаценькі графінчык?

— Усё чалавеча ўгледзіць, усё ён уведае. Лічыце, што графінчыка не было, няма і не будзе.

—Лічыць можна. Але ж душы з таго не лягчэй. Шаплыка, мабыць, прыхаваў?

— Я прыхавала. Бярыце бульбу.

— Аднясі ім спачатку. Каб не сіпеў Буркун, што яго абдзялілі.

Знаёмая ўсмешка, якая прамільгнула на твары Канапелькі, была нейкая зацятая, падкрэслена зняважлівая. Ладу, мабыць, паміж ім і Буркуном няма і не будзе. Розныя, ведама ж, людзі. Розныя? А што яна, Наста, аб іх ведае? Аніхто аб сабе нічога не расказваў і не расказвае. Як бы пабойваюцца людзі, тояцца. Праўда, Грач і Шаплыка аб сабе расказвалі. Але ж ці многа ты ведаеш пра Грача? А пра Шаплыку і таго меней: гэты толькі жартаваць мастак. Але аб сабе не дужаткі ахвотна расказваў...

Паставіўшы кацялок на краі нараў ля Буркуна, Наста чакала. Хай бярэ, якія хоча і колькі хоча. Але той не зварухнуўся, сказаў дужа хмурна:

— Ты кашавар. Ты і дзяльбу вядзі.

Яна адсыпала чатыры бульбіны Буркуну, гэтулькі ж — Аўдошку, узяла сваю лусту хлеба са скрылікам сала. Калі выходзіла са склепа, Буркун хмыкнуў:

— З намі яна есці не хоча. З графінчыка, мабыць, наліваюць сабе па кропельцы.

Ад нечаканасці Наста разгубілася, схавала крыўду за робленым жартам:

— Графінчык выпарыўся.

— Той, на які штабіст намякаў, не выпарыўся. Буркун хоць і ляжыць калодаю, толькі вушы ў яго грамафончыкам ходзяць. Ад мяне нічога не схаваеш. Дзе той графінчык, што з бровара прывезлі?

— Ах, ты пра гэты гаворыш! У тым графінчыку святаяннік настойваецца. Гэта — лекі. Сам жа хочаш, каб раны хутчэй гаіліся.

— Ну, глядзі мне,— ён пагразіў ёй пальцам.— Штабіста аднаго ўпотай не частуй, ведаеш. Калі ўжо частаваць ці лекі прымаць — пароўну кожнаму каб ішло.

Не зразумела спачатку, ці жартаваў ён, ці казаў усур'ёз, і, смеючыся, паабяцала:

— Вядома, пароўну. Вадзіцы гарачанькай з чыгунка налію.

На душы, аднак, было пагана. Канапелька гэта заўважыў, спытаў са спачуваннем, калі Наста падышла і села ля дашчаніка:

— Што, за горла ўжо бярэць Буркун? Убіў жа, боўдзіла, сабе ў галаву, што мы тут з табою балюем.

Яна паставіла кацялок з бульбаю на чорны аполак, які быў замест ганка ля ўваходу, адмахнулася:

— А я ўвагі на тое не звяртаю.

— Ты ведай: у крыўду цябе не дам!

Яго абяцанне не выклікала ў яе ні ўдзячнасці, ні радасці. Фанабэрыста перасунула чорны кабур парабелума крыху наперад, як бы дэманструючы сваю незалежнасць і гатоўнасць пастаяць за сябе:

— Хто мяне пакрыўдзіць, ведай, шчэ не нарадзіўся.

— Не цяжка табе яго цягаць? — зноў са спачуваннем папытаў Канапелька.

— Проста дзіва! Прызвычаілася, дык цяжар на рэмені зусім і не прыкмячаеш.

— Але ж, здаецца, і не стрэліла з яго. Ці ж ведаеш хоць, як тое робіцца?

Яна паглядзела на яго з бравым выглядам.

— Тае работкі — на курок націснуць.

— Курка, па-першае, няма. Ёсць спуск. А па-другое, не лішне і вывучыць, што да чаго. Паказаць?

— Потым,— паабяцала Наста.— Паямо спачатку, пакуль бульбачка гарачая...

Ёй здавалася, што гаворка пра парабелум на тым і скончыцца. Але адразу ж, як толькі яны з добрым апетытам змалацілі хлеб з салам і бульбу, Канапелька працягнуў руку і дабрадушна прапанаваў:

— А цяперка навукаю зоймемся,— і, сустрэўшы яе недаўменны позірк, дадаў катэгарычна: — Гарматку сваю цягні з кабура.

— Навука дык навука,— пагадзілася Наста.

Ўзяўшы парабелум, ён паважыў яго на далоні, моцна сціснуў рукаятку: на Канапелькавым твары былі і одум і захапленне.

— Майстры рабілі, нічога не скажаш. Як прыклеіўся да пальцаў. Ствол лё-ёганькі. А ўвесь цяжар тут, у рукаятцы — быццам села яна ў далонь,— Канапелька правёў пальцам па цыбліку, націснуў на краёк канта; шчоўкнула і вылецела на далонь абоймачка, з якой, бы галава гадзюкі, тырчаў жоўты носік кулі. Смаргануўшы за цёмныя бубачкі, ён адцягнуў і апус-

ціў затвор і, узняўшы руку, прыцэліўся ў нейкую кропку ў арэшніку за вільчыкам дашчаніка; суха пляснула спружына байка.— Бачыш, як робіцца? Дакладна пацэліў. Бяры паспрабуй. Тут галоўнае, каб рука прызвычаілася. Ды смялей, смялей... Адцягні затвор. Потым цэлішся і ціснеш на спуск. Альбо на засцерагальнік паставіш. Вось тут націскаеш. Бачыш? Навука гэтая не зашкодзіць, можаш мне паверыць...

Ён прымусіў яе тройчы ўзводзіць затвор, прыцэльвацца і націскаць на спуск. І штораз, у чаканні стрэлу, якога, ведала, не павінна адбыцца, бо абойму Канапелька выцягнуў, у яе сціскалася сэрца, пальцы ўгравaліся, быццам ручка парабелума была гарачая. Двойчы Наста злавіла на мушку сасновую шышку, потым невялікае дупельца на старой асіне за ручаём, і, калі ўжо наважылася націснуць на ўгрэты пальцам спуск, чорная плямка на асінавай кары зварухнулася і папаўзла ўніз.

Мігнулася нядаўняе: жоўтая паваротка дарогі непадалёк ад чыгуначнага пераезда, вёрткі матацыкл, які вылузнуўся з празрыстай сінечы, завіслай над узбочынамі, жоўтая пылавая віхура, у якой пёрлі яшчэ два матацыклы, тоўстыя, нязграбныя... Мігнулася тое, і зноў накаціла на вочы знаёмая смуга, сполашна застукала сэрца, і з горла, якое раптоўна перасохла, выдралася з клёкатам задушнае войканне:

— О-о-ёй!.. Там!.. Нешта там з дупельца пырхнула!

— Дзе? — адразу наструніўся Канапелька.

— Ву-унь, на асіне старой дупельца. Прыцэлілася... О-ой, гэта ж птушачка пырхнула. Угледзела, мабыць, што зараз стрэляць па ёй. І наўцёкі кінулася.

— Попаўзень гэта. З акенца склепа дупельца гэтае добра відно. Попаўзень там жыве. Я за ім уранні сачыў.

— Неяк ажно не па сабе. Стрэліць хацела, а птушачка здагадалася. Убачыла і здагадалася.

Канапелька сказаў разважліва:

— Мажліва, і ўбачыла. Паміраць нікому не хочацца,— і працягнуў Насце абоймачку.— На, пастаў. Мацней цісні, мацней! Тады яна шчоўкнуць павінна. Во-ось гэтак! Цяпер ужо не націскай без патрэбы. І на дупельца не прыцэльвайся.

Яна зашпільвала каляна-пругкі кабур і, услухоўваючыся ў буханне свайго сэрца, прызналася:

— Як не бярэш гэтую клятую зброю ў рукі, дык і спакойная душа. А дакранешся — сэрца і зрушыцца з месца. Усё той бой у галаве. Уваччу плыве...

— Плюнь і абцасам пашаруй. Мы на сваёй зямлі ад смерці ратуемся — таму і страляем.

— Я разумею.

Канапелька схмурнеў, голас яго адразу зрабіўся жорсткі:

— Ты яшчэ не ўсё разумееш. І не разумееш таму, што на Нёмане, ля Мастоў, не была. Не бачыла, як іхнія танкі з нашых салдацікаў крывавыя катлеты рабілі.

— Паробяць і з іхніх, будзе час. Адплаты не мінуць... Чужы дом бурыш — свой лёс бурыш. Гэтак людзі кажуць.

— Вось дажыву да таго дня, калі на дым гітлераўскі дом пойдзе... Яй-бо, пайду ў царкву і свечку пастаўлю...

Канапелька моўчкі, з ярасцю счэсваў кару з белых жардзінак. Бяроста то адвальвалася кароткімі няроўнымі блінцамі, то злазіла доўгімі стужкамі, і яны тут жа, быццам жывыя, звіваліся колцамі і пагойдваліся на верасах, бы зялёныя, з жаўтлява-белай аблямоўкаю кветкі. Насце падалося, што яна нечым замінае Канапельку, што яму карціць застацца на адзіноце.

— І ад мяне тады паставіш свечачку. Нават лепей — дзве радочкам паставіш.

— Пастаўлю,— цвёрда, без ценю жартаўлівасці паабяцаў Канапелька.

— А пакуль тое будзе, дык я пайду і кацялочак памыю,— сказала Наста і паднялася. Але не ішла, як бы чакала нейкай ухвалы ці згоды.

Канапелька схіліў галаву, раптоўна зрабіўся абыякавы да ўсяго навакольнага, падціснуў губу і зацята стружкаў цесаком бярозавую мыліцу, усім сваім выглядам падкрэсліваючы, што, маўляў, дужа заняты работаю, сваім клопатам. І гэтая яго няўвага, здольнасць імгнення ад усяго адасобіцца спарадзіла ў Насты сумныя думкі. Трошкі паздаравеў чалавек — і адразу ўжо гэткая няўвага да яе, Насты. А што ж будзе, калі зусім паправіцца, добра пачне хадзіць? На развітанне, можа, і слоўца добрага не скажа. А ты, галубачка, шчыруеш, душу сваю на іх кладзеш.

Вышаравала кацялок, рукі памыла, зірнула на Ка-

напельку, які па-ранейшаму абчэсваў бярозавую мыліцу, і крыўда растала. Чаго ёй бедаваць? Здаровая, поўная сілы. Сытая. Дзень пагодны! Сонца вунь ужо над вершалінамі дрэў — зноў спякота будзе, без дажджу. Здаецца, вады ў ручаі паменела. Але ўсё гэтакая ж гонкая, як і раней. Бяжыць і бяжыць вадзіца. А што, калі пайсці за ёю, гэтай вадзіцаю? Ісці і ісці берагам ручая... Ручай недзе ж у рэчку ўвальецца. А ля рэчкі вёску заўсёды стрэнеш. А ў вёсцы — людзі...

Ёй нясцерпна захацелася туды, у вёску, да людзей, да звычайнага побыту, нічым не парушанага. Яна глушыла ў сабе гэтае пачуццё, разумела, што не павінна даваць волю сваёй слабасці, што павінна дбаць пра трох параненых салдат, якія толькі на яе і спадзяюцца. І яна павінна не сядзець склаўшы рукі. Трэба вывучаць, зрэшты, лес наўкола. Карысці мала сядзець на адным месцы ды сабе душу вярэдзіць. Пад ляжачы камень, як кажуць, вада не цячэ. Трэба, адным словам, ісці, патэпаць усцяж ручая. Пашчасціць, дык на суніцы натрапіць — звычайна на высечках іх больш, а не ў такім глухім лесе. Тыя дзялянproblems, што паказаў Шаплыка, пусценькія ўжо, трэба новыя мясціны шукаць.

Канапелька яе намер ухваліў. Параіў, аднак, строга:

— Далёка ад ручая не адыходзь. За яго, бы за нітку, трымайся, каб не згубіцца,— ён узняў цясак, быццам некаму грозячы.— Адны мы тут загінем...

Прызнанне было шчырае, ішло яно ад душы, і пачуць яго Насце было прыемна. Яе клопаты, выяўляецца, не марна гінуць: людзі ёй удзячныя. І сапраўды, яна патрэбна ім, і без яе дапамогі тут не абысціся, без яе працы саслабелым людзям з бяды не выкараскацца!

І, быццам у пацвярджэнне яе думак, якія вярэдзілі і радавалі душу неаднойчы, зноў прагучала строгая Канапелькава парада:

— Гадзіннічак абавязкова з сабою прыхапі, каб ведаць, калі назад павярнуць.

— Пад абед вярнуся,— паабяцала яна.

— А ты ядрыцы ў чыгунок сыпані і на вогнішча пастаў — каша і зварыцца. Я чыгунок тут папільную. Змаргелю абед.

— Вярнуся і сама ўсё зраблю. І маргеліць тут асабліва няма чаго. Не каша будзе сёння, а сыпану макароны ў чыгунок ды шкварку зверху,— і, зашпільваю-

чы раменьчык гадзінніка на запясці, дадала: — Гадзіны праз дзве я вярнуся.

— А карабін не бярэш?

— А навошта? Ён толькі замінаць будзе, калі на суніцы натраплю. Дый далёка я і не пайду. А гэта — пры мне,— яна паправіла чорны кабур на рэмені.

— Калі каго стрэнеш — на вочы не лезь,— параіў Канапелька ўсё з той жа строгасцю ў голасе.— Лепей — схавайся. А калі ліха якое — страляй без усялякага папярэджання. Страляй першай. Хто першы стрэліць — у таго звычайна верх.

— Ды якое тут ліха? Лес тут добры.

— Ліха да лесу не чэпіцца. Ліха больш чалавека пільнуецца. Я гэта ведаю. Яму, ліху, абы ўчапіцца...

Да Канапелькавых папярэджанняў паставілася з увагаю: не лішне, ведама, быць асцярожлівай. Але прайшла крыху ўсцяж ручая, і ад тых слоў перасцярогі анічога не засталося. Прыветна пашумлівалі над галавой сосны, якія былі ад макавак да камлёў высветленыя сонцам. У верасах, у папараці, у чарнічніку, які спачатку трапляўся плямамі, а потым запаланіў усё наўкола і быў густа абсыпаны буйнымі, зусім няспелымі ягадамі, усё таксама зіхацела ласкавым і прыветным святлом — нават боязна было ставіць нагу на зялёную ягадную гушчэчу. Дзе-нідзе на купінках вышэйшых сярод зялёных лісцін траплялiся ягады са слабым фіялетавым адлівам. Наста сабрала іх у прыгаршчы, зжавала. Але болей нават і не шукала — у роце пасля няспелых чарніц засталася даўкая кісліна, гаркавая нават.

Потым чарнічнік пагусцеў, ішоў вузкай палосаю ўсцяж ручая, па левы бок. Справа на пакатых выспах зажаўцеў сасновы бор са слядамі старой падсочкі. Сосны раслі тут рэдзенька, наўкола было шмат святла і прасторы. Дзе-нідзе траплялiся пад ногі пагбаныя конусы з бляхі, белыя ад засохлай жывіцы. Наперадзе пасвятлела, як перад полем усё роўна, і Наста сцішыла крок, усё часцей азіраючыся па баках, і на тое, што ручай вільнуў управа, не звярнула ўвагі. Зараз яна выйдзе на тое месца, што гэтак свеціцца наперадзе, а тады вернецца да ручая.

За старымі соснамі са слядамі старой падсочкі адкрыліся погарбы — маладыя сасновыя пасадкі, перабітыя там-сям кудлатымі бярозкамі; паміж погарбамі

жаўцела старая, з глыбокімі каляінамі дарога, паабапал яе шырокімі плешынамі буяў святаяннік. Усцяж дарогі, з правага боку чарнелі плешкі сасновых пнёў, якія нібыта беглі-ўцякалі ў густы хваёвы лес, над якім, быццам уздзетыя на вострыя макаўкі ялін, ляжалі пульхныя белыя аблачыны. Па левы бок дарогі паміж гонкіх соснаў з белаватымі рабрынамі нізкай, ля самых камлёў, падсочкі, белымі круглымі зрэзамі свіціліся штабялі метровак. Дровы нарыхтоўвалі зусім нядаўна, тарцы паленцаў былі белаватыя, з бліщчастымі кроплямі жывіцы; адтуль, з-за штабялёў, тхнула цёплым водарам разагрэтых сонцам верасоў і ягад.

Наста выйшла з ценю на асветленую сонцам палянку і аж змружыла вочы. Прызвычаілася за гэтыя дні да колераў спакойных, прыцененых, да блізкасці дрэў, што ўвесь час побач, да лясной утульнасці ля балаціны. А тут — прастора гэткая! Сонца яркае, сляпучае. Сінеча неба густая, быццам добра падсінёная вада. А водар які сунічны! Ды вось яны, сунічкі. Безліч жа іх на палянцы!

Сосны тут спілавалі, мабыць, гадоў з пяць таму, па адкрытых схілах у нізіну ля дарогі сагнала ігліцу, кару, пілавінне, і ўсё гэта папрэла, перагніло, ператварылася ў мяккую, прыдатную для суніц глебу. На выгодзе, пад сонцам, прыкрыты ад ветру тоўстымі-таўшчэзнымі пнямі, забуяў сунічнік раскошна і густа. Быў ён рослы, быццам у добрай гаспадыні на садовых лехах, з моцным сакавітым лісцем на буйных крэпкіх сцяблінах. І ягады таксама былі незвычайныя, адметныя, яны не чырванелі россыпам, як чырванеюць на сунічніку, што падпечаны сонцам на збяднелай пясчанай глебе, а самавіта і ўнушальна завісалі між лісцін буйнымі гронкамі, і кожная ягадзінка, буйная, даўгаваценькая, свяцілася густым рубінавым колерам: дзве-тры гронкі — і паўнюткая жменя.

Збіраць ягады не было ў што — нават і не заўважыла, як накідала кацялок з каптуром,— і Наста памалу ела іх, адчуваючы ў роце дзівосную свежасць і водар. Кружыла галаву ад паху ягад, угрэтых сонцам, густога водару жывіцы, якая плавілася на сасновых камлях. Вецер, што рваў моцнымі парывамі, саслабеў і аціх, і тады адразу ад ліпучай задухі зрабілася цяжка дыхаць.

Наста паставіла кацялок на ўчарнелы, у буйных расколінах сасновы пень, пачала была сцягваць кофтачку і сумелася. Падалося ці сапраўды прагучаў недзе не вельмі далёка расплывісты і прыглушаны чалавечы погалас? Як паклікаў хтосьці яе, паклікаў няпэўна, палахліва...

Наста спалохана прысела, азіралася, аглушаная буханнем свайго сэрца. Нікога ж, здаецца, не відаць паблізу. Але трэба ўсё роўна ўцякаць з гэтай адкрытай паляны!

Думка пра тое, што збіралася ж нарваць святаянніку, адразу выскачыла з галавы. Аберуч схапіла кацялок з ягадамі, мітнулася ў глыб лесу. Уцякаць трэба! Падалей ад гэтай адкрытай палянкі у выратавальную засень соснаў!

Пад соснамі, аднак, не спынілася, пашнуравала да ручая. Ішла таропка, часта азіраючыся і прыслухоўваючыся. У пошуме вершалін над галавой мроілася ёй рэха пачутага на высечцы чалавечага погаласу. Але адразу ж, як толькі ўбачыла вільчык дашчаніка, супакоілася, нават пасмяялася са свайго страху. Ды пamроілася ёй усё тое. Ад парываў ветру загулі вершаліны старых соснаў, а ёй і падалося немаведама што. Баязліўка! Неслася, быццам ад пагоні ўцякала. Во ўжо будзе пацвельвацца Канапелька, калі даведаецца. Дзіва! Ён на тым жа месцы і сядзіць, дзе яна яго пакінула. Знерухомеў, быццам заснуў, вочы заплюшчыў. Не, вочы цяпер адкрытыя. За ёю Канапелька назірае: убачыў і цікуе ўпотай.

Яна падышла, села, стомлена прамовіла:

— Во-ох, нахадзілася. Ножанькі гуду-уць. Задуха ў лесе. А тут дык раскоша, ветрык павявае, адна бяда, што ягады не растуць. А я вось на якія натрапіла. Бачыш? Бяры і еш...

Ён мелькам зірнуў на буйныя ягады ў кацялку, узяў адну, што прыляпілася да дужкі кацялка, пакруціў яе ў пальцах, кінуў у рот і гучна цмокнуў языком:

— Самая лепшая ягада, калі лясная. Ляснoе ў лесе хоча жыць — закон прыроды. Ля хаты суніцы слаба растуць. Я са сваім Ігарком іх спрабаваў гадаваць. Але ж рэдзенька яны ішлі, а потым і звяліся. І смак у іх, перасаджаных, не той. Духу лясного нямашака.

— А ў гэтых духу поўна, аж занадта. Чаго ты на

іх паглядаеш? Іх есці трэба. Бяры і еш. Увечары яшчэ злётаю і набяру.

Ён узяў яшчэ колькі ягадзін, кінуў у рот, потым выцягнуў з кішэні гімнасцёркі складзены трохкутнічкам аркушок паперы, працягнуў Насце.

— Ліст свайму Ігарку напісаў. Калі ў вёсцы будзеш — пакінь у людзей. Як дамовіліся, адным словам. Пачытай.

— А навошта? Чужы ліст.

— Дык мы ж тут як свае парабіліся — адну бяду сёрбаем. Ты як пайшла, дык мяне такая нудота прыціснула, што хоць воўкам завый. Вось і ўзяўся крэмзаць. Нават мыліцы не паспеў пастружкаць...

Мыліцы і сапраўды ляжалі на тым жа месцы, нечапаныя. Канапелькавы вочы глядзелі на яе ўмольна, патрабавальна, і яна, падпарадкоўваючыся гэтаму пранізліваму позірку, узяла аркушок паперы і нечакана адчула, што ў яе дрыжаць пальцы і неяк дзіўна сохне горла ад хвалявання і незразумелай трывогі, нейкім каляным абручом абціскае сэрца.



## 15

Ігарок! Дарагі мой сынок! Вайна цяпер ідзе, ты ж гэта бачыш, вайна крывавая, і фашыст па нашай зямлі ідзе, нішчыць усё, забівае, спальвае гарады і вёскі, і ніхто не ведае, які лёс можа напаткаць нас. У лёс я не веру. Веру я ў добрых людзей, чулым і спагадлівым сэрцам веру — яны перададуць табе гэты ліст, словы мае не загінуць, і ты іх прачытаеш.

Думаецца, вярнуся дамоў, у наш прыгожы і мілы Ленінград, не вельмі хутка. Вайна, відаць, зацягнецца, не на дзень і не на два яна, і сёлета я канца ёй не бачу. Але ж рана ці позна яна скончыцца, усімі клятая, і скончыцца так, як сказаў наш правадыр таварыш Сталін: наша дзела святое, вораг будзе разбіты, перамога будзе за намі!

Гэта, Ігарок, святая праўда. І ты ў гэта вер непа-

хісна і цвёрда, вер гэтак жа, як верыць твой бацька. А тое, што фашыст пабраў у нас шмат гарадоў і вёсак, яшчэ нічога не значыць: мы, думаецца, заманьваем іх углыб, як некалі Кутузаў рабіў, каб потым з усіх бакоў гвазданущь пад самы дых. Памятаеш, я чытаў табе кніжку пра рускага князя, які здужаў, пабіў сваіх ворагаў і сказаў: хто з мячом да нас прыходзіць, той ад мяча і загіне. А фашысты ж уварваліся вераломна на нашу зямлю, прыйшлі з мячом, таму ад рускага мяча і загінуць. Ты нават не ўяўляеш, якія нечалавечыя здзекі чакалі б цябе і нашу маму, каб Гітлер перамог. Але ён не пераможа! І таму не пераможа, што і ў мяне і ў кожнага нашага салдата няма страху, ёсць толькі адно жаданне біць ворага, знішчаць фашыстаў, як шалёных сабак, якія хочуць праглынуць нас і нашу зямлю. Але Расіяй яны падавяцца, іхнія косці сатлеюць у нашай зямлі: гэткі канец чакаў усіх заваёўнікаў, якія спрабавалі скарыць рускую зямлю. Табе зараз пяты год, і ты не ўсё разумееш, і мама табе патлумачыць тое, што ты яшчэ не разумееш, патлумачыць, што самае жахлівае гора на зямлі — гэта вайна, гэта калі чалавек забівае чалавека. Але ж хіба чалавек той, хто хоць і мае аблічча чалавечае, ліе кроў людскую і выпальвае агнём тое, што створана працаю людзей? Не, гэта не чалавек. Гэта — шалёны звер. І паратунак ад яго адзіны — забіць такога гада, каб ён не нарабіў шчэ большай бяды.

Быў я, сынок, паранены ў баі, зараз ляжу ў шпіталі. Хутка раны мае залечацца, бо даглядае нас добры ўрач, чулы і сардэчны, і сілы ў мяне прыбаўляецца з кожным днём. Папраўлюся — адразу ў бой. Цяпер, калі я пабачыў, колькі бяды, колькі агню прынеслі на нашу зямлю фашысты, колькі крыві жанчын і дзяцей яны пралілі, мяне ўжо нічога не страшыць. І калі твой бацька не вернецца дамоў, ты павінен ведаць: ён загінуў у баі за Радзіму. Наш камісар у баі пад Мастамі — ёсць гэткі гарадок на Нёмане ў Беларусі — быў паранены. Але з бою ён не пайшоў, сказаў, што хоча паміраць тварам да ворага, тварам на Берлін. Калі давядзецца, дык твой бацька гэтак і загіне.

Ігарок! Мой сынок дарагі! Хачу аднаго: каб ты рос з дня ў дзень, дужэў і набіраўся сілы, каб ніколі табе не давялося браць у рукі баявую зброю і з яе страляць.

Веру: не давядзецца. Гэтая вайна будзе апошняй, фашызм мы знішчым, на зямлі нашай зноў запануе мір, сонца і добрая радасць, і мы будзем з табою вудзіць ляшчоў на Няве. Гэткіх жа вялікіх, якіх мы лавілі летась у канцы мая.

Дужэй, сынок, набірайся моцы. Калі падрасцеш, ідзі на той жа завод, на якім працаваў я. Родны Кіраўскі завод даў мне ўсё, чым я ганаруся. Папросіш, каб цябе паставілі на той жа станок, на якім працаваў я: ён у цэху стаіць першы справа. Дужа ж хочацца мне, каб мы разам з табою, калі ты вырасцеш, прыйшлі на завод.

Расці, сынок, смелым. Аніколі і нідзе не схіляй галавы, калі верыш, што на тваім баку праўда.

І яшчэ цябе вельмі ж буду прасіць, каб слухаўся мамы. Не чыні ёй бяды сваім непаслухмянствам, ведай, што ты адзіны мужчына ў хаце і павінен маці ва ўсім дапамагаць, каб яна магла на цябе абаперціся і адпачыць, калі ёй давядзецца цяжка. А цяжкасцей хопіць, бо вайна ж цяпер, і вы толькі ўдваіх, без мяне, і вам давядзецца нялёгка.

Моцна абдымаю цябе, цалую. І маму пацалуй за мяне, скажы ёй, што напішу ёй таксама. А ты кладзіся спаць і ўставай ранічкою толькі з адною думкаю: перамога будзе на нашым баку. Будзе на нашай вуліцы свята!

Твой бацька. Франтавы шпіталь. Ліпень 1941 г.



## 16

Узіраючыся ў сінявае перадвечаровае сутонне, што памалу гусцела над балацінаю, Наста зноў думала пра Канапелькаў ліст да сына. Дзеля чаго ён напісаў яго, гэты ліст? Чаму вырашыў паказаць ёй, дый не толькі паказаць, а прымусіў і пачытаць? Няўжо спадзяецца, што ў гэтай калатнечы, што ідзе наўкола, маленечкі кавалачак паперы не загіне, не прападзе, ацалее і дой-

дзе ў далёкі горад на Няве, знойдзе людзей, якім адрасаваны?

Думкі пра тое не давалі Насце спакою і ў той час, калі яна карміла параненых, і калі рабіла перавязкі, і калі скручвала ў тугія куклы памытыя бінты, якія амаль імгненна павысыхалі на цёплым, як угрэтым ветры. Але адказаў на тыя пытанні не было. Не было, мабыць, з тае прычыны, што Наста была ўсхваляваная Канапелькавай споведдзю, узрадаваная даверам і шчырасцю і не прымушала сябе дашуквацца прычыны, што прымусіла Канапельку той ліст напісаць.

Цяпер жа, калі дзень канаў, калі ў яе душы ўсё пакрысе ўлагодзілася, калі ў яе знайшоўся час спакойна пасядзець на цёплых верасах ля стромай сасны на паваротцы лясной сцяжыны, што зрабілася ўжо ўлюбёным месцам адзіноты і развагі, яна нечакана падумала пра тое, што дагэтуль зусім не брала пад увагу: Канапелька не верыць у тое, што вернецца жывы і здаровы дамоў, у свой Ленінград. Не верыць і не спадзяецца ацалець у гэтай крывавай віхуры, якая абрынулася на нашу зямлю. Відаць, ён усё рэальна ўзважыў, цвяроза прааналізаваў становішча, у якім апынуўся, і вырашыў напісаць ліст сыну, напісаць, пакуль ёсць сілы, пакуль ёсць надзея, што ліст можа трапіць да людзей. Канапелька не проста ліст напісаў, ён склаў запавет сыну, з якім ужо не разлічвае сустрэцца. Нейкі дзіўны адчай у гэтым лісце, незразумелая зацятасць і вера.

Насце нечакана зноў мігнулася маці. Але цяпер мігнулася не так, як мноства разоў дагэтуль. Маці стаяла як бы недзе воддаль, стаяла маўкліва, нічога не робячы, не даючы аніякага знаку ёй, Насце. Але ў матчыных вачах быў дакор, быў папрок. А вось ты, маўляў, дачушка, маці ліста не паслала. Дзе апынулася, што парабляеш, жывая ты ці здаровая — пра тое і слоўца не паведамляеш. Баліць, баліць матчына сэрца. А ты, дачушка, папусцілася гэтак, як не родная мне ты крывінка...

Сапраўды, чаму яна, Наста, не дадумалася да таго, што зрабіў Канапелька? Магла ж і яна напісаць ліст, пакінуць у вёсцы, людзей папрасіць... На нейкі нядобры выпадак застаўся б след, людзі потым ліст і адправілі б і слова доччына да маці дайшло б... Быў жа час і мажлівасць была тое зрабіць. А вось жа нават

думкі такой не ўзнікала. Не ўзнікала, мабыць, таму што яна, Наста, жыла надзеяй на хуткую сустрэчу з Грачом. Яна яго, Грача, чакала, мала пра маці і думала. Яна, Наста, жыла і жыве надзеяю, што Грач вернецца, вернецца неўзабаве, і тады ўсё пойдзе ўжо ў іншым, добрым і слаўным кірунку, пойдзе на радасць.

Ты, значыцца, верыш толькі ў тое, што наперадзе чакае цябе радасць, толькі добрае чакае. А Канапелька? Ён, выяўляецца, верыць у благое, на добрае не спадзяецца? Так, не спадзяецца. І таму вырашыў пакінуць свой запавет сыну, каб ведаў хлопец, хто яго бацька, і ім, бацькам сваім, ганарыўся.

Сам Канапелькаў ліст шчэ не даваў поўнай і цвёрдай падставы на гэткую выснову. Але Наста яе, гэтую выснову, зрабіла, і з таго ў сэрцы было сумна і прыкра. І вось што дзіўна: варта было ёй даць волю гэтым сваім думкам — і нешта адразу бурыцца ў той лагодзе, з якою яна жыла сёння, нешта зменьваецца і ў той веры, якая жывіла яе сілы. І таму — досыць! Досыць ёй пра Канапелькаў ліст думаць! Годзе! Напісаў чалавек ліст? І хай сабе. Папрасіў яе, Насту, той ліст пакінуць у вёсцы? Яна тое і зробіць.

Яна, зрэшты, зробіць усё, што загадаў ёй Грач. Яна зробіць і тое, пра што казаў ёй Шаплыка. Адным словам, яна зробіць усё тое, што належыць ёй зрабіць. І ў гэтым — паратунак: ёсць мэта, і да гэтае мэты яна будзе імкнуцца, не шкадуючы свае сілы! Але што гэта? Нейкі быццам цень мільгануў за соснамі, якраз у тым месцы, дзе лясная пуцявіна губляецца за камлямі. І быццам капыты запокалі. Так, конь недзе паблізу бяжыць. Капыты покаюць мякка, прыглушана, нібыта з асцярогаю. І конь вось заржаў...

«Грачок гэта мой вярнуўся!..»

Думка пра Грача была такая натуральная і жаданая, што Наста адразу паверыла ў рэальнасць таго, аб чым падумала. Ні трывогі, ні адчування нейкай небяспекі ці бяды: Грач гэта едзе, да яе, Насты, спяшаецца!

Наста выскачыла на лясную пуцявіну і атарапела. Анікога ж няма на кані. А конь знаёмы: Шаплыка ж на ім паехаў. Чаго ж ён гэтак рана вяртаецца? І сам пешкі тупае. Ды не, ля каня і паблізу нікога ж няма...

Конь заўважыў яе, патрос галавой, заржаў, і ў гэтым працяглым, з перападамі ржанні было нешта па-

добнае на радасны чалавечы погалас. У глыбі лесу, там, дзе знікала сцяжына, гусцела вечаровае сутонне, і конь выдаваў дзівосна вялікім і блішчастым і нібыта выплываў з таго сінявага паўзмроку, і па правы бок яго рытмічна пагойдваліся чорныя вітыя анучы.

Наста спалохана адступіла назад адзін крок, другі, трэці... І за ёю, быццам піхаў з лясной сцягі ў глыб лесу, сунуўся конь, і яна спынілася толькі тады, калі ўпёрлася плячыма ў шурпатую кару сасны. Спыніўся і конь, цягнуўся пысаю да рук, форскаў, быццам нечага прасіў.

— Шаплыка?! Ты дзе, Шаплыка?

Яна паклікала даўкім ад сполаху голасам, папярхнулася, закашлялася і, усё яшчэ не губляючы веры ў тое, што Шаплыка недзе побач, што ён проста жартуе, хаваецца знарок, каб напалохаць яе, узялася за аброць, паспрабавала павярнуць каня. Толькі злёгку нацягнула аброць, і конь, быццам чакаў гэтага знаку, паслухмяна павярнуў да сасны і спыніўся, тыцнуўся пысаю ў Насціны рукі. Гайдануліся вяровачныя страмёны, што перакруціліся і завісалі па правы бок сядла чорнымі анучамі.

Не выпускаючы аброць з рукі, Наста агледзела сядло, што скасабочылася, спаўзло з конскай хрыбціны. З левага боку сядло было чорнае і блішчастае, быццам пафарбаванае дзіўнай фарбаю. Гэтак жа блішчэла і поўсць ля хрыбціны. Наста дакранулася да гэтай гладкай і халоднай плямы, што нібыта выцякала з конскай грывы, і сцялася ад жахлівай здагадкі, якая імгненна выстудзіла і сэрца і розум.

«Кроў... Шаплыкава гэта кроў!»

Яна глядзела на блішчастую поўсць ля конскай грывы, на вяровачныя страмёны, на якіх запяклася і высахла кроў, і цяпер канчаткова паверыла ў сваю жахлівую здагадку. Шаплыка забіты! Ён быў забіты, зваліўся з сядла на гэты, правы бок, бо з таго сядло гэтак пакруцілася і страмёны на адзін бок зваліліся.

— Дзе Шаплыка? Што з ім? Дзе ён? — запытанне вырвалася адчайнае і сіпатае, і Наста зноў паўтарыла яго, тузануўшы аброць і ўзіраючыся ў вялізнае і блішчастае конскае вока.— Дзе Шаплыка? Што з ім? Дзе ён?

Конь апусціў галаву, зноў мякка, як усё роўна вінаваты ў нечым быў, тыцнуўся пысаю ў левае, потым

у правае запясце, адале стаў нерухома, быццам скамянеў. Толькі рытмічная сутарга пракочвалася на скуры над правай сківіцай, і ля правага вуха ўздрыгвала поўсць.

— Бяда яго напаткала? Скажы, канёк дарагі. Чаго ж ты маўчыш?

Наста запыталася ціха, з надзеяй, быццам і сапраўды верыла, што конь загаворыць. Словы нарадзіліся наўпярок волі. Але сэнс іх сэрца не прымала, і яно трымцела, быццам усаджанае ў даўкі і гнуткі абруч.

Імкліва гусцела вячаровае сутонне, паўзло з глыбі лесу на зацярушаную шыгаллем пуцявіну, і Насце падалося, што нехта падкрадаецца да яе, тулячыся за камлямі дрэў. Яна прыціснулася да конскай шыі, як бы захіляючыся ёю ад бяды, і, азіраючыся, таропка пашыбавала да склепа.

Ля ўваходу ў склеп, абапіраючыся на мыліцы, стаяў Канапелька, і яна, угледзеўшы яго, крыху паспакайнела, запаволіла крок. Памылку, мабыць, яна робіць, што вядзе каня сюды. Трэба было пакінуць яго ў лесе, прывязаць да дрэва дзе-небудзь падалей, каб ніхто з параненых не ведаў пакуль што пра бяду, якая напаткала Шаплыку.

«А можа, напрыдумляла я сабе новай бяды? Можа, Шаплыка быў толькі паранены? Можа, зваліўся з каня і недзе ляжыць, чакае дапамогі?..»

Думка была такая нечаканая, што Наста спынілася. Яна чамусьці адразу паверыла ў тое, што Шаплыка не забіты, што смерць абмінула яго. Ёй дужа хацелася, каб гэта было менавіта так, і таму яна гэтак лёгка паверыла. Паверыла, пераканала сябе, нават аблаяла. Чаго ж яна вядзе каня да склепа? Навошта марудзіць? Ёй трэба бегчы па той дарозе, па якой ехаў Шаплыка. Па слядах каня бегчы.

А словы, дзівячы яе, вырваліся зусім іншыя:

— Конь вось... Шаплыкаў конь прыбіўся. Я сядзела ля сасны, а ён: тэп-тэп-тэп,— і зноў падумала пра тое, што робіць новую памылку, бо тое, што яна гаворыць, у склепе чуюць.— А сядло, здаецца, у крыві...

Падскокваючы на адной назе, амаль не абапіраючыся на мыліцы, Канапелька пасунуўся да каня, абмацаў сядло, страмёны, правёў даланёю па блішчастай

пляме ля конскай грывы. Твар яго злосна перакасіўся:

— ...яго бога маць,— Канапелька брудна вылаяўся, не звяртаючы ўвагі на тое, што Наста стаіць побач.— Адчайнасць сваю, халера, напэўна ж паказваў. Папёр недзе, добра не паглядзеўшы. Вось і наскочыў на гарачае...

— Тут седзячы, лёгка казаць,— узарвалася Наста.

— Лёгка ведаеш што ў лазні рабіць? — змрочна запытаўся Канапелька і дадаў тонам загадным: — Пастаў каня пад арэшнік. І як след прывяжы. А тады сюды ідзі. Нешта ж трэба маргеліць.

— Я па слядах пабягу. Можа, ён паранены дзе-небудзь ляжыць. Мне здаецца...

— А ты перажагніся, калі табе здаецца. І лепей на сядло паглядзі. Не бачыш, як кроў запяклася? Яна ўранні лілася. Так што калі і ляжыць Шаплыка, дык недзе ж не блізка,— і нечакана яго голас палагаднеў.— Яна — пабяжыць... Ноч жа насоўваецца. Якія сляды ў цямрэчы пабачыш? Вядзі каня пад арэшыну. Не, лепей за дашчанік пастаў. Там клямары ў сцяне — надзейней будзе...

Яна паслухмяна адвяла каня за дашчанік, прывязала аброць за ржавы клямар, увагнаны наўскос у тоўсты гузаваты аполак-гарбыль, і вярнулася да склепа. У склепе спрачаліся. Але, як толькі яна наблізілася да ўваходу, галасы змоўклі. Крыху спагадзя Канапелька паклікаў:

— Уваходзь, Наста,— і папытаў, калі яна ўвайшла і села ля ўваходу: — Надзейна прывязала?

— Надзейна.

— Тады кладзіся і спі. Раніцай нешта і высветлім. Калі, вядома, дажывём да той раніцы.

Нешта падобнае на зларадн асць прагучала ў Канапелькавым голасе. Насту абурыла не гэтая зларадн асць, не загадны тон Канапелькавых слоў, а тое, што яны тут гаманілі пра нешта ўпотай, ёй не давяраючы. Выспявала прага да дзеянняў рашучых і неадкладных, да самастойнасці і незалежнасці.

— Пайду ў Залессе. Шаплыка не абмінуў вёску. Калі яго не стрэчу, дык там жа, напэўна, нешта даведаюся.

Канапелька хмыкнуў:

— Уночы як ты дарогу знойдзеш?

— Знайду. Ранічкою я ўжо тут буду.

— Не пушчу. Нікуды ты не пойдзеш на ноч гледзячы.

— Ёй трэба ісці,— нечакана абазваўся Аўдошка.— Чалавек, можа, ляжыць паранены. І каня спецыяльна пагнаў, каб нам знак даць. Каб ратавалі. Пакладзі ёй хлеба ў рэчмяшок. І не шкадуй. Мы тут неяк абыдземся. А з банка свайго выграбі, што ёсць...

І гэтыя нечаканыя разважлівыя Аўдошкавы словы вырашылі ўсё. Наста схапіла Вахтангавы боты, зняла з цвіка, што быў увагнаны ў сцяну ля акенца, карабін. Сеўшы на дошку ля ўваходу ў склеп, яна пачала надзяваць боты. Ухваляла сябе за рашучасць і смеласць. Не згубіцца яна ў лесе — дарога вядомая. І поўня ву-унь якая выкацілася — праз гадзіну-другую светла будзе, быццам пры дні.

Вялізнае цёмна-тэракотавае кола поўні вісела цяпер зусім блізка, здавалася, быццам на самых блізкіх макаўках соснаў. Але цямрэча ля зямлі пагусцела. Ад халаднаватага вільготнага туману, што хваляю поўз з балацiны, у Насты па плячах прабегла дрыготка. Мабыць, не зусім разумна яна робіць, варта пачакаць да раніцы. Але ж і назад няма чаго здаваць, бо ў тым, што кажа Аўдошка, рацыя, ведама ж, ёсць.

Са склепа, стукаючы мыліцамі, выбраўся Канапелька. Ёй падалося, што Канапелька зараз зноў запярэчыць, паспрабуе яе затрымаць. Але яна не зменіць свой намер, не адкладзе пошук да раніцы. У душы, аднак, яна адчувала, што можа і пагадзіцца з Канапелькам.

Ён, аднак, больш не ўгаворваў яе, працягнуў рэчмяшок і ціха вылаяўся:

— ...бога яго маць. Каб яму, Гітлеру гэтаму, заўтра і акалець. А ты чаго глядзіш? Бяры мех. Тут хлеба краюха. І грошы.

Канапелькава лаянка падбадзёрыла Насту.

— У-ух і багацей лясны,— пажартавала яна.— Раздасі ўсю палкавую касу і пад трыбунал станеш. Я цябе ўжо неаднойчы папярэджвала.

— А я і на два трыбуналы згодны. Абы вайне клятай канец.

— Тады сядзі і чакай трыбуналу.

— Я цябе чакаць буду. Хай толькі шчаслівая дарога.

У яго голасе было гэтулькі пяшчоты і цеплыні, што Наста сумелася, баючыся, каб не расплакацца ад раптоўнай спагады і шчырасці, развітальна патрэсла рукою і таропка пашыбавала ўсцяж балаціны.

На лясной сцяжыне, зацярушанай шыгаллем, якое паблісквала ад святла поўні, было неяк прасторна і святочна. Тэракотавае кола вісела ўжо высака ў Насты за спіною, і на сцяжыне было намнога болей віднаты, чым ля балаціны, і Наста пакрочыла наперад упэўнена і смела.

Яна ішла і ўвесь час пераконвала сябе, што робіць правільна: адкладваць пошук на раніцу проста нельга было. У лесе не надта і цёмна, наўкола стаіць цішыня, знаёмая сцяжына добра відаць. Нават след капытоў выразны, ён, праўда, час ад часу знікае. Але потым зноў быццам вынырвае з-пад зямлі. Праўда, адна ёсць небяспека: уночы ў лесе ўсё выглядае зусім не гэтак, як удзень. Вось той бярэзнік, куды Шаплыка паслаў яе сабраць суніцы. Асветлены сонцам, ён быў рэдзенькі і празрысты. А цяпер стаіць густы і шчыльны, быццам пакрапленая вапнаю сцяна. Суніц тут было не надта і шмат, не тое што на высечцы, на якую ёй пашчасціла натрапіць. Трэба будзе, вярнуўшыся, зноў туды пайсці, узяць большы посуд — гэта ўжо калі яна шчаслівa вернецца да балаціны. Добра б было, каб Шаплыку яна стрэла — разам тады і шухнулі б. Але ж нешта надта доўгай выдае дарога ўночы. Да Залесся кіламетраў дванаццаць. Трэцюю частку яна, мабыць, ужо адолела. Зараз павінна быць шчэ адно скрыжаванне лясных сцяжын — тры з іх яна ўжо мінула! — і на ім трэба глядзець уважна: управа і ўлева пойдуць роўныя, бы прасекі, а паміж імі вузенькая, пакручастая — гэтая і выведзе да лубінавага шнура. Падобна, што лубінам патыхнула. Значыцца, непадалёк ужо недзе тут і малады соснік.

З правага боку, далёка ў глыбі лесу, дзяркатa і працягла бухнуў пугач. Рэха пакацілася па лесе, і адразу пацямнела наўкола. Праз густое голле старых хвой выбліснулі блізкія зоркі, зіхатлівыя, нейкія дзіўна блізкія, быццам былі парассыпаны ў чорным веццi. І неяк раптоўна зоркі зніклі, цямрэча наўкола яшчэ больш пагусцела, і дрэвы стаялі шчыльна, дужа высокія і кашлатыя. Дзіўна, гэткіх старых ялін перад той лясной палянаю, дзе пасеяны лубін, не было, зда-

еццa. Не, яны былі, але ж раслі далёка ад сцяжыны, а гэтыя голлем на плечы кладуцца. І асінак маладых не відаць, а іх жа там, перад соснікам, поўна было, уперамешку з бярозкамі яны раслі. І сцяжына неяк крута ў нізіну пабегла. А павінна ж яна па роўным ісці. І новыя дзве сцяжыны акрэсліліся, і абедзве пакручастыя, няроўныя. Але трэба, мабыць, па гэтай ісці, што верне і верне ў левы бок.

Наста пакрочыла шпарчэй, але праз нейкі час запаволіла хаду і неўзабаве спынілася перад нечаканай перашкодай, што ўзнікла раптоўна перад ёю. Дрэва нейкае ляжыць упоперак сцяжыны, не перайсці яго, бо суччо тырчыць ва ўсе бакі густа, быццам перапленае дротам. І зоркі па ім параскіданы рэдзенька. Дзіва, дый годзе: неба быццам на зямлю звалілася. Э-э, якая тут праява! Гэта ж мохам дрэва парасло. І зоркі адразу пазнікалі. Не, вось адна зіхаціць. А пальцамі не возьмеш!

«Светлякі лясныя! Дзіва якое!..»

Радасці гэтае адкрыццё не прынесла. Дакладней, радасць была і тут жа згасла, згасла гэтак жа раптоўна, як згасалі светлякі, калі яна варушыла пальцамі вільготны і халодны мох. Не было, не было гэтага бервяна, калі яны ехалі разам з Шаплыкам. Значыцца, яна, Наста, павярнула не ў той бок, куды трэба. Згубіла яна патрэбную сцяжыну. Але дзе, калі гэта адбылося?

Яна мітнулася назад, крыху прабегла і раптам адчула, што сцяжына зусім знікла з-пад ног. Наста спынілася, зрабіла колькі крокаў у левы бок, потым крутнулася ўправа, зноў спынілася, спалохана ўзіралася ў няроўнае, але густое і непраходнае кола. З усіх бакоў на яе напіралі старыя яліны, аднолькава змрочныя, чорныя і кашлатыя.

Жах, што ціха жыў увесь час недзе глыбока ў душы, цяпер выбухнуў, як хваля. Цяжка стала дыхаць, у скронях узнік боль. Невыносна цяжкім зрабіўся карабін, рэзаў плячо, і Наста зняла яго. Намацала халодную рукаятку затвора, вечка засцерагальніка, і жах крыху адступіў. Яна ўзброены чалавек, і няма патрэбы баяцца. І неяк дзівосна востра пахне хлебам рэмень. І адразу ж бурчыць у жываце. А хлебам не рэмень карабіна, выяўляецца, пахне — з рэчмяшка водар сочыцца. Добра, што акраец хлеба ёсць. З хле-

бам у лесе не прападзеш. Зараз яна зашыецца пад яліну, падмацуецца, усё спакойна разважыць. А можа, не варта спыняцца? Можа, варта шукаць патрэбную сцяжыну неадкладна, зараз?..

Нешта зашахцела паблізу, над галавой, і Наста прысела ад жаху, скінула засцерагальнік і тут жа расслабілася, калі на разгарачоны твар зваліліся халодныя кроплі. Дождж пачынаецца. Кроплі шухцяць у галінах, быццам хтосьці трасе хваіну. Дзіўна! Неба было чыстае, калі яна ішла ад балаціны, поўня свяціла. Невядома адкуль хмары нагнала. Шкада, цяпер у дождж дарогі яна не знойдзе. Давядзецца перачакаць. А тады далей рушыць.

Наста, нібыта ў будан, праціснулася пад густую навісь голля, села на мяккі і сухі пласт спрасаванага шыгалля і развязала рэчмяшок. Хлеб здаўся дужа смачны, здаецца, гэткай смакаты ёй есці аніколі і не даводзілася. Дзякуй трэба Аўдошку сказаць — ён гэта паклапаціўся. І нешта дужа маркотнае было ў голасе Канапелькі. Казаў, бы назаўжды развітваўся. І гэты ліст ягоны. Не, досыць пра тое думаць! Ёй трэба шукаць Шаплыку! Яна зараз перачакае дождж і рушыць далей. Нікуды не знікла тая патрэбная ёй сцяжына! Трэба будзе вярнуцца назад, спыніцца на скрыжаванні і павярнуць на тую пакручастую сцяжыну. Цяпер усё ж вельмі проста тлумачыцца: Наста памылілася менавіта на тым, апошнім скрыжаванні і павярнула на левую сцяжыну. Ды, зрэшты, няма чаго тут і адчайвацца. Недзе праз дзве гадзіны світаць пачне. Але чакаць гэтулькі ёй нельга. Як толькі пераціхне — здаецца, быццам і паменеў крышку! — дождж, адразу трэба і рухацца. А дождж шапоча і шапоча. Добра, што схованка ў яе надзейная, быццам сапраўдны дах над галавою. Слаўны які дождж шапоча, нібыта песня церусіцца на зямлю з начнога неба. І не відаць яго, неба, зусім. І суха тут, пад ялінаю, утульна.

Наста слухала пошум дажджу і засынала спакойная, упэўненая, што вось зараз, як толькі аціхне шапаценне вады па галінах, яна ўзнімецца і рушыць далей, знойдзе Шаплыку, і яны разам вернуцца да балаціны, дзе іх чакаюць. Рэчмяшок яна паклала пад галаву, карабін прыціснула да грудзей і моцна сціскала прыклад рукою, і дрэва прыклада ўгрэлася, і ад яго руцэ было ўтульна і добра.



## 17

Біла ў вочы, аж сляпіла яркае вясёлае сонца, і Наста, узняўшы да лоба сагнутую ў локці руку, са здзіўленнем глядзела на магільны пагурак, на нейкі змізарнелы шнур лубіну, які цвіў цяпер па краях поля, а ўсярэдзіне шарэў, пабраўшыся ў крываватыя струкі попельнага колеру. Гэта ж яна амаль побач з магілай Вахтанга спала! І яшчэ як спала! Быццам у прорву якую правалілася: анічога ёй не снілася, анічога яе не патрывожыла аж да самага рання. І цяпер бадзёрая, поўная сілы.

Да радасці, што не заблудзілася ўночы, ішла амаль дакладна, выяўляецца, толькі збочыла крышку ў цёмры не на тую сцяжыну, дамешвалася туга і скруха. Сіратліва як магіла выглядае. І як жа ўсё тут змянілася за гэты кароткі пасля пахавання час. Зламаны лубін ля магілы пасох, і з-пад пасохлых сцяблін толькі дзе-нідзе драліся да святла сакавітыя вострыя макаўкі кветені. Зямля на пагурку асела, бярозавы слупок крышку нахіліўся, зрабіўся амаль карычневы, і літары, што Шаплыка напісаў, амаль і не прыкметныя. Густой шчоткаю прабіўся па краях пагурка пырнік, ствараючы ўражанне, што чалавек пахаваны тут даўно дужа, як не самай вясной.

«Чалавек у зямлі... А я боты яго надзела...»

Думка была такая ашаламляльная, што Наста адхіснулася ад абрудзелага на сонцы бярозавага слупка, пайшла таропка, не азіраючыся. Згадала, як лаяў яе Шаплыка, прымушаючы надзяваць боты. І меў жа чалавек рацыю, шчэ якую! Дзе б яна басанож ці ў тых сваіх падраных брызентавых туфліках тэпала ўночы па лесе. Досыць, досыць ёй сабе душу выпальваць. Не пра тых, хто ў зямлі, а пра тых, хто на зямлі, ёй зараз думаць трэба! Думаць пра тое, як Шаплыку адшукаць, як да людзей дайсці ды як назад вярнуцца, нейкага харчу прыдбаўшы: тыя, у склепе, яе чакаюць, на яе спадзяюцца. А яна ноч праспала, дык цяпер пешкі тэпае. Вось каб на кані ёй ехаць. Варта, мабыць,

на колы зірнуць. Цікава, ці стаяць яны там, у сосніку? Стаяць, скажам. І што з таго? Хіба паглядзець і далей рушыць. А навошта? Толькі час губляць. Трэба галоўнага пільнавацца, шукаць Шаплыку. А назад ідучы, яна на колы і паглядзіць, будзе на тое час. Цікава, ці пазнае яе, Насту, гаспадыня той хаты, дзе яны былі з Шаплыкам, перш чым адправіліся да прадаўшчыцы? Здаецца, Сцяпанаўна па бацьку... Паўліна Сцяпанаўна... Точна! Добра, што прыгадала! І вось скажы ты! Там, ля балаціны, у склепе, аніяк не магла прыгадаць. А тут як само імя ўсплыло ў памяці... Ці разумна толькі гэта ўвогуле — туды, у тую хату заходзіць? Не, зайсці трэба. Сцяпанаўна жанчына шчырая, спагадлівая, ёй можна давяраць, можна распытаць, ці заходзіў да яе Шаплыка. А вось карабін, мабыць, давядзецца пакінуць у лесе, не браць з сабою, прыхаваць дзе-небудзь надзейна. Парабелум жакецікам прыкрыты — нават і зблізку не дужа яго ўгледзіш.

У густым ляшчынніку, дзе ў той раз Шаплыка пакідаў калёсы, Наста прыхавала карабін і смела рушыла на ўзлесак. Зірнула на вузкае поле, што адкрылася перад ёю, і збянтэжылася. Ці да Залесся яна выбілася? Залессе. Вунь і хата знаёмая. А поле павузелае здаецца таму, што жыта зжалі і звезлі. Толькі ж нешта не дужа дбайна жнеі тут ішлі, як спяшаліся — каласкоў шмат на зямлі.

Наста ўзяла адзін каласок, другі, вытрыбушыла на далоні, кінула буйнае зерне ў рот. Гэткі дождж хваставў уночы, а зярняткі сухенькія, аж хрумстаюць на зубах. Можа, тут дажджу і не было? Не, трава на ўзмежку мокрая, і ў разоры вада нават стаіць. Значыцца, з таго, мабыць, і не відаць следу аніякага з лесу — Шаплыкавы сляды, відаць, дажджом і змыла...

Наста паглядзела на дах хаты, убачыла, як курыцца пара над бліпчастым вільчыкам — быццам дыміцца страха! — паскорыла хаду. Яна мінула крушню і куст ляшчэўніку, у сярэдзіну якога той раз залезла, чакаючы, пакуль Шаплыка не зробіць знак ісці далей, і зусім блізенька, амаль перад сабою, убачыла на ржышчы кабету. Жанчына ішла, прыгінаючыся, трымаючы ў левай руцэ лазовы кошык з тоўстай дужкай, пераплеценай белым дротам; па адзін бок дужкі тыр-

чаў тоўсты пук святаянніку, а па другі бок шчацініліся жытнёвыя каласкі.

Наста пазнала кабету адразу, павіталася шчыра і ўзрадавана. Але тая як і не пачула вітання, зыркнула паўзверх Насцінай галавы і, нахіляючыся і кідаючы каласкі ў кошык, скоранька сунулася краёчкам поля, як бы ўцякала.

— Вы мяне, мабыць, не прызналі,— сказала Наста.— Мы да вас, Паўліна Сцяпанаўна, заходзілі аднойчы. Удваіх...

Жанчына моўчкі перайшла ў вузкую разору па другі бок селавой, дужа затравелай дарогі, дыбала па ёй, раз-пораз азіраючыся назад, на зацененыя яблынямі хаты, і толькі тады, як зайшла за ляшчэўнік, загаманіла таропка, узбуджана:

— Прыгні, божачка, галаву. Не вытыркайся дужаткі.. Чаго, чаго... А таго, знаеш... Вяскоўцы ў нас цяперака ў лес не дужа і соваюцца. З лесу хто выходзіць — па ім немец содзіць. З кулямёта адразу сякуць. Як шчэ па табе не ўляпілі? Кофтачка на табе прыкметная. Я здаля яе прыкмеціла і пазнала.

— Значыцца, вы мяне памятаеце? — Наста ўзрадавалася і з гэтае нагоды, і асабліва з таго, што правільна зрабіла, пакінуўшы карабін у лесе: не трэба, каб бачылі вяскоўцы, што зноў да Сцяпанаўны ўзброены чалавек заходзіў.— А таго вайскоўца, што тады са мною быў, вы не бачылі?

Кабета папрaвіла каласкі ў кошыку, потым адказала:

— Бачыла. Учора ўсіх вяскоўцаў да школы сагналі апаўдні, каб апазналі, з якой хаты чалавек. Гэлька крычала — бандыт, не наш, маўляў, рабаваў мяне. А ён, бедачок, у крыві, вяроўкаю да машыны прывязаны...

Зямля нібыта дугнулася ў Насты пад нагамі, у горле раптоўна перасохла. Паверыла адразу, што Шаплыку напаткала бяда. Але спытала зноў, упарта лезла да пэўнасці і яснасці:

— Не памыліліся вы? Гэта той чалавек быў, з якім мы тады да вас заходзілі?

— Анягож. Не памылілася, дзіцятка. А як той у бяду патрапіў — не ведаю. Цяпер кожны сваё глядзіць. Я вось каласочкі падграбаю. Нашы ж знарок жалі гэтак, каб каласкоў пабольш на зямлю лягло. Бо жыт-

цо ж немцу на станцыю папурылі. Падчыстую. Загадалі.

— А што ў вёсцы кажуць? Забілі чалавека, і каб вёска нічога не ведала? У гэта цяжка паверыць.

Кабета азірнулася на вёску, прамовіла скорагаворкаю:

— Кажуць, што машыну хацеў сагнаць. Ля школы машына стаяла. У машыну ён дык сеў, паехаў. А за ім — на матацыклах. Перад самым лесам яго і нагналі.

— Па якой жа дарозе ён ехаў?

— Па старой, што на бровар. А не ведаў, бедачок, што машыны новай дарогаю нашы звычайна гналі. А на старой масток слабаваты, на калёсах там людзі едуць. Адтуль, ад таго мастка, яго да школы і прывезлі. А потым машына на станцыю папыліла. А яго, на вяроўцы, ззаду...

Гулка і балюча стукала ў скроні кроў. І Наста, каб суняць боль, нахілілася да зямлі, як сагнулася ў крук. На вочы трапілі два каласкі, і яна падняла іх, паклала ў кашолку. Кабета прыняла іх без падзякі, перакінула кошык з левай рукі ў правую, падалей ад Насты, як бы збіраючыся ўцякаць.

— А што, ваш Уладка тады прывёз са станцыі цвікі? — спытала Наста, спрабуючы як-небудзь затрымаць кабету, пагаманіць яшчэ.

— Прывёз.

Кароткі хмурны адказ не збянтэжыў Насту. Ёй падалося, што жанчына нечым вельмі заклапочана, як бы нейкая цікаўнасць прабівалася ў хуткіх і насцярожаных позірках.

— Святаяннік перабраць трэба,— прамовіла Наста і паказала на каліва, дзе было дробнае, як бы пасечанае лісце.— Гэтыя трэба павыкідаць. Бачыце, якое тут ціўе? Як бы па дзве рабрыны — на лекі ён непрыдатны, і яго часта блытаюць. А вось гэты — добры. Бачыце, якія роўныя рабрынкі? Чатыры. І лісцінкі роўныя. У іх эфірнага масла болей і караціну...

Кабета зыркнула на яе ўважна і зацікаўлена:

— Вучоная ты, дзіцятка. Мабыць, вучылася. А той раз і не прызналася. А мо і казала, дык мне, гэткім часам, не ў памяці...

Наста таропка патлумачыла, што скончыла інстытут, і крышку сумелася ад таго што перабольш-

вае і хлусіць. Не канчала ж яна інстытута шчэ. Але тут жа зацвердзілася ў думцы, што тлумачэнні непатрэбныя, толькі могуць напсаваць ёй, і дадала:

— Лекавыя травы мы ў інстытуце вучылі.

— Вучонаму чалавеку добра. Але ж хто цяпер на тую вучонасць глядзіць? У каго хлеб ёсць — той і ўладар,— і раптам параіла строга: — У вёску ўдзень не хадзі. Толькі можаш, калі ацямнее. Ты ж, гляджу, па нейкай патрэбе ў вёску ішла.

Наста сказала шчыра:

— Ведама. Хто ж цяпер без патрэбы ходзіць? Патрэба толькі і гоніць, з таго людзі і ідуць светам...

І нечакана, сама з таго дзівячыся, Наста цалкам даверылася кабеце, якую зусім мала ведала, і шчыра расказала пра Канапелькаў ліст, які хоча пакінуць каму-небудзь у вёсцы — утоіўшы, аднак, тое, хто гэты Канапелька і дзе ён,— пра тое, што трэба ёй расстарацца нейкага харчу. І тут жа злавіла сябе на тым, што робіць памылку, расказваючы аб усім гэтак шчыра, і спахапілася, і знарок, нібыта выпрабоўваючы кабету, сказала, што намерваецца зайсці да прадаўшчыцы Гэлькі і купіць тое-сёе, бо грошы мае.

Кабета замахала рукой, спалохалася:

— Ані нагой туды, дзіцятка, ані нагой. У той дзень, скажу ўжо, каб ведала, як вы ў мяне пабылі, Гэлька тая, ля маёй хаты стаўшы, на ўсё ваколле крыку нарабіла: даведаюся, раўла, хто на мяне рабаўнікоў наслаў, кожнаму па макаронінцы ў горла пастаўлю. Яна, адчуваю, за маёй хатай віжуе, сочыць...

Наста разумела, што нічога пэўнага яна ўжо больш ад кабеты не даведаецца, і ўсё-ткі, як бы ў нейкім адчаі ўбіўшца ў ласку і давер, запыталася:

— А што людзі пра фронт гавораць? Дзе нашы цяпер?

— Ды рознае людзі гавораць. Адзін другога мадней. А ў газетцы, што Уладка са станцыі прыцёг — нямецкая, вядома ж, газетка,— пішуць, што Смаленск яны ўзялі. І Маскву ўжо бяруць. Гэтак блізка падышлі, што ўжо і Крамля ім відаць...

Кабета казала неяк няпэўна, быццам хацела пачуць нешта такое, што б абвергла яе словы. Наста адчула гэта і сказала цвёрда:

— Убачаць яны, звяры гітлераўскія, маскоўскі

Крэмль гэтак жа, як свае вушы паганскія. Нелюдзі клятыя!

Кабета зноў азірнулася на хаты вёскі, папрасіла таропка і збянтэжана:

— Ты ўжо з гэткімі словамі пасцеражыся. Цяперся не кожнаму іх казаць можна.

— Вам — можна. Вы чалавек наш. Савецкі.

Кабета яшчэ больш занепакоілася, папрасіла настойліва:

— Ты ідзі сабе, дзіцятка, ідзі, Ву-унь тамака — дарога селавая. А за бярэзнікам — бульбяны палетак калгасны. Немцы забаранілі чапаць. Але ж людцы бульбачку рыюць. Спешачка добрая нарасла. І ты сабе возьмеш.

Наста падзякавала, наважылася была ісці, і тады кабета, як бы нешта згадаўшы, прамовіла разважліва:

— Дык ты, кажаш, дакторка. Але ж маладая занадта.

— Не верыце, значыцца.

— Ды веру я, веру. Чаго ж мне не верыць. Але ж чаму ты па лесе бадзяешся?

Пытанне было натуральнае, тое, да якога, як ні дзіўна, Наста сябе не падрыхтавала. Здавалася, што паміж ёю і гэтай кабетаю ўсталяваўся нейкі давер, прыязнасць. А вось жа ўсё і пабурылася, і кабета, мабыць, толькі прыкідвалася, што давярае, а сама вывучала, прыглядалася да Насты, усё ўзважвала. Ды, зрэшты, гэтыя паводзіны жанчыны лёгка патлумачыць. Аднойчы Наста была ў яе хаце, прыходзіла не адна, з вайскоўцам, і ён і яна былі ўзброеныя. І вось цяпер, калі той вайсковец загінуў, яна, Наста, зноў апынулася тут, распытвае пра яго, ідзе да вёскі не дарогаю, а з лесу. Таму зусім натуральныя тут і падазронасць і недавер.

— Я ў Полацку жыву,— зусім невядома з якое прычыны схлусіла Наста.— Пагарэла там усё. А ў вёсцы хлеба можна купіць. Грошы ў мяне ёсць,— яна казала цяпер праўду, і голас яе гучаў пачціва і ўпэўнена.— На грошы я не паскуплюся. І цанавацца не буду.

Кабета прыжмурыла вочы, спытала хітравата:

— А чаго ж ты гэты свой ліст у горадзе не пакінула? Сюды яго, у Залессе, прынесла і мне пакідаеш.

— Вы мне, бачу, ані не верыце,— з горыччу пра-

мовіла Наста.— Мабыць, не верыце, што і грошы маю. А вось яны, паглядзіце.

Яна таропка пачала развязваць рэчмяшок. Але кабета яе спыніла:

— А што цяперся тыя грошы? Дым. Карабок запалак на станцыі — пяцьдзесят рублёў. Цяпер жа маркі нейкія ў іх ідуць. Тая марка — наша дзесятка. А за бохан зусім маленечкі хлеба дык трыста рублёвачак просяць.

— А я і трыста заплаціць магу. Цанавацца, кажу, я не буду.

— Няма мне патрэбы з табою цанавацца. Толькі слухай, што скажу табе,— жанчына нахілілася да Насты, потым азірнулася, быццам нехта мог тут, на гэтым полі, падслухаць іх гаворку.— Гэтак, як мне гаворыш, нікому байку не пляці. Мадней трэба неяк хлусіць.

— Не хочаце верыць? Не трэба!

— А я цяпер, дзіцятка, толькі богу веру. А цябе прасіць хачу. Ты, калі ацямнее, дык да маёй хаты падыходзь. Ад саду падыходзь. А я цябе стрэну. Можа, якой рады Уладку майму дасі. Яго ж немец кляты на станцыі жалезным прэнтам адсцёбаў. Дык цяпер ляжыць хлопец і на ножкі жаліцца і жаліцца. А ісці не можа.

Наста ўзрадавалася:

— Дык можна ж цяпер і пайсці. І я пагляджу вашага Уладку.

— Баюся, каб бяды не было. Гэлька, я ж табе казала, за маёй хатай віжуе. А цябе яна прыкмеціла, павер мне. Ты зараз ідзеш, тут паблізу не паказвайся. А з цёмным прыходзь. Чакаць цябе?

— Чакайце, я пастараюся зайсці...

Прайшоўшы па крайку ўзлеску, Наста выбілася на затравелую селавую дарогу, пакрэсленую рубчастымі слядамі колаў. На душы было пагана. Толькі цяпер яна ўсвядоміла сэнс бяды, пра якую даведалася. Усвядоміла і разам з тым з праўдай гэтай бяды пагадзіцца не адважвалася, сэрца гэтую праўду не прымала. А мо і не загінуў Шаплыка? Мёртвага ж яго кабета гэтая не бачыла. Яна бачыла толькі тое, што быў у крыві ён і да машыны прывязаны. Пацягнулі яго на станцыю. А ён жа мог і ўцячы. Толькі як пра тое даведацца? Ацямнее калі, дык Наста зноў пад Залессе пойдзе. Трэба будзе да гэтай Сцяпанаўны абавязкова зайсці.

Яна, Наста, абяцала памагчы ёй? Абяцала. Вось і хай жа яна ёй, Насце, дапаможа, хай на станцыю падбяжыць, даведаецца, што з Шаплыкам там было...

Наста супакойвала сябе. Але на душы было па-ранейшаму пагана, і розныя думкі апаноўвалі, прыносячы тугу і сум. Гэтая Сцяпанаўна — жанчына сабе наўме. І парады добрыя дае, і гаворыць то з даверам, шчыра, то вернецца раптам да таго, з чым пагадзілася і ў што паверыла. І як бы ўвесь час пабойваецца, гаворыць і азіраецца. А яна, Наста, вельмі ж даверлівая: параілі ёй ісці на нейкае поле, дзе бульба расце, яна і кінулася туды. Каб не было тут, як у той прымаўцы: пайшла, маўляў, па воўну, а вярнулася стрыжаная.

Наста крута павярнула назад. Не вытыркаючыся на чыстае, яна нейкі час сачыла за кабетай у чорным адзенні, якая павольна, быццам нехаця, клыпала па ржышчы. Сапраўды, нешта незразумелае ёсць у паводзінах гэтай Сцяпанаўны. Бач ты, адразу прыкмеціла, што чужы чалавек з узлеску прастуе. І з ім, гэтым чалавекам, пабойваецца ў вёску ісці, пра Уладку свайго гаворыць... А калі з пэўным разлікам тое робіцца? Робіцца на тое, каб ускочыла Наста ў пастку ў цямноце, каб ніхто не бачыў, дзе і хто яе схопіць? Але ж навошта тады яна папярэджвала, што Гэлька тая за хатай віжуе? Каб не схапілі знянацку, каб у пастку не трапіла?..

Наста абмацала каляны кабур пад кофтачкай і крыху супакоілася: ёсць чым бараніцца. А ў прыцемках, калі яна ў Залессе пойдзе, дык яшчэ і карабін прыхопіць. І спачатку з узлеску за вёскай паназірае. Паназіраць трэба будзе пры святле, каб усё бачыць. А цяпер трэба ісці на тое поле, бульбы ў мех награбці і назад вярнуцца, зручную пазіцыю адшукаць і назіраць. Назіраць з карабінам у руках, каб быць напагатове. Гэтак жа быць напагатове, як тады Шаплыка на падворку, дзе кінуўся на яго той таўсматы. Шаплыка... Шаплыка... Недзе ж памыліўся, зрабіў няправільны крок. Навошта яму спатрэбілася тая машына? Ды шчэ ўдзень на вочы немцам палез! А ці разумна робіць яна, што ўдзень прэцца на тое поле? Не, тут калі якая нявыкрутка, дык можна адразу ў бярэзнік шуснуць...

Наста мінула рэдкі малады бярэзнік і адразу ўбачыла бульбяны клін, падзелены напалам жоўтай пясчанай дарогай. Бульба ля бярэзніку была спрэс павы-

бірана, сухое паклычанае будылле там-сям тырчэла з зямлі. Нечапаны зеленаваты бульбеўнік роўна стаяў толькі пасярэдзіне поля, на ўзлобку, і Наста пашнуравала туды па затравелай, ледзь прыкметнай сцяжыне. Ззаду заржаў конь, яна азірнулася і спалохалася. Коціць фурманка следам, коціць шпарка, як бы адразаючы ёй шлях да лесу. Не ўцячэш цяпер у бярэзнік, не схаваешся. Але навошта ёй уцякаць? Чалавек на фурманцы, здаецца, без зброі. І хай сабе едзе сваёй дарогаю. А яна будзе ісці гэтак жа, як і дагэтуль ішла!..

Прыгорбіўшыся, апусціўшы галаву, Наста ішла левым краем сцяжыны па страмбаванай зямлі, дзе быў прыкметны цяпер слабы след колаў. Па мысках ботаў шморгала калянае лісце трыпутніку. За спіной усё выразней чулася поканне конскіх капытоў і тарахценне колаў. І вось параўнялася фурманка з ёю, коціць памалу. Конь, прытрыманы лейцамі, час ад часу фыркае; звяглівa парыпваюць атоскі. Ціха пачаў насвістваць мелодыю знаёмай Насце песні фурман.

Наста кінула стоены маланкавы позірк на фурманку і тут жа адвяла вочы ўбок. Але згледзела яна ўсё, усё прыкмеціла. Мужчына ў латаных выцвілых штанах, карычневай кашулі, каўнер у якой скасабочыўся, пакамечаны, амаль у вяроўку сабраны і завіс, бы адарваны. Зашмальцаваная кепка насунута на бухматыя бровы. Шчэць кароткай барады як попелам прысыпаная — пыл асеў. І сядзіць мужчына на фурманцы фарсіста, звесіўшы над пярэднім колам босыя, зведзеныя крыж-накрыж ногі.

Колы каціліся побач, не вырываючыся наперад і не адстаючы. Гэта цяглося хвілін якіх з пяць, і Наста, збянтэжыўшыся, знарок прыпынілася. Фурман таксама спыніў каня.

— Ганарліўка, аднак,— прамовіў са смяшком мужчына на фурманцы.— І не папросіць, каб падвёз.

— Дзякую. Мне недалёка. Можа, якраз на гэтае поле.

— Бульбачкі дармовай захацелася? На яе, калгасную, прыцэлілася?

Наста канчаткова збянтэжылася. Але адказала цвёрда, з выклікам, падкрэсліваючы неахвоту нешта гаварыць дакладнае:

— На што трэба, на тое і нацэлілася. А вы сваёй дарогай кіруйцеся.

— У-ух ты, якая наравістая. Гэткі памочнік мне і патрэбны. Пойдзеш у памочнікі, смелая? Ды не палохайся — работкі на дзве хвілінкі: паможаш мяхі на калёсы ўскінуць. З бульбаю мяхі. Бульбы сабе возьмеш як падняць,—і , быццам ужо ўсё было вырашана і дадзена згода, дадаў уладарна: — Садзіся. І на маю работку не гані лянотку!

Вясёлая зухаватасць, бесклапотнасць, што прагучала ў голасе фурмана, выклікала давер, збянтэжанасць знікла, і Наста смела села на фурманку.

— Н-но-а! — фурман смаргануў лейцамі.— Цяпер, як той казаў, слухай сюды. Я — Хведар. А ты?

— Зіна,— ляпнула першае, што ўзбрыло ў галаву.

— Хай сабе і Зіна. Але ж не з нашага магазіна. Н-но-а! — зноў смаргануў лейцамі, дадаў, узіраючыся наперад.— Бульбачку выбіраць трэба. Гэта ты май на ўвазе!

Карцела падзякаваць за гэтую нечаканую параду. Але Наста стрымала сябе, змоўчала. Мякка рыпеў пад коламі пясок. І нейк сугучна гэтаму шалахценню, як бы прыслухоўваючыся да свайго голасу, фурман зацягнуў ціха і самотна:

— «Они ехали молча, в ночной тишине, по широкой украинской степи...» Слаўная, між іншым, песня. А ты чаго не падцягнеш?

— Бяда наўкола ў людзей. А вам — песня.

— Бяду, скажу табе, без песні і не адолееш,— разважліва і без крыўды прамовіў Хведар.— Калі бяда насела, а чалавек толькі тое і робіць, што нудзіцца — прападзе.

Дарога ўвайшла ў бярэзнік. Хведар спыніў каня і, загадаўшы сачыць за дарогай, кінуў Насце лейцы. Сам ён, азірнуўшыся, мітнуўся да маладых ялінак, выцягнуў з-пад іх доўгі шырокі мех, завязаны белым дротам. Потым выцягнуў другі і замахаў рукою — клікаў Насту да сябе. Яна замітусілася, не ведаючы, на што пачапіць лейцы, і Хведар сярдзіта гукнуў:

— Бяго-ом! Конь вучаны, не збяжыць!

Наста падбегла, схапіла мех за хахол. Узняла з цяжкасцю, несла, аднак, не згінаючыся, намагалася дапаказаць сябе дужай. Але да калёсаў ледзь-ледзь дацэпала. Хахол на другім мяху, шчэ большым, быў кароткі, нязручны. Яна шчэ не паспела як след аддыхацца і перадыхнуць і, ледзьве пераступіўшы неглыбокую

разору, якая густа зарасла конскім шчаўем, выпусціла мех. Хведар не чакаў гэтага, спатыкнуўся і грузна асеў на зямлю.

— Малавата, відаць, кашы ела,— спагадліва, без злосці, прамовіў ён і падбадзёрыў: — Бярыся, бярыся...

Наста сядзела на зямлі, быццам знямеўшы. Поле нібыта дугалася, плыло, і рухаўся, марудна насоўваўся на яе конь, выставіўшы перад сабою, быццам рогі, канцы аглобляў. Шырока адкрыўшы вочы, Наста глядзела на кароткую каштанавую грыву, на аброць з рудой сырамяці, на шырокую, з белай плямкаю, грудзіну. Грачоў жа гэта конь! І касавурыцца ён неяк радасна, быццам пазнаў яе...

— Ты што, дзеўка?! Бярыся, кажу! — Хведар запатрабаваў цяпер рэзка і незадаволена.

Хістаючыся, квола, як самлелая, яна ўзялася за цёплы хахол, дапамагла ўскінуць мех на фурманку. Хведар хуценька растрос зляжалы пласт падвялай канюшыны, навярнуў на мяхі, прымусіў Насту сесці ля іх і тузануў лейцы:

— Н-но-а-а, родны!

Хведар моўчкі і заклапочана азіраўся па баках, потым, калі фурманка мінула рэдзенькі бярэзнік і кацілася ў густым маладым сосніку, ён пляснуў канцамі лейцаў па правай далоні і прызнаўся зухавата і весела:

— А ўдваіх, скажу табе, зручней красці. Уночы, у адзіночку, пакуль я гэтыя мяхі нашаткаваў. І трэба ж было з поля звалакчы і прыхаваць, бо каня не было. Пазычыў каняку. А тут і ты падвярнулася на шчасце...

Малады саджаны соснік скончыўся, па левы бок дарогі адкрылася бульбянішча, закіданае растрыбушаным і падвялым бульбеўнікам.

— Бачыш? — Хведар торкнуў рукою, у якой былі заціснуты канцы лейцаў, у бок поля.— Бытта карова языком бульбачку злізала. А камендантаў загад строгі быў: бульбачку не чапаць, выбраць акуратна і на станцыю звезці. А мы на той загад плявалі. Праўленцы клін падзялілі паміж вёскамі. І ўночы — кожная вёска — на сваю дзялку. Папрацавалі слаўна, па-стаханаўску...

Хведар павярнуў каня з дарогі, ехалі цяпер краёчкам рэдзенькага алешніку, па лугавіне, трымаючы

кірунак на хату, якая стаяла крыху наводшыбе, як бы адгароджаная ад вёскі доўгім садам.

— А гэта ваш конь... Ён даўно ў вас? — папытала Наста, уся ажно сцяўшыся ад чакання і напружання.

Хведар адказаў крыху памарудзіўшы, як бы з неахвотаю:

— У братавай яго пазычыў. Каму шчасціць — дык шчасціць. На тым тыдні Дзімка ейны пайшоў у лес жардзіну ссекчы. А ў канцы поля — вось гэты Каштан стаіць. І от скажы ты, мы ж і не ведалі, як яго клічуць, а пазавеш: Каштан, Каштан — адразу і галаву верне.

— А што, пры кані нікога не было? — перапыніла яго Наста.

— На зямлі забіты салдацік наш ляжаў. Маладзенькі, бяляверенькі. Відаць, недзе куля яго зачапіла, а конь выпер з-пад агню. Сканаў потым, на зямлю зваліўся. А Каштан стаяў і чакаў, пакуль яго гаспадар не ўзнімецца. Конь заўсёды чалавека разумее. Як гэта ў песні? — і сам сабе адказаў-праспяваў: — Ты, канёк варано-ой, перадай, дараго-ой, што я чэсна пагіб за рабочых...— змоўк, нейкі час ехаў моўчкі, звесіўшы галаву, потым сказаў: — Мы салдаціка таго на могілках пахавалі, там і могілкі непадалёк — як ведаў, куды кіраваць. А недзе ж чалавечка чакаюць, слёзкі ліюць, чакаючы.— Ён хітнуў галавой, уздыхнуў.— Ды гэтага ж хоць па-людску пахавалі. А што ў Полацку, бачыў, робіцца? Сотні салдацікаў нашых сагнаны ў лагер, за калючы дрот. І страляюць іх, нішчаць. І ў першую чаргу каго? — і сам сабе адказаў, роблена картавячы, падрабляючыся пад чужую гаворку: — «Камандзірэн, паліткамісарэн унд юдэн». На тым тыдні я там быў, брата Лёньку шукаў. Дык бачыў, што аж дагэтуль сэрца баліць. Мруць нашы палонныя за тым калючым дротам, бы мухі. Іх у роў тады валакуць і кідаюць. Зямлёю і не прысыпаюць, бо назаўтра — новы пласт кладзецца...

Ён змоўк, як бы нечага чакаючы ад Насты, і яна, адчуваючы дзіўны давер да Хведара, папытала яго, ці чуў, дзе цяпер нашы.

— Чуў,— адказаў ён, быццам быў гатовы да такога пытання.— Але лепей было б, каб мае вушы таго і не чулі. Аддаць Смаленск ім, гадам! Гэта ж не горад, а крэпасць на пагорках. А можа, нашы зноў яго ўзялі? Як думаеш?

Хведар чакаў адказу, і Наста завагалася. З чаго гэтак яна давярае чалавеку, якога да гэтага дня ніколі не бачыла, пра якога нічога не ведае. Сумнявалася, вагалася, не ведаючы, што адказаць. А з вуснаў, як само па сабе, сарвалася:

— А можа, зусім і не аддалі яго нашы! Цяпер людзі гэткія байкі плятуць, што паслухаеш — і вушы адразу звянуць!

— Вось тут ты правільна робіш, што з незнаёмым чалавекам шчыра не гаворыш!

Насту пакрыўдзіў папрок, які быў зроблены тонам павучальным і зласлівым, і яна абурылася:

— А дзе гэта я няправільна рабіла? Адкуль вы ведаеце, дзе, што і як я раблю?

Дарога, што густа зарасла сіўцом, роўна пралегла ля кустоў рудаватай лазы, фурманка кацілася ціха, няспешна. Хведар маўчаў, быццам слухаў, як сіпіць пад абадамі ўдушаны ў зямлю сівец, і нечакана прамовіў глухавата і з горыччу:

— З таго ты гэтак са мною гаворыш, што бядою шчэ як след невучаная. Я ж аб табе гэтулькі ведаю, што дужа дзівіцца будзеш, калі пачуеш.

— От жа хочацца пачуць!

— А тады слухай. Ты шукаеш чалавека, з якім у прадаўшчыцы залескай была, а потым на бровар паехала. Праўда ж? Праўда. Ты камсамолка? Камсамолка. Парабелум маеш? Маеш. Што, досыць на сёння пытанняў?

— Пытанняў і я магу вам гэтулькі наскідаць, што і Каштан не пацягне,— пажартавала Наста, збянтэжаная і разгубленая. Жаху, аднак, у яе не было, сэрца аніякай бяды не прадчувала.

— Ды я ж не толькі пытанні табе даю. І парады маёй ты паслухайся: таго, з кім на бровары была,— не шукай. Немцы яго на станцыі павесілі. Па-другое, трэба табе больш абачлівай быць. Парабелум пад кофтачкай здаля прыкмеціш. І па-трэцяе... Добра шчэ, калі я адзін бачыў, як ты з лесу выбегла і са Сцяпаніхай размаўляла... Яна, ведай, чалавек наш. І Уладка ў яе хлопец харошы. Але ж занадта гарачы і неабачлівы. Хіба разумна было на немца таго, што пагрузкай кіраваў, гыркаць? Не аднаго ж цябе, усіх залескіх хлопцаў на пагрузку бёрнаў на станцыю сагналі. Сцярпі. Дык жа ж не схацеў. Вось і атрымаў жалезных бізуноў. Гэ-

так — умеюць, паразіты, нічога не скажаш! — адхвасталі, што плазам цяперся ляжыць. Невядома калі і на ногі ўстане...

Яны наблізіліся да палісадніка, у якім вакол маладой антонаўкі, густа абвешанай яблыкамі, цвілі бледна-ружовыя мальвы. Рэдзенькі штакетнік як бы звязваў у адно невялічкую, пад гонтавай страхой, адрыну і дашчанік, вакол якога былі раскіданы буйна пабітыя бярозавыя дровы. Скасабочаная брамка дашчаніка была напаўадчыненая, і Хведар падагнаў фурманку да яе амаль ушчыльную. Не скінуўшы канюшыны, ён узяўся за мех, загадаў каротка, адрывіста:

— Дапамагай. Калі хто і ўгледзеў — канюшыну Хведар прывёз. А потым я мяхі ў свіронак запратору...

Наста рабіла ўсё тое, што загадвалі, неяк машынальна, нібыта ў сне. Нечаканыя весткі, якім сэрца не хацела даваць веры, беглі толькі ў адным кірунку. Хто ж ён, гэты незнаёмы дагэтуль ёй Хведар? Нават пазней, калі яна сядзела і з насалодаю запівала халодным малаком свежы жытнік — Хведар як не сілком зацягнуў яе на прасторную зашклёную тэрасу,— яна гублялася ў здагадках. Акуль ён усё ведае? Чаму з гэткай шчырасцю, нічога не апасаючыся, гаворыць з ёю? Навошта дае парады тонам павучальным і настойлівым?

Наста глядзела на стол, засцелены прыгожай, у буйныя сінія кветкі, цыратай, і ўпарта гнала ад сябе здагадкі, якія лічыла цяпер непатрэбнымі. Думаць трэба, мабыць, не пра Хведара, а пра тое, што рабіць ёй, Насце, цяпер. Словам Хведара трэба, відаць, верыць. Нашы, выяўляецца, адступілі за Смаленск. Вось чаго наўкола гэтак ціха даўно — ані выбухаў, аніякай кананады. Значыцца, калі Грач дайшоў да лініі фронту, шчасліва перайшоў яго, дык вернецца ён не надта хутка. Гэткі шлях! Шаплыка вось толькі да Дзвіны збіраўся дайсці... А здолеў дайсці да Залесся. Дзеля чаго ён палез у тую машыну ля школы, на вачах у немцаў?.. Зноў яна думае пра тое ж! А чаго палез — цяпер гэта не мае аніякага сэнсу. І думаць пра тое няма патрэбы! Адно тут ясна, як белы дзень: Шаплыкі няма. Марна разлічваць на тое, што неўзабаве вернецца Грач. Адна яна наўрад ці справіцца паставіць на ногі трох параненых. Ёй патрэбна дапамога. І, мабыць, лёс злітаваўся, урэшце, і паслаў ёй гэтага Хведара. Даверыцца яму цалкам? Не, не! Як гэта ён кажа? Бядой, маўляў, ма-

ла вучаная... Не, яна ўжо навучаная! Спачатку трэба аб усім дазнацца, да ўсяго прыгледзецца, пераканацца, што памылкі няма і не будзе...

Як тое зрабіць, Наста дакладна не ведала. Але цяпер у яе быў нейкі пэўны план дзеянняў, і яна паспакайнела, і ў яе адразу крыху адлягло ад сэрца. І адразу нібыта другі зрок зрабіўся, і яна ўпотай пачала да ўсяго прыглядацца. Утульная якая тэраска — ва ўсім адчуваецца клапатлівая рука жаночая, добрай гаспадыні. Чысценькія фіранкі, коўдрачкі саматканыя на падлозе. Дзверы ў хату зачынены, а на падворак — нахлашч. Весніцы з негабляваных штакецін з падворка ў палісаднік таксама адчынены, добра відаць вузенькая сцежка, абціснутая з абодвух бакоў кустамі агрэсту. Агрэст буйны і спелы, аж свецяцца вялізныя васковага колеру ягадзіны. І цішыня якая! Ажно звініць увушшу. А малако смачнае, халодненькае. І жытнік свежанькі. Смакаты гэткай і есці, здаецца, не даводзілася. А як уважна на яе пaглядаюць валошкава-сінія, як дзявочыя, Хведаравы вочы.

— Другую табе налію,— ён узяўся за ўчарнелы ад часу гладыш, аплецены знізу палоскамі з бяросты; панізу, ля донца, абкрутка была падноўленая, нядаўняя; ручка гладыша адбітая, і таксама, відаць, нядаўна — гліна на зломе блішчастая, бы разрэзаная жоўтая сліва.

— Дзякую. Другую я ўжо апаражніла.

— А ты не лічы. Пі і еш, пакуль рот свеж. І не саромся.

— Дзякую. Колькі за хлеб і малако я вам вінна?

— У-ух ты! Ганарлівая, ды шчэ і на грошы багатая!

Яна паклала на стол жмут чырвоных трыццатак. Хведар памацаў іх, развёў веерам, як бы пералічваў. Ажывіўся:

— А мы з табою — аднаго поля ягадзіны. Хведар — бульбачку з калгаснага поля крадзе. А Зіна, што не з нашага магазіна,— банк недзе абрабавала. Забач! Нумар за нумарам на трыццатачках. Значыцца, па руках грошы шчэ не хадзілі.

Наста адлічыла дзве трыццаткі.

— Хопіць гэтага?.. Тады дзякую за ўсё. А мне трэба ісці.

— І ганарлівая, і на грошы багатая, і на нагу ско-

рая,— засмяяўся Хведар.— А ты пасядзі крышку ды паслухай, што я табе, свайму хаўрусніку па крадзяжы бульбачкі калгаснай, скажу. Табе патрэбны харч, сама прызнавалася. Бульбы многа на сабе не пацягнеш. І што тая бульба! Сала, хлеб, соль — без гэтага ў лесе не абысціся. І тое, і другое, і трэцяе ты сёння за грошы калі і купіш, дык у адной жменьцы панясеш. Грошы цяпер — папера пустая. А вось за боты, якія ў цябе на нагах,— тое-сёе выцыганіш. І пазбаўляцца табе ад іх трэба як найхутчэй.

Яна нават засмяялася ад гэтае настырнасці.

— А дзеля чаго гэта я павінна ад іх пазбаўляцца? Мне ў іх і добра, і зручна, і не мулка.

— Затое тупаюць яны гулка. І кожнаму вочы муляюць. Цяпер людзі не фасоняцца, лахманы і транты надзяваюць. А ты ў якіх ботах шчыгаляеш? Армейскія, камсастаўскія хромавікі! Ды першы паліцай на іх вока адразу пакладзе. Учэпіцца і жыўцом здзярэць.

— На тое вока ў мяне накідка ёсць. Адразу высмалю,— сказала Наста, адчуваючы, што жартаваць тут не выходзіць.

— Адно вока, можа, і высмаліш. А раптам тузін іх? Гаўкнуць гэтак, што дзесятаму закажаш. Так што здымай абутак камсастаўскі. Мы яго на сала і соль памяняем. А ты скараходы надзенеш...

Не ўстаючы з нізкага зэдліка, Хведар адчыніў дзверы ў хату, запусціў руку за высокі, пафарбаваны ў яркі бардовы колер парожак і выцягнуў мужчынскія чаравікі з высокімі халяўкамі.

— У самы акурат падыдуць,— сказаў ён дзелавіта.— Тут і шкарпэткі ёсць. Надзявай.

І зноў, нібыта загіпнатызаваная, Наста рабіла тое, што ёй загадна раіў Хведар. Сухія халаднаватыя шкарпэткі прыемна лашчылі ёй скуру. І шнуркі забэрсваюцца лёгка. Добрыя чаравікі, мяккія, нагам у іх слаўна. Як спецыяльна стаялі за парогам хаты і чакалі Насту.

— Бачыш? Як на цябе шытыя,— сказаў Хведар, нібыта зноў падслухаў яе думкі.— Так што ідзі ў адрыну і кладзіся адпачываць. Там свежае сянцо. А я тым часам боты твае на сала і соль памяняю. Жыве тут непадалёчку адзін чалавечак, які на іх адразу пакваліцца.

— Мне трэба ісці. Я пайду.

— Ты слухай, што табе раяць. І ніхто цябе не па-

трывожыць. Мяне тут не будзе гадзіны са дзве. А кабета мая толькі заўтра вернецца. Абяцала, што а дванаццатай і вернецца. От жа ліха на маю галаву,— Хведар нечакана кінуў позірк на ходзікі, што віселі ў кутку тэрасы, імклівым рухам адчыніў дзверы.— Зараз жа зводку даюць. А я тут пра соль ды сала з табой талкую...

Ён знік у хаце, пакінуўшы дзверы напаўадчыненыя. Нешта віскатнула ў пакоі за дзвярыма, быццам смарганулі жалезам па дошках, потым мякка грукнула, рыпнула, звягліва рыпнула крэсла. І тады раптам пачуўся не вельмі гучны, але выразны голас з дынаміка:

— Гаворыць Масква. Перадаём навіны дня. Ад Савецкага інфармбюро...

Наста замерла. Ад хвалявання ў яе знаёма высахла ў роце, забухала, закалацілася сэрца. Прыёмнік! Гэта ж прыёмнік уключыў Хведар! І Масква перадае зводку аб падзеях на фронце!

Яна стаіла дыханне, слухала з такім напружаннем, што аж балюча закалола ў скронях. Яна пацерла скроні і адчула, што далоні ў яе робяцца мокрыя — далоні ляжалі на шчоках, і на іх цяклі з вачэй слёзы. Пальцы краталі скроні, а далоні прыкрывалі вочы, і яна адчувала яшчэ, як торкаюцца ў скуру гнуткія мокрыя вейкі.

...Стаўка Вярхоўнага камандавання пераўтворана ў Стаўку Вярхоўнага галоўнакамандавання. Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР прызначыў таварыша Сталіна Вярхоўным Галоўнакамандуючым Узброеных Сіл СССР.

...За мужнасць і гераізм у партызанскай барацьбе ў тыле супраць фашысцкіх захопнікаў Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР узнагародзіў ордэнамі і медалямі вялікую групу беларускіх партызан. Гэта першыя партызаны Вялікай Айчыннай вайны, якія ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі Савецкага Саюза.

...Выдадзены загад Ваенна-інжынернага ўпраўлення Чырвонай Арміі аб неадкладным разгортванні будаўніцтва абарончага рубяжа і спецыяльных збудаванняў знешняга пояса абароны Масквы.

...Авіяцыя Чырванасцяжнага Балтыйскага флоту нанесла першы бомбавы ўдар па ваенных аб'ектах праціўніка ў Берліне.

Голас дыктара раптоўна змоўк. За дзвярыма ў пакоі нешта знаёма віскатнула, быццам смарганулі жалезам па дошках, звягліва рыпнула крэсла, і на тэрасу выйшаў Хведар. Твар яго быў хмурны і замкнёны, прыжмураныя вочы глядзелі на нейкую кропку на падворку.

— Кепска, значыцца,— глухавата прамовіў ён.— Учора перадалі, што дзве нашы арміі вырваліся з кола пад Смаленскам і арганізавалі абарону на рубяжы рэчак Воп і Дняпро. А сёння — каб табе слоўца пра падзеі на фронце. Звычайна дык кажуць, што на асобных участках фронту нашы войскі вядуць цяжкія абарончыя баі. А сёння і гэтага не сказалі. Адно толькі радуе, што не тоімся, гаворым пра рубеж абароны пад Масквой. Значыцца, ёсць сіла, калі ўслых пра тое гаворым.

Ён, прыгорбіўшыся, узяў Насціны хромавікі, выйшаў з тэрасы і знік за дашчанікам. Амаль адразу ж і вярнуўся, несучы нейкі невялічкі згортак у руках. Моўчкі ўзяў Насцін рэчмяшок, паклаў туды згортак і, засмаргнуўшы шлейку, патлумачыў:

— Сала і соль тут. Я наўрад сёння хромавікі памяняю. Таму бяры з таго, што маю. Адпачнеш у адрыне і пачакаеш мяне. Я неўзабаве вярнуся. Дачакайся мяне, не ўцякай.

— А раптам хто прыйдзе? Што мне казаць?

— Сядзі і чакай. Я вярнуся.

Нічога больш не патлумачыўшы, ён давёў Насту да невялічкай адрыны, што ўпіралася адным франтонам у рагатую яблыню, і знік у садзе. У адрыне прыемна пахла свежым сенам. Наста ўгледзела ў кутку ў ямінцы, кімсьці ўлежанай, скамечаную посцілку, расправіла яе і лягла. Дарэшты стомленая, ляжала, раскашавала на мяккім сене. Гулі ногі, а па спіне зрэдзьчасу пракатваўся непрыемны азноб. Усе прыгоды ўночы і сёння ўдзень здаваліся ёй дзіўнымі і неверагоднымі. Але былі яны як бы недзе далёка, як бы ўдаўніліся: жыў у вушах, хваляваў і непакоіў голас з дынаміка, які яна пачула нядаўна. Яна сілілася разважаць спакойна, лагічна і паслядоўна. Аднак нічога з гэтага не атрымлівалася, думкі блыталіся, пераскоквалі ■ аднаго на другое, хвалявалі, радавалі і разам з тым выклікалі пачуццё скрухі, разгубленасці і няпэўнасці. Вось урэшце пачула яна тое, чаго гэтак прагла ўвесь гэты час, пачынаючы ад таго дня, калі пайшоў

Грач. А дзе радасць? Дзе заспакаенне? Хто гэты Хведар і адкуль у яго прыёмнік? Чаму ён гэтак давярае ёй, не тоіцца, не баіцца? А слухае ён Маскву, мабыць, штодня. І як жа сёння засмуціўся і растрывожыўся! І сапраўды, аніводнага ж слоўца пра падзеі на фронце. Учора, значыцца, Хведар чуў, што нашы войскі, акружаныя ля Смаленска, вырваліся з кола і горад пакінулі. Хаця ж не, чаму ж гэта яна лічыць, што пра падзеі на фронце нічога не сказалі! Нашы ж самалёты — упершыню! — бамбілі Берлін. Бамбім, значыцца, Берлін і адкатваемся да Масквы? Нешта тут незразумелае. Але ж сказалі тое не цішком, па радыё перадалі, не тоячы, што, маўляў, ствараецца знешні рубеж абароны Масквы. Хведар, такім чынам, слушна заўважыў: не тоімся, гаворым, дзе ствараем рубеж абароны. Гаворым таму, што ёсць сіла і ёсць вера ў гэтую сілу. Значыцца, нашы разлічваюць пусціць ворага яшчэ далей, пусціць да самай Масквы, каб потым змалаціць яго на тым абарончым рубяжы і пагнаць, пагнаць назад? І пагонім! Пагонім мы фашыста назад! Першыя бомбы ўжо ляглі на Берлін, на тое логава шашка паганага, Гітлера. Будзе пакаранне, будзе адплата!

Наста верыла ў гэта ад першага дня вайны. Але цяпер, калі гэткая выснова атрымала новае і зусім пэўнае пацвярджэнне, яна адразу паспакайнела. Але няпэўнасць, што гэтак вярэдзіла сэрца ўвесь апошні час, засталася і нават яшчэ больш памацнела. На фронце будзе парадак — гэта ясна. А вось што рабіць ёй, Насце? Давяраць Хведару гэтак жа, як ён давярае ёй? А можа, толькі ён выгляд робіць, што давярае, гуляе ў той давер, каб пераканаць яе ў тым даверы, а потым узяць за горла?.. Але ж дзеля чаго? Каб дазнацца пра тых трох параненых, што ляжаць на нарах у склепе ля балаціны, і знішчыць іх? Не дужа вялікі набытак яму, Хведару, у такім выпадку. Значыцца, тут нешта іншае. Але што? Хведар, па ўсім відаць, не паганы чалавек, не здраднік. Наш ён чалавек, савецкі, і давяраць яму Наста павінна. І не толькі давяраць: ёй, Насце, патрэбна яго дапамога!

Яна зноў прыйшла да высновы, якую ўжо рабіла, і пачынала лічыць, што ў яе разважаннях усё правільна і лагічна. Мажліва, сюды, у гэтую хату, што стаіць наводшыбе ад вёскі, і трэба перавезці параненых. Нават не ў хату, а сюды, у гэтую адрыну, схаваную ад чу-

жога вока старымі яблынямі. Можна ж дзверы зрабіць у тым франтоне, што павернуты ў бок саду, дык тады ўвогуле будзе добра. А зрабіць гэта лёгка — адарваць пару аполкаў, толькі таго клопату. І сырызны тут няма, не тое што ў тым склепе ля балаціны. Слаўна як пахне свежым сенам. І посцілачка мяккая, і лежыва ўтульнае. Паспаць тут — раскоша. Але спаць нельга. Хведар што загадаў? Сядзі і чакай. А яна ўжо і мысліць, каб паспаць. Не, трэба чакаць Хведара. Дачакацца, пагаманіць з ім на поўны давер... Недзе, здаецца, гудуць самалёты. У лесе, ля балаціны, рэдка было відаць, каб ляцелі самалёты. Гулі яны грузна, цяжка, грозна. А тут нейкі слабы гул. І набліжаецца дужа ж імкліва. Ды не самалёты гэта! Машына недзе паблізу загула!

Наста падхапілася, імкліва села. Так, яна не памылілася. Машына гэта! І спынілася машына побач, ля хаты. Бразнулі дзверцы кабіны, цяпер другія. Гаворка нямецкая... І голас Хведара — гулкі і гучны голас:

— Мая гэта хата! Мая!

Насту працяў халодны азноб. Дачакалася! І каму, дурніца, паверыла! Ды не проста пасадзіў Хведар яе ў гэтую адрыну. У пастку заманіў, нават драбіны адкінуў, каб не ўцякла! Але ж яна гэтак проста ў рукі ім не дасца. І першая куля будзе яму, здрадніку гэтаму клятаму!

Яна выцягнула парабелум з кабуры, падпаўзла да вузкай дзверыны ў франтоне адрыны, стаілася. Шчыліна ля завесаў шырокая, і добра праз яе відаць. Машына стаіць ля саменькай хаты, за язмінам, відзён толькі зялёны задні борт і бліскучыя ланцужкі на круках. І Хведар крочыць, узмахвае рукою, паказвае на хату, быццам нешта сіліцца змахнуць са сцяны. Следам за ім сунецца нехта ў чорным пінжаку, з карабінам на плячы. На рукаве пінжака шырокая белаватая навязка, і нейкая палоска на ёй. Немец у расхрыстаным фрэнчы тэпае ўсцяж штакетніку, сцёбае пугай трыпутнік. Цяпер вось спыніўся нечага ля палісадніка. Э, нахіліўся над мальвай, водзіць носам па буйных фіялетавых кvятах — з насалодаю нюхае.

— Я ж не таюся, зноў вам кажу, пан стараста,— і гучна і звонка зазвінеў Хведараў голас.— Не хацеў я везці яе, сырую, у зямлі перакачаную, на станцыю. Каб асохла добра. А тады, сухую, я б і павёз.

— Загад быў які? Выбраць і везці. А ты чаго парушаеш? Вось цяпер на гарбе сваім пацягнеш. Я чалавек добры, таму палёгку дам: ад мяха аднаго цябе пазбаўлю — на машыну грузі. А другі — на гарбе будзеш пурыць!

Мужчына з карабінам на плячы стаяў цяпер зусім блізка, тварам да адрыны, і Наста пазнала яго. Гэта ж той таўсматы, што быў на падворку ў прадаўшчыцы! Так, ён! Стараста, выяўляецца. А Хведар не здраднік! Ён знарок гэтак гучна гаворыць, каб чула яна, Наста, каб папярэдзіць, ад бяды засцерагчы!

Хведар выцягнуў мяхі з бульбай на падворак, стаяў ля іх, нечага чакаў. Але ў бок адрыны ён не глядзеў.

— Чаго спыніўся? — рыкнуў таўсматы.— Цягні на машыну.

— Цяжка ўзняць аднаму.

— Жонку пакліч. З ёю, мне перадалі, вёз бульбу.

— Набрахалі вам, пан стараста. У мяне братавая захварэла, дык жонка да яе паехала. А пагрузіць мяхі нейкая бежанка дапамагла — ішла дарогай. Хлеба ёй даў, яна і дапамагла.

— Бежанка? Жыдовачка, мабыць, як і той раз? Дзе яна?

— Пайшла. На Полацк, сказала, ідзе.

Таўсматы пагразіў Хведару кулаком:

— Ну, Дубчонак, глядзі ў мяне. Шчэ раз якую-небудзь бежанку без майго дазволу прывеціш — правучу і галаву далоў. Грузі мех.

— Я кажу, што цяжка аднаму, не ўзняць. Хай гэты вунь, што мае кветкі нюхае, дапаможа. Ім жа бульбу вязем...

— Т-ты! — таўсматы скінуў карабін з пляча і дулам тыцнуў Хведару ў бок.

Падышоў немец у расхрыстаным фрэнчы, стаяў, раскарачыўшы ногі, глядзеў на хату і сцёбаў пугаю трыпутнік. Хведар, сагнуўшыся, перакуліў мех і пацягнуў па зямлі. Таўсматы нешта сказаў немцу, і той, ледзь Хведар абапёрся на мех з бульбай, каб перадыхнуць, вызверыўся, хвастануў Хведара пугай па спіне:

— Фауль русішэ гунд. Фэрфлюхтэр. Лё-ёўс!

Засцерагальнік зрабіўся як бы мяккі, Насце падалося нават, што ён пачаў плавіцца ад цяпла яе пальцаў. А потым адразу зрабіўся каляны, і скура адчула паліраваны гладкі метал.

«Спачатку па гэтым, што бліжэй стаіць. А тады — па немцу... Не, спачатку па немцу стрэліць, каб не шмыгануў у палісаднік. А гэты таўсматы не ўцячэ...»

Яна не загадвала сабе гэта, а проста адзначыла чарговасць таго, што зрабіць неабходна. І ў гэты момант Хведар павярнуўся, махнуў рукою, быццам адпіхваў таўсматага, закрычаў:

— Не страляй! Чуеш? Не страляй!

— Нясі, нясі. Страляць не буду,— сыкнуў таўсматы.— Мы такіх, як ты, пакуль што толькі пугай вучым...

Левай рукой Наста адвяла ўказальны палец, як адарвала яго ад гладкага спуску, і сціснула моцна, аж урэзаліся ў скуру ногці. Яна заплюшчыла вочы і ляжала, адчуваючы, як уграваецца ў далоні ручка парабелума. Непрыемная халодная дрыготка калацілася па плячах, і шалёна бухала і калацілася пад рэбрамі сэрца. Гэта ж не таўсматаму, а ёй, Насце, крычаў Хведар! Гэта ж ёй загадваў, каб не страляла! Як ведаў, што яна прыцэлілася і палец трымала на спуску. І гэта ж паратунак, што яна не стрэліла. Відаць, на машыне ёсць нехта яшчэ, і Хведар, не ведаючы, як паведаміць гэта ёй, закрычаў, спадзеючыся, што яна зразумее! І рукой ён не на таўсматага таго махаў, а ёй махаў, ёй знак рабіў, каб не страляла!

Толькі цяпер Наста сцяміла, што ўтрымалася ад памылкі жахлівай. Стрэліла б яна, скажам, удала і першы і другі раз, зласжыла б гэтых, што на падворку. А далей? Немцы ж, напэўна, ёсць на машыне. Шафёр жа напэўна сядзіць у кабіне. А можа, іх, немцаў, там увогуле плойма. І варта ёй было стрэліць, як яны адразу б сыпанулі сюды!..

«Сядзі і чакай...»

Падалося, што гэтыя Хведаравы словы прагучалі зноў, прагучалі побач, і яна збянтэжана адплюшчыла вочы. Сцяўшы зубы, сілячыся суняць дрыготку, што сутаргавымі хвалямі калацілася па хрыбціне, Наста сачыла за тым, што робіцца на падворку. Таўсматы нечага пайшоў у хату. Немец круціць, выломвае доўгае, як верацяно, каліва мальвы, абсыпанае фіялетавымі кветамі. І Хведар неяк дужа ж паспешліва, як бы падпіхвае яго хто ззаду, вяртаецца ад машыны. Стаў ля мяха, паклаў адну руку на заматаны белым дротам хахол, пакручвае мех, ставіць тырчком.

— Чака-ай,— працягла, як бы просячы, працягла вымаўляе Хведар.— Чакай, мяшэчак. Зараз я цябе ўзніму. Аднясу, а потым дамоў вярнуся...

З хаты выйшаў таўсматы, сыкнуў зларадна:

— Паздаравеў, пугі дастаўшы! Нясі, нясі і не азірайся!

Хведар цягнуў мех на плячы і азірнуўся двойчы. Наста бачыла яго чырвоны ад натугі твар, моцна сцятыя вусны. У вушах у яе па-ранейшаму гучаў голас Хведара. Зноў ёй падалося, што голас гучыць побач, за спіною, і яна павольна і асцярожна, баючыся, каб не зашалахцела сена, азірнулася.

Калі яна зноў перавяла позірк на падворак, там ужо нікога не было. Зароў матор, і машына пакаціла ад хаты. Потым машына спынілася, матор працаваў на малых абаротах, і пачулася, прыглушанае адлегласцю, працяглае і злоснае:

— Лё-ёўс! Лё-ёўс!

Асцярожна Наста падлезла бліжэй да шчыліны ў франтоне адрыны. Цяпер яна бачыла ўвесь куст язміну і кавалачак затравелай дарогі. Зноў на высокіх абаротах запрацаваў матор, машына двойчы пасігналіла, і гул яе пачаў аддаляцца і неяк хутка, як адсечаны, аціх.

Наста доўга ляжала нерухома, па-ранейшаму сціскаючы ў руках парабелум. Потым паклала яго на краёк посцілкі, пакратала пальцамі халодны ствол з тоўсценькай мушкай на канцы, узялася расціраць знямелыя ад напружання пальцы. Нечакана агарнулі сумненні, і яны моцна вярэдзілі душу менавіта цяпер, калі бяда аддалілася. А можа, варта было страляць? Так, варта было. На машыне немцаў не было, толькі адзін шафёр сядзеў у кабіне. Дык чаму ж яна не стрэліла? Збаялася? Не, яна разумна, мабыць, усё разважыла. Ды, зрэшты, нічога яна і не разважыла, яна толькі зрабіла тое, што загадваў ёй Хведар. Адчайны яго покліч не страляць быў адрасаваны не таўсматаму! Ёй Хведар загадваў, каб не страляла. Ён і потым, калі стаяў ля мяха, хахол якога быў закручаны белым дротам, не з мяхом размаўляў, а з ёю, Настай. І размаўляў уголас, каб таўсматы ні пра што не здагадаўся, размаўляў, спадзеючыся, што яна, Наста, і пачуе і зразумее.

Зашалахцелі крылы, ціхае шурханне пачулася ўвер-

се над галавой, і Наста схапіла парабелум. Патрымала яго ў руцэ і зноў паклала на краёк посцілкі, уздыхнула з палёгкаю. Ды гэта ж нейкая птушка скача па вільчыку адрыны. Сарока! Спынілася цяпер пасярэдзіне, неяк ленавата зачачакала. Дзіўна як чачакае сарока. Аніколі гэтак зблізку не даводзілася чуць. Дзіўныя сіпатыя падгалоскі ў ленаватым чачаканні чуваць, і нават чуваць, як точыць цяпер дзюбачку аб краёк драўлянага вільчыка.

Наста канчаткова супакоілася. Няма, значыцца, нікога паблізу, калі сарока сядзіць на вільчыку — гэтая птушка анікога блізка да сябе не падпусціць. Самы час, мабыць, ёй, Насце, цяпер уцякаць адсюль. Не, трэба дачакацца Хведара! Яму можна ва ўсім давяраць. Гэтак яна і зробіць: дачакаецца Хведара, усё, нічога не ўтойваючы, яму раскажа. Ён і параду добрую дасць, і абнадзеіць, і дапаможа. І не толькі дапаможа. Тут яна зноў пачуе Маскву! Яна, Наста, вернецца ў лес, да балаціны, прынясе навіны ў склеп, дзе ляжаць параненыя, і яны хутчэй паздаравеюць, павераць ў тое, што ўсё будзе добра.

Думка пра тое, што цяпер яна не адна, што ёсць чалавек, з якім можна параіцца, на якога можна абаперціся, што цяпер скончылася няпэўнасць, скончылася невядомасць, і яна, Наста, будзе дакладна ведаць, што робіцца на фронце, узбадзёрыла, усё ў душы перайначыла на нейкі ўзнёслы і ўпэўнены строй.



## 18

Наста чакала Хведара аж да заходу сонца. Апоўзала, вывучыла ў адрыне, здаецца, літаральна ўсё да апошняга цвічка. Знайшла дзве жардзіны, якія ляжалі на бэльках незамацаваныя, і вырашыла, што можна выкарыстаць іх замест драбін, каб спусціцца на зямлю. Чаго толькі не плішчылася, не лезла ў галаву за гэты час. Але глушыла нядобрыя думкі, пераконвала сябе, што ўсё абыдзецца і яна неўзабаве пачуе крыху глу-

хаваты, як бы прастуджаны, але вельмі вясёлы і насмешлівы Хведараў голас. Аднак, калі ў адрыне зусім ацямнела, а ў вечаровым сутонні на яблынях белымі кроплямі засвяціліся яблыкі, у душы трывала асела перакананне, што марна спадзявацца на добрае: Хведара ёй не дачакацца.

«Аднясу, а потым дамоў вярнуся...»

Ёй, Насце, а не мяху з бульбай казаў Хведар. Значыцца, нешта з ім здарылася непрадбачанае. Здарылася непрадбачанае і, напэўна ж, паганае. Ён жа ведае, што яна тут. Ён жа знарок, як нешта прадбачыў, загнаў яе ў гэтую адрыну. А што было б, каб ён гэтага не зрабіў і пакінуў яе ў хаце? Таўсматы напэўна ж угледзеў бы яе і пазнаў абавязкова. Ды, зрэшты, пачуўшы машыну, яна б не ўседзела ў хаце, выбегла б на падворак, адразу да яго ў лапы!..

Зноў, як тады, калі яна ўбачыла і пазнала таўсматага на Хведаравым падворку, у яе спуджана закалацілася сэрца. Але адчуванне спалоху было кароткае, думкі імкліва і напорыста праясніліся. Хопіць ёй нудзіцца ў марным і непатрэбным чаканні. З Хведарам прыключылася бяда — нічым іншым яго адсутнасць не патлумачыш. Каб усё ішло добра, дык ён даўно ўжо быў бы тут. Відаць, ён не вернецца сёння, і невядома, ці вернецца заўтра. І ёй чакаць тут няма чаго. Ёй трэба вяртацца да балаціны, дзе яе чакаюць, можа, з яшчэ большай трывогай, чым яна чакае Хведара. Трэба апусціць жардзіны, па іх спаўзці на зямлю будзе лёгка.

Аднак, перш чым зрабіць гэта, яна зноў спрабавала аналізаваць тое, што ж магло прыключыцца з Хведарам, усё яшчэ спадзявалася, што ён раптам вернецца. Машына пакаціла ў бок Залесся. Дарога на станцыю ідзе ля хаты Сцяпаніхі. І Сцяпаніха напэўна ж ведае нешта, напэўна ж нешта бачыла. Хведар казаў, што Сцяпаніха чалавек наш, ёй можна давяраць. Сцяпанаўна ці Сцяпаніха? Пераблытаў ён? Можа, зусім іншага чалавека меў на ўвазе? Не, нічога ён не пераблытаў. Казаў жа, што Уладка ляжыць хворы, што не сцярпеў, нешта запярэчыў немцу і той адхвастаў яго жалезным прэнтам. А можа, не сцярпеў цяпер і сам Хведар, які Уладкаву нястрыманасць асуджаў?

Мажліва, мажліва...

Ад узнёслага і ўпэўненага строю, які быў пасяліў-

ся ў душы, нічога не засталося, зноў блыталіся думкі, пераскоквалі з аднаго рашэння на другое. Але цяглося гэта зусім кароткі час. Яна, Наста, абяцала, што ўвечары, як ацямнее, прыйдзе ў Залессе і паглядзіць таго хворага Уладку. Значыцца, усё гэтак і трэба зрабіць: выбрацца з адрыны, дабегчы да ўзлеску, дзе схаваны карабін, і рушыць на Залессе. І ёй трэба спяшацца. У-унь як яна блукала па лесе, калі ішла ад балаціны. А тут жа дарога зусім незнаёмая, толькі аднойчы хаджаная. І, акрамя таго, з Хведарам едучы, яна, хвалюючыся, па баках мала і глядзела. Не, дарогу яна прыкмеціла. І той куст ляшчэўніку, дзе схаваны карабін, яна знойдзе. Шкада толькі, што не давялося пры святле дня паназіраць з узлеску за вёскай. З яе, Насціных, планаў нічога не атрымалася. Але трэба сябе рыхтаваць і да горшага. Хто ж яго ведае, што чакае яе наперадзе!..

Старыя завесы не рыпнулі. Вузкая дзверына ў франтоне нібыта адчыніла новы свет. Не гэтак і цёмна шчэ на падворку, хмары на небе, маленькая аранжавая палоска на захадзе — сонца села па правы бок ад хаты. І які ж густы яблычны водар, і лёгка як дыхаецца гэтай волглай вечаровай прахалодай.

«Страляюць!..»

Пачуўшы далёкае сакатанне кулямёта, Наста не спалохалася, а адчыніла дзверцы аж да канца, слухала, намагаючыся вызначыць, у якім баку ўсчалася страляніна. Чэргі ішлі густыя, доўгія, нібыта звязаныя ў адзін грымлівы ланцуг. Здаецца, у Залессі страляюць, у тым баку. Не, Залессе ж зусім не там, яно недзе ў напрамку той вунь старой ігрушыны, што тоўстай цёмнай свечкаю ўзвышаецца ў канцы саду. А кулямёт строчыць зусім у іншым напрамку, недзе далёка-далёка за хатай; нібыта з-за страхі выкочваюцца гэтыя грукатлівыя колцы. І ў тым жа баку ўсчалася страляніна ўдзень, неўзабаве пасля таго, як выкаціла ад хаты машына. І там жа грымнулі два, не дужа моцныя, выбухі тады ж. І пазней грымнуў у тым баку выбух, дужа моцны, і следам, ледзь чутныя, доўга пакалі адзіночныя вінтовачныя стрэлы, нейкія запаволеныя, праз роўныя інтэрвалы.

«А можа, гад гэты таўсматы і да балаціны дапяў? Можа, там гэта зараз і страляюць?..»

Удзень, калі да адрыны далятала водгулле далёкай

страляніны і выбухаў, такой думкі не ўзнікала. Але цяпер, заявіўшыся, яна ўстрывожыла Насту і напалохала, спарадзіла даўкую і цяжкую згрызоту. Яна, добра пад'еўшы, раскашавала на свежым сене, ласавалася сакавітымі салодкімі яблыкамі, кінуўшы саслабелых ад ран людзей на волю лёсу. Хто ж іх там пакорміць? Хто ж ім раны перавяжа? Хто ж іх і абароніць?

Наста высунула з вузкай дзверыны адну жардзіну, потым другую, цесна злучыла канцы іх. Чым не драбіны? Дый не высака тут, можна, зрэшты, і саскочыць. Але па жардзінах лацвей, больш надзейна, не грымнешся долу. Цяпер што? Тужэй зашпіліць рэмень, пасунуць кабур з парабелумам на паясніцу, а рэчмяшок можна і проста кінуць. Не разаб'ецца!

Рэчмяшок мякка покнуў на трыпутніку. Але нейкае кароткае паленца, якое ён зачапіў, адляцела і гулка бэхнула па ніжніх вянцах адрыны. Наста аж за галаву схапілася: во якога трэтару нарабіла! А што, калі хто-небудзь сочыць за хатай? Ды не, нікога яна ля хаты не бачыла. Але ж кешкацца ёй тут не выходзіць, хутчэй усё трэба рабіць. Хутчэй, а галоўнае, больш абачліва, каб залішне грукату не нарабіць.

«Ну, дзякуй табе, адрына, за прытулак!»

Жардзіны прагнуліся, маленькія вострыя сучочкі драпанулі скуру ля правага запясця, і ў той жа міг Насціны ногі дакрануліся да зямлі. Падхапіўшы рэчмяшок, яна мітнулася пад абвіслыя ад яблык галіны і адразу ўбачыла сцежку. Падобна, што сцежка вядзе ў канец саду. Але не зашкодзіць, мабыць, хвілінаку счакаць, прыслухацца. Паводзіць сябе яна будзе асцярожна, абачліва. І кабур трэба перасунуць з паясніцы пад правую руку. І драпіну не пашкодзіла б чым-небудзь перавязаць, кроў жа сочыцца. Але ж чым ты яе тут перавяжаш пад яблыняй? Не бегчы ж у Хведарaву хату па нейкую анучку. Загоіцца драпіна, залізаць кроў ды трыпутніку лісцінку пакласці — яго тут поўна. І яблыкаў нападала, густа ляжаць у траве, быццам трос хто яблыню. Вецер удзень моцны быў, дый і збіраць тут іх няма каму, мабыць, сад нейкі вялікі і занядбаны. А яблыкі дужа буйныя, нават трошкі пляскатыя — гэткіх як не палову кошыка Хведар укінуў Насце перад тым, як адцягнуць драбіны. А што, калі яна яблычкаў трохі пакладзе ў рэчмяшок і параненым

занясе? Хведар не пакрыўдзіцца, ён жа абяцаў ёй бульбы насыпаць. Як гэта ён казаў? «Возьмеш сабе як падняць...» Вось замест бульбы яна і панясе яблыкі. А трава чамусьці зусім без расы. І вецер сухі, цёплы. Мабыць, дождж збярэцца.

Поўзаючы на каленках па сухой халаднаватай траве, Наста ўміг назбірала поўны рэчмяшок, аж матузам не было за што зачапіцца. Адсыпала крыху яблык, завязала рэчмяшок і ўскінула на плечы.

У канцы саду, куды яе вывела вузкая, але наўздзіў роўненькая і добра пратаптаная сцежка, Наста азірнулася. Хвілінку пастаяла, услухоўваючыся ў сухое шамаценне яблыневай лістоты. Сумненняў у яе не было. Правільна яна, вядома, робіць, што не дачакалася Хведара, не паслухалася яго парады: няма ўжо куды болей чакаць. Адзіны цяпер у яе шлях — Залессе. А адтуль — адразу ж да балаціны. Там жа людзі даўно счакаліся. Напэўна, нават і клянуць яе: кінула, маўляў, іх адных, уцякла, сваю галаву ратаваць узялася!..

Яна ўявіла сабе Канапельку, злоснага Буркуна і маўклівага Аўдошку і спагадліва паківала галавой. Не, яна іх не пакіне ў бядзе! І во ўжо зарадуюцца, калі яна вернецца, калі яблыкамі іх пачастуе. Ды што тыя яблыкі. Во ўжо будуць зайздросціць, калі пачне яна расказваць пра тое, што слухала Маскву!

Без асаблівых прыгод — дарогу адразу ж пазнала, ледзь перасекла лугавіну за садам — Наста дайшла да знаёмага ўзлеску. Адшукала незвычайна густы і шчыльны ўночы, бы склееныя ў адно, куст ляшчэўніку, з насалодаю скінула з плеч рэчмяшок і, стаўшы на калені, пачала шукаць карабін. Амаль адразу намацала пад шархоткім падсохлым лісцем халодны драўляны прыклад і адразу расслабілася. Як жа яна стамілася! І як жа намуляў плечы гэты маленькі рэчмяшок! І не скажаш жа, што паклажа вялікая. Шклянкі са тры солі ў мяшэчку, два брусочкі сала ды яблыкі паверх. Нібыта жалезныя яны, гэтыя яблыкі! Можа, крышку адсыпаць іх, каб лягчэй было — дарога ж немалая наперадзе. Відаць, гэтак і давядзецца зрабіць, бо хлеба пакласці няма куды. А Сцяпаніха абяцала хлеба прадаць. Не, хлеб яна і ў руках можа несці. А яблыкі гэтулькі пурыла, дык і далей пацягне. Яблычкаў параненым трэба паболей занесці, каб смак адчулі, пра які

ўжо забыліся, каб болей думалі пра дом, сад, наладную жытку, каб прага да жыцця мацнела...

Наста села побач з карабінам, потым прылегла, паклала галаву на рэчмяшок. Дзіва нейкае. Гузаваты, бы каменны, рэчмяшок, а галаве ляжаць на ім зручна, адразу нейкія і ямінкі адшукаліся. І сухая якая зямля пад гэтым ляшчэўнікам. Лістоты нападала шмат, яна падсохла, шухціць, ледзь рукой зварухнеш. А лянота такая, што і нават пальцам пакратаць не хочацца. Ляжы сабе, слухай, як шухціць уверсе голле. Неба праз голле зусім не відаць, цямрэча і ўверсе і наўкола. Паблізу толькі нешта і бачыш. А ўжо крыху далей — цямрэча, быццам сцяна. Але ж вось не заблудзілася, мясціну гэтую адразу адшукала. Малайчына яна, Наста. Але ж і хвалько разам з тым. Ты тады сябе ўхваліш, калі да балаціны датэпаеш, калі ў склеп увойдзеш. Так што хопіць раскашаваць. Рэчмяшок можаш тут пакінуць, яго, назад ідучы, можна будзе ўзяць. Узнімайся!

Двойчы загадвала сабе і ўсё сядзела, апанаваная лянотаю. І толькі за трэцім разам, стукнуўшы кулаком па калене, узнялася. Ногі не ішлі, яна клыпала памалу, як сляпая. Аднак на ржышчы, калі з правага боку ўдарыў у твар пругкі і працяглы парыў ветру і з нейкім сіплівым звонам залапатала ў вольхавым парасніку маладая асінка, санлівая кволасць зляцела адразу. Наста скінула карабін з пляча, пакрочыла з асцярогаю і з кожным крокам тэпала ўсё больш увішна і роўна.

Выбліснула наперадзе мядзяная кропка святла, і Наста адразу прыгнулася да зямлі. Светлая кропка згасла. Але тут жа зноў мігнула і цяпер свяціла доўга, але была як бы не на адным месцы, а ўвесь час дугалася, трымцела, як падскоквала, і неўзабаве некуды знікла. Падобна, што ў хаце Сцяпаніхі гэты агеньчык мітаўся. Можа, які знак ёй, Насце? Відаць, гэтак! Вунь зноў запаліўся гэты мігатлівы святляк, чырвоны і няроўны.

Наста прайшла яшчэ колькі крокаў у напружаным чаканні. Аціх за спіной сіпатлівы пошум асінавай лістоты, вецер мякка лашчыў узбуджаны і разгарачоны хваляваннем твар. Наста паправіла валасы, што скінуў вецер на вочы, і тады раптоўна спынілася і ажно прысела ад думкі нечаканай і жахлівай. Добры знак табе

мроіцца? А калі таўсматы ў засадзе сядзіць і пільнуе таго, хто з лесу ў вёску ідзе? Сядзіць і курыць, тулячы папяросіну, ад таго і мітаецца агеньчык, падскоквае!

Наперадзе, побач з мігатлівым светляком, пыхнуў новы, больш шырокі і трапяткі. Агеньчыкі як бы тузаліся, вялі нейкі карагод, і святло іх прапорвала чорную прастору. Раптам адтуль, як бы ад тых светлякоў, данеслася працяглае жаночае галашэнне. Слоў нельга было разабраць. Але голас быў жаночы, звінеў ён тужліва і жаласліва, кранаючы сэрца. А Насту гэтае жаночае галашэнне крыху заспакоіла: засады, значыцца, наперадзе няма. Бо калі хто сеў у засаду, дык не будзе ж галасіць, даючы аб сабе знак на ўсю ваколіцу. Нейкая бяда кагосьці з залесцаў напаткала: галосіць жанчына, бы па нябожчыку.

Наста ішла хутка, глядзела па баках уважна. Але нічога небяспечнага наўкола не прыкмячала — з усіх бакоў шчыльна абступала яе начная цямрэча. Толькі наперадзе, там, адкуль па-ранейшаму плыло тужлівае галашэнне, трапятліва ўздрыгвалі светлякі агню. Цяпер ужо аж чатыры кропкі мядзянага колеру дугаліся ў цемры і неяк імкліва наблізіліся. А цяпер вось яшчэ адна пыхнула, крыху воддаль ад іх, і ўсё ярчэй разгараецца, і ад святла яе выразна акрэсліваюцца абрысы тоўстага чорнага слупа. Падобна, што і стаіць там хтосьці, па левы бок ад гэтага дзіўнага слупа, які цяпер чамусьці святлейшы ўверсе. І голас нейкі, апрача галашэння, гучыць, слабенькі. Здаецца, што жанчыну, якая галосіць, аб нечым моліць дзяўчынка. Трэба, мабыць, прайсці яшчэ колькі крокаў і спыніцца, паслухаць... От жа ліха! Краёк баразны пакрышыўся, левая нага правалілася ў нейкую яміну. Добра, што ішла марудна. А каб бегла, дык і зламаць нагу магла б!

Наста прысела, і тады, нібыта яна націснула нейкі ўключальнік, з правага боку ўзляцела і пыхнула ўверсе ракета і заліла ўсё наўкола дзівосным аранжавым святлом. Небяспека на нейкі міг адступіла, знікла, і Наста зачаравана глядзела па баках, узіраючыся ў казачна прыгожыя шаты дрэў, пакатыя колкія пагоркі, чорнае і густое, бы шчотка, іржышча, яблыні ў садах і над імі блішчастыя коміны вясковых хат, глыбокую і чорную, бы ручай, разору, па якой ішла.

Разгледзела і доўгі чорны слуп, які быў зусім побач і ў які амаль і ўпіралася разора, па якой Наста ішла.

Не слуп гэта, а комін над прысадзістай печчу, што стала пасярод гарбатага попелішча.

І раптам да Насты дайшло: гэта ж хата Сцяпаніхі спаленая! Хата згарэла, але ж дыму і чаду не чуваць, бо вецер ад лесу рве, галавешкі раздзімае, яны і свецяцца светлякамі ўночы. І Сцяпаніха ўнька стаіць на каленях, бы моліцца, і галосіць. І нехта — падобна, што дзяўчына! — схіліўся над ёю, умольвае. Так, дзяўчыны гэта голас.

— Цётка Паўліна, хадземце. Мы ж ужо нічым яму не дапаможам. Хадземце, прашу вас!..

Заглушыўшы дзявочы голас, гулка і траскотна засакатаў кулямёт. Каляровыя пацеркі трасіруючых куль ляцелі нізка над зямлёй усё у адным і тым жа напрамку — над садамі вёскі ў бок лесу. Стралялі, мабыць, ад школы, якая стаяла на пагорку пасярэдзіне Залесся. Стужкі трасераў былі то белыя, то нейкія зялёна-блакітныя, то чырвоныя з сінімі закрайкамі, як буйное вуголле. Над садамі трасіркі несліся імкліва, потым удалечыні, ля лесу, рух іх запавольваўся, колер слабеў, і яны раптоўна знікалі, быццам правальваліся ў чорную ваду.

Нечакана кулямёт аціх, і тады зноў паплыло тужлівае самотнае галашэнне, і з яго выразна выбіліся словы Сцяпаніхі:

— А мой ты Уладачка, кветачка ясная!.. Гэта ж я, дурніца, не дагледзела... Цябе, неразумнага, не ўратавала! Магла ж я з таго прымусу на станцыю збегчы... А каб дома была, дык хіба ж дапусціла б я такую бяду?.. Ды я ж цябе б з агню выхапіла, на ручках вынесла... Ад куль паганых абараніла...

Наста слухала, прыціснуўшыся да зямлі, дрыжучы ад жаху і нейкага колкага холаду, які спавіў ногі і рукі і ўпарта поўз усярэдзіну, пад самыя рэбры, ціснуў каляным пасам сэрца. Не было сілы рухацца, не было сілы нешта рабіць, і Наста ляжала як прыкутая да неглыбокай і вузкай разоры.

Галашэнне перапыніў настойлівы дзявочы голас:

— Цётка Паўліна, хадземце ж! Цяпер жа нічога не паробіш. Бяду не паправіш.

А Сцяпаніха, як нічога не чуючы, вяла сваё, невядома да каго звяртаючыся:

— Гэта ж, ведаеш, усё Хведзька! Гэта ж ён майго падбіў, усё ён Уладку падвучваў: зброю збіраць трэ-

ба, зброю... I я, дурніца, чула. А вось жа не дапяла, што на гарышчы ён і вінтовачку прыхаваў, і гранаты, і набояў розных... Хведзьку я нічога не дарую. Ён жа дарослы, ён жа з розумам. Дык чаго ж ты малога хлопца на нож гоніш? Свайго ж сыночка ў Піцер адаслаў, шчэ да вайны...

— Цішэй, цётка Паўліна. Уночы чуваць далёка.

— Спалілі кветачку ясную, згарэў мой сыночак слаўненькі! Ну, Зосечка, дачушка, скажы ты мне, неразумнай, якая ўжо нічога не петрыць: навошта гранаты тыя ён кідаў? Уратаваў ён каго сваім гэтым страляннем?..

Згасла ракета, цемра пагусцела, абрысы коміна і печы зніклі, быццам пад зямлёю праваліліся. Аніводнага светлячка не было відаць цяпер на попелішчы, і з цемры плыў нейкі таропкі, паспешлівы дзявочы голас:

— Не сцярпеў ён, цётка Паўліна. Я ж вам казала, што было тут. Хведар мяшок з бульбай пурыць на гарбе, а немец яго пугай сцёбае. А стараста шчэ і прыкладам лупіў. А Хведар у крыві, усе рукі ў крыві, і твар у крыві, і валасы... Сілы няма ж ужо той мех цягнуць. А яны яго — хвастаюць. Немец дык той усё пугаўём па твары, па вачах... А немцы, што на легкавушцы прыкацілі, глядзяць і рагочуць і нешта крычаць, пальцамі торкаюць...

— Хай бы яны рагаталі, пакуль крывёю не сышлі!

— Вось жа ім і было, і Уладак ваш герой, цётка Паўліна. Ён немца таго забіў, каторы Хведара пугай лупцаваў. I стараста, гад пракляты, без ног ляжыць. Адбегаўся, не будзе па вёсцы лётаць ды прэнтам жалезным людзям рэбры ламаць. Не плачце, цётка Паўліна. Уладка ваш герой!

— А нашто ж мне тое геройства... Хай бы жыў сыночак, хай бы песні спяваў... О-ё-ёй, як жа яны з бацькам, са Сцяпанкам маім, тады спявалі! Сцяпанка кажа: ударым песню, сынок. I як салоўкі заспявалі-заліліся!.. «Утро красит нежным светом стены древнего Кремля...»

— Не трэба спяваць, цётка Паўліна. Уладкі няма, дык спяваць не трэба.

— Як гэта няма Уладкі? Ты што гэта мне галаву тлуміш? Сцяпанка вось толькі што прыходзіў і Уладку з сабой у армію забраў. Служыць, сынок, пойдзем

разам. Савецкую краіну ад ворагаў бараніць будзем. Разам яны і пайшлі — я ж бачыла!..

— Хадземце, цётка Паўліна, хадземце. Немцы зноў галасы пачуюць і страляць пачнуць. Сюды страляць будуць.

Высокай пранізлівай нотай узвіўся голас Сцяпаніхі.

— Сцяпанка, не глядзі на мяне! Страляй па іх, гадах, страляй. Гэта ж нелюдзі! Звяры гэта на нас наляцелі!

— Уцякайма, цётка Паўліна! Цётачка, бяжым адсюль. Чуеце? Блізка ж немцы крычаць!

Гучна бабэхнуў стрэл з вінтоўкі, блізка, як не за комінам спаленай хаты, і следам за ім кароткімі чэргамі захлебастаў кулямёт. Галасоў ля попелішча больш не было чуваць, і толькі злосна дудукаў кулямёт. Буйныя чырвоныя камякі пранесліся па правы бок ад Насты. Потым не трасіркі, а разрыўныя куля ўдарылі па коміне, выбіўшы агняны веер, з сухім трэтарам залопалі на ржышчы.

Прыціскаючыся да зямлі, Наста пачала адпаўзаць ад небяспечнага месца. Паўзці па вузкай разоры было цяжка, замінаў карабін, рэмень якога ўвесь час чапляўся то за ржышча, то за нейкае карэнне. Штораз Наста ярасна тузала карабін і ўсё паўзла і паўзла наперад. Потым, калі разора скончылася, ускочыла і пабегла па ржышчы ў бок лесу, які акрэсліўся цяпер у цемры чорнай груваcткай сцяной. Ёй падалося, што ззаду нехта бяжыць, сапе, сіліцца насцігнуць яе і схапіць за плечы, і яна бегла, высільваючыся, аглушаная буханнем сэрца.

Апамяталася толькі на ўзлеску. Мякка хлабыснулі па твары халодныя лісцінкі маладых бярозак, і яна спынілася, і нікога не ўбачыла за сваёй спіной, і зразумела, што ніхто не бег за ёю, што гэта гнаў яе жах. Яна спынілася і, абапіраючыся на карабін, зняможана хакала, ловячы ротам пахкае лясное паветра. Змахнула рукавом пот з ілба, працерла вочы і прагна ўзіралася ў бок вёскі, адкуль цяпер не далятала аніводнага гуку. Не відаць і светлякоў на попелішчы. Толькі вецер ціха шапоча ў вершалінах дрэў. Мо саснілася ёй усё гэта? Можа, у благім сне былі і светлякі на попелішчы, і галашэнне Сцяпаніхі, і таропкі дзявочы галасок, і лопанне разрыўных куль, як не ля самай галавы?..

Зноў пыхнула ракета. Але цяпер зялёная і, не разгарэўшыся добра, нібыта знічка, панеслася да зямлі. Яна шчэ не згарэла, след яе шчэ свяціўся ў начной цемры, як насустрач ёй панеслася новая, крэслячы свой след на чорным полагу ночы. Кола зіхатлівага цёмна-зялёнага святла з белай плямаю ўсярэдзіне на нейкі міг затрымалася ў чорнай высі і пачало марудна ападаць да зямлі, здавалася, што з нейкага аграмаднага чорнага вядра ліецца на дол густа-зялёная вада. Мяккае шалахценне лістоты яшчэ больш узмацняла гэтае падабенства, і Насце падалося, што тая зялёная вада падкаціла ёй пад ногі, студзіць ступакі. Наста нават нахілілася, абмацала рукою дол ля ступакоў, і пальцы заглыбіліся ў калянае, як з бляхі, дробнае лісце, што было як паслана па зямлі. От жа баязліўка якая! Здаецца, на брусклічніку яна стаіць. Знаёмы гэта брусклічнік! І крышку воддаль горбіцца знаёмы шацёр ляшчэўніку. Хай бы яшчэ крышку пасвяціла ракета, каб лягчэй было адшукаць рэчмяшок.

Ракета згасла. Наста пастаяла ў чаканні, прагна і ўважна да ўсяго прыслухоўваючыся. Вочы прызвычаіліся да цямрэчы, і наўкола як бы і пасвятлела крышку. Цяпер пад гэтыя доўгія галіны, што схіліліся да самай зямлі. Недзе ж тут, ля тонкіх камлёў, што растуць купкаю, яна і пакінула рэчмяшок. Так, вось ён, родненькі!

Наста, узрадаваўшыся, падгарнула мяшок да сябе і села на цёплую шархоткую лістоту. Пакрысе аддыхаўшыся, яна жахнулася, звязаўшы ў адно ўсё тое, што давялося перажыць на падворку Хведаравай хаты і пачуць тут, у разоры на ржышчы. Дык вось чаму, выяўляецца, не дачакалася яна Хведара ў Дзягілях! Немцы гналі яго з мехам бульбы на плячах аж да самага Залесся. І сын Сцяпаніхі, Уладка, убачыўшы такое, не сцярпеў, стрэліў з гарышча і кінуў гранаты. Ён, вядома, разлічваў, што ўратуе Хведара, якога, безумоўна, ведаў. Гэта ж, відаць, яму, Хведару, гразілася нічога не даравоць Сцяпаніха. Яна яго вінавациіла ў смерці свайго сына, у тым, што той падбіў малога хлопца збіраць зброю. Мабыць, страляніна, якую Наста чула, лежачы на вышках адрыны, і выбухі тыя былі тут, у Залессі.

«Ваш Уладак герой...»

Хто ж яна, гэтая дзяўчына, што супакойвала Сця-

паніху? Паспрабуй даведайся цяпер. А трэба было б даведацца! Нельга было бегчы з таго поля, трэба было не чакаць, а адразу ж падысці да Сцяпаніхі, сказаць хоць слоўца суцяшэння. А яна, Наста, напалохаўшыся разрыўных куль, якія, вядома ж, былі пасланы наўгад і не дужа і блізка лопаліся, кінулася наўцёкі. А можа, адзіна правільнае, што яна магла зрабіць там, на тым іржышчы, дык гэта тое, што яна і зрабіла: бегчы да лесу. Ну, скажам, не пабегла б яна, дык што б сказала суцяшальнага маці, якая шалёна галосіць ад гора, аплаквае забітага сына? Дый, урэшце, хто яна, Наста, Сцяпанісе? Чужы чалавек. Хіба ж суцешылі Сцяпаніху словы той дзяўчыны? А дзяўчына тая добра Сцяпаніху ведае, тут сумненняў няма. І смелая, адчайная галава. Прыбегла ратаваць чалавека ў бядзе, дапамагчы ў горы — і ніякіх тых разрыўных куль і ракет не збаялася. І Уладка сапраўдны геройскі хлопец. Не сцярпеў здзекаў з чалавека, не збаяўся, не раздумваў, а дзейнічаў смела і адчайна — пра сваю галаву, напэўна ж, не думаў. А яна, Наста? Ды гэта ж яна потым цішком сябе суцяшала і пераконвала, што Хведараў загад выконвала, яго словы зразумела. А можа, ніякага загаду ў тых словах не было? Можа, зусім іначай ёй было трэба зразумець словы, якія яна пачула на вышках адрыны? Ёй, мабыць, трэба было страляць! Немец жа стаяў зусім побач. І стараста, гад той таўсматы, таксама быў блізенька ад яе. Яна б пацэліла! Яна б і Хведара тады ўратавала, і не згарэў бы ў агні Уладка. Каб яна тады стрэліла, дык Хведар паспеў бы выхапіць зброю ў таго таўсматага, і з шафёрам — а ён жа адзін, выяўляецца, быў у кабіне! — яны б лёгка ўправіліся. А вось жа не стрэліла! Глядзела, як лупцавалі Хведара, і вышуквала апраўданні свае баязлівасці і бязвольнасці. Вось і ляжы цяпер тут, у лесе, у цёмным кутку, ляжы адна, у паганай адзіноце, ірві сабе сэрца згрызотаю!

Яна аж застагнала ад болю і роспачы, сціснула ў руках карабін. Дарэмна, дарэмна яна не пайшла тады на поле з карабінам, калі выходзіла ўранні з лесу! Каб там, на вышках адрыны, быў з ёю карабін, яна, мабыць, не вагалася б. І тады зараз усё было б іначай. Але што ж бедаваць па тым, чаго не вернеш! Трэба ёй думаць пра тое, што цяпер рабіць, думаць пра тое, як зараз памылкі не зрабіць. І трэба ўсё ўзважыць, ду-

мацьспакойна, не спяшаючыся. Значыцца, што ёй варта рабіць у першую чаргу? Бегчы шукаць Сцяпаніху і тую незнаёмую дзяўчыну. Яны павінны ведаць, што здарылася з Хведарам. А яна ж, Наста, нават не ведае прозвішча Хведара. Але ж Сцяпаніха ведае, напэўна ж ведае. І дзяўчына тая напэўна ж ведае. Толькі ж дзе ты Сцяпаніху і тую дзяўчыну знойдзеш? Але, скажам, знайшла. Сцяпаніха як не ў сваім розуме цяпер, яна ж загаворвацца пачала, ля попелішча седзячы — ад яе яна, Наста, аніякай дапамогі, аніякай парады не атрымае. А дзяўчына тая ёй, Насце, давяраць не будзе. З чаго тут даверу нарадзіцца? Але ж вось Хведар давяраў ёй, Насце, ад першай хвіліны, ад першага пагляду. Але ж Хведар бачыў яе раней, з Шаплыкам калі яна каціла. Значыцца, ёй, Насце, патрэбен Хведар. Толькі ж вось дзе яго зараз адшукаць? Бегчы назад, у тыя Дзягілі, дзе стаіць яго хата? Ды няма ж яго ў той хаце. Мажліва, яго ўвогуле няма ў жывых. Мажліва, і ён быў забіты ў Залессі. Страляў з гарышча Уладка. Але стралялі і немцы. Тая дзяўчына, што суцяшала Сцяпаніху, казала, што нейкая легкавушка была, і немцы былі, якія рагаталі, калі Хведара сцябалі пугай... Не, Хведар не быў забіты ў Залессі. Ён патрэбны Насце жывы. Ён жывы! І яна яго знойдзе!.. Зараз ёй трэба вяртацца назад, да балаціны. А потым, праз дзень-другі, вярнуцца сюды, на гэты ўзлесак. Адсюль — дарога ж ёй знаёмая! — падбегчы ў Дзягілі, адшукаць Хведара: калі ён жывы, ён за гэты час вернецца дамоў. Наста павінна яго знайсці. Яна знойдзе яго абавязкова! А цяпер — у дарогу! Цяпер — туды, да балаціны!..

Наста паднялася, закінула рэчмяшок за плечы, павесіла карабін на грудзі і ўзрадавалася. Гэта ж вельмі зручна, калі карабін вісіць на грудзях: адзін локаць на ствол паклала, другі — на прыклад. Нібыта на лавачцы ляжаць твае рукі. І матузы рэчмяшка можна падтрымліваць, каб не дужа моцна ўразаліся ў скуру!..

Наста хутка ішла па лясной пуцявіне, пазнавала знаёмыя павароткі. На другім ад лубінавага шнура скрыжаванні лясных пуцявін прыпынілася на момант, згадаўшы, як у гэтым месцы павярнула ўчора не ў той бок і заблудзілася. Пуцявінкі аднолькавыя амаль, адна на адну дужа ж падобныя, і яна тады гаравала, палічыўшы, што трапіла ў бяду. А гэта ж і не бяда

зусім, а нейкая недарэчнасць, просты недагляд. Сапраўдная бяда там, дзе Наста нядаўна была, дзе пыхалі ў цемры галавешкі, што засталіся і ад хаты, і ад таго, хто некалі ў ёй жыў.

Наста зноў роўна і спорна тупала па лясной пуцявіне, і жаху ў душы не было. Згадвала, як галасіла ля попелішча Сцяпаніха, згадвала суцяшальныя словы незнаёмай дзяўчыны і спрабавала ўявіць сабе Уладку, якога ніколі не бачыла. Аблічча незнаёмага хлопца аніяк не акрэслівалася, і ў душы жыла, не праходзіла прытоеная згрызота. Магла ж яна, Наста, уратаваць Уладку. Вельмі проста магла! Ды не, гэта тут, у лесе, калі ніякай небяспекі няма, усё бачыцца простым і лёгкім. А ты згадай, як калаціліся рукі і халодная дрыготка працінала плечы, як палахліва бухала сэрца... У гэткім стане наўрад стрэліш дакладна. Хай сабе і стрэліла б дакладна, пацэліла ў немца, а гад той таўсматы мог паспець мітнуцца за хату. Ды шафёр з кабіны выскачыў бы яму на дапамогу... Не, з яе стрэлаў наўрад што добрае атрымалася б, і Хведар гэта адразу сцяміў.

«Не страляй!..»

Ёй ён гэта крычаў. Ёй, Насце!

Яна ішла і радавалася, што пазнае знаёмыя мясціны, і ўсё здавалася ёй лагічным і натуральным у разважаннях, якія даймалі штохвілінна. Але спакою ў душы не было. Думкі пра мажлівасць ўратаваць Хведара, мажлівасць, якая ў яе ўсё-ткі была і якую яна не выкарыстала, па-ранейшаму прыгняталі, і ад іх Насце рабілася моташна. Пацяжэў і рэчмяшок, і не гэтак ужо, выяўляецца, зручна цягнуць карабін на грудзях: рэмень шыю муляе, прыклад давіць на рэбры, а бубачка затвора ціснe гэтак, што, здаецца, зараз прапора скуру. А шчэ ж ёй ісці і ісці. Яна ж шчэ нават да той палянкі, дзе лубін расце, не дайшла. Але, здаецца, неўзабаве той бярэзнік, за якім пачнецца малады соснік, што атуляе лубінавы шнур, на ўскрайку якога пахаваны Вахтанг. Каб жа толькі датэпаць, каб жа дацягнуць да той палянкі гэты цяжкі рэчмяшок. Быццам жмэнда якая, насадзіла торбу яблык, магла б і паменей узяць. І парабелум можна было б не браць, хапіла б аднаго карабіна, і не рэзаў бы цяпер рэмень, на якім вісіць кабур, паясніцу, быццам вострым нажом. Не, карабін не трэба ёй было браць. А яна? Паначап-

ляла на сябе гэтай няшчаснай і непатрэбнай зброі!.. Дзеля чаго? Дзеля чаго яна павінна рухацца сагнуўшыся, бы бабуля якая, і пурыць на сваім гарбе гэты кляты рэчмяшок? Толькі таму, што ёй падалося: чакаюць, о-ох як чакаюць там, ля балацiны, яблычкаў? Мажліва, чакаюць. Але ж чаму менавіта на яе плечы лёс усклаў клопат пра Канапельку, Буркуна, Аўдошку? Чаму яна павінна дбаць пра людзей, якіх ніколі раней не страчала, якім яна анічым не абавязана? Чаму?!

Думкі былі не новыя, яны прыходзілі да яе і раней, і яна знаходзіла на іх пэўныя тлумачэнні і гасіла раздражнёнасць, як толькі згадвала Грача. Цяпер яна зноў згадала Грача, і знаёмая палёгка не прыйшла, аніштo не прынесла раўнавагі. Што абыходзіць Грачу? Ён загадаў і пайшоў. Яму, Грачу, лёгка! Наабяцаў, разварушыў душу і знік. А ёй адно толькі і пакінуў: рызыку, працу і чаканне. Дык што ж, сто гадоў ёй тут чакаць, блукаць па вёсках, цягаць гэтую паклажу, абліваўцца потам, калаціцца ад жаху? Дзеля чаго? Ды хай яно ўсё коціцца к чорту! Хопіць! Заўтра яна ранкам возьме каня, прыцягне калёсы з таго сосніку — яна зараз праверыць тую схованку, праверыць! — і адвязе параненых у Дзягілі. У Хведараву хату адвязе! А яна, Наста, пойдзе сваёю дарогай. Яна маці пойдзе шукаць! Маці таксама была параненая, ёй, можа, шчэ большая дапамога патрэбна. А яна, Наста, сваю маці кінула і аб чужых людзях клапоціцца.

Успамін пра маці выклікаў пякучы боль, як ніколі раней моцны і доўгі. І гэты боль, і згрызота, што ўсё яшчэ прыгнятала, і крыўда на Грача, і крыўда на свой гаротны лёс, і паганая рэзь у вачах ад поту, і сухасць у горле ад стомы — усё гэта сплялося ў незразумелае адчуванне, у якім не было пачатку і не было канца і якое выпетрывала, марозіла душу неадступна і ўпарта. Разумныя пярэчанні, што ўзнікалі — не адна ж яна ў гэтай віхуры, не на адну яе бяда навалілася, не ўсё ж, зрэшты, справядлівае ў яе разважаннях! — Наста глушыла бязлітасна і рашуча, рабілася зацятай і непахіснай. Рашэнне яна прыняла? Прыняла! І яна, Наста, яго выканае!

На лясной пуцявіне пасвятлела яшчэ больш — паабапал стаялі бярозы. Неўзабаве ў прагале паміж дрэвамі мігнулі на небе зоркі. Наперадзе зачарнела ста-

рая бярэзіна, нахіленая ў бок шырокага светлага прагалу па правы бок пуцявіны, што перарасла ўжо ў лясную дарогу, з шырокім следам ад колаў. Урэшце! Вось ён, лубінавы клін. А вунь і нізенькі слупок пад рагатай дзічкай — магіла Вахтанга...

Наста села ля камля старой бярозы. Бярозавыя галіны абвіслі, памалу, але чамусьці бязгучна матляліся ад подыхаў ветру, які зрэдзьчасу павяваў з боку лубінавага кліна. Да сэрца падкацiла новая хваля тугі і скрухі.

Вахтанг, Шаплыка, Уладка... Мажліва, Хведар таксама ў гэтым жалобным спісе... А колькі ж гіне людзей штохвілінна там, на фронце, дзе рвуцца снарады і бомбы, дзе густым дажджом сякуць кулі! Колькі ж гэта людзей загінула ўжо за гэтыя летнія дні, што мінулі пасля той жахлівай нядзельнай раніцы, і колькі шчэ загіне! Колькі ж гэта тугі і скрухі, адчаю і болю ўвальецца ў людскія сэрцы! І колькі злосці і нянавісці паселіцца ў чалавечай душы! І колькі ж гэта спатрэбіцца гадоў, каб вылілася, сышла бяда з людскіх сэрцаў, каб яны зноў маглі цешыцца прыгожым, адгукацца на радасць і самі спараджаць тую радасць! Радасць?.. І ты шчэ спадзяешся на нейкую радасць? Так, спадзяешся. Вось вернецца Грач — і радасць вернецца... Але ж Грач вернецца сюды, да балаціны, а цябе тут ужо не будзе. Ты ж вырашыла, што заўтра завязеш параненых у Дзягілі, пакінеш іх у Хведаравай хаце і будзеш вольная птушка! Не, вольнай птушкай табе ўжо не зрабіцца ні заўтра, ні паслязаўтра... Вольнай птушкай ты невядома калі зробішся. Нельга табе кідаць у бядзе гэтых гаротнікаў, якія чакаюць тваё дапамогі ў склепе ля балаціны. Грача ты павінна дачакацца там, адкуль ён пайшоў. І таму ты нікуды не можаш пайсці. І тое рашэнне, якое ты выспеліла ў сваёй душы, лухта, бязглуздзіца, і калі ўжо казаць на поўную шчырасць, дык самая звычайная подласць і паганства. Зрабіла б, скажам, ты тое, што замысліла, і пайшла сваёй дарогаю. Ацалела б, скажам, абмінула бяду, стрэла Грача, разам з ім пасля вайны вярнулася дамоў. І маці з бацькам стрэлі б вас, радаваліся. А што б яны сказалі табе, каб даведаліся, што кінула ты параненых людзей у бядзе? А як бы ты паглядзела ў вочы бацькам Канапелькі, Буркуна, Аўдошкі? Што б сказала ім, калі б яны папыталі цябе пра лёс сваіх сыноў?.. І, зрэш-

ты, не гэта галоўнае. Можна было б апусціць вочы, схлусіць, не сказаць праўды... Дый калі і дзе адшукалі б цябе бацькі гэтых гаротнікаў, што нудзяцца зараз у склепе ля балаціны? Наўрад ці здарылася б такое ў тваім жыцці. Але ж сумленне ў чалавека адно, і яно яму на ўсё жыццё. І сваё жыццё ты вырашыла прысвяціць, каб даць людзям палёгку ад болю, каб дапамагчы ім перамагчы хваробу, тугу, адчай... Дык чаго ж ты прымаеш нейкія дурныя рашэнні, якія закрэсляць тваё сумленнае жыццё?.. Чаго не думаеш пра Уладку, якога, мабыць, не тачыла вось гэткая паганая грызь? Чаму пра Хведара не думаеш?..

Яна пачынала ненавідзець сябе за слабасць, разумела, што аніколі не пакіне людзей у склепе ля балаціны адных. Але горкая развага, што прабілася ў сэрца, прыгнятала, спараджала востры і дужа колкі боль у скронях, і ад яго не было паратунку. Яна моцна пацерла скроні пальцамі і загадала сабе ўслых:

— Трэба ісці! Узнімайся і тэпай наперад!

Яна загадала гэта сабе ўслых і, пачуўшы свой голас, здзівілася: глухаваты, як чужы голас! Але тут жа і супакоілася: гэта, мабыць, ад таго, што ў горле перасохла. Піць дужа хочацца. Але ж не знойдзеш тут вады паблізу. Вада толькі наперадзе, у ручаі, што роўнай ніткаю рэжа лугавіну за дашчанікам. Якая ж смачная ў ім вадзіца! Бруіцца па карэньчыках, аерам прапахла, халодненькая. Вось жа ліха якое! Як падумала пра гэты ручай, пра вадзіцу халодную, дык і смага ўзялася душыць. Лепей не думаць пра ручай. Тэпай сабе і тэпай, думай пра што-небудзь добрае. Памятаеш, як ездзілі з бацькам у Ленінград? Як жа даўно тое было! А вось жа ўсё чысцютка помніцца. Татка сказаў: здасі экзамен у інстытут — паедзем тыдні на два. І патлумачыў сваё абяцанне шчыра: трэба, маўляў, дзядзьку Пётру носа ўцерці, бо не дужа ж і галавасты ягоны Толік, а вось жа ўхапі яго за рубель дваццаць: студэнт другога курса!

Крукам, дні і ночы, сядзела яна за падручнікамі, невядома калі спала толькі. І зусім не таму шчыравала, што бацьку карцела «дзядзьку Пётру носа ўцерці». З маленства марыла стаць урачом, нават калі ў лялькі гуляла на двары — толькі тае і забаўкі было, што «хворых» лячыць: кожная цацка атрымлівала сваю порцыю лекаў і працэдураў. І свайго яна дамаглася,

як ёй падалося, даволі лёгка: па білетах адказвала без падрыхтоўкі, на дадатковыя пытанні адказамі нават здзіўляла членаў прыёмнай камісіі. Усе экзамены яна здала на «выдатна» і была залічана ў інстытут на факультэт, пра які і марыла — лячэбны.

Дарога да Ленінграда і паўтара тыдня, што гасцявалі яны ў дзядзькі Пётры, былі цудоўныя. З бацькамі Наста бачылася толькі ранкам і ўвечары: ад самага ранку і да ночы — яшчэ дзівосным белаватым святлом высвечвалася неба над Нявою — яе цягаў па горадзе і ваколіцах кучаравы вясёлы хлопец Лёня — Толікаў сябар. У Толіка, па словах Лёні, «узнікла ба-альшая любоф», і ён выкарыстоўваў Насцін прыезд цалкам у сваіх інтарэсах: дамовіліся сустракацца а палове першай на рагу суседняй з Толікавым домам вуліцы і прыходзіць дамоў разам. Ад Насты Толік патрабаваў аднаго: расказаць, дзе, у якіх музеях яны былі, што бачылі і што глядзелі, каб дома дудзець у адну дуду і не прагаварыцца. Невядома якім чынам, але падман быў выкрыты, хоць у ім ніхто нікога не папракаў. Аднак дарогаю, калі Наста стаяла ля вагоннага акна і глядзела, як знікаюць у вечаровай далечы абрысы вялізнага і прыгожага горада, поўнага дзівосаў і цудаў, бацька нечакана спытаў:

— А чаго ж Лёня не прыходзіў на вакзал цябе праводзіць?

— Які Лёня? — Наста была па-сапраўднаму здзіўлена.

— А той, каму Толік даручыў цябе апекаваць!

— Значыцца, ты ўсё ведаеш? А хто табе сказаў?

— Ніхто, вялікія вы канспіратары. Але ж тройчы бачылі мы з Пётрам у горадзе вас з Лёнем. Толькі вы ў наш бок і не глядзелі. Сваім былі занятыя.

— Дык чаго ж вы не спынілі нас, не пагаманілі?

— У нас і сваёй гаворкі хапала. Пётра не ведае, як Толіка ад глупства ўберагчы, усё са мною раіцца. Ад якога глупства, пытаешся? Ад маладога, ведама. Зачмурыла галаву хлопцу адна красуня.

— Там, як кажа Лёнік, «узнікла ба-альшая любоф».

Бацька абурыўся:

— Дурнота ўзнікла, скажу я табе шчыра. Красуня ўжо тую «ба-альшую любоф» глытнула — дзіцёнак на руках. А Толік сам шчэ дзіцёнак, на свае ногі не

стаў. Думаеш, красуня — бачыў я яе — будзе і вялікага і малога дзіцёнка гадаваць і песні спяваць?.. Зломіць хлопец сабе жыццё і ёй радасці не дасць, а потым апамятаецца, калі выпарыцца тая «ба-альшая любоф». А яна ж выпарыцца! Верыш ты ў гэта?

Яна, каб супакоіць бацьку, няпэўна паціснула плячыма, потым са згодаю кіўнула галавой. А ў думках быў Лёня. За ўсе тыя дні, што яны былі разам у музеях і тэатрах, парках і палацах прыгарада, ён не палічыў неабходным расказаць ёй усё пра Толікаву абранніцу. І цяпер, пачуўшы некаторыя падрабязнасці ад бацькі, палічыла Лёню чалавекам няшчырым, скрытным і не даравала недавер да сябе. Чатыры лісты, што прыходзілі ад Лёні, яна адаслала назад, не чытаючы і нічога не тлумачачы.

Згадаўшы тую гаворку з бацькам цяпер, тут, на глухой лясной сцяжыне, Наста ўпершыню падумала, што той даўні ўчынак яе не вельмі прыстойны. Паганы, адным словам, учынак. Трэба было прачытаць тыя лісты, даведацца, пра што піша хлопец, нешта яму адказаць, каб не было няпэўнасці. Відаць, ніякага падману там не было, не было і недаверу, і ўсё тлумачыцца проста: Лёня па-свойму, мабыць, спрабаваў уберагчы свайго сябра, палічыў, відаць, што Наста з бацькам прыкаціла на дапамогу Толікавым бацькам, і вырашыў нейкім чынам яе збіць з панталыку і нейтралізаваць.

Праўда, выяўляецца, была на баку бацькі: праз няпоўныя два гады пасля вяселля «ба-альшая любоф» выпарылася, Толік кінуў — гора ў бацькоў было найвялікшае! — вучобу, уцёк ад жонкі аж у Мурманск і паступіў грузчыкам на нейкі рыбацкі карабель, які на паўтара года ішоў у плаванне.

Чаму бацька бачыў тое, чаго яна не бачыла, не разумела і не прадбачыла? Тады яна не задумвалася над гэтымі пытаннямі. Цяпер жа ведала і разумела: жыццёвы вопыт. Відаць, ён, жыццёвы вопыт, адразу падказаў Хведару, хто перад ім, чым яна, Наста, заклапочана, і Хведар пачаў цалкам ёй давяраць. Цікава, а каб яна стрэла вось гэтак Хведара, дык як бы паводзіла сябе? Гаварыла б аб усім гэтак шчыра? Прывяла б дамоў і ўключыла прыёмнік? Нічога не патлумачыўшы, прапанавала б сваю дапамогу? Паспрабуй адкажы! Не, не адкажаш. А што б ён, Хве-

дар, зрабіў, каб ляжаў на вышках адрыны, а яна, Наста, стаяла на падворку? А сапраўды, што зрабіла б ты сама, каб апынулася на яго, Хведаравым, месцы? Ці хапіла б у цябе сілы пайсці на рызыку і паслаць нейкі знак чалавеку, які ляжыць на вышках і глядзіць на цябе? Ці хапіла б у цябе мужнасці гэтак крычаць на таўсматага, ведаючы, што адказам на кожнае тваё слова можа быць куля?..

Ні знайсці адказ на гэтыя пытанні, ні паразважаць над імі Наста не паспела. Наперадзе ў прагале паміж дрэвамі мільгануў трапяткі агеньчык святла, і яна спалохана мітнулася на левы бок пуцявіны, расцягнулася плазам у высокай густой папараці. Падалося ці сапраўды мільгануў агеньчык наперадзе? А можа, гэта і не агеньчык зусім, а вочы якога-небудзь звера? А можа, мільганула паміж галін зорка на небе?..

І раптам, закрэсліўшы ўсе гэтыя згадкі, апаліла сэрца яшчэ адна, зусім нечаканая і больш ад усяго жахлівая. А што, як, затлуміўшы сабе галаву ўспамінамі пра мінулае ды рознымі разважаннямі, павярнула яна недзе не ў бок балаціны, дала добрага круга па лесе і зноў выбілася да Залесся? Вельмі ж быў падобны гэты святляк агню на тую мядзяную кропачку, што нечакана ўзнікла ў цемры за ржышчам. Не, яна ішла па знаёмай дарозе. Што ж тады застаецца? Сапраўды, відаць, памроіўся ёй гэты нечаканы выбліск агню ў цемрыве начнога лесу... Відаць, памроілася ёй, што бліснуў наперадзе агеньчык...

Яна ляжала нерухома, стоена ўслухоўвалася ў ледзь чутны пошум старых вялізных хвояў, у слабое храбусценне папараці пад локцямі і ўсяляк супакойвала сябе. Памроілася ж, вядома. Выбілася яна ўжо на дарогу, знаёмую да драбніц, гладкую, густа зацярушаную шыгаллем. Балаціна ўжо тут зусім блізка. За старымі гэтымі ялінамі пачынаецца палоса роўных і выносістых сосн аў, пад якімі шчыльным дыванам ляжаць верасы. У канцы гэтай палосы дарога крута верне ўлева, да балаціны. Значыцца, што ж атрымліваецца? Калі яна не памылілася і агеньчык сапраўды бліснуў наперадзе, дык гэта там, ля балаціны, дзе дашчанік і склеп. Але ж там не павінен уночы гарэць агонь. А мо, здурнеўшы, Канапелька парушыў завядзёнку і распаліў вогнішча? А можа, немцы тут пабылі, спалілі і склеп і дашчанік, і гэта цяпер на попе-

лішчы вецер раздзімае вуголле? Але ж аніякага ветру няма, ляна, ледзь чутна шапацяць вершаліны старых ялін. А тут, ля зямлі, у папараці,— поўны зацішак. Значыцца, не вуголле там, наперадзе, засвяцілася. Але ж чаго яна варожыць? Колькі ні ляжы, а рухацца давядзецца, і рухацца туды, дзе выбліснула плямка незнаёмага святла.

Наста ўзнялася, пасунулася на дарогу і адразу ж убачыла знаёмую светлую плямку агню. Цяпер яна была большая, ярчэйшая і чамусьці зусім не выклікала трывогі, а нібыта клікала да сябе, вабіла і прыцягвала з дзіўнай сілай.

Прайшоўшы крокаў якіх з дваццаць, Наста спынілася, углядаючыся і ўслухоўваючыся. Не, памылкі няма: ля балаціны гэта агонь бліскае. І немалы, між іншым, мабыць, вогнішча гарыць, і гарыць моцна, роўна. Але ж хто яго распаліў? Мабыць, Канапелька. Але ж ён ведае, што яшчэ Грач строга-настрога забараніў паліць уночы вогнішча!..

«Грач... Няйначай, Грач і вярнуўся!»

Наста раптоўна і адразу паверыла ў гэта. Паверыла таму, што яе сэрца стамілася ад напружання, ад трывогі, жаху і тугі. Вярнуўся, безумоўна ж, вярнуўся Грач! Ён сядзіць ля вогнішча, мудруе вячэру. Таму гэтак і вабіць тое вогнішча, таму яно гэтак і свеціць уночы, бо паліць яго чалавек, які ўпэўнены, што робіць правільна, які нічога не баіцца. А яна што робіць? Калоціцца ад жаху, усё яшчэ пабойваецца, хоць і добра разумее, што не палезуць ніякія немцы ў гэтую глушэчу ўночы!

Адкінуўшы асцярожлівасць, Наста ішла цяпер хутка, не думаючы пра небяспеку. Карабін, аднак, трымала напагатове і ля знаёмай сасны, дзе некалі развітвалася з Грачом, прысела, каб лепей бачыць, што робіцца ля балаціны. Карабін ляжаў на каленях, а рукі заглыбіліся ў халодныя пругкія верасы, і сэрца яе спалошна білася ад радаснага хвалявання. Памяць не сэрца, а памяць рук аднавіла хвіліну расстання, і яна рынулася ў тыя ўспаміны, нібыта баранілася ад памылкі, якая, магчыма, магла яе напаткаць.

У водсветах агню паблісквалі сцены і дах дашчаніка. Шырокай і няроўнай палосай, быццам на два паверхі, ляжаў туман на лугавіне ля ручая. І погалас нейкі адтуль. Падобна, што нехта спявае. Ці не Кана-

пелькаў гэта голас?.. Ягоны! Канапелька гэта нешта незнаёмае і не чутае ёю раней дудзіць-спявае... Значыцца, добра ўсё там, ля балаціны, калі ён спявае. А Грач, мабыць, спіць, натомлены дарогаю!..

Наста бегла па верасах — адкуль толькі сілы ўзяліся,— бегла, не заўважаючы, што плача ад радаснага ўзрушэння. Трывога, адчай і боль — усё адляцела імгненна. Чула цяпер толькі адно: сіпатае, штуршкамі, сваё дыханне і сухое шурханне верасоў пад нагамі.

Ад вогнішча, як стрэл, ударыў устрывожана-радасны і напружаны да адчайнай ноты Канапелькаў покліч:

— Хто? Наста? Ты гэта, Наста?!

— Я гэта. Я!

— У-у-р-ра! Хлопцы, Наста вярнулася! Аўдоля! Апячатай Буркунова вуха ад усёй душы — ён сумленна заробіў аплявухі.

Наста падбегла да вогнішча, садрала з плеч рэчмяшок, кінула на яго карабін і сама бухнулася побач на зямлю. Угледзела чорны закопчаны кацялок, у якім паблісквала вада, схапіла, прагнымі буйнымі глыткамі напілася, шумна выдыхнула паветра, наважылася спытаць пра Грача, хоць ужо і не верыла, што пачуе добрыя і радасныя навіны. Хіба ж сядзеў бы Грач у склепе і нечага чакаў. Няма яго!

Спытаць, аднак, яна нічога не паспела.

— З добрым вярнулася? — нецярпліва насеў Канапелька.— Дачулася што-небудзь пра Шаплыку? А фронт? Што людзі гавораць?

— Дай хоць аддыхацца. І скажы хоць слоўца пра тое, што ў вас тут.

— Гарнізон у поўным парадку,— нейкім дураслівa-вясёлым тонам абвясціў Канапелька.— Здаю каменданту гарнізон у поўным парадку!

Радасць у душы канчаткова згасла: Грач, значыцца, не вярнуўся. Спытала вяла, раздражнёна:

— А ты што, ашалеў? Гэткі агонь уночы распаліў. Быццам знарок бяду сюды клічаш!

— Гэта ж дзеля цябе робім,— цяпер стрымана, як бы незадаволена, прамовіў Канапелька.— Можа, думалі, заблудзілася ў цемры. Аўдоля наш і кажа: запальвай, маўляў, маяк, каб убачыла і з'арыентавалася. Уночы ў лесе агонь далёка відаць. Як і на полі амаль...

— Агонь жа не толькі я магла ўгледзець. Пра гэта чаго не падумалі?

— Ды хто ж уночы сюды папрэцца? Ані блізка,— Канапелька бесклапотна засмяяўся.— А табе — знак. Я ж ім цвердзіў з самае раніцы: Наста сёння вернецца. А Буркун усё дудзеў: аплявуху, маўляў, кожнаму на кожнае вуха прыпячатаю, калі падманеш. А цяпер — чуеш? — Аўдоля яму пячаткі кладзе!

У склепе, рагочучы, нешта крычаў, патрабаваў Аўдошка, і Наста адчула, як канчаткова спадае з сэрца напружанасць, як цёплая хваля прылівае да скроняў. Адчула яшчэ, што на вочы выбіваюцца слёзы, і, каб схаваць сваю радасць ад Канапелькі і слабасць гэтую сваю, зноў падцягнула да сябе кацялок, піла халодную ваду маленькімі, дужа ашчаднымі глыткамі. Вунь, выяўляецца, як чакалі яе тут! Чакалі і верылі ў шмат разоў больш моцна, чым тое ёй думалася. На яе спадзяваліся і, рызыкуючы, што нейкі злыдзень убачыць агонь, усё роўна распалілі вогнішча, каб даць ёй знак і паказаць дарогу. На яе, выяўляецца, не проста спадзяваліся, ёй не проста верылі: яна была і засталася кожнаму з іх адзіным-адзіным апірышчам, адзінай спадзяванкаю выжыць, выкараскацца з бяды!..

У кацялку на цёмнай паверхні дугаліся адбіткі полымя, і Наста падцягвала іх губамі і глытала, і вада кацілася ў горле прыемнымі і мяккімі камячкамі.

— А ў нас тут і бяда прыключылася,— нечакана зноў дураслівым тонам прамовіў Канапелька.— Канячка наш — цю-цю... Учора перад світаннем ваўкі яго пагналі. Зжэрлі, мабыць...

Насцін лёс і тут распарадзіўся па-свойму, і яна ўпотай пазбыткавала з нядаўняга благога намеру. Вось і маеш! А ты ж збіралася запрэгчы каня і адвозіць параненых у Дзягілі, каб у Хведаравай хаце пакінуць.

— А ты куды глядзеў? Стрэліць, пужнуць ваўкоў не мог? А шчэ пахваляўся: у поўным парадку гарнізон здаю, у поўным парадку... Які ж гэта парадак, калі каня ваўкам аддалі? Гэта ж собіла яму: каня згубіў!

Яна імпэтна напусцілася на Канапельку. Але голас яе гучаў нястрога, весела нават, і той злавіў гэтую нотку.

— Адным словам, як у таго небаракі,— прамовіў ён прымірэнча, як бы чакаючы, куды ж тут усё паверне.— Пастух трубіў — штаны згубіў... Ты ўжо, тава-

рыш камендант, даруй нам. І мне асабіста. Ці ж я хацеў бяды?

— Ды гэта шчэ не бяда. Перажывём неяк,— і, разумеючы, што зараз пачнуцца роспыты, усё яшчэ не вырашыла, ці гаварыць праўду пра тое, што адбылося з ёю і пра што дазналася, і таму паспешліва дадала: — А я вам яблычкаў прынесла. Поўны мяшэчак. Смачныя яблычкі...

Развязала рэчмяшок, выцягнула яблык. Канапелька той яблык не ўзяў, запатрабаваў тонам загадным і рэзкім:

— Яблыкі — потым. Спачатку — расказвай. Гэта даражэй за яблыкі, сама разумееш...

— З чаго ж тут пачынаць...

Яна ўсё яшчэ марудзіла, усё яшчэ вагалася, не ведаючы, як тут будзе лепей. Можа, утаіць пра тое, як ляжала на вышках адрыны і збаялася, не стрэліла? Можа, сказаць толькі пра тое, што ўбачыла і пачула ля попелішча хаты ў Залессі?

— А з самага пачатку. І — да канца!

Наста марудна паклала яблык у мяшок, марудна завязвала яго, прыслухоўваючыся да знаёмага болю, які пачаўся ў патыліцы і марудна каціўся да скроняў. Хлусіць тут нельга! Яны пакутавалі тут не менш за яе, фальш ім не патрэбны, і расказаць давядзецца літаральна ўсё, анічога не ўтойваючы і не ўпрыгожваючы.



## 19

Абудзіўшыся ад сну, Наста ляжала і прыслухоўвалася да прыглушанага і не вельмі частага рытмічнага бомкання. Падалося спачатку: дождж ідзе. Паляжала крыху, прыслухалася шчэ больш уважна: не, дажджу няма. Але вось зноў гэтае загадкавае і глухаватае: «бо-оўм». І цемнавата ж у склепе, нават стрэлкі гадзінніка не ўгледзіш. І соннае царства ў склепе: спяць усе як пшаніцу прадаўшы. Аўдошка носам сіпіць, губамі пацмокаў. Учора болей ад усіх упарціўся і мыцца не хацеў!

Згадалася ўчарашняе з усмешкаю. У жалезнай бочцы — яе апароў Канапелька, калі Насты не было, у яміне за арэшнікам, пад струхлелымі дошкамі і леташнім лісцем — яна нагрэла вады, памыла ўсіх, надзела памытую і высушаную на сонцы і моцным ветры бялізну; мабыць, гадзіну выварвала яе ў бочцы, насыпаўшы туды попелу, і вада ад яго зрабілася шызая, жахлівая. Стамілася гэтак, што ледзьве дацягнулася да нараў, і бухнулася на сухі мох і заснула, быццам у прорву якую паляцела. А вось жа раней за ўсіх прачнулася. А яны, бы дзеці, спяць моцна і бесклапотна. Нават гэтае бомканне іх не трывожыць!

Наста асцярожна спаўзла з нараў, выйшла са склепа і знобка сцепанулася — за каўнер трапіла буйная халодная кропля, што зляцела аднекуль з высі. Лес стаяў маўклівы, сцішаны, ахутаны густой і шчыльнай, як у познюю восень, імжой. Затуманенае неба асела на вершаліны, быццам заблыталася ў патаўсцелым голлі, і аднекуль з той туманнай шэрані бясконца сіціўся празрысты вадзяны пылок, асядаў на папараць і верасы, і яны маслíста ільсніліся. На кончыках сасновай ігліцы віселі буйныя празрыстыя кроплі. Ранак бліціца. Хутка днець пачне. Гэтак: сёмая гадзіна ўжо.

Толькі зыркнула на гадзіннік і зноў пачула знаёмае, загадкава-глухаватае: «бо-оўм». Цяпер адразу дапяла: злятаюць кроплі з галіны арэшніку, па донцы вядра барабаняць. Учора яна пакінула вядро там, гэтак стамілася, што нават вады не прынесла.

Наста ўзяла вядро, пабегла да ручая. Пакуль туды і назад злётала, дык спадніца намокла, сцёпала па каленках. Непрыемна, няўтульна ў лесе, якую травінку, якую галінку ні зачэпіш — густое сяйво на цябе абрынецца. А ў дождж? Гэта ж ім проста шчасціла, што лета спякотнае і сухое. А ўночы дождж хвастаў добры. Дзіва, яна гэтак спала, што і не пачула. А цяпер дык і вогнішча гэтак хуценька і проста не распаліш. Добра, што Канапелька ўчора параіў сушняку пад нары нацягаць. Але ж дзе ты ўсё прадугледзіш? Як новы дзень пачнецца, дык адразу свае ўчарашнія памылкі і хібы бачыш і заўважаеш: тое не паспела зрабіць, тое не дагледзела, тое да ладу не давяла.

Пра ўчарашні дзень, аднак, гэтага не скажаш. Учора ў яе руках усё аж гарэла. З таго, мабыць, што вярнулася яна з Дзягіляў узрадаваная, з добрай надзеяй,

прынесла і крупы, і хлеба, і сала. Ды шчэ тую дзіўную запіску, якую знайшла выпадкова. Прыйшла яна ў Дзягілі ранкам, без зброі, з мяшэчкам за плячыма — бежанка ідзе, спагады людской шукае. І ледзь не заплакала ад крыўды, калі ўбачыла на дзвярах хаты замок. Пасядзела на падворку, двойчы хату абышла і тады ўжо, як вырашыла пайсці, заўважыла краёк паперы пад уломкам цэглы ў куточку ганка. Дзівілася, чытаючы запіску. «Дарагая Зіна, што не з нашага магазіна. Боты памяняў удала. Тое, што намяняў, ляжыць у тваёй хаце пад коўдраю. Убачымся праз тыдзень. Хведар».

Ледзь не ў скокі пайшла. Жывы! Жывы Хведар! Але ж якая хата? Якая коўдра?.. Зачапілася вокам за драбіны, прыстаўленыя да франтона адрыны, і адразу сцяміла: там, у сене, пад посцілкаю, нешта ляжыць. І сапраўды ляжаў там ладны мяшэчак, які яна шчасліва прынесла сюды, да балаціны.

Шчаслівы ўвогуле дзень учарашні быў. Нібыта ведаў Хведар, што ёй вельмі мыла патрэбна — два кавалкі ў мяшэчку былі. І Наста з уздымам, спяваючы нават, парабіла ўсю цяжкую працу. А колькі рогату і жартаў было, пакуль яна па чарзе параненых не памыла! Мыццё тое, ведама ж, не лазня. Але ж галаву памыла кожнаму, мокрай анучаю кожнаму плечы вышаравала. А галоўнае — бялізну ў шчолаку выварыла. Вось з таго, мабыць, і спяць яе гадаванцы, бы дзеці. Але ж дужа наравістыя нейкія робяцца яны. Пачалі папраўляцца, здаравець, сілы набірацца, дык з кожнага свая, адметная натура прэ, ні на што не зважаючы. І нейкая незразумелая зайздроснасць у кожнага паявілася. Паўглядаўся пазаўчора Буркун у Канапелькаву місу, лішні скрылік сала ўгледзеў, дык ажно кулаком па сцяне грукнуў: дзялі, маўляў, роўна, каб любімчыкаў не было. І неяк дужа ж падазрона пачаў глядзець на яе заўсёды маўклівы Аўдошка.

Наста ціхенька ўвайшла ў склеп, уладкавалася ў сваім куточку на нарах, сілілася заснуць. Але сну не было, яна зноў думала пра сваю шчаслівую праходку ў Дзягілі. Хведар — жывы. І гэта — яе шчасце. Ёсць чалавек, на якога можна абаперціся, якому можна даверыць. А ён жа — гэта ж напэўна, абавязкова! — не адзін. З якой урачыстасцю казаў ён тады пра Указ, які перадалі ў зводцы, аб узнагароджанні беларускіх

партызан. Першае ўзнагароджанне! Значыцца, партызаны ёсць! Іх трэба знайсці. Не выключана — ды не, напэўна ж! — што Хведар з партызанамі звязаны. І тут, менавіта тут, яе, Насцін, паратунак. Так што дарэмна Наста наракае на свой лёс. Шчаслівы ў яе лёс, добры!

Пакрысе рабілася святлей у склепе. Нешта мармытнуў у сне Аўдошка. Заварушыўся Канапелька. Буркун ляжыць ля сцяны, скурчыўся, укрыўся посцілкаю аж з галавою. Яны хай спяць. А ёй, Насце, трэба сняданак гатаваць. Няўжо прыйдзе калі-небудзь дзень, што не будзе ў яе гэтага клопату?

Яе рух — падняла руку з гадзіннікам пад самыя вочы — Канапелька адразу заўважыў. Бадзёра і весела прагучаў яго голас:

— Што маем на тваім залачоным? І добры дзень табе, Настачка!

Канапелька сеў, прыхінуўшыся спіною да стаяка, і глядзеў, нахіліўшы галаву, позірк у яго быў уважны, немігатлівы. У ясным святле, што лілося з акенца яму на твар, скура на шчоках выдавала бляклай, як нежывой.

— Дзевятая ўжо. Трэба сняданак гатаваць. Што варым?

— Макароны. З салам, вядома.

— Добра, будуць макароны.

— Толькі зашмат не кладзі ў кацялок. Макароны канчаюцца.

— Такая ўжо ашчаднасць выявілася. З чаго? А-а,— яна ўсміхнулася.— Каняку нашу праспаў, дык цяпер сумленне мучыць.

— Мучыць,— прызнаўся ён нечакана.— Табе ж усё на сваім гарбе даводзіцца пурыць...

Спагада была нечаканая, і яна расчуліла Насту. Трэба было нешта сказаць добрае ў адказ, а слоў патрэбных не было, і Наста пажартавала:

— А я цяпер з далечы нічога цягаць не буду. Малінамі карміць вас усіх буду. З Дзягіляў калі ішла, дык нагледзела месцейка.

— А грыбоў не прыкмеціла? Э-эх, каб з казлякоў супец змаргеліць. Сала-одзенькі ён, з казлякоў.

— Сёлета пакуль і грыбоў няма. Пасля дажджу гэтага, мабыць, грыбкі пойдуць. Тады мне зусім палёгка. Са склепа руку прасунуў — грабі сабе грыбочкі.

У кутку незадаволена азваўся Буркун:

— Дасцё вы чалавеку добры сон дагледзець ці не? Ім не спіцца, дык трэба, каб і кожнаму гэтак!

Насту абурыў гэты буркатлівы голас, кінула сухавата:

— Гадзінку толькі даю, каб усе сны дагледзець і прагледзець. А тады — сняданак. Перавязкі зробім, і я пабягу маліны шукаць.

— А на чорта яны, тыя маліны? — незадаволена, нават не паздароўкаўшыся, прамовіў Аўдошка.— Нікуды сёння не хадзі!

— Чаму? — Наста аж супынілася на парозе склепа.— Благі сон сасніў? Буркуну — чуў? — толькі добрыя сняцца. А табе — благія?

— Нават зусім благія. Паганыя.

— Буркун зараз добры сон свой дагледзіць і твой благі сон ім і прыдушыць,— падкалоў Аўдошку Канапелька.

Заўжды ціхі і памяркоўны Аўдошка аж узвінціўся:

— З табою гаварыць? Дык прышчамі язык! Горай за памяло язык у чалавека.

— Хто будзе сварыцца — застаецца без сняданку,— абвясціла Наста.— Зразумела?

Канапелька і Аўдошка памоўклі. Але варта было Насце выйсці са склепа, як яны зноў счапіліся. Наважылася была пайсці ўлагодзіць іх, але потым махнула рукой. Уночы яна добра адпачыла, і настрой у яе быў добры. Ад той туманнай імжы, што завісала над балацінай на досвітку, не засталося і знаку. Дзьмуў цёплы паўднёвы вецер, хмаркі, што наплывалі на сонца, імкліва адляталі ўбок, і ўсё наўкола зіхацела ад добрага і лагоднага святла.

Пасля сняданку — на сняданак зварыла макароны і шчодра засквaрыла іх салам — хутка, з вясёлымі жартамі, перавязала Канапельку, потым Аўдошку і Буркуна. Падмяла земляную падлогу ў склепе і шчэ нават і пра абед паклапацілася: на цяпельца прыстроіла кацялок з ядрыцай — пакуль тут шчэ завіхаецца, дык крупы падварацца, а дойдуць самі па сабе, калі ўкруціш кацялок у стары ватнік.

Памыўшы бінты, Наста злётала і назбірала пад старымі соснамі кароткага смалянога сучча, што пазвальвалася з дрэва і ад часу аж учарнела, але было моцнае, важкае, у глыбокіх — на ўсю даўжыню — раско-

лінах. Складаючы суччо ля сцяны — знесла яго ў дашчанік — у роўны штабялёк, зарадавалася, што гэткая ўдалася сёння раніца: і работкі колькі парабіла, і аніякай стомы не адчувае, і скруха не прыгнятае.

Са склепа даляцеў Канапелькаў голас — зноў нешта даводзіў Буркуну,— і Наста прысела на краёк штабялька. Нечакана агарнуў неспакой. Храбрыцца, фатыгуе гэты Канапелька, а нага ў яго благая. На пачатку іх ляснога жыцця раны Буркуна і Аўдошкі — глыбока падраныя, аж да касці, мышцы — Насту напалохалі. А рана на Канапелькавай назе абнадзейвала, мала зусім турбавала: загоіцца хутка, чалавек неўзабаве паправіцца. Цяпер жа яны быццам месцамі памяняліся: раны ў Буркуна і Аўдошкі зацягваліся, скура на крайчыках рабілася ўжо амаль нармальнага колеру. У Канапелькі ж нага пачала крыху ацякаць, ля каленнага сустава з'явілася слабая чырвань, якой раней увогуле не існавала. Наста палічыла, што гэта вынік празмернай перагрузкі, якую Канапелька даў параненай назе, пачаўшы хадзіць на мыліцах. Выпраўляючыся ў Дзягілі, яна забараніла яму ўвогуле рухацца. Але, вярнуўшыся, убачыла, што Канапелька майстраваў прыстаньку на ручаі, чамусьці перахаваў скрыню са штабнымі дакументамі. Насварылася, ведама, палаяла. А толку таго? Чырвань сёння прыкметная не толькі ля калена, ужо да шчыкалаткі паўзла. І ацёчнасць, здаецца, павялічылася.

«А можа, і я тут вінаватая?..»

Падумала гэтак і пашкадавала, што ўчора пасля «лазні», у добрым настроі, яна расшчодрылася і наліла кожнаму па кроплі з той бутлі, якую прыхапіў на бровары Шаплыка. Не, гэта якраз зашкодзіць яму не магло. Рухацца нельга шмат. А ён жа, як гэтыя мыліцы адстружкаў, пачаў скакаць. Мыліцы тыя цяжкія, іх пацягаць сілы патрэбны. Адкуль жа сілы ў чалавека, які нядаўна крывёю сцякаў?.. У нядзелю, калі яна ўбачыць Хведара, трэба будзе дамаўляцца ўсё ж, каб параненых перапраўляць у вёску. Ёсць жа ў яго, Хведара, верныя сябры. Каб жа вось толькі стрэў ён яе, каб чакаў!

«А раптам чакаць не будзе?..»

Ей аж горача зрабілася, і думкі замітусіліся, і ўсё выходзіла, што гэткае можа і здарыцца. Яна ж, Наста, ніякага знаку яму не дала. Адкуль яму ведаць, што ме-

навіта яна, Наста,— Зіна, што не з нашага магазіна!— тую запіску знайшла? Здагадаецца! Убачыць, што торбачка знікла, і здагадаецца! Але ж торбачку мог хто-небудзь і апрача яе апароць: не адна яна такая здагадлівая! Так што памылку яна зрабіла! Трэба было на запісцы хоць адно слоўца накрэмзаць чым-небудзь і пакінуць. І неабходна, пакуль шчэ ёсць час, гэтую памылку выпраўляць! Праўду Аўдошка кажа: на ліха тыя маліны! Паспее яна іх назбіраць, калі з Дзягіляў будзе вяртацца. А зараз і трэба туды ісці. Неадкладна! Торбачку на ганку пакінуць, пад той цагляны ўломак слоўца нейкае падкінуць, каб ведаў чалавек, каб чакаў і быў удзячны. Ён — каб удзячны быў. А ты сама? Не, не!.. Трэба ісці неадкладна!

Наста зняла з агню кацялок з ядрыцай, панесла ў склеп. Трывожны одум, мабыць, дужа выразна адбіўся на твары і ў вачах, бо Канапелька тое адразу ж заўважыў.

— Паснедала, дык і маркотная дужа зрабілася,— прамовіў ён, пільна ўзіраючыся ў яе вочы.— Сон Аўдошы непакоіць. Дык плюнь і на той сон, і на тыя маліны. Кладзіся і адпачывай!

— Памылку я, мабыць, зрабіла, што запіску Хведару не пакінула,— прамовіла з трывогаю, раячыся з усімі і чакаючы добрай парады.— І думаецца мне, што ў Дзягілі мне трэба падбегчы. І неадкладна. Наш паратунак — там, і вы гэта ведаеце...

Нейкі час у склепе панавала маўчанне. Першым азваўся Буркун. Кашлянуў, сказаў рэзка:

— Трэба дык трэба.

— Вось і бяжы, калі табе трэба,— выпаліў Канапелька.— І-іш, бягун вылузнуўся!

Ціха і разважліва паспрабаваў астудзіць іх Аўдошка:

— Чубіцца, ведама, лёгка. А тут трэба правільны ход пашукаць. І таму паразважаць не пашкодзіць. Сумненні ў Хведара, вядома, узнікнуць. Торбачку схапіла, маўляў, а сама хвастком накрылася. Канечне, даць знак яму належыць — гэта мая думка. І пайсці заўтра, на світанні...

— Я пайду зараз,— перапыніла яго Наста, адчуваючы, што гэтае рашэнне выспела не тут, а там, у дашчаніку, разам з думкай пра зробленую памылку.— Абед вам ёсць: ядрыца ў кацялку добра ўпрэе, толькі

не чапайце зарана. Гадзіны праз тры яна будзе мяккая. Паясцё тады. А ўвечары я вярнуся.

— А ён прыгожы? — хмурна папытаў Буркун.— Хведар гэты, кажу, прыгожы малойчык?

Канапелька тут жа сунуў шпільку:

— Ведама, за цябе прыгажэйшы!

Наста пасмяялася:

— А вось будзеце чубіцца часцей, дык сапраўды кіну вас і ў Хведаравай хаце жыць буду.

— Я спалю тады тую хату,— нечакана дужа сур'ёзна сказаў Аўдошка.— Дапаўзу, з апошняе сілы, і спалю пад качалку!

Усіх развесяліў Канапелька.

— І я табе дапамагу,— сказаў ён зацята, без ценю насмешлівасці.— І хай Буркун хоць на сцяну лезе, аднак жа ў абед, калі кашу дзяліць буду, Аўдолі дзве порцыі выдзелю, каб сіла была дапаўзці. Але без сала!

Смех выспяваў, ён вісеў у паветры, і патрэбна шчэ была іскра, і выбіць тую іскру дапамагла Наста:

— Нішчымную? — папытала яна заклапочана.— Чаму ж без сала кашу яму?

— Каб не коўзаўся, калі папаўзе!

Рагаталі дружна, бы па камандзе, і гэта расчуліла Насту незвычайна, яна смяялася, аж слёзы на вачах выбіла, і яна змахвала іх далонькаю і яшчэ больш радасна смяялася.

Але, сабраўшыся ў дарогу, загадала Канапельку:

— З нараў вам, галубочак, не ўставаць. Ляжаць і не рухацца. Ляжаць і ляжаць.

— Рухацца я трошкі буду, нават лежачы,— пажартаваў Канапелька.— А сустракаць дык напэўна ж выпаўзу!

Жарт не атрымаўся, яго не падтрымалі, і Наста, угледзеўшы ў словах Канапелькі нейкую як бы прывілею ў дачыненні да яе, нечакана ўзарвалася:

— Вяроўкаю мне вас прывязваць? А давядзецца ж... Чаго з Буркуна прыклад не берацe? Ляжыць чалавек, не высільваецца без патрэбы. З таго і раны добра гояцца. Будзеце зайздросціць, калі ён у скокі пойдзе.

— А мне не гарыць,— зноў паспрабаваў пажартаваць Канапелька, злуючы, што ўсе моўчкі, мабыць, падтрымліваюць Насту.— Па-першае, да скокаў я не вялікі аматар. А па-другое, лясны гэты курорт мне па ду-

шы. Птушкі спяваюць. Цішыня. Каб не хроп па начах над маім вухам Буркун, дык і ўвогуле — райская жытуха!

Буркун — дзіва проста нейкае — аніяк не адгукнуўся на гэтую шпільку. А Канапелька, як ні пратэставала Наста, узяў мыліцы і пачыкіляў следам за ёю са склепа. Праводзіў аж да ручая і, калі Наста пераскочыла на той бераг, папытаў голасам сумным і заклапочаным:

— А можа, узяла б парабелум? Маліны калі паспелі, дык цяпер людзі ў лес папруць.

— І я буду маліны збіраць. Потым, назад ідучы,— кацялочак я ў торбачку кінула.

Канапелька бубніў, як стары дзед:

— Парабелум, павер мне, не зашкодзіць.

— Спакайней, казала ж табе, без яго ідзеш па вёсцы. Я той раз у гэтым пераканалася.

— Павер мне, не зашкодзіць,— трэці раз сказаў Канапелька і выцягнуў з-за пазухі Насцін парабелум.

Наста аж вочы паказеліла. Калі ж гэта ён паспеў ухапіць парабелум з нараў? Літаральна ж следам вылез са склепа! От жа хай цяпер назад цягне. Сказала ж, што не будзе браць зброю, значыцца — не возьме!

Канапелька падцiснуў губы — асуджаў. А Насту выгляд яго твару пачаў раздражняць. Занудлівае нейкае апекаванне! Канапелька паводзіць сябе дзіўна ўвогуле апошнім часам: то робіць выгляд, што мае нейкае права на гэтае апекаванне, то ставіцца, як да малога дзіцяці, якога трэба на кожным кроку павучаць, настаўляць, правяраць. На далейшае ёй трэба ўлічыць гэта і не ўсімі навінамі дзяліцца. Яна, мабыць, паспяшалася расказаць пра Сцяпаніху, пра смерць Уладкі. Канапелька тады адразу ж пачысціў вінтоўку, перабраў патроны і кладзе і яе і дзве гранаты побач, пад правую руку, калі надыходзіць вечар. Буркун таксама, хоць і жартуе, пацвельваецца, а вінтоўку на ноч кладзе побач, правярае перад сном. Карацей кажучы, спакой знік, у тую лагодную, часамі жартаўлівую ціхамірнасць, што панавала ў склепе па вечарах, цяпер убілася трывожная нота, і заглушыць яе не проста. Яна, Наста, і сама цяпер, уладкоўваючыся на ноч, абмацвае карабін з трывогаю, якой раней не было. Ды шчэ гузік на кабуры адшпіліць і, засынаючы, памацае рубчастыя халодныя канты на рукаятцы.

— О-ох, папіў жа ты маёй кроўкі, Канапелька,— нечакана вырвалася ў Насты.— Што яшчэ раіць пачнеш?

— Дарогаю не шнуруй.

— А як жа мне ісці?

— Па лесе,— неабуральна, спакойна прамовіў Канапелька.— З лесу табе ўсё відаць, што на дарозе робіцца. Гэта я табе як былы паляўнічы раю. І клянуся: зараз завалакуся ў склеп — пластом кладуся. Аж пакуль ты не вернешся — і не крануся.

Яна пагразіла яму пальцам:

— Май на ўвазе, Буркун мне ўсё раскажа, усё перадасць!

— А от вернешся — сама пабачыш, які Канапелька паслухмяны зрабіўся...

Канапелька пачыкіляў назад, і яна, гледзячы, як ён з цяжкасцю перастаўляе мыліцы, са здзіўленнем падумала, што за дні ляснога жыцця яна ўжо неяк зраднілася і з Канапелькам, і з Буркуном, і з Аўдошкам. А тое, што яны чубяцца і з ёю і паміж сабою, зусім натуральная з'ява. І тое, што цяпер раіць Канапелька, адкідаць не варта: мае ён тут рацыю, слушна гаворыць. Уночы дык за сцежку трэба трымацца, інакш забрыдзеш, што і назад дарогі не знойдзеш. А ўдзень няма патрэбы мільгацець на пустой лясной дарозе — таму, хто за дрэвам стуліўся, ты быццам на далоні відаць. А лесам сунешся, дык і спакайней, і сцежка ў цябе пад кантролем, і знянацку цябе ніхто не захопіць.

Яна збочыла на левы бок дарогі, пакрочыла ўпэўнена сярод дрэў, быццам па мноства разоў ходжанай дарозе. Вось палоса асін, знаёмых, падзеленых сіроцкімі, як прыдушанымі, кустамі ляшчэўніку — гэтую мясціну трэба абысці з левага боку, каб не мясіць размяклую травяную і тарфяністую чарноту, укрытую напаўсатлелым сятчастым лісцем, каб не дыхаць гнілаватай задухай, ад якой у роце асядае смак падапрэлай паданкі. Вось ядловец, за якім пачынаецца ельнік, ніжняе голле ў якога начыста пасохла, натапырылася колкімі і доўгімі шыльцамі, моцнымі, быццам са сталёвага дроту — не прабіцца, вочы нават удзень можна выкалаць. Самае лепшае — крутнуць на пакаты погарб, засцелены зязюльчыным мохам: па ім ідзеш, быццам па цёплым дыванку крочыш.

Яна ішла, далёка не адыходзячы ад дарогі, слухаю-

чы ласкавы пошум галін над галавой. Думкі прыходзілі гэткія ж — лагодныя і памяркоўныя. На радасць і ўцеху чалавеку стварыла матухна-прырода лес на зямлі. Які ён ні ёсць, а ўсё роўна гоіць душу чалавечую, адразу ж поўніць сэрца лагодаю і добрымі надзеямі. Колькі таго часу мінула, як выправілася Наста ў дарогу, а ўжо як і не было непамыснасці, што пакінула ў душы гаворка з Канапелькам. Чаго варты нейкія спрэчкі, павучанні, нараканні? Усё гэта нікчэмнасць, драбяза, калі паглядзець на лясную веліч. Маўкліва і задуменна цягнуцца да сонца, у прастору неба, выносістыя сосны, цёмным голлем, як рукамі, абапёрліся на верасы старыя яліны, і далікатна гэтак дакрануліся, быццам лагодзяць бэзавы разліў квецені. Тут нават ярчэй, нейкія з дзівосным адценнем, цямнейшыя верасы за тыя, што ля балаціны. Сосны там таксама магутныя. Але ж гэтыя!.. Колькі ж год прастаялі яны на гэтай ляснай зямлі? Няйначай, болей за сто гадоў. Стагоддзе, адным словам. А ўсё як маладая на іх зяляніна, велічнае прыгожае вецце, макаўкі самавітыя і незалежныя. Вунь пярун некалі смальнуў у яліну, адламіў, як сякераю адчыкрыжыў, сукаватую палавіну, кінуў на дол, і яна ўчарнела, удушылася ў зямлю, парасла мохам. А другая палавіна, што з каранямі, стаіць і зелянее, жывіцаю закаціўшы зломы. Поўна ля яе ў доле шышак, грудачкамі ляжаць і сасновыя і яловыя, натапыраныя, выпетраныя, без семак, і з таго непрыгожыя, як смецце,— вымалацілі дзятлы. Расколіны ў зломах, выяўляецца, прыстасавалі пад свае патрэбы птушкі, уставяць у расколіну шышку і малоцяць тады, выдзёўбваюць смачнае нутро. Ісці тут прыемна і лёгка: зрэдку спружыніць пад падэшваю гузаваты корань, прарыпіць раздушаная папараць, адале зноў зямля роўная, мяккая ад шыгалля.

Крыху далей, па той бок, погарба, на вяршыні якога засталася яліна, пабітая перуном, пачаўся бярэзнік, сярод якога высокімі конусамі хмурна зялянеў стары ядловец. Траплялiся і прысадзістыя, шырокія ў камлі яліны, але часцей вось гэткія — конусамі — ядлоўцавыя кусты, з крываватымі замшэлымі ствала́мі. Чарнічнік пракідаецца паміж імі рэдзенькімі лапінкамі, пусты, як пабіты ржой, без ягад. Даволі частымі доўгімі акраўкамі ляжаць на зямлі, быццам попелам прысыпаныя, вееры арнікі; з сярэдзіны кожнага цягнецца

доўгае і тонкае, спрэс у белаватых ворсіках, ціўе, якое вянчаецца тоўсценькім стаўбунком несаспелай квецені. Назад ідучы, трэба будзе набраць арнікі, яна, выяўляецца, лепей за святаяннік: відаць, ад яе пачалі гэтак хутка гаіцца Буркуновы і Аўдошкавы раны. А вось Канапельку яна слаба чамусьці памагае. Але ўсё роўна, калі будзе ісці з Дзягіляў, арнікі трэба назбіраць.

Наста прыпынілася, азіраючыся. Дарога павярнула ўправа, да паляны, дзе лубін, а ўлева адгалінавалася шырокая сцежка — на Дзягілі. Той раз Наста і знайшла гэтую, карацейшую, дарогу. Вунь і старыя сосны, пазначаныя белаватымі рабрынамі старой падсочкі. Сосны ўпіраюцца ў ручай, які крута верне тут ад пагарба, панізу якога ляжалі тады штабялі метровак. Але ж нешта не відаць іх!

Яна зноў прыпынілася, агледзелася наўкола, потым зыркнула на неба, дзе ў густой сетцы голля зыбалася сонца. Вецер пагойдваў вершаліны, промні ляцелі ўніз нейкія кароткія, быццам залачоныя паленцы, і здавалася, што іх недзе над тымі сасновымі шатамі сякуць на кавалкі, кідаюць на зямлю, і яны валяцца, куляючыся па галінах. Калі той, першы, раз яна ўбачыла штабялькі метровак, дык сонца вісела акурат над імі. І ручай тады браў крута ўправа. Ці ўлева? Так, улева, калі глядзець з гэтага боку. Значыцца, трэба зараз ёй пераскочыць ручай і ісці проста на сонца.

Пераскочыўшы ручай, яна ўзнялася на пагарб, парослы нестарымі, але нейкімі каржакаватымі соснамі, падобнымі на тыя, што растуць звычайна на балотах. За першым пагарбам быў другі, і за ім сінела празрыстая, зусім не лясная сінеча. Гэтак жа і тады, калі яна вярталася з Дзягіляў і, вырашыўшы скараціць шлях, пайшла напрамкі, адкрылася перад ёй знаёмая высечка, падзеленая ручаём напалам. Паабапал ручая буяў маліннік. І ягад на ім колькі выспела! Шчэ болей, чым тады. Аж чырвоны маліннік. Нікім не чапаны!

Узрадаваная, Наста подбегам узляцела на вяршыню пагарба і прыхінулася да шурпатай, наўздзіў цёплай сасны. Добра, аднак, яна навучылася арыентавацца ў лесе! Вунь і штабялькі тыя. Толькі разварушаныя. Мабыць, нехта браў тут дровы. Справа ад іх — скрыжаванне лясных дарог: управа, шырэйшая, на Залессе, а ўлева, затравелая, на Дзягілі вядзе. Цяпер да іх ужо зусім блізка.

Яна спускалася з погарба, ухваляючы сябе за тое, што той раз рызыкнула, папёрла напрамкі і адшукала добрую дарогу. Часта да ручая падыходзіш, папіць вадзіцы можна. А па-другое, ручай — арыенцір у лесе найлепшы: ідзеш сабе, за ручай, бы за нітачку, трымаешся, аніколі не заблудзішся, не павернеш туды, адкуль не выбрацца. Тая дарога, што на Залессе, намнога горшая, кіламетраў на пяць, мабыць, даўжэйшая.

Наста спусцілася з погарба, выйшла на скрыжаванне лясных пуцявін і таропка перабегла дарогу. Стулілася ля камля сасны, глядзела на пасечаны рубчастымі слядамі пясок дарогі, і сэрца ў яе спуджана калацілася. Гэта ж сляды машын! Па ўсім відаць, што пасля дажджу машыны тут кацілі, і, мабыць, у Залессе — дарога, парэзаная каляінамі, туды вядзе! Падалей трэба адсюль, падалей!

Яна адбеглася ў глыб лесу, прысела пад старым і рагатым ядлоўцам, слухала, як звонка залівaецца паблізу ад яе берасцянка, як каляна шапацяць уверсе макаўкі дрэў. Не чуваць нідзе гулу матора. Не чуваць анічога, апрача звычайных лясных гукаў. А след машын — даўняе, тое, што было. Відаць, прыязджалі са станцыі па дровы. Там, далей за дарогай, тых сасновых метровак процьма. Відаць, і з гэтых штабялькоў бралі, ля якіх яна праходзіла. Каб раней на нейкі час, дык магла б і наляцець на тую машыну. Значыцца, праўду казаў Канапелька, трэба падалей ад дарогі ісці.

Цяпер яна яшчэ больш аддалілася ад дарогі, ішла больш асцярожна, пільна аглядаючыся па баках. Але, пакрысе, трывога прайшла, і на ўзлеску, убачыўшы знаёмае бульбяное поле, Наста і ўвогуле супакоілася. Выцягнула з торбы кацялок, прыхавала яго пад маладой і раскідзістай ялінкаю. Назад ідучы, яна кацялок прыхопіць, назбірае маліны. А цяпер застаецца адно: перабегчы гэтае поле. Шнураваць ёй трэба па разоры, каля кустоўя, каб непрыкметна выбіцца на дарогу, па якой ехаў тады Хведар. Ісці трэба спакойна, каб той, хто зыркне збоку, адразу прыкмеціў, што ідзе чалавек здарожаны, да ўсяго абыякавы.

Марудна, прыгорбіўшыся, яна прашнуравала прыбітай дажджом разораю да дарогі, патэпала нізінаю, уздоўж рэдзенькіх кустоў рудаватай лазы. Толькі тады, як пералезла праз нізкія жардзіны, якімі быў агароджаны знаёмы сад, адчула, што гулка калоціцца, бу-

хае ў грудзях сэрца ад хвалявання. На сцежцы густа, як знарок насыпаныя, ляжалі яблыкі, і Наста згадала, што той раз іх на сцежцы не было. Пасля дажджу, відаць, нападалі. І дождж, выяўляецца, тут быў моцны, да гэтага часу на градах, дзе лапушацца буракі, стаіць вада, пабліскваё на сонцы.

Усё было загадзя прадумана, распланавана, і тым не менш Наста крочыла па сцежцы і паўтарала ў думках тое, што ёй належыць тут зрабіць. Не затрымацца ані. Пакласці торбачку на драбіны — Хведар адразу ўгледзіць. А калі каму чужому і кінецца ў вочы, дык нічога тут незвычайнага няма — сушыць гаспадар павесіў. А запіску — на ганак, пад той цагляны ўломак. Запіска кароценькая — «Зіна прыйдзе да магазіна» — чужому воку нічога не патлумачыць, чужы чалавек толькі галавой пакруціць: лухта, маўляў, не больш. А Хведар адразу і сцяміць, якая Зіна і да якога магазіна. І здагадаецца, што торбачка, дакладней, тое, што ў ёй было, дужа ж прыдалося гэтай Зіне. Прачытае і будзе чакаць. А яна ранічкою сюды і заявіцца, вось гэтай дарогаю і пашнуруе.

Можа, хвіліну якую і была на падворку, крутнулася і адразу ж назад. У садзе, падняўшы са сцежкі буйны жаўтаваты, бы з воску, яблык, пашкадавала, што не ўзяла з сабою рэчмяшок. Але тут жа і адкінула шкадаванне: нядзеля блізка, вернецца яна сюды зноў. Цяпер не яблыкі галоўнае. Галоўнае цяпер — Хведар. Каб ён нідзе не затрымаўся, каб без прыгод вярнуўся дахаты, каб і ёй у дарозе шчасціла, і каб у нядзелю яны стрэліся.



## 20

На ўзлеску, калі выцягнула кацялок з-пад маладой ялінкі, супакоілася канчаткова, цвёрда паверыўшы ў тое, што жыццё і яе і людзей, якія чакаюць у склепе, павярнула на добрае. Цяпер толькі пераяжыць гэтыя два дні, дачакацца нядзелі і стрэць Хведара. Хай бы толькі пашча-

сціла яму ў дарозе, каб бяда якая-небудзь не падкаціла. А яна, Наста, нікуды болей ад балаціны і кроку не ступіць. Хіба толькі што ў ягады. Праўда, сюды, на высечкі гэтыя, дужа ж далёка, трэба будзе недзе бліжэй пашукаць. У тым месцы, дзе яна суніцы збірала, маліннік ёсць. Праўда, не гэткая раскоша, як тут, на старых высечках, але назбіраць маліны можна.

Хутка перабегла-пераскочыла дарогу з глыбокімі і шырокімі каляінамі, што пакінулі на пяску рубчастыя колы. Ліха на тыя маліны, каб іх тут, ля гэтай дарогі, збіраць. Лепей падалей ад небяспекі, у глыб лесу, за ручай перабрацца. Гэты вось погарб трэба перабегчы, затым другі, перайсці ручай, і там маліннiку таксама ёсць, кацялочак яна досыць лёгка насморгае.

Маліны, аднак, за ручаём было не вельмі багата. На беднай жвірыстай глебе маліннік рос нешырокімі плешынамі, ягады на ім сядзелі рэдзенька, месцамі іх гэтак моцна падпякло сонцам, што былі яны не чырвоныя, а чарнаватыя, дробненькія, як падсмаленыя. Трэба, мабыць, прайсці крышку далей усцяж ручая, на схіл вунь таго погарба, дзе сосны таксама высечаны і сярод гонкіх бярозак адзінока, бы вежа, тырчыць старая яліна з абсечанымі знізу галінамі. Здаецца, да той яліны вядзе вось гэтая старая пуцявіна, што некалі была тралёвачнай дарогаю. Цяпер тут каляіны, даўно пазамываныя дажджамі, і не відаць амаль, зрэдку выпіраюць з густога травастою: па краях, пышнымі чубамі, стаіць суданка, каляіны абляпіў трыпутнік, падзелены белымі палосамі канюшыны.

Наста крыху прайшла ўздоўж гэтай старой пуцявіны і ўгледзела справа густы і роўны, быццам дакладна вымераны прамавугольнік, маліннік. Ягады ў ім пракідаліся рэдкавата, іх даводзілася адшукваць. Але ўжо як пашчасціць, як адкрыецца табе вялікая і буйная гронка на тоўстым і моцным ціўі, дык хоць спявай. Нават у прыгаршчы не трэба збіраць, адгоніш лістоту, падставіш кацялок, ледзь зачэпіш ягады пальцам, і яны адразу і пакаціліся. Адно толькі замінае: спёка. На гэтую дзялянку, атуленую з усіх бакоў вузкім колам маладога бярэзнічку, зусім не прабіваецца вецер. У густой і нейкай тлустай крапіўнай задусе дыхаецца цяжка, рукі і ногі аж гараць ад ядучай крапівы.

Наста, аднак, цярпліва абабрала дзялянку, наблізілася да маладзенькага, на палову чалавечага росту,

бярэзнічку, прабілася праз яго і адразу ўздыхнула з палёгкаю. Вецер павявае, дыхаць лёгка, абпаленую крапівай скуру прыемна студзяць верас і рэдзенькая моцная папараць. А за ёю, за папараццю,— маліннік. Нізенькі, у калена, рэдзенькі, затое густа-густа абсыпаны ягадамі. Сярод крапівы яны былі буйныя, але з кіслінкаю, а тут, выспеленыя на сонцы і выгодзе, сакавітыя, салодкія, духмяныя. І нават купінкі бела-жоўтай маліны, і кожная ягадзінка быццам з воску, аж наскрозь свіціцца. І смак у яе асаблівы, незвычайны. І кацялок не трэба цягаць, вось сюды, пад бярозку, паставіць. Не, лепей на стары пень, шырокі, бы столік, белы ад жывіцы, што запяклася ад часу, закамянела.

Назбірала кацялок з каптуром, пакідаць гэтулькі дабра аж шкада стала. Пасцяліла на суседнім пні сваю зеленаватую, у белую палоску хусцінку, укленчыла ля яе і, седзячы, жменю за жменяй сыпала і сыпала на яе буйныя спелыя маліны. На хусцінцы вырас чырвоны, перасыпаны васковымі кропкамі, пагурачак. Прыгожа! Толькі вось як данесці да балаціны, каб не патаўчы, каб сокам не паплылі? А проста, мабыць: дзве рагулькі выламаць і крыж-накрыж да іх канцы хусцінкі і прывязаць — бы ў рэшаце ягады будуць. Але тое — потым. Цяпер трэба паесці ўволю гэтай смакаты. Руку працягні — ягады самі ў пальцы просяцца. А вось ля суседняга пня дык і шчэ буйнейшыя маліны, спялейшыя. Ажно растаюць у роце!

Напаўлежачы на ўгрэтым дыванку талакнянкі, лісце якой аж ільснілася на сонцы, Наста выбірала самыя выспеленыя, самыя буйныя і прыгожыя ягадзіны, кідала ў рот, глытала з асалодаю. Лагода і прыгажосць наўкола. І якія ж кудлатыя і раскошныя бярозкі буяюць ля пнёў, лісце на іх быццам смяецца ад радасці і выгоды. А над імі — ціша і сонца. І ўжо гэтак наелася, што болей ані не лезе!

Наста апусціла рукі на калянае і цёплае, падобнае на брусьнічнік, лісце талакнянкі і адчула, як бруіцца па пальцах гаючая магутная сіла лясной зямлі. Вочы змружыліся самі па сабе. Але Наста гнала сон прэч. Спаць тут нельга, і спаць, ведама ж, яна не будзе. Паляжыць крышку, змружыўшы вочы, паслухае цененькае лапатанне бярозавых лісцінак, ледзьве ўлоўныя подыхі ветру ў маладым і рэдкім малінніку. Спала і не спала. Слухала лянотны пошум малінніку і храбусцен-

не моху ў напаленых сонцам верасах, што акружылі лапіну талакнянкі, чула далёкі гул самалёта, што праляцеў недзе дужа далёка, чула басавітае зумканне дзікіх пчол на верасах, чула далёкае і санлівае кугіканне турка. Дзіўна часам крычыць гэтая птушка, быццам недзе далёка чалавек кагосьці гукае. Вось такая тады, калі яна суніцы збірала, праява і прыключылася, што дужа ж яе напалохала: нудзіўся недзе турок, а ёй падалося — погалас чалавечы.

У салодкім сне-паўсне ўзнікла, убачылася ёй знаёмая балаціна, разгалісты арэшнік за дашчанікам, вузенькая сцежка, пратаптаная ад самага склепа да прыстанькі на тарфяністым беразе ручая. Шаплыка рабіў тую прыстаньку, а Канапелька ўдасканальваў, гусценька частакол з сасновых калкоў увагнаў у зыбкі беражок. Вось тут, мабыць, ён і перабраў меру,ператрудзіўся, з таго і нашкодзіў ранам, з таго і пагнала чырвань ад калена. Трэба ёй не забыцца і арнікі назбіраць і заварыць гусцей, не шкадуючы. І, перш чым у кіпень кінуць, у ручаі яе добра памыць, выпаласкаць. А рабіць гэта цяпер дужа зручна, калі прыстанька ёсць. Дзівосны ён, ручай той за дашчанікам. Беражок тарфяністы, а рэчышча чыстае, не чорнае, пясочак на ім быццам залачоны, і няроўным ланцужком ляжаць вялікія і малыя пустыя перлавіцы. Адбітак яліны на вадзе, і перлавіцы тыя, як пацеркі ўздзетыя на зялёную макаўку. Дзіўна, адкуль выскачыла ля ручая гэтая яліна, доўгая, быццам дзіда. Гэткая ж яліна на высечках, дзе маліннік, адзінока стаіць, голле ля зямлі паабсякана. Сонечныя промні ліюцца з-за той макаўкі, перлавіцы ў вадзе зіхацяць, бліставкі адскокваюць ад іх, коцяцца па залачоным рэчышчы. Рэчышча няроўнае, прыступкамі, перлавіцы скочваюцца па іх, вызваньваюць задушнапрацягла: «бо-оўм», «бо-оўм», «бо-оўм»... Бы кроплі тады па пустым вядры, калі Наста на ранку прачнулася і са склепа выйшла. І Канапелька нечага бурчыць, даводзіць Буркуну, што зрабіў, маўляў, прыстаньку сваёй ахвотаю, помачы і загадаў не чакаў, і кожны калок завастрыў і пазаганяў сякераю надзейна. Гэтак жа было, Настачка? Ну, скажы ты гэтаму недаверку!

Зноў нешта гулка бабэхнула, цяпер недзе за ручаём, і Канапелька пачыкіляў туды, з натугаю аддзіраючы мыліцы ад зямлі, і Буркун туды пацягнуўся, і Наста пакрочыла следам. Стала нагой у ручай, вада

палілася ў чаравік, і яна адразу выдралася і з вады, і з салодкага паўсну, села, з цяжкасцю разляпіўшы непаслухмяныя павекі.

Сонечнае святло разанула па вачах, аж цёмна зрабілася, і яна ўтаропілася ў дол. Цямнота прарэдзілася, і яна ўбачыла ля ног цёмна-зялёнае, як чорнае, лісце талакнянкі, што льснілася на сонцы, і ўжо не ў салодкім і дзіўным сне-паўсне, а рэальна пачула: недзе з левага боку, не дужа далёка, нешта глуха бумкнула. Наста ўперлася далонямі ў каляны і цёплы дыванок талакнянкі, пачула, як зашухцела лісце. Наважылася ўскочыць і, узняўшы вочы, адчула, як ад здзіўлення і жаху ў яе адвісае, як адвальваецца, ніжняя скіўіца.

«Немец!!!»

Позірк ахапіў шырокі панарамны малюнак высечкі: вузкая стужка маладога бярэзніку, погарб з адзінай, падобнай на дзіду, старой ялінай, у якой паабсяканы ўсе ніжнія галіны, паабсяканы дужа высака, быццам па драбінах да іх дабіраліся, машына ў канцы старога затравелага зімніка пад соснамі, з рабрынамі старой падсочкі, чорныя постаці людзей, якія цягалі са штабялька метракі і кідалі іх у кузаў, і яны клаліся на дно кузава з гучным бумканнем: «бо-оўм!» Але і гэты гук і дэталі ўсёй панарамы, што ахапіў імгненна позірк, былі як нетутэйшыя, адсунутыя далёка. Рэальным быў толькі ён, гэты немец: рудаваты, табачнага колеру фрэнч, расшпілены на ўсе гузікі, гэткага ж колеру пілотка, чорная шырокая дзяга, на якую абвісла шараватая майка...

«Немец! Гэта ж немец сядзіць!..»

Немец сядзеў на кукішках ля пня, падграбаў шчопцямі маліну з Насцінай хустачкі і кідаў ягады ў рот і штораз матляў бялявым чубам, які завісаў над шырокім напацелым ілбом. Сокам маліны былі перапэцканы шчокі і кончык тупога носа, на шырокім падбародку прыліпла раздушаная ягадзіна, і калі скіўіцы соўгаліся, гэтая чырвона-ружаватая прылепка рухалася, быццам паўзла з аднаго канца падбародка ў другі. Дзіўна светлыя, як пустыя перлавіцы, вочы мружыліся ад задаволення.

— Гутэн таг, вальдс фогеляйн,— прамовіў немец, убачыўшы, што Наста адплюшчыла вочы.

Голас быў добразычлівы, напеўны,— яе ўразіў не голас, а тое, што хусцінка амаль пустая — апошнія

ягадзіны падграбае. Значыцца, даўно сядзіць тут. Сядзіць, жарэ ягады! А яна — спіць! Раскашуе ў цяпле, на выгодзе. А ён жэр ягады і чакаў, пакуль яна прачнецца. А цяпер і пацвельваецца: добры дзень, маўляў, лясная птушачка!

— Гу-ут! Алес гут! — ён страсянуў хусцінку, абцёр ёю рукі, адкінуў убок, паківаў сагнутым, чырвоным ад соку пальцам.— Ком, ком, майнэ фогеляйн!

Наста ўскочыла, схапіла кацялок, намёртва сціснуўшы ў руцэ дужку, моцна ўгрэтую на сонцы. Адступіла на крок, адступіла асцярожна, баючыся, каб не пасыпаліся на дол ягады. Ягады, аднак, сыпаліся, і яна тое не прыкмячала.

— Ку-урт! — даляцела знізу ад машыны, і Наста бакавым зрокам згледзела, што праца там спынілася, усе стаяць і глядзяць сюды, на пагарб.— Хапай птушку за крылы. О-ой, пырхне, дык і не ўловіш!

Гукаў нехта па-нашаму, і нейкім нават быццам і знаёмым голасам, і Насту дзівіла і гэта, і тое, як марудна, не спяшаючыся, з лагоднай усмешкаю ўзнімаецца немец. Узняўся і стаіць, ківае сагнутым у крук пальцам, чырвоным ад падушаных ягад, і яго голас цяпер гучыць настойліва і патрабавальна:

— Ком, ком!..

Наста, сцяўшыся ад жаху, зрабіла яшчэ адзін крок назад, проста пасунула нагу, не адрываючы чаравіка ад зямлі, і падэшва слізганула па гладкіх і цвёрдых лісцінках талакнянкі лёгка і хутка, быццам па лёдзе. І ад гэтага руху ўтрапенне прайшло, і жах нейкімі дзіўнымі рыўкамі, якія яна адчувала ўсёю істотай, ужо адпускаў яе; душылі слёзы роспачы, злосці і крыўды. Фогеляйн, значыцца... Лясная птушачка... Вось і трапіла яна, бы тое дурное і неразумнае птушаня, у пельку. І схопяць яе зараз за крылцы, як тое і раіць нехта з тых, што пасталі ля машыны і назіраюць. Чаму здаўся знаёмым той голас?.. А гэты Курт, немец гэты, усё адно і тое ж цвердзіць: «ком, ком...» І ўсё бліжэй ён, усё бліжэй... І рукі ў яго вялікія, пальцы чырвоныя і бліскучыя ад соку ягад...

Наста крутнулася і пабегла. Пабегла і адразу ж учула, што немец кінуўся следам, бяжыць, тупае ботамі. А цяпер зусім не пагрозліва, дурасліва неяк смеючыся, патрабуе:

— Хальт, майнэ фогеляйн!.. Ха-альт!

Наста бегла ўверх па схіле погарба, усцяж роўнай палосы маладога бярэзніку. Пёрла што было сілы, і рука, у якой быў у яе кацялок, быццам прыкіпела намёртва да жалезнай дужкі. Бухала, малаціла па рэбрах сэрца, дзіўна вялікае і пругкае, гатовае вырвацца з грудзей. І гэтак жа міталася адна-адзіная думка: уцячы!

Яна імчала з усяе моцы, на якую была здольная, і ёй здавалася, што выратавальная мяжа ўжо зусім блізка. Толькі б дапяць, дабегчы да лабка погарба, адтуль, па схіле ўніз, бегчы будзе лягчэй. Там неўзабаве і соснік густы, і там яна згубіцца. І там ужо не дагоніць яе гэты кляты немец. Здаецца, пачаў адставаць. Ужо не смяецца, гарліць пагрозліва:

— Ха-альт! Ха-альт!

Яна не азіралася, пёрла па-ранейшаму ўсё тым жа кірункам — на грэбень ляснога погарба. Але чым бліжэй рабіўся гэты жаўтлявы лабок, за якім узнімаўся густы частакол салатнага колеру свечачак маладога сосніку, тым усё больш шалёна калацілася сэрца, дзервянелі, наліваліся халоднай свінцовай непадатнасцю ступакі. І ўжо зусім не стае паветра, быццам сагналі яго зусім з гэтага погарба вятры. Рот і горла сухія, быццам попелу туды насыпалі. Яшчэ б крышку! Яшчэ б крокаў якіх з паўсотні! Толькі б перакуліцца з лабка, у той соснік, што наставіў у неба маладыя сёлетнія свечкі. Зіхацяць яны ад жывіцы на сонцы, быццам вясновыя ледзяшы!.. І, як на тое ліха, разоры пайшлі скрозь. І ў кожнай, радочкам, маладыя, на вяршок, сасоначкі. Летась, мабыць, пасеяны яны тут. Як жа цяжка тут бегчы, чаравікі слізгаюць, ногі як не па шчыкалатку патанаюць у крохкім жвіры. І стрэл грымнуў далёка ззаду, ля машыны, відаць.

«Доўбня. Страляць трэба!..»

Думка ўзнікла нечакана, і рука міжвольна лэпнула бок, не намацала пад кофтачкай цвёрды і каляны кабур, і Насту быццам пярун смальнуў па галаве. Гулкімі бомамі ўдарыла ў скроні кроў, сэрца, здавалася, пераскочыла туды, у скроні, і цяпер малоціць па чэрапе, ірвуючыся навонкі.

«Дурніца! Я ж не ўзяла парабелум!..»

І гэтае нечаканае, як міг бліскавіцы, адкрыццё падкасіла Насту. Загрузла ў сыпкім, быццам мліва, пяску спачатку левая нага, потым правая, і Наста,

спатыкнуўшыся, тыцнулася лбом у гарачы брусьнічнік; заблішчэлі буйныя, зялёныя зверху і белаватыя спадыспаду ягады, якія рэдзенькімі гронкамі віселі на сцяблінках, тонкіх і кароценькіх, быццам былі прывязаныя да лісцін.

Моцная ўчэпістая рука крутнула яе, як бы завальваючы на калянае лісце брусьнічніку; у патыліцу тхнула смуродам табакі і едкага, быццам конскага, поту.

— Ха-а-аальт! — прасіпеў немец глухаватым і дрыготкім ад узбуджанасці і хуткага бегу голасам.

Па скронях быццам завейная пройма прайшлася, уміг выстудзіла галаву. Сэрца білася цяпер на сваім месцы, і пад яго ўдарамі, здавалася, выгінаюцца рэбры. Наста, знямеўшы, глядзела на немца, які дыхаў, шырока разяўляючы рот. Бялёсыя перлавіцы яго вачэй пад саламянымі бровамі рабіліся пукатымі і бляклa-сінімі, як сплаўлены на агні гарляк бутэлькі.

Левай рукой немец схапіў Насту за плячо, а правай, з чырвона-малінавымі пальцамі ад соку ягад, пацягнуўся па кацялок, які Наста не выпусціла, не кінула, калі бегла. Дзіўна! Кацялок поўны, толькі ссыпаўся каптурок, калі яна бухнулася на гэты каляны брусьнічнік, што густым зялёным колам абвіў стары сасновы пень, пабіты расколінамі і высмалены сонцам да вугальнай чарнаты.

Насціна рука быццам прыкіпела да дужкі, як зраслася з кацялком. Немец патузаў за дужку, потым узяўся аберуч, пацягнуў вельмі асцярожна і неяк гулліва, быццам дурэючы.

«Ён ягады хоча забраць... А скулле яму!»

Мільганула ўратавальная думка пра тое, што немец бег за ёю, каб забраць ягады, што трэба аддаць іх, аддаць адразу ж, не пярэчыць і тады ён пойдзе назад, да машыны. І ліха з імі, гэтымі ягадамі. І ліха з ім, гэтым кацялком! Ёй, Насце, абы ўцячы, абы збегчы адсюль!

Думалася гэтак, але з горла, сухога і шархоткага, міжвольна, як само па сабе, выкацілася:

— А скулле! Не аддам! Мае маліны!

Немец, быццам добра зразумеўшы яе, моўчкі, адмаўляючы, пахітаў галавой і рэзкім рыўком выдраў з Насцінай рукі дужку кацялка. Ён злёгку патрос кацялок, быццам утрэсваў роўна ў ім ягады, потым

асцярожна паставіў на чорны сасновы пень і зноў працягнуў да Насты рукі:

— Майнэ фо-огеляйн...

Ускочыць на ногі Наста не паспела. Імкліва, як каршун, немец схапіў Насту і заваліў на спіну. Адной рукой ён трымаў яе за горла, а другой моцна смаргануў за пояс спадніцы. Пояс быў вузкі, вільготны ад поту, і немцавы пальцы слізганулі па ім. Злаўчыўшыся, Наста падагнула ногі і правым каленам саданула немца. Мяцела ў пахвы, але не разлічыла, калена ўдарыла ў жывот. Адразу адчула, што пальцы адваліліся з шыі; дыхнула прагна, на поўныя грудзі, і ўскочыла.

Ускочыўшы, Наста трапіла ў моцныя абдымкі другога немца, які быццам з-пад зямлі вылупіўся. Высокі, мажны, у шэрай кашулі, рукавы ў якой былі закасаны вышэй локцяў, ён заламіў ёй рукі за плечы, нешта хутка і незразумелае Насце спытаў у таго, які ўзнімаўся з брусьнічніку, і той, гэтак жа хутка, нешта адказаў.

— П-пусці-і!

Наста закрычала, паспрабавала выдрацца з учэпістых і моцных рук, крутнула нагой, спрабуючы ўдарыць немца. Але той трымаў яе, прыцiскаючы да сябе, нага не мела разгону, і ўдар атрымаўся слабы. Другі ўдар быў лаўчэйшы і адчувальны, і немец у шэрай кашулі з рукавамі, што былі закасаны вышэй локцяў, вылаяўся:

— Фэ-эрфлю-юхтэн!

Наста крутнула галавой, спрабуючы ўчапіцца зубамі ў дужыя і загарэлыя рукі. Але галава яе матлянулася ў паветры, ногі адарваліся ад зямлі, і ёй здалося, што яна ляціць некуды ў чыстую сонечную прастору. Падкінуўшы яе ў паветра, немец у шэрай кашулі, аднак, не выпускаў Насціных рук і смаргануў за іх, і яна бразнулася спіною на брусьнічнік. Немец у шэрай кашулі падцягнуў Насту бліжэй да пня, прыціснуў левым ботам правую руку вышэй локця, зняў з пня кацялок з ягадамі, паставіў правы бот на левы Насцін локаць і сеў на пень. Натросшы з кацялка жменю маліны, ён задраў галаву, высыпаў ягады ў рот, паплямкаў губамі, са смакам жуючы, потым, ці то ўхваляючы смак маліны, ці то запытваючыся, ці ўсё ён зрабіў як належыць, прамовіў працягла, з усміхам, быццам праспяваў:

— Гу-у-ут, Курт...

Курт скінуў руды, табачнага колеру фрэнч, закасаў рукавы і сагнуўся над Настай. Яна рванулася. Але ногі яе былі ўжо моцна прыціснуты да зямлі цяжкім і грузным целам немца. Яна адчула на сваіх сцёгнах цвёрдыя каляныя пальцы, адчула, як паўзе па каленях разадраная спадніца, і закрычала адчайна, разумеючы марнасць сваіх намаганняў, усё-ткі паспрабавала вырвацца з жахлівага палону. Правая рука да локця была вольная, і Наста пачала дзерці цвёрдую халяву бота, абломваючы ногці. Адчула, што крыху вальней стала левай назе, дугнула ёю, і тут жа нагу прыціснула да бруснічніку гарачая і моцная далонь, і яна зараўла, скрыгатнула зубамі. Але тут жа голас яе асеў, зламаўся, і з горла драўся толькі сіпаты, здушаны енк...



## 21

Погарбы, парослыя сосрікам, скончыліся, пачаўся густы і шчыльны лістоўнік, дзе, цесна сплёўшыся голлем, бы жардзіны ў плоце, стаялі зеленаватыя, аж сінія месцамі, і цёмныя крывыя асіны. Неяк адразу і моцна тхнула дурманам сапрэлага лісця, задушнай вільгаццю балотных тарфянікаў. Здаецца, вада бліснула за камлём старой бярозы, што расце неяк адзінока, паадсунуўшы ад сябе ўсе танклявыя крываватыя дрэўцы.

Голле старой бярозы гайдаў цёплы, задушна-мяккі вецер, і здавалася, што вялізнае чырвонае кола сонца дробненька трымціць і ўвесь час дугаецца, як бы точыцца ў лістоту. Наста глядзела на сонца, што ўзыходзіла недзе далёка за той бярозай, без радасці, абыякава і сумна адзначаючы, што літаральна гэткім жа бачыла яна сонца ранкам учора і пазаўчора. Два гэтыя дні, што мінулі, Наста не выходзіла з лесу. На ноч яна забівалася пад старыя хвоі, дзе на тоўстых пластах шыгалля было цёпла і ўтульна, а ўдзень тэпала па лесе, ішла туды, куды вялі ногі, зусім не клапоцячыся

пра тое, каб некуды выйсці. Спустошаная і выпетраная, абліваючыся горкімі слязьмі, страціўшы ўсялякую ахвоту да жыцця, да нейкага асэнсаванага, канкрэтнага дзеяння, яна бязмэтна блукала з погарба на погарб, брыла па роўных прыгожых і чыстых соснінах, спынялася ў ласкавых бярэзніках, наскрозь прабітых сонечным святлом, і зноў тэпала наперад, не ставячы перад сабою аніякай мэты, без ахвоты нешта шукаць і знайсці. Дзівосныя трапляліся ёй брусьнічнікі, потым яна набрыла на невялікую балаціну, дзе на шараватых, як попелам пасыпаных, купінах было аж сіне ад ягад, і ела ягады, даўгаватыя, удвая большыя за чарніцы, дужа смачныя і сакоўныя. У маліннікі яна заходзіць баялася, абыходзіла іх, выгляд чырвоных гронак, што пабліскваді на сонцы сярод узорыстага лісця, выклікаў у яе жах, адразу пачыналі балець локці, скура вакол якіх была ў чорных пісягах. Праўда, учора, недзе пасля апоўдня, у маліннік, густы і высокі, яна забегла. Маліннік той адкрыўся ёй нечакана, калі выйшла з густога сосніку. Ускрай малінніку, на замшэлым пні, сядзела маладая кабета ў белай хусцінцы. Наста гукнула ёй нешта, цяпер ужо і не прыгадаеш што, і кабета ўскочыла, нібыта птушка, спырхнула і схавалася ў малінніку. Наста кінулася следам, клікала, гукала, плачучы і смеючыся. Кабета быццам вадой разлілася, і Наста выскачыла з малінніку, убачыла каля пня нейкі маленькі згортачак, узяла яго. У анучцы ляжалі дзве скібкі хлеба і паміж імі тоненькі скрылік белага, добра пасыпанага соллю сала. Хлеб і сала яна з'ела, схаваўшыся ў сосніку і назіраючы за маліннікам. Але з малінніку ніхто не выходзіў, і яна зноў пабрыла па лесе.

Уночы Наста прачнулася — душыла смага. Памацала рукамі мяккі пласт шыгалля, нібыта спадзявалася, што зараз і знойдзе конаўку з вадою, згадала прыстаньку ля ручая, якую збудаваў Шаплыка і выдатна потым дабудаваў Канапелька, і зноў залілася горкімі слязьмі. Але слёзы прынеслі палёгку, і нечакана выспела рашэнне, якое яе ўзрадавала: ранкам яна павінна выбрацца з лесу. Заўтра ж нядзеля! І ў нядзелю яе чакае Хведар. Яна зойдзе да яго, раскажа пра склеп, папросіць забраць адтуль параненых, а сама пойдзе сваім шляхам. Чакаць Грача ёй няма патрэбы, і чакаць яго яна не будзе. Ён, Грач, ва ўсім віна-

ваты! Чаго ён не вярнуўся? Чаго пакінуў яе ля балаціны? Каб ён не пакінуў яе ля той балаціны альбо вярнуўся ў час, дык не трапіла б яна ў бяду, не ляжала б тут, пад старой ялінаю, і не аблівалася горкімі салёнымі слязьмі. Ды, зрэшты, і не толькі ён вінаваты. Каб яна паслухалася Канапельку, каб узяла парабелум з сабою, дык абараніла б сябе. Не, памылка яе не тут, яна, тая памылка, зроблена раней, тады, калі яна пурыла цяжкі мех на плячы і вырашыла кінуць усё да д'ябла, а потым разлімонілася, пашкадавала тых гаротнікаў, што ляжаць у склепе. І вось што з таго атрымалася, вось да якой бяды давяла яе ўласная нерашучасць і неабачлівасць. Дакладней, тут, у гэтай неабачлівасці, галоўная памылка. Разлеглася на сонцы, спаць удумала, хоць ведала, што спаць там нельга, хоць сама ж сабе і казала тое, хоць сама ж бачыла дарогу, спаласаваную коламі машын. Нават каб і быў з ёю парабелум, дык хіба ж паспела б яна яго выхапіць з кабура? Паспела б! Злаўчылася б і паспела! Але ж вось не ўзяла! А Канапелька як прадбачыў благое, прыцягнуў перабелум, соваў ёй у рукі. І Аўдошка, быццам прадчуваў, угаворваў увогуле не ісці ў той дзень анікуды. А яна пасмяялася, рагатала шчэ тады разам з усімі з таго трапнага жарту Канапелькі...

Шкадаванне душыла мацней, чымся смага, Наста плакала, злізвала салёную горыч з губ і гэтак, у слязах, і заснула.

Ноччу, у сне, яна бегла. Бегла ўніз па схіле погарба, прыціскаючы да пояса парабелум правай рукой, а ў левай трымала кацялок поўны буйных бела-жоўтых, быццам з воску, ягад. Ззаду, за спіною, бухалі цяжкія боты, і яна не азіралася, і бегчы было лёгка, быццам нехта цягнуў яе да сябе нябачнай і моцнай вяроўкаю. Голле гучна хвастала па кацялку, і ён адгукаўся басавіта, быццам недзе ўнізе, пад нагамі, малацілі раз-пораз у бубен. Наперадзе купкаю стаялі сіняватыя сасонкі, абкружаныя роўным колам бярозак, і Наста ведала, што там, ля тых сасонак, яна павернецца і стрэліць.

Яна дабегла да сасонак і павярнулася, і немец, быццам наляцеўшы на вострую дзіду, шырока разявіў рот і спыніўся, аслупянеўшы. Бялёсыя перлавіцы яго вачэй пад саламянымі бровамі зрабіліся пукатыя і бякла-сінія, як сплаўлены на агні гарляк бутэлькі.

Выставіўшы перад сабою рукі, з ружаватымі ад соку маліны кончыкамі пальцаў, ён як бы адпіхваў ад сябе Насту і разам з ёю і ўвесь свет, і Насце падалося, што не з рота, а з гэтых чырвона-малінавых кончыкаў тоўстых пальцаў зляцеў хрыпаты гарлавы енк, крык роспачы і жаху:

— Ні-і-і-ікс страляць!

Яна нават не сцяміла, ці націскала на гладзенькі і халаднаваты спуск. Але адчувала, як рука, раз за разам, двойчы тарганулася, чула пранізліва гучныя стрэлы, бачыла, як мільганулі перад ёю два бляклыя малінавыя лязы, як бы ўстаўленыя адно ў адно і спавітыя рэдзенькім сіне-белым дымам. Ад гэтага дыму, быццам жывыя крылы, матлянулася крыссё жаўтлявага фрэнча, і немец пачаў завальвацца на спіну. Ён завальваўся неяк запаволена, марудна выгінаючыся і выстаўляючы наперад грудзі, абцягнутыя шараватай, як попельнай, майкаю з белай аблямоўкаю ля горла, і пальцы яго даўжэлі, выцягваліся, рабіліся падобныя на пасохлыя бабовыя струкі, з сухім трэскам драліся на часткі і некуды знікалі, пакідаючы пасля сябе попельнае воблачка дыму, і дым гэты гусцеў, і ў ім знік, як паплыў увысь, і немец.

Згадка пра сон уночы, дакладней, пад раніцу, бо, калі Наста абудзілася, у лесе ўжо шарэла перадсвітальнае сутонне, была дужа кароткай, але дужа выразнай. У грудзях адразу заныла сэрца. Смага, што душыла ўночы і ўранку, памацнела, зрабілася нясцерпнай, і Наста кінулася да таго цьмянага блюдка, што нечакана выбліснула з-за камля старой бярозы. Ручай! Урэшце яна знайшла яго! Урэшце яна задавіць, адкіне гэтую сухасць, што выпетрыла ёй горла і душу.

Укленчыўшы ля камля старой бярозы і ўпіраючыся рукамі ў тоўсты корань, што роўнай дугою стаяў над ручаём, Наста прагна, па-сабачы хлябтала ваду. Піла доўга, вялікімі глыткамі і аніяк не магла наталіць смагу. Потым, пакрысе, сухасць у роце прайшла, зубы аж занылі ад халоднай вады, і Наста адпіхнулася ад кораня, прылегла ля шурпатага, у глыбокіх расколінах, бярозавага камля. Смага ўсё яшчэ пякла, але было такое адчуванне, што вада стаіць у горле. Вось каб праглынуць гэты камяк, дык можна б было і яшчэ вады пахлябтаць, каб заліць, задушыць смагу канчат-

кова. Але паварушыцца, нахіліцца да вады аніякага жадання не было, і Наста ляжала і глядзела, як варушацца на беражку ручая зеленаватыя стаўбункі ляснога хвашчу.

Голыя гузаватыя карані мулялі, уразаліся ў паясніцу. Змяніць паставу, легчы зручней не было як: суха толькі тут, ля камля, а далей сцелецца чорны, блішчасты ад вады тарфянік — на ім не паляжыш. Ды, зрэшты, Насце і няма патрэбы тут ляжаць, яна зараз аддыхаецца ад гэтага прагнага піцця, узнімецца і памалу пойдзе. Куды ісці? Яна пакуль што дакладна гэта не вырашыла, па-ранейшаму не было нейкай пэўнай мэты. Тое, што ўночы, калі яна залівалася слязьмі, здавалася ёй простым і дужа рэальным, здавалася адзіна правільным і разумным, цяпер не выглядала гэтак, як пад той сухой і ўтульнай старой ялінай, проста і лёгка. Па-першае, Хведара трэба знайсці. А як жа яго знойдзеш, калі невядома, дзе яна зараз знаходзіцца, куды яна забрыла за гэтыя два дні? Па-другое, шчэ ж невядома, як паставіцца Хведар да таго, што яна яму прапануе. З якой такой ласкі павінен ён узваліць сабе на плечы клопат і турботы, якія нічога добрага яму не абяцаюць, апрача трывогі і небяспекі?..

Думкі прыходзілі і знікалі, марудна, запаволена, не выклікаючы неспакою, і па-ранейшаму не было аніякай ахвоты ўзнімацца і рухацца, і яна ўсё гэтак жа ляжала ля камля старой бярозы, утаропіўшы вочы ў маленькую затоку, акаймаваную рэдзенькім ланцужком ляснога хвашчу. Ручай тут зусім не падобны на той, што ля балаціны. Ды, зрэшты, чаго ён павінен быць падобны на той? Хіба мала ў лесе ручаёў! У тым ручаі ля прыстанькі дно залацістае ад пяску, пустыя перлавіцы на ім зіхацяць прыгожа, бы пацеркі. А тут дно нават і не відаць. Не, відаць дно, толькі чорнае яно, засцеленае старым сатлелым лісцем і шыгаллем. І нібыта рухаецца гэтае дно, соўгаецца, неяк дзіўна ўздрыгвае. Вось дык праява! Ці гэта ўжо яна вар'яцець пачынае? Але ж сунецца дно ручая, соўгаецца, неяк дзіўна дрыжыць!..

Наста нахілілася ніжэй да вады, уважна прыгледзелася да чорнага рэчышча ручая і ад задавальнення папляскала рукою па вадзе. Нікуды ручай не сунецца, на месцы ён, як і належыць быць, а гэта соўгаюцца, поўзаюць па чорным рэчышчы шыцікі. На

кожнай чорнай галінцы быццам гронкі вісяць. І на дне іх поўна. Гэтулькі іх тут пасабралася, што ажно ўсё рэчышча заслана. А плынь іх трошкі гайдае, дык з таго і такое ўражанне, быццам сунецца, паўзе некуды ручай.

Яна назірала за жыццём жывых стварэнняў, што пахаваліся ў дамках, падобных на адламанае ад струхлелай галінкі каленца. Злеплены з кавалачкаў сатлелай дзеравіны, чорных палосачак лісця і пясчынак, дамок гэты ўвесь час у руху, і з аднаго канца яго тырчыць цёмна-карычневая галоўка лічынкі. Двойчы, у сярэдзіне лета і ў канцы, цёплымі адвячоркамі вылузваюцца з гэтых лічынак буйныя хвастатыя камары, хмараю віснуць над вадою, і тады ў рэчках пачынае шалець рыба, ловячы гэты смачны наедак.

Аднойчы Наста бачыла гэтае дзіва на Дзвіне. Тады быў жывы дзядуля, і яны з бацькам прыехалі да яго на госці і ўвечары паплылі па рацэ на чоўне. Маці з бацькам тады спявалі. Не, маці прыехала пазней, праз два дні, і яны зноў былі на рацэ, і Наста веславала, а бацькі спявалі. І яны дужа спазніліся тады дамоў, дзядуля нават спалохаўся і страчаў іх на беразе і выгаворваў ім, а бацька смяяўся, і маці плёхала па вадзе рукой і смяялася.

Маці мігнулася Насце зноў, але ўжо ў вагоне, і, нібыта ў нейкім кароткім мітуслівым кінафільме, праплылі перад вачыма падзеі, што адбыліся апошнім часам. Малюнкі мільгацелі вельмі хутка, некаторыя з іх былі вельмі расплывістыя, і толькі з выключнай выразнасцю бачыліся самалёты з крыжамі на крылах, што імкліва несліся на эшалон. Там пачатак Насцінай бяды, адтуль, з таго касагора над насыпам, і панесліся на злом дарогі Насцінага жыцця. Каб яна, Наста, тады не пабегла да таго ручая, дык не адстала б яна ад эшалона, і зараз была б з маці разам, працавала б у нейкім шпіталі...

Ад гэтых думак балела сэрца, муціла галаву і яшчэ больш цiснуў халодны камяк у горле. Наста павяла рукой па шыі, адчула на скуры пясок і, зачэрпнуўшы вады ў прыгаршчы, пачала шараваць шыю і твар. І адразу, як толькі халодная вада змыла пясок з шыі, камяк, што лез аж пад самы падбародак, растаў, зрабілася лёгка дыхаць, і Наста з яшчэ большым імпэтам шаравала шчокі, лоб і шыю. Яна чэрпала і чэрпала

ваду, і вада вяртала ёй сілы, і расла, сталела ў душы нянавісць да свае слабасці. Малюнак з таго дзіўнага карагоду ўспамінаў — малюнак самалётаў з крыжамі на крылах — неяк дзіўна ўзнік побач з малюнкам таго, што саснілася Насце сёння перад світаннем, і Наста раптам адчула, што яна нібыта вылузваецца са свайго старога аблічча. Яна атрэсла ад вады рукі, паглядзела на сябе ў паспакайнелым сподку вады — адбітак яе твару быў выразны — і ўголас хмыкнула. Паміраць захацелася табе? Зрабіцца такой жа сатлелай галінкаю, з якой будуюць сабе дамочкі ў вадзе ручая гэтыя шыцікі? А націснуць на спуск парабелума, націснуць гэтак, як націскала ў сне, ты не хочаш?.. Націснуць не ў мройным сне, а націснуць уяве, каб бачыць твар ворага, скрыўлены жахам гэтак жа, як быў скрыўлены твар таго, у грудзі каму пыхнулі тыя два бляклыя лязы агню, ты не хочаш?..

Наста ўзнялася. Думкі снавалі роўна, чыстыя і ясныя. Досыць бадзяцца па лесе. Трэба ісці ў Дзягілі. Заўтра — нядзеля! Хведар будзе чакаць яе. Але чаму ён павінен чакаць яе? Яна будзе чакаць. Стуліцца дзенебудзь ля хаты, у садзе стоіцца і будзе яго чакаць. У канцы саду стаіць невялічкая старая лазня. Вось у ёй і стуліцца, да хаты блізка не падыходзіць. Хведар можа вярнуцца і сёння ўвечары. А яна будзе чакаць раніцы! Навошта? Трэба ісці туды, ісці зараз жа! І не трэба спадзявацца, што лёгка дабрысці да тых Дзягіляў. Дзе, у якім месцы зараз яна? У якім баку тыя Дзягілі? Мабыць, трэба трымацца гэтага ручая — ісці туды, куды бяжыць вада, рана ці позна ручай выведзе яе з лесу.

Наста папраўіла спадніцу, у трох мясцінах завязаную тоўстымі матузамі — прыдалася тая ануча, у якую былі загорнуты дзве скібкі хлеба і лустачка сала! — адарвала матузок ад кофтачкі і звязала ў пук валасы. Толькі цяпер здагадалася, чаму гэтак спалохана кінулася наўцёкі кабета, якую яна ўгледзела ля маліннiку. Ведама ж, кінешся ўцякаць, калі рынецца на цябе вось гэткае стварэнне ў разадранай спадніцы, лахманамі кофта вісіць, валасы ўскудлачаныя, ды шчэ сіпіць нейкім голасам, што на чалавечы мала і падобны.

Але цяпер, прывёўшы сваё адзенне ў нейкі парадак, Наста засталася задаволеная. Галоўнае, яна можа

рухацца. Спадніца і кофта не зваляцца, валасы не будуць чапляцца за голле.

Узнікла думка пра балаціну, пра склеп, дзе яе напэўна ж чакаюць. Жадання вяртацца туды не было, нейкая нават як бы злараднасць прабілася: чакалі два дні, пачакаюць і яшчэ крышку, хай ляжаць паболей, сілы набіраюцца. Перавязкі яна рабіла праз два дні, так што няма патрэбы туды спяшацца. Згрызота, аднак, узнікла, і Наста заглушыла яе, як ёй падалося, высновай вельмі разумнай: аб іх жа клопат у Насты, не толькі аб сабе. Чым раней яна знойдзе Хведара, тым лепей будзе і ім, тым, што ляжаць у склепе.

Яна ішла па лесе хутка і ўпэўнена. Але таго спакою, што на нейкі міг завітаў у сэрца ля ручая, ужо не было. Невыводна, цяпер нават памацнеўшы, жыў у душы дакор за сваю неабачлівасць. Чорная грызь, што тачыла сэрца асабліва моцна ў мінулую ноч, цяпер, пры святле дня, была незвычайна куслівая і ядучая, і Наста, стаміўшыся змагацца з ёю, нечакана зноў, як уночы, залілася горкімі слязьмі. Залівіста спявалі берасцянкі, недзе зачачакалі сарокі, напеўна і тужліва кугікнуў і аціх турок. Глуха дудзеў вецер у вершалінах старых сосна, страсаючы доўгае рудое шыгалле. І ад таго, што ў лесе ўсё было гэтак жа дзівосна і прыгожа, як і раней, Насце зрабілася яшчэ больш балюча і горка. Лес усё той жа. Толькі вось яна, Наста, не тая, што была два дні перад гэтым. Няма радасці. Няма спакою. І, здаецца, нешта доўга не відаць ручая. Увесь жа час быў і быў праваруч, увесь час паблiскваў за ядлоўцавымі кустамі. А цяпер і кустоў тых не відаць. Вось што яна сваімі гэтымі слязьмі нарабіла!

Наста выцерла слёзы, хутка ўзбегла на вяршыню пагарба, укрытага густым дыванам зязюльчынага моху, і ўзрадавана спынілася. Вунь ён, ручай! Нідзе не згубіўся, родненькі, хораша і весела блішчыць на сонейку. І ўжо даволі шырокі. Так, Канапелька праўду казаў: ручай у лесе — нітачка надзейная. Вось яна, Наста, за гэтую нітачку і будзе трымацца. І хопіць, хопіць ёй слёз! Няма болей слёз і не будзе! Толькі ненавісць яна будзе гадаваць у сэрцы! Гадаваць штохвілінна, гадаваць кожную часінку свайго жыцця, каб потым не здрыганулася рука ў той міг, калі спатрэбіцца, каб стрэліць гэтак жа дакладна, як стрэліла яна!

Зноў, міжвольна, мігнулася ёй часцінка сну, і Насце здалося, што гэта было і ўяве. Як жа выразна вырваліся з дула парабелума, бы ўстаўленыя адно ў адно, два лязы агню, спавітыя бляклым дымам, ад якога крыламі ўзляцела крыссё жаўтлявага фрэнча, як спуджана крычаў немец: «Ні-і-і-ікс страляць!» Не страляй, значыцца. А яна стрэліла. Яна стрэліла і будзе страляць! І будзе прыцэльвацца спакойна, без хвалявання, каб кожная куля ішла дакладна, знішчальная, поўная нянавісці і адплаты куля!

Наперадзе пасвятлела, і Наста паскорыла хаду. Няўжо ўзлесак блізка? Няўжо яна зараз убачыць поле, тое знаёмае поле, за якім віецца дарога на Дзягілі? Не, не поле гэта наперадзе. Высечка, здаецца. Старая дужа высечка, і маліннік у канцы. І нешта ж дужа знаёмы маліннік. І нейкі ж дужа знаёмы шырокі гэты замшэлы пень. Гэта ж на ім, гэтым пні, сядзела тады кабета, што шуснула ў маліннік, калі ўбачыла, што да яе імчыць Наста. Той гэта пень, той! Значыцца, недзе непадалёк і вёска. Вясковыя людзі звычайна далёка ў ягады не ходзяць. Вёска, значыцца, недзе блізка!

Наста абышла вакол знаёмага пня, зноў і зноў пераконваючы сябе ў тым, што вёска недзе непадалёк. І лаяла на чым свет стаіць гэты пень, што нечакана ўзнік на яе шляху. Нагадаў жа, кляты, пра хлеб і сала. Не бачыла яго, дык і есці не хацелася ўжо гэтак, як цяпер. А тут аж сліна ручаём цячэ, толькі паспявай глытай, ды бурчыць у жываце, і нейкая жахлівая пустэча ўсярэдзіне. Можа, які кавалачак хлебца тады згубіўся? Не, толькі сівенькі мох, чысценькі, аніводнай крошачкі хлебнай на ім. Ды каб і звалілася тады што-небудзь з тваёй далоні, птушкі даўно б падзяўблі, цябе не чакалі б.

Яна зноў ішла па лесе, увесь час азіраючыся наўкола, намагаючыся прыкмеціць што-небудзь знаёмае. Лес усцяж ручая гусцеў, зямля пад нагамі рабілася ўсё больш вільготная. Урэшце мякка зачаўкаў тарфянік. Падобна, што балаціна нейкая пачынаецца. Але мясціны зусім незнаёмыя: тут Наста шчэ ніколі не блукала і не хадзіла. А ручай шчэ больш пашырэў. Э, дык гэта ж бабровыя хаткі вунь наперадзе! Гэта ж бабры і запрудзілі ручай. Як яго цяпер абыходзіць, каб шчэ ў большую дрыгву не залезці? Камароў тут

плойма, аж у рот лезуць. Трэба, мабыць, на сонца арыентавацца. Сонца, помніцца, заходзіла па левы бок ад Хведаравай хаты. А Наста, калі выходзіла на ўзлесак, сонца перад сабою бачыла. Яно якраз над вільчыкам хаты Сцяпаніхі вісела. А потым яна пайшла той клін бульбяны шукаць, і сонца ўвесь час праваруч было. І тады, як яны на колах да Хведаравага саду ехалі, сонца з правага боку было. А калі яна з вышак адрыны глядзела, пільнуючы Хведара, сонца заходзіла па левы бок хаты.

Наста гэтак яскрава згадала той вечар, калі ў прагным чаканні стаілася на вышках адрыны, што нават спынілася. На міг падалося, што яна не тут, у лесе, а ўсё яшчэ там, на духмяным сене Хведаравай адрыны, і ў франтон ломяцца, быццам залачоныя дзіды, вузкія промні вечаровага сонца. З вострым і, як ніколі раней, балючым шкадаваннем падумала пра тое, што там яна магла крута павярнуць свой лёс. І трэба, трэба было павярнуць. На горшае, чым зараз, не павярнуўся б тады яе лёс. Не, не павярнуўся б. І Хведар быў бы тады ўратаваны ад тых пакут, і Уладка, напэўна ж, быў бы жывы, і яна, Наста, не брыла б зараз па лесе з ядучаю згрызотай у душы.

«Зноў я за старое бяруся. Тае карысці даўні попел варушыць. Анікога гэты твой попел і не зачэпіць...»

Думка была такая вострая і дзіўная, што Наста марудна павяла позіркам наўкола, быццам наважылася пераканацца, што побач нікога няма, што думкі гэтыя яе ніхто падслухаць не мог. У глухім лесе яна. І анікога няма паблізу, і думкі гэтыя яе анікому невядомыя і не будуць вядомыя. Яна сама сабе сведка. Яна сама сабе суддзя. І гэта будзе з ёю да скону яе дзён, і яна адна будзе пакутаваць, яна адна будзе несці сваю бяду, анікому пра яе не гаворачы. І каму яна можа сказаць? Соснам? Соснам гэтым толькі і скажаш. І яны моўчкі паслухаюць, моўчкі паспагадаюць, моўчкі будуць хаваць тое, што пачулі. Яны не торкнуць пальцам зларадна, яны не пасмяюцца зларадна ўслед, яны не будуць па-шарлатанску спачуваць, тоячы зласлівы ўсміх у вачах...

Сасна была побач, і Наста прыхінулася да яе тварам, ласкава павяла далонёю па цёплай шурпатай кары. У каравых расколінах, гэткіх глыбокіх, што пальцы правальваліся, скуру драпала, быццам тарку

туды ўціснулі, а па-над расколінамі кара была гладкая, быццам шкло, дужа цёплая. Наста доўга стаяла нерухома, баючыся зварухнуцца, баючыся таго, каб не знікла гэтая гаючая і ласкавая цеплыня, што лагодзіла душу, поўніла сэрца сілай дзівоснай і незвычайнай.

— Дзякуй табе, сасонка ты мая родная,— услых прамовіла Наста, пяшчотна пагладжваючы кару старой сасны.— Дзякуй, што паслухала маю бяду. Людзям жа яе не магу я панесці. А ты ўсё ўведала, усё зразумела, цяжар з душы зняла. І ты не глядзі, што я такая малая, калі побач стаю. Я цяпер крэпкая, дужая, я цяпер гэткая, як і ты. І ты, сасонка мая родная, шчэ гэта ўбачыш...

І крыху пастаяла яшчэ ля сасны, але цяпер нічога не казала, а толькі пяшчотна пагладжвала шурпатыя расколіны, быццам пералічвала іх. А потым, калі пайшла, калі зрабіла крокаў колькі, азірнулася, прыветна патрэсла рукою, быццам развітвалася з сябрам самым шчырым. Патрэсла раз, другі, потым, ужо апускаючы руку, знямела, у вочы шухнула нейкая дрыготкая сінеча, і ў гэтай сінявай аблачыне, густой, быццам густа разведзеная сінька, пасярэдзіне празрыстай, амаль блакітнай па краях, мігнулася Насце маці. Маці глядзела, гаротна сціснуўшы вусны рукой, а ў вачах шкліўся боль спагады і спачування. Перажывецца, дачушка, перажывецца...

— Ма... Мамачка! — выдраўся з горла ў Насты здушаны і хрыпаты стогн.

І ў той жа міг сінеча знікла, растала, быццам і ўвогуле не ўзнікала, і па-ранейшаму ад сасны, асветленай сонцам, бруілася цьмянае, але лагоднае і ласкавае святло. Наста вярнулася назад, да сасны, марудна абышла вакол камля, быццам спадзявалася, што нечаканае і дзіўнае відовішча адновіцца. У душы нават мільганула думка пра тое, што маці недзе побач, тут, толькі яна, Наста, не можа ніяк яе ўгледзець. Перажывецца, дачушка, перажывецца... Матчын гэта быў голас! Матчын голас!..

Наста пяшчотна і ласкава пагладзіла кару сасны. Не, не з гэтым маўклівым дрэвам яна, Наста, размаўляла. З маці яна гаварыла, ёй у сваёй бядзе прызналася! Не дрэву яна, Наста, паспавядалася, а матчына сэрца паслухала Насцін боль, паслухала, і прыняло, і

падзяліла, і з таго ёй, Насце, гэтак лёгка зараз на душы, і сэрца ўлагодзілася, і аддаліўся боль, і бяда ўжо далёка і не вернецца. І дарогу ў Дзягілі яна знойдзе. Яна не прыпыніцца ані, пакуль не ўбачыць той бульбяны клін, за якім каля жаўтлявай лазы ўецца дарога на вёску, дзе жыве Хведар.

Крута завярнуўшы ад нізіны, дзе чарнелі бабровыя хаткі, Наста ішла цяпер па лесе і часта паглядала на сонца. Вецер аціх, нагнала хмары, але светлае сонечнае кола выразна бачылася за макаўкамі дрэў, і Наста, пазіраючы на яго, цвёрда верыла, што ідзе правільным кірункам. Дыхаць у лесе, асабліва на сухіх пагарбах, дзе аж шахцелі пад нагамі буйныя і густыя верасы, было цяжка, зноў прычапілася смага, і, мацней за смагу, упарта і неадчэпна падціскаў голад. Карцела сесці, адпачыць, і, калі такое жаданне рабілася невыносным, Наста глушыла яго, паўтараючы, бы замову, толькі два словы, якія вымаўляла ўслых і штораз тройчы: «Ідзі наперад! Ідзі наперад! Ідзі наперад!»

І яна ішла, высільваючыся, не зважаючы на голад і смагу, не задумваючыся над тым, адкуль прыходзіць да яе гэтае цвёрдае перакананне, што ідзе яна дакладна на Дзягілі. Разумела, што рухалася не толькі яна па лесе, але ж рухалася па небе сонца, і заўжды, калі ўзнімала вочы на светлае кола, што выразна бачылася за вершалінамі дрэў, улічвала гэта, і вера не пакідала яе, а, наадварот, усё больш сталела і бадзёрыла.

І таму блізка пад вечар ужо, калі Наста, мінуўшы гонкі бярэзнік, выбілася на ўзлесак і ўбачыла чорнае поле, пазначанае купінкамі сухога і пашкамутанага бульбеўніку, яна не здзівілася, а проста адзначыла, што першая частка яе дарогі скончылася і цяпер можна адпачыць. За чорным бульбянішчам не было відаць ні дарогі, ні вёскі, ні знаёмай нізіны з астраўкамі рудаватай лазы. Але Наста была пераканана, што гэта менавіта тое поле, да якога яна гэтак ірвалася па лясных нетрах. Трэба прайсці крыху ўзлескам, абмінуць гэты ўзгорак, з адзінокай крушняй пасярэдзіне, і тады адтуль будуць відаць і дарога, і вёска, і старая раскідзістая ліпа ля Хведаравай хаты.

Наста пасунулася ўзлескам, мінула рэдзенькі сеяны соснік і, абмінуўшы купку маладых бярозак, зноў нікольві не здзівілася, калі ўбачыла стрэхі хат, жаў-

тлявую стужку дарогі, што бегла ў нізіну, пазначаную астраўкамі рудаватай лазы, і макаўку старой раскідзістай ліпы. Вось і дайшла! Цяпер яна адпачне, дачакаецца, калі ляжа на нізіну вечаровае сутонне, і тады рушыць напрамкі да той старой ліпы. Але зойдзе яна не ад вёскі, а з гэтага боку, з нізіны, з боку саду, каб з вёскі нядобрае вока яе не прыкмеціла. Гадзіны са дзве ёй трэба паспаць, адпачыць, набрацца сілы, бо хто ж ведае, якая ночка чакае яе наперадзе. Ды шчэ і дажыць да той ночкі трэба!

Яна зашылася ў бярэзнік, лягла ля камля маладзенькай бярозкі і, падціснуўшы калені да грудзей, акрылася кофтай і адразу правалілася ў сон. Але гэта быў чуйны, нібыта звярыны сон, зусім не той сон, калі чалавек ад усяго адключаецца. Наста спала, спала моцна, але спала толькі яе стомленае цела; спалі рукі, спалі ногі, а галава не спала, дакладней, толькі нейкая часцінка ў ёй, галаве, не спала, і гэтая часцінка чуйна ўлоўлівала ўсё, што адбывалася наўкола. Улоўлівала шапаценне лістоты, далёкае вуркатанне дзікіх галубоў, шалахценне пасохлай галінкі, што, зламаная ветрам, скочвалася па лісцінах уніз, таропкі шоргат яшчаркі, што прабегла ля ног і, спалохаўшыся, шуснула ў верасы. Наста адчувала нават, як паўзе на захад сонца, і, калі апошнія сонечныя промні перасталі высвечваць голле маладых бярозак, яна, быццам па нейкай камандзе, прахапілася, села, з асалодаю пацерла рукамі замлелыя ад нязручнай паставы калені.

«Як жа есці хочацца!.. Каб хлебца акраец які...»

Першай думкай была менавіта гэтая — думка пра хлеб. Цалюткі ж дзень яна нічога не ела, калі не лічыць тых жменяў брусніц, што насморгала, ідучы па лесе. Брусніцы былі буйныя, але ж зусім зялёныя, толькі ў адным месцы, у рэдзенькім і чыстым сасновым бары, трапіліся на вока выспеленыя з аднаго боку і чырвоныя. Яна з аднолькавай прагнасцю глытала і тыя, што былі зялёныя, і тыя, што былі пазначаны рэдкай і слабай чырванню. Ягады на нейкі час перабівалі цягучы боль у страўніку. Цяпер жа голад падціснуў гэтак моцна, што яна адчула: да раніцы ёй не вытрываць. Калі Хведара няма, дык трэба будзе нешта пашукаць у хаце. А мо жонка прыехала... Не, жонцы на вочы паказвацца не варта. Ёй патрэбны Хведар! Толь-

кі ён можа яе ўратаваць. І яна будзе яго чакаць у той старой лазні, што стаіць у канцы саду.

«А ў садзе яблыкаў поўна! Вялікія яблыкі там, салодкія!..»

Наста са здзіўленнем адзначыла, што ўпершыню за гэтыя два дні вусны тарганула ўсмешка. Як жа гэта яна адразу не сцяміла, што яблыкі ў садзе ёсць. Там жа іх гэтулькі на зямлі ляжыць, што хоць рыдлёўкаю грабі. І яна тых яблыкаў у лазеньку награбе і будзе сядзець, ласавацца і чакаць. І гэта ж дужа добра, бо яна тады не засне, не прапусціць Хведара, які, магчыма, будзе вяртацца дамоў не дарогаю, а менавіта па сцежцы, што роўненька лягла паміж яблынямі. Мабыць, гэтак яно і будзе. З паўгадзінкі шчэ трэба счакаць, а тады і рушыць у дарогу. Ды якая тут дарога, напрамкі часануць, нізінаю, каб аніводнае вока яе не ўгледзела з вёскі. Дзіўная нейкая вёска, быццам павымірала ўсё ў ёй. Толькі чорныя коміны над кароткімі вільчыкамі тырчаць, бы нейкія дзіўныя маўклівыя помнікі.

Самотна і ціха лапатала лістота маладых бярозак, і Наста, слухаючы гэты ласкавы і лагодны пошум, паакрысе пагасіла трывогу, што была абудзілася ў сэрцы. Вёска далёка, таму і не чуваць ніякага поголасу. І добра, што цішыня наўкола, спакайней тады на душы. І добра, што туманок кладзецца ў нізіне, можна будзе стуліцца ў ім, падысці да Хведаравай сядзібы неўпрыкмет.

Яна, аднак, не рухалася, стаяла, чакаючы, пакуль не загусцела белаватая палоса туману, што завіс у вечаровым сутонні над лугавінай. І рушыла з узлеску толькі тады, калі зусім расталі ў бляклай шэрані чорныя коміны над няроўнымі вільчыкамі вясковых хат, а барвовая палоса над крайком дальняга лесу, дзе зайшло сонца, не асела шчыльна на чорныя зубчыкі старых соснаў.

Дарога была знаёмая. Але Наста ішла асцярожна, пільна аглядаючыся наўкола. Ля жардзін, якімі быў абнесены Хведараў сад, пастаяла, прыгнуўшыся, тройчы вымераўшы позіркам сцежку, і толькі тады, як пераканалася, што ў садзе анікога няма, хутка і спрытна, бы вавёрка, пераскочыла жардзіны і шуснула пад густую навісь галін, што гнуліся аж да самай зямлі ад цяжару буйных белаватых яблык. Ведала:

ля сцежкі гэтак блізка стаяць нельга, трэба адсунуцца падалей, да чорнай старой лазні, што горбілася ў кутку саду. Ведала і нічога не магла парабіць з сабою. Адкінуўшы асцярожнасць, прагна, амаль не жуючы, Наста з'ела першы яблык, што трапіў пад руку, схапіла другі і з ім управілася гэтак жа імкліва, гучна чаўкаючы. Буйныя кавалкі драпалі горла, яна давілася імі, але глытала і, шчэ трымаючы ў зубах трэці яблык, схапіла з дрэва чацвёрты. Яблык гэты, чацвёрты, быў намнога большы, чым папярэднія, нейкі дужа гладкі, халодны, і Наста, сціснуўшы яго ў руцэ, схамянулася, прыціснула яблык да грудзей і прыгнулася, палахліва азіраючыся наўкола.

«Што ж я раблю, дурніца! Пачала жэрці яблыкі, адкінуўшы ўсялякую асцярожнасць! Ды шчэ гэтак чаўкаць пачала, што ўсіх у тых Дзягілях на ногі ўзніму!..»

Крыху астудзіла свой шал, пачала есці спакайней, азіраючыся і да ўсяго прыслухоўваючыся. Але ў садзе было ціха. Ціха было і ля хаты, абрысы якой, дакладней, абрысы падмурка, калі нахілішся нізка, былі добра відаць у канцы сцежкі. Маўклівай чорнай плямай сядзела па левы бок ад лазні доўгая адрына. Каб табе дзе хоць які-небудзь агеньчык бліскануў. Каб табе хоць які погалас пачуўся. Зноў тое ж, што і на ўзлеску было: нібыта даўно не жылі і не жывуць тут, у гэтай хаце,— гэткая ж маўклівасць і нерухомасць, як і ў Дзягілях.

«Цікава, ці знайшоў Хведар запіску, што паклала пад уломак цэглы на ганку? Ці ўбачыў торбачку на ніжняй планцы драбінаў?..»

Цяпер гэтыя думкі не давалі ёй спакою. Трэбаназбіраць яблык, засесці ў лазні, пачакаць, паслухаць, а потым да хаты наблізіцца. А раптам Хведар у хаце? Дык навошта ж тады ёй гібець ноч? Так што хату ёй трэба праверыць, дазнацца, а тады ўжо чакаць.

Цвёрда вырашыўшы зрабіць гэта, Наста сцягнула з плеч кофту, насыпала ў яе яблык і, трымаючы перад сабою гэты цяжкі і нязручны пакунак, асцярожна падышла да маленькай і нейкай дужа чорнай будыніны лазні. Намацала шырокую жалезную клямку і драўляную тычку ў ёй, устаўленую замест замка і прыкручаную драцінай. Драціна была мяккая, падатная, і Наста лёгка скруціла яе і выцягнула драўляную за-

савачку. Зняўшы з прабоя клямку, апусціла яе асцярожна, не грукнуўшы, і толькі тады, як адчыніла дзверы — дзверы адчыніліся бязгучна, не зарыпелі, быццам былі досыць шчодра і толькі што памазаныя! — і ўвайшла ў прылазнік, з палёгкаю ўздыхнула. Добра, што дзверы былі не на замку. А каб замок вісеў? Тае бяды: пасядзела б на ганачку, пакаравуліла б, балазе вечар ціхі і цёплы, і ночка гэткай жа будзе. Не, на ганачку тым не ўседзіш, камары жыцця не дадуць. У садзе іх шчэ болей, чымся ў лесе. А тут, у прылазнічку, аніводнага няма. Падобна, што ў лазні не вельмі даўно мыліся, цеплынёю ад сцен патыхае і дымам. Не, сцены халодныя, проста дым у бярвенні невыводны, як і звычайна ў вясковай лазні. І нейкае адзенне вісіць на драўляных рагульках, што ўвагнаны ў пазы. І нейкая рагулька замест засаўкі ў дзвярах, што вядуць у лазню. І нейкі вузенькі і кароткі ўслончык у кутку...

Наста паступова абмацала ўсё, што было ў прылазніку, нават адчыніла дзверы ў лазню, ціха і асцярожна адсунуўшы драўляную рагульку-засаўку, паўглядалася ў чорную прорву, што адкрылася перад ёю. У твар тхнула пахам сырога попелу, цвілі і задымленага і гарэлага на агні камення, і яна ціха зачыніла дзверы. Не, у прылазніку лепей, сушэй тут, намнога святлей, чым у лазні, нават сцены цяпер, як у тую чорную прорву паўглядалася, добра бачыш, і рагулькі ў пазах выразна акрэсліваюцца. Добра, што яна дзверы ў прылазнік пакінула напаўадчыненыя, кавалачак сцежачкі бачыш, назіраць за тым, што робіцца ў садзе, вельмі зручна.

Наста сядзела на падлозе, непадалёк ад дзвярэй, скасабочаных, спрэс у шырокіх дзірках, і раптам прыйшла да высновы, што, мабыць, у лазні даўно не мыліся, увогуле сюды даўно не заходзілі. Услед за гэтай высновай нарадзілася і яшчэ адна, ад якой зрабілася непамысна: у хаце, што стулілася за садам, нікога няма. Каб была гаспадыня ці быў гаспадар, што вярнуўся дамоў з далёкай вандроўкі — а Хведар не блізка некуды выправіўся, бо дарога ж цэлы тыдзень забрала ў яго! — дык напэўна ж прыцёг бы дроўцаў у лазню, выпаліў печ, венічак у гарачай вадзе распарыў бы. А тут — цвіль, пах сырога попелу, запусценне...

Цяпер яна не спяшаючыся, старанна жуючы, ела яблыкі і нават не здзіўлялася з таго, што не стамляецца есці. Рукі неяк міжвольна, як самі па сабе, бы аўтамат, яблык за яблыкам падносілі да рота, і зубы ўпарта і без стомы перамолвалі іх, нібыта жорны. Урэшце рука, што пацягнулася да кофты, не намацала халодных і цвёрдых камякоў, і Наста паляпала па кофце і левай і правай рукой. Пуста! Вось дык праява. Разлічвала, што на ўсю ночку ёй яблычкаў хопіць. А, выяўляецца, гэткі спраўны яна работнічак, што ў адзін міг амаль вядро яблыкаў змалаціла. Давядзецца зноў ісці ў сад. Адчуваеш, што поўны жывот натрамбавала, а есці ўсё роўна хочацца. Яно, можа, і лепей, што яблыкі скончыліся: самая пара зараз да хаты падысці і паглядзець, паназіраць.

Надзеўшы кофту, Наста асцярожна выбралася з прылазніка і з асцярогаю пакрочыла па сцежцы. Часта спынялася, прыслухоўвалася і зноў тупала памалу, нячутна стаўляючы ногі на сухую, зусім без расы, траву. Пад раніцу, мабыць, дождж збярэцца, таму і расы няма. Але яно і дужа добра, што ноч без расы: прайшоў, а следу ззаду няма... Хоць тут ёй пашчасціла, з расой гэтай. Не, Хведарава хата шчаслівая, бо ёй, Насце, і той раз тут пашанцавала. Павінна і шчэ раз пашчасціць. Як гэта Канапелька кажа? Жыццё наша, маўляў, быццам матроская цяльняшка: паласа чорная, паласа светлая — і спераду гэтак і ззаду. Значыцца: паласа чорная ў цябе была. Што цяпер павінна ісці? Светлая палосачка, светлая!.. Эй ты! Светлая палосачка! Глядзі па баках больш пільна, лухтой галаву сабе не забівай!.. Бачыш, адрына ж ужо з табою поруч!

Суха храснула трэска пад правым чаравікам, і Наста наструнілася, гатовая скочыць назад, у глыб саду, у выратавальную цямрэчу яблыневых галін. О-ох і баязліўкаю яна зрабілася! Гэтулькі па лесе па начах блукала і нічога не баялася, а тут і затрэслася. Хай сабе і так, але ж асцярожлівасць не зашкодзіць.

Пастаяла, паслухала і зноў, асцярожна стаўляючы ногі на пацвярдзелую, без травы цяпер, сцежку, памалу пасунулася да хаты. Цьмяныя нейкія вокны ў хаце. І дужа вялікія. Мабыць, з таго, што рамы ў белае пафарбаваныя, вось белыя прамавугольнікі і здаюцца вялікімі. Той раз, з вышак адрыны, яна добра бачыла гэтыя палосы на чорнай сцяне хаты. І ганак дужа

чорны, толькі дзверы крыху святлейшыя, з чорнай плямаю ля клямкі. Замок, здаецца, вісіць. Так, замок! І ўломак цэглы ўсё на тым жа месцы, у правым куточку ганка. І запіска пад ім нечапаная. Пустая, значыцца, хата. Хведара няма. І гаспадыні таксама няма, бо, каб была, не вісеў бы замок знадворку. А дзверы ў хату адны, толькі адсюль, з гэтага нізкага драўлянага ганка...

Усё яшчэ не верачы ў тое, што бачыць, Наста кінулася да адрыны. Вісіць торбачка на тым жа самым месцы, аніхто яе не чапаў, анікому яна не спатрэбілася. Толькі, здаецца, драбіны крышку нахіліліся. Не, гэтак, па правы бок ад вузкіх дзверцаў у франтоне, яны і стаяць, як тады стаялі. Значыцца, не было Хведара ў хаце, не было яго і тут, на падворку. І таму няма патрэбы ёй, Насце, мітацца тут, лепей сесці там, дзе сядзела.

«Сяду і буду чакаць. Да віднага буду чакаць. І не пайду анікуды, пакуль не дачакаюся!..»

З гэтым намерам яна вярнулася ў прылазнік. Ля адрыны знайшла пустое вядро, назбірала яблыкаў аж з каптуром і паставіла яго побач з сабой, абапёрлася локцем на драўляную дужку. Доўга сядзела гэтак, потым прыхінулася спіною да сцяны, зняла руку з дужкі вядра, трымала буйны яблык, а есці ўжо не магла — нагнала такую аскому, што аж дзясны рыпелі. Нечакана пачалі зябнуць ногі, і яна падкурчыла іх, сагнулася ў крук, спрабуючы сагрэць калені. Але дрыготка папаўзла, пераскочыла на паясніцу, пачала трэсці плечы.

«Трэба ўзняцца і пайсці па сцежцы патэпаць. Тады сагрэюся, і пасядзець можна будзе зноў...»

Падымаючыся, зачапіла рукой адзежу, што вісела на сцяне, і спынілася, таропка абмацала ўсё, што вісела на драўляных рагульках. Здаецца, кашуля нейкая, пінжак, кепка... Яшчэ кашуля, гузікі на ёй вялікія, халодныя, як бляшаныя... І спадніца вось, падобна... З нечага тоўстага пашытая, зрэбная... Вось гэта дык ёй, Насце, прыдасца, у самы акурат памяняць на падраную... Але ж чужое! Як надзенеш, у гаспадыні не папытаўшы? Ды яна, Наста, гэтую спадніцу браць не будзе, толькі надзене паверх сваёй, дранай, каб сагрэцца. А тады, як стрэне Хведара, яна папросіць прабачыць, што ў чужым прылазніку пагаспадарыла...

Надзела спадніцу, якая была ёй крыху караткаватая, ускінула наапашкі пінжак, укрыла калені кашуляй з вялікім гузікамі, і вочы самі змружыліся. Слаўна. І адразу дужа цёпла зрабілася. Асабліва спадніца гэтая дужа ж цёплая. Пад пальцамі нават ніткі адчуваеш, тоўстыя, з вузельчыкамі дзе-нідзе. А колер які — і не разгледзіш, дужа ж прыцемна тут, у прылазніку. Падобна, што карычневая. А можа, сіняя?.. Паўглядалася, правяла па спадніцы рукой, ціха хмыкнула, пахітала галавой. От жа дзівачка вышукалася! У чужое ўбілася, дык шчэ і колер тканіны яе пачаў непакоіць. Не пра тое табе галава баліць! Галоўнае, каб не заснуць, каб Хведара не прапусціць. А спаць хочацца. Не-е, пра сон ты і не думай. Мала той навукі, што на погарбе прайшла?.. Хочаш у новую бяду ўлезці?..

Змагалася са сном як магла: трэсла галавой, аберуч сціскала горла, потым круціла, аж гарэць пачыналі, вушы Але гэтага хапала на вельмі кароткі час, і адразу ж, як толькі апускаліся на калені рукі, хілілася следам за імі і галава і ўсё цела апаноўвала млявасць. Яна адсунулася ад сцяны, абапёрлася патыліцаю на востры кант услончыка і зарадавалася: у гэтай паставе, галубачка, не заснеш, бы нож востры, гэты кант скуру рэжа.

З гэтай цвёрдай і яснай, дзіўна абвостранай упэўненасцю Наста адразу ж і моцна заснула.

Абудзілася яна гэтак жа раптоўна. Праз вузкія шчыліны ў дзвярах цадзіўся світанак, і Наста, хуткім позіркам абвёўшы прылазнік, аніяк не магла сцяміць, як усё адбылося. Была ж яна перакананая, што нельга заснуць, калі ўпіраецца востры, бы нож, кант услончыка. А вось жа заснула! Ды дзіва што спала! Услончык вунь дзе, у тым кутку, а ў яе пад галавой нешта мяккае. Кашуля ж гэта ў яе пад галавой. А вісела ж на рагульцы, і Наста яе з рагулькі не сцягвала, не чапала. А можа, у сне яна тое зрабіла? І дзверы, здаецца, не так вісяць, як уночы былі. Яна ж напаўадчыненыя дзверы пакінула. А цяпер — вузкая шчыліна!..

Скінуўшы пінжак, Наста падпаўзла да вушака, асцярожна націснула ніжнюю перакладзіну, і дзверы лёгка і бязгучна паддаліся. У шырокую шчыліну дало гэтулькі яркага святла, што Наста пацягнула дзверыну назад, на ранейшае месца. Колькі ж гэта яна спа-

ла? Не світанак, а раніца ўжо! Напэўна, сонца ўжо ўзышло. А яна, Наста, спіць! І шчэ як уладкавалася! Замест падушкі кашулю нейчую скруціла, каб мякчэй было. Не, не скручвала яна гэтую кашулю. А хто ж тады скруціў яе ў гэты зграбненькі і зручны пакуначак?

Яна пакратала мяккі згортачак, які шчэ быў цёплы, зыркнула на вузкую шчыліну паміж вушаком і дзвярыма, і дзіўная здагадка прымусіла шалёна закалаціцца сэрца. Хведар тут быў! Відаць, вяртаўся на світанні, убачыў напаўадчыненыя дзверы, зазірнуў у прылазнік, пад галаву ёй кашулю падсунуў, дзверы зачыніў, вузкую шчылінку пакінуўшы. А яна гэтак спала, што і не пачула? Ды не, лухта гэта, не можа такога здарыцца! Яна ж у лесе спала так, што кожнае шалахценне дрэўца чула! А тут... Ды не, нельга ў тое паверыць. Але ж шалахціць нешта за сцяной! І поганас быццам нейкі!.. Цьфу! Гэта ж курыца!

Ціха чыкнуўшы, гулка закудахтала за сцяной лазні курыца. Галёкнуў недзе ў садзе певень. Чамусьці змоўк, быццам папярхнуўся, і адразу ж, быццам выкаціўся з-пад дзвярэй прылазніка, пачуўся роўны і незвычайна мяккі гул матора. Ён перакаціўся ў канец саду, туды, куды вяла сцежка, і нейкі час гучаў там, быццам упёрся ў хату, і раптоўна аціх. Рэзка, нея̀к дужа дзяркатa заляпалі дзверцы машыны, пачуўся не вельмі гучны, нейкі дужа цвёрды і настойлівы грукат — малацілі кулаком па дошцы,— і басавіты голас зароў:

— Адчыняй, гаспадар! Ведаем, што не спіш. Адзін усё хочаш слухаць? Але ж і нам не пашкодзіць!

Пачуліся нямецкія поклічы, нейкія каманды, і, быццам разрываючы іх, усё той жа басавіты голас запатрабаваў:

— Адчыняй, чуеш? Сам пан камендант прыехаў тваё радыё паслухаць. Чуеш? Калі добра ўключыш, дык пан камендант даруе, што дагэтуль не здаў прыёмнік. Смялей! Верны паратунак ад пелькі!

Абліваючыся халодным потам, аглухлая ад шалёных тактаў крыві ў скронях, Наста вужакаю падпаўзла да шчыліны паміж вушаком і дзвярыма прылазніка, уваткнулася падбародкам у гладкі і халодны драўляны парог. Парог быў невысокі, у адну толькі дошку, і шчыліна ля яго была шырэйшая, чым ля

клямкі, і ўвесь падворак, ад левага акна да кудлатага куста язміну, быў добра відаць. На падворку, быццам упёршыся радыятарам у язмін, стаіць легкавушка, размаляваная жоўтымі пісягамі. Дзверцы ў машыны наросхрыст, і ля кожнай стаіць салдат, наставіўшы ў бок хаты куртаты аўтамат. Ля ганка ходзіць — марудна, нага за нагу — афіцэр у зялёным фрэнчы, у шырокай фуражцы, акантаванай над бліскучым казырком белым ланцужком. На ганку, прыгнуўшыся, як бы водзячы носам па клямцы, лупіць кулаком у дзверы паліцэйскі, мажны, у доўгім пінжаку, з шараватай нашыўкаю на рукаве. Лупіць па дзвярах правай рукою, а левая трымае дула вінтоўкі, якая ляжыць у яго на плячы і павернута прыкладам у бок саду.

— Доўга мы будзем чакаць? — зноў зароў паліцэйскі.— Прапусцім апошнія паведамленні! Пан камендант спецыяльна прыехаў паслухаць. Ці што, не гаворыць твая Масква? Здохла, напэўна! Што-о? — Паліцэйскі скінуў вінтоўку з пляча, прыціснуў яе пад паху, прыткнуўся вухам да дзвярэй, потым рэзка адхіснуўся, узрадавана абвясціў: — Дома, пан камендант! Дома ён. Пачынае, кажа, збірацца. Зараз адчыніць. Мы чакаем!

Паліцэйскі грукнуў апошні раз кулаком, цяпер па клямцы, быццам правяраў, ці будзе яна замінаць, калі дзверы пачнуць адчыняцца. Адале ён адступіў ад дзвярэй, вінтоўкаю цяпер падтрымліваў клямку, быццам зачапіўся за яе і сіліўся адарваць. Афіцэр стаяў па другім канец ганка, шырока расставіўшы ногі, трымаючы рукі на поясе.

Нейкі дужа кароткі час усё быццам замерла на падворку, і раптам у гэтай цішыні загучаў выразна дужа моцны голас дынаміка:

— В Москве состоялся первый Всеславянский митинг. В обращении ко всем славянским народам участники митинга указывают на смертельную опасность, угрожающую славянам от немецко-фашистских полчищ, и призывают славян выступить на священную борьбу против гитлеризма. Обращение подписали представители русского, украинского, белорусского, польского, чешского, словацкого, хорватского, словенского, черногорского и болгарского народов, а также представители Македонии и Закарпатской Украины. Полный текст обращения мы будем передавать...

Голас дыктара заглушылі стрэлы і лаянка афіцэра. Афіцэр нешта крычаў, размахваючы парабелумам, і салдаты, што стаялі ля машыны, кароткімі чэргамі страчылі па хаце, і Наста бачыла, як густа ляціць з даху пашчапаная кулямі белая дранка. Паліцэйскі кінуўся да акна, з разгону ўдарыў прыкладам па раме.

Дынамік цяпер гучаў крыху слабей, нібыта аддаляўся, словы дыктара цяжка было зразумець. І нечакана над гэтымі прыціхлымі словамі, праз трэск аўтаматаў і глухія ўдары прыклада, на адчайна высокай ноце ўзвіўся знаёмы Хведараў голас:

— Чуеце людзі! Масква жыве! Масква ўзнімае на барацьбу ўсіх славян! Знішчайце фашыстаў, як шалёных сабак! Дзе можаце, там і знішчайце! Знішча-а-айце!

Сляпучае сіне-белае полымя хвастанула Насту па вачах, нібыта выдралася з-пад парога прылазніка, і сам прылазнік дугнуўся і як бы падскочыў, і гарачая смярдзючая хваля піхнула ў твар, увагнала ў рот нейкі ватовы кляп. Насце падалося, што вакол яе выпалілі паветра, што няма чым дыхаць, і зявала ротам сутаргава, быццам глытала гарачы жвір. Нешта трашчала, грукала, ламалася, і ў шчыліны дзвярэй пагнала дымныя пасмы. Нейкі мяккі выбух покнуў непадалёк, невядома ў якім месцы, адале штосьці бухнула па даху лазні, і зноў дугнуліся ў прылазніку дзверы, як усё роўна піхнулі іх адтуль, ад саду.

Наста закашлялася ад дыму, пачала задыхацца і, у адчайным парыванні, кінулася з прылазніка. Але дзверы толькі крышку прыадчыніліся, нешта замінала ім адчыніцца, і тады яна ўпёрлася плячыма ў планку, і дзверы марудна пасунуліся, потым імкліва шуснулі ўбок, і Наста бразнулася на нейкае бервяно, якое ляжала перад уваходам, наўскасяк ад парога, балюча ўдарылася аб яго каленам, перакулілася і расцягнулася на траве сярод россыпу, дзіўнага і незразумелага. Толькі праз нейкі міг дайшло да яе, што з дрэваў паасыпаліся ўсе яблыкі і яна апынулася сярод іх.

«Гэта ж хаты няма... І адрына гарыць. Хведараву хату ўзарвалі немцы... Не, не! Гэта ж ён сам!.. Машына вунь, ля адрыны, перакуленая... І ў полымі ўся...»

Думкі нараджаліся — Насце падалося — не ў ёй самой, а недзе яшчэ, нібыта побач стаяў хтосьці, ціха вымаўляў словы, і яны ўваходзілі ў розум неяк запа-

волена і разарвана. І яна не намагалася спасцігнуць тое, што адбылося, усё ляжала і глядзела наўкола, нібыта чакала і чакала новых слоў, якія павінны былі ўсё абгрунтаваць і патлумачыць.

«Там Хведар!.. Мне трэба туды! Памагчы!..»

Яна прыйшла да гэтай высновы нечакана, прыйшла не тады, калі ляжала ля берванa насупраць уваходу ў прылазнік, а значна пазней, калі памалу дыбала па сцежцы. Яе не здзіўляла тое, што яна ідзе туды, дзе гудзе полымя, дзе ўсё круцяцца ля зямлі рудыя, з каштанавымі і чорнымі закрайкамі шлейфы ні то дыму, ні то пылу; нейкая невядомая сіла штурхала яе наперад, і Наста крочыла па яблычных россыпах, нічога не баючыся і не палохаючыся. З чорных галін, з якіх магутным выбухам паздзірала ўсё лісце, усё сыпалася і сыпалася незразумелае чорнае сяйво, і Наста, узняўшы галаву, зразумела, што гэтае сяйво толькі сочыцца па яблыневых галінах, а нараджаецца яно недзе ўвысі, над яблынямі, і ў той прасторы яно дзіўна зіхаціць і паблісквае.

На яблынях ля адрыны, не чорных, як ля сцежкі, з лістотаю, сярод якой пабліsквалі яблыкі, былі начапляны нейкія лахманы, і яны памалу матляліся, нібыта жалобныя сцягі. Гэткімі ж лахманамі, толькі не чорнымі, а рознакаляровымі, быў закіданы падворак і неглыбокая яміна, што зеўрала на месцы Хведаравай хаты. Хата знікла, нібыта яе тут зусім ніколі не было. Але ганак застаўся, быў зусім чысты, ані не закіданы жвірам, уломкамі цэглы і пашкамутанай паперай. І было дзіўна бачыць гэты блішчасты, як нядаўна памыты, драўляны прамавугольнік сярод трэсак, паламаных дошак, бэлек і чырвонай і чорнай цэглы з белымі бакавінамі.

«Парабелум! Парабелум ляжыць!..»

Яна збянтэжана глядзела на парабелум, які ляжаў на зямлі, нібыта прыстаўлены дулам да бакавіны ганка і прывязаны нейкай танюткай нябачнай ніткаю. І зноў тая ж невядомая сіла, што павяла ад прылазніка на сцежку, штурхнула Насту наперад, прымусіла ўчапіцца ў чорную, спрэс у дробненькіх і неглыбокіх насечачках, рукаятку. Схапіўшы парабелум, яна скочыла за ганак і распласталася на зямлі. У той міг, калі яна адчула ў руцэ знаёмы цяжар зручнай рукаяткі, што нібыта адразу ўклейвалася ў скуру далоні,

ёй мігнуўся нейкі рух за спіной, і цяпер Наста, туляючыся за нізкім ганкам, спрабавала ўгледзець небяспеку. Толькі цяпер да яе дайшло: рызыкоўна было бегчы ёй сюды, на падворак. Дзе ж немцы? Дзе паліцэйскі? Пахаваліся?..

Няма, анікога няма. Чадна дыміць перакуленая легкавушка, што нібыта тыцнулася радыятарам у ніжнія вянцы адрыны і ад болю выставіла да неба чатыры чорныя колы. Пышныя языкі полымя коцяць праз выдраны франтон, і ад іх, быццам ад нейкіх нябачных удараў, злятаюць з кроквaў старыя чорныя драніцы і ападаюць уніз, на драбіны, якія паваліліся на скасабочаную браму, наставіўшы, як рогі, насустрач агню зламаныя канцы жардзін.

Канцы жардзін былі няроўныя, і на даўжэйшым і крыху нахіленым у бок франтона памалу пагойдвалася афіцэрская фуражка з бліскучым казырком, па баках якога віселі і таксама гайдаліся дзве драныя і пашкамутаныя тоўсценькія белыя вяроўчыны.



## 22

Наста ўпэўнена, не гледзячы сабе пад ногі і не азіраючыся па баках, крочыла па лясной сцяжыне, густа зацярушанай карычневым шыгаллем, пазнавала амаль кожнае дрэва і кусцік. Але з палёгкаю яна ўздыхнула толькі тады, калі прастора наперадзе лясной сцяжыны прасветлілася і гонкія і роўныя сосны як бы адскочылі ў глыб лесу, адкрыўшы лапік блакітнага неба над балацінаю. Усё, урэшце. Урэшце скончылася цяжкая і небяспечная дарога, Наста прыбілася дахаты, дзе цішыня і спакой. Гэтае адчуванне абрынулася хваляй, усё паглынула, і Наста збочыла са сцежкі, адразу ж убачыла ў густых лілова-сініх верасах знаёмую купіну ля камля сасны і села. Выносістая, роўная, бы струна, што нацягнута да звону, сасна была асветлена сонцам, і здавалася, што па яе гладкай кары ліецца аднекуль з высі трапяткі і залацісты водсвет. Гэткі ж водсвет

трымцеў на сцяне дашчаніка, якая адсюль была добра відаць, на парослым арэшнікам погарбе, у якім, павернуты на балаціну, месціўся склеп.

І гэтае мяккае залацістае святло, і прыветны пошум далёкай вершаліны, і роўны, яшчэ больш пагусцелы разліў верасовай квецені ўлагоджвалі душу і сэрца, і Наста зусім не турбавалася тым, што магло адбыцца і што адбылося тут за мінулыя дні. Як нешта пэўнае, зусім натуральнае і незаменнае пачула яна знаёмы Канапелькаў голас, які звінеў на радаснай ноце. Даляцела зусім выразнае:

— Янка сеяў кавуны, а я — журавіны... Мы тут яго высокасць пусцім, яго высокасць, мамкі-лямкі. І ўсё — як маца быць, каб ты ведаў. Э-э-гэ-гэ!.. Журавіны не ўзышлі, кавуны пасохлі...

З радаснага настрою выбілася адчуванне прыкрасці, нават нейкая незадаволенасць тым, што Канапелька бесклапотна жартуе, нечым заняты вясёлым, зусім не сумным. Ім тут, выяўляецца, весела. Плачу не чуваць, рогат толькі. Не, крычыць нешта Канапелька раздражнёна, злуючыся. І ў адказ нешта прыглушана бубніць Буркун... Зноў чубяцца! Зноў нешта яны не падзялілі! Вось жа неразумныя людзі, паводзяць сябе, бы горкія дзеці. І як жа, выяўляецца, добра чуваць гаворка са склепа, галасы амаль зусім выразныя, хоць і крыху прыглушаныя. Гэта з таго, што аконца сюды, у бок добрай і ласкавай гэтай сасны. А вось са сцежкі галасы блага чуваць. А мог жа нехта чужы вось ля гэтай сасны прысесці. Можа, нават і зараз, з таго боку склепа, за арэшнікам стаіўся нейкі злыдзень, слухае, дзівіцца, на вус наматвае. А можа, на станцыю пыліць ужо, да немцаў, каб паведаміць пра невядомы нейкі табар у лесе. Нехта ж навёў, напэўна ж навёў немцаў на Хведараву хату! Іначай як бы яны дазналіся, што слухае Хведар голас Масквы!.. А вось жа дазналіся, прыкацілі на легкавушцы, не ведаючы, які пачастунак чакае іх у гэтай маленькай хаце ля старой ліпы... Не ведала і яна, Наста, якая раніца зазірне да яе ў прылазнік. Няўжо Хведар заходзіў у прылазнік, бачыў, што яна спіць, і не пабудзіў?.. Не, не! Яна б пачула. Проста яна сама ў сне скруціла тую кашулю, паклала пад галаву, каб не мулка было...

Зноў мігнулася тое сляпучае полымя, што хвастанула тады па вачах, і трывога забралася ў сэрца. О-ой,

неабачліва паводзіць сябе Канапелька, што гэтак дзярэ горла. Але ж і яна, Наста, у склепе, было, на поўны голас гаманіла, нават рагатала, не баючыся таго, што нехта можа пачуць, выявіць... Неразумна яна рабіла, неразумна. І гэта трэба ёй мець на ўвазе на далейшае!

Папракала, лаяла і Канапельку, і Буркуна, і сябе і разам з тым слухала знаёмыя галасы з ратаксама. Дужа добрае адчуванне выклікаў водгалас нядасцю злоснае лаянкі, што далятаў са склепа. Хай чубяцца, хай сварацца. Ранкам Канапелька пасварыцца, дык апоўдні напэўна ж кіне жарт Буркуну, і памірацца. Галоўнае, што заспакойвае сэрца, дык гэта тое, што лаянка гучыць са склепа: няма, не было, значыцца, тут ніякай бяды. І яна, Наста, добра зрабіла, што назбірала арнікі — лекі прыдадуцца тут, о-ой, як прыдадуцца, каб хутчэй сталі яны ўсе на ногі.

Яна адсунула ад сябе бярэмца арнікі, загорнутае ў кофту, і адпачывала — упершыню ж пасля таго, як выскачыла з Хведаравага саду, прысела адпачыць — і пакрысе канчаткова вызвалялася ад цяжкіх і супярэчлівых думак, што прыгняталі яе і катавалі. Усю дарогу Наста мучылася, папракала сябе, вінавацiла ў Хведаравай смерці: трэба ж было на ганку сядзець, там Хведара караўуліць, а не спаць салодка ў прылазніку аж да віднаты... А вось убачыла знаёмую балаціну, пачула мілыя сэрцу галасы, пасядзела ля сасны сваёй — і нібыта ўсё благое адляцела, адвалілася ад яе, растала, знікла. Не, гэта толькі здаецца. Сюды, да балаціны, Наста вяртаецца зусім іншым чалавекам. І хай сабе далёка ззаду застаўся той жахлівы пагарб, хай далёка ззаду застаўся Хведараў сад... Хай сабе! Думкі пра тое жылі і будуць быць у Насціным сэрцы. Нешта ад тых жахлівых імгненняў яна міжвольна прынесла і сюды, прынесла ў сабе, у сваіх намерах і жаданнях.

Узіраючыся ў блакітную высь, дзе шумела голлем вяршаліна стромай сасны, Наста нечакана без горычы і скрухі падумала пра Грача і зноў пераканалася, што рашэнне, якое выкрышталізавалася ў яе сэрцы, калі ішла па лясной дарозе, калі стаяла ля магілы Вахтанга, адзіна правільнае і разумнае і што іншага нейкага выйсця ў яе няма. Грач пайшоў за лінію фронту? Пайшоў. Пойдзе і яна. Паставіць на ногі Канапельку, Буркуна, Аўдошку — разаб'ецца, але паставіць іх на но-

гі! — і таксама рушыць да лініі фронту. Дзеля гэтага яна будзе жыць. Гэтай мэце будзе падпарадкавана кожная хвілінка яе жыцця.

Наста ўзнялася, заціснула пад паху бярэмца арнікі, агледзела пінжак, які даволі ёмка сядзеў на ёй, правяла рукой па спадніцы і нечакана падумала пра тое, што ўвойдзе ў склеп з выглядам незалежным і ганарлівым. І зноў з падзякаю і болем у сэрцы падумала пра Хведара, падумала, быццам прасіла прабачыць ёй: узяла ж вось адзенне без дазволу.

З кожным крокам, што набліжаў яе да склепа, у душы прыбаўлялася трывогі. Неяк дзіўна гучаць цяпер галасы. Свара, здаецца, кіпіць там сапраўдная. Пра што толькі?

Спынілася ля самага склепа, стаяла, слухала.

— От дзе нялюдская твая парода выпірае,— выгукнуў у роспачы Канапелька.— От жа саплюк перакіслы. Ты чаго яе перагінаеш і пальчыкам маштуеш ды мацаеш?!

Што адказаў Буркун, Наста не пачула. Але адказ гэты падпёк Канапельку, голас яго аж зазвінеў ад абурэння:

— Сумленне ў мяне ёсць, раздураны ты слімень. Тая, што ідзе — тую і бяру. Давай шчэ адну... Хэ-эпля-ля! Бачыў? Бог не цяля, ён бачыць круцяля. Дваццаць у мяне!..

Крокі за два ад уваходу Наста спынілася, стаяла, сумеўшыся. У карты яны там рэжуцца, ці што? Адно толькі ясна: гульня там нейкая ў іх. Буркун, мабыць, махлюе, а Канапелька абураецца, насядае на яго. Але ж адкуль у іх карты? Тыя, што былі, даўно дымам пайшлі...

Наста гучна закашлялася. У склепе запанавала цішыня, потым нешта бразнула, і яна, спалохаўшыся, што там, у склепе, не разабраўшыся, могуць і стрэліць па ёй, сказала бадзёра, нагнаўшы ў голас крыўды:

— Гэтак яны мяне страчаюць! А дзе каравул ганаровы? Камендант жа гарнізона прыкаціў. Ды шчэ на сваіх дваіх!

— Ур-р-ра-а-а! Наста! Настачка наша!

— Няхай жыве наш слаўны камендант!

— Музыкі! Даеш рапсодыю! Тыр-р-рым-ту-ту-ту!.. Та-ра-ра-ту-та-та-а-а...

Воклічы, радасныя, поўныя самай шчырай святочнай узнёсласці, выбухнулі хваляю, і яны ледзь не да слёз расчулілі Насту. Нецярплівая, поўная жадання хутчэй убачыць твары людзей, з якімі павязаў яе лёс, яна не ўвайшла, а проста ўварвалася ў склеп. Канапелька стаяў ля стаяка, шырока расставіўшы рукі, паспрабаваў рынуцца ёй насустрач і неяк нязграбна, не ўстояўшы, паваліўся на нары.

— Слава алаху, здаю гарнізон у поўным баявым,— выгукнуў ён, намагаючыся ўчапіцца рукамі ў сукаваты стаяк і ўзняцца.

— Настачка! Табе — лепшае. Бо ты наш збавіцель.— Буркун пасунуў на нарах вядро, у якім горбіліся буйныя кавалкі мяса.

У палосе святла, што лілося з акна, узнікла правая рука Аўдошкі, які сядзеў, прыхінуўшыся спіною да сцяны; указальны палец гэтай рукі зыбаўся і ківаўся — Аўдошка клікаў Насту да сябе, прасіў умольна:

— Настачка! Сястрыца любая! Ды ідзі ж ты сюды, я табе ўсё расталкую, як ёсць. Гэта я з акенца па дзіку пацэліў. Дакладна — у галаву. А ў гэтых, што паляўнічымі сябе лічаць,— патроны сырыя. Крамзель... А — не пячэць!

Да цяжкай задухі, што вісела ў склепе, цяпер выразна дадаўся смурод сівухі, і Наста, усё адразу сцяміўшы, тупа глядзела на пустую, перакачаную ў пясну бутлю, у якой быў раней спірт. Як ашчадна яна яго выдаткоўвала, баючыся, каб не праліць якую кроплю. Настойку арнікі шчэ разлічвала зрабіць. І, быццам прадбачачы благое, перахавала ж бутлю, калі выпраўлялася ў Дзягілі. Знайшлі, значыцца, напіліся, выжлукцілі. І вунь бутэлька, дзе настойка свяціліся, таянніку была зроблена. Апаролі і гэтую... І карты самаробныя на нарах...

Канапелька таксама цягнуў да яе рукі, парываўся нешта сказаць. Але яна апярэдзіла яго пытаннем, якое было адрасавана і яму і ўсім ім разам:

— А карты адкуль паявіліся? Гэта ж карты, здаецца?

— Мая работка,— Буркун пастукаў сябе па грудзях.— Вось туз бубновы. Хіба кепска? Любата глядзець. Дзе алоўкам заштрыхавана — карта чорнай масці. А дзе толькі абрыс — чырвоная лічыцца. Адра-

зу відно. Праўда ж? А каралям і вальтам — галовы намаляваў. І дамам.

Яна машынальна ўзяла ў рукі два папяровыя клапцікі, разглядала, адчуваючы нейкую жахлівую пустэчу пад сэрцам. Вось на што прыдаўся той сшытак вучнёўскі і аловак.

— Прафесійна зроблена,— наўпярок волі прызналася Наста. Зусім іншыя думкі круціліся ў галаве, а вусны вымавілі чамусьці гэтыя нікчэмныя і непатрэбныя словы.

— А як жа! Мастацкае вучылішча перад арміяй у першай тройцы скончыў,— у карых Буркуновых вачах быў гонар і нейкая аніколі Настай раней не бачаная летуценнасць.— І чаго я Настачку нашу дагэтуль не намаляваў? От жа дурань! Але ж Канапелька алоўка шкадаваў. І гэта толькі ўчора расшчодрыўся, калі дзік да нас на абед прыбег. І цяпер, калі аловак нацыяналізаваны, партрэт зраблю. Са склепа выпаўзу, вас ля верасоў пасаджу... Не, у верасах пасаджу. Каб гэтак вось і было: мора ліловае квецені, а сярод яго — Настачка.

Наста зноў пакруціла папяровыя клапцікі ў руках, кінула іх на нары, і яны ляглі на страмбаваны мох паміж Буркуном і Канапелькам. Горкі ўсміх крануў вусны, і Наста адчула, што губы крывяцца ў нейкай балючай грымасе:

— Маляваў бы партрэты. А ўзяў ды сапсаваў паперу на нейкую дурынду.

— Э не! Карты не дурында. Адпачынак сэрцу гэта. Згуляў разок-другі — на сэрцы і весялей.

— А як жа вы тут гулялі ўтрох? — У Насціным сэрцы была незразумелая дваістасць. Хацелася крычаць, нешта рабіць такое, каб прымусіць іх усіх пакутаваць і саромецца, і гэтае пачуццё забівалі, глушылі горыч і шкадаванне, спагада да людзей, якіх скруціла бяда.

— А проста вельмі. Кожны — за сябе!..

— Кожны за сябе, значыцца? — прамовіла Наста з горкай развагай. Гэта было нават і не запытанне, і словы, падобна, анікому тут у склепе не былі адрасаваны, і Наста раптам адчула, што за імі, гэтымі словамі, усё ў яе душы пачало імкліва іначыцца, і некуды імкліва знікае спагада, саступаючы месца раздражнёнасці і злосці.

— Але ж ты нас зразумей правільна, Настачка,— прамовіў Канапелька, неяк дурнавата ўсміхаючыся, шкрабаючы бруднымі пальцамі густую, блішчастую ад тлушчу шчэць барады.— Мы ўжо і надзею страцілі, што ты вернешся. А тут шчэ гэтага дзіка ўпалявалі. А цябе няма, няма, няма... На нарах цалюткі дзень качацца — галава ўжо не вытрымлівала. Хоць ты кулю сабе ў сэрца. І вырашылі мы: прападаць, дык з песняю. Таму і прыцёг я бутлю...

— Кожны, значыцца, за сябе,— роспачна паўтарыла Наста.

— А не слухай ты, што бот гэты раздураны чаўпе,— у адчаі, нешта вырашыўшы адразу і канчаткова надавесці, пачаў Канапелька, вінавата гледзячы на Насту і працягваючы да яе рукі.— Вераю мы зусімападупалі, з таго яно і пачалося. А тут шчэ ўчора пугач уночы прыляцеў на дзічку і цалюткую ноч бухаў, быццам памінкі спраўляў. Вось я і наважыўся гэтых гаротнікаў неяк падбадзёрыць. Я сказаў пра бутлю схяпэўна. А Буркун ледзь не за стрэльбу потым схапіўся: цягні, загадаў, зараз жа!

— Брэшаш! Не гэдак было!

— Аўдоля, хоць ты пацвердзі! Што, не хапаўся гэты слімень раздураны за карабін?!

— Кожны за сябе, значыцца,— зноў, трэці ўжо раз, ціха прамовіла Наста.

Канапелька ўрэшце ўзняўся з нараў, стаў у праходзе, трымаўся адной рукой за стаяк, а другою ўзяў Насту за плячо, пацягнуў да сябе, прымушаючы, каб села.

Наста чула Канапелькавы апраўданні, яны абміналі яе, не краналі зусім, і яна, чуючы іх, быццам зачапілася за словы Буркуна. Але цяпер Буркуновы словы адразу загучалі яшчэ больш выразна, балюча, і апраўданні Канапелькі яшчэ больш высветлілі іх паганы сэнс. Яна глядзела Канапельку ў вочы і з жахам адчувала, што яе захліствае хваля злосці і нянавісці-менавіта да гэтай яго дурнаватай усмешкі, да блішчастай шчэці барады, да гэтага вострага, з маленькай гарбінкаю носа, да гэтых вузкіх, бы звітых у шнурок, броваў. Ён, выяўляецца, падглядаў, калі яна хавала біклагу. Ён прыцёг бутлю сюды, у склеп! Ён наладзіў тут гэты баль! Ён і ў карты гуляць падахвоціў! Ён тут песні спяваў, калі яна стагнала ад роспачы і бя-

ды! Ён тут у карты гуляў, калі яна брыла па лесе, абліваючыся горкімі слязьмі! Ён тут мяса і сала жэр, калі яна, галодная, дрыжучы ад страху і голаду, засынала ў прылазніку ў Хведаравым садзе!

Пранізліва і тонка забомкала ў скронях, і нейкае незразумелае святло нарадзілася недзе пад сэрцам і шухнула ў вочы, і Наста аж захліпнулася ад злосці і нянавісці. З-пад пахі выпала бярэмца арнікі. Пад ногі.

— Гэта т-ты! Гэта ты ўсё, п'янюга! — выгукнула Наста і наводмаш хлабыснула Канапельку па твары правай рукой, потым левай. Ад нечаканасці ўдару, можа, і не вельмі моцнага, ён плюхнуўся на нары задам, рукі бязвольна звіслі каля ног і матляліся разам з галавой ад кожнай Насцінай аплявухі.— Т-ты!.. Ты тут быў завадатарам. А што абяцаў мне? А што казаў? Шчэ кляўся і прысягаў!..

Канапелька нешта мыкнуў, і гэта прывяло Насту шчэ да большага шаленства. Яна хлястала яго наводмаш то левай, то правай рукой, крычала і на яго, і на ўсіх гнеўна, пакрыўджана, са злосцю і нянавісцю:

— Кожны — за сябе! Гэтак вырашылі, п'янюгі няшчасныя? А Шаплыка за каго загінуў? За сябе? А Уладка за каго загінуў? За сябе? А той Хведар за каго жыццё сваё аддаў? За сябе?.. А я, тут шчыруючы, толькі аб сабе дбала? Я, слязьмі абліваючыся, сюды бегла... Думала, што гаруюць яны тут, што галодненькія і халодненькія без нагляду... А яны? Кожны — за сябе! А тыя, хто на фронце галовы кладуць штодня мо тысячамі? Гэтак жа і крычаць: за сябе, за сябе, за сябе?.. А-ах жа вы паганцы!..

І захліпнулася ад рыданняў, што перацiснулі горла, адштурхнула нагой бярэмца арнікі і выскачыла са склепа. Вялізнае і сляпучае сонца вісела над балацінаю, ад подыхаў цёплага ветру шамацела лістота арэшніку, ля дашчаніка абвялага і скурчанага, быццам падсмажанага, і Наста, быццам гаючую ваду, глытала чыстае, прапахлае водарам жывіцы паветра. Яна стаяла, азіралася па баках, потым марудна паклыпала да ручая, нахілілася, піла з прыгаршчаў ваду. Злосці ўжо не было, яна, тая злосць, нібыта выдралася з душы разам з аплявухамі, якімі яна шчодра абляпіла Канапельку. Шкадавання, што ўсё адбылося менавіта так, а не іначай, не было. Не было ў сэрцы і нянавісці, што зусім нядаўна пякла сэрца і

душу. Засталася толькі горкая і ядучая крыўда. Як парывала яе сэрца сюды, да балацінь! Колькі добрых думак несла яна з сабою! Як пякла і мучыла згрызота, што вось кінула адных, без дапамогі гэтых гаротнікаў! І куды прыбегла яна? У свет драбноты, сваркі, нікчэмных радасцей і спадзяванняў, у свет паганых гульняў у карты, у смярдзючы сівушны чад. Яна мкнулася сюды, спадзеючыся, што раскажа пра гераічную Хведараву смерць, узбадзёрыць усіх, прымусіць прагна і ўпарта грабціся да жыцця і барацьбы... А што давялося рабіць? Аплявухі даваць!..

«Колькі ж мне шчэ цярпець? Колькі шчэ можна тут пакутаваць?..»

Украй разгубленая і збянтэжаная, выпетраная, аглушаная тым, што адбылося ў склепе, глядзела Наста на ваду ручая, дзівячыся той дзіўнай думцы, што выспявала недзе глыбока ў сэрцы пакрысе, а цяпер вынеслася імкліва, бы выбух, балюча зноў ударыла горкай і неабвержнай праўдай: там, у лесе, дзе яна блукала, абліваючыся горкімі слязьмі ад роспачы і пакуты, нават у Хведаравым садзе, дзе яна брыла, часта азіраючыся на грывастае полымя, што жэрла старую адрыну, яе, Насціна, душа не была пад гэткім прыгнётам, як тут, у склепе, да якога яна ўсім сэрцам ірвалася, бегла, высільваючыся. А ён, гэты склеп, выяўляецца, здрадзіў ёй, падмануў, не прызнаўшы і не ацаніўшы яе ўласнага болю, яе пакут і яе бяды. Кожны, значыцца, сам за сябе? Няўжо не выпадкова гэта вырвалася ў Буркуна, а кінута як абдуманая і ўзважаная выснова? Няўжо ўсё ў свеце рухаецца і жыве паводле гэтага закона паганай гульні ў карты?

Пытанні ўзнікалі, і шукаць адказаў на іх не было ахвоты, і яна не сілілася іх, тыя адказы, знайсці і толькі з сумам пераконвалася, што на душы робіцца ўсё больш тужліва і прыкра.

Наста пайшла ў дашчанік, села ў кутку на вузкае лежыва, скіданае з травы і сухога моху, выцягнула з кішэні пінжака парабелум, пацерла даланёю кароткі чорны ствол, моўчкі і з горыччу пахітала галавой. Ёй здавалася, калі вярталася да балаціны, што ён, гэты парабелум, выкліча і здзіўленне і роспыты і што яна будзе адказваць самавіта і незалежна. А што атрымалася? Глядзіць на яго яна адна, анікога гэты парабелум не зацікавіў, не здзівіў, у яе нават не было

часу і мажлівасці пахваліцца сваім трафеем, які трапіў да яе гэтак нечакана і незвычайна.

«Падарунак ад Хведара...»

Думка гэтая зусім падкасіла Насту. Смерць Хведара, якая адбылася ў яе на вачах, увесь час, калі яна ішла сюды, да балаціны, не здавалася ёй рэальнасцю, увесь час жыла нейкая незразумелая спадзяванка на тое, што ў самы апошні міг Хведар мог выскачыць з хаты, схавацца, ацалець. Цяпер жа, калі яна трымала ў руцэ парабелум і падумала аб ім, як пра нечаканы і незвычайны падарунак, тыя думкі, якія песціліся ёю ў дарозе, выглядалі дзіцячым наівам, марнай спробаю зменшыць, прыгасіць горыч страты, што перайначыла ўсе планы і меркаванні.

Наста ўладкавалася на храбусткім і, як ёй падалося, дужа мяккім лежыве, акрылася Хведаравым пінжаком, змружыла вочы і нечакана адчула дзікую і жахлівую стому. Парабелум, які яна зноў паклала ў кішэню, шчыльна прыціскаў пінжак да грудзей, і ёй рабілася дужа цёпла, утульна, карцела ні аб чым не думаць, хутчэй праваліцца ў сон, каб больш не катаваць сябе, не рваць, не кроіць сэрца, усё закрэсліць.

Але сну не было, яна толькі шчэ больш змучылася і не змагла прымусіць сябе не думаць пра тое, што адбылося, і, калі часам павекі зморана зліпаліся, аднекуль з-пад сэрца ішоў раптоўны штуршок, які быццам падкідваў усё цела, і вочы, шырока адкрытыя, глядзелі на дзіравую страху дашчаніка, нібыта прасілі ў яго паратунку.

Хвіліна сну прыйшла да яе перад заходам сонца. Але сон быў падобны на той, што давялося ўведаць у лесе, пад абвіслымі галінамі старой яліны, на колкім лежыве з пасохлай ігліцы. Зноў у галаве заставалася нейкая часцінка, што не адключалася, кантралявала і фіксавала кожны рух і гук наўкола, і гэты таямнічы вартавы падняў Насту адразу ж, ледзь толькі зарыпеў пясок пад мыліцамі Канапелькі.

Сеўшы на сваім храбусткім лежыве, Наста наапашкі накінула на плечы Хведараў пінжак і сядзела нерухома, быццам ідал, не ведаючы, што рабіць, што казаць, як паводзіць сябе, калі Канапелька зойдзе ў дашчанік. Яна ведала, што ён прастуе сюды, у дашчанік, у яе нават і ценю сумнення не ўзнікала, што Канапелька абміне гэты закутак.

Канапелька паставіў на парозе вядро з вараным мясам, потым пасунуў яго ў глыб дашчаніка, а сам сеў на месца, што вызвалілася.

— Я мяса табе прынёс,— глуха сказаў ён.— Трэба табе паесці.

Нічога не збіралася казаць, а губы самі па сабе выціснулі кароткае і варожае:

— Не хачу.

— Мяса смачнае. Дзік маладзенькі быў.

— Не хачу,— паўтарыла яна па-ранейшаму варожа і непрымірыма.— Не хачу і не буду!

Ён уздыхнуў, паціскаў правай рукою шчэць барады, потым узяў мыліцы, абапёрся на іх грудзьмі, пакруціў галавой, нібыта гэты рух дапамагаў мыліцам ямчэй трымацца на грудзіне.

— Ты даруй мне... Усім нам даруй,— папрасіў ён, і голас загучаў не вінавата, а памяркоўна і разважліва.— І не думай, што Канапелька п'янюга прапашчы... І што яны — таксама гэткія... А што аплявух наляпіла Канапельку — правільна зрабіла. Законна тут усё. Як маца быць, адным словам. Ды і скажу шчыра, што я на тваім месцы шчэ б не гэдак... Я б дрына добрага ўзяў, ды па гарбах, ды па вушах, ды па галавешках... Але ж і аплявух хапіла... І страсянула ты нас усіх добра, як маца быць, адным словам.. Маладзейшая ты за кожнага з нас, а вось бачыш — вочы паадкрывала. Воля ў цябе, выяўляецца, крапчэйшая... Але ж і мы не зломкі, Настачка, павер... Мы тут раіліся толькі што зноў і да згоды... Згода, адным словам: тыдні праз два — ма-арш! Ідзём да лініі фронту. Мы салдаты, і мы прысягу давалі, і адседжвацца — не наша дарога. І ты пойдзеш з намі, бо салдат ты сапраўдны. І вочы ў нас ёсць, і сэрцы не падзервянелі, і мы ж бачым, што да чаго. На ногі ты нас ставіш. Жыццём сваім мы табе абавязаны. А гэта — знак на ўсё жыццё, да скону дзён памятка...

Вялікі і даўкі, нясцерпна шархоткі камяк захрас у горле, і Наста, каб неяк раздушыць яго, абціснуць уніз, працягнула руку да вядра, узяла рабрыну, на якой была, нібыта прыклееная, палоса цёмнага мяса, і пачала есці. Абглыдала адну рабрыну, узялася за другую і ўсё жавала і жавала, таропка глытаючы, не вельмі добра ўвараную, крута пасоленую дзічыну.

— Мы гэтак разлічваем, што не пазней як тыдні

праз дза — у марш,— усё тым жа разважлівым і па-мяркоўным голасам гаварыў Канапелька.— А тое, што мы бутлю апаражнілі,— ты нам даруй. Даруй нам гэтую клятую бутлю. Але ж вось ты патлумач мне... Мы ўчора спірытусу гэтага ўзялі. А сёння ж і прыкончылі. Можа б, ведаеш, сёння б і не чапалі. Але я прачнуўся сёння позна, як не ў палудзень, зірнуў на нагу і воку не веру: няма чырвані. І рана ну ані не баліць, як быццам там яе і не было і няма. Пытаюся ў Аўдолі і ў гэтага... Ну, адным словам, як пачуваецe? Слаўна, кажуць. Я цяпер думаю, што гэта ўсё з таго, што ночку спалі, бы забітыя, аніякая лухта сэрца не патрывожыла. Вось тут і адбылося пераключэнне — на папраўку. Канечне, каб ты перад адыходам нам добра раны не прамыла, не перавязала, дык з чаго ж ім зажываць... І як на споведзі табе кажу: першую чарку сёння — за тваё здароўе дзыбнулі. Сышліся на тым, што не вернешся, што не ўбачым цябе... Але толькі добрыя словы казалі... Аўдоля... Дык той нават і заплакаў...

Наста зноў працягнула руку да вядра, і Канапелька, не спыняючы гаворкі, паслужліва пачціва падсунуў вядро бліжэй да яе, пакруціў яго, каб ёй зручней было бачыць, што там ляжыць, і яна знайшла яшчэ адну рабрыну, на якой мяса было шмат, як не ў палец, і таропка пачала есці. Яна не глядзела на Канапельку, утаропіла вочы на рабрыну, якую часта пакручвала ў пальцах, робячы выгляд, што толькі ежаю і занятая, баючыся аднаго — роспытаў пра тое, дзе яна была і што рабіла.

— Ты еш, Настачка, еш,— раптам неяк узрадавана, быццам толькі цяпер заўважыў мяса ў Насціных руках, папрасіў Канапелька.— Яна, дзічына, толькі з выгляду гэткая цёмная... Але яна смачная. Праўда, солі замнога сыпанулі. Але цёпла зараз, баяліся, каб не пратухла... І тое, што не варылі, таксама солі туды далі... Ды ў скуру ўгарнулі, ды дротам увязалі — і ў ручай, на дно. Старадаўні спосаб, правераны...

Яна ела, разумеючы, што роспыты будуць, што Канапелька знарок гаворыць гэтак шмат, даючы ёй магчымасць нешта абдумаць, не гарачыцца. Але яна нечакана адчула, што не баіцца аніякіх роспытаў, што скажа толькі тое, што захоча сказаць і ніхто большага ад яе не запатрабуе, не мае права запатрабаваць. Але грэла сэрца, цешыла душу не разуменне гэтага, а тое, што

яна не памылілася, калі, высільваючыся, бегла сюды, да балацiны, што тут ёй нiхто не здрадзiў i анi ў чым не падмануў.

— I дзiчку гэтаму маладзенькаму мы шчэ дзякуй скажам,— працягваў Канапелька, i па яго голасе Наста зразумела, што ён усмiхаецца.— А за якую ласку? А за тое, што падказаў нам, каб патранташыкi ператрэслi. Гэта ж, прызнацца, мне, паляўнiчаму, сорамна. Крамзель за курочак — не пячэць. Порах адсырэў. У некаторых, праўда, патронах. Але мы кожны па чарзе ля вуха патрэслi. Шухцiць калi ў iм порах — у патранташык. А сыраватыя пасушым. Але, мабыць, давядзецца выкiдаць. Бо на дзiку калi асечка, дык галодны пасядзiш. А калi на звяра таго, што на нагах... Там — галава далоў. А калi галавы на плячах няма, Аўдоля кажа, дык сядзець нязручна, а ляжаць патрэбы зусiм няма...

Яна слухала Канапельку, жавала марудна, адчуваючы, што ўжо сытая, што есцi болей не трэба, i не магла спынiцца. Цяпер яна не баялася анiякiх роспытаў. Цяпер Наста баялася толькi таго, каб ён зноў, трэцi раз, не папрасiў у яе прабачэння, бо разумела, што варта яму зрабiць гэта — i яна кiнецца да яго, пачне прасiць сама прабачыць ёй, адкiне Канапелькавы мылiцы, стулiцца на ягоных грудзях i будзе чакаць, каб Канапелькавы рукi абцiскалi i песцiлi не бярозавыя, неахайна абстружканыя жардзiнкi, а гаротную Насцiну галаву, збалелую ад скрухi, тугi, самоты i нечаканай прагi пяшчоты, якая невядома адкуль i з чаго абрынулася на яе i запаланiла сэрца.



## 23

Развiтанне са склепам было чамусьцi сумным.

Ля стромай i гонкай сасны Наста азiрнулася, паглядзела на нiзкi, як бы прыдушаны да шызага багуну соснiк, на самотна павiслае голле арэшнiку, на зялёную стужачку хвашчу, якая пазначыла звiвы ручая на луга-

віне, на адзінокую дзічку, якая ўзняла ў блакітны прасцяг пагоднага дня спічастую, як дзіда, макаўку, потым перавяла позірк на сасновы камель, вакол якога шчэ больш густой ліловасцю набрынялі за апошні час верасовыя купіны, і, адчуўшы незразумелую тугу, з цяжкасцю праглынула даўкі гарачы камяк.

Туга падступіла да сэрца яшчэ ўранні, ледзьве Наста прачнулася і агледзела нары, дзе ўсе спалі ўпокат моцным сном. І хоць усё было абгаворана і ўчора і пазаўчора, і абмяркоўвалася кожны дзень і ранкам і ўвечары, і ўсё, здаецца, падрыхтавана як след, ёй падалося, што яны нешта не ўлічылі, нешта робяць не так, як трэба. Сумненні свае яна не збіралася выказваць, упарта заганяла іх у нутро. Але яны ўсё больш настойліва прыходзілі, вярэдзілі сэрца, жывілі сум і тугу, неадступна цягнулі думкі пра Грача.

Канапелька — яго пранікліваcць пачала вельмі трывожыць і непакоіць Насту апошнім часам — нібыта падслухаў тое, што робіцца ў яе душы. Прачнуўшыся, ён не спяшаўся злезці з нараў, загадаў Аўдошку прынесці вады з ручая, а Буркуну распаліць вогнішча і, калі яны зніклі са склепа, ціха прапанаваў:

— Напішы ты запіску Грачу... Мы яе тут, на стаянку вось, і прышпандорым. Выправіліся ў тую ж дарогу, куды пайшоў і ты. Сейф не размініраваны. Ён адразу зразумее, што да чаго.

— Чаму гэта я павінна яе пісаць?

— А як хочаш. Магу і я напісаць. Мне не цяжка.

Згадаўшы цяпер тую гаворку, Наста пакутліва намагалася прыгадаць тое няўлоўнае адценне, што мільганула ў Канапелькавых вачах і якое цяжка было зразумець. Наста, мабыць, зразумела б яго і патлумачыла, каб Канапелька крышку памарудзіў і гэтак паспешліва, быццам уцякаючы, не выбег са склепа. Цяпер жа, зыркнуўшы на спіну Канапелькі, які ўзначальваў кароткі ланцужок, што марудна рухаўся па лясной сцяжыне, Наста нечакана падумала пра тое, што Канапелька, відаць, спасціг раздарожжа, на якім яна апынулася. Сама ж яна спасцігнуць гэтае раздарожжа нават і не сілілася. Паміж ёю і Грачом у сэрцы пралегла мяжа, адолець якую Наста не збіралася і цвёрда вырашыла не пускаць за гэтую мяжу і яго, Грача. Аднак убачыцца з ім ёй хацелася. Убачыцца на тое толькі, каб сказаць пра гэтую мяжу, каб ускласці на яго най-

першую адказнасць. Ён, Грач, пакінуў яе тут, ля балаціны. Яна засталася адна, і ў яе не хапіла сілы adoлець бяду, і ў гэтай бядзе вінаваты ён, Грач, які належна не абараніў Насту.

Яна разумела, што ў гэтай выснове не ўсё лагічна, не ўсё справядліва, і ўпотай спадзявалася, што вернецца Грач і ўсё перайначыць, нешта зменіць. Надзея на гэта жыла аж да апошняга імгнення, аж да таго часу, пакуль яна не датэпала да гэтай вось сасны, не зірнула на балаціну, з якой суджана развітацца, мабыць, назаўжды. Цяпер гэтак жа, назаўжды, знікала надзея на сустрэчу з Грачом, і ад таго на сэрцы зрабілася тужліва.

— Бывай,— ціха прамовіла Наста, кідаючы апошні позірк на сінявае мроіва над балацінаю.— Бывай, балацінка... І дашчанік наш бывай... І склеп таксама...

Быццам пачуўшы яе словы, недзе з правага боку, увысі над лесам, суха хрумкнуў крумкач, і Насце падалося, што там, за шатамі соснаў, нехта здзекліва гукнуў:

— Г-г-ра-ач... Г-г-ра-ач...

Яна крутнула галавой, схамянулася і панеслася даганяць кароткі ланцужок, што мільгаў за соснамі.

— З балацінкаю развітвалася? — папытаў Канапелька, калі яна, дагнаўшы яго, пайшла побач.— У мяне, калі азірнуўся на дашчанік, дык ажно сэрца зашчымела: быццам родны дом кідаеш.

— І ў мяне гэткае ж адчуванне. І што вось зараз падумала... Скончыцца вайна і я жывая буду, дык абавязкова сюды дабяруся.

— А навошта? Дзеля чаго перціся ў гэтыя нетры? Цьфу!..

— Зірнуць на балаціну, на дзічку, ручай... На верасы паглядзець. Гэткага мора верасовага я нідзе не бачыла...

Канапелька скоса зыркнуў на яе, ціха і змрочна сказаў:

— Яна ўсё яшчэ спадзяецца,— і, ужо гледзячы ў нейкую невядомую для Насты кропку на лясной пуцявіне, што крута паўзла на пясчаны пагарб, дадаў: — Няўжо ты і цяпер шчэ чакаеш яго? Толькі шчыра скажы...

Ён з гэткім націскам падкрэсліў у сваім запытанні «цяпер», што Наста разгубілася. Што Канапелька меў

на ўвазе, напіраючы гэтак на слова «цяпер»? Яна ж нічога і нікому не казала пра тое, што адбылося на тым погарбе, непадалёк ад штабялькоў сасновых метровак! Здагадаўся? Як? Якім чынам? Ды не, не можа таго здарыцца! Няма ў яго на такія здагадкі аніякіх падстаў!

— А чаму я не павінна чакаць? — спытала яна, выгадваючы час на роздум, дзівячыся з таго, што гаворка пра Грача дзівосна іначыць яе душу.— І я цябе тое ж самае папрашу: «толькі шчыра скажы...»

— А я з табою заўжды шчыра. І мяне дзівіць зусім не тое, што пасля вайны ты збіраешся вярнуцца сюды, спадзеючыся, што знойдзеш у дашчаніку нейкі адказ на наш ліст Грачу, нейкую зачапку адшукаеш, каб дазнацца, дзе ён... Іншае мяне дзівіць, іншае... У нас што сёння?.. Апошні дзень жніўня... А ты ўсё чакаеш чалавека, які табе па душы, да якога сэрцам прыляпілася!.. Вось гэтая нязменнасць твая мяне дзівіць і захапляе... І я табе за яе ўдзячны. Крэпка ўдзячны.

Ёй хацелася пачуць гэта зноў, пачуць зноў словы, якія скасавалі падазрэнні, дазвалялі ставіцца да Канапелькі па-ранейшаму даверліва і проста.

— Нават гэтак? Удзячны ды шчэ й крэпка?

— І я ўдзячны. І яны ўсе таксама,— ён хітнуў галавою на Буркуна і Аўдошку, якія, захоўваючы нейкі інтэрвал, крочылі ззаду.— Таму ўдзячныя, што ад тваё веры нешта добрае і нам перадавалася. І мушу табе сказаць, што без лекаў чалавек з бяды неяк можа шчэ і выкараскацца. А без веры — капут. Хана, адным словам.

— А зараз ты бачыш, які я прыклад даю? Аўдошка і Буркун дыстанцыю захоўваюць, як і дамовіліся. А мы быццам на пагулянку выправіліся. Хопіць размоў. Я — наперадзе. Першы прывал робім там, дзе і дамовіліся...

Сказала гэта паспешліва і, яшчэ больш паспешліва, ірванулася наперад і крыху запаволіла крок толькі тады, калі паміж ёю і Канапелькам была ўжо даволі значная адлегласць. Гэтак было вырашана яшчэ ля балаціны, учора, калі яны дэталёва абмяркоўвалі свой шлях да лініі фронту. Полацк, Віцебск, Смаленск — гэтак прыблізна пазначылі яны свой маршрут. Дамовіліся, што сёння павінны перайсці чыгунку, выбіцца на гравійку, што вядзе на Полацк, і рухацца ўсцяж яе,

час ад часу вывуджваючы пэўныя навіны ў вёсках. Дамовіліся, што да чыгункі наперадзе іх маленькай калоны, у якасці разведкі, будзе ісці яна, Наста, бо дарога ёй тут па лесе знаёмая, хаджаная неаднойчы.

Але зараз, на знаёмай і сапраўды хаджанай неаднойчы лясной пуцявіне, Наста не брала да галавы той далёкі маршрут, не думала і пра чыгунку, пераходзіць якую яны разлічвалі, калі ацямнее. Нечаканая гаворка з Канапелькам не проста адкінула тую незразумелую тугу, што вярэдзіла сэрца ад самага рання, а з'іначыла, перавярнула ўсе Насціны думкі і мары. Навошта яна, Наста, правяла нейкую мяжу ў сваім сэрцы паміж сабою і Грачом. Ды на ліха яна, тая мяжа, ёй патрэбна! Ёй патрэбны чалавек, якога яна кахае! Ёй патрэбен каханы Грачок, які верыць ёй і якому яна паверыла адразу і бясконца! І ён, Грач, ані ў чым не вінаваты! І думкі пра нейкую мяжу, што нібыта залегла ў Насціным сэрцы,— лухта несусветная! Няма там аніякай мяжы! Мяжа была толькі ў думках, у неразумных і дурных Насціных думках! А ў сэрцы быў і ёсць толькі ён, Грачок! Мажліва, у бліжэйшы час ім не стрэцца — Канапелька тут мае рацыю. Сапраўды, дарога да лініі фронту далёкая, Грача маглі паслаць зусім не туды, куды ён разлічваў: вайсковы загад ёсць загад. Але брэша, бессаромна брэша Канапелька, калі кажа, што Грач не вернецца да балаціны! Будзе жывы — вернецца! Вернецца і ўбачыць знак, што пакінула яна, Наста. І напэўна ж дасць знак і аб сабе. І яна, Наста, вернецца, калі будзе жывая, да балаціны, знак той знойдзе і адшукае Грача!

І яшчэ — патаемна і неадчэпна — бруілася, вызваньвала, быццам чыстая вадзіца па каменьчыках ручая, радасная думка, гаючая спадзяванка на цуд, які, мажліва, чакае яе наперадзе. Хіба ж спадзявалася Наста на той маленькай чыгуначнай станцыі, развітаўшыся з Грачом ля абшарпанага пасажырскага вагона, на сустрэчу ля ляснога пераезда? Ды каб сказаў хто тады пра такое, хіба ж паверыла б яна? Ды ані! Ніколі б не паверыла. Дык чаму ж дзіва не можа адбыцца зноў? Можа адбыцца! Павінна адбыцца! Услед за цёмнай палоскаю павінна ісці святлейшая — гэта мудра нехта прыдумаў. А чарноты ў палосе Насцінага жыцця ўжо даволі! Цяпер, па логіцы, якая павінна ісці? Святлейшая, безумоўна, святлейшая!

Думкі гэтыя сагрэлі і ўсцешылі душу. Наста крочыла хутка, зрэдку азіралася, бачыла тры постаці, якія рухаліся следам на роўных інтэрвалах паміж сабою, і яшчэ больш пераконвалася ў сваіх высновах, да якіх прыходзіла з радасцю і надзеяй. І высновы гэтыя яна не лічыла нечаканымі і раптоўнымі. Яны жылі ў ёй невыводна ўвесь час, яны былі той нязгаснай зоркаю, што высвятляла і думкі і мары. Нават тады, калі яна акрэсліла ў сваім сэрцы мяжу, усяляк песціла і гадавала яе, вырашыўшы за гэтую мяжу Грача не пускаць, пад горыччу і скрухай засталіся няссушанымі крыніцы, з якіх і ўзялі вытокі высновы, што цяпер з'іначылі Насціну душу.

Прывал на лубінавым полі, непадалёк ад Вахтангавай магілы, быў кароткі. Канапелька сказаў, што тут затрымлівацца нельга, што лепей адпачыць на ўзлеску, насупраць Залесся, і адтуль, з узлеску, правесці разведку. Згода была аднадушная, і яны зноў рушылі па лясной дарозе, якая цяпер была намнога шырэйшая, і ісці па ёй было лягчэй.

Наста па-ранейшаму рухалася ў галаве ланцужка, ішла таропка, ужо не азіраючыся. Яна нібыта ўцякала ад таго вузкага лубінавага кліна, на ўскрайку якога быў пахаваны Вахтанг. Шмат разоў і ўночы і пры святле дня праходзіла яна каля той старой бярозы, у якой журботна абвіслі галіны, і штораз адчувала сум і скруху, калі бачыла ўчарнелы слупок на Вахтангавай магіле. Сёння гэтае адчуванне было незвычайна вострае і моцнае, яно ўварвалася ў свет добрых спадзяванняў і надзей бязлітасна, уладарна, і Наста спалохалася. Ёй падалося, што яна кашчунна парушыла людскую завядзёнку, якая жыве на зямлі незлічоныя стагоддзі,— толькі ж з болем, са смуткам і сумам у сэрцы прыходзяць да могілак людзі, а не з гэткімі радаснымі парываннямі, якія ўзгадавала яна ў сваім сэрцы! — і таму першай замітусілася, пачала падспешваць усіх, вельмі горача падтрымала Канапелькаву ідэю пра тую разведку ў Залессе. Хутчэй бы яно, тое Залессе. Як жа абрыдлі ёй гэтыя прыгожыя і маляўнічыя лясныя пуцявіны і дарогі! Як абрыдла чаканне, калі загояцца раны ў людзей, з якімі павянчаў яе гэты віхурны і трывожны час! І як жа ёй па сэрцы гэты рух, рух не на адзіноце, а вось гэтак у баявой грамадзе, калі ты ідзеш і ведаеш, што за спіною ў цябе не пустая дарога, не чор-

нае поле і шумлівы лес, а ланцужок баявых сяброў, узброеных, гатовых абараніць, прыйсці на дапамогу адразу ж. Нават неяк і не верыцца, што гэтулькі хадзіла па лясных сцяжынах адна, хадзіла ўночы, нічога не баючыся, пурыла на сваіх плечыках цяжкую паклажу!

«Грачок мой шчэ і не паверыць...»

І зноў шумлівымі тактамі ўдарыла ў скроні, і падкралася ўсмешка, і Наста закрыла вусны даланёю, нібыта баючыся, што гэтую ўсмешку можа нехта падгледзець. Але ўсмешка жыла, вусны мякка торкаліся ў далонь, і Наста пацмокала губамі, быццам цалавала свае ўласныя пальцы.

Мінулі знаёмае скрыжаванне, і Наста пайшла напрамкі, кіруючыся да таго месца, дзе некалі яны з Шаплыкам пакідалі фурманку. Вунь і відаць ужо той раскідзісты куст ляшчэўніку. Усё гэткі ж зялёны, самавіты і ўнушальны. І нават знаку няма на зямлі, што стаяла тут фурманка, разварочвалася. А тут вось, дзе купінка маладой папараці, яна, Наста, хавала карабін. І зноў жа: аніякага следу! Буяе заечая капуста, натапырыўся чарнічнік, нідзе не прыгнуты і не паламаны. Не, вось след конскіх капытоў удушыў мох у зямлю, вось надламанае і падсохлае каліва чарнічніку, вось карычневая на зломе папараць.

Ад вёскі даляцелі тры слабыя стрэлы.

— Ого-о! — прамовіў Канапелька.— Салют нам даюць,— і дадаў, абыходзячы куст ляшчэўніку, быццам адціскаў Насту ад таго боку, дзе прагучалі гэтыя слабыя, з роўнымі інтэрваламі, стрэлы.— І дзе, як ты мысліш, страляюць?

— Ад бровара, здаецца,— сказала Наста.— Школу, перапіўшы, яны спалілі. Дык цяпер камендатура ў іх на бровары. У будынку дырэкцыі былой. Прыгожы драўляны будынак. Я на тым тыдні калі кладаўшчыка адшукала, дык ён мне гэта расказаў. Мы ад яго тады з Шаплыкам ядрыцу прывезлі. Як ацямнее, мы да яго зойдзем. Ён раскажа, што тут робіцца. Я ж тры дні сюды не прыходзіла, магло шмат чаго змяніцца.

Зноў, усё ў тым жа напрамку, прагучаў слабы стрэл. Адзіночны, нейкі палахлівы і тупы.

— На бровары, кажаш? — папытаў Канапелька і тут жа сам сабе і адказаў: — Точна. Памылкі няма.

У тым жа напрамку. Цяпер табе дакладна скажу: з парабелума страляюць.

Наста прыгадала тое, пра што казаў ёй былы кладаўшчык бровара, прамовіла з усміхам:

— Мабыць, новы камендант забаўляецца. Банцэвіч казаў, што па абедзе, узяўшы чарку каньяку, камендант гэты выходзіць на падворак і цаляе па ізалятарах на слупах. Тры ізалятары раскокае, тады ідзе і спіць гадзіну.

— Шаплыку ля бровара машына цягнула?

— Але... Там дарога на станцыю.

— Значыцца, ля бровара Шаплыку нашага машына цягнула,— зноў вярнуўся да ранейшай думкі Канапелька.— А хата твайго Банцэвіча ад лесу далёка?.. Ха! Дык гэта ж тое, што нам трэба, калі яна апошняя на пасёлку і да лесу блізенька. Тады робім такую дыспазіцыю,— у Канапелькавым голасе прабіліся гарэзныя ноткі.— Шнуруем узлескам, каб насупраць бровара стаць. Адале ты, Настачка, пойдзеш да гэтага былога кладаўшчыка і паклічаш яго сюды, да нас.

— А навошта? Могуць убачыць. А я зайшла і пайшла. Пайду без зброі, проста быццам бежанка якая. Банцэвіч казаў, што іх многа цяпер ходзіць. Нават з Полацка і Віцебска прыходзяць, транты на харч мяняюць....

— Ён нам патрэбен, Настачка,— перапыніў яе Канапелька, і твар яго пазмрачнеў, вузкія бровы выгнуліся.— Ён нас уночы да бровара зручным шляхам падвядзе.

— А навошта нам той бровар? Мы і бровар абойдзем. І станцыю абойдзем. Банцэвіч нам толькі абстаноўку дасць. Можа, навіны якія-небудзь. А дзе чыгунка, я ведаю.

Канапелька нечакана засмяяўся:

— А чаго гэта сёння — калі гэта, вядома, камендант страляў з парабелума! — ён чатыры разы покаў? Мабыць, не пацэліў. Дык вось што мне хочацца... Каб гэты паршывы фашыст не забаўляўся. І таму я стаўлю на абмеркаванне наступны план,— Канапелькаў твар зноў пазмрачнеў, і вузкія бровы выгнуліся.— Падыдзем уночы да той камендатуры, зашмалюем гранаты ў вокны. А далей — лахі пад пахі. Бою з нашымі сіламі... Самі разумееце, што не вельмі разгонішся. А вось іхнія гранаткі ім і аддамо. Гэта ім будзе за Шаплыку...

Ну, не магу я проста так адсюль пайсці... Пайсці, быццам туляга які-небудзь. Я — салдат. І, як спяваў Чапаеў, «я солдат еще живой...». І хоць ля балацiны вы мяне за камандзіра абралі, загаду я тут не даю. Пойдуць добраахвотнікі. Хто?..

— Ды ўсе мы пойдзем,— таропка сказала Наста, быццам баючыся, што нехта можа яе апярэдзіць і даць згоду першым.

— Канечне...

— Канечне, пойдзем,— следам за Аўдошкам, але крышку памарудзіўшы, прамовіў Буркун.— Толькі навошта адразу — лахі пад пахі? Калі ўсё ўдала завершым, дык, можа, на нешта там і разжывёмся ў той камендатуры. Будыніна тая на колькі паверхаў?

— Два паверхі. Другі паверх маленечкі, з балкончыкам. Парэнчы там прыгожыя. Блакітныя.

— У цябе вока — прыроджаны разведчык. Калі паспела ўсё прыкмеціць? — шчыра здзівіўся Буркун.

— Гэта шчэ той раз, калі з Шаплыкам ехалі. Шаплыка шчэ смяяўся: з балкончыка, маўляў, начальства бровара выступала з прамовамі, даводзячы шкоднасць алкаголю.

— А мне, помніцца, ён казаў, калі вы той раз спірытус прывезлі, што на бровары працуе толькі той, хто не п'е. Ну, арганічна гэтае зелле не пераносіць.

— Хай цябе гэта не турбуе,— перапыніў Буркуна Канапелька.— Каго бяруць на бровар, а каго не бяруць. Цябе, мамкі-лямкі, не возьмуць, каб і прасіўся і даводзіў сотнямі даведак, што не пераносіш тое зелле...

Буркун выгукнуў з радасцю ў голасе:

— А я і сам туды не пайду. Каб пад канвоем вялі... Хіба тады... Але не, упёрся б і ўсё роўна не пайшоў бы.

— А чаго? — прастадушна папытаў Аўдошка.

— З жаху, вядома, бо там мне адразу — кранты. Гэта ж тое мора ўбачыўшы, ды дармавое... Дык я б дапяў да яго і ляжаў і жлукціў, і шчэ нагой наўкола боўтаў, каб не адцягнулі. І клянуся, што, пакуль не лопнуў бы, анікога не падпусціў бы і блізка!..

Жартоўнае гэтае прызнанне Буркун зрабіў такім шчырым і сяброўскім тонам, што цяжка было зразумець, дзе ён жартуе, а дзе кажа праўду. І менавіта гэтая даверлівая шчырасць прымусіла ўсіх развесяліцца. Пасыпаліся кепікі, часам нават злосныя. Буркуна яны не бянтэжылі, не крыўдзілі, і ён, смеючыся разам

з усімі, зрэдзьчасу адбіваўся ўсё тым жа жартоўным тонам:

— А Буркун гэткі вось чалавек і ёсць, каб вы ведалі. Буркун ужо калі бярэцца — дык да канца!

І зноў пасмяяліся, і гэтак, з жартамі, памалу рушылі ўзлескам, абыходзячы вёску. Калі ў прагале паміж гонкімі бярозамі, што раслі, абціснутыя з усіх бакоў соснамі, зачарнела будыніна бровара, над якой узнімаўся шырокі цагляны комін, Канапелька загадаў спыніцца і адпачываць. Насце ён загадаў тое ж самае, але яна яго пераканала, што ісці на разведку ёй трэба зараз, не адкладаючы на вечар, калі людзей на вуліцы пасёлка мала і кожны новы чалавек адразу кінецца ў вочы.

Канапелька праводзіў яе да краю густога вольхавага парасніку, адкуль пачыналася лагчына, спрэс пакрапленая жоўтымі кратовымі пагурачкамі, за якой над шатамі яблынь і сліўніку тырчалі коміны хат. Будынак бровара здаваўся абкружаны імі, стаяў нібыта ў коле нізкіх і тоўстых слупкоў.

Сеўшы на чорны пень старой вольхі, ад якога шуснула ўверх густая шчотка рудаватых і гонкіх дубцоў, Канапелька паклаў на калені аўтамат, невядома навошта выцягнуў і зноў увагнаў у шырокія пазы выблішчаны на кантах прамавугольнік з патронамі; у аўтамаце суха кляцнула зачапка.

— Тут я цябе і чакаю,— сказаў Канапелька і папрасіў, барабанячы пальцам па аўтаматным рэмені: — Толькі ты не баўся. Сказала і назад адразу. Ці, лепей, разам і тэпайце. Ён хай сякеру возьме, быццам па дровы выправіўся.

— Галоўнае, каб дома ён быў.

— Ды дома ён. Я ўпэўнены...

Канапелька, аднак, памыліўся: Банцэвіча дома не аказалася. На шырокай клямцы дзвярэй, што вялі ў сенцы, вісеў замок, на драўляным, пафарбаваным некалі ў каштанавы колер ганку быў прыкметны пыл, і Наста, здагадаўшыся, што гаспадароў у хаце не было колькі ўжо дзён, таропка рушыла далей. Яна прайшла ля бровара па вуліцы, зыркнула на блакітны балкончык прыгожага драўлянага дамка, ля ўваходу ў які нерухома, быццам высечаны з зялёнага каменя, стаяў вартавы, у касцы, з куртатым аўтаматам на грудзях. Прыкмеціла яна, што дзверы на балкончык адчынены

і ля парэнчаў стаіць шырокае крэсла, засцеленае нейкай бліштастай накідкаю. Па правы бок ад будынка працавалі нейкія мужчыны, усе ў кашулях без рамянёў — укопвалі слупы, на якіх ад дарогі быў ужо нацягнуты дрот,— у аднолькавых штанах рудаватага колеру. Крыху воддаль ад іх пахаджваў немец у пілотцы, з нейкім тоўстым кіем у руцэ. Левай рукі ў немца не было, як падалося Насце напачатку. Але вось немец павярнууўся, пабег да мужчыны, які прысеў на бервяно, і Наста ўбачыла, што левая рука ў немца схаваная за спіною і падтрымлівае аўтамат.

«Палонныя... Гэта ж нашы палонныя працуюць...»

Наста ўбачыла, як немец падбег да мужчыны і ўдарыў яго кіем. Палонны паваліўся, і немец малаціў яго кіем, нешта крычаў, потым ударыў ботам, адкаціў ад бервяна, быццам нейкі кругляк. Наста сцялася ад дрыготкі, якая ўзнікла нечакана ў плячах і папаўзла да патыліцы, абвіваючы, бы вяроўкаю, шыю пад падбародкам. Яна пацiскала горла рукою, дрыготка адразу адступіла да патыліцы, папаўзла па хрыбціне да паясніцы і там растала зусім. Але тут жа нарадзілася зноў, пакацілася хваляй і аціхла толькі тады, калі Наста перабегла нізіну, пакрапленую кратовымі пагурачкамі, і ўвайшла ў вольхавы параснік.

Канапелька сядзеў усё на тым жа месцы, усё ў той жа згорбленай паставе, глядзеў на Насту моўчкі і чакаў. Яна таропка паведаміла пра ўсё тое, што бачыла, і ён, выслухаўшы, нейкі час маўчаў, пастукваючы пальцам па донцы прамавугольніка з патронамі. Здавалася, што ён нешта чакае ад Насты яшчэ, быццам не верыць, што яна сказала ўсё.

— Абыдземся без памагатых,— прамовіла Наста, разумеючы, што Канапелька не вельмі задаволены навінамі, якія пачуў, і як бы папракае яе за тое, што яна вярнулася адна.— Агароджу яны не скончаць сёння. А за бярвеннем, што штабяльком ляжыць, мы неўпрыкмет падбярэмся. Зручна будзе. Я правяду,— і дадала, ужыўшы Канапелькаву прыказку: — Як маца быць, падвяду да пана каменданта... Вы што, не верыце?

Канапелька абшчаперыў патроннік, патузаў яго, быццам правяраў, ці надзейна замацаваны, адказаў, уздыхнуўшы:

— У мяне зусім не пра тое думка... Падумалася

раптам... Ды не, гэта зусім нерэальна... Гэта не тое, што дамок камендандцкі... І ахова, вядома, там моцная... І нічога пэўнага пра той лагер палонных мы не ведаем. А было б няблага тых гаротнікаў — на волю.

— Банцэвіч казаў, што лагер непадалёк ад вакзала. Туды мы не пройдзем.

— Шкада, няма твайго Банцэвіча. Апошні раз калі ты была там, дык ён што казаў? І, увогуле, ці не замнога ты яму давяраеш?

— Я нічога канкрэтнага пра наша месца яму не паведамляла. А яго звесткі дакладныя. Казаў, што камендатуру на станцыю перавязуць, а тут толькі жытло камендандцкае. Яно гэтак і ёсць. Машын тут паменела, толькі адзін вартавы застаўся.

— Што рабіць будзем, калі і камендандцік наш не прыкоціць у свой дамок? Давядзецца, мабыць, гукаць: пане, маўляў, камендант, дзе ты ёсць, адгукніся!

— А навошта? Адразу ўбачым усё. Банцэвіч казаў, што кожны вечар — пагулянкі. Тры нашыя патэфоны пускаюць. І на кожным — свая пласцінка іграе.

— Весела яны жывуць, аднак. Гэта не тое, што нам у склепе было. Ляжы ды камароў слухай.— Канапелька зухавата ўзмахнуў рукой.— Але тое — мінула, было і сплыло, як гаворыцца. Здорава будзе, калі мы камендандціку камара падпусцім,— Канапелька паляпаў драўляную ручку гранаты, што тырчала ў яго за дзягай, і дадаў рэзка, загадна: — Ідзі і нашых сюды вядзі!..



## 24

Да вечара яны адлежалі ў маладым алешніку. Змрок апусціўся на зямлю рана і хутка, нібыта выплылі з-за лесу хвалі шэрага туману і апусціліся на дол, увачавідкі пагусцелі, запаланілі ўсё наваколле. Дзе зайшло сонца, было не пазнаць. Але над станцыяй, у хмарнай і туманнай высі, неба было падсветленае няроўна выгнутай падковаю, і гэтая падкова ўвесь час зменьвала

свае абрысы, і здавалася, што менавіта там і зайшло сонца і па даляглядзе плывуць і плывуць грывастыя, пашкамутаныя хмары.

Хмары плылі і над алешнікам, плылі гэтак нізка, што нават у цемры можна было ўгледзець іх роўны і бязгучны рух. Наста час ад часу задзірала галаву, глядзела на хмары, якія нібыта плылі толькі над табою і адразу ж спынялі свой рух, ледзь толькі крышку аддаляліся. Падобна на хмары, нейкімі дзіўнымі рыўкамі, плылі і Насціны думкі. Ёй цяпер ужо не здаваўся гэткім бліскучым і прывабным план Канапелькі — пакідаць гранаты ў вокны таго драўлянага будынка, ад якога даляцела толькі што вуркатанне машын. Недзе глыбока ў душы нарадзілася спадзяванка на тое, што Канапелька адменіць аддадзены загад — тым больш што гэта і не загад, як ён падкрэсліў! — і яны пяройдуць чыгунку, знойдуць гравійку, што вядзе на Полацк. Ды, зрэшты, яе і шукаць не трэба: па правы бок ад станцыі да яе ад чыгункі і кіламетра не будзе. Да раніцы яны могуць тады апынуцца ўжо недзе блізка ля Полацка. А там пойдуць мясціны знаёмыя.

Наста аж здрыганулася, калі пачула кароткі і сцішаны Канапелькаў погалас:

— Па-адымайсь! У калону па чатыры — ста-анавісь,— ён раптам змяніў тон, прамовіў заклапочана і разважліва: — Адыходзім сюды. У выпадку самай няўкруткі нават — сюды. Тут — збіраемся, падводзім вынікі. А тады — далей. Паўторым задачу. Буркун, твае вокны?

— Тыя, што ад станцыі.

— Аўдошка, твае?

— Ад саду.

— Твае, Настачка?

— Адсюль, ад лесу. З гэтага боку, дзе бярвенне.

— Твае, Канапелька? — І сам жа сабе адказаў: — Мае ад дарогі. І вартавы на мне. Я паўзу на яго. А кожны з вас — да сваіх вокнаў. Мая чарга — усім каманда. І зноў паўтараю: кідаць — зблізку. Не ўсадзіў гранату ў акно — пішы прапала, бо яна табе па пятах урэжа. А што няясна? Усё ясна. Тады — наперад. Парадак руху, як і дамовіліся: за Канапелькам Аўдошка, за ім — Буркун, а за Буркуном — Настачка... Тут таксама ўсё ясна? Тады — наперад!

Наста не хвалявалася аж да таго часу, пакуль на-

перадзе не высветліліся ў цемры два шырокія колы святла. Яны ўзніклі раптоўна, быццам выдраліся з-за сцяны цёмных дрэў, што раслі ў канцы нізіны. За паласою гэтых нізкаватых прысадзістых ялін пачынаўся не дужа густы сад, і адтуль, з-за яблынь, выбліснулі шырокія колы святла, няроўныя, быццам пастаўленыя адно на адно. Ад нечаканасці Наста спатыкнулася, патрапіўшы нагою на мяккі кратовы пагурачак, і колы святла дугнуліся і адразу засвяціліся яшчэ ярчэй, быццам каціліся пад дрэвамі сюды, у нізіну. Каб не паваліцца, Наста ўпёрлася рукою ў гэткі ж мяккі кратовы пагурачак, міжвольна выпусціўшы гранату, і тая шуснула ў траву, нібыта хтосьці пацягнуў яе. Наста абмацала траву, тут жа знайшла гранату, моцна сціснула драўляную ручку.

Чорныя постаці за гэты міг, што яна валаводзілася ля кратовага пагурачка, аддаліліся, зрабіліся расплывістыя, і Насту ахапіў жах. Гэтак яна тут можа згубіцца, адна застанецца. Пабеглі яны там наперад, ці што? І аніхто ж не прыпыніўся, не пачакаў яе, не папытаў, што тут у яе здарылася. А каб яна нагу зламала?.. Пагана, аднак, можа ўсё гэта скончыцца. Пагана? А чаго ж тады першай падтрымала Канапельку? Чаго не адмовілася адразу?.. Не, Канапелька разумна прыдумаў. Трэба адпомсціць за Шаплыку... І за сябе яна адпомсціць... Убачыць бы таго немца, які круціў ёй рукі на погарбе...

Згадка пра погарб у лесе, дзе яна гэтак злачынна заснула, напоўніла сэрца нянавісцю. Жах адразу выветрыўся, знікла разгубленасць, і Наста адчула сябе ўпэўненай і смелай. Канапелька паставіў яе ў канец ланцужка, быццам баіцца за яе, быццам не верыць, што яна справіцца. А яна — справіцца. Яна дакладна кідала гранаты, калі здавала нормы на значок на першым курсе інстытута, і гранаты тыя былі не лягчэйшыя за гэтыя. У кожнага з іх па дзве гранаты, і Наста кіне свае дакладна, кіне зблізку, каб ніякай памылкі не адбылося. І парабелум у яе на засцерагальніку, і ў карабін патрон таксама дасланы... Толькі вось каб суняць гэтую клятую дрыготку, што час ад часу прабягае па хрыбціне, ды пазбавіцца ад гулкіх тактаў у скронях, ад якіх нават чуеш блага. І чаго Канапелька спыніўся...

Яна ішла гэтак хутка, што ледзь не тыцнулася но-

сам у Буркунову спіну. Спынілася, спытала шэптам:
— Што тут здарылася? Што? Яшчэ ж далёка...

Спытала і сумелася. Дзе ж далёка? Сад скончыўся, відаць вунь слупы агароджы, на якіх паблісквае дрот, і зугорбіцца абкоранае, белае нават уночы бярвенне. І зусім жа мала яго засталося. За гэтым бярвеннем не схаваешся, яно іх не прыкрые. Давядзецца, відаць, адсюль паўзці.

— Да бярвення ідзём прыгорбіўшыся — са светлага нас не ўбачыш. А далей — па-пластунску. Гранаты — пад дзягу, за спіну,— ціха закамандаваў Канапелька і абышоў кожнага і памацаў гранаты. І нечакана весела хмыкнуў: — Чуеце! Хэ-эм! Патэфоны і сапраўды равуць. І дзякуй нашаму камендантціку, што завёў іх. Паўзці будзе лягчэй. А на нас, Настачка, між іншым, твае вокны глядзяць.

Насту непрыемна зачапілі апошнія Канапелькавы словы, і яна прамовіла з выклікам, падкрэсліўшы, што напамінак гэты залішні:

— З маімі вокнамі я спраўлюся.

— Хай жа і табе і нам усім пашчасціць. Пайшлі...

Да бярвення яны дайшлі фронтам, і Наста была цяпер у яго сярэдзіне, і ісці, хоць і прыгорбіўшыся, было лёгка. Цяжкое пачалося адразу, як толькі рукі ляглі на росную, быццам пасля дажджу, траву. Ля саду, відаць, сеялі летась канюшыну, улетку яе скасілі, і цяпер у маладой і густой атаве было поўна старога бадылля, вострага і калянага, быццам з дроту, і яно баддюча калола запясці, торкалася часам у шыю ля падбародка, забівалася пад раменьчык гадзінніка. Наста пакруціла гадзіннік і нечакана абвострана, з дзіўным і радасным адчуваннем згадала тое імгненне, калі Грач зашпільваў на яе руцэ раменьчык. Як жа гэта ён тады казаў? Гадзіннік, маўляў, чык-чык, а Грач — тэп-тэп, да Насты, маўляў, тэпаць будзе. Дурная, дурная яна, Наста, варона! Як тады клікаў яе Грач пайсці ў той будан пад ялінаю! А яна, пакрыўдзіўшыся, таропка выпаліла ў твар, са злосцю нават: «Не!» Можа, з таго, што яна гэтак сказала, Грач і не хоча вяртацца сюды?

Шкадаванне і раней варэдзіла ёй сэрца. Але яна яго, таго шкадавання, баялася, адразу крэсліла і прымушала думаць пра нешта іншае. Цяпер жа яна ўпершыню ўвяла шкадаванне ў гэтую лагічную пабудову і жахнулася не з таго, што яна, гэтая пабудова, склала-

ся. Калі, дурніца, узялася нейкае дурное шкадаванне варушыць? Хіба пра тое ёй думаць трэба? Вунь, будынак каменданцкі зусім побач. Вокны асветлены, тыя, у якія яна павінна пацэліць, не прамахнуцца. Усё іншае з галавы — далоў! Начыста далоў! Толькі пра тое думай, каб паспець! Каб пацэліць! Каб на якую бяду нечаканую не наскочыць! Дзіўна, заўсёды, калі яна куды-небудзь выпраўлялася ад балаціны з Грачовым гадзіннікам на руцэ, дык ёй шчасціла. А тады, на пагарбе калі заснула, яна без гадзінніка была. І ў прылазніку Хведаравай лазні яна таксама без яго сядзела. Вось жа дурная яна варона! Зноў нейкія прымхі сабе ў галаву гоніць! Туды, на вокны, глядзі! Пра іх толькі думай...

Нечаканая думка пра Грача, нечаканае тое шкадаванне, што раптоўна ўсплыло ў сэрцы менавіта тут, на роснай пожні за садам, нешта вельмі істотнае з'іначылі ў Насцінай душы. Прыйшоў спакой, якога ёй не ставала, нарадзілася цвёрдая ўпэўненасць у тым, што ўсё складзецца добра. Цяпер Наста не будзе сядзець у лесе і чакаць. Яна сама пойдзе Грачу насустрач. Яна стрэне яго! Яна адшукае свайго Грача! І задума Канапелькава вельмі разумная. Хопіць, адседзеліся ў лесе! Трэба нішчыць гэтую погань фашысцкую, якая прынесла на Насціну зямлю гэтулькі бяды, крыві і гора! Трэба нелюдзяў гэтых нішчыць, што зламалі, скруцілі Насцін лёс! Нішчыць бязлітасна!

Наста паўзла, не зважаючы на тое, што спадніца зусім змакрэла, што з запясцяў на локці амаль цурком бяжыць сагнаная з канюшыны раса. У сэрцы не было жаху, не было няпэўнасці і трывогі. Адзінае, што замінала паўзці, дык гэта карабін і кабур парабелума. Карабін дык і памагаты часцяком, за траву зачэпіцца, на яго і абаперціся можна, можна і адштурхнуцца. А кабур, быццам нарог які дурны, узорвае канюшыну аж да зямлі, чапляецца за старыя і цвёрдыя сцяблiны. Трэба, відаць, яго шчэ далей пасунуць за спіну. Але ж, кляты, звальваецца штораз... Не, хай ужо тут і будзе, пад рукою. Блізенька вось вокны. А святло з іх нейкае цьмянае, як прыдушанае. Фіранкі там вісяць, ці што. Так, фіранкі. А цяпер нехта смаргануў іх, святло палосаю шуснула на траву. Да мяжы гэтай палосы ёй трэба дапаўзці і стаіцца, чакаць сігналу. У светлую палосу запаўзаць нельга, бо там яна будзе добра ві-

дацъ. І галасы нейкія на падворку, ля машын гамоняць немцы. Аж тры легкавушкі стаяць ля ўваходу. Адна дык ледзь не на ганак успёрлася. Нізкі дужа ганачак, бліщчасты дужа — ліецца святло праз дзверы, што стаяць нахлашч. Гранаты ёй трэба зрыхтаваць. Канапелька вунь ужо дзе паўзе, па левы бок ад машыны. І спіна ў яго неяк дзіўна свеціцца... Гэта ж з другога паверха, з балкончыка, святло яму на спіну кладзецца. Трэба ж было яму далей паўзці. А гэта ж хто там? З-за дзверыны, прыгнуўшыся, ззаду, як каршун, на Канапельку заходзіць.

«Немец! Грудзіна ў яго нейкая белая. Фрэнч расшпілены гэта!.. Немец ззаду на яго зараз кінецца! А Канапелька не бачыць? Не бачыць, вядома ж! Немец па цёмнай палосе сунецца!..»

Гэтая думка нарадзілася ўжо ў руху. Нібыта падкінутая нейкай невядомай сілаю, Наста мітнулася напярэймы постаці з белай грудзінаю, тыцнула карабінам у нешта мяккае, падатнае, быццам з гумы, і, ярасна націснуўшы на спуск, выгукнула працягла і хрыпата, быццам яе схапілі за горла:

— Э-эу-у-у...

І гэты здушаны покліч заглушыў грукат стрэлу. Полымя з дула карабіна, якое адскочыла, быццам выбілася з-пад пахі немца, высветліла тоўстую пузатую бутэльку ў руцэ немца і аглушыла Насту. І гэтае полымя нібыта пералілося ў яркія светлякі агню, што кідаў на бліщчастае шкло машыны Канапелькаў аўтамат. Светлякі ішлі дугою, потым пераскочылі пад колы суседняй машыны, што стаяла па правы бок ад нізенькага ганка, але быццам упёрліся ў нешта і лопаліся, высякаючы агняна-чырвоныя іскры.

— Грана-а-а-а-аты! — зароў Канапелька.

Наста адскочыла назад, быццам адкінутая гэтым ярасным і злосным загадам. Першую гранату яна кінула ў правае акно, кінула зблізку і бачыла, як пырснула ва ўсе бакі пабітае шкло. Другую яна шпульнула ў левае акно, якое было зусім цёмнае, і граната, як ёй падалося, не даляцела да шкла. З правага акна шухнула грывастае полымя, чырвонае, з нейкай дзіўнай белай дзідаю ўсярэдзіне, і гэтая дзіда ўпёрлася Насце ў левае плячо, зламалася і, нібыта каляны і пякельны бур, урэзалася ў хрыбціну, пакацілася па ёй, высякаючы дужа агністыя іскры.

Яшчэ Наста ўбачыла Канапельку постаць, высокую, мажную, добра асветленую нейкім дзівосным белым агнём, і ад яе, гэтай постаці, несліся ўверх, да парэнчыкаў балкона, дымныя пацеркі.

«Гэта ж ён па балкончыку строчыць. А гранаты не кідае...»

Хацела крыкнуць, крыкнуць гэтак жа ярасна, як крычаў Канапелька, ды вусны толькі варухнуліся, і яна адчула, што подых цёплага, але дзіўна чорнага, бы сажа, паветра заляпіў ёй і губы і вочы.



## 25

Свядомасць вярнулася да Насты толькі ўранні. На кароткі час.

Наста адкрыла вочы, няўцямным позіркам павяла па нарах. Бачыла знаёмы стаяк, разумела ўжо, што ляжыць у склепе, што побач сядзіць Канапелька. Па правы бок ад яго стаяў Аўдошка. Канапелька, убачыўшы, што яна адплюшчыла вочы, рабіў нейкі знак Буркуну, які ўваходзіў у склеп. Буркун адразу ж знік, быццам адкінуты ветрам, і гэтае яго імклівае знікненне Насту занепакоіла.

— Куды ён пабег? — спытала яна і адразу адчула востры боль у плячы і між лапатак.

— Вадзіцы прынясе зараз. Халодненькай. Ты пап'еш і паздаравееш адразу,— неяк дужа таропка праказаў Канапелька і схіліўся над Настай.— І мы неўзабаве рушым далей...

Нейкая дзіўная слабасць спавіла ёй рукі і ногі, яна не магла паварушыць імі. Але розум быў чысты і ясны, і яна, імгненна усё прыгадаўшы, усё зразумела вельмі добра, як толькі скасіла вокам на ўкручаную ў акрываўленыя бінты руку.

«Я страціла шмат крыві... Яны мяне неслі, параненую. Перавязалі блага. Кроў цякла. І зараз сочыцца...»

— Другую гранату я не дакінула. Гэта з таго ўсё,— прызналася Наста, адчуваючы, што такое прызнанне ёй зрабіць неабходна. Папытаць пра тое, чым усё скон-

чылася ля таго камендацкага дамка, у яе не хапала смеласці.

— Не, Настачка, не! — прамовіў Аўдошка і, сеўшы на нарах насупраць Канапелькі, схіліўся над ёю.— Ты кінула гранаты дакладна і добра. І пацэліла слаўна.

— А чаго ж тады я...

— Па табе гад нейкі стрэліў,— таропка перапыніў яе Канапелька.— Стрэл і выбух былі адначасова, мабыць. Яго там разнесла выбухам, і ўсіх, хто ля тых вокнаў быў. А вось жа стрэліць ён паспеў... Але ж і мы паспелі. Вугольчыкі і попел цяперка там. І ўсё гэта дзякуючы тваёй смеласці. Як толькі ты яго ўгледзела?.. Гэта ж, каб ты яго не ўгледзела, не паспела падскочыць і стрэліць... І чаго, халера на яго, было яму там, ля вугла, стаяць? А вось жа стаяў, ды шчэ дзве бутэлькі нашага шампанскага ў руках...

— Можа, хацеў табе наліць шампанскага,— неяк змучана пажартаваў Аўдошка.— Каб за сустрэчу і дзыбнуць. Бо па душы ты яму быў. Да Настачкі ж вось не кінуўся...

— Рана ў мяне жахлівая?

— Ды драбяза, Настачка,— з робленым смяшком адказаў Буркун, які ўляцеў у склеп з кацялком у руцэ.— Папі вось адвару і станеш на ногі праз тыдзень, калі не раней. Гэта той адвар, якім ты нас паіла. Я назбіраў зёлак, наварыў. А тады — у ручаі астудзіў. Харошае пітво! Толькі ты не варушыся, ляжы ціхенька. Я табе з лыжачкі, з лыжачкі буду даваць,— і ён з гатоўнасцю выцягнуў з кішэні лыжку.

— З кацялка хачу. Дапамажыце каторы ўзняцца. Сесці мне трэба неяк.

— А навошта? — Канапелька з перасцярогаю выставіў перад сабою рукі, асцярожна трымаў Насту за правае плячо, быццам баючыся, што яна можа і сапраўды ўскочыць і сесці на нарах.— Ты павінна ляжаць і сілы набірацца. Не трэба табе рухацца.

— З лыжачкі добра, з лыжачкі проста нават і зручна,— настойліва ўпрошваў Буркун і ліў ёй у рот карычневы адвар святаянніку.— Папі хоць трошачку. А мо з шакаладам будзеш? Я з машыны чатыры пліткі выхапіў — на сядзенні ляжалі.

— А я, між іншым, цяпер пачынаю шалопіць, чаго той гад ля вугла аціраўся,— сказаў Канапелька, адводзячы Буркунову руку з пліткаю шакаладу

ўбок.— Ну, не хоча чалавек салодкага. Адчапіся,— і зноў вёў сваё, нібыта толькі гэта яго цяпер і займала.— Там, ля вугла, мабыць, нейкая пасудзіна ў зямлі. А ў ёй — бутэлькі стаялі. Вось ён па іх і вылупіўся з хаты. І ўбачыў, што паўзе нехта. Не бегчы ж у дом па зброю. Ды, зрэшты, каб усмаліў па карку тымі бутэлькамі, дык аніякая зброя не спатрэбілася б...

— А я што, сама сюды дайшла? — спытала Наста і нечакана заўважыла, што твар Канапелькі пачаў быццам аддаляцца.

— Мы ехалі сюды. У Залессі фурманку ўзялі. І каня нам запрэглі. Гэта Аўдоля наш пастараўся...

Голас Канапелькі слабеў, як бы Канапелька куды адыходзіў, і адплываў яго твар, рабіўся бляклы і шэры. І нейкімі невыразнымі рабіліся постаці Буркуна і Аўдошкі, нават неяк дугаліся, як усё роўна хто трос абодвух за плечы. Яшчэ больш намацнела слабасць у нагах і руках, і, хоць Наста прымушала сябе паварушыць імі, яны ёй не падпарадкаваліся.

— Патрэбны ўрач, я гэта адчуваю. Вы не справіцеся.

— Знойдзем урача. Сёння ж знойдзем, сюды прывязём,— горача запэўніў Аўдошка.— Толькі ты ляжы і не хвалюйся. Каб, ведаеш, сіла была. Ты ж нас гэтак — памятаеш? — вучыла!

— А раптам не папраўлюся і памру, дык мяне адсюль не вязіце. Пахавайце ля сасны. У верасах. Там, дзе паваротка...

А гаварыць болей сілы ўжо не ставала, і яна глядзела на Аўдошку, які выціраў слёзы з вачэй і глядзеў на акенца, адкуль ліліся ў склеп кароткія сонечныя промні, чула голас Канапелькі, сіпаты і няроўны, дзівілася з таго, што голас гэты гучыць аднекуль з высі, быццам Канапелька сядзеў не на нарах, побач зусім, і пагладжваў яе руку, а ўскараскаўся на столь, за нешта зачапіўся там і завіс, памалу гайдаючыся. Яна зрмужыла вочы, і Канапелька некуды знік, на яго месцы цяпер быў Аўдошка, і ён марудна ішоў ёй насустрач, і ў яго вялізных заплаканых вачах зырка зіхацелі незразумелыя агняныя светлякі; адзін з іх раптам пырхнуў да Насты, сеў на грудзі, біў крылцамі па рэбрах, і рэбры гнуліся, з-пад іх выпіраў і лез у горла чорны і грывасты туман; Наста прагна глытала яго і адчувала, што робіцца нейкая празрыстая, бязважкая

і плыве ў глыб гэтага чорнага шлейфа, які наматваецца на нейкую блішчастую белую дзіду.

Аднекуль адтуль, з-пад той белай блішчастай дзіды, нечакана загучаў спакойны і ласкавы Грачоў голас. Грач клікаў Насту, і яна пайшла да яго, радуючыся, што чорны шлейф мякка кладзецца ёй пад ногі і ногі лёгка і бязгучна ўдушваюць грывасты чорны туман у зямлю.

Наста ішла, размаўляючы з Грачом спакойна, без трывогі, і кожны крок быў лёгкі, і кожнае слова давалася без натугі, выклікала задаволенасць і замілаванне, і з неба, дзе завісла вялізнае, захутанае ў тэракотавую тканку сонца, лілася гаючая цеплыня, і ад яе, гэтай цеплыні, раставаў, быццам плавіўся Грачоў твар; вось ён знік зусім, яго павольна адсунула ў тую тэракотавую імглу матчына аблічча.

Тое, што на месцы Грача стаяла цяпер маці, было зусім натуральна, і гэтак жа натуральна ліліся словы размовы шчырай і сардэчнай. Але былі яны глухаватыя, аддаленыя — недзе дужа блізка такалі вагонныя колы.

«Ты мне даруй, матулька. Я прыбегла, а цягніка ўжо няма».

«Як гэта няма? Ён жа нас чакае. І не трэба табе было бегчы. Паўлік сказаў, што на машыне цябе сюды прывязе: дарога, маўляў, да смалакурні добрая, быццам шаша. Ты яго, дачушка, пільнуйся — ён цябе ў крыўду не дасць, у яго сэрца добрае і вочы харошыя. Ты паглядзі, як ён мяне тут слаўна ўладкаваў,— узлакціўшыся на хатулі, што горбіліся паміж ложкамі, маці правяла спачатку левай, а потым правай рукою па белых сценах шпітальнай палаты, потым падсмыкнула белую, з доўгімі махрамі хустку, якая спаўзла з параненай нагі; у звужаных вачах выспела шчырае захапленне.— І вадзіцы халодненькай ён мне прыцёг. Поўны бітончык прыцёг. Ты паспытай вадзіцы, яна дужа смачная.— Маці паставіла белы бітончык на краёк хатуля. Бітончык быў дзіравы, прабіты асколкам, і з чорнай дзіркі бязгучнымі струменямі лілася чорная вада.— Паўлічак кажа, што вада ў ручаі ля дашчаніка дужа гаючая. Гаючая і дужа чы-сценькая...»

«А чаго ж яна ў бітончыку чорная?»

«Скуль жа яна чорная? Светленькая вадзіца...

У лясным ручаі вадзіца заўжды светленькая... Калі не верыц, дык мы пераменім вадзіцу, свежанькай набяром...»

Маці крочыць усцяж ручая. Ручай усё шырэйшы, вада ў ім зіхаціць. Ад вады сплывае на лугавіну сіняе мроіва, і ў гэтым мроіве, як бы ўзнятае ім, марудна крочыць маці, крочыць па лугавых красках, і аніводная з іх не гнецца, і трава зіхаціць ад сонца, быццам абсыпаная расою.

Маці спыняецца ля грушы-дзічкі, гаротна сціскае рукі на грудзях, і ў вачах яе шкліцца боль, спагада і спачуванне.

«Перажывецца, дачушка, перажывецца. Усё перажывецца. Ты мне павер ужо...»

У матчыным голасе скруха і сум, і само аблічча матчына раптам змізарнела, быццам увачавідкі ссохлася, і сэрца Насты сціснулася ад жалю. Яна лёгка пераскочыла шырокі ручай, быццам адштурхнулася ад зыркага рабаціння, пабегла па лугавіне, і трава не гнулася ў яе пад нагамі, і ёй падалося, што гэта не яна бяжыць па лугавых красках, а плыве ёй насустрач блішчастая, быццам смарагдамі абсыпаная, грушадзічка.

Ад ручая нехта паклікаў Насту, і яна павярнулася на гэты поголас, настойлівы і ўладарны. Нікога, выяўляецца, на беразе ручая няма! І тут жа зноў гэты знаёмы поголас — з лугавіны цяпер нехта кліча.

Наста крутнулася на гэты поголас і знямела. Гэта ж Грач гукае — стаіць ля грушы-дзічкі. На тым жа самым месцы стаіць, дзе толькі што маці была! Побач, на верасовай купіне, аўтамат ляжыць, верасы гнуцца, быццам гушкаюць яго на густых прыгожых суквеццях.

Грач нахіліўся да камля сасны, выцягнуў з-за сасны блішчастыя хромавікі. Гэта ж Вахтангавы боты! Але зусім новыя, ненадзяваныя, падэшвы ў іх быццам з воску, аніводнай драпіны, зыркая, бы толькі што адшліфаваная.

«Гэта табе, Настачка. Табе боты новыя, мая ты любка. З таго я і спазніўся, бо чакаць давялося, пакуль іх зрабілі. Але ж затое і маеш — на сто гадоў боты разлічаны!»

«А навошта яны мне? У мяне скураныя туфлікі ёсць — бацькі купілі, калі я ў інстытут паступіла. Бачыш, якія слаўныя? А-ах, вальсаваць у іх добра. Чуеш,

як граюць трубы?.. А ты вось спазніўся, дык цяпер стой і глядзі, як мы з Чаркасам вальсаваць пойдзем...»

«Плыві, мая ты любка, плыві!.. Мне глядзець на цябе — радасць!..»

Мелодыя вальса наладная, лагодная, і ніхто не замінае, і падлога не драўляная, а з верасоў, і ногі спрытна сунуцца па густых бэзавых суквеццях, і верасы не гнуцца, галубяць скуру, і ад дотыку цёплых сцяблін на сэрцы лагода і спакой. І гэткі ж спакой бруіцца ад стромай сасны, ля якой, скрыжаваўшы рукі на грудзях, стаіць Грач.

З-за сасны нечакана шухнула грывастае полымя, барвовае, з дзіўнай белай дзідаю ўсярэдзіне; дзіда кладзецца на верасы, і па ёй бяжыць Канапелька, гне дзіду да зямлі, круціць, сіліцца зламаць; дзіда выломваецца ў яго з рук, ён бяжыць па верасах і раптам падскоквае, плыве над макавінамі соснаў, што стаяць на балаціне густа, быццам сцяна.

— Не памірай, Настачка! Жыві! Чаго, доўбня, я там замест цябе не загінуў? Чаго-о-о?

Канапелькаў голас узнік раптоўна, узнік недзе зусім блізка, гучаў выразна, на адчайна высокай і тужлівай ноце. Вось жа дзівак ён, гэты Канапелька! Ды не збіраецца яна паміраць. Проста Грач ву-унь стаіць, паклікаў яе. Вось яна і пойдзе да яго, а потым вернецца, зробіць ім перавязкі і згатуе вячэру...

Ёй падалося, што яна пераканала Канапельку, і той змоўк, і зноў загучаў Грачоў голас, ласкавы і пяшчотны, і яна ўжо нікуды не ішла, цалкам даверыўшыся Грачовым рукам, якія люлялі, галубілі, мякка і ласкава краналі валасы, і ад кожнага дотыку ўсё цішэй і цішэй стукала ў грудзях сэрца.



## 26

Увечары, калі Насту пахавалі ўжо, да балаціны пасля цяжкой і доўгай дарогі ад лініі фронту на зморыным кані прыскакаў Грач. Спецыяльная разведвальна-дыверсійная група, якую ён узначальваў — у склад групы ўва-

ходзіла чатырнаццаць чалавек, з якімі Грач скончыў партызанскія курсы разведчыкаў-падрыўнікоў,— рухалася па лесе на чатырох фурманках з баявым рыштункам следам.

Ён падляцеў да дашчаніка, саскочыў на зямлю, па чарзе аблапіў усіх трох, што павіслі на ім, душачы ў абдоймах, гукнуў радасна ў бок склепа, над уваходам у які боўталася трафейная, парудзелая ад сонца плашчпалатка:

— Наста? Чаго хаваешся? Я ж здаля ўбачыў, што ты гэта ў акенцы мільганула!

Буркун торкнуў у бок сасны рукою, сказаў глуха:

— Яна там. Пахавалі сёння. Апаўдні.

— Я-як? — не спытаў, а неяк здушана каўкнуў Грач.— Як тое сталася?!

Канапелька пачаў тлумачыць. Таропка, перапыняючы адзін аднаго, удакладнялі яго апавяданне Буркун з Аўдошкам. Грач не даслухаў, рэзка крутнуўся, кінуў нешта незразумелае і гнеўнае, подбегам амаль пашнураваў да высокай стромай сасны, потым запаволіў хаду, ішоў марудна, ішоў не сцяжынаю, а нацянькі, па верасах. Ля магілы ён здзёр з пляча навюсенькі і бліскучасты аўтамат, асцярожна паклаў яго на верасы, потым марудна апусціўся на калені і доўга стаяў гэтак, нерухомы, бы скамянелы.

Над балацінаю заходзіла сонца, вялізнае і барвовае. Яго промні слізгалі па зыркай сталі аўтамата, па густой ліловай квецені верасоў, білі ў камель сасны, быццам высвечваючы яе знутры. Гулі дзікія пчолы, поўзалі па верасах, тонкае ціўе гнулася, трымцела; на бакавіну магілы клаўся ліловы, месцамі аж барвовакрывавы, водсвет, і здавалася, што сонечныя промні злізваюць яго з верасоў і ўдушваюць ліловае полымя ў вільготны і прыгладжаны рукамі каштанавы жвір.

Савіцкі А.

С 13 Верасы: Раман.— Мн.: Маст. літ., 1987.—365 с.: іл.

Імя Алеся Савіцкага добра вядома чытачам па раней выдадзеных кнігах «Верай і праўдай», «Літасці не чакай», «Падзерці заўсёды паспееш» і іншых. Раман «Верасы» расказвае пра першыя дні Вялікай Айчыннай вайны, раскрывае веліч духу савецкіх людзей. У цэнтры твора — лёс маладой дзяўчыны, студэнткі медінстытута, якая выратавала групу цяжка параненых байцоў. Яна мужна прайшла нялёгкую салдацкую дарогу і аддала сваё жыццё за свабоду і незалежнасць нашай Радзімы.

С $\frac{4702120200-079}{М 302(03)-87}$ 28—87 ББК 84Бел7

АЛЕКСАНДР АНУФРИЕВИЧ САВИЦКИЙ

**ВЕРЕСК**
Роман

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар Т. М. Турчыняк
Мастак С. А. Кузьмар
Мастацкі рэдактар А. І. Дрозд
Тэхнічны рэдактар А. В. Барадзіна
Карэктар Л. П. Бялова

ІБ № 2680

Здадзена ў набор 10.06.86. Падп. да друку 03.04.87. АТ 07084. Фармат 84×108[1]/32. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 19,32. Ум. фарб.-адб. 19,32. Ул.-выд. арк. 20,08. Тыраж 12 000 экз. Зак. 2588. Цана 1 р. 60 к.
Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.
З набору Мінскага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбіната МВПА імя Я. Коласа, 220005, Мінск, Чырвоная, 23, друкарня «Перамога», зак. 1008, 222310, Маладзечна, вул. В. Таўлая, 11.

ВЫДАВЕЦТВА
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1987

---

**НАБЫВАЙЦЕ І ЧЫТАЙЦЕ
НОВЫЯ ТВОРЫ
БЕЛАРУСКІХ ПРАЗАІКАЎ**

---

*В. Адамчык*
**І СКАЖА ТОЙ, ХТО НАРОДЗІЦЦА**
*Раман*

*А. Асіпенка*
**СВЯТЫЯ ГРЭШНІКІ**
*Раман, аповесць*

*В. Быкаў*
**КАР'ЕР**
*Раман*

*Б. Сачанка*
**ГОРКАЯ РАДАСЦЬ ВЯРТАННЯ**
*Аповесці і апавяданні*